У кнізе на аснове навейшых дасягненняў айчыннай і замежнай гістарыяграфіі адлюстраваны многія старонкі гістарычнага мінулага Навагрудчыны. Матэрыялы выдання прысвечаны знамянальнай падзеі – 600-годдзю Грунвальдскай бітвы. У працы раскрываюцца шматлікія праблемы гісторыі Навагрудчыны ад старажытнасці да сучаснасці.

# Змест



**Кулак Анатоль Канстанцінавіч**
*Старшыня Навагрудскага раённага выканаўчага камітэта*

## Шаноўныя сябры!

Навагрудак як адзін з самых старажытных litarадоў і важных гістарычных цэнтраў Беларусі з'яўляецца традыцыйным месцам правядзення рэспубліканскіх святаў у азнаменаванне юбілейных дат, звязаных са значнымі гістарычнымі падзеямі і асобамі.

Пачатак быў пакладзены ў 1993 годзе, калі ў горадзе прайшло 2-ое рэспубліканскае свята беларускага пісьменства і друку. Навагрудак быў выбраны не выпадкова: адсюль паходзіць Лаўрышаўскае Евангелле XIV стагоддзя, якое мае не толькі гістарычную, рэлігійную, але і навуковую каштоўнасць. Тут з канца XV стагоддзя вялося кнігадрукаванне, а бібліятэчны збор графа Храптовіча ў Шчорсах лічыўся каштоўнасцю агульнанацыянальнага значэння.

Навагрудчына - радзіма Адама Міцкевіча. У 1998 годзе ў горадзе прайшло рэспубліканскае свята ў гонар 200-годдзя з дня нараджэння вялікага паэта. У адноўленую ў 1992 годзе былую сядзібу Міцкевічаў прыязджаюць шматлікія турысты, каб падыхаць паветрам Навагрудка і перажыць тое, што служыла яму вечным натхненнем.

Адно са святаў (2003 год) было прысвечана 750-годдзю каранацыі Міндоўга - заснавальніка Вялікага княства Літоўскага. Лёсы ВкЛ і Навагрудка былі цесна звязаны на працягу многіх стагоддзяў. Гісторыя Вялікага княства, якая пачалася з каранацыі Міндоўга, як Каралеўства Літовія, жыве ў руінах Навагрудскага замка.

Навагрудак быў першым горадам у Беларусі, дзе ў 2000 годзе адбыўся фэст "Навагрудскі Замак", з якога і пачалася традыцыя фестываляў сярэднявечнай культуры ў Беларусі. З таго часу прайшлі ўжо чатыры фестывалі, кожны з іх уключаў у праграму рэканструкцыю бітвы з крыжакамі 1314 года, калі крыжацкае войска на чале з магістрам Тэўтонскага Ордэна Генрыхам фон Плоцке штурмавала навагрудскі замак. Асноўная падзея фестываля 2002 года - 750-годдзе каранацыі Міндоўга; фестываляў 2004 і 2006 гадоў - рэканструкцыя чарговай бітвы з крыжакамі ў 1394 годзе, калі маршал Ордэна крыжакоў, Вернер Тэцінген, моцна пашкодзіў навагрудскі замак, але ўзяць не змог, і 2-гі турнір караля Міндоўга.

Пяты фэст "Навагрудак. 2010" прысвячаецца вельмі важнай падзеі ў гісторыі ВкЛ і Рэчы Паспалітай - 600-годдзю Грунвальдскай бітвы. Паказальна, што і крыжакі з аднаго боку, і Вітаўт з Ягайлам з другога, рыхтуючыся да вайны, не хацелі парушаць перамір'е, тэрмін якога заканчваўся 14 чэрвеня 1410 года. Адна з буйнейшых бітваў сярэднявечча адбылася 15 ліпеня 1410 года. Перамогу аб'яднанаму войску Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польшчы прынеслі не толькі доблесць і зброя, але, як лічыў польскі кароль, і "воля міласцівага Бога". Адсюль - жаданне Ягайлы "праявіць усялякую літасць да пераможаных".

Значэнне святаў, што адбываюцца ў Навагрудку, не толькі ў тым, каб напомніць пра слаўныя падзеі і дасягненні мінулага. Гісторыя мае значэнне толькі тады, калі яна асэнсавана сучаснікамі і служыць на карысць будучага.

*А.К.Кулак*

А. Каваленя (Мінск)

# Надзейны падмурак будучыні – гістарычная памяць народа

Вывучэнне, захаванне і папулярызацыя гісторыка-культурнай спадчыны беларускага народа, яго багатай і слаўнай гісторыі – справа высакародная, адказная і запатрабаваная жыццём. Мінулае з'яўляецца надзейным падмуркам у справе патрыятычнага выхавання маладога пакалення і паспяховай рэалізацыі сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў у краіне. Захоўваць і папулярызаваць гісторыка-культурную спадчыну народа неабходна перш за ўсё на рэгіянальным узроўні, праз мясцовыя помнікі і матэрыялы, якія з'яўляюцца неад'емнай часцінай гісторыі і культуры краіны. Менавіта з іх нібы з мазаікі складваецца ўражваючая веліч, раскрываецца непаўторнае гісторыка-культурнае багацце беларускага народа, выразна бачыцца стваральная праца яго лепшых прадстаўнікоў, іх уклад у сусветную спадчыну.

Мінулае Навагрудчыны, аднаго са знакавых рэгіёнаў Беларусі, патрабуе асэнсавання ў агульнаеўрапейскім гістарычным і культурным кантэксце. Гісторыя дае нямала прыкладаў багатай культурнай спадчыны гэтай зямлі.

Традыцыйна тут развіваліся драўлянае і мураванае дойлідства, ганчарства, салома- і лазапляценне, мастацкая апрацоўка дрэва, ткацтва, вышаўка. Нельга не адзначыць і кніжную культуру. Дастаткова ўзгадаць створанае ў XIV стагоддзі Лаўрышаўскае евангелле, кніжную прадукцыю Любчанской друкарні XVII стагоддзя. Далёка за межамі Навагрудчыны была вядома бібліятэка Храптовічаў у Шчорсах.

Навагрудак – адзін са старажытнейшых гарадоў Беларусі. Першая, хоць і ўскосная, летапісная узгадка аб ім адносіцца да 1228 г., калі навагародцы выступілі на баку кіеўскага князя Уладзіміра Рурыкавіча, які ваяваў Камянец: "Володимеръ же со всими князи и Коуряны и Пиняны и Новогородци и Тоуровьци обседоша Каменец"[1]. Другая ўзгадка – таксама ўскосная – датуецца 1238 г., калі Ізяслаў "Новгородьскии" разам з літоўскім князем Міндоўгам па загаду галіцкага князя Данілы Раманавіча ўдзельнічаў у паходзе на мазавецкага князя Конрада[2]. З Густынскага летапісу вядома, што ў 1252 г. Міндоўг прыняў хрышчэнне ў Навагрудку. Усе гэтыя падзеі сведчыць аб тым, што ўжо значна раней за іх Навагрудак існаваў як гарадское паселішча.

Сёння ў нас маюцца магчымасці, каб на грунце археалагічных і гістарычных дадзеных абгрунтаваць і вызначыць узрост гэтага старажытнага горада. Магчыма, што паведамленне ў Першым Сафійскім летапісу пад 1044 г., дзе ўказана: "Ходи Ярослав на Литву, а на весну заложил Новогород и сделал и", датычыцца менавіта Навагрудка. Задача сучасных беларускіх гісторыкаў: даказаць ці абвергнуць гэта.

[1] Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 2. Стб. 753; Шаланда А. Баярства Міндоўга: склад і паходжанне // Герольд Litherland. 2003. № 1 – 2. С. 12-13.
[2] Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т. 2. Стб. 776.

Навуковыя даследаванні даюць падставу сцвярджаць, што Навагрудак з'яўляецца адным з буйнейшых гарадоў Чорнай Русі, якая ахоплівала землі Беларускага Панямоння. Ужо з XIII стагоддзя ён быў цэнтрам удзельнага княства, а пазней сталіцай ВКЛ. У XIII – XIV стагоддзях горад быў важнейшым цэнтрам у сістэме абароны Панямоння, якая супрацьстаяла спачатку галіцка-валынскім князям, а затым крыжакам.

У гістарычных крыніцах адзначана, што Навагрудская харугва ў складзе войск ВКЛ 15 ліпеня 1410 г. прымала актыўны ўдзел у пераможнай Грунвальдскай бітве з Тэўтонскім ордэнам, якая канчаткова спыніла нашэсце крыжакоў на славянскія землі. Хутка мы будзем урачыста адзначаць 600-годдзе гэтай слаўнай бітвы.

З Навагрудкам цесна звязана імя вядомай князёўны Соф'і Гальшанскай. У 1422 г. у Навагрудскім фарным касцёле адбылося вянчанне польскага караля Ягайлы з Соф'яй Гальшанскай. Гэты шлюб паклаў пачатак магутнай еўрапейскай дынастыі Ягелонаў. Нашчадкі Ягайлы і Соф'і праз роднасныя сувязі сталі арганічнай часткай шматлікіх каралеўскіх і княжыцкіх дамоў Еўропы.

Адметнай падзеяй стала заснаванне ў 1507 г. Навагрудскага ваяводства. У 1511 г. Навагрудак атрымаў магдэбургскае права. Яшчэ 9 гарадоў ваяводства карысталіся гэтым правам. Прывілеем 1595 г. быў зацверджаны герб горада: у чырвоным полі выява архангела Міхаіла з мечам у правай руцэ і вагамі ў левай. Важна зазначыць і той факт, што з 1581 па 1775 гады ў Навагрудку праходзілі пасяджэнні Трыбунала ВКЛ.

З Навагрудчынай звязаныя імёны цэлай плеяды знакамітых асоб, вядомых не толькі ў нашай краіне, але і за яе межамі. Сярод іх першы вялікі князь ВКЛ Міндоўг; канцлер ВКЛ Іахім Літавор Храптовіч; паэты Адама Міцкевіч, Ян Чачот, Вінцэнт Каратынскі; першы беларускі мемуарыст Хведар Еўлашоўскі; першы беларускі фальклaрыст Саламон Рысінскі; мастак Язэп Драздовіч; фатограф Ян Булгак; оперны спявак Платон Іванавіч Цясевіч, які выступаў разам з Ф. Шаляпіным і Л. Собінавым; актыўны ўдзельнік барацьбы за ўз'яднанне Заходняй Беларусі з БССР і партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай вайны Валянцін Паўлавіч Таўлай; юнак-партызан Міхаіл Андрэевіч Белуш, які ў 1944 годзе паўтарыў подзвіг Аляксандра Матросава; стваральнік Першай беларускай кавалерыйскай партызанскай брыгады Дзмітрый Анісімавіч Дзенісенка; Героі Сацыялістычнай працы Васіль Аляксандравіч Глебка, Праскоўя Лазараўна Калага, Эдуард Сцяпанавіч Каляда, Марыя Сяргееўна Каранеўская, Марыя Мікалаеўна Карповіч, Марта Уладзіміраўна Кошур, Уладзімір Аксенцьевіч Кукаловіч, Пётр Рыгоравіч Тур; гісторык, акадэмік НАН Беларусі Міхаіл Паўлавіч Касцюк; мовазнавец, член-карэспандэнт НАН Беларусі Аляксандр Мікалаевіч Булыка; доктар філасофскіх навук Уладзімір Міхайлавіч Конан; доктар гістарычных навук Яўген Канстанцінавіч Новік і шматлікія іншыя дзяржаўныя, грамадскія, навуковыя і культурныя дзеячы. Стваральная дзейнасць гэтых людзей стала здабыткам беларускага народа, гонарам для нашчадкаў.

Багацце культурнай спадчыны Навагрудчыны адлюстравана таксама і ў шматлікіх помніках гісторыі і архітэктуры, якія здольныя зацікавіць розныя катэгорыі турыстаў. Справа толькі ў тым, каб мы ўмела і яскрава прадстаўлялі багацце гэтага краю, адлюстроўваючы яго значэнне для айчыннай і замежнай сучаснасці.

Ужо ў пачатку XX стагоддзя былі разгорнуты навуковыя даследаванні тэрыторыі Беларусі. Адны з першых прац па вывучэнню старажытнай гісторыі Навагрудка пачаліся ў 1931 годзе, калі на тэрыторыі Малага замка – любімага месца адпачынку Адама Міцкевіча быў насыпаны 12-мятровы курган у памяць аб паэце. Зямлю для кургана бралі з Замкавай гары, дзе яе здымалі па ўсёй плошчы на глыбіню да двух метраў. Гэта дало магчымасць польскім архітэктарам правесці вывучэнне і кансервацыю рэштакаў аб'ектаў абароннага і культавага дойлідства, размешчаных на Замкавай гары. У гэты час былі выяўлены цікавыя і арыгінальныя знаходкі: каменныя ядры і манеты часоў Казіміра Вялікага (1310 – 1370 гады) і Ягайлы (1390 год), а таксама XVI – XVII стагоддзяў і шматлікія іншыя матэрыялы, якія дазволілі вучоным удакладніць навуковыя ўяўленні аб старажытнай гісторыі горада.

Аднак, як паказалі археалагічныя даследаванні, арганізаваныя экспедыцыяй Ленінградскага аддзялення Інстытута археалогіі АН СССР пад кіраўніцтвам Ф. Д. Гурэвіч з 1956 года і да 1980-х гадоў, горад мае значна больш старажытную гісторыю[3]. Ён размяшчаўся

[3] Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок. М., 1981.

на двух суседніх узвышшах, якія называюцца ў Іпацьеўскім летапісы (1274 год) дзяцінцам і вакольным горадам: «Лев же (валынскі князь) лесть учини меж братьею своею утаився Мъстислава и Володимера взя окольнии град и с татары, а детинец остася»[4]. І сёння гэтыя два месцы з валамі, абкладзенымі камянямі, а таксама рэшткамі каменных умацаванняў больш позняга часу робяць незабыўнае ўражанне. У цэлым, умацаваная частка старажытнага Навагрудка займала плошчу больш 2,5 гектараў. Неумацаваныя паселішчы ўзніклі на Малым замку ў X стагоддзі, а на Замкавай гары ў XI стагоддзі. У сярэдзіне XI стагоддзя пляцоўка Замкавай гары была абнесена валам і пераўтварылася ў дзядзінец, пад прыкрыццём якога развіваўся неумацаванае паселішча (пасад) Малага замка. Побач з ім размяшчаўся гарадскі некропаль. Умацаванні горада з XI па XIV стагоддзе. неаднаразова перабудоўваліся. Пры гэтым павялічылася вышыня і шырыня вала.

У эпоху Кіеўскай Русі Навагрудак адыграваў важную ролю ў грамадска-палітычным жыцці рэгіёна, з'яўляўся не толькі аплотам абароннай сістэмы ў Панямонні, але і добра развітым шматфункцыянальным горадам. Аб гэтым яскрава сведчаць выяўленыя навукоўцамі рэшткі багатых кварталаў вакольнага горада з яго вялікімі будынкамі, разнастайнымі прадметамі раскошы і імпарта. Багаты археалагічны матэрыял пераканаўча раскрывае трывалыя сувязі жыхароў Навагрудка з Візантыяй і мусульманскім усходам. Даследчыкамі ўстаноўлена, што ў першай палове XII стагоддзя на ўзвышшы з паўднёва-заходняга боку ад вакольнага горада ужо існаваў храм, які быў пабудаваны з вапняковых блокаў, упрыгожаны фрэскамі і маёлікавай падлогай і нават меў акустычныя галаснікі (папярэднік Барысаглебскай царквы XVI ст.)[5].

Пісьмовыя сведчанні пра гісторыю развіцця Навагрудка ў эпоху сярэднявечча прадстаўлены ў летапісах XV – XVI стст., а таксама працы польскага храніста XVI ст. Мацея Стрыйкоўскага.

У XIV ст. горад па сваіх памерах адпавядаў тэрыторыі, якую ён займаў у старажытнарускі перыяд. Галоўнымі яго вуліцы шырокай дугой ахоплівалі участак, размешчаны каля Замкавай гары і Малога замка. Магчыма менавіта тут праходзіла ў тыя гады лінія умацаванняў Навагрудка.

У познім сярэднявеччы галоўнай гарадской вуліцай быў гандлёвы шлях, які звязваў Навагрудак з Вільняй. Ён праходзіў па паўночнай ускраіне горада, а ў раёне замка падзяляўся на два адгалінаванні. Адно з іх арыентавалася на Карэлічы, Мір, Мінск і Нясвіж, другое – на Палессе. Гэты шлях магчыма ўказвае і на напрамкі сувязей Навагрудка з аддаленымі тэрыторыямі ў больш ранні час. На развілцы галоўнай гарадской магістралі знаходзілася гандлёвая плошча ў выглядзе няправільнага трохкутніка. Як паказвае гарадскі план канца XVIII ст., к гэтаму часу ў горадзе сфармірівалася планіроўка, якая захавалася ў агульных рысах і на сённяшні дзень[6].

Дакладна ўстаноўлена, што ў XVII – XIX стагоддзях цэнтр горада ўпрыгожвала ратуша, якая ўпершыню ўзгадваецца ў сеймавай канстытуцыі 1652 года. Магчыма яна займала будынак камяніцы на гандлёвай плошчы. Ратуша неаднойчы рэканструявалася на працягу XVIII – XIX стагоддзяў і пасля пажара 1862 года больш не адбудоўвалася. Каля 1900 года на яе месцы быў узведзены будынак магістрата, знішчаны ў час Вялікай Айчыннай вайны.

Асаблівае значэнне ў эпоху сярэднявечча мелі каменныя абарончыя умацаванні Навагрудка, якія ўзніклі ў XIII – XIV стагоддзях. Так, у Іпацьеўскім летапісе пад 1274 годам узгадваецца беспаспяховы штурм Навагрудка галіцка-валынскімі і татарскімі войскамі. У 1314 годзе Навагрудак быў спалены атрадам крыжакоў пад старшынствам магістра Генрыка фон Плоцке, але яго жыхары, зачыніліся ў замку, які так і не быў захоплены. Безвыніковымі былі напады на замак крыжакоў у 1391 годзе (пад кіраўніцтвам магістра Конрада Валенрода) і 1394 годзе (на чале з магістрам Конрадам фон Юнгінгенам).

Перабудова Навагрудскага замка ў канцы XIV – пачатку XV стагоддзя звязана з агульнадзяржаўнымі мерапрыемствамі ВКЛ, якія былі накіраваны на рашучае супрацьстаянне і канчатковы разгром Тэўтонскага ордэна.

[4] Полное собрание русских летописей. М., 1962. Т.2. Стб. 873.
[5] Кушнярэвіч А.М. Культавае дойлідства Беларусі XIII – XVI стст. Мн., 1993.
[6] Краўцэвіч А.К. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV-XVIII стст. (планіроўка, культурны слой). Мн., 1991. С. 93-95.

У XVI стагоддзі Навагрудскі замак па-ранейшаму адыграваў значную ролю ў сістэме абароны беларускіх зямель. Ён налічваў 7 вежаў, яго ўвесь час прыстасоўвалі для супрацьстаяння новай асаднай тэхніцы і тактыцы. Замак меў гарматы, якія стралялі паўфунтовымі ядрамі. Каменныя ядры розных памераў неаднойчы знаходзілі пры правядзенні археалагічных раскопак.

У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654 – 1667 гадоў. Меская, Калодзежная, Малая і Пасадская вежы замка, а таксама праслы муроў былі цалкам зруйнаваны. Канчаткова замкавыя ўмацаванні Навагрудка знішчылі шведы ў перыяд Паўночнай вайны.[7]

У 1828 годзе ў замку яшчэ заставаліся дзве крыху пашкоджаныя зверху, але даволі моцныя вежы, якія знаходзіліся ў ведамстве Навагрудскай эканоміі. Адам Міцкевіч, натхнёны руінамі былой велічы, пісаў у сваёй знакамітай паэме “Гражына”:

“Ля Навагрудка, на ўздыбленных горах, –
Замак у месяца срэбным зіхценні;
Вал здзірванелы схаваўшы, сувора
Волатаў-вежаў ламаныя цені
Падалі ў роў, дзе між вечнай цясніны
Дыхалі воды, затканыя цінай.
Замак заснуў – ні агню і не дыху,
Толькі па вежах бяссонная варта
Воклічам цішу палохае ўпарта...”

Але ў 1906 годзе абвалілася Касцельная вежа, а ў гады Першай сусветнай вайны – паўднёвая сцяна вежы Шчытоўкі.

Пад ахову Навагрудскі замак узялі ў 1921 годзе, а ў 1930-я гады польскімі даследчыкамі была праведзена частковая кансервацыя ацалелых рэштак вежаў. Сцены Касцельнай вежы фактычна былі ўзведзены нанова. У такім выглядзе замак дайшоў да нашых дзён.

Беларускі археолаг М. А. Ткачоў, вывучаючы абарончыя збудаванні Навагрудка, прыйшоў да высновы, што фундаментам вежы Шчытоўкі сталі рэшткі больш старажытнай каменнай вежы 60 – 70-х гадоў XIII стагодзя, разбуранай у XIV стагоддзі. На тэрыторыі Малага замка ў яго заходняй частцы даследчык выявіў рэшткі вежы валынскага тыпу канца XIII – пачатку XIV стагоддзя. Па меркаванню М. А. Ткачова гэта вежа таксама была зруйнавана і затым перабудавана на мяжы XIV – XV стагоддзяў[8].

Вывучаліся таксама рэшткі культавых і грамадзянскіх каменых будынкаў Навагрудка. Польскія рэстаўратары выявілі на тэрыторыі Навагрудскага замка часткі апсіды і фундаменты барочнага касцёла, разбуранага пасля 1850 года. У савецкі час у Навагрудку працавалі ленінградскія даследчыкі. М. В. Малеўская ў 1973 – 1974 гадах устанавіла, што касцёл барочнага тыпу канца XVII стагоддзя быў узведзены на падмурках царквы XIV – XVI стагоддзяў, якая неаднаразова перабудоўвалася. На тэрыторыі замка Ф. Д. Гурэвіч у 1974 – 1977 гадах выявіла і вывучыла рэшткі каменнага вытворчага будынку XV стагоддзя, а М. В. Малеўская ў 1977 годзе – двухпавярховы будынак другой паловы XIV стагоддзя, які меў залу для ўрачыстых прыёмаў. У пачатку 1960-х гадоў П. А. Рапапорт даследаваў Барысаглебскую царкву[9].

Сапраўды Навагрудак з’яўляецца адным з самых яскравых помнікаў гісторыі Беларусі. Ён перажыў цэлы шэраг гістарычных эпох, насычаных палітычнымі падзеямі і ратнымі справамі, развіццём абарончага, культавага і грамадзянскага дойлідства. Яго жыхары стваралі высокамастацкія рамесныя вырабы, мелі трывалыя гандлёвыя і культурныя сувязі з усходнімі і заходнімі суседзямі. Горад і сёння захоўвае памяць аб былых гістарычных падзеях, а вежы яго замку на самым высокім гарадскім узгорку нагадваюць нам, сённяшнім беларусам, аб велічы і славе Навагрудчыны.

[7] Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII – XVIII стст. Мн., 1978. С. 44-52.

[8] Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI – XVII вв.: Архитектурно-археологический анализ. Мн., 1988. С. 36.

[9] Трусов О.А. Памятники монументального зодчества Белоруссии XI – XVII вв.: Архитектурно-археологический анализ. Мн., 1988. С. 52-53.

Сучасны Навагрудак працягвае паспяхова развівацца. Вельмі важна, што кіраўніцтва Навагрудскага раёна начале з Анатолем Канстанцінавічам Кулаком надае шмат увагі захаванню і далейшаму развіццю традыцый багатай гістарычнай і культурнай спадчыны рэгіёна. Яскравым сведчаннем гэтага з'яўляецца правядзенне мясцовымі ўладамі сумесна з Інстытутам гісторыі НАН Беларусі на высокім навуковым і арганізацыйным узроўні Міжнародных навукова-практычных канферэнцый "Ягелоны: дынастыя, эпоха, спадчына" (8 – 10 верасня 2006 года ў Гальшанах і Навагрудку) і "Роля і месца Навагрудка ў гісторыі і культуры Еўропы" (10 – 11 ліпеня 2009 года ў Навагрудку). Гэтыя форумы мелі шырокі грамадскі рэзананс і атрымалі станоўчую адзнаку навуковай супольнасці. Шмат сіл і часу аддаюць захаванню і папулярызацыі гісторыка-культурнай спадчыны Навагрудчыны начальнік аддзела культуры раённага выканаўчага камітэта Аляксандр Мікалаевіч Карачан, дырэктар Дома-музея Адама Міцкевіча Мікалай Паўлавіч Гайба, дырэктар Навагрудскага гістарычна-краязнаўчага музея Тамара Рыгораўна Вяршыцкая.

У апошнія 15 гадоў, дзякуючы мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыцы, актыўнаму ўдзелу ўсяго беларускага народа, у нашай краіне шмат зроблена і дасягнута. Сёння мы жывем і працуем у складаных умовах навязанага нам звонку фінансава-эканамічнага крызісу. Але і ў гэтых умовах беларуская мадэль сацыяльна-эканамічнага развіцця яшчэ раз даказала сваю эфектыўнасць і высокі запас трываласці. Рост валавага ўнутранага прадукту Рэспублікі Беларусь, нягледзячы на складанейшыя ўмовы, у 2009 годзе склаў 100,2 %. Дасягнута рэнтабельнасць прамысловасці ў 10 %, пры гэтым энэргаёмістасць вытворчасці знізілася амаль на 6 % у параўнанні з 2008 годам. Тэмп роста вытворчасці сельгаспрадукцыі склаў 101,3 %. У эксплуатацыю ўведзена каля 6 млн. м$^2$ жылля[10].

Безумоўна, ва ўсім гэтым вялікая заслуга працавітых жыхароў нашай краіны, у тым ліку і Навагрудчыны.

На сучасным этапе вучоныя Інстытута гісторыі НАН Беларусі заклікаваны вырашаць складаныя задачы навуковага вывучэння гісторыі беларускага народа. Пры гэтым адна з найважнейшых задач – аб'ектыўнае асвятленне, захаванне і трансляцыя нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны. Гэта задача не з лёгкіх, патрабуе высокай навуковай кваліфікацыі, досведу і таленту. Але наша мэта – давесці да грамадскасці краіны, нашых суседзяў і ўсёй сусветнай супольнасці гістарычнае мінулае Беларусі, каб упэўнена і з вартасцю глядзець у будучыню.

У наш час сустрэчы вучоных-гісторыкаў з грамадскасцю краіны, правядзенне навуковых канферэнцый, прысвечаных даследаванню мінулага асобных населеных пунктаў і рэгіёнаў Беларусі, распачатыя па ініцыятыве Інстытута гісторыі НАН Беларусі, становяцца добрай і карыснай традыцыяй.

Штогод у рамках выканання дзяржаўнай комплекснай праграмы навуковых даследаванняў на 2006 – 2010 гады "Гісторыя беларускай нацыі, дзяржаўнасці і культуры" арганізоўваюцца міжнародныя і рэспубліканскія навукова-практычныя канферэнцыі, якія прысвечаны асвятленню гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі. Толькі ў 2006 – 2009 гадах праведзена 50 такіх канферэнцый: у Ашмянах, Брэсце, Гарадку, Гомелі, Гродна, Заслаўі, Клецку, Магілёве, Мінску, Міры, Навагрудку, Нясвіжы, Оршы, Пінску, Полацку, Смаргоні і іншых мясцінах Беларусі. На гэтых навуковых мерапрыемствах ўзняты велізарны пласт раней невядомых дакументаў і матэрыялаў, адбылася папулярызацыя мінулага і сённяшняга жыцця беларусаў. Гэта форма навукова-асветнай работы атрымала шырокі грамадскі рэзананс і высокую ацэнку навуковай сцпольнасці.

Правядзенне падобных мерапрыемстваў з'яўляецца непасрэднай, практычнай ідэалагічнай работай, якая накіравана на кансалідацыю беларускай нацыі, забеспячэнне гарманізацыі грамадскіх адносін, фарміраванне патрыятызму, грамадзянскай актыўнасці і адказнасці, захаванне культурна-гістарычнай пераемнасці і нацыянальнага гонару. Гэта вельмі важна для умацавання духоўна-маральных і ідэалагічных асноў беларускага грамадства, яго кансалідацыі на шляху далейшага паспяховага развіцця нашай краіны.

Увогуле гісторыя непарыўна звязана і з ідэалогіяй. Гэта два бакі аднаго медаля. Паміж імі прамая дыялектычная сувязь. Гісторыя без ідэалогіі ператвараецца ў прымітыўную

[10] http://president.gov.by/press81902.html#doc

фактаграфію, звычайнае ўзнаўленне падзей гістарычнага мінулага, а ідэалогія без гісторыі губляе свае карані і здольнасць быць пераканаўчай.

Чаму мы праводзім не проста навуковыя, акадэмічныя канферэнцыі, якія, дарэчы, можна правесці ў Мінску, а менавіта навуковыя канферэнцыі практычнай накіраванасці ў рэгіёнах? Таму, што мы хочам зрабіць так, каб вынікі нашай працы адразу сталі набыткам мясцовых жыхароў, у першую чаргу тых, хто займаецца вывучэннем гісторыі і культуры свайго краю. Такі падыход дазваляе ўключыць у навукова-даследчы працэс не толькі акадэмічных вучоных, але і мясцовых даследчыкаў гістарычнага мінулага. Як тых, хто займаецца ідэалагічнай, выхаваўчай работай, так і мясцовых краязнаўцаў, а таксама маладых людзей, напэўна будучых прафесійных гісторыкаў, паведамленні якіх пазначаны ў праграме нашай канферэнцыі. Магчымасць выступіць побач з вядомымі вучонымі, паразмаўляць, пракансультавацца з імі, усталяваць навуковыя кантакты – гэта таксама адзін з важнейшых плюсаў нашай канферэнцыі, як і тое, што вынікі працы вучоных Інстытута гісторыі НАН Беларусі, прадстаўнікоў іншых навуковых і навучальных устаноў, якія прысутнічаюць тут, адразу могуць быць выкарыстаны ў навучальных і выхаваўчых мэтах.

Удзел прафесійных навукоўцаў у такіх канферэнцыях дазваляе значна ўзняць іх навуковы ўзровень. Кожнае выступленне, зробленае перад такой кваліфікаванай аўдыторыяй, адразу праходзіць своеасаблівую навуковую апрабацыю. Гэта выгадна адрознівае канферэнцыі навуковыя, ад сходаў краязнаўцаў-аматараў, таму што гісторыя – гэта навука і патрабуе сур'ёзнага навуковага падыхода. Дакладнасць гістарычнага факта і правільнасць яго трактоўкі могуць стаць вырашальнымі для лёсаў як асобных людзей, так і цэлых дзяржаў. Гісторыя мае шмат такіх прыкладаў.

Разам з тым, займаючыся праблемамі рэгіянальнай гісторыі мы вельмі цесна збліжаемся менавіта з гістарычным краязнаўствам – вывучэннем мясцовай гісторыі, гісторыі населеных пунктаў і людзей, якія тут жывуць. Мяркую, што калі такая праца будзе весціся ў кантэксце супрацоўніцтва з прафесійнымі даследчыкамі, што мы бачым сёння, то яе вынікі будуць толькі станоўчымі.

Мы імкнемся, каб высупленні ўдзельнікаў гэтых навуковых форумаў былі прысвечаны гісторыі мясцовых населеных пунктаў, а таксама людзей (родаў, сем'яў, асобаў), якія жылі тут. Як знакамітых, так і звычайных. Вядома, што Беларусь часта выжывала і адраджалася пасля войнаў і ліхалеццяў не толькі дзякуючы подзвігам сваіх Герояў, але і на грунце карпатлівай штодзённай працы звычайных людзей. Таму актуальнымі з'яўляюцца дэмаграфічныя і генеалагічныя даследаванні, вывучэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця асобных вёсак і прадпрыемстваў, што дапаможа стварыць там свае музеі і будзе вельмі карысным у справе захавання памяці аб нашых продках і папярэдніках, якія абаранялі і ўмацоўвалі нашу Бацькаўшчыну.

Даследаванне гісторыі асобных, звычайна ў нечым спецыфічных, рэгіёнаў Беларусі павінна складацца з вывучэння гісторыі больш дробных адзінак. Галоўнае пры гэтым, каб ў цэнтры даследавання быў чалавек, бо ў аснове гісторыі ляжыць жыццё людзей. Мы вывучаем наша гістарычнае мінулае для таго, каб на яго прыкладах выхоўваць і адукоўваць падрастаючае пакаленне. Вучыць моладзь дабру, павазе да сваіх продкаў, уменню жыць ў міры і дабрасуседстве. Нездарма ж людзі гавораць, што Гісторыя – гэта сапраўдная Настаўніца жыцця.

М. Касцюк (Мінск)

# Месца і роля Грунвальдскай бітвы ў гістарычным лёсе Беларусі

Бітва, якая адбылася 15 ліпеня 1410 г. і доўжылася ад апоўдня да 7-мі гадзін вечара на тэрыторыі паміж Стэмбаркам і Грунвальдам, з'явілася апагеем не толькі "Вялікай вайны", але ўсёй актыўнай, амаль 130-гадовай (з невялікімі перапынкамі) агрэсіі Тэўтонскага (Нямецкага) ордэна на літоўскія і беларускія землі. Гэтая бітва ўвайшла ў гісторыю як адна з найбольш маштабных, грандыёзных і эпахальных падзей сярэднявечча.

Даная бітва – заканчэнне і лагічны вынік той пастаяннай агрэсіі, якую вёў ордэн на ўсходнія ад яго, у тым ліку беларускія землі. Разбурэнні, пажары, марадзёрствы, грабяжы, рабаўніцтва ў час так званых "рэйзаў" сумяшчаліся з захопам і вывадам палонных. На думку некаторых даследчыкаў іх колькасць, дарослых і дзяцей, якія былі выведзены з тэрыторый Літвы і Беларусі магла дасягаць 200 тысяч чалавек.

Характэрна, што назіралася цесная прапагандысцкая сувязь паміж крыжацкімі паходамі ў Палесціну, а таксама на літоўскія, беларускія і іншыя ўсходнеславянскія землі. І па аднаму і па другому напрамках гэта падавалася як барацьба за чысціню хрысціянскай веры ў яе каталіцкім варыянце. На літоўскіх, беларускіх і іншых суседніх тэрыторыях гэта вылівалася ў барацьбу з паганцамі і схізматыкамі. У канцы XIV – пачатку XV стагоддзяў націск ва ўсходнім напрамку актывізаваўся ў сувязі з цяжкім паражэннем крыжакоў ад турак, якое адбылося пад Нікапалісам ў 1397 г.

Войскі Вялікага княства Літоўскага ў адказ на крыжацкую агрэсію на іх землі перыядычна адказвалі сваімі паходамі на Захад. Асабліва актыўна гэта адбывалася ў часы дзейнасці Давыда Гарадзенскага ды некаторых іншых тагачасных военачальнікаў. Аднак гэтыя адказы былі менш інтэнсіўнымі, яны не мелі пастаяннага характару і праводзіліся пераважна ў адказ на крыжацкія "рэйзы" і зробленыя ў час іх пагромы, грабяжы і марадзёрствы.

Аднак варагуючыя бакі ў тыя часы згодна існаваўшым юрыдычным і маральнаэтычным нормам даволі строга вытрымлівалі падпісаныя пагадненні. Яны нярэдка ўтрымлівалі норму папярэджваць за некалькі тыдняў ці нават за некалькі месяцаў аб разрыве мірнага дагавору і пачатку ваенных дзеянняў. Гэта датычылася не толькі ўзаемаадносін Тэўтонскага ордэна са сваімі ўсходнімі суседзямі, але і ў больш шырокім кантэксце, ва ўзаемаадносінах непасрэдна паміж імі. У гэтай сувязі вераломны напад праз многія стагоддзі фашысцкай Германіі на СССР, у тым ліку на Беларусь насуперак заключанаму савецка-германскаму пакту і іншым дагаворам з'явіўся вялікай дэградацыяй міждзяржаўных прававых адносін і міжнароднай практыкі.

Але ў адрозненне ад Вялікай Айчыннай і Другой сусветнай войнаў у часы крыжацкай агрэсіі на Беларусь і яе суседзяў ваенныя напады тады не мелі ў сваёй аснове этнічнага

характару. Гэта тлумачыцца як няразвітасцю саміх тагачасных этнасаў, так і іншай прапагандысцкай асновай крыжацкіх паходаў – барацьбой з язычнікамі і адступнікамі, па іх меркаваннях, ад сапраўднай хрысціянскай, гэта значыць каталіцкай веры.

Нягледзячы на практычна пастаянны і востры характар барацьбы з Тэўтонскім ордэнам, Вялікае княства Літоўскае знаходзіла магчымасці і сілы для паходаў на ўсход. У прыватнасці, вялікі князь Альгерд за кароткі тэрмін зрабіў тры паходы на Маскоўскае княства. Шырока вядома і ўсходняя палітыка Вітаўта, у тым ліку ў канцы XIV – пачатку XV стагоддзяў.

Ад крыжацкіх "рэйзаў" у першую чаргу цярпелі землі цяперашняй Літвы, асабліва Жамойць, жыхары якой перыядычна паўставалі і вялі асабліва актыўную барацьбу з захопнікамі, а таксама беларускія тэрыторыі. Што датычыць непасрэдна польскіх зямель, то згодна Калішскаму міру, заключанаму ў 1343 г., яе тэрыторыя аказвалася пераважна ў баку ад крыжацкіх паходаў. Але небяспека нападаў захоўвалася пастаянна, хаця польскія рыцары часамі выступалі разам з "гасцямі" Тэўтонскага ордэна, што прыбывалі да яго з іншых дзяржаў Еўропы.

У жорсткай барацьбе з крыжацкімі паходамі на Беларусь больш за ўсё цярпела амаль безабаронная сельская мясцовасць, а таксама гарадскія паселішчы, але замкі Гародні, Навагрудка, Ліды, іншых беларускіх гарадоў пераважна вытрымлівалі асады і штурмы. Але характар агрэсій і барацьбы з імі быў такім, што ў 1395 г., напрыклад, жыхары Навагрудка і Ліды самі вымушаныя былі спаліць свае гарады і схавацца ў лясах.

Асабліва была актывізавана захопніцкая дзейнасць Тэўтонскага ордэна ва ўсходнім напрамку пасля 1393 г. у сувязі з тым, што вялікім магістрам стаў Кондрад фон Юнгінген. Ён затым будзе забіты на Грунвальдскім полі, што і сімвалічна і заканамерна. Хаця яму нельга адказаць і ў пэўнай асцярожнасці. Так, апошні паход яго рыцараў на Вільню адбыўся ўжо ў 1394 г.

Не цураліся вярхоўныя кіраўнікі варагуючых бакоў і асабістых сустрэчаў. Так, у 1403 г. на Дубісе Вітаўт і фон Юнгінген правялі перамовы, якія, аднак, аказаліся безвыніковымі. Былі некалькі іншых сустрэч паміж імі ў тым ліку з удзелам польскага караля Ягайлы.

У гэтай сувязі для зыходу будучай Грунвальдскай бітвы асабліва важнае значэнне мелі ўзаемадносіны і ўзаемадзеянне вярхоўных кіраўнікоў Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польскай, дваюрадных братоў – Вітаўта і Ягайлы. Забойства ў 1382 г., у часы асабліва вострай барацьбы за ўладу па загаду Ягайлы яго роднага дзядзькі і бацькі Вітаўта – Кейстута на многія гады ўскладніла іх адносіны. Але дзяржаўныя справы ўсё ж такі паступова бралі ў іх верх над асабістымі крыўдамі. Важнае значэнне ў гэтым адыгралі падзеі 1392 г., калі Вітаўту ад Ягайлы быў перададзены сакрэтны ліст. У ім утрымлівалася прапанова да прымірэння і выкладаліся яго ўмовы. Вынікам гэтага з'явілася сустрэча каля Вострава, у ваколлях Ліды. Згодна падпісанаму трактату, ўлада ў Вялікім княстве Літоўскім пажыццёва перадавалася Вітаўту. Пры гэтым ён аб'яўляўся намеснікам Ягайлы ў ВКЛ і яму былі вернуты ўсе яго вотчынныя ўладанні.

Рыхтуючыся да генеральнай бітвы, варагуючыя бакі імкнуліся забяспечыць свае тылы. І гэта ім удалося. Вітаўт падпісаў адпаведныя пагадненні мірнага характару з Псковам, а таксама з Маскоўскім княствам. Быў заключаны мірны трактат і з Вялікім Ноўгарадам. Пры гэтым важна, што адпаведнае пагадненне было падпісана таксама з Інфлянтскім ордэнам.

Яшчэ раней забеспячэннем сваіх тылавых пазіцый заняліся кіраўнікі Тэўтонскага ордэна. У першую чаргу гэта была барацьба за важнейшы апорны пункт у Балтыйскім моры – востраў Готланд, які належаў Даніі. Яшчэ ў 1383 г. туды быў арганізаваны вялікі паход сухапутных і нават марскіх сіл ордэна. Гэтыя кампаніі былі затым паўтораны ў 1403 і 1404 гадах. Яны ўяўлялі сабою добра спланаваныя і выніковыя акцыі. Спробы супрацьдзейнічаць гэтаму з боку дацкіх уладаў не мелі поспеху.

Перадгісторыя Грунвальдскай бітвы мае нямала сведчанняў пэўных кампрамісаў паміж варагуючымі бакамі – Вялікім княствам Літоўскім, Каронай Польскай і Тэўтонскім ордэнам. Вядома, што пры правядзенні сваёй усходняй палітыкі (а яна нярэдка набывала

актыўны характар), Вітаўт часамі выкарыстоўваў фарміраванні тэўтонскіх рыцараў. У прыватнасці, у няўдалай для яго бітве на Ворскле, якая адбылася ў 1399 г., удзельнічалі і прадстаўнікі Тэўтонскага ордэна.

Гістарычнымі фактамі яшчэ больш зафіксавана пагадненняў з ордэнам, якія праследвалі, несумненна, тактычныя мэты. Гэтую ролю выконвалі, у прыватнасці, Віленская унія 1401 г., Рацёнжскі дагавор 1404 г. паміж Вялікім княствам Літоўскім, Каронай Польскай і Тэўтонскім ордэнам. На аснове гэтага дагавору ў 1406 і 1408 гадах ордэнскія фарміраванні ў некалькі тысяч рыцараў дапамагалі войскам Вітаўта ў яго барацьбе з Маскоўскім княствам.

Характэрна, што перыядычна, асабліва ў часы абвастрэння адносін і ваенных дзеянняў з Тэўтонскім ордэнам, актывізавалася прапагандыская дзейнасць з абодвух варагуючых бакоў. Ордэн праз сваіх пасланнікаў апеляваў да папскага прастолу, правіцеляў Свяшчэннай Рымскай імперыі, заходнееўрапейскіх дзяржаў, абвіняючы язычнікаў і схізматыкаў у непавазе да ісціннага хрысціянства, гэта значыць да каталіцкай веры. Прадстаўнікі Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польскай, у сваю чаргу, імкнулі даказаць адваротнае. Асабліва гэта ўзмацнілася непасрэдна перад рашаючай бітвай.

Працяглая небяспека з боку Тэўтонскага ордэна аб'ядноўвала яго праціўнікаў. Сярод прыкладна 40 харугваў, якія прывёў на рашучую бітву вялікі князь Вітаўт, былі берасцейская, ваўкавыская, віцебская, гарадзенская, лідская, наваградская, пінская, полацкая, магчыма некалькі смаленскіх і іншыя харугвы. У іх было адно імкненне – разграміць рыцараў і спыніць іх спусташальныя паходы на ўсход.

Перамяшчэнні войск абодвух бакоў перад сустрэчай пад Грунвальдам, як і сам ход вырашальнай бітвы, даволі падрабязна, хаця і не адназначна выкладзены ў беларускай гістарычнай літаратуры, як і ў публікацыях даследчыкаў з іншых дзяржаў. Але адна лінія пераважае: войскі Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польскай, злучыўшыся 30 чэрвеня 1410 г. на Вісле, валодалі наступальнай стратэгіяй і тактыкай, а ордэн абараняўся. Яго катастрофа на полі, якое аддзяляла Стэмбарк і Грунвальд, была заканамерным вынікам барацьбы супраць тэўтонскай агрэсіі на літоўскія, беларускія і іншыя ўсходнеславянскія землі.

Несумненна, што перамога пад Грунвальдам мела эпахальное значэнне. У гэтых адносінах дастаткова нагадаць, што яна больш чым на паўтысячу гадоў спыніла нямецкую агрэсію на усход – аж да пачатку XX стагоддзя, да Першай сусветнай вайны. Гэта – бяспрэчны факт не толькі еўрапейскай, але і сусветнай гісторыі. Так сталася таму, што спробы Тэўтонскага ордэна аднавіць пасля катастрофы пад Грунвальдам сваю былую магутнасць і значэнне так і не былі рэалізаваны.

Таму нельга пагадзіцца з меркаваннем, якое часамі выказваецца ў літаратуры, што значэнне Грунвальдскай бітвы звычайна перабольшваецца ці нават гіпербалізуецца. Гэта фактычна зрабіць немагчыма, калі ўлічыць тыя карэнныя геапалітычныя змены, якія адбыліся ў цэнтральнай і ва усходняй Еўропе ў выніку гэтай грандыёзнай падзеі. Яе месца і ролю ў гісторыі народаў усходняй і цэнтральнай Еўропы цяжка пераацаніць.

## Літаратура і крыніцы:

Гісторыя Беларусі. У шасці тамах. Том другі. Беларусь у перыяд Вялікага княства Літоўскага. Мінск, 2008.

Вялікі гістарычны Атлас Беларусі. У 3-х тамах. Том 1. Мінск, 2009.

Насевіч В.Л. Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: падзеі і асобы. Мінск, 1993.

Бардах Ю. Крэва і Люблін. З праблемаў польскага-літоўскай уніі. Мінск, 2002.

Краўцэвіч А. Рыцары і дойліды Гародні. Гродна, 2009.





Ю. Бохан (Мінск)

# Вайсковы патэнцыял праціўнікаў у Грунвальдскай бітве

Войскі праціўнікаў, якія сутыкнуліся ў бітве пад Грунвальдам у 1410 г., былі, па сведчанні відавочаў і пазнейшых храністаў, вялікія і магутныя. Аднак скласці дакладнае ўражанне аб іх колькасці надзвычай няпроста. І крыжацкія, і польскія, і беларуска-літоўскія крыніцы, напісаныя пасля бітвы, перабольшвалі сілы праціўнікаў і змяншалі свае. Немцы рабілі гэта, каб знайсці апраўданне свайму паражэнню, палякі і літвіны – каб прадставіць сваю перамогу ў яшчэ больш слаўным выглядзе. Найбольш вядомая крыніца, у якой апісваюцца падзеі бітвы – Хроніка Яна Длугаша адных толькі забітых крыжакаў налічвае 50 тысяч, а палонных – яшчэ 40 тысяч чалавек. Яшчэ больш фантастычныя лічбы можва знайсці ў нямецкіх хроніках, дзе колькасць адных толькі "няверных" – "сарацынаў", турак, персаў і г.д. ацэньваецца ў мільёны! Такая колькасць ворагаў, прычым менавіта мусульман павінна была падкрэсліць не толькі гераізм хрыстовага воінства, але і яго сапраўды хрысціянскі, у духу першых крыжовых паходаў, характар. У той жа час Длугаш ацэньвае прысутнасць татар у войску ВКЛ значна сціплей; ён сцвярджае, што саюзны Вітаўту хан Джалал-ад-Дзін прывёў на Грунвальдскае поле ўсяго 300 чалавек.[1].

Няма адзінства, што да колькасці ўдзельнікаў бітвы, і ў ацэнках даследчыкаў. Расійскі дарэвалюцыйны даследчык А.Барбашоў лічыў, што польска-літоўскія войскі налічвалі 100 тыс. чалавек, а крыжацкія – усяго 30 тыс., прычым рыцараў Ордэна – 700 чалавек. П.Гейсман таксама называў лічбу 100 тыс. у саюзнікаў, але колькасць палякаў і літвінаў ён павялічыў удвая – да 60 тыс. ваяроў. Польскі гісторык С.Кучыньскі, які лічыцца адным з найбольш аўтарытэтных знаўчаў праблемы, выкарыстаў у сваіх падліках ацэнку мабілізацыйных магчымасцяў Ордэна. Ён прыйшоў да высновы, што крыжацкаму войску ў 27500 чалавек супрацьстаяла 31500 палякаў і літвінаў[2].

Зварот да мабілізацыйных магчымасцяў варагуючых бакоў пры ацэнцы колькаснага склада войскаў Тэўтонскага ордэна, Польшчы і Вялікага княства Літоўскага стаў на сённяшні дзень звыклай справай. Вядомы польскі спецыяліст па праблеме М.Біскуп лічыць, што насельніцтва Прусіі складала на момант "Вялікай вайны" каля 500 тыс. чалавек пры тэрыторыі плошчай 58 тыс. кв. км. У той жа час мабілізацыйны патэнцыял Польшчы быў значна вышэйшы – 1800 тыс. чалавек, якія пражывалі на тэрыторыі 240 тыс. кв. км. Магутным быў патэнцыял і Вялікага княства Літоўскага, тэрыторыя якога складала 1100 тыс. кв.км., прычым толькі ў этнаграфічнай Літве пражывала каля 300 тыс. чалавек, не лічачы значна большай па памерах Русі (Беларусі, Украіны і Смаленшчыны).

[1] Сагановіч Г. Русіны пад Грунвальдам (Дуброўнай) у 1410 г. // Беларускі гістарычны агляд. Т. 11 Сшытак 1-2 (20-21). Снежань 2004.

[2] Барбашев А. Витовт. Последние 20 лет княжения. Спб., 1891. С.58-62; Разумовская Л.В. Ян Длугош и Грюнвальдская Битва // Длугош Я. Грюнвальдская Битва. М.-Л., 1962. С. 180.

Разам з тым, дэмаграфічная перавага саюзнікаў кампенсавалася, на думку польскага гісторыка, лепшай арганізацыяй і вышэйшым узроўнем урбанізаванасці. Да таго ж, Ордэн мог быць падтрыманы рыцарамі германскіх краёў, Лівоніі, Чэхіі і Венгрыі, а таксама, валодаючы значнымі фінансавымі магчымасцямі, правесці вярбоўку наёмнікаў.

Такім чынам, Біскуп ацэньвае польскае войска прыблізна ў 18 тысяч шляхецкай конніцы, якая складала асноўную ваенную сілу і дапаўнялася невялікай колькасцю наёмнікаў і каля 12 тысячамі абознай прыслугі, рамеснікаў і іншых дапаможных службаў. Агульная лічба польскага войска мусіла даходзіць да 30 тысяч чалавек. Што тычыцца арміі Вітаўта, то яна магла налічваць да 11 тыс. кавалерыстаў, прадстаўленых літоўскімі, жамойцкімі і рускімі (беларускімі і украінскімі) баярамі з невялікім дадаткам сялян. Польскі гісторык схілаецца да таго, што на 2/3 войска Вітаўта складалася з русінаў і на 1/3 – з балтаў. Акрамя таго, услед за некаторымі іншымі польскімі гісторыкамі ён лічыць, што ў бітве магля прымаць удзел каля 1 тысячы татараў саюзнага Вітаўту хана Джалал-ад-Дзіна. Усё саюзнае войска Біскуп ацэньвае ў 41 тыс. чалавек, прычым на долю Польшчы прыходзілася 2/3, а на долю ВКЛ – 1/3 конніцы[3].

Больш асцярожна падыходзіў да ацэнкі колькаснага складу варагуючых бакоў яшчэ адзін класік польскай гістарычнай навукі – А.Надольскі. Ён лічыў, што Вялікае Княства выставіла ў 1410 г. каля 10 тыысяч ваяроў, тады як Польскае Каралеўства – у два разы больш – каля 20 тысяч. Такім чынам агульная колькасць саюзнага войска магла скласці каля 30 тысяч збройных[4].

Яшчэ меншую лічбу ўдзельнікаў бітвы прапануе беларускі даследчык Р.Гагуа. Ён лічыць, што калі працэнт шляхты ў той час складаў каля 8%, то для Прусіі з насельніцтвам у 500 тыс. чалавек колькасць прадстаўнікоў гэтага саслоўя магла раўняцца 40 тыс. Мужчынская ж яго частка разам з дзецьмі, старымі і нямоглымі не магла перавышаць 20 тыс. Такім чынам, Р.Гагуа у цэлым салідарызуецца з Ф.Бенінгховенам, які лічыў, што ваеннаабавязанымі ў Прусіі магло быць 12961 чалавек, у тым ліку здатных выходзіць у поле – 9735. Праўда, пры гэтым ён не ўлічвае, што наўрад ці ўсё мужчынскае насельніцтва, прыдатнае да зброі, удзельнічала ў вайне. Калі б гэта было так, то ў Ордэна папросту не засталося б рэсурсаў на фінальную фазу вайны. Акрамя таго, варта ўлічваць "гасцей" і наёмнікаў, якія маглі складаць не менш за трэць ўсяго крыжацкага войска. Длугаш піша, што ўвесь крыжацкі рэзерв, альбо адна з трох ліній, складаўся выключна з такіх рыцараў. Скласці ўражанне пра маштабы праведзенай крыжакамі вярбоўкі дазваляе адна з кніг рахункаў Ордэна, дзе зафіксаваны выплаты для 5750 чалавек. Акрамя таго, для ўдзелу ў вайне з "няверныімі" прыбылі за свой кошт рыцары з розных краёў Еўропы.

Што тычыцца польскага боку, то Гагуа згаджаецца з польскім гісторыкам Г.Лаўмяньскім, што войска Ягайлы не перавышала 12 тыс. чалавек. У такую ж самую лічбу ён ацэньвае і літвінскае войска. Што да татараў, то Р.Гагуа, у адрозненне ад большасці іншых даследчыкаў, прымае прыведзеную Длугашам колькасць у 300 вершнікаў[5].

Адзінае, што не выклікае сур'ёзных рознагалоссяў у даследчыкаў, дык гэта колькасць баявых падраздзяленняў – харугваў. Кожнае такое падраздзяленне мела свой сцяг (харугву), адсюль, уласна кажучы, і паходзіць іх назва. Калі верыць Длугашу, такіх падраздзяленняў у крыжакаў налічвалася 50 (яшчэ адну, пад камандаваннем Генрыха фон Плаўэна, магістр пакінуў для абароны межаў дзяржавы), у палякаў – 51 і ў літвінаў – 40. Пад час бою харугвы шыхтаваліся звужанымі наперадзе калонамі – кліннямі. Па баках і асабліва спераду кожнага кліна размяшчаліся найбольш вопытныя і баяздольныя рыцары, найлепш узброеныя і на мацнейшых конях. У польскім войску Длугаш называе рыцараў пярэдніх ліній паіменна. Іх задачай было праламыванне непрыяцельскага строю і змяшанне яго баявых парадкаў. Усярэдзіне звычайна змяшчаліся конныя стральцы, якія стралялі паверх галоў пярэдніх ліній.

У польскім войску храніст узгадвае наступныя харугвы: Кракаўская, т.зв. "Гоньчая",

[3] Бискуп М. Великая война Польши и Литвы с Тевтонским орденом (1409 – 1411 гг.) в свете новейших исследований // Вопросы истории, № 12, 1991. С. 33.

[4] Nadolski A. Grunwald. Problemy wybrane. Olsztyn, 1990. S. 113.

[5] Гагуа Р. Вялікая вайна Вялікага княства Літоўскага і каралеўства Польскага з Тэўтонскім Ордэнам у 1409 – 1411 г. //; Флоря Б.Н. Грюнвальдская битва // Вопросы истории, 1985, № 7. С. 108.

Надворная (мела сцяг з гербам “Пагоня”), Святога Юрыя (“належалі да той харугвы ўсе наёмныыя чэшскія і мараўскія рыцары”), Познаньская, Сандомірская, Калішская, Серадская, Люблінская, Ленчыцкая, Куяўская, Львоўская, Велюнская, да якой, па прычыне яе малалікасці, былі далучаны сілезскія наёмнікі, Пшэмышльская, Добжыньская, Хелмская, тры харугвы Падольскай зямлі, Галіцкая, тры Мазавецкія харугвы (дзве князя Земавіта і яшчэ адна – Януша), арцыбіскупа Гнезенскага, біскупа Познаньскага, кашталяна Кракаўскага, ваяводы Кракаўскага, ваяводы Познаньскага, ваяводы Сандомірскага, ваяводы Серадскага, кашталяна Шрэмскага, ваяводы Ленчыцкага, маршалка каралеўства Польскага, Кракаўскага падкаморыя, кашталяна Вісліцкага, старосты Велькапольскага, Дабяслава Алясніцкага, Спытка Яраслаўскага, Марціна Славіскага, Дабрагоста Шаматулскага, Крыстына з Казяглуў, Яна Менжыка з Дамбровы, Мікалая, падканцлера каралеўства Польскага, Мікалая Кміта з Вісьніча, братоў і рыцараў Грыфаў, Заклікі Кажаквіцкага, братоў і рыцараў Казлерогі, Яна Енчыковіца, падстолія Кракаўскага Гневаша (у яе ўваходзітлі не толькі палякі, але таксама чэхі, маравы і сілезцы) і, нарэшце, харугва князя літоўскага Жыгімонта Карыбута, якая таксама змагалася пад сцягом з “Пагоняй”.

Што да войска Вялікага княства Літоўскага, то яго Длугаш апісвае не так падрабязна: “Было, апроч таго, у войску літоўскім Аляксандра Вітаўта сорак харугваў, куды ўваходзілі рыцары літоўскія, рускія, жамойцкія і татары. Менш шматлікія, аднак, былі іх шэрагі і не так добра ўзброеныя; коні літоўскія таксама не маглі параўнацца з польскімі. Знакі на тых харугвах былі амаль што ўсе аднолькавыя; на кожным быў змешчаны муж збройны на кані белым, часам чорным, альбо мяшанай масці, з мячом у паднятай руцэ, у чырвоным полі. Дзесяць толькі харугваў было адметнымі і адрознівалася ад іншых трыццаці знакамі, якімі Вітаўт, асабліва багаты коньмі, прывык свае табуны кляйміць. Тыя знакі немагчыма апісаць словамі, а выглядалі яны так: | П |. Некаторыя з тых харугваў называліся па імёнах земель літоўскіх: Троцкая, Віленская, Гродзенская, Ковенская, Лідская, Медніцкая, Смаленская, Полацкая, Віцебская, Кіеўская, Пінская, Навагрудская, Брэсцкая, Ваўкавыская, Драгічынская, Мельніцкая, Крамянецкая, Старадубская і т.п. Некаторыя ж называліся імёнамі князёў літоўскіх, якім князь Вітаўт даручыў імі кіраваць, напрыклад: Жыгімонта Карыбута, Лангвінавіча Сымона, Юрыя і т.п.”[6]

Няпоўная інфармацыя Длугаша пра войска Вітаўта ставіць перад даследчыкамі шэраг пытанняў. Па-першае, храніст пералічвае толькі 21 харугву; каму належалі астатнія, застаецца незразумелым. Гэта параджае дыскусіі наконт суадносін у этнічным складзе войска. А.Барбашоў лічыў, што балімі (літоўскімі і жамойцкімі) было толькі 4 харугвы Вітаўта, тады як астатнія належалі “русінам” (беларусам і украінцам). Сюды ж ён дадаваў 7 харугваў з заходнеукраінскіх зямель, пералічанных Длугашам у польскім войску (Львоўская, Хелмская, тры харугвы Падольскай зямлі, Галіцкая, Пшэмышльская) і, такім чынам, “русінскі” харугваў у яго атрымоўвалася практычна столькі ж, колькі польскіх.

Асобныя беларускія гісторыкі таксама схіляюцца да падобныых судносінаў балтаў і славян у войску ВКЛ, аднак у большасці даследчыкаў яны не знайшлі падтрымкі. Некаторыя аўтары выказвалі дыяметральна супрацьлеглыя меркаванні і выказваліся за колькасную перавагу балтаў. Польскі даследчык Т.Васілеўскі нават лічыў, што 2/3 войска Вітаўта складалі балты, а 1/3 – славяне. Ббольшасць жа сучасных гісторыкаў схіляюцца да таго, што 2/3 войска былі якраз “русінскімі” і толькі 1/3 – літоўскімі і Жамойцкімі.

Пытанне выклікае і пералічэнне Длугашам сярод польскіх харугваў харугвы літоўскага князя Жыгімонта Карыбута, якая мела на сцягу герб ВКЛ. А.Надольскі меркаваў, што гэта магло быць звязана з камплектаваннем харугвы за кошт польскіх наёмнікаў. Г.Сагановічу гэта тлумачэнне падаецца непераканаўчым і ён лічыць, што залічэнне харугвы Жыгімонта да польскіх магло быць звязана з тым, што сюды ўваходзілі рыцары валынскіх зямель, спрэчных паміж Літвой і Польшчай[7]. Гэта тлумачэнне падаецца больш верагодным, аднак хацелася б таксама звярнуць увагу на тое, што харугва Жыгімонта Карыбута фігуруе

[6] Jana Dlugosza Kanonika Krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T.IV. Ks. XI, XII. S. 35-39.
[7] Сагановіч Г. Русіны пад Грунвальдам (Дуброўнай) у 1410 г.; Wasilewski T. Uwagi o liczebności, składzie etnicznym i uzbrojeniu litewskiego pospolitego ruszenia konnego w latach 1410-1529 // Studia Grunwaldzkie. T. 1. Olsztyn, 1991. S. 55; Nadolski A. Grunwald. Problemy wybrane. S. 64.

і сярод літоўскіх аддзелаў, а менавіта тых, пра якія Длугаш піша, што Вітаўт даручыў кіраваць імі сваім князям. Такім чынам са слоў храніста дакладна вынікае, што згаданая харугва падпарадкоўвалася вялікаму князю літоўскаму. У сувязі з гэтым войска Ягайлы павінна было складацца не з 51, а з 50 харугваў, а харугва Жыгімонта Карыбута магла быць яму толькі часова перададзена для вырашэння нейкіх тактычных задач.

Аб колькасным складзе харугваў таксама няма адзінага меркавання. С.Кучыньскі прапанаваў выкладкі па колькаснаму складу жамойцкіх харугваў, з якіх вынікае, што яны маглі налічваць не менш, чым па 1 – 2 тысячы чалавек. Аднак, у такім разе, як слушна адзначае Г.Сагановіч, войска Вітаўта мусіла дасягаць неверагодных памераў. Больш прымальным падаецца лічба прыблізна ў 300 ваяроў. Пра гэта сведчыць данясенне комтура Рагнеты комтуру Брандэнбурга і маршалку Ордэна напярэдадні грунвальдскай выправы (14 чэрвеня 1410 г.), у якім сцвярджаецца, што Вітаўт змабілізаваў на 5 тыдняў у Жамойці з кожнага краю па 300 чалавек, якія ўжо рушылі ў паход. Не выключана, што падобная колькасць ваяроў з'яўлялася для харугваў ліцвінскага войска нормай. Нагадаем, што тэрытарыяльны (з кожнага краю) прынцып быў у ВКЛ адным з асноўных пры фарміраванні харугваў[8].

Ускосна сведчыць пра 300 чалавек як пра норму ў колькасным складзе харугваў ВКЛ адлюстраваны ў Пскоўскім першым летапісе эпізод, праўда позні, датаваны 1460 г. У ім апісваецца ад'езд са Пскова літоўскага князя Аляксандра Чартарыйскага і «двора его кованой рати боевых людей 300 человек, оприч кошевых».

Маецца яшчэ адно ўскоснае сведчанне падобнага складу харугваў, якое тычыцца непасрэдна Грудвальдскай бітвы. Па словах Длугаша, напярэдадні бітвы 300 чэшскіх наёмнікаў зрабілі спробу пакінуць лагер Ягайлы, але, прыстыжаныя падканцлерам польскага караля, вярнуліся назад. Трохі пазней, пры асісанні самой бітвы, храніст піша пра яшчэ адну спробу чэхаў сысці з поля бітвы, прычым гэта была харугва Святога Юрыя. Зноў, як і напэрэдадні, чэшскіх рыцараў прымусіў вярнуцца назад той жа падканцлер Мікалай Тромба. Хутчэй за ўсё, гаворка ідзе пра адзін і той жа атрад, надта ўжо падобнымі падаюцца яго "пацыфістычныя" памкненні як напярэдадні бытвы, так і ў яе ходзе[9]. Такім чынам, 300 чалавек падаюцца найбольш верагоднымі пры ацэнцы колькасці камбатантаў у харугвах на Грунвальдскім полі, тым больш што пры памнажэнні яе на колькасць харугваў, прымаўшых удзел у бітве, мы атрымоўваем лічбу ваяроў у войску ВКЛ, прынятую большасцю даследчыкаў.

Кожная харугва пад час бітвы шыхтавалася клінам – звужанай наперадзе калонай. Існуе меркаванне, што клінні фарміраваліся адвольна і часам у іх маглі аб'ядноўвацца ажно некалькі харугваў. Гэта супярэчыць як падрабязнаму апісанню бітвы Длугашам, так і некаторым тэарэтычным распрацоўкам XV ст. Нямецкая інструкцыя 1477 г. апісвала пабудову харугвы так: у першым шэрагу мусіла стаць 3 рыцары, у другім – 5, у трэцім – 7, у чацвёртым – 9, у пятым – 11, а далей ішла глыбокая калона з аднолькавых шэрагаў па 11 вершнікаў у кожным[10]. На тое, што пад Грунвальдам Ягайла імкнуўся да стандартызацыі кліноў, сведчыць той факт, што некаторыя землі, прадстаўленыя дастатковай колькасцю рыцараў, выставілі ажно некалькі харугваў, а некаторыя, у каторых не хапала людзей да фарміравання паўнавартага "стандартнага" кліна, дапаўняліся наёмнікамі. Праўда, у важнейшых польскіх харугвах колькасць рыцараў першай лініі была большай, аднак гэта было звязана, хутчэй за ўсё, з надзвычайным, "агульнадзяржаўным" статусам гэтых аддзелаў. Так у "вялікай Кракаўскай харугве" налічвалася ажно 9 рыцараў першай лініі, аднак Длугаш спецыяльна падкрэсліў, што "гэтая харугва пераважала ўсе астатнія сілай і колькасцю".

Як ужо адзначалася, сваю назву харугвы атрымалі ад сцягоў, пад якімі яны выходзілі на бітву. З'явіўшыся як апазнавальны знак, заклікана адзначыць месцазнаходжанне таго ці іншага падраздзялення, служыць месцам збору распарошаных у гушчы бою ваяроў, харугва ў далейшым стала сімвалам дзяржавы, той ці іншай мясцовасці, горада,

[8] Сагановіч Г. Русіны пад Грунвальдам (Дуброўнай) у 1410 г.; Codex epistolaris Vitoldi. S. 209.
[9] ПСРЛ. Т.IV. Санкт-Петербург, 1848. С.219; Jana Dlugosza Kanonika Krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T.IV. Ks. XI, XII. S.43, 50-51.
[10] Nadolski A. Znaki bojowe // Uzbrojennie w Polsce średniowiecznej 1350 – 1450. Łódź, 1990. S. 196.

ўладальніка ці нават рэлігійнай прыналежнасці. Разгорнутыя харугвы пад час вайны азначалі пачатак ваенных дзеянняў. У той жа час харужы, які згорваў харугву ці пакідаў з ёй поле бітвы, мог справакаваць уцёкі ўсяго войска. Падзенне харугвы альбо захоп яе непрыяцелем пад час бою мог вырашыць яго лёс, а перадача ў рукі непрыяцеля была раўназначнай капітуляцыі ўсяго падраздзялення, якое пад гэтай харугвай выступала. Таму харугвы лічыліся надзвычай важным трафеем, а захоп непрыяцельскай харугвы – найвышэйшым вайсковым падзвігам.

Харужы, які нёс харугву, суправаджаўся дзвюма рыцарамі, а пад час бітвы змяшчаўся ў найбольш бяспечнае месца баявога кліна – адразу за яго звужанай часткай, якую ўтваралі адборнейшыя рыцары падраздзялення. Менавіта такіх рыцараў, "перадхаругаўных", паіменна называе Длугаш, апісваючы значнейшыя харугвы польскага войска.

У сярэднявечнай Еўропе склалася пэўная іерархія баявых знакаў, якія ўжываліся ў залежнасці ад статуса свайго ўладальніка. Феадальныя сеньоры невялікага ранга карысталіся сцяжкамі ў выглядзе падоўжанага трохкутніка, якія называліся "pennon". Больш тытулаваныя ўладары – бароны, графы, маркізы выкарыстоўвалі сцяг, званы "banderium". Ён меў форму чатырохкутніка і мог у верхняй частцы пераходзіць у падоўжаны трохкутны хвост-вымпел. Сеньёры найвышэйшага рангу больш ахвотна ўжывалі старажытную форму харугваў, вядомых як "gonfanon". Аснову падобных сцягоў складала простакутнае палотнішча, якое завяршалася вялікімі зубцамі, кольскасць якіх магла вагацца ад двух да пяці. Калі выява на "banderii" размяшчалася вертыкальна, то "gonfanon" мацаваўся на дрэўка не бакавой, а верхняй часткай і таму геральдычная выява на ім выглядала як бы павернутай на 90º.

"Гонфанонам" на пачатку XV ст. у крыжацім войску карыстаўся вялікі магістр і вынэйшыя чыны Ордэна, а таксама некаторыя прускія біскупы. Галоўная харугва польскага войска пад Грунвальдам фігуруе ў Длугаша як "banderium magnum". Аднак польскія гісторыкі, апелюючы да пазнейшых крыніц, а менавіта адной з мініяцюр Пантыфіката Эразма Цёлка (каля 1510 г.), схіляюцца да таго, што галоўны сцяг Польскага каралеўства выступаў пад Грунвальдам у постаці "ганфанона". Што да галоўнай харугвы ВКЛ, што тыя ж польскія даследчыкі схільныя трактаваць яе як "бандэрыю". "Бандэрыямі" былі, па ўсёй верагоднасці, і сцягі асобных харугваў ВКЛ. Прынамсі захаваныя павятовыя харугвы другой паловы XVI ст. належаць менавіта да гэтага тыпа.

Як вынікае з польскіх крыніц канца XIV ст., харугвы выраблялiся з тафты. З такой самай тканіны метадам аплікацыі, напэўна двухбаковай, выраблялiся і геральдычныя фігуры, прычым залаты колер імітаваўся жоўтай тканінай, а сярэбраны – белай. Крыжацкія крыніцы сведчаць, што выявы на харугвах маглі таксма малявацца, у тым ліку з выкарыстаннем залатой фарбы. Памеры харугваў маглі быць розныя, аднак найбольшыя з захопленых пад Грунвальдам крыжацкіх харугваў, даследаваных Длугашам, не перавышалі 3,25х3 локця[11].

Падрабязна апісваючы знакі (гербы) на польскіх і крыжацкіх харугвах, Длугаш у даволі сціслай форме інфармуе аб выявах на харугвах Вялікага княства Літоўскага. Калі верыць польскаму храністу, то на свягах Вітаўта прысутнічала толькі два гербы – узброены вершнік на кані з паднятым мячом ("Пагоня") і т.зв. "Калюмны" (часам іх называюць "Слупы Гедыміна"). Адзінае, што, па словах Длугаша, адрознівала гэтыя знакі – дык гэта толькі масць коней. Такім чынам, аднатыпласць харугваў павінна была супярэчыць іх галоўнаму прызначэнню – адзначаць месцазнаходжанне кожнага канкрэтнага падраздзялення, якое не павінна блытацца з іншымі.

Разам з тым, звесткі Длугаша пра адлюстраванне на харугвах Вялікага княства Літоўскага ўсяго двух гербавых выяў ужо даўно выклікаюць сумненні даследчыкаў. Нават апісанні польскіх і крыжацкіх сцягоў, не ўсе з яіх былі захоплены палякамі і былі даследаваны Длугашам асабіста, патрабуюць асцярожнага стаўлення. У геральдыцы ж ВКЛ часоў Вітаўта Длугаш, на думку гісторыкаў, наогул быў абазнаны слаба. Таму, насуперак ягоным сцвярдзэнням, толькі частка літоўкіх і беларускіх харугваў мела ў якасці гербавага знака "Пагоню". Былі гэта харугвы Сымона Лугвена і Жыгімонта

[11] Nadolski A. Znaki bojowe. S. 195-203.

Карыбутавіча, якія ўжывалі гэты герб на сваіх пячатках. Прысутнічала выява коннага рыцара і на пячатках іншых літоўскіх князёў. Аднак іх аналіз паказвае, што ў канцы XIV – пачатку XV ст. варыянты “Пагоні” адрозніваліся не толькі масцю коней, але і іншымі, вельмі істотнымі прыкметамі: на адных вершнік мог быць скіраваны ўлева, на другіх – управа, адны былі ўзброены мячом, другія кап’ём; на шчыце мог змяшчацца падвоены крыж, калюмны, іншыя геральдычныя выявы, ён мог быць пусты, без выяў, альбо нават увогуле адсутнічаць.

Некаторыя князі ўжо ў канцы XIV ст. мелі ўласныя гербы, якія не мелі нічога агульнагага з “Пагоняй”. Так, Гальшанскія ўжывалі герб “Гіпацэнтаўр” з фігурай напалову чалавека, напалову каня; Жаслаўскія ўжывалі фігуру ўздыбленага льва, некаторыя іншыя князі – знак, падобны ці то на “Слупы Гедыміна”, ці то на “Трызубец” Рурыкавічаў[12]. Існавалі на момант Грунвальдскай бітвы і гербы асобных зямель. Польскі даследчык Е.Лойка на падставе гербоўніка, датуемага 1434—1444 гг., а таксама шляхам яго супастаўлення з пячаткамі Вітаўта, ужыванымі з 1401 г., зрабіў спробу рэканструкцыі гербавых выяў некаторых зямель ВКЛ, харугвы якіх змагаліся пад Грунвальдам:

1. Навагрудскае княства: “на чырвоным полі на сярэбраным уздыбленым кані ў блакітнай збруі з залатымі гузамі сярэбраны рыцар з паднятым мечам і са шчытом, на якім у блакітным полі падвоены залаты крыж”.

2. Валынская зямля: “у чырвоным полі сярэбраны крыж”.

3. Троцкая зямля: “у чырворным полі ідзе сярэбраны рыцар, які ў правай руцэ трымае дзіду, а левай абапітраецца на шчыт, на якім у чырвоным полі т.зв. літоўскія калюмны залатыя”.

4. Смаленская зямля: “у чырвоным полі сярэбраны мядзведзь”.

Харугвы з “калюмнамі” Е.Лойка прапануе лічыць надворнымі харугвамі вялікага князя, бо гэты знак быў асабістым радавым знакам Кейстутавічаў і змяшчаўся на шчыце “Пагоні” на “конных” пячатках як Вітаўта, так і яго брата Жыгімонта. У той жа час Ягелоны карысталіся падвойным “патрыяршым” крыжом, вядормым таксама як “Бойча”.

Не да канца ясна, якая выява магла ўпрыхожваць баявы штандар харугвы Св.Юрыя, якую ўзначальваў асабіста Вітаўт. Гэта мог быць характэрны для заходнееўапейскай традыцыі т.зв. “крыж Святога Юрыя” – чырвоны на белым фоне, альбо, як у крыжацкім войску, белы на чырвоным фоне. Разам з тым, не выключана, што на харугве магла змяшчацца конная фігура святога, які змагаецца з цмокам, альбо нават усё тая ж “Пагоня”, якая таксама з’яўлялася варыяянтам выявы Св.Юрыя[13].

У гістарычнай літаратуры здаўна бытаваў тэзіс, не да канца пераадолены і зараз, аб вышэйшым узроўні вайсковай арганізацыі і ўзбраення крыжакаў, што нібыта кампенсавалася толькі большай колькасцю саюзных воінаў і іх вышэйшым маральным духам. Аднак даследаванні, праведеныя польскімі навукоўцамі, сведчаць, што арганізацыя і ўзбраенне польскага войска не былі ні горшыымі за крыжацкія, ні адметнымі ад іх. Галоўнай сілай польскіх узброеных сілаў з’яўлялася кавалерыя, арганізаваная ў рамках паспалітага рушэння (“expeditio generales”). У яго склад уваходзілі як феадалы, так і прадстаўнікі сельскай адміністрацыі – солтысы, войты гарадоў і мяшчане, якія валодалі земскімі маёнткамі. Ваеннаабавязаныя асобы мусілі з’яўляцца на вайну конна, збройна і з пэўнай колькасцю воінаў, у залежнасці ад велічыні ўладанняў канкрэтнага феадала. Кавалерыя складалася з дзвюх асноўных катэгорый – капійнікаў і стральцоў, прапорцыя якіх звычайна выглядала як 1:3. Найдрабнейшай арганізацыйна-тактычнай адзінкай польскага войска ў разглядаемы час з’яўлялася, як і ў іншых сярэднявечных еўрапейскіх рыцарскіх арміях, т.зв. “кап’ё”. Аснову “кап’я” складаў капійнік і некалькі стральцоў. Сустракаліся таксама “коп’і” з адных капійнікаў альбо нават з адных стральцоў. Аднак на практыцы склад асобных, “нестандартных” коп’яў не меў вялікага значэння, бо пад час бою “кап’ё” не трымалася разам, а размяшчалася, у залежнасці ад характара ўзбраення, ці наперадзе кліна (капійнікі), ці ў яго цэнтральнай частцы (стральцы). Частка стральцоў

[12] Gumowski M. Pieczęcie książąt litewskich // Ateneum Wileńskie. Wilno, 1930. R.VII, zeszyt 3-4. S. 684-725.

[13] J.Łojko. Chorągwie Polskie I Litewskie w bitwie pod Grunwaldem // Lituano-Slavica Poznaniensia/ Studia Historica. III. 1989. S.141-153.

магла выдзяляцца ў спрецыяльныя атрады, задачай якіх былі разведвальныя функцыі, пераследванне разбітага ворага і г.д.

Асноўнай зброяй капійніка з'яўлялася кап'ё, якое дапаўнялася мячом, а часам і іншымі відамі халоднай зброі – кінжалам, пернaчом, булавой ці баявой сякеркай – чаканом. Галоўнай функцыяй капійнікаў было, як ужо адзначалася, праламыванне непрыяцельскіх шыхтоў. Для гэтага патрабаваўся рослы і моцны конь, які, да таго ж, мог вытрымаць вершніка ў даспехах.

Даспехі ў разглядаемы час не заўсёды выступалі ў сваёй найбольш развітай і дасканалай форме – т.зв. пласцінавых, ці "цэльнакаваных" даспехаў. Большасць капійнікаў выступала ў часы Грунвальда ў традыцыйных кальчугах, дапоўненых даспехамі, набранымі з невялікіх металічных пласцінак, цэльнымі нагруднікамі, асобнымі элементамі аховы канечнасцяў. Галовы рыцараў баранілі адкрытыя ці закрытыя шлемы, найчасцей у выглядзе пашыраных у тагачаснай Еўропе "бацынетаў", альбо "капалінаў" – нагалоўяў у выглядзе металічнага капелюша. Значную ролю ў баявым засцерагальным камплекце капійнікаў працягвалі адыгрываць шчыты.

Галоўным наступальным узбраеннем стральцоў польскага войска з'яўлялася зброя далёкага бою, найчасцей арбалет. Лук ужываўся выключна рэдка. Асноўнай функцыяй стральцоў быў абстрэл непрыяцелы з глыбіні калоны, паверх галоў пярэдніх ліній; ім не патрабаваліся моцныя, вынослівыя коні, таму яны найчасцей абмяжоўваліся больш лёгкімі экземплярамі, таннейшымі за капійнічыя. У выпадку патрэбы стральцы маглі ўвязацца ў рукапашны бой, таму яны найчасцей валодалі таксама і халоднай зброяй блізкага бою. Што тычыцца засцерагальнага ўзбраення стральцоў, то ў цэлым яно мусіла быць лягчэйшым за тое, якім валодалі капійнікі. Аднак на практыцы баявы касцюм добра ўзброеных стральцоў (кальчуга, дапоўненая асобнымі пласцінавымі элементамі, адкрыты шлем) мог мала чым адрозніваўцца ад комплекса засцерагальных сродкаў беднейшых капійнікаў.

Акрамя паспалітага рушэння, у Польшчы былі вядомыя і іншыя формы ваеннай мабілізацыі. Пэўнае падабенства з паспалітым рушэннем мела "выправа з уладанняў". У гэтым выпадку феадал не павінен быў ехаць на вайну асабіста, абмяжоўваючыся высылкай на вайну пэўнай колькасці ваяроў. Найбольш архаічнай формай мабілізацыі была "абарона зямлі" (defensio terrae). Менавіта ў рамках гэтай формы мабілізацыі, якая прадугледжвала ўдзел у вайне ўсіх прыдатных насіць зброю, адбывалася забеспячэнне войска не толькі конніцай, але і сялянскай пяхотай. Але сучасныя польскія даследчыкі лічаць, што ў баявых мэтах пяхота ў гэты час выкарыстоўвалася слаба, абмяжоўваючыся дапаможнымі, абслугоўваючымі функцыямі. Узбраенне сялянскай пяхоты складалася з коп'яў, сякер, раз-пораз клінковай зброі, шчытоў. Даспехі ў выглядзе кальчуг ужываліся рэдка.

Акрамя сялян, плебейскую частку вайсковых сілаў складала гарадская міліцыя, галоўнай функцыяй якой была абарона гарадскіх умацаванняў. Мяшчане выкарыстоўвалі шырэйшы асартымент узбраення, у тым ліку засцерагальнага. Даволі шырока свыкарыстоўвалі мяшчане агняпальную зброю, у тым ліку і ручную[14].

Вайсковая арганізацыя Тэўтонскага ордэна была цесна звязана з адміністратыўнай структурай крыжацкай дзяржавы. Яе аснову складалі камтурыі, кіруемыя комтурамі. У кожнай камтурыі меліся замкі, што служылі рэзідэнцыямі падначаленых комтурам ордэнскіх канвентаў. У ідэале канвент павінен быў складацца з дванаццаці братоў-рыцараў і шасці капеланаў, а таксама непаўнапраўных членаў – "поўбратоў", аднак на практыцы існавалі значныя адступленні ад нормы. У ваенны час браты рыцары выступалі як кіруючы склад крыжацкага войска, тады як яго шэраговай асновай было земскае рыцарства, валодаўшае землямі на ленным праве. Акрамя рыцарства, вайсковую службу ў камтурыях неслі прадстаўнікі сельскага самакіравання (солтысы), а таксама багатыя прадстаўнікі падпарадкаванага крыжакамі балцкага (прускага) насельніцтва.

[14] Nadolski A. Ogolna charakterystyka // Polska technika wojskowa do 1500 roku. Z dziejow nauki i techniki. T.1. Warszawa, 1994. S.192-193; Nadolski A. Podsumowanie // Uzbrojenie w Polsce sredniowiecznej 1350 – 1450. Lodz, 1990. S.425-428; Nadolski A. Grunwald. Problemy wybrane. Olsztyn, 1990. S. 59-60.

Акрамя камтурый, існавалі пазбаўленыя канвентаў тэрытарыяльныя адзінкі ў выглядзе вайтоўстваў, альбо пракураторый, якія кіраваліся намеснікамі з ліку ордэнскіх братоў. Некаторыя з іх выстаўлялі асобныя харугвы. Акрамя таго, харугвы выстаўлялі біскупы – Хелмінскі, Памезанскі, Вармінскі і Самбійскі, а таксама значнейшыя гарады – Торунь, Гданьск, Эльбланг, Кёнігсберг. Гарадскія атрады складаліся не з апалчэння міліцыйнага тыпу, а з наёмнага рыцарства і дабраахвотнікаў мяшчан. Значнае месца ў вайсковай сістэме Тэўтонскага ордэна займалі "госці". Пік моды на "выправы ў Прусію" прыпаў у Еўропе на 1320—1395 гг., пасля чаго пайшоў на спад. На гэта паўплывала не толькі прапагандысцкая дзейнасць Ягайлы і Вітаўта, але таксама і больш актуальныя войны, у тым ліку неабходнасць супрацьстаяння турэцкай пагрозе. Асабліва змяншалася лічба ахвотнікаў з Францыі, Англіі, Бургундыі. Тым не менш, у Грунвальдскай бітве, акрамя выхадцаў з розных нямецкіх краёў, чэхаў, мараваў і сілезцаў, на баку крыжакаў змагаліся прадстаўнікі і больш аддаленых зямель, у тым ліку каля трыццаці французскіх рыцараў. Па меры скарачэння колькасці "гасцей", узрастала значэнне наёмнікаў, што таксама надавала крыжацкаму войску інтэрнацыянальны характар.

Насуперак пашыранаму меркаванню, большасць "гасцей" і наёмнікаў Ордэна складалі зусім не немцы. Той жа Длугаш, апісваючы падлік палоненых у ходзе бітвы крыжакаў, адзначае, што сярод іх больш за ўсё было рыцараў чэшскіх і сілезскіх, што ўносіць пэўныя папраўкі ў даўні тэзіс пра Грунвальдскую бітву як пра рашаючае сутыкненне германскага свету са славянскім. Аднак і войска, набранае на ўласна прускай тэрыторыі, было этнічна неаднародным: немцы складалі ў ім ўсяго 40%, тады як яшчэ 30% прыпадала на балтаў (прусаў, часткова анямечаных), а яшчэ 30% – на польскіх падданых Ордэна.

Як і ў іншых еўрапейскіх арміях, аснову крыжацкага войска складала кавалерыя, падзеленая на "коп'і". У наёмнікаў "коп'і" лічыліся па тры чалавекі, незалежна ад суадносін капійнікаў і стральцоў; такім чынам яны выступалі толькі як падліковая адзінка, неабходная для правядзення аплаты. Калі ж гаварыць пра ўласна прускае войска, то тут "кап'ё" сапраўды выступала як рэальная арганізацыйна-тактычная адзінка. Аднак на аднаго капійніка тут магла прыпадаць розная колькасць стральцоў. У аддзелах Ордэна "коп'і" налічвалі па дзевяць чалавек: капійніка, у якасці якога выступаў брат-рыцар, суправаджала восем стральцоў. Земскае рыцарства магло выязджаць на вайну ў суправаджэнні аднаго-двух адпаведна ўзброеных слуг, а часам нават і без іх, толькі ўласнай персонай.

Важная роля ў ваеннай справе крыжакаў адыгрываў абоз. Аснову яго складалі вазы, акаваныя жалезам і забяспечаныя запасным і коламі. Кожны воз мог абслугоўваў дзесяць ваяроў. Акрамя зброі, намправіянту і фуражу, на вазах перавозіліся гарматы і гарматны рыштунак, а таксама намёты. Кожны намёт таксама быў разлічаны на дзесяць чалавек. Неад'емнай часткай абозу з'яўляліся кухары (па аднаму на 40 чалавек) і санітарная служба[15].

Што тычыцца войска Вялікага княства Л|ітоўскага, то яго структура і прынцыпы камплектацыі ў канцы XIV – пачатку XV стст. адлюстраваны ў пісьмовых крыніцах вельмі цмяна. Гэта дало падставу для даволі фантастычнай трактоўкі ўзброеных сілаў Вялікага Княства пад Грунвальдам. Калі польскім даследчыкам удалося ў нейкай меры "рэабілітаваць" каронінае войска, абвергнуць стары тэзіс пра адметны характар польскай вайсковай традыцыі, яе непадабенства да традыцыі заходнееўрапейскай, той жа крыжацкай, то ў дачыненні ВКЛ дагэтуль бытуюць старадаўнія ўяўленні, якія прадстаўляюць армію Вітаўта арміяй ўсходняга тыпу, на заходнееўрапейскую амаль не падобнай.

Між тым, нават скупыя звесткі канца XIV – пачатку XV ст. сведчаць пра моцнае палдабенства ў прынцыпах арганізацыі войскаў Вялікага княства Літоўскага і Кароны Польскай. У прывілеі, выдадзеным Ягайлам пасля заключэння Крэўскай уніі, у 1387 г., агаворваецца, што ў выпадку ўварвання непрыяцеля ў землі ВКЛ яго насельніцтва прыцягваецца да спецыяльнай павіннасці па пераследаванню праціўніка, называемай "Пагоня", прытым не толькі рыцарства ("armigeri"), але ўсе мужчыны, здольныя насіць зброю, якой яны павінны былі забяспечвацца за свой кошт.[16] Славуты польскі даследчык

[15] Nadolski A. Grunwald 1410. Łódź, 1996. S. 41-48.
[16] Zbior praw litewskich od roku 1389 do roku 1529. Tudzez rozprawy sejmowe o tychze prawach od roku 1544 do roku 1563. Poznan, 1841. S. 2.

Г.Лаўмяньскі атаесамляе згаданую «Пагоню» з паспалітым рушэннем, добра знаным як асноўная форма вайсковай арганізацыі Вялікага Княства ў XVI ст.[17] Аднак тое, што ў ёй мусілі прымаць удзел не толькі «armigeri», але і ўсё мужчынскае насельніцтва, прыдатнае да зброі прымушае разглядаць яе не як спосаб камплектавання прафесійнага войска ў сярэднявечным разуменні гэтага слова, складзенага з прадстаўнікоў ваенна-служылага люду, а як форму арганізацыі ўсяго насельніцтва краю, закліканага да падтрымання чыста вайсковых фармаванняў на этапе, калі разгром ворага быў, у асноўным, завершаны, альбо, прынамсі, было спынена яго прасоўванне ўглыб тэрыторыі. У іншых выпадках, пры вядзенні баявых дзеянняў на непрыяцельскіх землях, а тым больш у выпадку мабілізацыі ў маштабах усёй дзяржавы, падобная форма арганізацыі вайсковых сілаў наўрад ці была магчымай. Такім чынам, «Пагоня» хутчэй набліжалася не да паспалітага рушэння, а да «абароны зямлі» (expeditio domestica, defensio terrae), добра вядомай, як ужо адзначалася, у суседняй і саюзнай Польшчы.

Са згаданага прывілея Ягайлы вынікае, што апалчэнцы, прымаўшыя ўдзел у «Пагоні», мусілі ўзбройвацца за свой кошт. Можна меркаваць, што тая частка гэтых апалчэнцаў, для якой ваенная служба з’яўлялася не асноўным заняткам, а хутчэй акцыяй надзвычайнай, выкарыстоўвала ўсе падручныя сродкі, прыдатныя ў той ці іншай ступені для ваенных мэтаў, у тым ліку не толькі зброю, але і адпаведныя прылады працы. Прынамсі ніякіх дакументаў, рэгламентаваўшых узбраенне непрафесійных удзельнікаў апалчэння, на сёнешні дзень не выяўлена. Можна таксама меркаваць, што большасць такіх імправізаваных ваяроў павінна было складаць пешую частку «Пагоні».

Пэўную глебу для разважанняў аб магчымасці прыцягнення насельніцтва, змабілізаванага ў рамках «Пагоні», да ўдзелу ў грунвальдскай выправе Вітаўта, прыносяць звесткі пра ўдзел у ёй не толькі кавалерыі, але і пяхоты. Так, комтур Рагнеты даносіў 27 лістапада 1409 г. маршалку Тэўтонскага ордэна, што вялікі князь загадаў кожнаму коннаму і пешаму ў рамках падрыхтоўкі да паходу мець свой правіянт; 18 снежня таго ж года комтур Астэродэ інфармаваў маршалка аб намерах Вітаўта і Ягайлы сабрацца ў Плоцку з конным і пешым войскам.[18] Разам з тым, Длугаш, падрабязна апісваючы шыхтаванне вялікакняжацкага войска, характарызуе яго як выключна коннае.[19] Адсюль вынікае, што пяхота, калі яна на самой справе была ў арміі Вітаўта пад Грунвальдам, не складала якой небудзь асобнай фармацыі, не знаходзілася ў баявых шыхтах, а значыць выконвала толькі дапаможныя функцыі, напрыклад па ахове абозу альбо па дабіванню і пераследванню ўжо разгромленага праціўніка, іначай кажучы такія, якія ўскладаліся на непрафесійных удзельнікаў «Пагоні». Паводле звестак таго ж Длугаша, спецыфічныя задачы выконвала пяхота трохі пазней, пад час выправы Вітаўта на Ноўгарад у 1428 г. Каб забяспечыць войску магчымасць перасоўвання па балоцістай мясцовасці, вялікі князь выкарыстоўваў пехацінцаў (храніст называе лічбу ў 10000 чалавек) для пабудовы грэблі ў Чорным Лесе.[20] Трэба, аднак, заўважыць, што ў абодвух выпадках узнікаюць вялікія сумненні ў магчымасці татальнай мабілізацыі ўсяго мужчынскага насельніцтва, у выніку якой краіна засталася б не толькі без абаронцаў на выпадак узнікнення пагрозы з іншага боку, але і папросту без рабочых рук. Таму з большай доляй верагоднасці можна дапусціць выкарыстанне абмежаванай мабілізацыі альбо прыцягнення ў войска неваеннаабавязанага люду па-за рамкамі «Пагоні» і з вузка акрэсленымі задачамі, якія прадугледжвалі чыста дапаможна-тэхнічныя функцыі.

Важнай функцыяй пешых ваяроў войска Вітаўта павінна было быць суправаджэнне, абслугоўванне і абарона абозу. Інфармацыю пра гэта прыносяць крыніцы значна пазнейшыя, датуемыя XVI ст., аднак падаецца, што сітуацыя ў параўнанні з пачаткам XV ст. магла мала змяніцца. Абоз ВКЛ, як і ў крыжацкай традыцыі, не толькі уяўляў сабой транспарт, на якім везліся неабходныя ў паходзе грузы, але пад час бітвы мог служыць даволі сур’ёзным палявым умацаваннем. Для гэтага вазы акоўваліся жалезам, а

[17] Lowmianski H. Studia nad poczatkami spoleczenstwa i panstwa litewskiego. T.II. Wilno, 1932. S. 225.
[18] Codex epistolaris Vitoldi Magni Ducis Lithuaniae. 1376 – 1430, ed. A.Prochaska // Monumenta medii aevi historica res gestas Poloniae illustrantia. T.VI, cz.1. Cracoviae, 1882. S. 204.
[19] Dlugosz J. Opera Omnia cura Alexandri Przedziecki edita. T. XIII. Cracoviae. S.19-20.
[20] Dlugosz J. Opera Omnia cura Alexandri Przedziecki edita. T. XIII. Cracoviae. S. 362-363.

пры нагодзе змацоўваліся ланцугамі, што прадухіляла прарыў непрыяцеля ўсярэдзіну ўтворанага імі круга. Патрыяршы, альбо Ніканаўскі летапіс, апісваючы бітву на Ворскле 1399 г., узгадвае частку войска Вітаўта "стоащу... в обозе, в кованых телегах на чепех железных, со многими пищалми и пушками и самострелы".

Як ужо адзначалася, аснову ўзброеных сілаў Вялікага княства Літоўскага, ці ўласна войска, складала кавалерыя. Нават калі дапусціць, што непрафесійныя ваяры маглі, раз-пораз выязджаць у «Пагоню» конна, то ўсё роўна давядзецца канстатаваць, што касцяк рэгулярнай конніцы дзяржавы фармаваўся за кошт асоб, для якіх вайсковая служба з'яўлялася прафесійным абавязкам. Калі пачалося саслоўнае афармленне гэтай катэгорыі ваяроў, складаць цяжка, аднак у прывілеі 1387 г. ужо фігуруюць рыцары-«armigeri», а значыць, мусілі яны быць прадстаўлены і на Грунвальдскім полі.

Умовы адбывання вйсковай павіннасці ваенна-служылым людам у другой палове XIV—пачатку XV ст., выглядаюць слаба акрэсленымі, бо агульнадзяржаўных актаў, якія б яе рэгламентавалі, не было. Хутчэй за ўсё, нормы рыцарскай службы ў кожным канкрэтным выпадку залежалі ад двухбаковага пагаднення паміж сеньёрам і вассалам, тады як адзінай нормы ўвогуле не існавала. У большасці зямельных наданняў XV ст. пытанне асабістага ўдзелу вассала ў вайсковых выправах сеньёра не закранаецца, альбо, што радзей, проста агаворваецца колькасць выстаўляемых ім ваяроў, хаця ў шэрагу выпадкаў можна здагадацца і аб службе ўласнай персонай.[21] На жаль, недахоп інфармацыі не дазваляе дакладна сказаць, ці існаваў у Вялікім княстве Літоўскім падзел на паспалітае рушэнне (expeditio generales), куды ўладальнік зямлі мусіў ехаць асабіста, і выправу з уладанняў, калі патрабавалася толькі выстаўленне адпаведнай колькасці ваяроў, як тое мела месца ў суседняй і саюзнай Польшчы. Уяўляецца праўдападобным, што больш распаўсюджанай была такая форма мабілізацыі, як паспалітае рушэнне, з патрабаваннем асабістай службы. Тым не менш, афармленне прынцыпаў капмлектавання паспалітага рушэння ў пешай палове XV ст., напэўна, толькі пачалося, у той час як больш распаўсюджанай такая даўняя і традыцыйная форма, як "Пагоня".

Характар узбраення, з якім неслася вайсковая служба, агаворваецца ў зямельных наданнях канца XIV – пачатку XV ст. выключна рэдка. У большасці выпадкаў сеньёры абмяжоўваліся простым патрабаваннем служыць, без удакладнення баявых сродкаў, якія павінен быў мець васал. Вельмі распаўсюджанай практыкай была апеляцыя да традыцыі, г.зн. да нормаў службы, якія існавалі раней альбо да нормаў, што прымяняліся ў дачыненні іншых землеўладальнікаў.[22] Разам з тым, шэраг узгадак аб падставовых прынцыпах рэгламентацыі ўзбраення ўжо ў другой палове XIV – пачатку XV ст. дазваляе заўважыць існаванне ў Вялікім княстве Літоўскім у гэты час двух асноўных катэгорый ваяроў, характэрных для заходніх рыцарскіх армій. Па словах Длугаша, Ягайла ў 1383 г. здабываў Драгічын Надбужскі «з трыццаццю капійнікамі і шасцідзесяццю арбалетчыкамі».[23] Як бачна, польскі храніст не толькі ўказвае на наяўнасць у атрадзе вялікага князя літоўскага капійнікаў і стральцоў, а менавіта арбалетчыкаў, але называе прапорцыю, якая лічылася на Захадзе найбольш аптымальнай – 1:2.[24]

Як ужо адзначалася, суадносіны капійнікаў і стральцоў у сярэднявечных еўрапейскіх арміях былі цесна звязаны з камплектацыяй драбнейшых арганізацыйных адзінак у выглядзе т.зв. «кап'я», якое складалася з аднаго цяжэй узброенага рыцара, забяспечанага дрэўкавай зброяй і спецыялізаванага выключна ў рукапашным баі, а таксама некалькіх лягчэйшых стральцоў. Верагодна такія адзінкі меў на ўвазе крыжацкі солтыс у Жамойці, калі пісаў у 1409 г. Сунігайлу, старасце Ковенскаму, што ў яго адсутнасць у Жамойці ліцвіны аб'ездзілі гэты край уздоўж і ўпоперак – адны ў тры, а другія ў чатыры кані.[25]

Як і ў польскай арміі, рэальны склад "коп'яў" у Вялікім княстве Літоўскім залежаў найперш ад фінансавых магчымасцяў землеўладальнікаў, прычым найменшая ўніфікацыя

[21] Акты Литовской Метрики, собранные Ф.Н.Леонтовичем. Т.1, вып.1. Варшава, 1896. С.91; РИБ. Т.20. Санкт-Петербург, 1903. К. 1286-1287; АЗР. Т.І. Санкт-Петербург, 1846. С. 111.

[22] Акты Литовской Метрики, собранные Ф.Н. Леонтовичем. С.18, 19, 21, 25, 27-30, 40, 43, 47-48; АЗР. Т. І. С.49, 104, 186.

[23] Dlugosii J. Annales sev cronicae incliti regni Poloniae. Liber decimus (X) 1370 – 1405. Warszawa, 1985. S. 133.

[24] Nadolski A. Ogolna charakterystyka. S.194; Nadolski A. Grunwald. S. 49, 61.

[25] Codex epistolaris Vitoldi. S. 165.

назіралася ў колькасці стральцоў. Сустракаліся коп'і, складзеныя з адных капійнікаў без стральцоў альбо нават толькі са стральцоў, прычым у апошнім выпадку стасаванне тэрміну «кап'ё» выглядае вельмі ўмоўным і выступае, фактычна, толькі як даніна традыцыі. На жаль, скупыя крыніцы да 1410 ст. не прыносяць дастатковай інфармацыі па гэтым пытанні, але ўжо пачынаючы з другога дзесяцігоддзя XV ст. сустракаюцца зямельныя наданні з даволі дакладным указанне нормаў службы. Так, у 1424 г. Свідрыгайла, на той час князь Чарнігаўскі, пажалаваў нейкаму Максіму Драгасінавічу сяло Косава і іншыя ўладанні ў Снятынскай воласці. Узамен згаданы Максім абавязваўся «с того села служити к нашей потребизне копьем а двемя стрелци», г.зн. камплектным кап'ём. У 1438 г. Геранім Стрэчэнавіч атрымаў ад Свідрыгайлы вёскі Белікоўцы і Слабодка ў Латычоўскім павеце, за што павінен быў служыць «с того именья копьем и где будет нам потребно». Ажно «двема копьи» мусіў служыць усё таму ж самаму Свідрыгайле Пётр Мышковіч, які ў тым жа годзе адрымаў ва ўладанне вёскі Баршчоўку, Барок і Кандзітава ў Крамянецкім павеце. У 1445 г. Свідрыгайла надаў шляхціцу Фёдару Жуку і ягонаму брату Рычагаў, «а с того нам имают служити и нашим наместником двума стрелцема на заволаную войну, яко инии земяне служат. У 1425 г. нейкі Пётр з Гумова атрымаў ад Вітаўта вайтоўства Тыкоцінскае. За гэта вялікі князь патрабаваў ад згаданага Пятра «і яго нашчадкаў ва ўсіх паспалітых рушэннях (expeditiones generales) з адным арбалетчыкам».[26]

Падобна як і ў Польшчы, і на землях Тэўтонскага ордэна, "коп'і" у Вялікім княстве Літоўскім у часы Вмтаўта арганізоўваліся ў буйнейшыя атрады – харугвы, якія выступалі ў якасці асноўных арганізацыйна-тактычных адзінак. Харугвы арганізоўваліся паводле тэрытарыяльнага прызнака альбо выстаўляліся буйнейшымі землеўладальнікамі. Колькасны склад харугваў залежаў найперш, як можна меркаваць, ад мабілізацыйных магчымасцяў кожнага рэгіёна ці княскай вотчыны, хаця можна таксама дапусціць існаванне пэўнай стандартызацыі ў камплектаванні гэтых адзінак, пра што гаварылася вышэй.

Як і тыповых рыцарскіх арміях Еўропы, звыклай формай баявога шыхтавання харугваў літвінскага войска з'яўлялася звужаная наперадзе калона – клін. Длугаш дае вельмі трапнае апісанне шыхтавання войска Вітаўта, якое правёў вялікі князь незадоўга да Грунвальдскай бітвы з мэтай уразіць паслоў Жыгімонта Люксембургскага. Храніст піша, што Вітаўт падзяліў сваё войска на кліны ("cuneos") і паставіў усярэдзіну кожнага кліна слаба ўзброеных рыцараў на горшых конях, якіх атачалі іншыя – на мацнейшых конях і выдатна ўзброеныя. Па словах храніста, такія кліны забяспечвалі шчыльнасць шыхтавання, але размяшчаліся на значнай адлегласці адзіна ад аднаго[27].

Інфармацыя Длугаша аб размешчаных усярэдзіне ліцвінскіх кліноў недастаткова ўзброеных ваярах на горшых конях і атачаўшых іх рыцарах, забяспечаных добрымі коньмі і выдатным узбраеннем, а таксама звесткі аб існаванні ў Вялікім княстве Літоўскім капійнікаў і стральцоў недвусэнсоўна сведчаць пра бытаванне тут цяжкой і лёгкай кавалерыі. Цяжкія і лёгкія вершнікі адрозніваліся не толькі наступальнай зброяй, але і комплексам ахоўных сродкаў, а таксама якасцю коней. Эліту войска, як і на Захадзе, мусілі складаць цяжкаўзброеныя капійнікі на вынослівых конях і ў найбольш надзейным засцерагальным узбраенні. Разам з тым, як і ў Польшчы, у Вялікім Княстве паміж гэтай катэгорыяй ваяроў і менш элітнымі стральцамі не існавала на пачатку XV ст. выразнай мяжы ў плане выкарыстоўваемага ахоўнага ўзбраення. Як ужо адзначалася, найлепш экіпіраваныя стральцы маглі мець не менш надзейнае засцерагальнае ўзбраенне, чым капійнікі з абмежаваным дастаткам. Аснову баявога касцюма і першых, і другіх складалі шлем і кальчуга, якія толькі часткова маглі дапаўняцца, прычым зусім рне абавязкова, пласцінавымі элементамі, у тым ліку дэталямі пакрыццяў рук і ног.

Важную асаблівасць войска Вялікага княства Літоўскага складала яго слабая тэхнічная забяспечанасць, што адзначалі практычна ўсе сучаснікі, асабліва заходнія аўтары. А.Надольскі, імкнучыся рэабілітаваць Вялікае Княства і абвергнуць сталае

[26] Archiwum ksiazat Lubartowiczow Sanguszkow w Slawucie. T. 1. Lwow, 1887. S.28, 35; АЗР. Т. I. С.49, 59; Vitoldiana. Codex privilegiorum Vitoldi magni ducis Lithuaniae 1386 – 1430. Zebral i wydal Jerzy Ochmanski. Warszawa – Poznan, 1986. S. 156.
[27] Dlugosz J. Opera Omnia cura Alexandri Przedziecki edita. T.XIII. S. 19-20.

ўяўленне аб прымітыўнасці бытаваўшага тут узбраення, прапанаваў тэзіс аб яго «рускім», усходнееўрапейскім характары, за заходнееўрапейскі нічым не горшым, але толькі іншым, прыстасаваным да адметных геастратэгічных умоў.[28]

З гэтым меркаваннем славутага даследчыка, якое апошнім часам робіцца даволі распаўсюджаным у польскай гістарыяграфіі, можна пагадзіцца толькі з вельмі сур'ёзнымі агаворкамі. Перш за ўсё, падаецца, што настойлівыя сведчанні крыніц аб неастатковай узброенасці літоўцаў, проынамсі да пачатку XV ст., трэба ўспрымаць літаральна. Хроніка Літоўская і Жамойцкая дае наступнае апісанне войска ВКЛ: "без зброи и панцыров (бо еще они того не знали), тылко зубровые, лосие, медвеждии, вовчие невыправные скуры носили, а оружие – лук простый з дубины або лещины загненый, супороток (прашча – Ю.Б.), каменя торба на плечах певная для киданя з супоротка, рогатина, кий засмолованый з конца, шабля ледво у гетмана была, мунштук з лык на коня, а на нем самом на войне место лямпарта рогожа на плечах, лыка и постронки за поясом для вязаня неволника"[29]. Праўда, гэтае апісанне тычыцца XIII ст., аднак, без сумнення, блізкая сітуацыя мела месца яшчэ да пачатку XV ст .

Самае месца ўзгадаць скептычнае стаўленне Юльрыха фон Юнгінгена да інфармацыі аб тым, што Вітаўт прывёў на злучэнне з Ягайлам войска не толькі вялікае, але і моцна ўзброенае. Для таго, каб яшчэ раз пераканаць крыжацкіх шпіёнаў у магутнасці свайго войска, Вітаўту давялося наладзіць для "гасцей" спецыяльны парад. Калі вялікі магістр заяўляў, што ў "войску Вітаўта можна больш знайсці людзей з лыжкамі, чым са зброяй", то асноўным аргументам для яго скепсісу паслужылі частыя сутыкненні з літвінскім войскам, пад час якіх крыжакі мелі выдатную магчымасць ацаніць узровень матэрыяльна-тэхнічнай забяспечанасці літоўскіх воінаў. Іншая справа, што магістр не ведаў, якія высілкі былі зроблены Вітаўтам і Ягайлам напярэдадні Вялікай вайны для даўзбраення літоўскага войска.

Нават праз паўтара стагоддзі, калі ў ВКЛ была адносна някепска наладжана ўласная вытворчасць зброі і сістэма яе закупак за мяжой, значная частка войска, як ілюструюць попісы 60-х гг. XVI ст., была ўзброена яўна недастаткова. Нярэдка наступальнае ўзбраенне абмяжоўваліся рагацінай, некаторыя ваяры выходзілі "с кием", "с посохом", а то і "ни щым". Не ўсе ваяры мелі каня, хоць вайсковае заканадаўства абавязвага з'яўляцца на вайну "конна". Засцерагальнае ўзбраенне магло адсутнічаць альбо быць прадстаўленым ватаванымі кафтанамі альбо "скуркамі", якія часам называліся "скурка лося"[30]. У выніку апісанне Хронікай Літоўскай і Жамойцкай літоўскага войска XIII ст. можна смела прымяніць і да некаторых ваяроў ВКЛ другой паловы XVI ст. Між тым гаворка тут ідзе не пра дэмакратычную "пагоню", куды мог ўваходзіць і просты люд, а пра паспалітае рушэнне – феадальнае апалчэнне, якое складалася з асоб, клопат пра ўзбраенне для якіх з'яўляўся прафесійным абавязкам.

Няма ніякага сумнення, што літвінская вайсковая традыцыя адчувала на сабе значныя ўплывы рускай школы. Уплываы рускага элемента на фармаванне агульнага аблічча ліцвінскага вайска было даволі значным. Да XIII ст. гэта абумоўівалася ваеннай і культурна-эканамічнай экспансіяй, якую ажыццяўлялі рускія княствы на балцкія землі У другой палове XIII – першай палове XV ст. падобная з'ява была звязана ўжо з прасоўваннем Вялікага княства Літоўскага на ўсход і ўключэннем вайсковых адзінак толькі што далучаных рускіх тэрыторый у вайсковую сістэму дзяржавы. Аднак і тады "рускае" ўзбраенне не лічылася кепскім нават з пункту гледжання прадстаўніка заходняй мілітарнай традыцыі. Так, апісваючы адваяванне Ягайлам у 1390 г. Брэсцкага, Камянецкага і Гродзенскага замкаў Вітаўта, Длугаш згадвае прыбыцце да польскага караля "князя навагрудскага Карыбута" (напэўна ноўгарад-северскага князя Дзмітрыя Карыбута), які "прыбыўшы асабіста, прывёў з сабой атрад больш шматлікі, чым іншыя літоўскія князі і з больш багатым узбраеннем"[31].

На сённяшні дзень праведзены значныя даследаванні вайсковай справы рускіх зя-

[28] Nadolski A. Grunwald. S. 81-83.
[29] ПСРЛ. Т.32. Москва, 1975. С. 19.
[30] Бохан Ю.М. Узбраенне войска ВКЛ другой паловы XIV – канца XVI ст. – Мінск, 2002. С. 251-257, 271.
[31] Jana Dlugosza Kanonika Krakowskiego Dziejów Polskich ksiąg dwanaście. T.III. Ks. IX-X. S. 457.

мель, якія дазваляюць сцвярджаць, што ў канцы XIV – пачатку XV ст. шляхі ў эвалюцыі сродкаў вайны на захадзе і ўсходзе Еўропы яшчэ не паспелі кардынальна разыйсціся. Рускія землі ўсё яшчэ адчувалі на сабе заходнееўрапейскія ўплывы і, у сваю чаргу, самі перадавалі сваім заходнім суседзям (прычым не толькі Вялікаму княству Літоўскаму) ўласныя напрацоўкі і запазычванні з Усходу. На Русі досыць шырока выкарыстоўваліся кальчужныя даспехі, у тым ліку кальчужныя нагавіцы, наборныя даспехі, пласцінкі якіх маглі прыклёпывацца да скуранай ці тэкстыльнай асновы, коп'і з "бранебойнымі" наканечнікамі, прызначаныя для тараннага ўдара і прабівання пласцінчатых даспехаў, арбалеты, шчыты агульнаеўрапейскіх форм, мячы і г.д. На рускіх землях, прычым нават на іх усходніх рубяжах, выкарыстоўваліся некаторыя тыпы шлемаў, якія раней лічыліся тыпова заходнееўрапейскімі.

У сваю чаргу, некаторыя віды ўзбраення, трактуемыя часам як тыпова «рускія», такія, напрыклад, як лямелярныя даспехі, пласцінкі якіх звязваліся паіж сабой скуранымі раменчыкамі, былі добра вядомыя ў краях «лацінскай» Еўропы яшчэ ў канцы XIV ст. У крыжацкіх інвентарах траплялiся "рускія наплечнікі" і некаторыя іншыя віды ўсходняга ўзбраення. Поўны пласцінавы ("цэльнакаваны") даспех, які ў той час з'яўляўся найноўшым вынаходніцтвам заходняй даспешнай думкі, не атрымаў ва ўсходнерускіх княствах распаўсюджання, аднак і традыцыйныя сродкі аховы дазвалялі стварыць тут дастаткова манументальнае пакрыццё ваяроў, у дачыненні якіх дакументы канца XIV ст. адзначалі: «От глав их и до ногу все железно».

Верагодна атрады менавіта такіх байцоў акрэсляюцца ў творах Кулікоўскага цыкла як «каваная рать». Акрамя таго, у згаданых творах узгадваецца і зброя несумненна заходняга паходжання – «суліцы нямецкія», «шаломы нямецкія», «корды ляцкія» і г.д. Нават калі дапусціць, што падобная зброя тычыцца перадусім ліцвінскіх атрадаў, прыведзеных на Кулікова поле Альгердавічамі, то і тады факт іх фіксацыі ўяўляецца вельмі паказальным, тым больш што Літва ў такім разе мусіла б выступаць як ідавочны прадстаўнік мілітарнай культуры Захаду[32].

Калі б гэта было так, то давялося б канстатаваць, што ў канцы XIV –пачатку XV ст. не ВКЛ адчувала на сабе "русія" ўплывы ў галіне вайсковай справы, а сама ўплывала, прынамсі на гэтым этапе, на вайсковую манеру рускіх зямель. У прынцыпе, у гэтым не было б нічога дзіўнага, калі ўзгадаць, якім аўтарытэтам у галіне вайсковай справы карысталіся прадстаўнікі ВКЛ у Маскве. Дастаткова ўзгадаць, якую выключную ролю ў Кулікоўскай бітве прыпісваюць рускія крыніцы Альгердавічам. Літвін Асцей кіраваў у 1382 г. абаронай Масквы ад войск Тахтамыша. Аляксандр Андрэевіч (Асей), сын Андрэя Полацкага і ўнук Альгерда з'яўляўся каля 1390 г. намеснікам маскоўскага князя ў Каломне і "кармілічам" (выхаваццелем) маладога княжыча. Увогуле, незадаволеныя літоўска-беларускія князі, якіх не бракавала ў часы зацяжных дынастычных канфліктаў, якія цягнуліся амаль бесперапынна са смерці Альгерда ў 1377 г., былі жаданымі гасцямі ў Маскве, што не магло не ўплываць на аблічча войска маскоўскіх і іншых усходнерускіх князёў.

У той жа час, прызнаючы несумненныя уплывах рускай вайсковай традыцыі на землях Вялікага княства Літоўскага, не варта іх занадта перабольшваць. Уяўляецца, што ў першую чаргу тут былі пашыраныя тыя віды ўсходняй зброі, у тым ліку, напэўна, не толькі рускай, якія па баявых якасцях набліжаліся да заходніх аналагаў – кальчужныя і пласцінкавыя даспехі, некаторыя віды шлемаў, абухова-ударная зброя і інш. Яны не толькі прыжыліся на мясцовай глебе, але ў шэрагу выпадкаў трансфармаваліся, з улікам мясцовыт традыцый і густаў, у самабытныя ўзоры быявога рыштунка. І «рускае», і «літоўскае» ўзбраенне, такое як спічастыя шлемы, фіксуемыя ў крыжацкіх арсеналах як «spiczenghelme» і «pekilhube», шчыты-павезы альбо кароткія коп'і-суліцы, прызначаныя не толькі для рукапашнага бою, але і для кідання, засведчыла свае высокія якасці. У выніку нават прадстаўнікі заходняй мілітарнай школы ахвотна ім карысталіся. Што ж

[32] Nowakowski A. Uzbrojenie wojsk krzyzackich w Prusach w XIV i na poczatku XV w. Lodz, 1980. S. 139; Кирпичников А.Н. Военное дело на Руси в XIII – XV вв. Ленинград, 1976; Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Вып. 3. Доспех, комплекс боевых средств IX – XIII вв. Ленинград, 1971; Кирпичников А.Н. Оружие времени Куликовской битвы // Вестник Академии Наук СССР. 1980, № 8.

тычыцца пашыранага меркавання аб перавазе ў ліцвінскім войску тых усходніх відаў зброі, якія не мелі аналагаў на Захадзе, то яно хутчэй стала вынікам непаразумення. Прыярытэтнае выкарыстанне ў ліцвінскім войску агульнаеўрапейскіх тыпаў зброі, хоць і больш архаічных у параўнанні з найбольш перадавымі краямі Еўрапы, пацвярджаецца рознымі крыніцамі, у тым ліку і археалагічнымі.

Такім чынам, на развіццё вайсковай справы ў Вялікім княстве Літоўскім, у тым ліку і на характар выкарыстоўваемай тут зброі ўплывалі як заходнія, так і ўсходнія традыцыі. Пры гэтым узровень забяспечанасці літвінскага войска ўзбраеннем яшчэ ў канцы XIV – пачатку XV ст. заставаўся даволі нізкім. Гэта запатрабавала ад Ягайлы і Вітаўта сур'ёзных высілкаў па даўзбраенню русінаў і асабліва літвінаў напярэдадні рашучага сутыкнення з Тэўтонскім ордэнам. Сляды гэтых высілкаў знайшлі адлюстраванне ў рахунках польскага караляю Там пазначаны сумы на аплату вайсковага рыштунка для асобных прадстаўнікой палітычнай эліты ВКЛ, а таксама на закупку цэлых партый узбраення, прызначаных, верагодна, для простага рыцарства.

Раз-пораз польскія майстры маглі задавальняць спецыфічныя густы заможных заказчыкаў, у тым ліку і арыентальныя. Аднак у большасці выпадкаў на літоўскія і беларускія землі экспартавалася, без сумнення, тыповае для польскай традыцыі ўзбраенне, выкананае па заходніх стандартах, асабліва калі справа тычылася высылкі буйных патрый зброі.

Далёка не заўсёды на землі Вялікага княства Літоўскага траплялі самыя перадавыя ўзоры еўрапейскага ўзбраення, такія як пласцінавыя даспехі ці агняпальная зброя. Асноўную масу рыштунка складалі, напэўна, дастаткова шэраговыя рэчы – адкрытыя шлемы-шаломы альбо кальчужныя панцыры, якія не былі рэдкасцю і на ўсходзе Еўропы. Часам сустракаліся асобныя элементы, у тым ліку для аховы канечнасцяў, якія мусілі дапаўняць тыя засцерагальныя сродкі, якія ўжо прычым камплект набытага такім чынам асобнымі ліцвінамі ўзбраення мог быць даволі сціплым. Калі эліта Вялікага Княства і набывала за кошт імпарту перадавую еўрапейскую зброю, то ў цэлым пастаўкі з Польшчы праследавалі мэту задавальненне вострай патрэбы ў узбраенні наогул. Калі верыць скарзе крыжакаў на Канстанцкім саборы ў1416 г. на пастаўкі палякаў "літоўцам, схізматыкам і ерэтыкам" вайсковай амуніцыі, то яна была прадстаўлена практычна ўсім спектрам узбраення, ужыванага ў той час – даспехамі, нагруднікамі, шлемамі, кальчугамі, ручной агняпальнай зброяй, бамбардамі, мячамі, арбалетамі, махінамі для аблогі ўмацаванняў і г.д.[33]

Інтэнсіўныя пастаўкі ўзбраення ў Вялікае княства Літоўскае з Польшчы не здолелі, па ўсёй верагоднасці, ліквідаваць тут дыфіцыт баявога рыштунку. Аднак яны здолелі надаць літвінскаму войску яшчэ больш заходні характар. Ужо на Грунвальдскім полі ўзбраенне, аналагічнае заходняму не толькі па баявых якасцях, але і па знешнім выглядзе, не з'яўлялася ў харугвах Вітаўта, як падаецца, нечым выключна рэдкім. На гэта ўказвае адзін з эпізодаў бітвы, калі палякі нейкі час прымалі атакуючыя крыжацкія рэзервы за ліцвінаў, якія вярталіся на поле бою. На ўзнікненне непаразумення ўнасць у крыжацкіх шыхтах вялікай колькасці лёгкіх коп'яў-суліц, аднак калі б іншае іх узбраенне, у тым ліку засцерагальнае, кардынальна адрознівалася ад таго, якое палякі разлічвалі знайсці ў атрадах Вітаўта, блытаніна наўрад ці была б магчымай.

Такім чынам, варагуючыя войскі валодалі на Грунвыальдскім полі супаставімым ваенным патэнцыялам, што, у прынцыпе, адзначалі і крыніцы. Калі крыжаацкая і польская арміі былі прыблізна аднолькавыя па велічыні і якасці ўзбраення, то войска Вялікага княства Літоўскага, схіліўшы шалі колькаснай перавагі на бок саюзнікаў, у пэўнай ступені саступала свайму праціўніку ў галіне ўзбраення, прычым гэта тычылася не якасці, а хутчэй колькасці выкарыстоўваемай зброі.

[33] Codex epistolaris Vitoldi. S. 1027-1028.

*часоў вялікакняжацкага кіравання Вітаўта, вымушаны быў даць спіс літоўскіх харугваў на падставе пазнейшай інфармацыі, праўдападобна атрыманай у другой палове XV стагоддзя*"[6]. Праўда, Е.Лойка пакінуў праблему адкрытай, бо ў адносінах да харугваў ВКЛ пад Грунвальдам адзначыў: "*Сфрагістычна-геральдычны і крыніцазнаўчы аналіз не дае ніякіх магчымасцяў для высоўвання глыбокіх высноў*"[7] і вырашэнне праблемы сімволікі харугваў Польшчы і ВКЛ "*будзе магчымае тады, калі больш дакладна даследуем сістэму арганізацыі войска ў часах панавання Ўладзіслава Ягайлы*"[8].

Высновы Е.Лойкі аказалі пэўны ўплыў на іншых польскіх даследчыкаў геральдыкі Польшчы і ВКЛ. У прыватнасці, Стэфан Кшыштаф Кучыньскі пісаў: "*…апісанне польскіх і літоўскіх грунвальдскіх сцягоў Длугаша ўтрымлівае пэўныя недакладнасці, месцамі будзяць таксама сумненні*"[9]. І далей: "*Знакі пытальніка можна паставіць таксама пры 40 літоўскіх харугвах, раздадзеных Вітаўтам за дзесяць дзён перад бітвай, з якіх 10 павінны былі несці Калюмны, а астатнія 30 – Пагоню*"[10].

Такім чынам, звесткі Яна Длугаша пра сімволіку харугваў ВКЛ былі пастаўлены пад сумнеў. Аднак, у сувязі з гэтым, узнікае пытанне: якімі геральдычнымі крыніцамі другой паловы XV ст. мог карыстацца Ян Длугаш для яе апісання? Сваю хроніку ён пісаў у 60–80-я г. XV ст. у часы кіравання караля польскага і вялікага князя літоўскага Казімера Ягайлавіча (1447–1492 г.)[11]. Як высвятліў Е.Лойка, Ян Длугаш не ведаў звестак пра геральдыку ВКЛ з заходніх гербоўнікаў 30–40-х г. XV ст.: брусэльскага "*Armorial Lyncenich*"[12] і стакгольмскага "*Codex Bergshammar*"[13]. У якасці адзінай крыніцы, вядомай аўтару "*Польскай гісторыі*", называецца гербоўнік пад назвай "*Insignorum, clenodiorum regis et regni Polonie descriptio*" (далей – "*Кляйноты*") (60–70-я г. XV ст.), аўтарства якога, дарэчы, прыпісваюць самому Яну Длугашу[14]. На думку таго ж Е.Лойкі, яго звесткі пра харугвы Польшчы і ВКЛ храніст "*некрытычна ўкампанаваў у тэкст апісання грунвальдскай бітвы*"[15].

Гербоўнік "*Кляйноты*" вядомы ў некалькіх рукапісных копіях, самыя старажытныя з якіх датуюцца канцом XV–пачаткам XVI ст.[16] У іх да ВКЛ адносіўся адзін толькі герб "*Пагоня*" і тое, як герб польскага караля: "*Ratione autem ducatus magni Lythwanie rex Polonie defert armatum virum, manum extensam cum gladio vibrato tenentem, geminatam crucem in brachio gestantem, albo equo insidentem*"[17]. Гэты факт, а таксама адсутнасць "*Калюмнаў*", не дазваляе гаварыць, што Ян Длугаш, "*слаба арыентуючыся ў геральдыцы часоў Вітаўта*", у сваім наратыве расцягнуў ("*укампанаваў*") інфармацыю з "*Кляйнотаў*" на ўсе харугвы войска ВКЛ. Акрамя гэтага, няма сумненняў у тым, што ён бачыў і ведаў гербавую і тронную пячаткі Вітаўта, на якія спасылаецца Е.Лойка ў сваім сфрагістычна-геральдычным аналізе[18], бо, напрыклад, цытуе Гарадзельскі прывілей 1413 г.[19], арыгінал якога несумненна трымаў у руках. Апошні быў замацаваны ма-

[6] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem.* S.149: "*...Długosz, który nie orientował się w heraldyce litewskiej czasów wielkoksiężęcych rządów Witolda, musiał ustalić poczet chorągwi litewskich na podstawie późniejszych informacji, najprawdopodobniej uzyskanych w drugiej połowie XV stulecia*".

[7] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem.* S.151: "*Analiza sfragistyczno-heraldyczna i źródłoznawcza nie daje żadnych przesłanek do wysuwania głębszych wniosków*".

[8] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem.* S.153: "*będzie możliwe, gdy dokladniej poznamy system organizacji wojskowej w czasach panowania Władysława Jagiełły...*".

[9] Kuczyński S.K. *Polskie herby ziemskie. Geneza, treści, funkcje.* Warszawa, 1993. S.43: "*...opis polskich i litewskich chorągwi grunwaldzkich Długosza zawiera pewne nieścisłości, miejscami budzi też wątpliwości*".

[10] Kuczyński S.K. *Polskie herby ziemskie.* S.43: "*Znaki zapytania postawić też można przy 40 chorągwiach litewskich, rozdanych przez Witolda na dziesięć dni przed bitwą, z których 10 miało nosić Kolumny, a pozostałych 30 Pogoń*".

[11] Семянчук А. *Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі.* Гродна: ГрДУ, 2000. С.61.

[12] Heymowski A. *Herby polskie w brukselskim Armorial Gymnich, recte Lyncenich.*// Studia żródłoznawcze. Warszawa, Poznań, 1985. T.29. S.95–124.

[13] Heymowski A. *Herby polskie w Sztokholmskim Codex Bergshammar.*// Studia źródłoznawcze. Warszawa, Poznań, 1967. T.12. S.73–111.

[14] Friedberg M. *Klejnoty Długoszowe. Krytycznie opracował i na nowo wydał z 9 rycinami w tekscie.*// Rocznik Polskiego Towarzystwa Heraldycznego. Rok 1930. T.X. Kraków, 1931. S.30.

[15] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem.* S.152: "*bezkrytycznie wkomponował w tekst opisu bitwy grunwaldzkiej*".

[16] Friedberg M. *Klejnoty Długoszowe.* S.4–8.

[17] Friedberg M. *Klejnoty Długoszowe.* S.32, 53.

[18] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem.* S.149.

[19] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła...* S.141–147.

статавай пячаткай Вітаўта з гербамі[20]. Тым не меньш, яны не былі аўтарам "*Польскай гісторыі*" выкарыстаны для аднаўлення харугваў ВКЛ у бітве пад Грунвальдам. Іншымі словамі, Ян Длугаш не ведаў падрабязнай інфармацыі пра харугвы ВКЛ і не займаўся нейкай іх рэканструкцыяй у другой палове XV ст.

Застаецца адное – Ян Длугаш меў толькі агульныя дадзеныя пра 40 харугваў ВКЛ з нейкай вуснай рэляцыі сведкі ці сведкаў тых падзей. Пра вусны характар атрыманых звестак сведчыць не толькі заўвага храніста пра "*Калюмны*", што іх "*цяжка словамі апісаць*", але і пэўная супярэчлівасць яго інфармацыі аб харугвах ВКЛ пад Грунвальдам. Растлумачыць апошнюю магчыма толькі адным – Ян Длугаш запісаў яе так, як яму паведамілі, гэта значыць, у кантэксце іншай больш важнай інфармацыі. Так, польскі гісторык згадвае пра раздачу сцягоў "*са знакамі*" пад час шыхтавання Вітаўтам свайго войска 5 ліпеня 1410 г. на 40 асобных харугваў-кліноў "*старым звычаем продкаў*"[21]. У прыведзеным паведамленні важна зразумець, што Ян Длугаш меў на ўвазе пад апошнім.

Ёсць падставы думаць, што, па-першае, "*стары звычай*" не адносіўся да кліноў ("*cuneos*"), як вайсковай арганізацыйна-тактычнай адзінкі, бо арганізацыя войска ВКЛ нічым не адрознівалася ад арганізацыі войскаў Каралеўства Польскага ці Тэўтонскага Ордэну[22]. Па-другое, не адносілася да яго і абраная Вітаўтам унутраная структура кліноў – горш узброенныя ваяры на нізкіх конях былі пастаўлены ім унутры кліноў, а іх атачалі вершнікі на лепшых конях і з добрай зброяй, пра што падрабязна піша Ян Длугаш[23]. Такі парадак прымяняўся і ў іншых рыцарскіх войсках[24]. Як адзначыў храніст: "*Такія харугвы рухаліся сціснутымі шэрагамі, хаваючыся ўнутры падзелаў і адступаў, пры гэтым адная харугва ад другой на значнай ішла дыстанцыі*"[25]. Перад намі – тыповае рыцарскае войска, разгорнутае ў баявы парадак клінамі[26]. Што ж было "*старога*"?

На нашу думку, пад "*старым звычаем продкаў*" трэба разумець не шыхтаванне Вітаўтам свайго войска на кліны-харугвы, а падзел яго на гуфы ("*turmas*") – атрады з некалькіх кліноў-харугваў[27] і вызначэнне месцаў гэтых гуфаў у шыхце. Іншымі словамі, Вітаўт прымяніў пры шыхтаванні свайго войска традыцыйную тактычную схему. Але якую?

Звычайна наяўнасць дзвух тыпаў выяваў – "*Пагоні*" і "*Калюмнаў*" – на харугвах кліноў тлумачаць у тым сэнсе, што першая была гербам зямель ВКЛ і Вітаўта, як вялікага князя літоўскага, а другая – асабістым гербам Кейстутавічаў[28]. У апошнім выпадку, паводле Е.Лойкі і С.К.Кучыньскага, гэта былі надворныя атрады вялікага князя літоўскага Вітаўта[29]. Такім чынам, войска ВКЛ складалася з земскіх і надворнага гуфаў. Але колькасць надворных харугваў выклікае сумнеў – у войску Каралеўства Польскага была толькі адная надворная харугва пад сцягам з "*Пагоняй*": "*Трэцяя надворная, на сцягу якой рыцар у зброі з мячом у руцэ, што сядзіць на кані ў чырвоным полі*"[30]. У сувязі з гэтым, можна гаварыць толькі аб адной надворнай харугве ў войску ВКЛ, а не аб гуфе. Вядома, што ў першай палове XVI ст. яе адносілі паводле "*старадаўняга звычаю*" да гуфу найвышэйшага гетмана ВКЛ[31]. Праўда, у 1410 г. існаванне такога гетманскага гуфу праблематычнае, бо такі ўрад з'яўляецца ў ВКЛ, паводле Юзафа Вольфа, толькі ў

---

[20] *Akta Unii Polski z Litwą 1385–1791.*/ Wyd. S.Kutrzeba, W.Semkowicz. Kraków, 1932. S.60, № 51.

[21] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła...* S.18: "*starym przodków obyczajem*".

[22] Nadolski A. *Grunwald. Problemy wybrane.* Olsztyn, 1990. S.80–81, 87. Бохан Ю. *Наёмнае войска ў Вялікім княстве Літоўскім у XV–XVI ст.* Мн.: Інстытут гісторыі НАН Беларусі, 2004. С.25. Бохан Ю. *Вайсковая справа ў Вялікім княстве Літоўскім ў другой палове XIV–канцы XVI ст.* Мн.: Беларуская навука, 2008. С.293.

[23] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła...* S.18.

[24] Nadolski A. *Grunwald.* S.87.

[25] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła...* S.18: "*Takowe zaś chorągwie postępowały ściśnionemi rzędy, chroniąc się wewnątrz przedziałów i odstępów; wszelako jedna chorągiew od drugiej w znacznem szła oddaleniu*".

[26] Бохан Ю. *Вайсковая справа...* С.293–294. Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках: "Хроника конфликта Владислава, короля Польши, с крестоносцами в год Христов 1410".* Пинск: ПолесГУ, 2009. С.98.

[27] Kuczyński S.M. *Wielka wojna z Zakonem Krzyżackim w latach 1409–1411.* Warszawa, 1955. S.208.

[28] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem.* S.150–151. Nadolski A. *Grunwald.* S.89.

[29] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem.* S.150. Kuczyński S.K. *Polskie herby ziemskie.* S.43.

[30] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła...* S.36: "*Trzecia nadworna (cubiculariorum), której znamię mąż w zbroi i z mieczem w ręku, siędzący na koniu, w polu czerwonem...*".

[31] *Расійская нацыянальная бібліятэка (далей – РНБ).* Аддзел рукапісаў. Аўтографы Дуброўскага. № 124. Арк.17–18. Аўтар шчыра ўдзячны Аляксандру Грушы за магчымасць выкарыстання ў артыкуле звестак з дадзенай крыніцы.

1497 г.[32] Але яна магла належаць да вялікакняжацкага гуфу, пра які будзем гаварыць ніжэй.

Што да земскіх гуфаў, то з першай паловы XVI ст. вядомы гуфы Жамойцкай[33] і Валынскай зямель[34]. Удзел жамойтаў у Грунвальдскай бітве не выклікае сумнення. Вядома, што Вітаўт загадаў ім выставіць на вайну з Тэўтонскім Ордэнам па 300 чалавек з кожнага жамойцкага павета[35]. Трэба думаць, што вітаўтаў староста ў Жамойці Румбольд Валімунтавіч, які з'явіўся там адразу пасля пачатку жамойцкага паўстання ў 1409 г.[36], выканаў загад. Пытанне заключаецца ў тым, колькі было гэтых паветаў. У дамове жамойтаў з Тэўтонскім Ордэнам ад 26 мая 1390 г. пералічваюцца 7 тэрытарыяльных адзінак "*Жамойцкай зямлі*": Медніцкі, Кальтэніцкі, Кнетаўскі, Крожскі, Відукленскі, Расіенскі, Эйрагольскі[37]. Польскі гісторык Стэфан М. Кучыньскі на гэтай падставе налічыў 2100 жамойтаў у войску ВКЛ[38]. Але, магчыма, іх колькасць была яшчэ большай – 3000 чалавек, калі дадаць яшчэ тры жамойцкія паветы, якія безумоўна існавалі ў часы Вітаўта: Бетыгольскі, Пернароўскі і Пастанігенскі[39]. Такім чынам, жамойцкі гуф быў пад Грунвальдам адным з найвялікшых, бо складаўся не меней чым з 10 кліноў-харугваў. Звернем увагу на тое, што іх лічба супадае з інфармацыяй Яна Длугаша аб 10 харугвах Вітаўта са сцягамі з "*Калюмнамі*".

Цяжка сказаць, ці ўдзельнічаў у Грунвальдскай бітве гуф Валынскай зямлі, бо згадваецца толькі Крэмянецкая харугва. Адзначым, што ў першай палове XVI ст. ён складаўся з трох харугваў – валынскіх паноў, дому Астрожскіх і княжатаў Чартарыйскіх, Сангушкаў, Збаражскіх, Вішнявецкіх[40]. Відаць, троххаругвенная структура гуфа Валынскай зямлі не выпадковая. Але несупадзенне іх назваў з назвай Крэмянецкай харугвы сведчыць аб пазнейшым складванні такой структуры валынскага гуфа.

Апошнюю думку падмацоўвае канфлікт, які ўзнік у 1535 г., калі староста ўладзімірскі, маршалак Валынскай зямлі князь Фёдар Андрэевіч Сангушковіч не захацеў стаяць у "*гуфе волынском*", а паспрабаваў "*сотворити гуф княжацъкий*", Альбрыхт Марцінавіч Гаштольд запярэчыў у тым сэнсе, што такога гуфу ніколі не было: "*якож и я перед тым от господаря его милости гетманом бывал, а николи гуфов княжацких не слыхал*"[41]. Гэта значыць, што кліны-харугвы князёў Жыгімонта Карыбутавіча, Сямёна Лугвеня і Юрыя[42] пад Грунвальдам не ўтваралі асобнага княжацкага гуфа. Не было, відаць, у 1410 г. і асобнага валынскага гуфа.

Затое, як можна зразумець з паведамлення Яна Длугаша пра тры кліны-харугвы смаленцаў, у бітве пад Грунвальдам прымаў удзел гуф Смаленскай зямлі: "*…адныя толькі смаленскія рыцары, цверда стоячы пры сваіх трох сцягах, біліся зацята і не заплямілі сябе ўцёкамі, што ім велі гонар дало. І хаця ў адной харугве большая частка рыцарства загінула пад мячамі, а сцяг іх аж да зямлі быў прыбіты, дзве іншыя, мужна змагаючыся, як сапраўдныя рыцары, выйшлі з бою з перамогай і потым злучыліся з польскім войскам*"[43]. Згаданыя сцягі, як можна меркаваць, былі з выявамі вершніка з мячом, тым не меньш, інфарматар Яна Длугаша дакладна іх ідэнтыфікуе як смаленскія.

---

[32] Wolff J. *Senatorowie i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego 1386–1795.* Kraków, 1885. S.148.

[33] *Памятники истории Восточной Европы.* Источники XV–XVII вв. Радзивилловские акты из Собрания Российской национальной библиотеки. Первая половина XVI в. Составитель М.М.Кром. Москва–Варшава, 2002. T.VI. С.112–113. № 44. *Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою коммисиею (далей – АЗР).* СПб., 1848. Т.2–3 (1506–1544). С.386. № 221.

[34] *Памятники истории Восточной Европы.* С.148. № 65.

[35] Kuczyński S.M. *Wielka wojna…* S.191.

[36] Kuczyński S.M. *Wielka wojna…* S.89.

[37] Daniłowicz I. *Skarbiec diplomatów.* Wilno, 1860. T.I. S.282. Nr 583.

[38] Kuczyński S.M. *Wielka wojna…* S.191.

[39] *АЗР.* СПб., 1846. Т.1 (1340–1506). С.120–121. № 103.

[40] *РНБ.* Аддзел рукапісаў. Аўтографы Дуброўскага. № 124. Арк.17–18.

[41] С.148. № 65.

[42] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła…* S.39.

[43] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła…* S.50: "*…sami tylko rycerze Smoleńscy, stojąc mocno przy swoich trzech chorągwiach, walczyli z zaciętością i nie splamili się ucieczką, co im wielki zaszczyt zjednało. A lubo w jednej chorągwi większa część rycerstwa padła pod mieczem, a proporzec jej aż do ziemi przybito, dwie inne atoli dzielnie walcząc, jak na rycerzy przystało, wyszły z boju zwycięzko, i złączyły się potem z wojskiem polskim*".



**Мал.1.**
*Атака войска ВКЛ на харугву Фрыдрыха фон Валенрода, паводле хронікі Д.Шылінга.*

Узнікае пытанне: як ён гэта рабіў?[44]

Яшчэ раз звернемся да паведамлення Яна Длугаша пра раздачу сцягоў "*са знакамі*". Вылучым важны момант: харугвы з "*Пагонямі*" і "*Калюмнамі*" былі нададзены Вітаўтам новаўтвораным клінам з канкрэтнай мэтай – ім загадвалася пільнаваць кожнаму свой знак і слухаць сваіх камандуючых. З аднаго боку, гэта трэба разумець такім чынам, што раздадзеныя сцягі павінны былі выконваць у будучай бітве вайскова-распазнаўчую функцыю – вызначаць ў баі пункты збору, месца камандавання і пастою, а таксама накірункі руху атрадаў[45]. З другога боку, Вітаўт фактычна падзяліў сваё войска на дзве часткі (30 кліноў з "*Пагонямі*" і 10 – з "*Калюмнамі*"), кожная з якіх пад час бітвы павінна была выконваць сваю тактычную задачу, якая, у сваю чаргу, была вядома камандуючым кліноў. Гэта адвяргае думку Руслана Гагуа пра хаатычнасць дзейнасці харугваў пад час бою[46]. Які ж быў тактычны план для войска Вітаўта?

15 ліпеня 1410 г. пад Грунвальдам войска ВКЛ на чале з Вітаўтам заняло сваё месца на правым фланзе саюзнай арміі: "*…Літоўскае войска пад камандываннем вялікага князя Аляксандра, пастаўленае ў ладныя гуфы і харугвы, з дзіўнай хуткасцю выступіла ў шыхце і стала збройна супраць непрыяцеля: палякі на левым крыле, літвіны разгарнуліся на правым*"[47]. Тактычны план для войска ВКЛ вынікае з апісанняў ужо самой бітвы: 30 кліноў былі той самай ударнай групай, якая павінна была распачаць атаку на левы фланг арміі Тэўтонскага Ордэну – супраць харугваў вялікага маршалка Фрыдрыха фон Валенрода. Улічваючы, што супрацьстаялі Вітаўту "*лепшыя людзі крыжаносцаў*"[48], ударная група павінна была складацца з найбольш баяздольных сілаў ВКЛ.

Ян Длугаш пералічвае з 30-ці 21 клін-харугву, якія называліся або па землях (Троцкая, Віленская, Гарадзенская, Ковенская, Лідская, Медніцкая, Смаленская, Полацкая, Віцебская, Кіеўская, Пінская, Наваградская, Берасцейская, Ваўкавыская, Драгічынская, Мельніцкая, Крэмянецкая і Старадубаўская), або па імёнах князёў (Жыгімонта Карыбутавіча, Сямёна Лугвеня і Юрыя)[49]. У іх лік трэба дадаць татарскі атрад хана Джалал-ад-Дзіна[50] і, верагодна, валашскую харугву[51]. Недахоп у пераліку 7 кліноў-харугваў тлумачыцца, па-першае, або слабой інфармаванасцю Яна Длугаша пра войска ВКЛ, або большай колькасцю пашыхтаваных Вітаўтам кліноў пад адной назвай з баяраў пэўных зямель ВКЛ.

У этнічным плане ўдарную групу з 30 кліноў-харугваў складалі літоўцы, русіны і тата-

[44] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.123, 127.
[45] Kuczyński S.K. *Polskie herby ziemskie.* S.40. Nadolski A. *Grunwald.* S.89.
[46] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.101.
[47] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła…* S.35: "*…Litewskie (войска) pod wodzą wielkiego książęcia Alexandra, ustawione w porządne hufce i chorągwie, z dziwną szybkością wystąpiło w szyku i staneło zbrojno przeciw nieprzyjacielowi: Polacy na lewem skrzydle, Litwini rozwinęli się na prawem*".
[48] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.99.
[49] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła…* S.39.
[50] Nadolski A. *Grunwald.* S.81. Kuczyński S.M. *Wielka wojna…* S.169.
[51] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.43. Kuczyński S.M. *Wielka wojna…* S.169, заўвага 225. Nadolski A. *Grunwald.* S.61.

ры, пра што ёсць канкрэтныя згадкі: “*Цягнуўся каля гадзіны бой, калі самыя славутыя загінулі з абодвух бакоў, літоўцы, рускія і татары, як жывёлы ў ахвяру прыносіліся*”[52]. Звернем увагу на адсутнасць жамойтаў у гэтай рэляцыі, якія, у такім выпадку, павінны былі ўваходзіць у лік 10 кліноў пад “*Калюмнамі*”. Іх трэба разглядаць як асобную рэзервовую групу войскаў ВКЛ. У задачу рэзерва ўваходзіла падтрымка атакі ўдарнай групы ці прыкрыццё адыходу наступаючых кліноў пры іх няўдачы. Акрамя гэтага, пры поспеху яны павінны былі замкнуць кола акружэння. Ёсць звесткі, што менавіта “*паганцы*” прымалі ўдзел у атачэнні рэштак войска Тэўтонскага Ордэна на заключнай стадыі бітвы[53]. Як можна меркаваць, меліся на ўвазе літоўцы і жамойты, бо татараў звычайна называлі “*сарацынамі*”, а русінаў – “*схізматыкамі*”. У сувязі з гэтым, узнікае пытанне: ці не з’яўляліся таямнічыя 10 кліноў пад сцягамі з “*Калюмнамі*” Вітаўта гуфам Жамойцкай зямлі?

Тэрытарыяльны прынцып, які пераважаў у фарміраванні кліноў, а таксама прыклады Жамойцкага і Смаленскага гуфаў, дазваляюць гаварыць аб прымяненні яго Вітаўтам і для падзелу ўсіх згаданых 30 харугваў на гуфы. Але колькі іх было і як яны называліся? Калі зыходзіць з пададзенай вышэй высновы гісторыкаў вайсковай справы, што войска ВКЛ у 1410 г. было сфарміравана Вітаўтам на агульных прынцыпах з польскім і нямецкім ордэнскім, то ў такім выпадку трэба прызнаць наяўнасць у ім аналагічнай “*іерархіі*” харугваў: вялікай і меньшай харугвы манарха, надворнай, харугваў “*васальных князёў і тэрыторый*”, харугвы наёмнікаў, а таксама земскіх і родавых харугваў[54]. У цэлым пагаджаючыся з такім меркаваннем, адзначым, што войска ВКЛ мела пэўную сваю спецыфіку. Так, пад харугвамі “*васальных князёў і тэрыторый*” трэба разумець земскія харугвы са Смаленскай, Полацкай, Віцебскай і Кіеўскай зямель, а таксама харугвы ўдзельных князёў. Што датычыць родавых, то гаварыць пра асобныя харугвы паноў у войску ВКЛ у 1410 г., на нашу думку, заўчасна, бо гэтая прывілеяваная група толькі фарміравалася[55]. У выніку выкажам меркаванне, што акрамя Смаленскага і Жамойцкага гуфаў у войску ВКЛ у 1410 г. былі: вялікакняжацкі гуф (“*людзі Вітаўта*”[56]), земскія гуфы і гуф гасцей і наёмнікаў, якія стаялі пад нейкімі ўласнымі сцягамі, якія дазвалялі іх распазнаць.

Такім чынам, з аднаго боку сцягі з “*Пагонямі*” і “*Калюмнамі*”, раздадзеныя Вітаўтам сфарміраваным напярэдадні Грунвальдскай бітвы клінам, не адлюстроўвалі сімволіку і геральдыку зямель, князёў і рыцарства ВКЛ, якія пад імі змагаліся. Яны вынікалі з дынастычна-дзяржаўнай геральдыкі ВКЛ і Вітаўта асабіста, а таму з’яўляліся толькі неабходным пад час бою “*аптычным сродкам сігналізацыі, які перадаваў загады камандуючага*”[57]. Аднолькавасць выяў не спрыяла дакладнай ідэнтыфікацыі атрадаў на полі бою. З другога боку, апісаны Янам Длуга-



**Мал.2.**
*Разгром харугвы Фрыдрыха фон Валенрода войскам ВКЛ, паводле хронікі Д.Шылінга.*

[52] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.121.
[53] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.134.
[54] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.103.
[55] Korczak L. *Litewska Rada wielkoksiążęca w XV wieku.* Kraków, 1998. S.36–37.
[56] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.48.
[57] Nadolski A. *Grunwald.* S.89.

шам выпадак са смаленцамі сведчыць, што магчымасці для такога распазнання існавалі. На нашу думку, згаданую функцыю маглі выконваць толькі харугвы гуфаў, якіх аўтар "*Польскай гісторыі*" проста не ведаў.

Сапраўды, цяжка паверыць у тое, што атрады са Смаленскай, Полацкай, Віцебскай ці Кіеўскай зямель ВКЛ, дзе існавалі свае ўласныя старадаўнія вайсковыя традыцыі, не мелі сваіх баявых сцягоў. Не кажучы ўжо пра атрады ўдзельных князёў, якія таксама мелі нейкія свае геральдычныя знакі і выявы, а значыць і харугвы[58]. Тое, што сімволіка харугваў войска ВКЛ павінна была быць значна багацейшая, давёў згаданы вышэй Е.Лойка.

Іканаграфічны матэрыял таксама сведчыць пра існаванне адметных ад апісаных Янам Длугашам харугваў войска ВКЛ. Так, захаваліся дзве мініяцюры з сюжэтам Грунвальдскай бітвы ў бернскай хроніцы Дзібальда Шылінга (1485–1486 г.). На іх адлюстраваны дзве фазы змагання войска Вітаўта з харугвай маршалка Тэўтонскага Ордэну Фрыдрыха фон Валенрода, пра што сведчыць харугва апошняга з чорным крыжам у белым полі[59] (мал.1). Гэта, а таксама пазнавальныя рысы татараў, не дазваляюць сумнявацца, што мастак адлюстраваў на першай мініяцюры пачатак бою ці атаку 30 кліноў Вітаўта. У якасці сцягоў войска ВКЛ ён падаў дзве блакітныя харугвы і тры чырвоныя, а на адной з іх – выяву залатой кароны. На другой мініяцюры быў адлюстраваны разгром харугваў Валенрода, пры гэтым мастак даў войску Вітаўта дзве харугвы: 1) на чырвонай плахце залатая карона, 2) на жоўтай плахце пагрудная выява скіраванай ўлева галавы барадатага мужчыны ў чырвоных строях і ў чырвоным капялюшы (мал.2). Звернем увагу на тое, што ў намаляваным літвінскім кліне бачацца некалькі рознакаляровых сцягоў, а не адзін прапар.

Найпрасцей было б аднесці сімволіку харугваў з хронікі Д.Шылінга да прыкладаў так званай фантастычнай геральдыкі татараў-"*сарацынаў*", якую даволі часта малявалі сярэднявечныя мастакі, імкнучыся "*падцягнуць*" да звычных для сябе заходніх геральдычных ўзораў негеральдычныя краіны і народы. Аднак, тыповае рыцарскае ўзбраенне ваяроў на другой мініяцюры, сведчыць, што мастак меў на ўвазе ўсё ж нейкія харугвы літвінаў, а не татарскі атрад. Каштоўнасць мініяцюраў яшчэ ў тым, што яны адзіныя, якія данеслі да нас выгляд харугваў ВКЛ у бітве пад Грунвальдам. Нават без глыбокага аналізу можна гаварыць, што на Захадзе да канца XV ст. склаліся пэўныя стэрэатыпы ў пытанні геральдыкі ВКЛ: па-першае, яна мела "*сарацынска-паганска-схізматыцкія*" рысы, па-другое, яна была цесна звязана з геральдыкай польскага караля. Аднак, ці адпавядалі малюнкі сцягоў ВКЛ з хронікі Д.Шылінга рэаліям пачатку XV ст.?

Галоўнымі крыніцамі для рэканструкцыі сімволікі харугваў ВКЛ у бітве пад Грунвальдам у 1410 г. з'яўляюцца сфрагістыка Вітаўта, а менавіта яго маестатавая і гербавая пячаткі, гербоўнік "*Хронікі Канстанцкага сабора 1414–1418 г.*" Ульрыха Рыхенталя, а таксама літоўскіх частак брусэльскага "*Armorial Lyncenich*" і стакгольмскага "*Codex Bergshammer*".

### *"Banderia Lithwanorum et Ruthenorum":*

***Гуф вялікакняжацкі***. Існаванне такога гуфу падмацоўваецца не толькі агульнымі прынцыпамі фарміравання войскаў Польшчы, Тэўтонскага Ордэна і ВКЛ. На нашу думку, менавіта яго змяніў у канцы XV–пачатку XVI ст. гуф гетмана найвышэйшага ВКЛ. Вялікакняжацкі гуф складаўся з некалькіх харугваў: *вялікай (№ 1)*, *меньшай (№ 2)*, *надворнай (№ 3)* і "*гоньчай" (№ 4)*. *Вялікая* харугва, на наш погляд, ідэнтычная з харугвай "*Літоўскай зямлі*" ("*terre Lithwanie*"), харужы якой Станіслаў Даўгяла фіксуецца ў крыніцах у 1413 г.[60] Сцяг яе адносіўся да ўсяго вялікакняжацкага гуфу і меў на чырвонай плахце выяву вершніка з мячом. Колеравыя характарыстыкі і дэталі згаданай геральдычнай выявы адлюстраваліся ў "*Armorial Lyncenich*": ***на тарчы ў чырвоным полі на***

[58] Пра сувязь гербаў са сцягамі, гл.: Ptak J. *Chorągiew w komunikacji społecznej w Polsce piastowskiej i jagiełłońskiej*. Lublin, 2002. S.282, 288.
[59] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.97.
[60] Пятраўскас Р. *Фармаванне інстытуцыйнага двара вялікага князя ў Літве (XIV–пачатак XV ст.).*// Arche. Пачатак. Менск, 2009. №9 (84). С.61.



*Герб вялікага князя літоўскага і рускага.*

***ўзнятым белым кані з блакітнай збруяй і залатымі гузікамі, срэбны рыцар з узнятым мячом і шчытом, на якім залатыя калюмны***, падпісаны: "*[hertoghe von lettouwen] onde von rusen*" – "*вялікі князь літоўскі і рускі*"[61]. У стакгольмскім "*Codex Bergshammar*" герб пададзены з клейнотам і намётам[62]. Звернем увагу на тое, што заходнія гербоўнікі зафіксавалі такі варыянт герба, які склаўся ў Кейстутавічаў. Няма сумнення, што аўтарамі яго былі герольды Вітаўта, бо менавіта яму належалі "*Калюмны*".

*Меньшая* харугва (№ 2) з'яўлялася харугвай *пярэдняй варты* і складалася з целаахоўнікаў вялікага князя літоўскага. Як і аналагічная польская[63], была яна колькасна невялікая, а яе сцяг з "*Пагоняй*" адрозніваўся ад папярэдняга сваімі меньшымі памерамі. Пра тое, што такая харугва існавала, ёсць глухая згадка ў Яна Длугаша: "*князь спяшаючыся прыехаў сам, без усялякіх спадарожнікаў*"[64]. Гэтыя спадарожнікі і складалі варту Вітаўта.

Існаванне *надворнай* харугвы (№ 3) таксама бясспрэчнае, бо ў крыніцах нярэдка згадваюцца дваране Вітаўта ("*familiaris*"). Па этнічнаму складу надворная харугва была пярэстай – тут былі і літоўцы, і русіны, і немцы, і палякі, і мазаўшане, і сілезцы. Камандаваў імі ў Грунвальдскай бітве Станіслаў Чупурна, дворны маршалак вялікага князя літоўскага[65]. У першай палове XVI ст. надворная харугва фіксуецца ў складзе гетманскага гуфу[66]. На сваім сцягу мела таксама выяву "*Пагоні*", якая, магчыма, адрознівалася ад папярэдніх кшталтам ці колерам масці каня.

Праблема наяўнасці ў войску ВКЛ "*гоньчай*" харугвы (№ 4) даволі складаная. Такія харугвы існавалі ў войску Польшчы і Тэўтонскага Ордэну[67]. Галоўнай яе тактычнай задачай з'яўляўся пачатак бітвы[68]. Улічваючы гэты факт, а таксама тое, што атаку распачало войска ВКЛ, можна выказаць думку аб наяўнасці ў яго складзе такога фарміравання. Ёсць звесткі, што на вастрыі атакі войска ВКЛ былі пастаўлены татары і літоўцы: "*Уладзіслаў татараў і літоўцаў на вастрыі размясціў, першымі ў бой ісці загадаў*"[69]. Наўрад ці польскі кароль растаўляў харугвы ў войску ВКЛ, але другая частка паведамлення можа ўтрымліваць нейкія сапраўдныя звесткі пра харугву, якая павінна была распачаць бітву. Магчыма, меліся на ўвазе дзве харугвы – татарская колькасцю 300 чалавек[70] на чале з ханам Джалал-ад-Дзінам (№ 5) і літоўская. Размяшчэнне апошняй на вастрыні атакі дазваляе меркаваць, што яна і была "*гоньчай*" харугвай. У "*Хронікі Быхаўца*" паведамляецца, што бітву павінна была распачаць харугва пад камандай князя Івана Жадзівіда, які называецца нават "*найвыжшым гетманом*", але пасля яго гібелі яе ўзначаліў быццам бы былы "*дворны гетман*" Ян Гаштольд[71]. Калі адкінуць тэміналогію гетманскіх ўрадаў, характэрных для XVI ст., то ў асобах князя Івана Жадзівіда і Гаштольда, якога, праўда, звалі не Ян, а Пётр[72], трэба бачыць камандуючых харугвы, што распачала разам з татарамі атаку на харугвы Фрыдрыха фон Валенрода. Ва ўсялякім выпадку, наўрад ці магчыма прыняць меркаванне С.М.Кучыньскага, што Іван Жадзівід камандаваў "*падольскімі палкамі*", Пётр Гаштольд – усімі літвінамі[73]. На сцягах і татараў, і літвінаў былі выявы "*Пагоні*", калі не прымаць да ўвагі сімволіку харугваў на мініяцюрах з хронікі Д.Шылінга.

[61] Heymowski A. *Herby polskie w brukselskim Armorial…* S.114. Tabl.XV. Nr 75.
[62] Heymowski A. *Herby polskie w Sztokholmskim Codex…* S.80. Tabl.XII. Nr 1.
[63] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.95, 97.
[64] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.124.
[65] Пятраўскас Р. *Фармаванне інстытуцыйнага двара вялікага князя…* С.46, 60, 63–65.
[66] *РНБ.* Аддзел рукапісаў. Аўтографы Дуброўскага. № 124. Арк.17–18.
[67] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.97.
[68] Nadolski A. *Grunwald.* S.65.
[69] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках.* С.108.
[70] Kuczyński S.M. *Wielka wojna…* S.193.
[71] *Полное собрание русских летописей (далей – ПСРЛ).* М.: Наука, 1975. Т.32. С.150–151.
[72] Kuczyński S.M. *Wielka wojna…* S.169, заўвага 227.
[73] Kuczyński S.M. *Wielka wojna…* S.169.

***Гуф Троцкай зямлі***. У склад троцкага гуфа ўваходзілі харугвы спадчынных зямель Вітаўта, якія калісьці складалі так званую "*троцкую палову*" яго бацькі Кейстута: уласна троцкая (№ 6), гарадзенская (№ 7), ковенская (№ 8), берасцейская (№ 9), ваўкавыская (№ 10), драгічынская (№ 11), мельніцкая (№ 12). Да гэтага ж гуфу, відаць, трэба далучыць і харугвы зямель, якія складалі валоданні самога Вітаўта і яго родных братоў: наваградскую (№ 13), крэмянецкую (№ 14) і старадубаўскую (з 1406 г. – уладанне князя Жыгімонта Кейстутавіча, які хутчэй за ўсё ёй і камандаваў) (№ 15). Усе яны атрымалі ад Вітаўта сцягі з "*Пагоняй*", аднак, троцкая харугва мела яшчэ свой стары сцяг з выявай герба, які змешчаны ў "*Armorial Lyncenich*": ***на тарчы ў чырвоным полі ідзе срэбны рыцар, у правай руцэ трымае дзіду, а левай абапіраецца на шчыт, на якім у чырвоным полі залатыя калюмны***, падпісаны: "*olde dratun*" – "*стары троцкі*"[74]. Паўтораны ў скажоным выглядзе ў "*Codex Bergshammar*"[75] і на маестатавай (з 1407 г.) і гербавай (з 1401 г.) пячатках Вітаўта[76].



*Стары герб Трокаў.*

***Гуф Віленскай зямлі***. У склад віленскага гуфа ўваходзілі харугвы з зямель, якія некалі былі "*віленскай паловай*" Альгерда, а потым яго сыноў, у тым ліку і самога польскага караля Ўладзіслава Ягайлы: уласна віленская (№ 16), лідская (№ 17), медніцкая (№ 18), полацкая (№ 19), віцебская (№ 20), кіеўская (№ 21) і, верагодна, пінская (№ 22)[77]. Тое, што Ўладзіслаў Ягайла захаваў за сабой тытул "*найвышэйшага князя літоўскага*", адбілася ў гербе на сцягу віленскай харугвы і ўсяго гуфа. Паводле "*Armorial Lyncenich*", выглядаў так: ***на тарчы ў чырвоным полі на ўзнятым чорным кані з блакітнай збруяй і залатымі гузікамі, срэбны рыцар з узнятай дзідай і шчытом, на якім у блакітным полі падвойны залаты крыж***, падпісаны: "*d[er] lant von der wille*" – "*зямлі Віленскай*"[78]. Паўтораны ў "*Codex Bergshammar*" але з мячом замест дзіды[79], а таксама на гербавай пячатцы Вітаўта[80]. Чорны колер масці каня ў гербе Віленскай зямлі пэўным чынам пацвярджае рэляцыю Яна Длугаша аб 30 харугвах войска ВКЛ. У сваю чаргу ён, а таксама дзіда замест мяча, павінны былі адрозніць харугву ў войску Вітаўта ад надворнай харугвы ў войску польскага караля, якая мела на чырвонай плахце збройнага рыцара з мячом у руцэ вярхом на кані[81]. Акрамя гэтага падвойны крыж указваў на сапраўднага "*шэфа*" віленскага гуфа – польскага караля Ўладзіслава Ягайлу.



*Герб Віленскай зямлі.*

***Гуф Смаленскай зямлі***. Асобны смаленскі гуф з трох харугваў (№ 23–25) тлумачыцца недаўнім далучэннем Вялікага княства Смаленскага (ВКС) да ВКЛ. Адбылося гэта ў 1395 г., калі: "*…князь литовскои Витовътъ Кестоуитьевичь взя Смоленескъ перелестью, и наместники посади*"[82]. Пасля паразы на рацэ Ворскла ў 1399 г. ВКС аднавіла сама-



*Смаленскі герб.*

[74] Heymowski A. *Herby polskie w brukselskim Armorial*… S.115. Tabl.XV. Nr 84.
[75] Heymowski A. *Herby polskie w Sztokholmskim Codex*… S.81. Tabl.XIII. Nr 10.
[76] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem*. S.147, 149.
[77] Магчыма, аднак, яна адносілася да гуфу Троцкай зямлі, бо Пінск быў удзелам не Альгердавічаў, а Нарымонтавічаў. Справа вымагае далейшых даследаванняў.
[78] Heymowski A. *Herby polskie w brukselskim Armorial*… S.114. Tabl.XV. Nr 80.
[79] Heymowski A. *Herby polskie w Sztokholmskim Codex*… S.81. Tabl.XII. Nr 6.
[80] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem*. S.147, 149. Памылкова Е.Лойка аднёс яго да Наваградскага княства.
[81] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła*... S.36.
[82] *Русские летописи. Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов.*/ Подг. А.И.Цепков. Рязань, 2001. Т.10. С.398.

стойнасць, але ўжо ў 1404 г.: "...*переветнице предаша град Смолнескъ князю Витовту Литовъскому*"[83]. Быў гэта набытак Вітаўта, а таму Смаленская зямля ў ВКЛ займела новы герб, які быў зафіксаваны ў "*Armorial Lyncenich*": ***на тарчы ў чырвоным полі срэбны мядзьведзь, які ідзе***, падпісаны:"*smollenghe*" – "*смаленскі*"[84]. Паўтораны ў "*Codex Bergshammar*"[85] і на маестатавай і гербавай пячатках Вітаўта[86]. Існаванне адметнага смаленскага герба дазваляе думаць, што менавіта ён быў змешчаны на сцягу гуфа, што і дазволіла ідэнтыфікаваць тры харугвы смаленцаў у Грунвальдскай бітве. Складаным пытаннем з'яўляецца вызначэнне камандуючага смаленскім гуфам. С.М.Кучыньскі лічыў, што ім з'яўляўся князь Сямён Лугвень Альгердавіч[87]. Аднак, з паведамлення Яна Длугаша гэтага не вынікае, хутчэй наадварот. Што датычыць правадыра смаленцаў, то ім мог быць толькі вітаўтаў намеснік.


*Асабісты герб Вітаўта.*

***Гуф Жамойцкай зямлі***. Найбольш верагоднай з'яўляецца выказаная намі вышэй думка, што жамойты складалі асобны гуф з 10 харугваў (№ 31–40) на сцягах якіх быў змешчаны асабісты герб Вітаўта – "*Калюмны*". Яго апісанне захавалася ў "*Armorial Lyncenich*": ***на тарчы ў чырвоным полі залатыя калюмны***[88]. Паўтораны ў "*Codex Bergshammar*"[89].

***Гуф гасцей і наёмнікаў***. Звычайна яны збіраліся пад сцягам Святога Юрыя. Такая харугва была і ў польскім, і ў крыжацкім войску. Першым, хто выказаў думку аб існаванні ў войску Вітаўта такой жа харугвы, быў Е.Лойка. Праўда, ён памыліўся, прыпісаўшы згадку пра харугву Святога Юрыя ў "*Хроніцы канфлікта*" Вітаўту[90]. На самой справе яна адносілася да харугвы чэшскіх і мараўскіх наёмнікаў войска польскага караля[91]. У 1428 г. у паходзе на Ноўгарад Вялікі ў войску ВКЛ была харугва Святога Юрыя, якую нёс паляк Вінцэнт з Шаматулаў, міжрэчыцкі кашталян. Праўда, як яна выглядала, Е.Лойка не мог вызначыць[92].


*Наўгародскі герб.*

Трэба пагадзіцца з Е.Лойкам, што такая харугва павінна была быць ў складзе войска ВКЛ. З крыжацкіх данясенняў вядома, што напярэдадні Грунвальдскай бітвы Вітаўт паслаў польскаму каралю для найму жаўнераў 20 000 копаў грошаў[93]. Узнікае пытанне: куды дзеліся грошы? Зразумела, што Ўладзіслаў Ягайла павінен быў іх патраціць на наёмнікаў для войска ВКЛ. У сувязі з гэтым, звернем увагу на інфармацыю Яна Длугаша пра харугву князя Жыгімонта Карыбутавіча, якую ён спачатку залічыў у склад польскага войска пад № 51: "*герб якой муж збройны, што сядзіць на кані*"[94]. Праўда, пазней ён вылучыў князя Жыгімонта Карыбутавіча, як аднаго з камандуючых харугвамі Вітаўта, каб потым зусім уключыць першага ў склад целаахоўнікаў польскага караля[95]. Звычайна такую непаслядоўнасць разглядаюць як памылку храніста[96]. Аднак, усё становіцца зразумелым, калі бачыць у харугве Жыгімонта наёмнікаў, завербаваных Уладзіславам

---

[83] *Псковские летописи*./ Под ред. А.Н.Насонова. Москва, 1955. Вып.I. С.108.
[84] Heymowski A. *Herby polskie w brukselskim Armorial*... S.115. Tabl.XV. Nr 85.
[85] Heymowski A. *Herby polskie w Sztokholmskim Codex*... S.81. Tabl.XIII. Nr 11. Памылкова, як герб Кіеўскай зямлі ці Жамойці.
[86] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem*. S.147, 149.
[87] Kuczyński S.M. *Wielka wojna*... S.140, 169.
[88] Heymowski A. *Herby polskie w brukselskim Armorial*... S.115. Tabl.XV. Nr 82.
[89] Heymowski A. *Herby polskie w Sztokholmskim Codex*... S.81. Tabl.XII. Nr 8.
[90] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem*. S.145, 151.
[91] Kuczyński S.M. *Wielka wojna*... S.190. Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках*. С.98.
[92] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem*. S.152.
[93] Бохан Ю. *Наёмнае войска*... С.11.
[94] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła*... S.38.
[95] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła*... S.39, 48.
[96] Гагуа Р. *Грюнвальд в источниках*. С.83.

Ягайлай для Вітаўта. Складалася яна з палякаў і кіравалася адным з іх, а таму магло скласціся ўраджанне, што гэта польская харугва[97]. Іншымі словамі, гэта была не 51 харугва ў польскім войску, а № 26 у войску ВКЛ і яе трэба залічыць у гуф наёмнікаў і гасцей. Апошніх пры двары Вітаўта было нямала[98] і яны са сваімі почтамі маглі складаць асобную харугву (№ 27). У гэты ж гуф уваходзілі харугвы князёў Сямёна Лугвеня (№ 28), невядомага бліжэй Юрыя (№ 28) і валашскі атрад (№ 30).

Герб з крыжам Святога Юрыя ёсць ў "*Armorial Lyncenich*": ***на тарчы ў чырвоным полі срэбны крыж***, падпісаны: "*nowengrote*" – "*наўгародскі*"[99]. Паўтораны ў "*Codex Bergshammar*"[100], а таксама на маестатавай і гербавай пячатках Вітаўта[101]. Справа патрабуе дадатковага даследавання, але кідаецца ў вочы тое, што назва гербу адпавядае месцу княжання Сямёна Лугвеня Альгердавіча, які, як вядома, з'яўляўся намеснікам Вітаўта і Ўладзіслава Ягайлы ў Ноўгарадзе Вялікім.

Такім чынам, войска ВКЛ пад Грунвальдам у 1410 г. захоўвала стары прынцып падзелу на земскія гуфы, дзе галоўнымі з'яўляліся харугвы так званых троцкай і віленскай паловаў. Яшчэ больш яго пакрэсліваюць створаныя ў 1410 г. непасрэдна перад бітвай новыя земскія гуфы на стары манер – Жамойцкі і Смаленскі. Разам з тым, можна заўважыць, што пасля катастрофы на рацэ Ворскла ў 1399 г. Вітаўтам былі праведзены пэўныя рэформы ў войску на заходні ўзор, якія датычылі рэзкага скарачэння княжацкіх харугваў, увядзення заходніх арганізацыйна-тактычных прынцыпаў арганізацыі войска і вядзення бою, пераўзбраення на заходні лад і г.д. У пэўным сэнсе адлюстраваннем працэсаў, што адбываліся ў войску ВКЛ, з'яўляецца сімволіка і геральдыка яго харугваў, якая захавалася ў хроніцы Яна Длугаша і іншых сфрагістычна-геральдычных матэрыялах. Папярэдні аналіз апошняга, на нашу думку, дазваляе не толькі раскрыць структуру войска Вітаўта ў бітве пад Грунвальдам у 1410 г., але і прасачыць пэўную эвалюцыю ўзброенных сіл ВКЛ.

[97] Nadolski A. *Grunwald*. S.64.
[98] Пятраўскас Р. *Фармаванне інстытуцыйнага двара вялікага князя*…С.6768.
[99] Heymowski A. *Herby polskie w brukselskim Armorial*… S.115. Tabl.XV. Nr 83.
[100] Heymowski A. *Herby polskie w Sztokholmskim Codex*… S.81. Tabl.XII. Nr 9. Ідэнтыфікаваны як валынскі.
[101] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem*. S.145, 149.

Э. Ярмусік (Гродна)

# Навагрудак у еўрапейскай палітычнай і цывілізацыйнай прасторы

Шматвекавая гісторыя сённяшняга Навагрудка, значнасць палітычных падзей, высокі узровень культурнага,сацыяльна-эканамічнага развіцця горада дазваляюць сцвярджаць, што ён займае адметнае месца ў цывілізацыйным развіцці як Беларусі, так і Еўропы.

Не толькі геаграфічнае становішча, прыродныя ўмовы, але ў першую чаргу працавітасць і таленавітасць навагардчан, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне, забяспечвалі на кожным гістарычным этапе росквіт Навагардскага краю. Ужо ў ранні перыяд свайго развіцця – X-XII ст, сціплае пасяленне на адным з узвышшаў стала пасадам старажытнага Навагардка, а ў пачатку XII ст. – акольным горадам. Археалагічныя даследванні даюць падставу сцвярджаць, што ўжо ў XI ст. ён быў эканамічным цэнтрам сваёй сельскай акругі. Жыхары горада былі кваліфікаванымі рамеснікамі:займаліся апрацоўкай металаў, дрэва, ганчарствам, ювелірнай справай [9]. З XII-XIII стст у Навагардку быў развіты знешні гандаль. Гандлёвыя сувязі прасціраліся ў гарады Старажытнай Русі, Прыбалтыкі, Блізкага Усходу, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Для патрэб гараджан прывозіліся ўборы, розныя ўпрыгожанні з бурштыну і каляровых металаў, фаянсавая кераміка, бронзавыя мячы і шаблі, віна і масла, прадметы культу. За імпарт навагардчане расплачваліся пушнінай, воскам, мёдам, іншымі дарамі лясоў, вырабамі рамеснікаў [2,3].

Гісторыя Навагардка цесна звязана з важнейшымі падзеямі агульнаеўрапейскай гісторыі. Як сведчыць першы Сафійскі летапіс, пад 1044г. “ходи Ярослав на Литву, а на весну заложи Новогород». Горад разглядаўся кіеўскімі князьямі як аплот старажытнарускай дзяржавы на яе заходніх рубяжах.

Стратэгічнае і ваенна-палітычнае значэнне Навагардка ацанілі літоўскія князі. Пры князю Міндоўгу ён становіцца сталіцай Літоўскай дзяржавы, якая ў хуткім часе стала адной з магутных ў Еўропе. У 1253 годзе тут адбылася падзея вялікага гістарычнага значэння – каранацыя князя Міндоўга, які атрымаў з рук папскага нунцыя карону. Тым самым была прызнана вялікая роля Літоўскай дзяржавы і яе валадара сярод еўрапейскіх дзяржаў. Узвышэнне Навагардка адбывалася ва ўмовах складанай ваенна-палітычнай абстаноўкі, якая ўзнікла ў XIII-XIVстст., у сувязі з распадам Русі, нашэсцем мангола-татар з усходу і крыжакоў – з захаду. У 1255, 1274, 1278 гадах на яго рабілі набегі мангола-татары, у 1314,1321,1341,1390, 1394 –крыжакі. Але захопнікам не ўдалося надоўга завалодаць горадам, спыніць працэс умацавання дзяржаўнасці на гэтах землях [1,4].

У 1362 годзе навагардскія палкі на чале з братамі Карыятавічамі –Юрыем, Аляк-

сандрам, Канстанцінам і Федарам з'яўляліся асноўнай ударнай сілай у войску вялікага літоўскага князя Альгерда ў бітве з татарамі на рацэ Сінія Воды ў Падоллі (Украіна). Яны паспяхова справіліся з пастаўленай задачай: не даць магчымасць татарам прарвацца праз флангі [4].

Пасля заснавання князем Гедымінам гарада Вільні і перанясення туды сталіцы ВКЛ Навагрудак прадаўжаў захоўваць статус аднаго з галоўных адміністрацыйных, грамадска-палітычных і культурных цэнтраў дзяржавы. Тут знаходзілася з 1416 года рэзідэнцыя праваслаўных мітрапалітаў. У 1448, 1508 і 1538 гадах у горадзе праводзіліся сеймы ВКЛ [10, с. 80].

У Навагрудку адбывалася адна з трох кадэнцый трыбуналу ВКЛ. Месцам іх паседжання была фара Вітаўта. У 1422 годзе ў Фарным касцёле кароль польскі і вялікі князь літоўскі Уладзіслаў Ягайла браў шлюб з Соф'яй Гальшанскай, будучай зачынальніцай дынастыі Ягелонаў [9].

У 1507 годзе Навагрудак стаў цэнтрам ваяводства, якое займала вялікую тэрыторыю з гарадамі Ашмяны, Слонім, Ваўкавыск, Нясвіж, Слуцк, Стаўбцы, Ракаў і інш. 25 ліпеня 1511 года на Брэсцкім сойме гораду было нададзена магдэбургскае права [10, с. 87].

Навагрудак адыгрываў важнае значэнне як цэнтр рэлігійнага, духоўнага жыцця. На працягу стагоддзяў тут узніклі і суіснавалі праваслаўныя, каталіцкія, пратэстанскія, іудзейскія абшчыны. У розныя гады іх уплыў і роля ў гісторыка-культурным развіцці краю былі неаднолькавыя. У апавяданні пра князя Войшалка, датаваным 1262 годам, паведамляецца, што гэты князь пабудаваў манастыр на Нёмане "межи Литвою и Новым городком", вядомы як Лаўрышаўскі манастыр. З-за сваёй значнасці ён набыў статус лаўры, а такіх у праваслаўным свеце было некалькі. У сценах гэтага манастыра было напісана знакамітае Лаўрышаўскае евангелле, якое захоўваецца ў кнігазборах Кракава [7].

Да Брэсцкай цакоўнай уніі 1596 года манастыр быў праваслаўны, у ім размяшчалася семінарыя Брэсцкай мітраполіі. Пасля прыняцця уніі , якая ўзмацніла ўплыў каталіцызму, манастыр стаў уніяцкім, а з 1839 года – зноў праваслаўным. Такім ён праіснаваў да пачатку Першай сусветнай вайны, у час якой быў разбураны [12].

У 1415 годзе па ініцыятыве вялікага князя літоўскага Вітаўта быў скліканы сабор праваслаўных епіскапаў з мэтай стварэння незалежный ад Масквы метраполіі ВКЛ [1]. У дадзенай Вітаўтам з гэтай нагоды грамаце гаварылася: " Мы хотячи, штобы наша вера неменьшала, ни угыбала, и церквам вашим бы строение было, учинили есмо так митрополита, збором, на киевскую митрополию, штобы Русская честь вся стояла на своей земле». Першым мітрапалітам быў абраны Грыгорый Цамблак, балгарын па паходжанні. Першапачаткова мітраполія ВКЛ знаходзілася ў Навагрудку, затым – пераважна ў Вільні [4].

У XVI ст. на Навагрудчыне распаўсюдзіўся пратэстантызм. У многім гэтаму садзейнічала дзейнасць князя Мікалая Радзівіла Чорнага, які заклаў евангелічныя храмы ў Нясвіжы, Оршы, Мінску, Навагрудку, Свіслачы, Шклове і інш. У 1572 годзе з 600 шляхецкіх сем'яў праваслаўнага веравызнання 584 прынялі кальвінізм, які з'яўляўся найбольш распаўсюджанай на Беларусі рэфармацыйнай плынню. На Навагрудчыне былі прыхільнікі яшчэ адной плыні рэфармацыйнага руху – сацыніянства, заснавальнікам якога быў італьянскі і польскі тэолаг і філосаф Фаўст Соцын (1539-1604) [4].

З пачатку XVII ст. на беларускіх землях пачынаецца контррэфармацыя. Узмацняюцца пазіцыі Рымска-каталіцкай Царквы. На Навагрудчыне засноўваюцца кляштары, касцёлы.

Навагрудчына з'яўляецца унікальным культурным феноменам. Па праву яе можна назваць калыскай беларускай, польскай, яўрэйскай культуры, якая развівалася ў цеснай сувязі з еўрапейскай культурай.

Аб пранікненні на Навагрудчыну заходніх і ўсходніх культурных традыцый сведчаць помнікі архітэктуры . Так, у XVI ст. быў пабудаваны Усялюбскі касцёл, вядомы пад назваю храма св.Казіміра. На думку беларускіх даследчыкаў, адзіным яму аналагам на тэрыторыі Усходняй Еўропы з'яўляецца касцёл пачатку XV ст у Рысці (Эстонія). Такія храмы будаваліся і ў Польшы [6].

У 1612 годзе ў мястэчку Любча, сённяшняга Навагрудскага раёна, была заснавана

самая буйная на тэрыторыі тагачаснай Беларусі Любчанская друкарня: яна дзейнічала каля 60 гарадоў,выпусціла каля ста назваў кніг. Ёю кіраваў у той час вядомы друкар і кнігавыдавец Пётр Кміта. Галоўным чынам тут друкаваліся творы свецкага зместу, кнігі антычных пісьменнікаў і аўтараў перыяду Рэфармацыі, у тым ліку Мацея Стрыйкоўскага, Сымона Буднага, гістарычныя і навуковыя дапаможнікі, кнігі для школ. Пастаянна друкаваўся "Каляндар штогадовых святаў і рухаў нябесных цел". Упершыню ў беларускім кнігадрукавецтве выкарыстоўвалася гравюра на медзі [10, с. 141, 142].

Славу зямлі Наваградскай на працягу стагоддзяў прыносілі шматлікія яе ўраджэнцы. Імёны многих з іх упісаны не толькі ў беларускую, але і еўрапейскую гісторыю. Сярод іх-віцэ-канцлер літоўскі Іаахім Храптовіч. Па яго прапанове сейм Рэчы Паспалітай заснаваў у 1775 годзе Адукацыйную камісію. З навуковымі мэтамі ён аб'ездзіў амаль ўсю Еўропу, заснаваў у сваім радавым маёнтку Шчорсы славутую бібліятэку, цалкам прысвяціў сябе справе адукацыі.

З пачатку XIX ст. Наваградак вылучыўся з ліку падобных яму гарадоў па прычыне таго, што тут правёў свае дзіцячыя і юнацкія гады Адам Міцкевіч. Багацце прыроды, помнікі і паданні сівой даўніны фарміравалі будучага класіка польскай паэзіі. Любоўю да гэтага краю, да яго людзей і простай мовы прасякнуты яго вершы і паэмы, усё жыццё.

У сваіх лекцыях у Калеж дэ Франс ён тлумачыў, што "…на беларускай мове, якую называюць русінскай, альбо літоўска-рускай… гаворыць каля 10 мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі"[4].

Наваградская зямля ўзгадавала многіх прагрэсіўных людзей, носьбітаў дэмакратычных ідэалаў, актыўных удзельнікаў нацыянальна-вызваленчага руху.

У 1817 годзе у Віленскім універсітэце ўзнікла тайнае таварыства філаматаў-прыхільнікаў навук, затым-філарэтаў-прыхільнікаў дабрачыннасці, і прамяністых. Спачатку таварыства аб'ядноўвала 19 сяброў, сярод якіх-ураджэнцы Наваградчыны-Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Ігнат Дамейка, Дзянісій Хлявінскі. Паступова ўзніклі суполкі ў Беластоку, Гродна, Свіслачы і іншых. Яны аб'ядноўвалі каля 200 сяброў. Яны хацелі лепшай будучыні свайму краю. А дзеля гэтага працавалі над удасканаленнем сябе, вывучалі фальклор, этнаграфію, асвету, побыт і мінулае свайго народа, карысталіся простанароднай сялянскай мовай, знаёмай ім з дзяцінства. І хаця ў маі 1823 года дзейнасць тайных таварыстваў была раскрыта, вялося следства і шмат хто з іх удзельнікаў быў пакараны, зерні вольналюбства далі свае ўсходы [14].

У час паўстанняў 1830-1831 і 1863-1864 гадоў тут адбываліся падзеі, якія сведчылі аб імкненні наваградчан змагацца за свабоду. Адным з кіраўнікоў паўстання 1863-64 гадоў, камісарам Наваградскага павету быў Уладзіслаў Борзабагаты (1863-1886), уражэнец маёнтка Руткі, лекар па прафесіі. Пасля паражэння паўстання ён эмігрыраваў у Францыю, затым удзельнічаў у франка-прускай вайне 1870-1871 гадоў, з'яўляўся галоўным медыкам шпіталя камунараў [4].

Гісторыя Наваградчыны XIX стагоддзя дае шэраг прыкладаў прагрэсіўнага развіцця сельскай гаспадаркі, заснаванага на прымяненні перадавого вопыту – як расійскага, так і замежнага.

Выхадзец з магнацкага роду Адам Храптовіч, уладальнік маёнтку Шчорсы, у 1810 годзе на заходняй ускраіне сяла Нягневічы заснаваў фальварак Адамполе. У хуткім часе ён стаў адным з лепшых не толькі на Гродзеншчыне, але і ў межах Расійскай імперыі. На пасаду агранома А.Храптовіч запрасіў інжынера Фішэра Фердынанда – немца з Саксоніі. У гаспадарцы стала прымяняцца наёмная праца батракоў. Укараняліся перадавыя метады гаспадарання- 8-12 польныя севазвароты, дрэнажная меліярацыя. У земляробстве прымяняліся толькі замежныя семянныя матэрыялы, у жывёлагадоўлі – беспрывязнае ўтрыманне жывёлы. Быў пабудаваны вадаправод, спіртзавод, сыраварня. Адамполе стала цэнтрам сельскагаспадарчай вытворчасці ўсіх фальваркаў маёнтку Шчорсы. У 1878 годзе быў пабудаваны ў Адамполе цагельны трохпавярховы спіртзавод з паравой машынай, маслабойня. У пачатку XX ст. у фальварку Адамполе было 508 дзесяцін зямлі, з якой

У пачатку 20 ст. на цэнтральных вуліцах былі зроблены дашчатыя тратуары агульнай працягласцю 5,8 вярсты. Брукаваныя вуліцы ў гэты час склалі 8,8 вёрст. Горад асвятляўся 12 газавымі ліхтарамі, першы з якіх з'явіўся у 1907 г. Для патрэб гараджан і гасцей горада ў Навагрудку былі тры гасцініцы: «Еўрапейская», «Варшаўская», «С-Пецярбургская», больш за 90 крамаў. [6, с. 90] Па звестках за 1910 год у горадзе жыло 8414 чалавек, было 1150 будынкаў (з іх – 76 – мураваных), якія размяшчаліся на 22 вуліцах і завулках.

Параўноўваючы г. Навагрудак з іншымі павятовымі гарадамі таго часу, заўважым, што на пачатку 20 ст. па сваей унутранай структуры ён мала чым адрозніваўся ад іншых беларускіх павятоых гарадоў, захаваўшы пры гэтым сваю унікальнасць у забудове гарадскога цэнтра. Ураджанне ад наведвання горада былі розныя. Так, у 1910 г. адна з падарожніц напісала, што горад «занядбаны і ўбогі». [22, с. 119] Другі аўтар, наведаўшы Навагрудак ў 1914 г. заўважыў іншае: "Цэнтр горада, аточаны мураванымі дамамі з фасадамі ў барочным і рэнесансным стылях, з высокімі ступенькамі, якія вядуць з вуліцы, стварае мілае ўражанне і з'яўляецца з архітэктурнага погляду, асаблівасцю ў сваім родзе. [23, с. 26] Цэнтральная частка Навагрудка ў такім архітэктурным абліччы захавалася, практычна без зменаў, на працягу наступных 25 гадоў, і была амаль поўнасцю разбурана ў гады Вялікай Айчыннай вайны.

## Крыніцы і літаратура:


1. Белоруссия в эпоху феодализма. Сб. док. Т.III. – Минск, 1961. - 624 с.
2. Бубенька Т., Звяруга Я. Старажытны Наваградак // Памяць: Гістор.-дакум. хроніка Навагрудскага раёна. – Мінск, 1996. С. 35-44.
3. Гайба М. Могілкі і пахаванні ў Навагрудку. - Мінск, 2000. 40 с.
4. Гурэвіч Ф.Д. Летапісны Новгородок (Старажытнарускі Наваградак) – СПБ, 2003. – 324 с.
5. Гаусман М.А. Исторический очерк г.Новогрудка // Минские губернские ведомости. 1877, №27, 23 июля.
6. Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 1135, вол. 4, спр. 1, сс. 89—90
7. Зеленский И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния. Ч.1. – С.-Петербург, 1864. - 672 с.
8. Каратынскі В. Творы / Уклад., прадм. і камент. У. Мархеля. – 2-е выд., дап. – Мінск, 1994. – 406 с.
9. Краўцэвіч А.К. Гарады і замікі беларускага Панямоння XIV-XVIII стст.: Планіроўка, культурны слой. - Мінск, 1991, - 171 с.
10. Краўцэвіч А.К. Фармаванне тэрыторыі сярэднявечнага Наваградка // Наваградскія чытанні. Кн. 2. – Навагрудак, 1993. С. 83-86
11. Лютый А.М. Социально-экономическое развитие городов Белоруссии в конце XVIII – первой пол. XIX века / Под ред. В.В. Чепко. – Минск, 1987. – 181 с.
12. Малевская М.В. Архитектурный комплекс новогрудского детинца XIII-XIV вв. // Древнерусское государство и славяне. – Минск, 1983. С. 124-125.
13. Навагрудская ратуша // Архітэктура Беларусі: Энцыкл. Давед. – Мінск, 1993. – 620 с.
14. НГА РБ, ф. 22, вол. 1, спр. 154, л. 82, 82 адв.
15. Наша Ніва, 1907, №31, 12 кастрычніка.
16. Первая всеобщая перепись населения Российской империи. 1897 г. Т.XII – Спб, 1904.
17. Собаль В. Новагародскі замак // Вялікае княсіва Літоўскае: Энцыкл. У 2 т. Т.2. – Мінск, 2006. С. 361-362.
18. Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии – Минск, 1848.
19. Lachnicki J.E. Statystyka gubiernii Litewsko-Grodzienskiej. – Wilno, 1817. - 88 с.
20. Łowmiańskij H. Rys historyczny województwa Nowogródykiego w jego dyisiejszych granicach do 1795r. - Wilno, 1935. 126s.
21. Polska Stanisławowska w oczach cudoziemców. T.1. – Warszawa, 1963. – 958 s.
22. Rodysówna J. Wrażenia z wycieczki w Nowogródzkie // Ziemia. 1910. №8. S. 118-121
23. Z okolic Nowogródka // Pobudka, 1914. №2

Эдвард Зайкоўскі

# Наваградчына ў жалезным веку і пачатку сярэднявечча

У VII — VI стст. да н.э. на тэрыторыі Беларусі пачаўся жалезны век, калі значную частку прыладаў працы сталі вырабляць з жалеза. У адрозненне ад бронзы , зыходныя кампаненты для выплаўкі якой (найперш медзь), на тэрыторыі Беларусі адсутнічаюць, залежы жалеза (у выглядзе балотнай руды) маюцца амаль паўсюдна, і гэта рабіла мясцовае насельніцтва незалежным ад знешніх крыніцаў металургічнай сыравіны. Распаўсюджанне жалезных прыладаў аказала больш глыбокі ўплыў на развіццё гаспадаркі, чым ужыванне нешматлікіх бронзавых вырабаў. Напачатку выплаўляць жалеза і вырабляць з яго разнастайныя прылады, зброю, упрыгожанні навучыліся на поўдні Беларусі, а ў Беларускім Панямонні, куды адносіцца і Наваградчына, росквіт чорнай металургіі і шырокае ўкараненне жалезных прыладаў працы адбыліся ў канцы I тысячагоддзя да н.э. — першых стагоддзях н.э.[1]

У апошнія стагоддзя да н.э. і да IV — пачатку V стст. н.э. цэнтральная і паўночназаходняя часткі цяперашняй Беларусі, усходняя частка Літвы былі заняты насельніцтвам супольнасці, якая па асаблівасцях тыповага для яе глінянага посуду атрымала назву культуры штрыхаванай керамікі.Насельніцтва гэтай культуры па этнічнай прыналежнасці большасць даследчыкаў лічаць балцкім. На неўмацаваным паселішчы, якое існавала ва ўрочышчы Замэчак на левым беразе р. Беланожкі каля в. Чарэшля Любчанскага пасялковага савета, пры шурфоўцы сярод іншых знаходак выяўлены фрагменты ляпнога глінянага посуду са штрыхоўкай як на вонкавай, так і на ўнутранай паверхні. Таўшчыня сценак была 0,8 — 0,9 см, а для таго, каб посуд пры абпале не трэскаўся, у гліну дадавалі жарству — дробна тоўчанае каменне. Пасудзіны мелі рабрыстую форму, г.зн. у верхняй частцы, на мяжы паміж венчыкам і тулавам, мелася гарызантальнае рабро, якое нярэдка было арнаментавана пазногцевымі зашчыпамі[2]. Рэшткі селішча ранняга жалезнага веку захаваліся і за 0,2 — 0,3 км на ўсход ад паўднёвага ўскрайку в. Чарэшля, на ўзвышэнні “Аржаная гара”, дзе ляпная кераміка трапляецца на плошчы каля 0,8 м.

Але найбольш даследаваным помнікам жалезнага веку на тэрыторыі раёна з’яўляецца гарадзішча, што размешчана за 0,2 км на ўсход ад в. Радагошча Валеўскага сельсавета, на мысе карэннага левага берага р. Неўда (левы прыток р. Сэрвач у басейне Нёмана). Узгорак вядомы сярод мясцовых жыхароў пад назвамі “Гарадзішча” або “Гара Адама Міцкевіча” (паводле мясцовай легенды, там любіў бываць вялікі паэт). Гарадзішча было адкрыта ў 1930-я гады віленскім археолагам Гэленай Цэгак-Галубовіч, і пададзена ёй у літаратуры з прывязкай да маёнтка Чамброва, які знаходзіўся на суседнім узгорку[3]. Паўторна помнік абследавалі і правялі на ім шуфроўку ў 1957 г. Ф. Д. Гурэвіч, у 1959 г. П. А. Рапапорт і ў 1973 г. М. А. Ткачоў. Упершыню раскопкі на гэтым гарадзішчы праведзены аўтарам у

1 Егорейченко А. А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006, с. 79 — 84, 103.
2 Гуревич Ф. Д. Древности Белорусского Понеманья. М.—Л., 1962, с. 28 — 29, 151.
3 Cehak-Hołubowiczowa H. Zabytki archeologiczne województwa Wilenskiego i Nowogródzkiego. Wilno, 1936, s. 39.

1989 г., і працягваліся ў 1990, 1995, 1998, 1999, 2002 гг. Усяго ўскрыта 512 м$^2$.

Закругленая ў плане пляцоўка гарадзішча мае памеры 55х80 м, схілы найбольш крутыя з паўднёвага і заходняга бакоў, дзе дасягаюць вышыні 18 м. Заходні край часткова пашкоджаны і асыпаецца. З высокіх паўднёвага і заходняга бакоў вал і роў адсутнічаюць. Вал, вышыня якога не перавышае 0,5 м, часткова прасочваецца з паўночнага і ўсходняга краёў пляцоўкі, за ім размешчаны даволі шырокі роў, а далей — вонкавы вал. Паверхня пляцоўкі прыўзнятая ў паўночны бок. Уезд на пляцоўку гарадзішча знаходзіцца з паўночна-ўсходняга боку (мал. 1). Культурны пласт цягнецца паласой шырынёй 8 — 10 м уздоўж краю пляцоўкі, а ў паўднёва-заходняй яе частцы ён практычна адсутнічае. Гэта вызначыла канфігурацыю раскопаў, якімі былі цалкам даследаваны паўднёвы і ўсходні краі пляцоўкі (да самага ўезду на гарадзішча).

Стратыграфія напластаванняў:

1. Дзёран таўшчынёй 0,05 — 0,08 м.
2. Глебавы пласт (шэрая або шэра-рудая супесь магутнасцю ад 0,1 да 0,62 м). У накірунку да цэнтра пляцоўкі таўшчыня пласта памяншаецца. У глебавым пласце залягае досыць шмат знаходак.
3. Культурны пласт (чорная або чорна-рудая супесь), магутнасцю да 0,24 —0,48 м, які прасочваецца не ўсюды, а пераважна каля самых краёў пляцоўкі.
   Далей ад краю гэты пласт адсутнічае, і глебавы пласт залягае непасрэдна на мацерыку. Культурны пласт найбольш багаты на знаходкі.
4. Мацярык (шчыльны вохрыста-белы пясок ці супесь). У некаторых месцах паміж мацерыком і культурным пластам ці мацерыком і глебавым пластам прасочваецца перадмацерыковы прапластак (светларудая супесь) магутнасцю да 0,3 м. Агульная глыбіня ад дзённай паверхі да мацерыка дасягае 0,6 — 0,85 м, і толькі дзе-нідзе — да 1,0 м.

У шэрагу месцаў, бліжэй да краю пляцоўкі, выяўлены вуголле і рэшткі згарэлых бярвенняў. Каля паўднёва-ўсходняга краю пляцоўкі ўдалося прасачыць часткі адной і той жа прамой сцяны, даўжынёй ня менш 21 м, якая была скіравана па восі паўднёвы захад — паўночны ўсход. Дзе-нідзе ляжалі кавалкі згарэлых бярвенняў, перпендыкулярных доўгаму бервяну. Такім чынам, можна казаць пра рэшткі згарэлых драўляных




**Мал.1.**
*План гарадзішча Радагошча з абрысамі раскопаў.*




**Мал.2.** *Радагошча. План раскопаў з рэшткамі згарэлых драўляных канструкцый і камянёў ад агменяў.*

збудаванняў, магчыма, нават існаванне так званага доўгага дома. Ля паўночна-ўсходняга краю пляцоўкі згарэлыя бярвенні ішлі ў накірунку паўночны захад — паўднёвы ўсход, а каля ўсходняга краю накірунак іх размяшчэння вызначыць не ўдалося (мал. 2 ). У паўночна-ўсходняй частцы пляцоўкі паралельна вонкавай лініі бярвенняў у паасобных месцах траплялася вуголле ад другой лініі сцен, якая знаходзілася ад першай на адлегласці 2,5 — 3 м, што можа сведчыць пра шырыню мяркуемага доўгага дома. У паасобных месцах трапляюцца скапленні невялікіх абпаленых камянёў і кавалкі глінянай абмазкі.

Масавы матэрыял складаецца з 2607 абломкаў глінянага посуду, якія можна падзяліць на некалькі груп. Самымі раннімі з'яўляюцца 4 невялікія абломкі керамікі неаліту ці эпохі бронзы. Больш шматлікая — група ляпной штрыхаванай керамікі (458 фрагментаў, у тым ліку 41 фрагмент венчыкаў) (мал.3:1—20).Найбольш часта штрыхаваная кераміка сустракаецца ў перадмацерыковым прапластку і ў ніжняй частцы




**Мал.3.** *Штрыхаваная кераміка з Радагошчы.*

культурнага пласту. Колер посуду — ад жаўтавата-вохрыстага да буравата-шэрага, у цесце прасочваецца дамешак пяску і дробнай жарствы. Часам у зломе штрыхаваная кераміка ў выніку абпалу суцэльнага цёмнага колеру. Штрыхоўка наносілася з абодвух бакоў, як у вертыкальным, так і ў гарызантальным накірунку. Вонкавы дыяметр пасудзін па венчыку быў ад 17 — 22 да 28 см. Сярод штрыхаванай керамікі трапляюцца рабрыстыя формы і фрагменты з зашчыпамі на плечыках або непасрэдна на тулаве. Залягала штрыхаваная кераміка пераважна ў ніжняй частцы культурнага пласту, асабліва на мацерыку, дзе прасочваецца прапластак з фрагментамі гэтай разнавіднасці посуду. Прынята лічыць, што рабрыстая кераміка са штрыхоўкай датуецца першымі стагоддзямі нашай эры, а верхняя храналагічная мяжа яе не можа быць пазней за IV — пачатак V ст., калі заканчвае існаванне культура штрыхаванай керамікі. Зрэшты, на поўдні Беларускага Панямоння, куды адносіцца Навагрудчына, гэта культура магла знікнуць яшчэ раней.

Хаця насельніцтва культуры штрыхаванай керамікі па прычыне застойнага характару гаспадаркі, свайго знаходжання ў глыбіні лясной зоны, аддаленасці ад марскіх шляхоў зносін, і не мела асабліва ажыўленых сувязяў з тагачаснымі цэнтрамі цывілізацыі, якія размяшчаліся пераважна вакол Міжземнага мора, пэўныя кантакты з паўднёвымі краінамі ўсё ж існавалі. Так, пры раскопках Радагошчы сярод іншых рэчаў трапілася шкляная вочкавая пацерка, паласатая з жоўтымі вочкамі. Па вызначэнню даследчыцы гісторыі шкларобства Т. С. Скрыпчанка, такія пацеркі паходзяць з Блізкага Усходу (асабліва Сірыі) і датуюцца III — IV стст.

Існаванне такой магутнай і высокаразвітай (па тагачасных мерках) дзяржавы, як Рымская імперыя, знайшло сваё археалагічнае адлюстраванне ў распаўсюджанні на землях “варварскіх” плямёнаў шматлікіх старажытнарымскіх рэчаў, уключаючы ўпрыгожанні і манеты з каштоўных металаў. Як сведчыць храналогія распаўсюджання рымскіх манет на тэрыторыі суседняй Польшчы, пік іх пранікнення прыпадае на II стагоддзе, пазней у сувязі з аслабленнем імперыі колькасць такіх імпартаў змяншаецца. Скарбы рымскіх манет вядомыя і на абшарах Наваградчыны. Так, паблізу в. Купіск Любчанскага пасялковага савета знойдзены срэбны дэнарый імператара Траяна, чаканены паміж 103 і 111 гг.н.э. З в. Вераскава ці з яе ваколля паходзяць чатыры манеты. Адна з іх — срэбны дэнарый імператара Марка Ульпія Траяна (чаканены ў Рыме паміж 112 і 117 гг.), другая — срэбны дэнарый імператара Каммода (год чаканкі — 192), трэцяя — бронзавая манета імператара Аўрэліяна з надпісам на грэчаскай мове, чаканена ў 274 г. у Александрыі (Егіпет). Чацвёртая манета была фальшывай, літай і нагадвае сабой манету імператара Дыяклетыяна (правіў у 284 — 305 гг.). З в. Кашалёва (цэнтр сельсавета) паходзяць адзінаццаць срэбных манет, у тым ліку дзве — імператара Антаніна Пія (правіў у 138 — 161 гг.), дзве — Марка Аўрэлія (гады праўлення — 161 — 180) і адна — Септымія Севера (193 — 211 гг.). У ваколіцах в. Каменка Кашалёўскага сельсавета яшчэ ў 1873 г. быў выяўлены грашова-рэчавы скарб, які складаўся з 21 срэбнага рымскага дэнарыя і пяці іншых рэчаў. Манеты былі наступны імператараў: дзве Траяна (98 — 117 гг.), дзве Адрыяна (117 — 138 гг.), пяць Антаніна Пія (138 — 161 гг.), пяць Марка Аўрэлія (161 — 170 гг.), пяць Каммода (180 — 192 гг.), і тры манеты аказаліся нявызначанымі. Акрамя манет, у складзе скарбу яшчэ меліся срэбныя грыўня вагай 97 грамаў і чатыры колцы з прывескамі на некаторых з іх. Як мяркуе расійскі даследчык В. В. Крапоткін, усе рэчы скарбу разам з манетамі трапілі ў Беларусь з Паўночнага Прычарнамор’я ў канцы II ст., пасля 192 г.[4].

Хаця паблізу месцаў знаходкі рымскіх манет пакуль не вядомыя паселішчы першых стагоддзяў нашай эры, усё ж варта зыходзіць з таго, што гэтыя скарбы, безумоўна, былі схаваныя не за дзесяткі кіламетраў ад існаваўшых тады паселішчаў, а значна бліжэй. Значыць, тэрыторыя Навагрудчыны тады была заселена гусцей, чым можна дапускаць па размяшчэнню археалагічных помнікаў, і адсюль вынікае, што многія паселішчы культуры штрыхаванай керамікі яшчэ проста не выяўлены.

[4] Побаль Л. Скарбы Наваградчыны.//Памяць. Навагрудскі раён. Мінск, 1996, с. 27 — 31.

# Наваградчына ў другой палове І тысячагоддзя н.э.

## З'яўленне славян

Знікненне культуры штрыхаванай керамікі адбылося ў перыяд, які прынята называць Вялікім перасяленнем народаў (цягнуўся з IV да VI стст.н.э.).

У гэты перыяд карэнным чынам змянілася этнічная карта Еўропы. Шматлікія германскія плямёны засялілі значную частку прастораў разгромленай імі Заходняй Рымскай імперыі. У сваю чаргу ранейшую тэрыторыю гэтых плямёнаў занялі іншыя народы, у тым ліку славяне. Шматлікія зрухі насельніцтва адбыліся і ва Усходняй Еўропе, дзе яны ў пэўнай меры былі выкліканы з'яўленнем у стэпавай паласе качэўнікаў-гунаў, якія прывандравалі з усходу, ад межаў Кітая.

У паўночна-заходнюю частку арэала былой культуры штрыхаванай керамікі пранікае заходнебалцкае насельніцтва, і ў выніку змешвання яго з мясцовым жыхарствам утварылася культура ўсходнелітоўскіх курганоў. На астатняй тэрыторыі, дзе раней жылі "штрыхавікі", пад уздзеяннем уплываў з Падзвіння і Падняпроўя ўзнікла банцараўская культура, насельніцтва якой большасць даследчыкаў лічыць па этнічнай прыналежнасці, як і папярэдняе, балцкамоўным.

На тэрыторыі Наваградчыны да пачатку другой паловы І тысячагоддзя адносіцца, хутчэй за ўсё, гарадзішча ва ўрочышчы Замак, якое знаходзіцца за 1 км на захад ад в. Байкі Ладзеніцкага сельсавета. Праўда, раскопкі на гэтым помніку яшчэ не праводзіліся. Прыблізна да таго ж або больш позняга часу належыць і гарадзішча на ўзгорку Хума (Кума), размешчаным за 0,7 — 1 км на поўдзень ад в. Басіна Уселюбскага сельсавета. Гарадзішча мае круглую пляцоўку дыяметрам 10 м, з усіх бакоў абкружаную валам вышынёй каля 2 м. Нават можна дапусціць, што такая маленькая пляцоўка выкарыстоўвалася не для размяшчэння сталага паселішча, а служыла ў культавых мэтах.

Пасля некаторага перапынку, выкліканага знікненнем культуры штрыхаванай керамікі, аднавілася жыццё на гарадзішчы каля в. Радагошча. Стратыграфічна вышэй за прапластак з абломкамі штрыхаванага посуду знойдзена невялікая колькасць (14 фрагментаў, у тым ліку 1 венчык) так званай шурпатай, ці "аблітай" керамікі, якая тут з'явілася магчыма пад уздзеяннем уплываў з тэрыторыі цяперашняй Літвы. Колер "аблітай" керамікі ад светлабурага да цёмнашэрага, у цесце прыкметны дамешак жарствы. Зусім невялікую групу (9 фрагментаў) складаюць абломкі посуду з расчосамі на вонкавай паверхні. Расчосы рабіліся адмысловым штампам, адбіткі якога нагадвалі ўзоры ад вельмі частага грабянца. Астатняя паверхня гэтага посуду дастаткова гладкая, цеста шчыльнае, з замешкам пяску. Колер керамікі шэры ці жаўтавата-шэры.

З сярэдзіны І тысячагоддзя н.э. на поўдні Беларусі з'яўляюцца першыя несумненна славянскія помнікі, прадстаўленыя пражскай археалагічнай культурай. На працягу другой паловы І тысячагоддзя адбываецца паступовае распаўсюджанне славян на поўнач, і выцясненне ці асіміляцыя імі ранейшых балцкамоўных насельнікаў. На тэрыторыі Гарадзеншчыны гарадзішча Радагошча з'ўляецца самым раннім помнікам, які належаў славянам. Прышэльцы (ці асіміляваныя мясцовыя тубыльцы) карысталіся ляпным гладкасценным посудам (пры раскопках гарадзішча яго знойдзена 1786 абломкаў, у тым ліку 169 фрагментаў венчыкаў) (мал.4:1—28). У цесце прыкметна дамешка пяску ці жарствы. Паверхня посуду досыць грубая, шурпатая, на частцы фрагментаў паверхня мае дробныя трэшчыны, якія ўтварыліся пры абпале. Колер паверхні ад жоўта-шэрага да цёмнашэрага. Таўшчыня сценак у большасці выпадкаў ад 0,8 да 1,5 см. Некаторыя пасудзіны падпраўлены на ганчарным коле. Сярод ляпной гладкасценнай керамікі выдзяляецца падгрупа фрагментаў цёмнай афарбоўкі, тоўстых, паверхня якіх патрэсканая і нават трохі ўздзьмутая, таму што моцна перагарэла ў агні, больш лёгкая па ўдзельнай вазе. Пераважная большасць абломкаў ляпной гладкасценнай керамікі неарнаментаваныя, але трапляюцца і фрагменты з арнаментамі. Арнамент найчасцей складаўся з прачэрчаных па плечыку трайных гарызантальных барознаў, зробленых падабенствам вузкага грабянца, а так-




**Мал.4.** *Ляпная гладкасценная кераміка з Радагошчы.*

сама “хваляў” або ламаных ліній, ці трайных прачэрчаных ліній, якія перакрыжоўваюцца. Зрэдку трапляліся фрагменты, якія мелі арнамент з касых насечак на зрэзе венчыка або на плечыку. Вонкавы дыяметр пасудзін па венчыку быў у большасці 15 — 32 см. Тры пасудзіны з Радагошчы ўдалося рэканструяваць. Адна з іх досыць прыземістая, яе дыяметр па вонкаваму краю венчыка — 12,4 м, у месцы найбольшага расшырэння тулава — 13,8 см, па донцу — 10,0 см, вышыня гэтага гаршчка — 1,7 см. Плечыка пакатае, венчык адагнуты слаба. Яшчэ больш пакатае плечыка і слаба выдзелены венчык у другой пасудзіне, якая аднак, і больш выцягнута ў вышыню . Гаршчок мае дыяметр па вонкаваму краю венчыка 18,0 см, у месцы найбольшага пасшырэння тулава — 19,0 см, па донцу — 12,0 см, шырыня пасудзіны — 19,6 см. Край венчыка досыць няроўны.

Арнамент у выглядзе трайных гарызантальных барознаў, ламаных ліній і хвалісты быў досыць шырока распаўсюджаны на позняй ляпной кераміцы ў той частцы Еўропы, якая знаходзіцца на ўсход ад р. Эльбы. У прыватнасці, у канцы I тысячагоддзя н.э. посуд з падобным арнаментам з’явіўся на гарадзішчах і селішчах Эстоніі[5]. Вельмі распаўсюджаны быў арнамент з хваляў і гарызантальных барознаў на посудзе менкендорфскага і грос-радэнскага тыпаў з тэрыторыі Мекленбурга (у сучаснай Германіі), заселенага ў раннім і развітым сярэднявеччы палабскімі славянамі. Такая кераміка там датуецца IX — X стст.[6] Аналагічны арнамент вядомы на ляпной кераміцы славянскай культуры тыпу Лукі-Райкавецкай[7]. Арнамент ляпной керамікі з Радагошчы мае значнае падабенства з арнаментам на раннім ганчарным посудзе з такіх паселішчаў гэтай культуры, як Цецераўка, Шумск або Хотамель[8]. Верх ляпнога посуду культуры тыпу Лукі-Райкавецкай стаў падпраўляцца на ганчарным коле ў IX ст., а потым з’явіліся пасудзіны, і цалкам зробленыя на коле[9].

Самую познюю і адносна нешматлікую (331 фр.) групу складаюць абломкі ганчарнага посуду, храналагічны дыяпазон якой дастаткова шырокі — ад X — XI стст. і да позняга сярэднявечча ўключна. Такая кераміка залягала пераважна ў верхняй частцы глебавага пласту.

Акрамя фрагментаў посуду, керамічныя вырабы прадстаўлены таксама праселкамі. Пераважная большасць з іх (12 экз.) маюць усечана-біканічную форму і адно — шпулепадобную. Два праселкі арнаментаваныя. Адно з іх па біканічных паверхнях накрыта наразным арнаментам, які ўтварае своеасаблівую заштрыхоўку. Падобныя праселкі вядомыя ва ўсходнелітоўскіх курганах, напрыклад, у курганнай групе Грыгішкес Тракайскага раёна[10].Другое праселка па біканічных паверхнях арнаментавана наколамі, якія ўтвараюць вертыкальныя палосы . З аднаго боку біконуса палічваецца 11 палосаў, а з другога — 12, што можа мець адносіны да каляндарнай сімволікі.

Вырабы з жалеза(мал.5:1—16) прадстаўлены сякерай, цяслом, наканечнікамі стрэл, некаторымі дэталямі касцюма, а таксама больш дробнымі прадметамі або іх цяжкавызначальнымі рэшткамі. Сякера (мал.5:16 ) мае даўжыню 18 см, а максімальную шырыню — 6,5 см. Яна ляжала ў раскопе на глыбіні 0,42 — 0,45 см. У ніжняй частцы абушковай адтуліны было вуголле, якое адсутнічала ў верхняй частцы. Значыць, тапарышча згарэла, і нават часткова ў адтуліне. Сякера можа адносіцца да катэгорыі ці баявых, ці універсальных. Яе магчыма аднесці да тыпу V (паводле А. М. Кірпічнікава), які датуецца X — XII стст. На карысць X ст сведчыць тое, што адтуліна ў абуху мае не круглую, а авальную форму[11] (Кирпичников, 1966. Значыць, пажар гарадзішча адбыўся

[5] Аун М.Археологические памятники второй половины I-го тысячелетия н.э. в Юго-Восточной Эстонии.Таллинн, 1992, табл. XI, с. 50 — 51, 68.

[6] Schuldt E. Groß Raden 1985.Ein slawischen Tempelort des 9./10.Jahrhunderts in Mecklenburg.Berlin,1985. Abb. 88 — 90, Abb. 147, Tafel 26 — 33.

[7] Гончаров В.К. Лука Райковецкая. // Материалы и исследования по археологии СССР. М. 1963, с. 310; Русанова И.П., Славянские древности VI — IX вв. между Днепром и Западным Бугом. // Свод археологических источников. М., 1973, с. 14, табл. 23, 8.

[8] Русанова И.П., Славянские древности VI — IX вв. между Днепром и Западным Бугом. // Свод археологических источников. М., 1973, табл. 29.

[9] Седов В.В. Восточные славяне в VI — XIII вв. М.: Наука, 1982, — Археология СССР. с.91.

[10] Tautavičius A. Vidurinis geležies amžius Lietuvoje(V—IXa.). Vilnius,1 1996, p. 124, 88 pav., 1.

[11] Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Выпуск второй. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX — XIII вв. 1966.

ў X ст., і пасля гэтага яно перастала функцыянаваць. Даўжыня ацалелай часткі цясла — 14 см, шырыня ляза — 4,4 см, адтуліна абуха звужаецца ў ніжняй частцы (мал.5:15 ). Згодна дадзеных металаграфічнага аналізу ляза цясла (аналіз праводзіўся доктарам гістарычных навук М. Ф. Гурыным, якому аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць), прылада зроблена з крычнага жалеза з нізкавугляродзістымі зонамі, аднак метал можа характарызавацца як якасны.

З дэталяў узбраення маецца 11 больш-менш непашкоджаных наканечнікаў стрэл , 6 утулак і 1 вастрыё наканечніка з шыпамі(мал.5:1—16). Даўжыня наканечнікаў была да 6,4 м, "размах" шыпоў — да 2,4 см, вонкавы дыяметр утулкі — 1,0 — 1,1 см. Наканечнікі стрэл і іх часткі залягалі на розных глыбінях — ад пласта I да пласта III уключна. Усе наканечнікі адносяцца да тыпу двухшыпных утулкавых. Наканечнікі такога тыпу ўпершыню сустракаюцца ў II — IV стст., а паўторна з'явіліся ў раннім сярэднявеччы. У Беларусі, Літве, Латвіі, Эстоніі яны часта трапляюцца ў культурных пластах




**Мал.5.** *Жалезныя вырабы з гарадзішча Радагошча.*

гарадзішчаў, селішчаў і гарадоў[12]. Таксама маюцца 2 абломкі серпападобных прыладаў, лязо рубячай прылады, частка масіўнай прылады, падобная на абух, і зробленая з бляхі прылада з адтулінай пасярэдзіне. З жалеза былі зроблены спражка рэменя (мал.5:14) і акулярападобныя раздзяляльнікі ўпрыгожанняў (мал.5:10—12).

На глыбіні 0,6 м ад дзённай паверхні былі знойдзены 2 закругленыя, паўкруглыя ў сячэнні канцы бранзалета, спаяныя з 3 металічных дроцікаў, якія далей ад канца былі сплецены, а таксама адламаныя кавалкі дроцікаў . На думку вядомай даследчыцы па сярэднявечнай біжутэрыі, праф. Х. Кёчка-Крэнц (Познаньскі універсітэт імя А. Міцкевіча), аналагічныя бранзалеты, якія датуюцца хутчэй за ўсё XI ст., выяўлены ў Бужыску на Беласточчыне і ў Бродзікаве недалёка ад Ольштына. Візуальна гэтыя 3 дроцікі здаюцца адпаведна залатым, срэбным і медным, сляды карозіі адсутнічаюць. Але рэнтгенафлуарэсцэнтны аналіз паказаў, што адзін дроцік цалкам медны, другі складаецца са сплаву медзі ($CuH_2$) — 88 %, цынку ($ZnH_2$) — 9 % і нікелю ($NiH_2$) — 3 %, а трэці — з медзі, у якой прысутнічала невялікая дамешка цынку (вызначэнне зроблена ў лабараторыі актывацыйнага аналізу Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў НАНБ К. І. Янушкевічам і А. М. Ігуменцавым, якім аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць). Такі ж аналіз закругленых канцоў бранзалета паказаў, што яны зроблены са сплаву медзі (89 — 90 %) і цынку (8,3 — 11 %), мелася таксама невялікая дамешка (1,4 — 1,7 %) нікелю. У светлай частцы закругленага канца колькасць нікелю ўзрастала да 12 %, а цынку — да 18 %, жоўтая частка складалася з медзі (63 %) і цынку (37 %) (вызначэнне рабілася на прыборы “Прим-1РМ” у цэнтральнай лабараторыі Дзяржаўнага мытнага камітэта Рэспублікі Беларусь супрацоўнікам Г. М. Клаўсуцем, якому аўтар выказвае сваю ўдзячнасць).



**Мал.6.** *Скарб бранзалетаў з Радагошчы.*

З усіх знаходак Радагошчы найбольшую цікавасць уяўляе скарб, які патрапіўся ў раскопе 1989 г. (усходні край пляцоўкі) на мацерыку пад культурным пластом з чорна-шэрай супесі (на глыбіні 0,6 м ад дзённай паверхні). Скарб складаўся з 7 цэлых бранзалетаў і абломкаў яшчэ 3 бранзалетаў (мал.6:1—5; мал.7:1—8), якія ляжалі разам, некаторыя былі зачэплены адзін за другі. Рэнтгенарадыёметрычны аналіз металу засведчыў, што бранзалеты зроблены з алавяністай бронзы. Даўжыня большасці бранзалетаў у разгорнутым стане — 16,6 — 16,8 см, толькі адзін меў даўжыню 18,9 см. Бранзалетам шляхам згінання была нададзена авальная форма, з чаго можна зрабіць выснову, што насіліся яны на запясцях рук і хутчэй за ўсё жанчынай. Бранзалеты

[12] Казакявичюс В. Оружие балтских племен II — VIII веков на территории Литвы. Вильнюс, 1988, с. 73 — 74

звужаныя пасярэдзіне (шырыня — ад 0,6 да 0,8 см) і расшыраныя на канцах (ад 0,8 да 1,1 см). У большасці суадносіны паміж шырынёй сярэдзіны і шырынёй канцоў як 2:3. Большасць бранзалетаў мела папярочнае сячэнне паўавальнай формы, з плоскай унутранай паверхняй, і як правіла, з плоскімі гарызантальнымі гранямі. Толькі ў двух вырабаў, з падоўжанымі двайнымі баразнамі на вонкавай паверхні, сячэнне было набліжана да чатырохкутнага . На ўсіх бранзалетах з вонкавага боку нанесены арнамент. У большасці з іх ён складаўся з папярэчных насечак, згрупаваных па 5 на канцах бранзалетаў і па 4 — на адлегласці 4,0 — 4,5 см ад канцавых насечак . За выключэннем 2 цэлых бранзалетаў і 4 абломкаў, паміж гэтымі групамі насечак маецца яшчэ дадаткоы арнамент, які адсутнічае, аднак, па цэнтральнай частцы вырабаў. Арнамент нанесены гравіроўкай і складаецца з узораў, па форме нагадваючых кароткія стрэлкі з кружочкамі пасярэдзіне або ромбікі з чатырохкутнікамі па баках . У апошнім выпадку прастора паміж гэтымі 3 шэрагамі гравіроўкі ўтварае ўзор у выглядзе рамбічных клетачак, што судакранаюцца паміж сабой вуглаімі, бліжэй да канцоў ад яго ў кірунку насечак разыходзіцца ў два бакі ўзор з дробных кропак. У двух бранзалетаў з чатырохкутным сячэннем паралельныя баразны мелі арнамент з выпуклых кружочкаў, які адсутнічае ў цэнтральнай частцы.

Бранзалеты з расшыранымі канцамі былі досыць шырока распаўсюджаны ў I — пачатку II тысячагоддзя н.э. на тэрыторыі паміж Віслай і Волгай. Магчыма, іхнімі генетычнымі папярэднікамі трэба лічыць бранзалеты з патоўшчанымі канцамі, якія мелі круглае сячэнне і з'явіліся ў Літве ўжо IV — V стст. Прадметы скарбу з Радагошчы належаць да катэгорыі стужкавых бранзалетаў з расшыранымі канцамі, якія былі распаўсюджаны ў VIII—XIII стст. У Літве яны выяўлены больш чым на 5 дзесятках помнікаў, у колькасці ад 1 — 2 да 9 — 10 экз. на кожным. Распаўсюджаны былі такія бранзалеты на ўсёй тэрыторыі Літвы, за выключэннем Занямоння, дзе яны амаль адсутнічаюць[13]. Але рэчам скарбу з Радагошчы найбольш блізкія па характару бранзалеты з жаночых пахаванняў у курганах усходнелітоўскага тыпу, якія даследаваліся каля вв. Грыгішкес (Няравай), Саусяй Тракайскага і Памусіс Варэнскага раёнаў Літвы[14]. Бранзалеты са згаданых помнікаў маюць прыблізна такія прапорцыі расшырэння ад сярэдзіны да канцоў,



**Мал.7.** *Скарб бранзалетаў з Радагошчы.*

[13] Lietuvos TSR archeologijos atlasas, 1978, p. 101 — 103, 148, zemel. 59,2.

[14] Kuncienė O. Sausių (Traku raj.) pilkapiai. // Lietuvos TSR Mokslų akademijos darbai. A serija, 1971. T. 1 (35). 8 pav. 1 — 3, p. 81 — 84; Kuncienė O. Pamusio (Varenos raj.) pilkapiai. // Lietuvos TSR Mokslų akademijos darbai. A serija, 1973. T. 2 (43). 7 pav. 1, 3, p. 115 — 116, 121 — 122; Kuncienė O. Grigiškių (Neravų, Traku raj.) pilkapyno radiniai (2. Papuošalai). // Lietuvos TSR Mokslų akademijos darbai. A serija, 1983T. 1 (82). 4 pav, 3, 5, 7, p. 55.

як і аналагічныя прадметы з Радагошчы, а таксама ім характэрныя паўавальнае сячэнне, арнамент з насечак на канцах і часткова каля цэнтральнай часткі. Бранзалеты з Грыгішкес О. Кунцэне датавала VIII — X стст. з Памусіс — VIII — IX, а з Саусяй — IX — X стст.. Магчыма, ім блізкія рэчы з Бевандзянішкес (Тракайскі раён), якія адносяцца да IX — XI стст.[15] Па аналогіі з літоўскімі знаходкамі бранзалеты са скарбу ў Радагошчы таксама павінны быць аднесены да прамежку часу паміж VIII і X стст.

Сярод іншых упрыгожанняў варта адзначыць 3 шкляныя пацеркі. Дзве з іх — двухчленныя , зроблены са светлазялёнага шкла. Трэцяя зроблена з сіняга шкла, яна тонкае, сплошчанай формы і адносіцца да разраду зонных. Пацеркі абодвух гэтых тыпаў былі распаўсюджаны ў X — XI стст.[16] (Щапова, 1956, с. 167 — 176).

На глыбіні 0,4 — 0,6 м ад дзённай паверхні патрапілася вуглепадобная маса, якая аказалася зернем рыжака пасяўнога, што спяклося. Рыжак пасяўны (Camelina sativa) — гэта аднагадовая травяністая расліна сямейства крыжакакаватых, вядомая ў якасці алейнай (у насенні 25 — 46 % харчовага і тэхнічнага алею), кармавой і лекавай расліны. Расце звычайна як пустазелле ў пасевах ільну на паўднёвым захадзе Беларусі. У некаторых краінах рыжак пасяўны культывуецца (вызначэнне зроблена Дз. І. Траццяковым, ст.н.с. Інстытута батанікі НАНБ, канд. біялагічных навук, якому аўтар выказвае шчырую ўдзячнасць).

Такім чынам, археалагічныя матэрыялы сведчаць, што большая частка знаходак з гарадзішча Радагошча адносіцца да VIII — X стст. Кераміка гэтага перыяду належыць да славянскай культуры тыпу Лукі-Райкавецкай, але стужкавыя бранзалеты са скарбу маюць бліжэйшыя аналогіі ва ўсходнелітоўскіх курганах, што сведчыць пра пэўныя кантакты (мірныя ці ваенныя) з балцкім насельніцтвам. Хаця пры раскопках знойдзена некаторая колькасць ганчарнай керамікі, тым ня менш яна досыць розначасовая і ня сведчыць пра інтэнсіўнае выкарыстанне гарадзішча ў перыяд феадалізму. Рэшткі згарэлых драўляных канструкцый указваюць на тое, што гарадзішча перастала функцыяваць у выніку пажару (дзесьці ў X ст.), магчыма звязанага з мілітарным нападам (знаходкі наканечнікаў стрэл). Па краі пляцоўкі стаяла збудаванне кшталту доўгага дома, якое хутчэй за ўсё выкарыстоўвалася ў грамадскіх і абрадавых мэтах (тыпу кантын у паморскіх славян). Не выключана, што і скарб бранзалетаў з'яўляўся ахвярапрынашэннем. У той жа час на гарадзішчы практычна адсутнічаюць сляды гаспадарча-вытворчай дзейнасці. За выключэннем паласы шырынёй 8 — 10 на ўздоўж краю пляцоўкі, на астатняй, цэнтральнай частцы пляцоўкі культурны пласт адсутнічае. Верагодна, у цэнтры пляцоўкі размяшчаліся культавыя аб'екты.

Прыблізна за 1 км на ўсход ад гарадзішча, налева ад дарогі з Радагошчы ў Валеўку знаходзіцца ўзгорак Бабіна горка, назва якой указвае сувязь з ушанаваннем нейкай багіні, а лог паміж Бабінай горкай і р. Неўда называецца Крашчаніца (магчыма, з'яўляўся месцам хрышчэння язычнікаў). Прыблізна за 4 — 5 км на паўднёвы ўсход ад гарадзішча размешчана возера Свіцязь, якое яшчэ ў канцы XIX ст. ушаноўвалася як святое[17] (Янчук, 1889). Нарэшце сама назва вёскі Радагошча аднайменная з назвай вядомага свяцілішча на тэрыторыі племяннога саюзу люцічаў (у палабскіх славян), якое з'ўлялася месцам ушанавання бога Радэгаста (Сварожыча) і была апісана ў XI ст. Тытмарам Мерзебургскім і Адамам Брэменскім. Усяго на тэрыторыі, дзе ў раннім сярэднявеччы жылі славяне, вядома 40 мясцін з назвамі тыпу Радагошча, Радагошч, Радэгаст, якія трапляюцца на абшарах ад р. Эльбы да вярхоўяў р. Акі і Ладажскага возера. Такую назву носяць вёскі, гара і рэчкі. Гара Radhost' (вышыня 1129 м) у Маравіі (Чэхія) здаўна з'яўляецца традыцыйным месцам святкавання дня летняга сонцастаяння насельніцтвам прылеглай вобласці[18].

---

[15] Кунцене О. Исследование курганов Бевандянишкес (Тракайский район) в 1964 г. // материалы к отчетной конференции археологических и этнографических экспедиций 1964 — 1965 гг. Вильнюс, 1966, с. 14.

[16] Щапова Ю.Л. Стеклянные бусы древнего Новгорода // материалы и исследования по археологии СССР, 1956, № 55, с. 167 — 176.

[17] Янчук Н. . По Минской губернии: (заметки из поездки в 1886 году). М., 1889.

[18] Грацианская Н. Н. Чехи и словаки. // Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Летнее-осенние праздники. М., 1978, с. 187.

## Літаратура


1. Аун М. Археологические памятники второй половины I-го тысячелетия н.э. в Юго-Восточной Эстонии. Таллинн,1992
2. Гончаров В.К. Лука Райковецкая. // Материалы и исследования по археологии СССР. М., 1963, № 108. С. 283 — 315.
3. Грацианская Н. Н. Чехи и словаки. // Календарные обычаи и обряды в странах зарубежной Европы. Летне-осенние праздники. М., 1978. С. 185 — 196.
4. Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М.-Л., 1962.
5. Егорейченко А.А. Культуры штрихованной керамики. Минск, 2006.
6. Казакявичюс В. Оружие балтских племен II — VIII веков на территории Литвы. Вильнюс, 1988.
7. Кирпичников А.Н. Древнерусское оружие. Выпуск второй. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX — XIII вв. М.-Л., 1966.
8. Кунцене О. Исследование курганов Бевандянишкес (Тракайский район) в 1964 г. // Материалы к отчетной конференции археологических и этнографических экспедиций 1964 — 1965 гг. Вильнюс, 1966. С. 13 — 14/
9. Побаль Л. Скарбы Наваградчыны. // Памяць. Навагрудскі раён. Мінск, 1996. С. 27 — 31.
10. Русанова И.П. Славянские древности VI — IX вв. между Днепром и Западным Бугом. // Свод археологических источников. Вып. ЕI-25. М., 1973.
11. Седов В.В. Восточные славяне в VI — XIII вв. М., 1982. — Археология СССР.
12. Тимощук Б.А. Об археологических признаках восточнославянских городищ-святилищ. // Древние славяне и Киевская Русь. Киев, 1989. С. 74 — 83.
13. Щапова Ю.Л. Стеклянные бусы древнего Новгорода. // Материалы и исследования по археологии СССР, 1956, № 55.
14. Янчук Н. По Минской губернии: (заметки из поездки в 1886 году). М., 1889.
15. Cehak-Hołubowiczowa H. Zabytki archeologiczne województwa Wilenskiego i Nowogródzkiego. Wilno, 1936.
16. Kuncienė O. Sausių (Traku raj.) pilkapiai. // Lietuvos TSR Mokslų akademijos darbai. A serija, 1971. T. 1 (35). P. 73 — 83.
17. Kuncienė O. Pamusio (Varenos raj.) pilkapiai. // Lietuvos TSR Mokslų akademijos darbai. A serija, 1973. T. 2 (43). P. 103 — 121.
18. Kuncienė O. Grigiškių (Neravų, Traku raj.) pilkapyno radiniai (2. Papuošalai). // Lietuvos TSR Mokslų akademijos darbai. A serija, 1983. T. 1 (82). P. 49 — 60.
19. Lietuvos TSR archeologijos atlasas. IV. I — XIII a. radiniai. Vilnius, 1978.
20. Schuldt E. Groß Raden. Ein slawischen Tempelort des 9./10. Jahrhunderts in Mecklenburg. Berlin,1985.
21. Tautavičius A. Vidurinis geležies amžius Lietuvoje(V—IXa.). Vilnius,1996.

**В. Лакіза (Мінск)**

# Новыя археалагічныя крыніцы для вывучэння першабытнай гісторыі Навагрудчыны

Тэрыторыю сучаснага Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці з археалагічнага пункта гледжання можна лічыць дастаткова добра даследаваным рэгіёнам. Гісторыі адкрыцця і вывучэння тут разнастайных і розначасовых археалагічных аб'ектаў, якая налічвае звыш ста гадоў, прысвечаны не адзін артыкул і некалькі раздзелаў у асобных манаграфіях[1]. Адзначым толькі, што даследчыкі Навагрудчыны ніколі не пакідалі ў баку ад вывучэння першабытныя помнікі археалогіі – стаянкі і паселішчы, селішчы і гарадзішчы, могільнікі. Гэта стала грунтоўным падмуркам для разумення і аднаўлення тых складаных працэсаў, якія адбываліся ў басейне р. Нёман на працягу некалькі тысяч гадоў у фінальным палеаліце і мезаліце, неаліце, бронзавым і жалезным вяках, для рэканструкцыі матэрыяльнай і духоўнай культуры нашых далёкіх продкаў[2].

Археалагічныя даследаванні на Навагрудчыне працягваюцца і ў пачатку XXI стагоддзі. Яскравым прыкладам гэтаму стала экспедыцыя 2002 года, у выніку якой былі абследаваны і адкрыты дзесяткі археалагічных помнікаў, атрыманы новыя, часам унікальныя крыніцы для вывучэння менавіта першабытнай гісторыі раёна.

Згаданую экспедыцыю можна лічыць незвычайнай для беларускай археалогіі. Па-першае, улічваючы фізіка-геаграфічныя асаблівасці Навагрудскага ўзвышша (наяўнасць лёсападобных глебаў), даследаванні ў гэтым рэгіёне ўпершыню былі накіраваны на пошук помнікаў сярэдняга і верхняга палеаліту, а таксама матэрыялаў, звязаных з неалітычнымі культурамі Цэнтральнай Еўропы (культура лейкападобных кубкаў і культура шарападобных амфар). Па-другое, экспедыцыя складалася са спецыялістаў некалькіх навуковых устаноў: Інстытута гісторыі НАН Беларусі (В.Л. Лакіза), Інстытута археалогіі Варшаўскага ўніверсітэта (В.С. Абухоўскі і група польскіх студэнтаў-археолагаў), Дзяржаўнага археалагічнага музея ў Варшаве (Вітальд Мігаль, Катажына Барска) – гэта значыць яна з'яўлялася комплекснай і міжнароднай. Задачамі археалагічных пошукаў (разведак) на ўзбярэжжах воз. Чарэшля, воз. Свіцязь, на р. Нёман і некаторых яго прытоках былі абследаванне ўжо вядомых з археалагічнай літаратуры помнікаў, а таксама пошук новых аб'ектаў каменнага і бронзавага вякоў[3].

---

[1] Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. Москва-Ленинград, 1962. 222 с.; Гурина Н.Н. Новые данные по каменному веку северо-западной Белоруссии // МИА, 131. 1965. С. 141–203; Чарняускі М.М. Неаліт Беларускага Панямоння. Мінск, 1979. 144 с.

[2] Лакіза В.Л. Старажытнасці позняга неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку Беларускага Панямоння. Мінск: Беларуская навука, 2008. С. 211-213, 237–238.

[3] Абухоўскі В.С., Лакіза В.Л. Археалагічныя даследаванні на тэрыторыі Беларускага Панямоння ў 2002 годзе // Гістарычна-археалагічны зборнік. № 18. Мінск, 2003. С. 262–264.

Вынікі археалагічных даследаванняў 2002 г. уражваюць. Толькі на левабярэжжы р. Нёман былі ўпершыню лакалізаваны і абследаваны 7 першабытных помнікаў каля в. Пудзіна (Пудзіна 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7), 9 новых стаянак каля в. Купіск (Купіск 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9), адкрыты 4 першабытныя стаянкі і 1 сярэдневяковае селішча каля в. Дзяляцічы (Дзяляцічы 1, 2, 3, 4, 5). Новыя першабытныя помнікі былі знойдзены таксама каля в Слабада (Слабада 1) і в. Навашына (Навашына 1). Суцэльнае ж абследаванне ваколіц в. Бор на правабярэжжы р. Нёман папоўніла археалагічную карту Навагрудчыны яшчэ 7 стаянкамі і паселішчамі (Бор 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7). Акрамя таго, новыя археалагічныя матэрыялы ўдалося сабраць на такіх помніках як Любча 1, Любча 4, Чарэшля 2-2а, Чарэшля 3-3а, Чарэшля 5, Чарэшля 6-7, Чарэшля 9а, Валеўка 1, Валеўка 2, Радагошча, Свіцязь 1, Свіцязь 2, Свіцязь 3[4].

Кожны з названых археалагічных помнікаў з'яўляецца па-свойму ўнікальным, са сваёй гісторыяй з'яўлення і развіцця, з толькі для яго характэрным культурным пластом і артэфактамі ў ім. Мы спынімся падрабязна толькі на некаторых з іх, асабліва выяўленых упершыню. Падкрэслім, што ў навуковы зварот праз публікацыю ў дадзеным артыкуле гэтыя археалагічныя крыніцы ўводзяцца ўпершыню.

**Пудзіна 1** – месцазнаходжанне каменнага веку размяшчаецца за паўднёвай ускраінай вёскі побач з лініяй электраперадач на невялікім пясчаным павышэнні на левым беразе р. Крэмушоўка, прытока р. Нёман. Сярод знаходак 2 крамянёвыя адшчэпы, адзін з якіх рэтушаваны.

**Пудзіна 2** – стаянка эпохі мезаліту размяшчаецца праз 0,5 км на паўднёвы-захад ад вёскі на краі левабярэжнай тэрасы р. Нёман. У агаленнях культурнага пласту знойдзены крамянёвы вырабы: адшчэп, 2 пласціны, 2 рэтушаваныя пласціны, цясло, характэрныя для яніславіцкай культуры.

**Пудзіна 3** – стаянка каменнага веку размяшчаецца прыкладна праз 3 км на паўднёвы-захад ад вёскі і праз 1 км ад хутара Бярозаўка перад лініяй электраперадач на левабярэжнай тэрасе р. Нёман, побач з палявой дарогай. На паверхні помніка на плошчы 30 на 40 м знойдзены: 4 крамянёвыя адшчэпы, 3 пласціны, скол падпраўкі пляцоўкі нуклеуса, лускавінка, 3 абломкі, нуклеус шматпляцовачны для пласцін і адшчэпаў.

**Пудзіна 4** –стаянка эпохі неаліту размяшчаецца праз 3,5 км на паўднёвы-захад ад вёскі на левабярэжнай тэрасе р. Нёман вышынёй каля 3–4 м над узроўнем вады, побач з палявой дарогай. На паверхні помніка на плошчы 40 на 100 м выяўлены: 2 крамянёвыя адшчэпы, 3 пласціны, скол падпраўкі пляцоўкі нуклеуса, 3 абломкі, фрагмент пашкоджанай крамянёвай прылады, фрагмент нажа серпападобнага, 2 пласціны са скошанымі рэтушшу канцамі, 2 нуклеусы шматпляцовачныя для адшчэпаў, фрагмент нуклеуса, фрагмент ляпной ранненеалітычнай керамікі дубічайскага тыпу.

**Пудзіна 5** – мезалітычная стаянка размяшчаецца праз 2,6–2,8 км на паўднёвы-захад ад вёскі і праз 0,7–0,9 км амаль на ўсход ад стаянкі Пудзіна 4 на краі левабярэжнай тэрасы р. Нёман побач з палявой дарогай. На паверхні дарогі на працягу 50 м знойдзена вялікая калекцыя разнастайных крамянёвыя вырабаў, сярод якіх: 29 адшчэпаў, 45 пласцін, разцовы скол, 27 лускавінак, 36 абломкаў, рэтушаваны адшчэп, 3 рэтушаваныя пласціны, нуклеус аднапляцовачны для адшчэпаў, нуклеус аднапляцовачны для пласцін, скрабок, скрабач.

**Пудзіна 6** – месцазнаходжанне каменнага веку размяшчаецца прыкладна праз 1,9–2 км на паўднёвы-захад ад вёскі ў накірунку Бярозаўкі на краі левабярэжнай тэрасы (старыцы) р. Нёмана. На ўчастку помніка, які разворваецца, на плошчы каля 20 на 60 м знойдзены: 3 крамянёвыя адшчэпы, пласцінчаты ашчэп, 2 пласціны, 2 абломкі, лускавінка.

**Пудзіна 7** – месцазнаходжанне каменнага веку размяшчаецца праз 1,5 км на паўднёвы-захад ад вёскі на краі левабярэжнай тэрасы р. Нёмана, засаджанай лесам. Сярод сабраных на паверхні артэфактаў маюцца крамянёвыя адшчэп, 4 пласціны і абломак.

[4] Абухоўскі В.С. Справаздача аб археалагічных даследаваннях на Паўночна-Заходняй Беларусі ў 2002 г. / Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Справа № 2029. 42 с.:іл.; Лакіза В.Л. Справаздача аб археалагічных даследаваннях у Паўночна-Заходняй Беларусі ў 2002 г. / Архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Справа № 2003. 49 с.:іл.

**Дзяляцічы 1** – стаянка каменнага веку размяшчаецца праз 2 км на паўднёвы-ўсход ад вёскі на краі невысокай левабярэжнай тэрасы р. Нёман, дзе паміж дарогай Любча – Дзяляцічы і далінай ракі расце лес. Уздоўж ускраіны лесу на палявой дарозе на працягу 0,3–0,4 км знойдзены крамянёвыя артэфакты: 3 пласціны, лускавінка і нуклеус аднапляцовачны для пласцін.

**Дзяляцічы 2** – шматкультурная стаянка фінальнага палеаліту і эпохі неаліту размяшчаецца праз 1,5 км на паўднёвы-ўсход ад вёскі на ворным полі паміж дарогай Любча – Дзяляцічы і вузкай паласой лесу, якая аддзяляе край тэрасы ад даліны р. Нёман. На паверхні помніка на плошчы каля 50 на 100 м сабрана значная калекцыя разнастайных крамянёвых артэфактаў: 7 адшчэпаў, 6 пласцін, 2 абломкі, 5 лускавінак, скол падпраўкі пляцоўкі нуклеуса, рэтушор, рэтушаваны адшчэп, 3 рэтушаваныя пласціны, 2 разцы рэтушных бакавых на пласцінах, скрабок-разец (мал. 1: 6, 7).

**Дзяляцічы 3** – стаянка фінальнага палеаліту і эпохі неаліту размяшчаецца прыблізна праз 1,3 км на паўднёвы-ўсход ад вёскі і праз 0,1 км на захад ад станкі Дзяляцічы 2 на ворным полі, якое з захаду ад даліны р. Нёман аддзяляе невялікі лес з разбураным дотам. На паверхні помніка на плошчы каля 30 на 60 м. знойдзены: 5 крамянёвых адшчэпаў, нуклеус перароблены на здвоены рэтушны разец, скрабок канцавы на адшчэпе, здвоены скрабок, фрагмент ляпной арнаментаванай ранненеалітычнай керамікі дубічайскага тыпу.

**Дзяляцічы 4** – шматкультурная стаянка мезаліту, эпохі неаліту і бронзавага веку размяшчаецца праз 1 км на паўночны-захад ад вёскі пры ўпадзенні р. Бярэзіна ў р. Нёман на высокай (да 10 м над поплавам) дзюне, якая засаджана лесам. На на краі дзюны, якая падмываецца ракой, знойдзена шматлікая калекцыя археалагічных артэфактаў: 8 крамянёвых адшчэпаў, 5 пласцін, 6 лускавінак, 3 абломкі, медыяльная частка рэгулярнай пласціны (укладыш), скрабок канцавы на пласціне, цясло з масіўнага абломка, фрагмент нарыхтоўкі біфацыяльнай прылады, 23 фрагменты ляпной керамікі нёманскай неалітычнай культуры.

**Слабада 1** – стаянка мезаліту і эпохі неаліту размяшчаецца праз 1 км на паўночны-захад ад вёскі ў накірунку Любчы, з левага боку ад дарогі на мысападобным выступе тэрасы р. Нёман праз 0,2 км на захад ад лесу. На ўчастку помніка, які разворваецца, на плошчы каля 50 на 30 м знойдзены: фрагмент крамянёвай пласціны, адшчэп рэтушаваны, цясло.

**Навашына 1** – стаянка каменнага веку размяшчаецца на захад ад паўднёвага канца вёскі на разараным полі. На паверхні помніка на плошчы каля 300 на 100 м знойдзены: 4 крамянёвыя адшчэпы і адна праколка на адшчэпе.

**Купіск 1** – стаянка каменнага веку размяшчаецца праз 0,7–0,8 км на паўночны-захад ад паўночнай ускраіны вёскі (за могілкамі) і праз 1 км на захад ад палявой дарогі, якая цягнецца ўздоўж левага берагу р. Нёман. Яна займае дзюну на ўскрайку лесу памерамі каля 200 м. На паверхні помніка знойдзены: 4 адшчэпы, пласцінчаты адшчэп, 3 мезалітычныя пласціны, 2 лускавінкі, 2 абломкі, 2 рабрыстыя пласціны, рэтушаваны адшчэп, нуклеус аднапляцовачны для адшчэпаў бронзавага веку.

**Купіск 2** – шматкультурная стаянка фінальнага палеаліту, мезаліту і эпохі неаліту размяшчаецца праз 0,8 км амаль на поўнач ад вёскі на невялікай дзюне, якая знаходзіцца побач з лініяй электраперадач і палявой дарогай, якая цягнецца ўздоўж левага берагу р. Нёман ад вёскі ўніз па цячэнню ракі. На помніку сабрана калекцыя крамянёвых артэфактаў: 17 адшчэпаў, 10 пласцін, скол падпраўкі пляцоўкі нуклеуса, 8 лускавінак, 10 абломкаў, нуклеус аднапляцовачны ад пласцін, пласціна, адбітая з двухпляцовачнага монафрантальнага фінальнапалеалітычнага нуклеуса, рэтушаваная пласціна, разец рэтушны бакавы на адшчэпе, фрагмент крамянёвай сякеры шліфаванай, перароблены на чарапахападобны нуклеус для адшчэпаў.

**Купіск 3** – стаянка каменнага веку размяшчаецца праз 0,85 км амаль на поўнач ад вёскі і праз 0,02–0,05 км ад стаянкі Купіск 2 на невялікай дзюне, якая знаходзіцца побач з палявой дарогай, што цягнецца ўздоўж левага берагу р. Нёман. На помніку знойдзены: 11 адшчэпаў, пласцінчаты адшчэп, 14 пласцін, 7 лускавінак, 9 абломкаў,

2 нуклеуса шматпляцовачныя для пласцінчатых адшчэпаў, 2 лушчні, 2 рэтушаваныя адшчэпы, 2 рэтушаваныя пласціны, наканечнік стралы, цясло, 3 дробныя фрагменты ляпной керамікі позняга неаліту ці бронзавага веку (мал. 1: 8, 9).

**Купіск 4** – стаянка каменнага веку размяшчаецца праз 0,9 км амаль на поўнач ад паўночнай ускраіны вёскі і праз 0,05 км ад стаянкі Купіск 3 на невялікім пясчаным павышэнні побач з палявой дарогай, якая цягнецца ўздоўж левага берагу р. Нёман. На помніку сабрана вялікая колькасць крамянёвых вырабаў: 28 адшчэпаў, 2 пласцінчатыя адшчэпы, 25 пласцін, разцовы скол, 2 лушчні, 4 лускавінкі, 21 абломак, 2 нуклеуса двухпляцовачныя для пласцін, 2 нуклеусы аморфныя, рэтушаваная пласціна, 2 скрабкі канцавыя, разец двухгранны бакавы на пласціне, разец рэтушны бакавы на зламанай пласціне.

**Купіск 5** – стаянка каменнага веку размяшчаецца прыкладна праз 1 км амаль на поўнач ад вёскі калі рухацца па палявой дарозе ўздоўж левага берагу р. Нёман, у тым месцы дзе яна пераразае тэрасу, паварочвае на захад і пачынаецца залесены ўчастак. На паверхні дарогі знойдзены: 4 крамянёвыя адшчэпы, пласціна падскарыністая, лускавінка, абломак.

**Купіск 6** – стаянка каменнага веку размяшчаецца праз 1,2 км на паўночны-захад ад вёскі і праз 0,2 км на захад ад стаянкі Купіск 5 на левабярэжнай тэрасе р. Нёман, якая засаджана лесам і пераразаецца палявой дарогай, якая цягнецца ад вёскі ўніз па цячэнню ўздоўж ракі. На помніку сабраны: 2 крамянёвыя адшчэпы, пласцінчаты адшчэп, 3 пласціны, 3 лускавінкі, 7 абломкаў, скрабок канцавы.

**Купіск 7** – стаянка мезаліту і эпохі неаліту размяшчаецца за паўночнай ускраінай вёскі побач з вясковымі могілкамі на участку левабярэжнай тэрасы р. Нёман, праз якую праходзіць палявая дарога. На паверхні дарогі знойдзена шматлікая калекцыя крамянёвых вырабаў: 51 адшчэп, 5 пласцінчатыя адшчэпы, 73 пласціны, 5 разцовых сколаў, 2 лушчні, 24 лускавінкі, 33 абломкі, нуклеус двухпляцовачны для пласцін і адшчэпаў, рэтушор, рэтушаваны адшчэп, мысападобны скрабок на пласціне, 4 скрабкі канцавыя на адшчэпах, канцавы скрабок на пласціне, разец рэтушны бакавы на пласціне, разец зломе пласціны, разец перапалены, фрагмент прасціны з прытупленым краем.

**Купіск 8** – стаянка эпохі мезаліту размяшчаецца ў цэнтральнай частцы вёскі Купіск каля школы. На паверхні помніка на дарозе знойдзены: 3 крамянёвыя адшчэпы, пласцінчаты адшчэп, 3 пласціны, 3 лускавінкі, абломак, нуклеус аднапляцовачны для пласцін, моцна перапалены фрагмент біфацыяльнай прылады.

**Купіск 9** – стаянка эпохі мезаліту і неаліту размяшчаецца праз 0,3 км на ўсход ад паўднёвай ускраіны вёскі на невялікім пясчаным павышэнні пасярод левабярэжнай поймы р. Нёман. На паверхні помніка знойдзены: 5 адшчэпаў, 3 пласціны, 5 абломкаў, 3 сколы падпраўкі пляцоўкі нуклеусаў, 2 рабрыстыя пласціны, нуклеус перапалены аднапляцовачны для пласцін, адшчэп са скоблепадобнай выемкай, праксімальная частка дробнай рэтушаванай пласціны, фрагмент шырокай рэтушаванай на канцы пласціны, пласціна-укладыш, дробны фрагмент ляпной неалітычнай керамікі.

**Бор 1**[5] – шматкультурная стаянка фінальнага палеаліту, мезаліту, эпохі неаліту і бронзавага веку размяшчаецца за паўднёва-ўсходняй ускраінай вёскі праз 0,15 км на паўднёвы-ўсход ад калгасных гаспадарчых пабудоў на правабярэжнай тэрасе р. Нёман. Культурны пласт інтэнсіўна разворваецца. Шматлікія артэфакты сустракаюцца на плошчы каля 300 на 150 м. Сярод сабраных матэрыялаў маюцца: 8 дробных фрагментаў ляпной керамікі позняга неаліту і бронзавага веку без арнаменту; 354 крамянёвых вырабаў першаснай апрацоўкі: 80 адшчэпаў, 20 пласцінчатых адшчэпаў, 207 пласцін, 11 сколаў падпраўкі нуклеусаў, 19 лускавінак, 17 абломкаў; 25 крамянёвых нуклеусаў: 2 фінальнапалеалітычных двухпляцовачных монафрантальных для пласцін, 9 неалітычных аднапляцовачных для пласцін, двухпляцовачны для пласцін, шматпляцовачны для пласцін і адшчэпаў, 4 шматпляцовачных для адшчэпаў, 4 аморфныя, 4 лушчні; 56 крамянёвых вырабаў з другаснай апрацоўкай: 8 рэтушаваных адшчэпаў, 10 рэтушаваных пласцін, 3 пласціны са скоблепадобнымі выемкамі, дыстальная частка рэтушаванай

[5] Лакіза В.Л. Бор // Археалогія Беларусі: энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. А–К, Мінск, 2009. С. 111.

на абодвух краях пласціны, 4 скрабкі канцавыя на адшчэпах, 5 скрабкоў канцавых на пласцінах, 2 скрабачы на адшчэпах, нож серпападобны, адшчэп ад шліфаванай сякеры, пласціна са скошаным рэтушшу канцом, 2 разцы на зломе пласціны, 4 разцы рэтушныя бакавыя на пласцінах, 3 разцы рэтушныя бакавыя на дробных нуклеусах, разец двухгранны бакавы на адшчэпе, 3 цёслы, 2 праксальныя часткі пласцін зламаных у месцы выемкі, наканечнік стралы, 4 прылады аморфныя, невызначальныя (мал. 1: 1–4).

**Бор 2** – шматкультурная стаянка фінальнага палеаліту, мезаліту і эпохі неаліту размяшчаецца за паўднёва-ўсходняй ускраінай вёскі праз 0,2 км на поўдзень ад калгасных гаспадарчых пабудоў, пад лініяй электраперадач, на правабярэжнай тэрасе р. Нёман. Культурны пласт інтэнсіўна разворваецца. На плошчы каля 80 на 100 м знойдзены шматлікія крамянёвыя вырабы: 9 адшчэпаў, 13 пласцін, лускавінка, пласціна, адбітая з двухпляцовачнага монафрантальнага нуклеуса, нуклеус шматпляцовачны для пласцінчатых адшчэпаў, лушчань, рэтушаваны адшчэп, медыяльная частка пласціны рэтушаванай, скрабок канцавы на пласціне, цясло.

**Бор 3** – шматкультурная стаянка мезаліту, эпохі неаліту і бронзавага веку размяшчаецца за паўднёва-ўсходняй ускраінай вёскі праз 0,4–0,45 км на поўдзень ад калгасных гаспадарчых пабудоў, за забалочанай старыцай, на правабярэжнай тэрасе р. Нёман. Культурны пласт разворваецца. На плошчы каля 100 на 300 м знойдзены шматлікія крамянёвыя вырабы, сярод якіх маюцца: 93 крамянёвыя знаходкі першаснай апрацоўкі: 36 адшчэпаў, 6 пласцінчатых адшчэпаў, 31 пласціна, 3 сколы падпраўкі нуклеусаў, 4 лускавінкі, 12 абломкаў, разцовы скол; 17 крамянёвых нуклеусаў: двухпляцовачны франтальны для пласцін, 4 аднапляцовачныя для пласцін, аднапляцовачны тарцавы ад пласцін і адшчэпаў, аднапляцовачны для адшчэпаў, аднапляцовачныя для пласцін і адшчэпаў, 3 шматпляцовачныя для пласцін і адшчэпаў, шматпляцовачны для адшчэпаў, 4 аморфныя; 41 крамянёвы выраб з другаснай апрацоўкай: рэтушор, 2 рэтушаваных адшчэпы, 2 адшчэпы са скоблепадобнымі выемкамі, 5 рэтушаваных пласцін, 3 пласціны са скоблепадобнымі выемкамі, 5 скрабкі канцавыя на адшчэпах, скрабок канцавы на пласцінчатым адшчэпе, скрабок канцавы на зламанай падскарыністай пласціне, 4 скрабачы на адшчэпах, 2 разцы на зломе пласціны, разец на зломе пласціны здвоены, 3 разцы рэтушныя бакавыя на пласцінчатых адшчэпах, 2 разцы рэтушныя бакавыя на дробных нуклеусах, фрагмент разца, фрагмент нажа серпападобнага, яніславіцкае вастрыё, цясло, сякера, фрагмент рубячай прылады, 2 пашкоджаныя прылады.

**Бор 4** – стаянка мезаліту і позняга неаліту размяшчаецца за паўднёва-ўсходняй ускраінай вёскі праз 0,5 км на поўзень ад калгасных гаспадарчых пабудоў і праз 0,06 км на поўдзень ад станкі Бор 3, за старыцай з вадой, на пясчаным павышэнні правабярэжнай поймы р. Нёман. Часткова задзірнавана. На плошчы каля 30 на 300 м знойдзены шматлікія крамянёвыя вырабы: 24 адшчэпы, 4 пласцінчатыя адшчэпы, 14 пласцін, лускавінка, рабрыстая пласціна, 11 абломкаў, нуклеус аднапляцовачны для пласцін, нуклеус шматпляцовачны для адшчэпаў, фрагмент нуклеуса, 2 рэтушаваныя адшчэпы, 2 рэтушаваныя пласціны, праколка на пласціне, разец рэтушны бакавы на пласціне, здвоены разец на зламанай пласціне, мезалітычная трапецыя.

**Бор 5** – неалітычнае паселішча размяшчаецца за паўднёва-ўсходняй ускраінай вёскі праз 0,45–0,5 км на паўднёвы-ўсход ад калгасных гаспадарчых пабудоў, за забалочанай старыцай, на разаранай правабярэжнай тэрасе р. Нёман. Культурны пласт разворваецца. На паверхні помніка на плошчы каля 100 на 200 м знойдзены шматлікія крамянёвыя артэфакты нёманскай неалітычнай культуры і культуры шарападобных амфар: 15 адшчэпаў, 12 пласцін, 2 абломкі, 4 рэтушаваныя адшчэпы, рэтушор, 4 нуклеусы для пласцін, нуклеус шматпляцовачны для пласцін і адшчэпаў, нуклеус шматпляцовачны для адшчэпаў, масіўная рэтушаваная пласціна, праколка на пласціне, разец рэтушны бакавы здвоены на скарыністым абломку, разец рэтушны бакавы на адшчэпе, фрагмент рубячай прылады, скрабач на адшчэпе, скрабок (мал. 1: 5).

**Бор 6** – стаянка мезаліту, неаліту і ранняга перыяду бронзавага веку размяшчаецца праз 1 км амаль на поўдзень ад цэнтральнай часткі вёскі, з усходняга боку ад дарогі, якая вядзе з вёскі да драўлянага маста праз р. Нёман насупраць в. Купіск, на пясчаным

павышэнні пасярод правабярэжнай поймы р. Нёман. Культурны пласт разворваецца. На плошчы каля 50 на 150 м знойдзены шматлікія крамянёвыя вырабы: 21 адшчэп, пласцінчаты адшчэп, 12 пласцін, 3 абломкі, 3 сколы падпраўкі пляцоўкі нуклеусаў, 2 рабрыстыя пласціны, 2 разцовыя сколы, рэтушор, рэтушаваны адшчэп, 2 пласцінчатыя адшчэпы рэтушаваныя, 2 пласціны рэтушаваная, разец рэтушны бакавы на адшчэпе, разец рэтушны бакавы здвоены на супрацьлеглых канцах, 3 нуклеусы для пласцін, дробны нуклеус для адшчэпаў.

**Бор 7** – стаянка мезаліту і неаліту размяшчаецца праз 1,2 км амаль на поўдзень ад цэнтральнай чаткі вёскі з заходняга боку дарогі да маста праз р. Нёман насупраць в. Купіск на невялікім пясчаным павышэнні правабярэжнай поймы р. Нёман. Помнік пашкоджаны кар’ерам. У агаленнях кар’ера сабрана калекцыя артэфактаў: 5 крамянё-




Мал. 1. Крамянёвыя прылады працы (2-7, 9) і наканечнікі стрэл (1, 8, 10) з першабытных помнікаў Навагрудскага раёна: 1,2,3,4-Бор 1; 5-Бор 5; 6,7-Дзяляцічы 2; 8,9-Купіск 3; 10-Чарэшля 3.

вых адшчэпаў, падскарыністы пласцінчаты адшчэп, 5 пласцін, 2 лускавінкі, 3 абломкі, праколка на зламанай пласціне, нуклеус двухпляцовачны для адшчэпаў, 2 фрагменты ляпной ранненеалітычнай керамікі дубічайскага тыпу, 2 фрагменты ляпной керамікі нёманскай неалітычнай культуры.

Апісаныя вышэй археалагічныя помнікі яшчэ не даследаваліся метадам стацыянарных раскопак. Між тым нават сабраныя на паверхні крамянёвыя артэфакты свідэрскай, яніславіцкай, шарападобных амфар культур, фрагменты ляпной керамікі прыпяцка-нёманскай і нёманскай неалітычнай культур значна дапаўняюць нашы веды аб гісторыка-культурным развіцці першабытных жыхароў сучаснага Навагрудскага раёна на працягу 10 – 2 тысячагоддзяў да н.э. Найбольш значнымі і перспектыўнымі для стацыянарных археалагічных раскопак з’яўляюцца стаянкі з фінальнапалеалітычнымі матэрыяламі Дзяляцічы 2 і Дзяляцічы 3, стаянкі эпохі мезаліту Дзяляцічы 1, Пудзіна 5, паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку Купіск 3, Дзяляцічы 4. Надзвычай цікавы комплекс з 7 першабытных помнікаў на правабярэжжы р. Нёман каля в. Бор таксама чакае сваіх даследчыкаў. Тут самымі старажытнымі з’яўляюцца стаянкі Бор 1 і Бор 2, на якіх знойдзены фінальнапалеалітычныя і мезалітычныя крамянёвыя прылады працы і зброя. Крамянёвая індустрыя неаліту і бронзавага веку найбольш выразна прадстаўлена на паселішчах Бор 3, Бор 5 і Бор 6.

В.У. Мядзведзева

# Гісторыя археалагічнага даследавання Навагрудка і прылеглых тэрыторый

Горад Навагрудак (летапісны Новгородок, Новогород, Новгородец, Новый городок) з'яўляецца адным са старажытных гарадоў не толькі на тэрыторыі Панямоння, але і на тэрыторыі ўсёй Беларусі. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 годам у сувязі з паходам галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васілька Раманавічаў у панёманскія землі. Першае ўскоснае ўпамінанне горада адносіцца да 1235 года і звязана з імем князя Ізяслава «Новогородьского», які з'яўляўся саюзнікам ці васалам Міндоўга. Аднак варта адзначыць, што некаторыя даследчыкі звязваюць з Навагрудкам летапісныя падзеі 1044, 1116 і 1119 гадоў.[1] Апошнія даты могуць пацвердзіць і археалагічныя даследаванні, пры якіх выяўляюцца матэрыялы, пачынаючы з канца X ст.

Археалагічнае вывучэнне Навагрудка пачалося з 1920–1930-х гадоў, калі польскія архітэктары-рэстаўратары С. Лорэнц, Ю. Рэмер, Р. Гюртлер і А. Шышка-Богуш скарысталіся землянымі працамі на тэрыторыі Малога замка, куды бралася зямля з Замкавай гары, для вывучэння і рэстаўрацыі яе архітэктурных помнікаў. На тэрыторыі Замкавай гары было закладзена шэсць раскопаў і траншэй, некаторыя глыбінёй больш за 3 м. Былі выяўлены рэшткі трох каменных вежаў, абарончай каменнай сцяны, царквы, касцёла і разнастайныя матэрыялы XIV–XVII стст.[6]

Стацыянарныя археалагічныя даследаванні пачала праводзіць расійская даследчыца Ф.Д. Гурэвіч. Яна праводзіла раскопкі на тэрыторыі Малога замка (пасада – вакольнага горада) з перапынкамі, пачынаючы з 1957 па 1985 гады. За 22 палявых сезоны даследавана амаль 3 тыс. кв.м культурных напластаванняў, таўшчыня якіх месцамі дасягала 5 м. У асноўным надавалася ўвага перыяду XI–XIII стст. (хаця даследаваліся і больш познія часы), былі выяўлены пабудовы (сярод іх пабудовы з фрэскавымі роспісамі), рэшткі каменнай царквы і шматлікія разнастайныя артэфакты, якія характарызавалі матэрыяльную, духоўную культуру і рознабаковыя знешнія сувязі.[7]

У 1950–1980-я гады архітэктурна-археалагічныя даследаванні праводзілі расійскія і беларускія навукоўцы. П.А. Раппапорт (1959 г.) пачаў даследаваць абарончыя збудаванні дзяцінца, вакольнага горада, зрабіў прарэзку землянога паўночнага вала на Замкавай гары і вызначыў яго структуру. М.К. Каргер (1961–1962, 1965 гг.) адкрыў каля царквы Барыса і Глеба рэшткі храма XII–XVI стст., а таксама выявіў керамічны матэрыял XII–XIII стст. М.А. Ткачоў (1969–1970 гг.) даследаваў абарончыя збудаванні Малога Замка, на глыбіні 1,5 м ускрыў рэшткі наземных жылых пабудоў XII–XIII стст. і каля паўднёвага падножжа Замкавай гары выявіў новую каменную вежу. М.У. Малеўская (1970, 1973–1974 гг.) на тэрыторыі дзяцінца даследавала помнікі манументальнага

[6] Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок (посад – окольный город). – Л., 1981. – С. 4–5.
[7] Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок (посад – окольный город). – Л., 1981. – С. 5; Она же. Древние города Белорусского Понеманья. – Мн., 1982.

дойлідства XIV–XVII стст.: Навагрудскі палац і Навагрудскую царкву. А.К. Краўцэвіч (1987–1988 гг.) у выніку разведачных раскопак і вывучэння матэрыялаў геалагічнага свідравання, акрэсліў прыблізныя межы сярэдневяковага неўмацаванага пасада, а таксама даследаваў кляштар дамініканцаў. А.М. Кушнярэвіч (1987 г.), А.А. Трусаў (1988 г.) прадоўжылі раскопкі каля Барысаглебскай царквы і выявілі матэрыялы XI–XIII, а таксама XV–XVII стст.[8]

У 1991–1992 гг. археалагічныя даследаванні на Малым замку праводзіла беларуская даследчыца Т.С. Бубенька, якая выявіла тут забудову XII–XIII стст. і розныя матэрыялы матэрыяльнай і духоўнай культуры сярэдневяковых гараджан.

Апошнія археалагічна-архітэктурныя даследаванні на тэрыторыі Навагрудка з мэтай распрацоўкі праектнай дакументацыі для правядзення рэстаўрацыйна-кансервацыйных работ на замкавых валах праводзіў у 1995 г., а затым у 2000–2002 гг. беларускі археолаг В.Е. Собаль. Вывучаліся тры вежы замка, ніжні абарончы вал і роў з паўночнага боку Замкавай гары, і за чатыры гады даследаванняў было ўскрыта 456 кв. м пры таўшчыні культурнага слою 1–5,5 м. Пад час раскопак была сабрана калекцыя прадметаў матэрыяльнай культуры XIII–XIX стст. (2,5 тыс. знаходак).[9]

Навагрудак акружаны паселішчамі, курганнымі і грунтовымі могільнікамі, таму, апрача археалагічных даследаванняў у самім горадзе, Ф.Д. Гурэвіч (1956, 1963, 1984–1985 гг.) і К.В. Паўлава (1965, 1968 гг.) праводзілі раскопкі курганнага і грунтовага могільнікаў дрыгавічоў X–XI стст. каля в. Брацянка (1,5–2 км ад горада), дзе былі выяўлены пахаванні з тыпова славянскім інвентаром, а курганны могільнік з'яўляецца некропалем старажытнага Навагрудка[10].

Як вынікае з вышэй выкладзенага, гісторыя археалагічнага вывучэння Навагрудка і яго наваколля вялікая, ахоплівае шмат дзесяцігоддзяў, многія польскія, расійскія і беларускія даследчыкі прымалі ўдзел у яго вывучэнні, што прынесла плённы вынік. На дадзены момант у археалагічных адносінах горад вывучаны дастаткова добра, аб яго гістарычным мінулым напісаны шматлікія навуковыя і папулярныя працы.

[8] Звяруга Я.Г., Краўцэвіч А.К. Навагрудак // Археалогія і нумізматыка Беларусі: энцыклапедыя. –Мн., 1993. – С. 451–453.

[9] Собаль В. Некаторыя вынікі даследаванняў мураванага замка ў Навагрудку // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мн., 2006. – № 22. – С. 221.

[10] Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. – М.–Л., 1962. – С. 97; Павлова К.В. Раскопки могильника близ Новогрудка // Краткие сообщения Института археологии АН СССР. – М., 1965. – Вып. 104. – С. 99–105; Она же. Могильник на территории окольного города древнего Новогрудка // Краткие сообщения Института археологии АН СССР. – М., 1967. – Вып. 110. – С. 36–39.

**Мядзведзева В.У.**

# Касцярэзная вытворчасць Навагрудка ў сярэдневякоўі

Матэрыялы касцярэзнай вытворчасці знойдзены ў Навагрудку ва ўсіх месцах, дзе праводзіліся археалагічныя даследаванні: на тэрыторыі пасада, вакольнага горада і замка (даследчыкі Гурэвіч Ф.Д., Малеўская М.У. (1950–1980-я гг.), Бубенька Т.С. (1991–1992 гг.), Собаль В.Е. (1995, 2000–2002 гг.). Знойдзена каля 200 гатовых касцяных вырабаў і нарыхтовак прадметаў з косці. Асартымент касцярэзнай прадукцыі падзяляецца на пяць катэгорый: прадметы гаспадарчага ўжытку, бытавыя вырабы, прадметы вайсковага прызначэння, культавыя рэчы, прадметы гульняў і забаў.

Зыходным пунктам любой рамеснай дзейнасці з'яўляецца сыравіна. Для вытворчасці вырабаў з косці ў Навагрудку ў сярэдневякоўі прымяняліся косці і рогі хатніх і дзікіх жывёл. З іх выраблялі разнастайную наменклатуру прадукцыі, аб чым сведчаць нарыхтоўкі, паўфабрыкаты, гатовыя вырабы і адыходы вытворчасці. Сыравіна са слядамі апрацоўкі, а таксама нарыхтоўкі і паўфабрыкаты паўсюдна выяўлены ў тых месцах, дзе праводзіліся археалагічныя раскопкі (малюнак 1). У Навагрудку знойдзена 40 экз. рагоў і касцей са слядамі апрацоўкі, з іх 7 экз. X–XI стст., 31 – XII–XIII стст., 2 – XIV–XVII стст., нарыхтовак – 44 экз.: 7 – X–XI стст., 37 – XII–XIII стст.

**Катэгорыя I: Прадметы гаспадарчага ўжытку.** Гаспадарчыя прадметы у Навагрудку выяўляюцца дастаткова часта. Катэгорыя дадзеных вырабаў уключае тры групы: прылады працы, прадметы гаспадарчага інвентару, тэхнічныя прыстасаванні.

### *Група 1. Прылады працы*

Да групы I адносяцца самыя распаўсюджаныя ў сярэдневякоўі прылады працы: праколкі, качадыкі, іголкі, вастрыі.

Праколкі былі 2-х тыпаў: з адтулінай і без адтуліны. Вырабы абодвух тыпаў – з гладкай паверхняй і завостраны на адным канцы, на процілеглым, патоўшчаным, канцы ёсць адтуліны, з дапамогай якіх яны прывязваліся або прывешваліся. Даўжыня праколак складае 6–20 см. У якасці такіх прылад працы выкарыстоўваліся косці жывёл звычайнай прыроднай формы, амаль без апрацоўкі, але часцей прымяняліся вырабы старанна апрацаваныя, запаліраваныя, з круглымі адтулінамі. Праколак у Навагрудку знойдзена больш 40 экз., з іх 15 – X–XI стст., 27 – XII–XIII стст. (малюнак 2: 1–2).

Качадыкі. У качадыкаў верхняя патоўшчаная частка мае своеасаблівую закругленую форму, а бакавая – крыху выгнутая. Качадыкі былі двух тыпаў: без адтулін і з адтулінамі ўверсе, даўжыня – 12–19 см. Знойдзена іх 5 экз. – 3 – X–XI стст. і 2 – XII–XIII стст. (малюнак 2: 3–4).

Іголкі круглыя ў сячэнні і невялікіх памераў – даўжынёй 5–10 см, дыяметрам 0,3–0,5 см. Звычайна яны запаліраваныя, востры канец заточаны, на процілеглым – вушка

для працягвання ніці. Знойдзена іголак 3 экз. і датуюцца яны наступным чынам: 2 – X–XI стст., 1 – XII–XIII стст.

На тэрыторыі Беларусі іголкі знойдзены ў Брэсце, Давід-Гарадку, Віцебску, Лукомлі, Мінску, Лагойску і на іншых помніках.

Для захавання іголак служылі ігольнікі даўжынёй 10–14 см, шырынёй 1–1,5 см. У Навагрудку знойдзены арнаментаваны ігольнік вышынёй 10 см, дыяметрам 1,2–1,5 см. Па ўсёй паверхні ўпрыгожаны складаным разным узорам у выглядзе бутонаў (малюнак 6: 5).

Ігольнікі вядомы з матэрыялаў Пінска, Давыд-Гарадка, Полацка, а таксама з Гнездава, Саркела–Белай Вежы і іншых месцаў.[1]




**Сыравіна.**
**Мал.1.** *1–3 – сыравіна, 4 – нарыхтоўка тронкі*

*Вастрыі.* У Навагрудку знойдзены і вастрыі (5 экз., XIII–XIV стст.), якія ўяўляюць круглыя ў сячэнні, з аднаго боку завостраныя канічныя стрыжні. З пашыранага боку ёсць паглыбленні і скразныя адтуліны ў бакавой сценцы, напэўна, вастрыё насаджвалася на рукаяць, да якой мацавалася праз адтуліну. Вырабляліся такія вастрыі з адросткаў рагоў ласёў ці аленяў, мелі даўжыню ад 10 да 20 см. Некаторыя з іх упрыгожаны разнастайнымі геаметрычнымі ўзорамі. Наконт выкарыстання існуюць розныя меркаванні: адны даследчыкі прыпісваюць ім гаспадарчую функцыю і лічаць праколкамі, другія – навершшамі нагаек, трэція – культавымі вырабамі (асабліва арнаментаваныя) і разглядаюць іх у якасці амулетаў-прывесак ці навершшаў посахаў.[2]

Падобныя рэчы знойдзены таксама на бліжэйшых тэрыторыях у Ваўкавыску, Гродна, Слоніме, Брэсце, Тураве, Слуцку.

Трэба адзначыць, што датыроўка прадметаў групы 1 досыць шырокая. Напрыклад, праколкі і качадыкі сустракаліся як на апісваемай тэрыторыі, так і на іншых землях з палеаліту і да XVIII ст. У перыяд IX–XIII стст. яны, а таксама іншыя вырабы гэтай групы былі дастаткова пашыраны ў Навагрудку.

### *Група 2. Прадметы гаспадарчага інвентару*

Дадзеная група ўключае тронкі нажоў, шылаў двух тыпаў – цэльныя і наборныя; наборныя, у сваю чаргу, падзяляюцца на падтыпы: накладкі, насадкі, абойміцы, муфты, шайбы.

Выяўлены касцяныя тронкі і іх дэталі, якія мелі форму цыліндрычных круглых у сячэнні стрыжняў са скразнымі адтулінамі, куды ўстаўляўся чаранок нажа. Даўжынёй яны былі ад 7–8 да 12–13 см. Тронкі часта арнаментаваліся празнымі дэкорамі, сярод якіх самым распаўсюджаным з'яўляўся вочкава-лінейны. Знойдзены яны разам з нажамі або асобна (малюнак 1: 4).

З накладак, насадак, абоймаў, муфтаў і шайбаў састаўляліся наборныя рукаяці (малюнак 7: 3). Пры раскопках тронак і іх дэталяў выяўлена 15 экз., з іх 13 – XII–XIII стст., 2 – XIV–XVII стст.

---

[1] Флерова В.Е. Домашние промыслы в Саркеле–Белой Веже (по материалам коллекции костяных изделий) // Культуры Евразийских степей второй половины I тысячелетия н.э.: материалы Междунар. археол. конф., Самара 14–17 нояб. 1995 г. – Самара, 1996. – С. 277–332.

[2] Гончаров В.К. Райковецкое городище. – Киев, 1950. – Таблица XXXI: 19; Лысенко П.Ф. Берестье. – Мн., 1985. – С. 278–279, рисунок 191: 1–7.

На тэрыторыі Беларусі тронкі розных гаспадарчых і бытавых прадметаў з'яўляюцца частай знаходкай пры археалагічных даследаваннях. Вядомы яны з раскопак Ваўкавыска, Слоніма, Ліды, Брэста, Турава, Слуцка, Пінска, Полацка, Віцебска, Мінска і іншых помнікаў.

### *Група 3. Тэхнічныя прыстасаванні*

У дадзеную групу ўваходзяць юрок, праселка, дэталі ткацкага станка.

<u>*Юрок*</u> у выглядзе цыліндрычнай полай трубачкі з трыма адтулінамі пасярэдзіне знойдзены ў Навагрудку і датуецца X–XI стст. (малюнак 2: 8).

Такія прадметы выяўлены таксама ў Ваўкавыску, Брэсце, Слуцку, Тураве, Пінску, Друцку, Мінску і на суседніх землях (Саркел–Белая Вежа, Сарскае і Райкавецкае гарадзішчы, Пронск і інш.).[3]

<u>*Праселка*</u> біканічнай формы знойдзена ў адным экзэмпляры.[4] Датуецца XII–XIII стст.

Касцяныя праселкі выяўлены таксама ў Ваўкавыску, Пінску, Полацку, Віцебску і іншых месцах, а таксама на суседніх землях.[5]

<u>*Дэталі ткацкага станка*</u> (2 экз.) знойдзены пры раскопках Навагрудка і датуюцца XII–XIII стст. Адна з іх вышынёй 8 см (ніжняя частка абламана), шырынёй 2,5 см, пасярэдзіне скразная адтуліна (малюнак 2: 7).




**Прылады працы і тэхнічныя дэталі.**
**Мал.2.** *1–2 – праколкі, 3–4 – качадыкі, 5–6 – пісалы, 7 – дэталь ткацкага станка, 8 – юрок.*

Прадметы гаспадарчага ўжытку з'яўляліся самай масавай катэгорыяй касцяных вырабаў не толькі ў Навагрудку, а і на тэрыторыі ўсёй Беларусі. Яны былі неабходнай прыналежнасцю ў гаспадарчым жыцці насельніцтва горада. Дадзеныя рэчы з'яўляліся стандартнымі і характэрны таксама для суседніх зямель Усходняй, Цэнтральнай і Заходняй Еўропы.

**Катэгорыя II: Бытавыя вырабы.** Да гэтай катэгорыі адносяцца тры групы: прыналежнасці касцюма, прадметы туалету і прадметы пісьменства.

### *Група 1. Прыналежнасці касцюма*

Да групы 1 належаць гузікі, як дэталі адзення. Па класіфікацыі касцяных сярэдневяковых гузікаў Ш.І. Бекцінеева дадзеныя вырабы падзяляюцца на тры тыпы: зашпількі (кляпікі і кастылёва-стрыжнявыя), пляската-пукатыя і квадратныя гузікі.[6]

<u>*Гузікі.*</u> У Навагрудку знойдзены пляската-пукатыя гузікі (4 экз.), (малюнак 7: 1–2). Гузікі памерамі ў межах 0,7–0,9 х 2–2,5 см упрыгожаны вочкава-геаметрычным арнаментам і прымяняліся ў XII–XIII стст.

[3] Горюнова Е.И. Этническая история Волго-Окского междуречья // МИА СССР. – М., 1961. – № 94. – Рисунок 61: 10; Мальм В.А., Фехнер М.В. Археологические исследования древнего Пронска и городища на горе Гневне // Археология Рязанской земли: сб. науч. ст. – М., 1974. – С. 193–209, рисунок 7: 12.

[4] Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок (посад – окольный город). – Л., 1981. – С. 142, таблица 20.

[5] Пушкина Т.А. Изделия костерезного ремесла из Гнездова // Средневековые древности Восточной Европы / Труды ГИМ. – М., 1993. – Вып. 82. – С. 59, рисунок 2: 1.

[6] Бекцінееў Ш.І. Некаторыя элементы адзення насельніцтва на тэрыторыі Беларусі ў X–XIV стст. // Весці АН БССР. Сер. грам. навук. – 1990. – № 4. – С. 94–98, рысунак 1.

Пляската-пукатыя гузікі выяўлены таксама ў Ваўкавыску, Брэсце, Тураве, Капылі, Давід-Гарадку, Мазыры, Мінску, Полацку, Лукомлі і многіх іншых месцах.

### *Група 2. Прадметы туалету*

Да групы «Прадметы туалету» адносяцца чатыры віды: расчоскі, грабяні, капавушкі, накладкі на шкатулкі.

*Расчоскі* ці аднабаковыя грабяні, нарэзаныя рэдкімі зубцамі толькі з аднаго боку, знаходзіліся, як правіла, у футаралах. Выяўлена расчосак, накладак і футаралаў ад іх 7 экз. (малюнак 3). Упрыгожаны яны вочкава-лінейным або геаметрычным арнаментам і датуюцца X–XI стст.

Падобныя рэчы шырока вядомы з археалагічных матэрыялаў Полацка, Віцебска, а таксама знойдзены ў Ваўкавыску, Гродна, Пінску, Тураве і інш.

*Грабяні* двухбаковыя, г.зн. нарэзаныя частымі і рэдкімі зубцамі з абодвух бакоў (26 экз.) (малюнак 4). Падраздзяляюцца на два тыпы: цэльныя і наборныя. Больш шматлікімі з’яўляюцца цэльныя грабяні, якія бытавалі некалькіх варыянтаў: трапецыяпадобныя, з увагнутымі бакамі і прамавугольныя. Апошнія былі характэрны для XIV–XVI стст. У большасці грабяні не арнаментаваныя, некаторыя аздоблены вочкавымі ці геаметрычнымі дэкорамі. Слабая арнаментацыя грабянёў з’яўляецца характэрнай рысай гэтых вырабаў на тэрыторыі ўсёй Беларусі. Знойдзены таксама нарыхтоўкі і паўфабрыкаты (малюнак 4: 1).

Бытавалі двухбаковыя грабяні ў перыяд з X па XVI стст. Знойдзены таксама на іншых беларускіх землях: у Ваўкавыску, Гродна, Полацку, Віцебску, Брэсце, Тураве, Пінску, Свіслачы, Мазыры, Брагіне і іншых месцах.




**Прадметы туалету.**
**Мал.3.** *1–5 – аднабаковыя грабяні (расчоскі), 6 – футарал для расчоскі.*

*Капавушкі.* Дадзеныя прадметы былі двух тыпаў: I – палачкападобныя, круглыя ў сячэнні, II – пляскатыя з вузкім «рабочым» канцом. У Навагрудку пры раскопках сустрэты капавушкі толькі I тыпу (4 экз.). Яны з'яўляліся высокамастацкімі рэчамі і належалі да прадметаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Унікальнай рэччу з'яўляецца капавушка першай паловы XII ст. з выявай музыкі, знойдзеная на тэрыторыі вакольнага горада ў доме заможнага гараджаніна (пабудова 12) (малюнак 6: 1).[7] Выраб цэлы, добрай захаванасці. Верхняя частка прадмета ўяўляе сабой музыку, які сядзіць і грае на трохструнным музычным інструменце, што нагадвае вертыкальна пастаўленыя гуслі. Сярэдзіна капавушкі з вялікім валікам, а ніжняя

[7] Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок (посад – окольный город). – Л., 1981. – С. 39, рисунок 30: 20; Мядзведзева В.У. Капавушкі X–XV стст. з тэрыторыі Беларусі. – Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мн., 2007. – Вып. 23. – С. 144–145, малюнак 1: 1.

частка гладкая з лапатачкай. Даўжынёй дадзеная рэч 10 см. Зроблена яна з рогу высакароднага аленя і, як лічыць аўтар раскопак, з'яўляецца вырабам мясцовага майстра, на карысць чаго служыць увесь воблік і адзенне музыканта.[8] Зважаючы на тое, што вертавушка была знойдзена на падлозе багатага дома, распісанага фрэскамі, можна выказаць меркаванне, што інструмент музыканта з'яўляўся псалтырам, прызначаным для ігры на ўрачыстасцях. Варта сказаць і аб тым, што сама капавушка магла мець і іншае прызначэнне – быць плектарам, прадметам якім гралі на музычным інструменце псалтыры.[9]

Яшчэ адна вухавёртка адлюстравана на малюнку 6: 2. Выяўлена яна на тэрыторыі мураванага замка XI–XVII стст.[10] Выраб уяўляе сабой круглы ў сячэнні стрыжань з рамбічнай галоўкай, геаметрычна арнаментаванай сярэдняй часткай, знізу абламаны (адсутнічае лапатачка). У верхняй частцы маецца скразная круглая адтуліна. Даўжыня капавушкі 7,2 см. Па аналогіях датуецца XII–XIII стст.




**Прадметы туалету.**
**Мал.4.** *1 – нарыхтоўка грэбня, 2–6 – двухбаковыя грабяні.*

Верхняя частка капавушкі знойдзена ў пабудове 5 (малюнак 6: 3) Выраблена з рогу, памер застаўшайся часткі 2,5 см. Зроблена ў выглядзе птушынага грэбня, аздоблена геаметрычным арнаментам, маецца невялікая скразная адтуліна. Датуецца XII–XIII стст.

Палова вухавёрткі (малюнак 6: 4) выяўлена на тэрыторыі вакольнага горада ў пабудове 12 і датуецца XII ст. Уяўляе сабой гладкую ніжняю частку прадмета з лапатачкай, сярэдзіна якога мае квадратны валік. Даўжыня капавушкі 4,7 см.

Падабенствы і аналогіі капавушкам-вухавёрткам выяўлены ў Беларусі (Ваўкавыск, Мінск, Тураў, Пінск, Гомель і інш.) і за яе межамі ў Кіеве, Ноўгарадзе, Вышгарадзе, Суздалі, Цімераве і іншых месцах.[11]

*Накладка на ларэц*. Накладкі розных форм, якія ўпрыгожвалі шкатулкі, ці куфэркі, ларцы знойдзены на тэрыторыі Панямоння, у тым ліку і ў Навагрудку (малюнак 6: 6). Накладка, напэўна, ад візантыйскага ларца, ці зроблена мясцовым майстрам па візантыйскаму ўзору, як лічыць даследчыца.[12] Параметры фрагмента ад яе 2,5 х 5 см, цэлая пласцінка была даўжынёй, прыкладна, 9 см. Накладка арнаментавана

[8] Гуревич Ф.Д. Изображения музыкантов Древней Руси // СА. – М., 1965. – № 2. – С. 276–277, рисунок 1: 2.
[9] Канакоў П., Нікалаеў М. Паспрабуем прачытаць «ілюмінацыю» // Мастацтва Беларусі. – 1988. – № 7. – С. 39–41.
[10] Собаль В.Е. Некаторыя вынікі даследаванняў мураванага замка ў Навагрудку // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мн., 2006. – Вып. 22. – С. 220–231, малюнак 9: 15; Мядзведзева В.У. Капавушкі X–XV стст. з тэрыторыі Беларусі. – Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мн., 2007. – Вып. 23. – С. 147, малюнак 2: 7.
[11] Арциховский А.В. Раскопки на Славне в Новгороде // МИА СССР. – М.-Л., 1949. – № 11: Материалы и исследования по археологии древнерусских городов. – Т. 1. – С. 142, рисунок 17б; Довженок В.И. Огляд археологічного вивчення древнього Вишгорода за 1934–1937 рр. // Археологія. – Київ, 1950. – Т. III. – С. 64–91, таблица VII: 5; Седова М.В., Беленькая Д.А. Окольный город Суздаля // Древнерусские города. – М., 1981. – С. 112 рисунок 3: 9.
[12] Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок (посад – окольный город). – Л., 1981. – С. 111, рисунок 86: 5.

васьмівугольнымі зоркамі, якія ўпісаны ў круг.

### *Група 3. Прадметы пісьменства*

Да дадзенай групы адносяцца стылі (пісалы), якіх знойдзена 3 экз. (малюнак 2: 5–6). Звычайна яны з завостранымі канцамі і лапатачкамі, памерамі 10–11 см. На адным уверсе прачэрчаны знак ці літара. Датуюцца пісалы мяжой XII–XIII ст.

Касцяныя прадметы бытавога прызначэння ў Навагрудку – шматлікія і разнастайныя. Высокага ўзроўню дасягнула мастацкая апрацоўка розных утылітарных прадметаў. Найбольш былі распаўсюджаны такія віды арнамента, як цыркульны, вочкава-лінейны і геаметрычны: імі аздабляліся пласціны, гузікі, грабяні, накладкі і іншыя прадметы.

**Катэгорыя III: Прадметы вайсковага прызначэння.** Да дадзенай катэгорыі адносяцца дзве групы: дэталі воінскага рыштунку і прадметы ўзбраення.




**Прадметы вайсковага прызначэння.**
**Мал.5.** *1–5 – наканечнікі,*
*6–7 – пласціны на калчаны,*
*8 – накладка на лук, 9 – перакрыжаванне мяча.*

### *Група 1. Дэталі воінскага рыштунку*

Да воінскага рыштунку належалі знараддзе вершніка і верхавога каня, якое падзялялася на некалькі відаў: пласціны-абкладкі калчанаў і налуччаў (футаралаў лукаў), накладкі на рукаяці лукаў. Знойдзена такіх вырабаў 13 экз.

<u>Пласціны-абкладкі</u> ўжываліся для ўмацавання калчанаў, налуччаў і іх аздаблення (малюнак 5: 6–7). Датуюцца, як правіла, у межах XII–XIII стст., толькі адна адносіцца да XIV–XVII стст. Пласціны прымацоўваліся да драўлянай ці скуранай асновы калчана або налучча і ўпрыгожвалі іх.

<u>Накладкі лукаў.</u> Накладкі на складаныя і састаўныя лукі мацаваліся да драўлянай асновы. Вядомы ў археалагічных матэрыялах Навагрудка і маюць форму лапатачак (малюнкі 5: 8).

Такія прадметы вядомы з матэрыялаў Ваўкавыска, Ліды, Брэста, Турава, Слуцка, Капыля, Пінска, Друцка, Мінска, Полацка і іншых месцаў на тэрыторыі Беларусі, а таксама ў Ноўгарадзе, Чарнігаве, Белай Вежы, Старой Ладазе і качэўніцкіх матэрыялах.[13]

### *Група 2. Прадметы ўзбраення*

Да ўзбраення адносяцца: зброя бліжняга бою – перакрыжаванне мяча, зброя дальняга бою – наканечнікі стрэл.

*Перакрыжаванне мяча* (малюнак 5: 9) знойдзена пры раскопках у адзінкавым экзэмпляры і па стратыграфічнаму слою датуецца XII–XIII стст. Зроблена з рога ляся,

[13] Кирпичников А.Н., Медведев А.Ф. Вооружение // Археология СССР. Древняя Русь. Город, замок, село. – М., 1985. – Гл. 7. – С. 312–313, таблица 132: 1–7; Плетнева С.А. Печенеги, торки, половцы // Археология СССР. Степи Евразии в эпоху средневековья. – М., 1981. – Гл. 7. – С. 213–222, рисунок 83: 37.

даўжыня яго складае 7,5 см, шырыня 3,5 см, скразная адтуліна памерамі 1 х 1,5 см.

*Наканечнікаў* стрэл знойдзена 14 экз., з іх 3 – кан. X – XI стст., 10 – XII–XIII стст., 1 – XIV–XVII стст. і падзяляюцца на 2 тыпы: утулкавыя і чарашковыя (малюнак 5: 1–5). Больш распаўсюджанымі былі ўтулкавыя наканечнікі, якія падзяляліся на куляпадобныя і тамары. Вышынёй наканечнікі былі ад 3 да 8 см.

На іншых землях наканечнікі знойдзены ў Ваўкавыску, Гродна, Слоніме, Брэсце, Тураве, Слуцку, Капылі, Пінску, Давыд-Гарадку, Брагіне, Лукомлі, Полацку і іншых месцах.

Прадметы ўзбраення і рыштунку вершніка з'яўляюцца характэрным матэрыялам на помніках сярэдневякоўя, у т.л. і ў Навагрудку. З косці выяўлены як розныя адзінкавыя вырабы вайсковага прызначэння (перакрыжаванне мяча), так і групы рэчаў (наканечнікі, абкладкі калчанаў). Часта яны былі аздоблены living рознымі складанымі камбінаванымі арнаментамі. Сустракаюцца раслінны і тэраталагічны дэкоры: на пласцінах калчанаў, налуччаў, на накладках.




**Бытавыя вырабы.**
**Мал.6.** *1–4 – капавушкі, 5 – ігольнік, 6 – накладка на ларэц.*

**Катэгорыя IV: Культавыя рэчы.** Да прадметаў рэлігійнай прыналежнасці адносяцца рэчы язычніцкага культа, да якіх належаць амулеты-прывескі, што належалі да замоўнай, ахоўнай магіі. У якасці амулетаў са старажытнасці выкарыстоўваліся зубы, іклы хатніх і дзікіх жывёл. Часцей гэта былі іклы мядзведзя, дзіка, ваўка, сабакі з прасвідраванымі для падвешвання адтулінамі. Бытавалі ў перыяд з X па XIV стст. Менавіта такія амулеты знойдзены ў Навагрудку.[14]

На тэрыторыі Беларусі яны выяўлены ў многіх месцах: Полацк, Гродна, Ваўкавыск, Брэст, Тураў, Клецк, Пруднікі, Маскавічы і інш.

Культавыя прадметы з'яўляліся часткай рытуальных дзействаў і былі пашыраны на вялікіх еўрапейскіх прасторах. Звычай насіць розныя рэчы ў якасці амулетаў-прывесак і выкарыстоўваць вырабы ў рытуалах бярэ пачатак у глыбокай старажытнасці, шырока распаўсюджваючыся ў сярэдневякоўі.

**Катэгорыя V: Прадметы гульняў і забаў** уключае прадметы інтэлектуальных лагічных гульняў (шахматы, шашкі), якія былі вельмі папулярнымі на тэрыторыі Панямоння ў сярэдневякоўі.

*Шахматы,* выяўленыя ў Навагрудку, адносяцца да абстрактных (сімвалічных), якіх знойдзена 3 экз. (конь, дзве пешкі).

На тэрыторыі вакольнага горада знойдзена першая на тэрыторыі Беларусі фігура шахматнага каня, якая датуецца другой паловай XII ст. (малюнак 7: 4).[15] Шахмата вы-

[14] Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок (посад – окольный город). – Л., 1981. – Таблица 20.
[15] Гуревич Ф.Д. Древний Новогрудок (посад – окольный город). – Л., 1981. С. 71, 142, рисунок 55: 10; Мядзведзева В.У. Шахматы на тэрыторыі Беларусі XI–XVII стст. (па матэрыялах археалагічных даследаванняў) // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мн., 2004. – № 19. – С. 163, малюнак 5: 10.



**Бытавыя вырабы і прадметы гульняў.**
**Мал.7.** *1–2 – гузікі, 3 – муфта тронкі, 4–6 – шахматы, 7–8 – шашкі.*

разана з рога і абточана на такарным станку. Яна цэлая, добрай захаванасці, уяўляе конусападобны цыліндр з адным шырокім верхнім выступам. На фігурцы збоку разьбяром пастаўлены (працарапаны) знак у выглядзе трызубца. Напэўна, гэта знак-метка ўладальніка дадзенай рэчы, як лічыць аўтар раскопак Ф.Д. Гурэвіч. Славянскі знак трызубца гаворыць на карысць мясцовага паходжання дадзенай шахматнай фігуры. Памеры шахматы наступныя: вышыня 4,3 см, дыяметр амаль круглай асновы складае 2,7 х 3 см.

Бліжэйшыя аналогіі ёй вядомы з Турава (XIII ст.), селішча на Менцы (XI ст.), Кіева (XI–XII стст.).[16]

*Пешкі.* Адна пешка выяўлена на Замкавай гары і датуецца XIII–XIV стст. (малюнак 7: 5). Вышыня фігуры 2,9 см, дыяметр асновы 1,3 см. Пешка складаецца з трох частак. Ніжняя ўяўляе сабой цыліндрычны аб'ём, упрыгожаны зверху і знізу прамымі лініямі, над якім узвышаецца другая выцягнутая частка, уверсе таксама з лінейным арнаментам і заканчваецца кампазіцыя авальным навершшам з гэткім жа арнаментам.

Падобная па форме і памерах фігура знойдзена ў Мангазеі (Расія), але там яна датуецца XVI–XVII стст.[17]

На дзядзінцы пад час археалагічных раскопак у слаі XIV ст. знойдзена яшчэ адна фігурка пешкі (малюнак 7: 6). Шахмата з'яўляецца пешкай новай абстракцыі і выраблена з дапамогай такарнага станка. Як піша І.М. Ліндэр: «… В отличие от пешек восточных наборов, здесь налицо усложнение формы и орнамента».[18] Складаецца фігурка з чатырох частак: цыліндрычнай асновы, арнаментаванай уверсе двума паралельнымі лініямі, аднаго яруса ў выглядзе чашы, таксама зверху аздобленага лінейным арнаментам і конусападобнага тулава, якое заканчваецца плоскай верхавінай з паглыбленнем у цэнтры. Вышыня фігуры складае 2,1 см, дыяметр асновы 1,5 см.

Падобныя пешкі на тэрыторыі Беларусі сустрэты ў Дрысвятах (XIII–XIV стст.), Полацку, а таксама на суседніх землях: у Тарапцы (Калінінская вобл., Расія) (XIII ст.), Вільнюсе (XШ–XIV стст.), Тракаі (Літва) (XIV–XV стст.), замку Інаўлодз (Польшча) (XV–XVI стст.).[19]

*Шашкі* як і шахматы з'яўляюцца прадметамі аднайменнай інтэлектуальнай гульні. У Навагрудку знойдзена 2 нарыхтоўкі шашак.

[16] Линдер И.М. Шахматы на Руси. – Изд. 2-е. – М., 1975. – С. 78–79; Лысенко П.Ф. Туровская земля IX–XIII вв. – Мн., 1999. – С. 111, рисунок 57: 1; Ханенко Б.И., Ханенко В.И. Древности Приднепровья. – Киев, 1908. – Т. 5. – Таблица VI: 214.

[17] Белов М.И., Овсянников О.В., Старков В.Ф. Мангазея. Материальная культура русских полярных мореходов и землепроходцев XVI–XVII вв. – М., 1981. – Ч. II. – С. 43, рисунок 45: 3.

[18] Линдер И.М. Шахматы на Руси. – Изд. 2-е. – М., 1975. – С. 124.

[19] Мядзведзева В.У. Сярэдневяковыя шахматы Беларусі (гісторыка-археалагічнае даследаванне). – Мн., 2005. – С. 40–42; Augustyniak J. Zamek w Inowłodzu. – Łódź, 1992. – S. 83, ryc. 55: 1; Vilniaus žemutinės pilies rūmai (1990–1993 metų tyrimai). – Vilnius, 1995. P. 219, pav. 175.

Прадметы незакончаныя апрацоўкай і сведчаць аб мясцовым вырабе дадзенай групы. Пры археалагічных даследаваннях на Замкавай гары выяўлена нарыхтоўка шашкі XIII ст. (малюнак 7: 7). Нарыхтоўка дыяметрам 3,8 см пры таўшчыні 0,9 см з невялікай толькі намечанай адтулінай ў цэнтры.

Другая касцяная нарыхтоўка шашкі (малюнак 7: 8) уяўляе сабой прадмет акруглай формы, добра запаліраваны, на адной з паверхняў прасочваюцца сляды нейкіх знакаў ці арнамент. Датуецца XII–XIII стст. Дыяметрам шашачная фігурка 2,6 см.

Нарыхтоўкі шашак знойдзены ў многіх месцах на тэрыторыі Беларусі: Віцебску, Брэсце, Мінску, Полацку, Тураве, Друцку, Копысі.[20]

Прадметы інтэлектуальных гульняў знойдзеныя пры археалагічных даследаваннях з'яўляюцца найбольш цікавай групай з касцяных вырабаў, таму што характарызуюць не толькі ўзровень развіцця рамяства, матэрыяльнай культуры, але і інтэлектуальны, духоўны ўзровень грамадства, сведчаць аб густах, схільнасцях тагачаснага насельніцтва.

Падводзячы вынік, варта адзначыць, што ў Навагрудку, акрамя вышэй азначаных сыравіны, нарыхтовак, паўфабрыкатаў, гатовых вырабаў пры археалагічных даследаваннях выяўлены і шматлікія інструменты касцеапрацоўкі перыяду X–XIII стст. Да іх адносяцца ўніверсальныя прылады працы: сякеры (4 экз.), долаты (7), свердзелы (3), напільнікі (5), шылы (10), піла, разец, скобель. Асабліва вялікая колькасць знойдзена нажоў: 41 – канца X – XI стст. і 113 – XII–XIII стст. Гэта сведчыць аб тым, што ў сярэдневяковы перыяд на тэрыторыі горада была дастаткова развіта мясцовая касцярэзная вытворчасць.

На першых этапах існавання панёманскіх гарадоў апрацоўка косці ў іх мела характар хатняй справы, а з XII ст. панёманскія разьбяры па косці актыўна заявілі пра сябе. Так, у Навагрудку апрацоўка косці X–XI стст. знаходзілася на ўзроўні хатняй справы, на мяжы XI–XII стст. яна вылучаецца ў пэўную галіну вытворчасці і ў XII–XIII стст. адбываецца росквіт касцярэзнага рамяства. Пачынаючы з XI ст., косцеапрацоўка займала значнае месца сярод рамёстваў старажытнага Навагрудка, дзе ўзнікае цэлая рамесніцкая галіна дадзенай вытворчасці. Па мноству і разнастайнасці знаходак касцярэзнае рамяство, на думку даследчыкаў, займала тут другое месца пасля ганчарнай справы. Пераўтварэнне касцярэзнай вытворчасці з хатняй справы ў самастойную галіну рамяства суправаджалася пераходам ад выкарыстання ў якасці асноўнай сыравіны косці да рога, значным павелічэннем асартыменту і колькасці вырабаў, а таксама больш дасканалай арнаментацыяй і з'яўленнем сапраўдных твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (шахматы, капавушкі, ігольнік).

Касцяныя вырабы Навагрудка па колькасці, разнастайнасці і ўзроўню выканання з'яўляюцца адной з прадстаўнічых калекцый такіх прадметаў на тэрыторыі Панямоння. Акрамя шматлікіх рэчаў утылітарнага прызначэння, знойдзены мініяцюрныя скульптурныя выявы і прадметы прыкладнога мастацтва. Большасць выяўленых вырабаў мясцовага паходжання, аб чым сведчаць сыравіна са слядамі апрацоўкі, нарыхтоўкі, паўфабрыкаты, шматлікія адыходы, а таксама гатовыя прадметы і інструменты іх апрацоўкі. Сустрэты і вырабы, зробленыя па замежных аналагах (накладка на ларэц – Візантыя). Выяўленыя рэчы сведчаць аб высокім прафесіяналізму майстроў-касцярэзаў, іх шырокім дыяпазоне і высокім мастацкім гусце. Таксама дадзеныя прадметы характарызуюць разнабаковыя гандлёвыя, эканамічныя і культурныя сувязі сярэдневяковага насельніцтва Навагрудка, як з іншымі землямі на тэрыторыі Беларусі, так і з далёкім замежжам.

[20] Мядзведзева В.У. Сярэдневяковыя шашкі Беларусі (па матэрыялах археалагічных даследаванняў) // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Мн., 2006. – Вып. 22. – С. 196–197, малюнак 5.

**А. Жлутка**

# Да пытання аб месцы каранацыі Міндоўга (Міндава) і сядзібе першага біскупа Літвы

Сёлета адзначаецца тысячагоддзе першай пісьмовай згадкі назвы "Літва", зафіксаванай пад 1009 г. у Кведлінбургскіх гадавіках і ў некаторых іншых наратыўных крыніцах таго часу. Паведамленне з'явілася ў сувязі з мучаніцкай смерцю св. Бруна-Баніфацыя *in confinio Lituae et Rusciae*[1] "на сумежжы Літвы і Русі" альбо паводле Тытмара Мэрзэбургскага *in confinio praedictae regionis (Pruciae) et Rusciae*[2] "на сумежжы памянёнага краю (Прусіі) і Русі". Пасля гэтай даты Літва аж да XIII ст. спарадычна згадваецца толькі ва ўсходнеславянскіх летапісах. З XIII ст. назва пачынае сустракацца ў лацінскіх дакументальных крыніцах, а часцей -- ад часу каранацыі Міндава і афіцыйнага заснавання ў ягонай дзяржаве першага біскупства, падпарадкаванага Рыму. Нядаўна святкаваліся таксама юбілеі гэтых падзеяў, якія паклалі пачатак новай еўрапейскай дзяржаве Вялікаму Княству Літоўскаму. Але калі іх даты згодна са зместам дакументаў можна з пэўнасцю аднесці да 1253 г., то ўстанаўленне месца каранацыі, а таксама лакалізацыя рэзідэнцыі караля і сядзібы першага біскупства застаюцца пытаннямі, якія дагэтуль выклікаюць спрэчкі. Іх вырашэнне, важнае само па сабе, у сваю чаргу дапамагло б высветліць, дзе знаходзіўся адміністрацыйны і духоўны цэнтр Літвы часоў Міндава, а таксама якія этнічныя групы мелі перавагу ў фармаванні новай дзяржавы.

Захаваныя наратыўныя крыніцы альбо звязваюць месца каранацыі Міндава з Навагрудкам, альбо нічога не гавораць пра яе месца. Так, пра каранацыю ў Навагрудку паведамляюць Густынскі летапіс і Мацей Стрыйкоўскі . Каранацыя адбылася паводле Густынскага летапісу і Стрыйкоўскага ў Навагрудку[3], альбо згодна са звесткамі Альбэрта Віюка Каяловіча: *in campis Novogrodensibus (neque enim Novogrodeci tam amplae aedes haberi poterant)*[4] "на навагрудскіх палях (бо ў Навагрудку не магло быць такога вялікага будынку)". Паведамленне Каяловіча адрозніваецца ад звестак Густынскага летапіса і Стрыйкоўскага, як формаю гэтак і зместам (большай дэталізацыяй апісання падзеі), што змушае меркаваць пра яго незалежнасць і паходжанне з нейкай іншай, больш старажытнай і пазней страчанай, крыніцы. Паколькі, вядомыя пісьмовыя помнікі не называюць іншага месца, каранацыю ў Навагрудку ці ў яго ваколіцах належыць прыняць, як адзіна засведчаную крыніцамі.

Калі ж гаварыць пра лакалізацыю рэзідэнцыі Міндава, то даследчыкі ўжо даўно звярнулі ўвагу на адзін з дакументаў караля, а менавіта прымеркаванае да каранацыі і адначасовае з ёй дарэнне на карысць Нямецкага ордэна жамойцкіх ды некаторых іншых земляў, датаванае ліпенем 1253 г. У эсхатаколе гэтага акта змяшчаецца выраз *Datum in Lettowia in curia*

---

[1] Annales Quedlinburgenses // Monumenta Germaniae historica. Scriptores. Ed. G.H. Pertz. Hannoverae, 1839. T. III. P. 80.
[2] Thietmari Merseburgensis episcopi Chronicon / Ed. R.Holtzmann et W. Trillmich. Berlin, 1958. S. 342-344.
[3] ПСРЛ. Т. 2. М., 1843. С. 342; Stryjkowski M. Kronika polska, litewska, żmódzka i wszystkiej Rusi. Warszawa, 1846. T. 1. S. 289.
[4] Historiae Litvanae pars prior... Auctore P. A. W. Koialowicz Soc. Jesu. Dantisci, 1650. P. 97.

І. Кітурка (Гародня)

# Удзел шляхты наваградскага павета ў падаўленні паўстання С.Налівайкі (1595–1596 гг.)

## (па матэрыялах бібліятэкі князёў Чартарыйскіх у Кракаве)

У бібліятэцы Нацыянальнага музея князёў Чартарыйскіх у Кракаве захоўваецца дакумент пад назвай “Спіс шляхты Наваградскага павета, якая з’ехалася ў Капыль на выправу супраць казакаў у годзе 1596 на дзень, прызначаны Яго міласцю Панам Гетманам 12 лютага” (“Spisanie szłachty powiatu Nowogrodzkiego ktory się do Kopyla ziachali na expeditią przeciwko kozakom w Roku 1596 na dzien od Iego mosci Pana Hetmana złożony 12 februarii”). Упершыню ён быў апублікаваны ў VIII томе шматтомнага выдання “Жерела до історіі Україні-Руси”, які выйшаў у Львове ў 1908 г.[1]. На гэты дакумент у сваіх працах спасылаліся і спасылаюцца гісторыкі Украіны, Польшчы, Беларусі, Расіі, прадметам даследавання якіх з’яўляліся розныя праблемы гісторыі Рэчы Паспалітай канца XVI ст.: ад непасрэдна казацкага руху і ваеннай гісторыі (Ю.Мыцык[2], С.Леп’явко[3] і інш.[4]) да гісторыі парламентарызму (шляхецкіх з’ездаў) (А.Закшэўскі[5], Г.Люлевіч[6], А.Радаман[7] і інш.). З’яўленне згаданага “Спісу” наўпрост звязана з паходам на землі Беларусі атрада нерэестравых казакаў Севярына Налівайкі ў 1595–1596 гг.

Севярын Налівайка нарадзіўся на Падоллі, некаторы час знаходзіўся ў складзе рэестравага казацтва, прымаў удзел у паходах супраць туркаў і татар, затым быў сотнікам на службе ў князя К.Астрожскага, якую хутка пакінуў. У 1594 г. пераважна з ліку збеглых сялян стварыў атрад нерэестравых казакаў, якіх у 1595 г. вадзіў паходамі ў Мал-

[1] Жерела до історіі Україні-Руси. Т. VIII: Матеріали до историі Українськоі козаччини. Т. І: Документи по рік 1631 /Зібрав і видав І.Крипякевич. Львів, 1908. С. 70 – 83.

[2] Мицик Ю. З нових джерел до історії повстання 1591 – 1596 рр. // Український історичний журнал. 2002. №2. С. 69 – 76.

[3] Леп’явко С. Козацькі війни кінця XVIст. в. Україні. Чернігів, 1966.

[4] Історія українського козацтва: нариси у 2 т. Т. 1. Київ: Киево-Могилянська академия, 2006.

[5] Zakszewski A. Sejmiki Wielkiego Księstwa Litewskiego XVI – XVIII w. Ustrój i funkcjonowanie: sejmik trocki. Warszawa, 2009.

[6] Lulewicz H. Nieformalne zjazdy sienatorsko-szlachieckie w Wielkim Księstwe Litewskim na przykładzie wydarzeń z lat 1595 – 1596 (inwazja S. Nalewajki) // Парламенцкія структуры ўлады ў сістэме дзяржаўнага кіравання Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у XV – XVIII стагоддзях: Матэрыялы міжнар. навук. канферэнцыі (Мінск-Наваградак, 23 – 24 лістапада 2007 г.) /Навук. рэд. С.Ф.Сокал, А.М.Янушкевіч. Мінск: БІП-С Плюс, 2008. С. 205 – 219.

[7] Радаман А. Вайсковыя шляхецкія з’езды (попісы і зборы паспалітага рушэння) Наваградскага павета ў другой палове XVI ст. // Парламенцкія структуры ўлады ў сістэме дзяржаўнага кіравання Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай у XV – XVIII стагоддзях: Матэрыялы міжнар. навук. канферэнцыі (Мінск-Наваградак, 23 – 24 лістапада 2007 г.) /Навук. рэд. С.Ф.Сокал, А.М.Янушкевіч. Мінск: БІП-С Плюс, 2008. С. 220 – 231.

дову і Трансільванію[8]. Пра мэты казацкіх паходаў яшчэ В.О. Ключэўскі падкрэсліваў у сваім "Курсе русской истории", што на суседнія краіны, на Крым, Турцыю, Малдову і нават Маскву казакі прывыклі глядзець, як на прадмет здабычы, як на "казацкі хлеб"[9].

Пасля вяртання з гэтага паходу С.Налівайка падняў паўстанне на Правабярэжнай Украіне, захапіў Луцк, разграміў шмат шляхецкіх маёнткаў на Падоллі і Валыні. Супраць яго каронны канцлер Ян Замойскі выслаў 7-тысячны атрад рэестравых казакаў на чале з Рыгорам Лабадой[10]. Каб пазбегнуць сутыкнення С.Налівайка накіраваў свій атрад туды, дзе яго менш за ўсё чакалі – на землі Беларусі.

Як слушна заўважыў польскі гісторык Генрык Люлевіч, ВКЛ у 1595 г. нават у найменшай ступені не было падрыхтавана да аказання адпору, тым больш, што небяспека прыйшла з абсалютна нечаканага боку – з тэрыторыі сваёй дзяржавы. У ВКЛ на той час не было ні сталага войска, ні нават спецыяльнай службы, якая б кантралявала пераходы з Украіны на Палессе. Такім чынам, адзінай рэальнай сілай, якая магла б супрацьстаяць казакам, былі толькі мясцовыя магнаты і шляхта з тых тэрыторый, якім найбольш пагражалі войскі Налівайкі[11].

6 лістапада 1595 г. казакі штурмам авалодалі адным з самых умацаваных гарадоў тагачаснай Беларусі Слуцкам, і пасля гэтай падзеі менавіта Наваградскі павет становіцца цэнтрам арганізацыі адпора нерэестравым казакам[12].

У канцы XVI ст. амаль усю тэрыторыю Наваградскага павета займалі вотчыны магнатаў і маёнткі шляхты[13]. На з'ездах шляхты спачатку ў Клецку, потым у Нясвіжы (лістапад – снежань 1595 г.) былі прыняты рашэнні аб мерах па ратаванню краіны[14]. На пачатку снежня ў Нясвіжы сабраліся на нараду найвышэйшы гетман ВКЛ і віленскі ваявода Крыштоф Радзівіл Пярун, троцкі ваявода Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка, віленскі кашталян Геранім Хадкевіч, наваградскі ваявода Тэадор Скумін Тышкевіч, наваградскі падкаморы Адам Храптовіч, наваградскі земскі суддзя Есіф Галаўня, Іван Бака і інш. Было прынята рашэнне аб скліканні паспалітага рушэння ў паветах, якім пагражала небяспека казацкага ўварвання[15].

У выніку з'езду таксама з'явіліся лісты-ўніверсалы наваградскай шляхты да шляхты іншых ваяводстваў і паветаў ВКЛ. У гэтых лістах, падпісаных "уласнай рукой" і замацаваных пячаткамі найбольш вядомых удзельнікаў нарады, падкрэслівалася тая небяспека, якая пасля "свавольнага і гвалтоўнага" захопу нізавымі казакамі замка і горада Слуцка пачала пагражаць не толькі землям паблізу Слуцка, але і ўсёй тэрыторыі Вялікага княства. Лісты ўтрымлівалі інфармацыю аб мерах, якія ўжо былі прынятыя для барацьбы з казакамі. А менавіта паведамлялася пра тое, што ў пагоню за Налівайкам быў пасланы рэжыцкі староста Міхайла Буйвід з тысячай коней і людзей, частка якіх служыла Рэчы Паспалітай "за грошы", а частка была сабрана самой шляхтай.

Галоўны сэнс дадзеных універсалаў – заклік да шляхціцаў іншых ваяводстваў і паветаў ВКЛ, каб яны, зыходзячы з "любові да сваёй Айчыны" і ў адпаведнасці са ступенню сваёй заможнасці дапамаглі людзьмі М.Буйвіду выгнаць "свавольнае гультайства" з межаў Вялікага княства Літоўскага[16]. Вядомы як мінімум два такія лісты абсалютна аднолькавага зместу да шляхты Віцебскага ваяводства і Аршанскага павета[17]. Аднак абсалютна праўдападобна, што такія ўніверсалы былі накіраваны і да шляхты

[8] Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1. С. 244 – 245; Налівайка Севярын //Энцыклапедыя ВКЛ. Т. 2. С. 343.
[9] Ключевский В.О. Сочинения. В 9-ти т. Т. 3: Курс русской истории. Ч. 3 /Под ред. В.Л. Янина. М.: Мысль, 1988. С. 104.
[10] Налівайкі паўстанне 1595 – 1596 //Энцыклапедыя ВКЛ. Т. 2. С. 343 – 344.
[11] Lulewicz H. Nieformalne zjazdy senstorsko-szlacheckie w Wielkim Księstwie Litewskim na przykładzie wydarzeń z lat 1595 – 1596 (inwazja S. Nalewajki). C. 207.
[12] Гістарычныя запіскі Ф. Еўлашоўскага /Уклад. У. Свяжынскі. Мінск, 1990. С. 114 – 115.
[13] Насевіч В. Новагародскі павет // Энцыклапедыя ВКЛ. Т. 2. С. 363.
[14] Lulewicz H. Nieformalne zjazdy senstorsko-szlacheckie. C. 208.
[15] Радаман А. Вайсковыя шляхецкія з'езды (попісы і зборы паспалітага рушэння) Навградскага павета ў другой палове XVI ст. С. 223 – 224.
[16] Biblioteka Czartoryskich (Далей – BCz). Rkps 2243. Coiiectanea do dziejów Polskich z lat 1553 – 1611. Polska. Akta 1: (1585 – 1598). T. II. XVI – XVII w. S. 293 – 294.
[17] BCz. Rkps. 2243. S. 293 – 296.

іншых ваяводстваў і паветаў ВКЛ. Так, прынамсі, у бібліятэцы князёў Чартарыйскіх у Кракаве захоўваецца ліст шляхты брэсцкага ваяводства да віленскага ваяводы Крыштофа Радзівіла Пяруна, датаваны 20 студзеня 1596 г., у якім паведамляецца, што шляхта Брэсцкага ваяводства па прычыне таго, што казацкі атрад Налівайкі ўжо ўступіў у Пінскі павет, не далучыцца да асноўных сіл, а лічыць неабходным застацца ва ўласных межах і "тушыць той агонь" у сваім ваяводстве, каб ён не распаўсюдзіўся пажарам далей па іншых ваяводствах ВКЛ[18]. Хутчэй за ўсё, гэты ліст з'яўляўся адказам шляхты брэсцкага ваяводства на згаданыя лісты-ўніверсалы.

А тым часам казацкія атрады С.Налівайкі пасля захопу і двухтыднёвага знаходжання ў Магілёве (13 – 25 снежня 1595 г.) пад націскам войск М.Буйвіда пакінулі горад і рушылі ў напрамку Быхаў–Рагачоў–Рэчыца–Петрыкаў, захапіўшы затым Давыд-Гарадок, Тураў, Пінск.

У такіх умовах у адпаведнасці з рашэннем з'езда шляхта Наваградскага павета ў прызначаны гетманам Мікалаем Крыштафам Радзівілам Сіроткай дзень 12 лютага 1596 г. з'ехалася ў Капыль, дзе адбыўся попіс паспалітага рушэння гэтага павета, у выніку чаго і паўстаў згаданы на пачатку артыкула дакумент. Ён мае сапраўдную ўнікальнасць для Наваградчыны, паколькі ўтрымлівае падрабязны спіс наваградскай шляхты і дзякуючы яму гісторыя Наваградскага павета канца XVI ст. набывае адушаўлённы характар.

Дакумент зафіксаваў падзел шляхты на 6 сотняў, на чале якіх стаялі знаныя ў павеце асобы:

1. сотня **Аўгустына Чаркоўскага** налічвала 99 конных і 17 пешых ваяроў;
2. сотня **Рыгора Уніхоўскага** – 101 конны;
3. сотня **Адама Храптовіча** – 100 конных і 10 пешых;
4. сотня **Марціна Окуня** – 100 конных, 54 пешых;
5. сотня **Мікалая Войны** – 94 конных;
6. сотня **Мікалая Падарэўскага** – 99 конных.

Сёмая сотня не была да канца сфарміравана, налічвала 74 конных ваяроў і яшчэ не мела прызначанага старшыні.

Відавочна, што дакумент не скончаны, паколькі ў ім адзначаецца, што ў Капыль прыбыло яшчэ больш за 100 коннікаў, якія не паспелі зарэгістравацца, а многія таксама не даехалі ў прызначаны час да Капыля. Найбольш аўтарытэтны сучасны беларускі даследчык наваградскай шляхты Андрэй Радаман прапанаваў версію, што дадзены попіс, мажліва, быў тэрмінова запатрабаваны найвышэйшым гетманам Крыштафам Радзівілам Пяруном, што не дало мажлівасці своечасова яго скончыць[19].

Тым не менш, гэты дакумент з'яўляецца важнай крыніцай і дае мажлівасць не толькі паіменна вызначыць склад шляхты Наваградскага павета ў канцы XVI ст., але і яе маёмаснае становішча, якое наўпрост было звязана з колькасцю выстаўленых коней. Так, толькі 12 шляхціцаў былі здольны самастойна выставіць 10 і больш коней. Сярод іх былі: Іван Бака (10 конных, 2 пешых жаўнераў), Немiровіч (10 конных), Мікалай Падарэўскі (10 конных): Гастомскі (11 конных), Іван Кміта (12 конных, 12 пешых), Рыгор Уніхоўскі (14 конных), Шемёт (18 конных), Марцін Окунь (20 конных, 20 пешых), Багдан Казінскі (20 конных), почат[20] княгіні Слуцкай (31 конны воін), Адам Храптовіч (40 конных, 10 пешых) і Ёзаф Галаўня (50 конных, 30 пешых).

Разам з тым, 127 чалавек выставіла толькі па 1 конным ваяры, пры гэтым некаторыя нават выстаўлялі гэтага каня не самастойна, а з удзелам іншай асобы ці асобаў (z uczestnikiem).

Як вынікае з дакумента, выстаўляць коней разам з братам, сябрам ці суседам была даволі распаўсюджанай з'явай. Так, шляхціцы Андрэй Серомскі і Станіслаў Канецкі разам выставілі 2-х коней, Томаш Мілеўскі і Мацей Зубкоўскі 2-х коней, "Юда Беразневіч

[18] BCz. Rkps. 2243. S. 297 – 298.

[19] Радаман А. Вайсковыя шляхецкія з'езды (попісы і зборы паспалітага рушэння) Наваградскага павета ў другой палове XVI ст. С. 226 .

[20] Почат – вайсковае фарміраванне, на чале якога выступаў на земскую службу буйны землеўладальнік. Складаўся з асабіста залежных або нанятых феадалам для службы людзей // Энцыклапедыя ВКЛ. Т. 2. С. 341.

разам з братам сваім Яцкам” таксама 2-х коней, браты (?) Пратасовічы – Фёдар, Ёсіф, Ян, Матфей і Ежы – выставілі разам 10 коней і г.д. Шляхціц Іван Куйша выставіў 1 каня нават са сваёй цешчай[21].

На заклік навагрbudskай шляхты адгукнуліся і ў іншых мясцовасцях ВКЛ. Так, на працягу 24 – 28 лютага 1596 г. у Мінску праходзіў попіс шляхецкіх почтаў Мінскага ваяводства[22]. Акрамя таго, на арганізацыю адпора казацкаму свавольству выдзяляліся і грашовыя сродкі. Так, 29 мая 1596 г. ад Яна Абрамоўскага, смаленскага ваяводы і лідскага старосты, Яна Нарушэвіча, лоўчага ВКЛ, Мікалая Зяновіча, аршанскага падкаморага, у распараджэнне найвышэйшага гетмана ВКЛ было перададзена ў агульнай колькасці 2560 коп літоўскіх грошай “на жаўнераў супраць нізавых казакаў”[23]. Прадпрынятыя мерапрыемствы спрыялі адыходу атрадаў С.Налівайкі з тэрыторыі ВКЛ да вясны 1596 г., а ў ліпені гэтага ж года паўстанне было канчаткова падаўлена ўжо на ўкраінскіх землях.

Такім чынам, у барацьбе з казацкім атрадам С.Налівайкі на землях ВКЛ навагрудская шляхта адыграла адну з вядучых арганізацыйных і ваенных роляў: менавіта з яе ўдзелам і на тэрыторыі Навагрудскага павета прымаліся асноўныя рашэнні па выратаванню краіны. Гэта ў першую чаргу было звязана з тым, што маёнткі навагрудскай шляхты аднымі з першых пацярпелі ад казацкіх атрадаў і на тэрыторыі павета знаходзіліся вотчыны адных з самых заможных і ўплывовых магнатаў у Княстве – Радзівілаў.

Разам з тым, падзеі 1595 – 1596 г. не могуць сведчыць пра палітычную актыўнасць навагрудскай шляхты ўвогуле. Усяго праз некалькі гадоў пасля паўстання С.Налівайкі, у снежні 1600 г., калі землям ВКЛ рэальна пагражала ўварванне шведскага войска, шляхта Навагрудчыны не праявіла падобнай актыўнасці, не ўхваліла ні паспалітага рушэння, ні надзвычайнага падатка на войска. Па слушнаму назіранню А.Радамана, адбылося гэта па прычыне таго, што пагроза шведскага ўварвання непасрэдна не закранала яе інтарэсы[24].

---

[21] BCz. Rkps. 2243. S. 336.
[22] BCz. Rkps. 2243. S. 341 – 343.
[23] BCz. Rkps. 2243. S. 315.
[24] Радаман А. Вайсковыя шляхецкія з’езды (попісы і зборы паспалітага рушэння) Навагрудскага павета ў другой палове XVI ст. 229 .

Л. Іванова (Мінск)

# Наваградчына як адзін з цэнтраў рэфармацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVI – XVII стст.

Езуіт Петр Скарга ў сваім творы «Берасцейскі сабор і яго абарона», напісаным у канцы XVI ст., каб паказаць, якую шкоду прыносіць праваслаўным пагадненне з евангелікамі, адзначыў, што ў Наваградскім ваяводстве пратэстанты забралі больш за 650 цэркваў « і службу Божую ў іх спустошылі», а з 600 праваслаўных шляхецкіх сямей ледзьве 16 засталося, якія пазбеглі «гератыцкай новакрашчэнскай заразы»[1]. Нягледзячы на яўнае перабольшванне, характэрнае для тагачаснай палемікі, Наваградчына сапраўды была адным з галоўных цэнтраў рэфармацыйнага руху ў Беларусі. Большасць збораў у Беларусі групавалася ў трохвугольніку паміж Наваградкам, Вільняю і Менскам.

Асноўнай рэфармацыйнай царквой у ВКЛ была кальвінісцкая, аднак рэлігійна-багаслоўскія і сацыяльна-палітычныя супярэчнасці прывялі рэфармацыйны рух да расколу. У 60-я гг. XVI ст.сфарміравалася яго радыкальныя плынь – антытрынітарызм, ці арыянства (як называлі яе апаненты). Антытрынітарызм вызначаўся плюралізмам поглядаў. Антытрынітарыі адмаўлялі царкоўны дагмат Св. Тройцы, прызнавалі за Ісусам Хрыстом чалавечую, а не боскую сутнасць. Многія з іх выступалі супраць прыгонніцтва, вярхоўнай улады, дзяржаўных устаноў і войнаў. Анабаптысты адмаўлялі хрышчэнне немаўлят (нярэдка ўжывалі практыку паўторнага хрышчэння ў сталым узросце). Антытрынітарскія абшчыны існавалі ў Наваградку, Любчы, Іўі, Лоску і іншых месцах.

Арганізацыйна-тэрытарыяльная структура кальвінісцкай царквы ўключала 6 дыстрыктаў: Віленскі, Завілейскі, Наваградскі, Рускі (ці Беларускі), Берасцейскі і Жамойскі. У наваградскі дыстрыкт уваходзілі зборы ў Слуцку, Капылі, Асташыне, Уселюбе, Беліцы, Любчы, Дакудаве, Даляцічах, Арлове і інш. Наш артыкул асвятляе гісторыю збораў, якія знаходзіліся ў межах сучаснага Навагрудскага раёна.

Першыя вядомыя нам дакументальныя звесткі аб зборы ў Наваградку адносяцца да 1588 г. – гэта фундушавы запіс удавы віцебскага кашталяна Малхера Сноўскага – Барбары Янаўны Клачкоўны Сноўскай. Выконваючы волю свайго нябожчыка-мужа, яна запісала евангелічнаму збору дом з «пляцам», які размяшчаўся на Рынкавай плошчы, побач з домам мітрапаліта. Дазорцамі і абаронцамі збору былі прызначаны полацкі падкаморы Міхал Францкевіч Радзімінскі, земскі наваградскі суддзя Іосіф Галаўня, гарадскі войт Мацей Драздоўскі і мясцовыя шляхціцы-кальвіністы Іван Бака і Міхал Казінскі[2]. У 1616 г. «зямянін асядлы» Ян Касперовіч Швыкоўскі падараваў збору пляц

[1] РИБ. Т. 7. Стлб. 951.

[2] Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Літвы імя М. Мажвідаса (Далей – АР НБЛ). Ф. 93. Спр. 1. Л. 164 – 168.

для школы [3]. У 1622 г. ротмістр ВКЛ Ян Міхайлавіч Францкевіч і яго жонка Ганна з роду Нарушэвічаў перадалі збору некалькі «пляцаў» з павіннасцямі і даходамі на вул. Віленскай і зямельны участак для пахавання людзей евангеліцкай веры[4].

Ва ўмовах наступу контррэфармацыі, з канца XVI ст. узмацніліся тэндэнцыі рэлігінай нецярпімасці, паміж прадстаўнікамі розных веравызнанняў адбываліся сутычкі. У лісце ад 20 красавіка 1620 г. патрону навагрудскага збору Крыштофу Радзівілу кальвіністы прасілі яго абараніць навагрудскага райцу – евангеліка Ціхана Бакелевіча ад праследаванняў мясцовых уніятаў (у Навагрудку размяшчалася кафедра ўніяцкага мітрапаліта)[5]. У 1626 г. Крыштоф Радзівіл выдаў універсал для абароны збору, шпіталю і дамоў евангелікаў ў Навагрудку ад вайсковых грабяжоў[6]. У 1644 г. у Навагрудскі гродскі суд ад імя «усіх братоў веры евангеліцкай» звярнуліся тры абывацелі навагрудскага ваяводства са скаргай на манахаў-дамініканцаў, якія не дазвалялі пранесці каля дамініканскага кляштара труну з целам евангеліка Крыштофа Спарышэвіча, навааградскага ювеліра («злотніка»), чый дом знаходзіўся на вул. Папкоўскай, побач з кляштарам. У сярэдзіне XVII ст. у час вайны з маскоўскім войскам будынак збору быў зруйнаваны і набажэнства адбывалася ў яго мураваных склепах. Аднак кальвіністы працягвалі цярпець ад дамініканаў і езуітаў. У лісце караля Яна Казіміра ад 17 чэрвеня 1662 г. згадваюцца варожыя дзеянні езуіцкіх шкаляроў супраць мясцовых евангелікаў[7]. У 1669 г. навагрудскія кальвіністы звярталіся да Багуслава Радзівіла з просьбай дазволіць браць дрэва ў Дакудаўскай пушчы для ўзвядзення новага будынку збора. Яны пісалі, што сабралі некалькі сот злотых, але грошай на аднаўленне збору фатальна не хапае і прасілі яго дапамагчы матэрыяльна[8]. У 1680 г., ужо пасля смерці Багуслава, яны з такой жа просьбай звярталіся да яго дачкі – Людвікі Караліны[9]. Аднак збор у Навагрудку так і не быў адноўлены. У 1676 г. збаровыя пляцы купіў радзівілаўскі служэбнік, мемуарыст Станіслаў Незабытоўскі з абавязацельствам не будаваць на тым месцы збор і не праводзіць набажэнства, а толькі утрымліваць свой «двор шляхецкі».[10]

У Навагрудку існаваў і арыянскі збор. З ім звязана дзейнасць вядомага педагога, арыянскага пісьменніка Яна Ліцынія Намыслоўскага. Ян Ліцыній нарадзіўся ў Сілезіі, атрымаў выдатную адукацыю ў еўрапейскіх універсітэтах. Калі ў 1585 г. ва ўладанні схільнага да антытрынітарыяў магната Яна Кішкі Іўі была арганізавана школа, Намыслоўскі стаў яе рэктарам. Для патрэб школы ён падрыхтаваў падручнік па логіке «Дапаможнік па навукам Арыстоцелевым…»(Лоск, 1586 г.) і «Павучэнні, неабходныя для жыцця» ( Лоск, 1589 г.), якія сведчылі аб гуманістычным характары адукацыі. Дзякуючы яго намаганням, Іўеўская школа мела надзвычай высокі ўзровень выкладання, яна стала інтэлектуальным цэнтрам Наваградчыны. Тут вучыліся дзеці шляхты розных веравызнанняў.

Пасля смерці Кішкі ў 1592 г., Іўе перайшло да яго спадкаемцаў кальвіністаў і Ян Ліцыній Намыслоўскі асталяваўся міністрам збору ў Навагрудку. У 1594 г. у Навагрудку адбыўся тэалагічны дыспут Намыслоўскага з вучоным езуітам Марцінам Сміглецкім. У якасці суддзяў на дыспуце прысутнічалі: з боку арыян – наваградскі маршалак Васіль Зянкевіч і Лявон Маклок (шляхціц, у доме якога ў Вішневе памёр ў 1593 г. Сымон Будны), з боку кальвіністаў – віленскі цівун Ян Пац і Андрэй Завіша[11]. У 1597 г. Намыслоўскі падрыхтаваў зварот «Да братоў міністраў-евангелікаў», у якім заклікаў кальвіністаў і антытрынітарыяў прыйсці да згоды ў асноўных дактрынальных пытаннях, праяўляць узаемную верацярпімасць. У прадмове ён звяртаўся да членаў навагрудскай кальвінісцкай абшчыны – вядомага мемуарыста Федара Еўлашэўскага, Івана Бакі, Адама Пачапоўскага, Марціна Анашкевіча Палуяна[12].

[3] Там жа. Л. 172 – 173.
[4] Там жа. Л. 173адв. – 174.
[5] Archiwum Głowny Akt Dawnych (Далей – AGAD). AR. Dz.II. T.6. Nr 725.
[6] Augustyniak U. W służbie hetmana I Pzeczypospolitej. Warszawa, 2004. S 208.
[7] АВАК. Т. 13. № 30. С. 101.
[8] AGAD. AR. Dz.V. Nr 3623. L. 40 – 41, 47.
[9] Там жа. L. 59.
[10] AGAD. AR. Dz. VIII. Nr. 419.
[11] Szczucki L. Jan Licinius Namysłowski// Studia nad arianizmem. Pod red. L. Chmaja. Warszawa, 1959. S. 144 – 146.
[12] Там жа. S. 148 – 151.

У Наваградку нярэдка праходзілі сіноды беларускіх, літоўскіх і польскіх антытрынітарыяў, якія вялі энергічную прапаганду сваіх ідэй. Суперінтэндант наваградскага дыстрыкту Ян Зыгроўскі выказваў вялікую занепакоенасць пранікненнем у кальвінісцкае асяроддзе «арыянскай ерасі». У 1614 г. Віленскі сінод прыняў спецыяльную пастанову аб прызначэнні у Навагрудскі збор вучонага міністра (святара), які быў бы ў стане процістаяць арыянскім «спакуснікам» і перасцярагаў кальвіністаў, каб яны не падтрымлівалі з арыянамі сувязей, не прысутнічалі на іх пропаведзях і не заключалі з імі ніякіх пагадненняў[13]. У 1617 г. пры садзейнічанні езуітаў арыянскія абшчыны ў Навагрудку і Любчы былі ліквідаваны каралеўскім дэкрэтам. Аднак непадалёку ад Навагрудка, у маёнтку мясцовага шляхціца Рафала Коса, нешматлікая арыянская абшчына нейкі час яшчэ існавала. Яе узначальваў рэлігійны дзеяч Міхал Гіціх. Яго бацька, немец па паходжанню, пратэстант, быў лекарам у Венецыі. З-за сваіх рэлігійных перакананняў пераехаў у ВКЛ, дзе ажаніўся на польке. Міхал Гіціх нарадзіўся ў ВКЛ, вучыўся ў пратэстанцкім універсітэце ў Германіі, выкладаў у арыянскай школе ў Ракаве. З 1611 г. быў міністрам пры Навагрудскім арыянскім зборы. Пасля 1642 г. пераехаў у Польшчу. [14].

Радзівілаўскія рэзідэнцыі – Даляцічы і Любча, былі месцам жыцця і дзейнасці шмат якіх вядомых дзеячоў, у прыватнасці прыдворнага лекара і паэта Даніэля Набароўскага і паэта Саламона Рысінскага, які амаль усе жыццё выконваў пры радзівілаўскім двары абавязкі адміністратара. Рысінскі – аўтар вядомага зборніка прыказак, у які увайшлі таксама прыказкі з мясцовага фальклору. Даніель Набароўскі пакінуў апісанне апошніх дзён свайго сябра Рысінскага, які памёр у Даляцічах у 1625 г. У інвентары 1628 г. апісваецца будынак збору ў Даляцічах – з нэфам і трох'ярусным прытворам. Унутры знаходзіліся 17 лавак для прыхажан, а таксама распісныя амбон і прастол. Памяшканне мела 6 акон. Пры зборы была плябанія. Адсутнасць звестак аб зборы ў інвентары 1652 г. сведчыць аб тым, што ў гэты час збор ужо не існаваў[15].

У адноўленым прывілеі 1687 г. Людвікі Караліны Радзівіл на збор у Любчы адзначаецца, что тагачасны уладальнік мястэчка, крайчы ВКЛ Ян Кішка заснаваў збор ў 1589 г. «паміж замкам і горадам над ракой Неман» з нададаннем пляцаў для школы, шпіталя і дому для святара[16]. Пры жыцці Яна Кішкі ў Любчы адбываліся сіноды, на якія з'язджаліся вядомыя дзеячы антытрынітарызму з Польшчы і ВКЛ. Пасля смерці Яна Кішкі ў 1592 г., яго ўдава Эльжбета з Астрожскіх выйшла замуж за кальвініста Крыштофа Радзівіла «Пяруна». Нягледзячы на тое, што Кішка ў тэстаменце ад 6.07.1592 г. наказваў сваім спадкаемцам не звальняць арыянскіх міністраў і не адлучаць падданых ад іх веры, арыянскія міністры былі выгнаны з яго ўладанняў. Пры біржанскіх Радзівілах збор у Любчы стаў кальвінісцкім. У інструкцыі («Інфармацыі») Крыштофа Радзівіла, выдадзенай ў 1621 г. Саламону Рысінскаму, яму даручаўся нагляд за ўсімі зборамі, зборавымі школамі і шпіталямі ў радзівілаўскіх уладаннях. У Любчы Радзівіл прадпісваў пабудаваць школу пры зборы, знайсці сродкі на ўтрыманне настаўніка і скончыць будову шпіталя на 6 чалавек «убогіх»[17].

Пры зборы ў Любчы была арганізавана буйнейшая ў Беларусі рэфармацыйная друкарня, якая дзейнічала да сярэдзіны XVII ст. (друкары і выдаўцы: Петр Бластус Кміта, 1612 – 1629 гг.; яго сын Ян Кміта, 1630 – 1643 гг.; Ян Ланге, 1646 – 1655 гг.). У інвентары Любчы 1651 г. называюцца таксама імёны памочнікаў друкара Яна Ланге – мабыць, мясцовых жыхароў, «друкарчыкаў» Ждана Вайцяховіча і Юркі Лукашэвіча. У гэтым жа інвентары згадваецца евангелічны збор, які знаходзіўся паміж замкам і мястэчкам, з новазбудаванай званіцай з прускай цэглы, з могілкамі, школай і плябаніяй[18].

З друкарні ў Любчы выйшла больш за 100 тытулаў кніг на польскай і лацінскай мовах, у значнай ступені свецкага зместу: антычныя і гістарычныя творы («Гісторыя Іўдзейскай

[13] Akta synodów prowincjalnych Jednoty Litewskiej 1611—1625. Wilno, 1915. S. 21.
[14] Szczotka St. Gittich Michał.// Polski słownik biograficzny. T. VIII/1, zesz. 36. Warszawa, 1959. S. 9—10.
[15] Якимович Ю.А Зодчество Белоруссии XVI—середины XVII в. Минск, 1991. С. 120.
[16] АР НБЛ. Ф. 93. Спр. 5. Л.145 адв. – 146адв.
[17] Akta synodów prowincjalnych Jednoty Litewskiej 1611—1625. Wilno, 1915. S. XXI.
[18] Аддзел рукапісаў Бібліятэкі АН Літвы (Далей – АР БАНЛ). Ф. 40. Спр.68.

вайны« Іосіфа Флавія, 1617 г.; «Генеалогія, або Кароткае апісанне гістарычных дзеянняў вялікіх князёў літоўскіх» Мацея Стрыйкоўскага, у перапрацоўцы Самуэля Доўгірда, 1626 г.), выданні па геаграфіі, медыцыне і ветэрынарыі, паэтычныя зборнікі, панегірыкі. Тут выйшлі «Жыццё сельскае і гарадское» (1620 г.) і «Прытчы Саламона ў ў паэтычным выкладанні» (1623 г.) паплечніка Сымона Буднага – Язэпа Даманеўскага. Твор Беняша Буднага «Апафегматы» (1614 г.) – збор маральных сентэнцый антычных філосафаў з каментарыямі Беняша Буднага – былі адной з найбольш папулярных і чытаемых кніг у Рэчы Паспалітай, неаднаразова перавыдаваліся ў Вільні, Кракаве, нават на рускай мове ў Санкт-Пецярбургу (1745 г.).

У Любчанскай друкарні выдаваліся творы суперінтэнданта Наваградскага дыстрыкту Яна Зыгроўскага («Наваградскі дыспут 1616 г.…», у якім ён удзельнічаў разам з нясвіжскім езуітам Бенядыктам Брывільясам; каля 1617 г.), рэктара школы пры Віленскім зборы Пятра Сестранцэвіча (пераклад часткі кнігі Жана Кальвіна «Наука аб сакраментах», 1626 г.), лютэранскага пастара з Вільні Андрэя Шонфлісіуса і інш. У 1628 г. у Любчы быў надрукаваны Статут Слуцкай кальвініcцкай гімназіі. Найбольш выразна асветніцкія і гуманістычныя тэндэнцыі ў дзейнасці выдавецкага цэнтра праявіліся, калі друкаром быў Пётр Бластус Кміта. Пад час кіравання яго сына – Яна Кміты – большасць выданняў складалі літургічныя кнігі і панегірыкі. У выданнях любчанскай друкарні выкарыстоўваліся гравюры на медзі. З Янам Ланге супрацоўнічаў віленскі гравёр Конрад Гётке.У час войнаў сяр. XVII ст. друкарня была зруйнавана разам з мястэчкам[19].

У інвентары Любчы 1663 г., складзеным пасля непрыяцельскага спусташэння, адзначаецца, што збор на мураваным фундамеце, пакрыты гонтам, з вялікімі дубовымі дзвярамі, патрабуе рамонту. Частка вокнаў з выбітым шклом. Уверсе знаходзіўся пабелены жалезны купал з крыжам. Пры зборы была званіца з цэглы, «па пруску муравана», крытая гонтам, на ёй пяць вятракоў з белай бляхі і два званы. Пры зборы была плябанія, якая таксама патрабавала паправкі[20].

У 1730 г. збор у Любчы згарэў. У рэляцыі мясцовага міністра Даніэля Ранчынскага ў дапушчэнні поўнага знішчэння збору агнем абвінавачваліся службы дзяржаўцы Любчы Лявона Навасельскага які, як быццам, сам з задавальненнем наглядаў за пажарам[21]. 19 мая 1738 г. евангелікі Вялікага княства Літоўскага звярнуліся да віленскага біскупа Міхала Яна Зянковіча з афіцыйнай просьбай аб дазволе адбудовы спаленых збораў і вяртанні звона, бяспраўна забранага наваградскім ксяндзом Ёзафам Паніквіцкім з спаленага збора ў Любчы. Біскуп загадаў вярнуць звон, аднак не даў дазволу на аднаўленне збору[22]. У сярэдзіне XVIII ст. набажэнства праходзіла ў будынку плебаніі. У спісе збораў 1801 г. адзначана, что збор у Любчы «спустошаны праз старасць»[23].

У «Інфармацыі» Крыштофа Радзівіла згадваўся збор ва Ўселюбе, які, мяркуючы па ўсім, знаходзіўся ў бядотным становішчы: не было пастаяннага міністра, званіца і шпіталь патрабавалі рамонту. Радзівіл выдаў распараджэнне прывесці ў парадак зборавыя могілкі, адраманатаваць шпіталь і памяшканне для міністра, збудаваць новую званіцу, арганізаваць пры зборы пачатковую школу, знайсці сродкі на ўтрыманне настаўніка і міністра[24]. У «Апісанні патрэб Уселюбскага збору» (першая чвэрць XVII ст.?) адзначалася, што ў зборы не хапае начыння, патрэбнага для прычасці, званіцы, няма лавак і добрых дзвярэй з замком, на даху салома згніла, «дзяды і бабы» з шпіталя не маюць зімовага аддзення, няма школы, аб якой людзі «даўно просяць». У распараджэнні (Крыштофа Радзівіла ?) загадваецца паслаць падданых да пушчы Дакудаўскай па добры лес для званіцы, дубовых дзвярэй і лавак; мясцовым падданым – каб зрабілі агарожу пры цментары. Таксама загадваецца паслаць пана Давейку да Навагрудка па таго майстра, што рабіў ратушу ў Навагрудку, каб ён зрабіў купал на ўселюбскім зборы; пану

[19] Kawecka-Gryczowa A. Drukarze dawnej Polski od XV do XVIII wieku. Zesz. 5: Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław-Kraków, 1959.

[20] Siedziby Kiszków I Radziwiłłów na Białorusi w XVI—XVIII wieku. Opisy z zasobu AGAD. Opracował Jarosław Zawadzki. Warszawa, 2002. S.94 – 95.

[21] Kriegseisen W. Ewangelicy Polscy I Litewscy w epoce Saskiej (1696 – 1763). Warszawa, 1996. S. 220.

[22] Там жа. S. 197.

[23] АР БАНЛ. Ф.40. Спр. 833. Карта 14.

[24] Akta synodów…. Wilno, 1915. S. XXI – XXII.

Рысінскаму – каб паслаў неабходнае начынне для збора. Там жа змяшчаецца патрабаванне да зямян, мяшчан і падданых, каб наведвалі збор, асабліва тыя «свавольныя людзі, якія без сораму і Божай баязні без шлюбу па некалькі жонак маюць»[25]. Пасля доўгіх судовых працэсаў у Навагрудскім земскім судзе і Галоўным Трыбунале, у 1642 г. паміж Янушам Радзівілам і ўселюбскім каталіцкім плебанам было дасягнута пагадненне і будынак збора ва Ўселюбе перададзены каталікам[26].

Збор у Несутычах упершыню згадваецца ў актах Віленскага сінода ў 1653 г. – туды быў пасланы з місіяй міністр Іеранім Касарскі [27]. Верагодна, збор дзейнічаў да пачатку XVIII ст. На жаль, больш дакладных звестак аб гэтым зборы мы не маем.

Рэфармацыя на Навагрудчыне адлюстравала тыповыя рысы ўсяго рэфармацыйнага руху ў Беларусі. Наступ контррэфармацыі, адсутнасць шырокай сацыяльнай апоры, раскол руху на розныя плыні абумовілі крызіс Рэфармацыі ў сярэдзіне XVII ст. Аднак яна аказала значны ўплыў на духоўнае жыццё гэтага краю, асабліва ў галіне школьнай адукацыі літаратурнай творчасці і кнігадрукавання.

[25] АР БАНЛ. Ф. 40. Спр. 200 (дакумент не датаваны).
[26] AGAD. AR. Dz. VIII. Nr 643. L. 1.
[27] AGAD. AR. Dz. VIII. Nr 713. L. 314.

**А. Шаланда (Мінск)**

# Святы арханёл Міхаіл – герб Наваградскага ваяводства ВКЛ ў XVI–XVIII ст.

Праблема гербаў Наваградскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ) спецыяльна ў айчыннай і замежнай гістарыяграфіях не разглядалася. Таму далей канстатацыі факту, што наваградскімі ваяводскімі гербамі з'яўляліся так званы "*Чорны Анёл*" і "*Пагоня*", аўтары не пайшлі[1]. Акрамя гэтага, некаторыя з іх паблыталі гарадскі герб Наваградка з ваяводскім[2]. У сваю чаргу польскі даследчык Ежы Лойка да ліку наваградскіх гербаў дадаў герб з выявай чырвонага геральдычнага крыжа ў срэбным полі[3]. У свой час услед за ім пайшлі і мы[4]. У выніку атрымалася, што Наваградская зямля, а пазней ваяводства, мела ў розныя перыяды свайго існавання аж тры адметныя гербы – "*Пагоню*", "*Чорнага Анёла*" і "*Крыж*". Аднак, праблема аказалася значна больш складанай, чым гэта здавалася на першы погляд.

***"Пагоня"***. Як герб Наваградскай зямлі згадваецца Янам Длугашам пры апісанні харугваў войска ВКЛ у бітве пад Грунвальдам 1410 г.: "*Знакі на тых харугвах былі амаль што ўсе аднолькавыя, бо на кожнай быў змешчаны збройны муж на белым кані, або чорным, або мяшанай масці, з узнятым у руцэ мячом, у чырвоным полі*"[5]. Аднак, "*Хроніка*" пісалася Янам Длугашам значна пазней пасля згаданай падзеі – у 60–80-я г. XV ст.[6], а таму яго звесткі пра харугвы зямель ВКЛ выклікалі сумнеў. Польскі даследчык Е.Лойка лічыць нават, што на самой справе храніст не ведаў, як выглядалі ўсе зямельныя харугвы ВКЛ[7]. Крытычны ў гэтым пытанні да Яна Длугаша і другі польскі геральдыст Стэфан Кшыштаф



*Герб "Пагоня" на земскай пячатцы Наваградскага павета, 1565 г. Фота А.Цітова.*

---

[1] Пякарскі А. *Наваградскія гербы.* // Спадчына. № 5. 1993. С.2. Цітоў А. *Геральдыка Беларусі.* Мн.:МФЦП, 2007. С. 27. Kuczyński S.K. *Polskie herby ziemskie. Geneza, treści, funkcje.* Warszawa, 1993. S. 100.

[2] Цітоў А. *Гарадская геральдыка Беларусі.* Мн.: Полымя, 1989. С. 152, 154. Цітоў А. *Сфрагістыка і геральдыка Беларусі.* Мн.: РІВШ БДУ, 1999. С. 101.

[3] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem.*// Lituano-Slavica Posnaniensia. Poznań, 1989. Studia historica. T.III. S. 149, 151, № 6.

[4] Шаланда А. *Зямельныя гербы Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага ў XIV–XVIII ст.*// Герольд Litherland. Горадня, 2001. № 2. С. 54, 55.

[5] *Jana Długosza Kanonika Krakowskiego Dzieła Wszystkie wydane staraniem A.Przezdzieckiego.* Kraków, 1869. T.IV. Ks.XI. S. 39.

[6] Семянчук А. *Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі.* Гродна: ГрДУ, 2000. С. 61.

[7] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem.* S. 143.

Кучыньскі[8]. У выніку, можна меркаваць, што "*Пагоня*" на харугве, якая была дадзена вялікім князем літоўскім Вітаўтам рыцарству Наваградскай зямлі перад бітвай пад Грунвальдам, была хутчэй дынастычным і дзяржаўным гербам, чым зямельным. Калі ўвогуле існавала такая наваградская харугва ў 1410 г., бо, як заўважыў Е.Лойка, Ян Длугаш "*не арыентаваўся ў літоўскай геральдыцы часоў вялікакняжацкага кіравання Вітаўта, мусіў устанавіць спіс літоўскіх харугваў на падставе пазнейшай інфармацыі, найпраўдападобней атрыманай у другой палове XV стагоддзя*"[9].

Тым не менш, "*Пагоня*" усё ж была на харугве Наваградскага ваяводства ВКЛ, але фіксуецца гэта ў крыніцах значна пазней – у другой палове XVI ст. Паводле "*Списанья поветов Великого Князства Литовского и врадников в них*", зробленага на Віленскім сойме 1565–1566 г., харугва Наваградскага ваяводства выглядала так: "*хоруговъ пелистая, въ беломъ полю гербъ*"[10]. Як выглядаў апошні, крыніца не падае, але, на нашу думку, ім з'яўлялася "*Пагоня*". Па-першае, таму, што сярод апісанняў ваяводскіх харугваў ВКЛ невядомы аўтар "*Спісання*" не падаў таксама іншай больш грунтоўнай інфармацыі пра гербы, што напэўна бы зрабіў, калі б яны адрозніваліся паміж сабой. Па-другое, Статут 1566 г. (раздзел 4, артыкул 10) прадпісваў выкарыстоўваць на земскіх пячатках паветаў ВКЛ "*Пагоню*": "*даем под гербом того панства нашего Великого Князства Литовского, погонею, печать до кождого повету*"[11]. Наваградскае ваяводства пасля адміністрацыйнай рэформы 1565–1566 г. складалася з трох паветаў: уласна Наваградскага, Ваўкавыскага і Слонімскага[12]. Звернем увагу на тое, што ў Статуце 1566 г. ясна гаворыцца пра "*Пагоню*" не як пра зямельны, а як пра дзяржаўны герб ВКЛ. Таму і тэкст "*Спісання*", і артыкул Статуту могуць сведчыць толькі пра працэс уніфікацыі гербаў на харугвах ваяводстваў і паветаў ВКЛ напярэдадні вуніі з Польскім Каралеўствам. У сувязі з гэтым, герб Наваградскага ваяводства і павета пасля 1565–1566 г., на нашу думку, павінен быў быць адным і тым жа – "*Пагоняй*". Як сведчыць пячатка земскага суда Наваградскага павета, вырабленая ў 1565 г., на ёй сапраўды была выява "*Пагоні*": на картушовай тарчы вершнік з узнятым у руцэ мячом, з похвамі пры боку, пад ім дата "*1565*", надпіс у атоку: "*PIECZEC: ... ... POWIAT ◦ NOVOGRODSKI*"[13]. У сваю чаргу ў "*Апісанні Еўрапейскай Сарматыі*" Аляксандра Гвагніна (Кракаў, 1579 г.) харугва Наваградскага ваяводства апісана наступным чынам: "*Vexillum bicorne rubei coloris Stemmate Magni Ducatus, in campo albo insignitum in bello gestat*"[14]. Няма сумненняў у тым, што пад "*гербам Вялікага княства Літоўскага*" тут трэба разумець "*Пагоню*". Ні А.Гвагнін, ні Мацей Стрыйкоўскі, якому належыць аўтарства "*Апісання...*"[15], не маглі памыліцца, бо былі вайскоўцамі і бачылі харугвы ваяводстваў ВКЛ на ўласныя вочы. Правільна лацінскую фразу зразумеў і перакладчык "*Апісання...*" на польскую мову ў 1611 г. Марцін Пашкоўскі: "*Chorągiew o dwu rogach masci czerwoney taż co y Wielkiego X.Litew: Mąż zbroyny na koniu białym z miczem...*"[16]. Але, калі гэта так, то трэба прызнаць за відавочны факт – "*Пагоня*" не з'яўлялася гербам Наваградскага ваяводства, а была дзяржаўным гербам на яго харугве. Які ж герб быў ваяводскім?

***"Чорны Анёл"***. Першым аўтарам, які згадвае "*Чорнага Анёла*" ў якасці герба Наваградскага ваяводства, быў Барташ Папроцкі. Знаходзячыся пад моцным уплывам працы М.Стрыйкоўскага "*Ганец цноты*" (Кракаў, 1574 г.), ён у 1578 г. у Кракаве выдаў твор "*Гнязо цноты*", дзе сярод іншага адзначыў, што: "*Woiewodztwo Nowogrodzkie Anyoła*

---

[8] Kuczyński S.K. *Polskie herby ziemskie*. S. 43.

9 Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem*. S. 149.

[10] Любавский М. *Литовско-русский сейм*. Москва, 1900. Приложение № 79. С. 229.

[11] *Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 г.* / Т. Доўнар, У. Сатолін, Я. Юхо. Мн.: Тэсей, 2003. С.103.

[12] Любавский М. *Литовско-русский сейм*. С. 229.

[13] Цітоў А. *Геральдыка Беларусі*. С. 98.

[14] *Sarmatiae Europeae descriptio, quae Regnum Poloniae, Lithuaniam, Samogitiam, Rusiam, Masoviam, Prussiam, Pomeraniam, Livoniam et Moschoviae, Tatariaeque partem complectitur Alexandri Gwagnini Veronensis Equitis Aurati, reditumque praefecti, diligentia conscriptae*. Cracoviae, 1579. F. 58v.

[15] Семянчук А. *Беларуска-літоўскія летапісы і польскія хронікі*. С. 71-72.

[16] *Kronika Sarmacyey Europskiey, w ktorey się zamyka Krolestwo Polskie, ze wszystkiemi Państwy, Xięstwy y Prowincyami swemi, tudzież też Wielkie Xięstwo Lithewskie, Ruskie, Żmudzkie, Inflantskie, Moskiewskie y część Tatarów, przez Alexandra Gwagnina...* Kraków, 1611. Ks.II. Cz.II. F. 113.

*czarnego w polu czerwonym [używa]*"[17]. У іншай пазнейшай сваёй працы – "*Гербы польскага рыцарства*" (Кракаў, 1584 г.) – Б.Папроцкі паўтарыў гэтую інфармацыю: "*Woiewodztwo Nowogrodzkie używa za herb Anyoła Czarnego w polu czerwonym*"[18]. На змешчанай у яго кнігах гравюры была пададзена наступная выява: ***на картушовай тарчы чорнаскуры Святы Анёл у доўгім чорным хітоне з раскінутымі за спінай крыламі і німбам над галавой***. Адразу ўзнікае пытанне аб крыніцах, з якіх польскі геральдык чэрпаў звесткі пра гербы ваяводстваў ВКЛ у цэлым і Навараградскага ваяводства, у прыватнасці. Працу Мацея Стрыйкоўскага мы адразу мусім адкінуць, бо ён нічога не пісаў у ёй пра наваградскага чорнага Анёла. Не мог Б.Папроцкі спаслацца ў выпадку з гербам Наваградскага ваяводства і на сфрагістычны матэрыял. На сучасных яму вялікіх пячатках ВКЛ Жыгімонта Аўгуста, Генрыха Валуа і Стэфана Баторыя аж да 1581 г., калі пры канцлеры Астафію Валовічу зніклі ідэнтыфікацыйныя надпісы каля гербаў, герб з выявай Анёла быў заўсёды падпісаны як кіеўскі: "*KIOVIEN*"[19]. Не магла быць крыніцай звестак пра герб Наваградскага ваяводства і гарадская геральдыка Наваградка. Па-першае, таму, што Б.Папроцкі не ведаў тагачаснага герба ці "*знаку*" Наваградка, прыпісаўшы яму "*Пагоню*"[20]. Па-другое, Наваградку толькі 18 сакавіка 1595 г. быў нададзены герб з выявай Арханёла Міхаіла з крыламі за спінай з мячом у правай руцэ і вагамі – у левай[21]. Падабенства ці "*рэдкі збег матываў*" у гербах горада і зямлі адзначыў С.К.Кучыньскі[22]. Відавочна, што гарадскі герб стварыўся пад уплывам герба Наваградскага ваяводства[23], а не наадварот.



*Герб "Чорны Анёл" Наваградскага ваяводства паводле Б.Папроцкага, 1578 г.*

Пры высвятленні крыніц, якімі карыстаўся Б.Папроцкі ў апісанні гербаў ваяводстваў ВКЛ, трэба звярнуць увагу на дзве акалічнасці. Першая – ён не падае гербу Полацкага ваяводства, акупаванае ў 1563–1579 г. Вялікім княствам Маскоўскім (ВКМ). Полацкая шляхта была або выбіта, або трапіла ў палон, або ператварылася ў бежанцаў ці эгзулянтаў, якім вялікі князь літоўскі Жыгімонт Аўгуст вымушаны быў даваць маёнткі ў іншых частках ВКЛ[24]. Цікава, што такі вядомы карэнны полацкі род, як Корсакі, у Б.Папроцкага падаецца з ...Жамойці: "*...Korszakowie w Zmudzi Dom zacny y tężny*"[25]! Такім чынам, можна сцвярджаць, што інфармацыя аб гербах ВКЛ і яго ваяводстваў збіралася Б.Папроцкім у перыяд з 1574 па 1578 г. Частку ён узяў з "*Хронікі ўсяго свету*" Марціна Бельскага – пра тры дзяржаўныя гербы ВКЛ: "*Пагоню*", "*Калюмны*" і "*Мядзьведзя*"[26]. Частку апісаў паводле харугваў ваяводстваў



*Герб "Арханёл Міхаіл", паводле "Stemmata Polonica", 1555 г.*

[17] Paprocki B. *Gniazdo cnoty zkąd herby rycerstwa sławnego Krolestwa Polskiego, Wielkiego Księstwa Litewskiego, Ruskiego, Pruskiego, Mazowieckiego, Zmudzkiego y inszych Państw do tego Krolestwa należących Książąt y Panow początek swoy maią.* Kraków, 1578. F. 1228.

[18] Paprocki B. *Herby rycerstwa polskiego*. Kraków, 1584. F. 718.

[19] Шаланда А. *Да пытання аб так званых памылках на вялікіх пячатках ВКЛ Стэфана Баторыя (1576–1586 г.).*// Стэфан Баторый у гістарычнай памяці народаў Усходняй Еўропы: Мат-лы міжнар. круглага стала, Гродна, 26 верасня 2003 г. Пад рэд. Д.Карава. Гродна: ГЦДУЕ, 2004. С.60-61.

[20] Paprocki B. *Gniazdo cnoty...* F.1228. Paprocki B. *Herby rycerstwa polskiego*. F.718. Яму паверыў А.Пякарскі, памылкова прыпісаўшы да быццам бы наваградскай "*Пагоні*" дадатковую выяву замку, гл.: Пякарскі А. *Наваградскія гербы*. С.2. У сваю чаргу А.Цітоў меркаваў, што першапачатковы гарадскі герб Наваградка супадаў з ваяводскім чорным Анёлам, гл.: Цітоў А. *Герб места Новагародка*. С.25. Літоўскі геральдыст Э.Рымша лічыць, што на даўнейшай наваградскай пячатцы была толькі вербальная формула, гл.: Rimša E. *Pieczęcie miast Wielkiego księstwa Litewskiego*. Warszawa, 2007. S. 729.

[21] Цітоў А. Геральдыка Беларускіх местаў. Мн.: Полымя, 1998. С. 202.

[22] Kuczyński S.K. *Polskie herby ziemskie*. S.100. Rimša E. *Pieczęcie miast...* S.728-729.

[23] Шаланда А. *Зямельныя гербы Вялікага княства Літоўскага...* С.63. Rimša E. *Pieczęcie miast...* S.730.

[24] Mienicki R. *Egzulanci Połoccy (1563–1580 r.).*// Atheneum Wileńskie. 1934. Rocznik IX. S. 84-85.

[25] Paprocki B. *Gniazdo cnoty...* F.1198. Paprocki B. *Herby rycerstwa polskiego*. F. 679.

[26] Bielski M. *Kronika wszytkyego swyata na ssesc wyekow Monarchie czterzy rozdzielona s kosmographią nową y z rozmaitemi krolestwy tak pogańskimi zydowskyemi yako y krzesściańskyemi s Sybillami y proroctwy ich po Polsku pisana s figurami...* Kraków, 1551. F. 294.

ВКЛ, якія мог бачыць на ўласныя вочы ў 1572–1574 г., калі ў Кракаве, ў сувязі са смерцю і пахаваннем Жыгімонта Аўгуста, а таксама абраннем першага элекцыйнага манарха Рэчы Паспалітай, сярод магнатаў і шляхты ВКЛ знаходзіліся харужыя яго ваяводстваў. Гэта датычыць "*Пагоні*", як герба Віленскага, Троцкага, Віцебскага, Падляшскага, Берасцейскага, Мсціслаўскага і Менскага ваяводстваў. Гербы Валыні і Кіеўскага ваяводства былі ўзятыя Б.Папроцкім з вялікіх пячатак ВКЛ, хутчэй за ўсё Стэфана Баторыя ад 1576 г., якому, ён, дарэчы, прысвяціў свой твор. Акрамя гэтага, частка інфармацыі пра ваяводскія гербы ВКЛ павінна была паходзіць з вусных рэляцый. І тут трэба спыніцца на другой важнай акалічнасці. Сярод шляхціча ВКЛ, якіх згадвае ў сваёй кнізе Б.Папроцкі, вылучаюцца тыя, пра каго ён амаль нічога не ведаў ці ведаў вельмі мала, напрыклад, пра тых жа Корсакаў, і тыя, з кім ён быў знаёмы асабіста, а таму прысвяціў на старонках свайго твору больш увагі. З апошніх вылучым групу сучасных яму харужых і харужычаў з ВКЛ. Гэта – Арнольф Глябовіч, драгічынскі харужы "*на Падляшшы*", Эразмус, Юры і Бальцар Матысовічы, "*бацька якіх быў Жамойцкім харужым*", Васіль Рагоза, харужы надворны ВКЛ, Ян Савіч Рычгорскі, валькеніцкі харужыч, "*чалавек зацны*" і, нарэшце, Іван "*зацны муж Харытонавіч, харужы Наваградскі, які служачы жаўнерам у караля Аўгуста значныя службы свае паказваў, прыводзячы маскоўскіх вязняў. Сямён, сын Іванаў, харужыч Наваградскі, зацны муж*"[27]. На апошніх звернем асаблівую ўвагу. Сапраўды, хто лепей за харужага ці харужыча мог паведаміць якая гербавая выява была на Наваградскай харугве? Мяркуем, што і сам Іван Харытонавіч, які памёр у 1582 г.[28], і асабліва яго сын Сямён маглі быць тымі інфарматарамі Б.Папроцкага, якія расказалі яму пра сапраўдны герб Наваградскага ваяводства з выявай Анёла. Калі зыходзіць з таго, што наваградскім харужым Іван Харытановіч згадваецца з 1561 г.[29], то ўжо ў гэты год такая харугва Наваградскага ваяводства існавала і толькі ў 1565–1566 г. была заменена на новую з "*Пагоняй*". Але калі з'явіўся герб з выявай Анёла ў Наваградскага ваяводства і чаму Анёл быў чорнаскурым?



*Герб Кіеўскага ваяводства, паводле вялікай пячаткі ВКЛ Стэфана Батрыя, 1576 г.*

Першай вядомай крыніцай, бліжэйшай да 1561 г., з'яўляецца так званы Арсенальскі гербоўнік "*Stemmata Polonica*", які датуецца польскім даследчыкам Пятром Дымелем на 1555 г.[30] У "*літоўскай*" частцы твора, сярод іншых зямельных гербаў ВКЛ, ёсць выява герба, які публікатар гербоўніка Галена Палячкоўна аднесла да Наваградскага ваяводства: ***у блакітным полі Арханёл Міхаіл з мячом ў правай руцэ, з раскінутымі за спінай крыламі, у срэбным хітоне, твар і рукі натуральнага колеру***[31]. Такую ідэнтыфікацыю гербу падтрымаў С.К.Кучыньскі, заўважыўшы, што: "*Напэўна таксама [герб Наваградскага ваяводства ёсць] у Stemmatach, дзе, аднак, белы анёл з мячом у блакітным полі*"[32]. Але Г.Палячкоўна не была цалкам упэўнена ў тым, што гэта быў наваградскі ваяводскі герб, адзначыўшы, што ён мог адносіцца і да Кіеўскага ваяводства, зрэшты: "*Колерамі не адпавядае гэты герб ні наваградскаму ваяводству, ні кіеўскаму: у пазнейшых крыніцах наваградскі анёл носіць чорны хітон у чырвоным полі, кіеўскі мае хітон срэбны, а поле – чырвонае*"[33].

Адсутнасць подпісаў каля зямельных гербаў ВКЛ у "*Stemmata Polonica*" стварае цяжкасці ў іх ідэнтыфікацыі. Аднак, наяўнасць малюнку вялікага князя літоўскага

[27] Paprocki B. *Gniazdo cnoty...* F. 1129, 1166, 1168, 1173, 1175, 1180, 1198.
[28] Boniecki A. *Herbarz Polski.* Warszawa, 1900. T.II. S.349. Uruski S. *Rodzina. Herbarz szlachty polskiej.* Warszawa, 1905. T.II. S. 152.
[29] *Lietuvos Metrika = Lithuanian Metrica = Литовская Метрика.* Kn.564 (1553–1567). Vilnius, 1996. № 68. P. 78.
[30] Dymmel P. *Kiedy powstał tzw. Herbarz Arsenalski? Uwagi kodykologiczne.*// Heraldyka i okolice./ Red. A.Rachuba, S.Górzyński, H.Manikowska. Warszawa, 2002. S. 127, 131.
[31] *Stemmata Polonica. Rękopis nr 1114 Klejnotów Długosza w Bibliotece Arsenału w Paryżu.*/ Wyd. H.Polaczkówna.// Prace Sekcji Historii Sztuki i Kultury Tow. Naukowego we Lwowie. Lwów, 1929. T.I. S. 237.
[32] Kuczyński S.K. *Polskie herby ziemskie.* S. 120, заўвага 95.
[33] *Stemmata Polonica.* S. 237.

на маестаце, верагодна, Жыгімонта Старога, дазваляе думаць, што зямельныя гербы павінны былі сімвалічна прадстаўляць падуладныя яму землі ці ваяводствы ВКЛ. У гэтым выпадку, сярод гербаў "*Stemmata Polonica*" нейкі з іх абавязкова павінен быў належаць Наваградскаму ваяводству, заснаванаму ў 1507 г.[34] З другога боку выява Анёла ў "*Stemmata Polonica*" нагадвала выяву на гербе Кіеўскага ваяводства, які быў змешчаны на вялікіх пячатках ВКЛ, пачынаючы з Аляксандра Казімеравіча[35].

Раней мы прытрымліваліся думкі, што гербы з выявамі Анёлаў на вялікіх пячатках ВКЛ і ў Арсенальскім гербоўніку былі ідэнтычнымі і адносіліся да Кіеўскага ваяводства[36]. Але колькасць і склад гербаў у "*Stemmata Polonica*" не дазваляюць лёгка атаясамляць іх з гербамі на вялікіх пячатках ВКЛ. Сумненні яшчэ больш узрастаюць, калі звярнуць увагу на тое, што гербы Смаленскага ваяводства ў тым жа Арсенальскім гербоўніку і на вялікіх пячатках ВКЛ былі зусім розныя[37]. У сувязі з гэтым можна канстатаваць, што, па-першае, вялікія пячаткі ВКЛ для прадстаўнікоў дынастыі Ягайлавічаў рабіліся па традыцыі на ўзор пячаткі вялікага князя літоўскага Аляксандра Казімеравіча, а таму іх не закранула такая важная падзея, як страта Смаленска на карысць ВКМ у 1514 г. З аднаго боку яна рабіла смаленскі герб з выявай мядзьведя на вялікіх пячатках ВКЛ анахранізмам, але з другога – змяшчэнне яго там надавала яму характар тэрытарыяльнай прэтэнзіі да ВКМ. Па-другое, гербы ў "*Stemmata Polonica*" былі ўзяты не з вялікакняжацкіх пячатак, а з нейкіх іншых крыніц. Калі зыходзіць з таго меркавання, што яны сімвалічна рэпрэзэнтавалі ваяводствы на сойме ВКЛ, то адзначаныя гербы маглі быць узятыя ілюмінатарам гербоўніка з геральдычнага аздаблення сценаў залі, дзе засядаў "*літоўскі*" парламент. У сваю чаргу, на сцены малюнкі гербаў павінны былі трапіць з ваяводскіх харугваў, бо менавіта харужыя з'яўляліся галоўнымі рэпрэзэнтатамі сваіх зямель у сойме ВКЛ[38]. Па меньшай меры толькі так можна інтэрпрэтаваць новы смаленскі герб, зафіксаваны ў "*Stemmata Polonica*" – адсутнасць смаленскага харужага пасля 1514 г. кампенсавалася для смаленскай эгзулянцкай шляхты гербавай выявай харугвы з ляскай[39].

Такім чынам, прыналежнасць герба з выявай Арханёла Міхаіла ў Арсенальскім гербоўніку да Кіеўскага ваяводства праблематычная. Яму адпавядаў у "*Stemmata Polonica*" іншы герб, найверагодней, з выявай ідучага чорнага мядзьведзя ў блакітным полі, які польскі храніст М.Бельскі бачыў на пахаванні Жыгімонта Старога ў 1548 г. і назваў трэцім дзяржаўным гербам ВКЛ: "*Tczeci iest ich herb Niedzwiedz w zielonym polu*"[40]. Выглядае на тое, што ў часы кіравання вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старога (1506–1548 г.) для прэзентацыі смаленскай і кіеўскай шляхты ў сойме ВКЛ былі створаны новыя гербы, у выніку чаго герб з Анёлам замацаваўся за шляхтай Наваградскага ваяводства.



*Герб "Чорны Анёл" Наваградскага ваяводства паводле Я.Бельскага, 1597 г.*

На нашу думку, два фактары паўплывалі на гэта. Першы – гэта не зусім звычайны шлях, якім было створана Наваградскае ваяводства ў ВКЛ. Яно было заснавана ў 1507 г. на базе Наваградскай зямлі, якая ў ВКЛ карысталася аўтаноміяй на падставе земскага прывілея вялікага князя літоўскага Казімера Ягайлавіча ад 22 ліпеня 1440 г.[41] А адбылося гэта

[34] Гайба М. *Новагародскае ваяводства.*// Вялікае княства Літоўскае.:Энцыклапедыя (далей – ВКЛЭ). Мн.: БелЭн, 2006. Т.2. С. 359.

[35] Однороженко О. *Руські королівські, господарські та князівські печатк XIII–XVI ст.* Харків, 2009. Т.II. С. 61, 205. №. 42. Пячатка датуецца 1503 г., але, магчыма, ужывалася з 1492 г.

[36] Шаланда А. *Выява мядзьведзя ў зямельнай геральдыцы ВКЛ: ад гербу Смаленскай Русі да гербу Жамойці.*// Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я.Галенчанкі. Укладальнікі: А.Дзярновіч, А.Семянчук. Вільня, Мінск: AIDAI–ATHENEUM, 2009. Atheneum. Т.XII. С. 289.

[37] Шаланда А. *Выява мядзьведзя ў зямельнай геральдыцы ВКЛ*... С. 287-288.

[38] Rachuba A. *Wielkie Księstwo Litewskie w systemie parlamentarnym Rzeczypospolitej w latach 1569–1763.* Warszawa, 2002. S. 40.

[39] Шаланда А. *Выява мядзьведзя ў зямельнай геральдыцы ВКЛ*... С. 288.

[40] Bielski M. *Kronika*... F. 294. Негледзячы на розніцу ў колерах поля (блакітны/зялёны) быў гэта адзін і той жа герб. Шаланда А. *Выява мядзьведзя ў зямельнай геральдыцы ВКЛ*... С. 292-293.

[41] Жемайтис С. *Привилей Новогрудской земле 1440 г.* // Рукописные памятники. Публикации и исследования. СПб., 1997. Вып.4. С. 217-218.

так. На мяжы 1505–1506 г. Жыгімонт Стары перавёў кіеўскага ваяводу князя Івана Львовіча Глінскага ў Наваградак і “...*не хотечи его писати в титуле его иначе как перед тым писан; и теж местца его от него не отдаляючи, маем его воеводою Новгородским и маршалком нашим в титуле его писать; а местцо в раде межи панов рады нашое великого князства Литовского, дали есмо ему подле пана старосты Жомойтского*...”[42]. Пад 1517 г. упершыню згадваецца і наваградскі харужы Алехна Беліковіч[43]. Другі фактар – гэта традыцыйны для Наваградскай зямлі культ Арханёла Міхаіла. Звернем увагу на тое, што яго выява змешчана ў пачатку Лаўрышаўскага Евангелля XIV ст., а сярод фундатараў Лаўрышаўскага манастыра згадваюцца Беліковічы[44].

Такім чынам, на 1507–1517 г. трэба аднесці кшталтаванне гербу Наваградскага ваяводства з выявай Арханёла Міхаіла. Ствараўся ён на ўзор Анёла з герба Кіеўскага ваяводства, або быў проста адаптаваны для новага ваяводства ва ўмовах, калі кіеўская харугва займела герб з выявай мядзьведзя. Відаць, ужо на Віленскім сойме 1529 г., дзе наваградская шляхта засядала паміж палачанамі і віцяблянамі[45], герб з выявай Арханёла Міхаіла канчаткова замацаваўся за Наваградскім ваяводствам. У сувязі з вышэй сказаным, мусім пагадзіцца з Г.Палячкоўнай і прызнаць, што першапачатковыя выгляд і колеры наваградскага ваяводскага Анёла былі зафіксаваныя ў “*Stemmata Polonica*”.

Што датычыць незвычайнай чорнай афарбоўкі наваградскага Анёла ў творы Б.Папроцкага, то наўрад ці можна пагадзіцца з меркаваннем А.Цітова аб уплыве на яе назвы Чорная Русь[46]. На першую палову XVI ст. такая назва ў адносінах да Наваградскай зямлі ці ваяводства не ўжывалася[47]. На нашу думку, “*Чорны Анёл*” Б.Папроцкага атрымаўся ў выніку таго, што аўтар “*Гнязда цноты*” сутыкнуўся з пэўнай супярэчнасцю. Так, на вялікай пячатцы ВКЛ Стэфана Баторыя, датаванай 1576 г., ён бачыў Арханёла Міхаіла з мячом падпісаны як “*Кіеўскі*”, а з вуснага паведамлення наваградцаў ведаў, што Анёл быў да 1565–1566 г. на харугве Наваградскага ваяводства. Разумеючы, што ў дзвух розных ваяводстваў не можа быць аднолькавага герба, у апазіцыю кіеўскаму беламу Анёлу ў чырвоным полі Б.Папроцкі зрабіў наваградскага Анёла чорным у такім жа полі. Для адрознення апошні яшчэ застаўся з пустымі рукамі. Не выключана таксама і памылка рэзчыка гравюры, які зрабіў яе ў негатыве. У выніку атрымаўся чорнаскуры Анёл!



*Герб “Анёл” Навагрadскага ваяводства на вялікай пячатцы Яна III Сабескага, 1676 г.*

Менавіта ён і замацаваўся ў якасці герба Наваградскага ваяводства ў пазнейшыя часы. Ужо Яўхім Бельскі ў “*Хронiцы польскай*”, выдадзенай ў Кракаве ў 1597 г., не толькі выкарыстаў тую ж гравюрную дошку для ілюстрацыі, што і Б.Папроцкі, але і зрабіў харугву Наваградскага ваяводства дзвугербавай: “*Woiewodztwo Nowogrodzkie ma na chorągwi po iedney stronie Anioła czarnego w polu czerwonym a po drugiey Pogonią*”[48]. Заўважым, што такая харугва існавала толькі ў фантазіях храніста. Тым не менш, гэтая ж інфармацыя і гэтая ж гравюра (!) былі паўтораны ў кнізе Станіслава Германьскага “*Сума кляйнотаў або гербаў*...” (Кракаў, 1621 г.)[49] і ў ананімным выданні “*Кляйноты або гербы*...” (Кракаў, 1630 г.)[50]. Так, дзякуючы літаратуры, герб “*Чорны Анёл*” замацаваўся ў якасці сімвала Наваградскага ваяводства ВКЛ ў Рэчы Паспалітай, што мела свае наступствы для гербавага складу вялікіх пячатак ВКЛ.

[42] *Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографическою коммисиею*. СПб., 1848. Т. 2 (1506–1544). С. 6. № 7. *Urzędnicy województw kijowskiego i czernihowskiego XV–XVIII wieku. Spisy*. Oprac. E.Janas, W.Kłaczewski. Kórnik, 2002. S. 66.

[43] Boniecki A. *Poczet rodów w Wielkim księstwie Litewskiem w XV i XVI wieku*. Warszawa, 1887. S. 6.

[44] Семянчук А. *Лаўрышаўскае Евангелле*.// Silva rerum nova: Штудыі ў гонар 70-годдзя Георгія Я.Галенчанкі. Укладальнікі: А.Дзярновіч, А.Семянчук. Вільня, Мінск: AIDAI–ATHENEUM, 2009. Atheneum. T.XII. C. 237, 242-243.

[45] *Полное собрание русских летописей. Летописи белорусско-литовские*. М.: Наука, 1980. Т. 35. С. 236.

[46] Цітоў А. *Сфрагістыка і геральдыка Беларусі*. С.101. Цітоў А. *Геральдыка Беларусі*. С.60.

[47] Белы А. *Чорная Русь* // ВКЛЭ. Мн.: БелЭн, 2006. Т. 2. С. 745.

[48] *Kronika Polska Marcina Bielskiego nowo przez Joach. Bielskiego syna iego wydana*. Kraków, 1597. F. 7.

[49] Giermański S. *Summariusz Kleynotow abo Herbow Państwa y Rycerstwa Korony Polskiey y W.X.Litew*... Kraków, 1621. F. B6.

[50] *Kleynoty abo Herby Państwa y Rycerstwa Powiatow y Miast głownych Korony Polskiey y W.X.L.* ... Kraków, 1630. F. 19-20.

Справа ў тым, што на вялікіх пячатках ВКЛ эпохі Вазаў (1587–1668 г.) герб з выявай Арханёла яшчэ выконваў функцыю сімвала Кіеўскага ваяводства[51]. Але пры каралі польскім і вялікім князі літоўскім Міхале Карыбуце Вішнявецкім (1669–1673 г.) у лік зямельных гербаў на вялікую пячатку, дзе быў прадстаўлены таксама і жамойцкі ўзняты мядзьведзь[52], увялі ў якасці кіеўскага герб з выявай мядзьведзя, які ідзе[53]. Не была гэта памылка рэзчыка пячаткі, змясціўшага два жамойцкія гербы, як меркаваў у свой час польскі даследчык Мар'ян Гумоўскі[54]. Увядзенне кіеўскага нахаругвеннага мядзведзя рабіла герб з Анёлам на вялікай пячатцы ВКЛ сімвалам Наваградскага ваяводства[55]. Характэрна, што іканаграфія яго захавала кшталт з папярэдняга "*кіеўскага*" перыяду: замест мяча, Анёл у правай руцэ стаў трымаць пальмавую галінку (?), а ў левай – шаблю, крылы ж зніклі зусім[56]. Такі ж самы герб быў паўтораны і на вялікіх пячатках ВКЛ Яна III Сабескага (1676–1696 г.)[57].

У XVIII ст. "*Чорны Анёл*" канчаткова замацаваўся ў геральдычнай і гістарычнай літаратуры Рэчы Паспалітай у якасці герба Наваградскага ваяводства ВКЛ. У кнізе Антонія Сваха "*Польскія гербы...*" (Познань, 1705 г.) ужо традыцыйна сцьвярджалася, што "*Nowogrodu (sic!) ma Aniola czarnego w polu czerwony[m] a po drugiey stronie Pogoniey*"[58]. Вядомы геральдык Рэчы Паспалітай Каспер Нясецкі таксама хаця і не падаў малюнку гербу Наваградскага ваяводства ў сваім фундаментальным гербоўніку "*Карона Польская...*" (Львоў, Т.I, 1728 г.), але даў яго дакладнае апісанне: "*Herb iego z iedney strony Anioł czarny w czerwonym polu, skrzydła rozciągnione, ręką iedną na doł prosto spuszczona, drugą się podpiera. Z drugiey strony Pogonia zwyczayna*"[59]. Спасылка ім на Я.Бельскага сведчыць, што К.Нясецкі апісваў ужо вядомую нам гравюру.



*Герб "Чорны Анёл" Наваградскага ваяводства паводле А.Сваха, 1705 г.*

Менавіта з багатай геральдычнай і гістарычнай літаратуры XVI–першай паловы XVIII ст. браў інфармацыю пра наваградскі ваяводскі герб ксёндз Міхал Пашкевіч, калі пісаў свой панігірык Марцыяну Міхалу Агінскаму, віцебскаму ваяводзе, у сувязі са смерцю яго жонкі Крыстыны з Абрамовічаў: "*Ze zaś w Wwie Nowogrodzkim z tym się pozegnała Swiatem Herbowny Wdztwa Nowogrodzkiego Anjoł po tey Wielkiey Senatorce nie tylko płacze, ale na znak wieczney żałoby, grubym się przyodziewa kirem: convenit Angelicis luctibus iste color. Stema Palat: Novogroden: Angelus innigra veste*"[60]. Адтуль жа чэрпалі свае веды пра герб Наваградскага ваяводства і мастакі, якія ў 1762–1764 г. афармлялі пасольскую залю Каралеўскага Замку ў Варшаве[61]. Арыгінальнай з пункту гледжання іканаграфіі гербавай выявы Анёла з'яўляецца пячатка Парадкавай і Цывільна-вайсковай камісіі Наваградскага ваяводства. На ёй быў змешчаны стаячы на хмары крылаты Арханёл Міхаіл з німбам і з мячом у похвах, што вісіць на пасе, надпіс у атоку пячаткі: "*+ PIECZENC ◦ KOMMISS[YI] ◦ PORZQDKOWEY ◦ Y ◦ CYWILNO ◦ WOYSKOWEY ◦ WOIEWODZTWA ◦ NOWOGRODZKIEGO :*"[62]. Што датычыць вялікіх пячатак ВКЛ у XVIII ст., то да канца існавання Рэчы Паспалітай, герб з выявай Анёла адносіўся на іх толькі да Наваградскага ваяводства, захаваўшы з нязначнымі зменамі свой выгляд[63].

[51] Шаланда А. *Зямельная геральдыка ВКЛ эпохі Вазаў (другая палова XVI–першая палова XVII ст.).*// Подготовка педагогических и научных кадров историков и развитие исторической науки в Беларуси: материалы респ. науч.-практ. конф., 30 сент. 2004 г., Гродно./ Под ред. Е.А. Ровбы, А.Н. Нечухрина, И.П.Креня. Гродно: ГрГУ, 2005. С. 282.
[52] Rimša E. *Heraldry: Past to present.* Vilnius, 2005. P. 105.
[53] Шаланда А. *Выява мядзьведзя ў зямельнай геральдыцы ВКЛ...* С. 293.
[54] Gumowski M. *Pieczęcie królów Polskich.* Kraków, 1919. S.60-61.
[55] Шаланда А. *Дзяржаўная і зямельная сімволіка* // ВКЛЭ. Мн.: БелЭн, 2005. Т. 1. С. 53.
[56] Цітоў А. *Пячаткі старажытнай Беларусі. Нарысы сфрагістыкі.* Мн.: Полымя, 1993. С.142-143.
[57] *Гарадзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей.* КП 9216. Арк.1. Дакумент датаваны 1678 г. Цітоў А. *Пячаткі старажытнай Беларусі.* С. 144-147.
[58] Swach A. *Herby Polskie...* Poznań, 1705. F. 7-8.
[59] Niesiecki K. *Korona Polska przy Złotey wolnosci Starożytnemi Wszystkich Kathedr, Prowincyi, y Rycerstwa Kleynotami ... ozdobiona...* Lwów, 1728. T. I. F. 168.
[60] Paszkiewicz M. *Ślady bez zawady JW.JP.Krystyny z Abramowiczów Oginskiey...* Wilno, 1739. F. D2v.
[61] Kuczyński S.K. *Polskie herby ziemskie.* S. 167, 170-171, № 170.
[62] Паводле інфармацыі і фота Юрыя Гардзеева.
[63] Цітоў А. *Пячаткі старажытнай Беларусі.* С.148-155. Шаланда А. *Дзяржаўная і зямельная сімволіка.* С.53-54.

***“Крыж”***. Е.Лойка са спасылкай на гербоўнік 30–40-х г. XV ст. “*Codex Bergshammar*” лічыў, што ў часы вялікага князя літоўскага Вітаўта Наваградская зямля мела герб з выявай геральдычнага крыжа[64]. Праблема, аднак, у тым, што ў згаданай крыніцы герб са срэбным крыжам у чырвоным полі не падпісаны. Публікатар “*літоўскай*” часткі “*Codex Bergshammar*” Адам Гэймоўскі ідэнтыфікаваў яго як герб Валынскай зямлі[65]. У іншым заходнім гербоўніку з 20–30-х г. XV ст. “*Armorial Lyncenich*” такі ж самы герб падпісаны як “*nowengrote*”[66]. Але які Ноўгарад (Вялікі або Северскі) ці Наваградак меўся на ўвазе? С.К.Кучыньскі, услед за публікатарам А.Гэймоўскім і Е.Лойкам, асцярожна меркаваў, што гэта мог быць герб Наваградскай зямлі, у той час як літоўскі геральдыст Эдмундас Рымша адносіў яго да Наўгародска-Северскай[67]. У “*Stemmata Polonica*” былі змешчаны два гербы з крыжамі – адзін срэбны ў чырвоным полі, другі – чырвоны ў срэбным, ідэнтыфікаваныя Г.Палячкоўнай як гербы Валыні і Брацлаўшчыны адпаведна[68]. Як вынікае з публікацыі таго ж Е.Лойкі, які змясціў малюнак апошняга герба, менавіта ён і быў гербам Наваградскай зямлі ці княства[69], чым канчаткова заблытаў сітуацыю, забыўшыся пра каляровыя характарыстыкі герба з “*Codex Bergshammar*”.



*Герб “Арханёл Міхаіл” Наваградскага ваяводства на пячатцы Парадкавай і Цывільна-вайсковай камісіі 1789/1790 г.*

На наш погляд усе спробы ідэнтыфікацыі герба “*nowengrote*” у “*Armorial Lyncenich*” будуць неправільныя без уліку палітычнага і ідэйнага кантэксту кіравання вялікага князя літоўскага Вітаўта, у часы якога ён і быў створаны. У гэтым сэнсе апошняга куды болей цікавіў Ноўгарад Вялікі, чым Наваградак у ВКЛ[70]. Іншымі словамі не было ніякай патрэбы для маніфестацыі наваградскага герба на заходнееўрапейскіх дварах, дзе ён быў занесены ў згаданыя вышэй гербоўнікі. Таму герб з крыжам мог адносіцца ў палітычных планах Вітаўта толькі да Наўгародскай Рэспублікі, на якую ён прэтэндаваў[71]. У сувязі з гэтым, існаванне гербу з выявай крыжа ў Наваградскай зямлі ВКЛ у XV ст. вельмі праблематычнае.

Такім чынам, выключаючы “*Пагоню*” і “*Крыж*” з ліку наваградскіх гербаў, можна канстатаваць, што адзіным геральдычным сімвалам Наваградскага ваяводства ў ВКЛ з’яўлялася выява Арханёла Міхаіла. Менавіта яна была на ваяводскай харугве ў 1507–1565/1566 г. і сапраўдныя яе колеры зафіксаваны ў так званым Арсенальскім гербоўніку: ***у блакітным полі срэбны Арханёл Міхаіл з мячом***. Пасля рэформаў 1565–1566 г. у выніку працэсу уніфікацыі выяў на ваяводскіх харугвах, замест Арханёла была ўведзена дзяржаўная “*Пагоня*”, што было юрыдычна замацавана Статутам ВКЛ. Інфармацыя пра даўнейшы наваградскі герб, запісаная Б.Папроцкім, і інтэрпрэтаваная апошнім у форме “*Чорнага Анёла*”, кардынальна змяніла не толькі яго каляровыя характарыстыкі, але і выгляд. З канца 70-х г. XVI. і па канец XVIII ст. у геральдычнай і гістарычнай літаратуры Рэчы Паспалітай за Наваградскім ваяводствам замацаваўся герб, які ўмоўна можна назваць “*Чорны Анёл*”. З 1669 г. ён упершыню з’явіўся на вялікіх пячатках ВКЛ, пры гэтым іканаграфія наваградскага ваяводскага герба магла значна адрознівацца на розных рэчах у адзін і той час.

---

[64] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem*. S. 149.
[65] Heymowski A. *Herby polskie w Sztokholmskim Codex Bergshammar*.// Studia źródłoznawcze. Warszawa, Poznań, 1967. T. 12. S. 81, № 12.
[66] Heymowski A. *Herby polskie w Brukselskim Armorial Gymnich, recte Lyncenich* // Studia źródłoznawcze. Warszawa, Poznań, 1985. T. 29. S. 115.
[67] Kuczyński S.K. *Polskie herby ziemskie.* S.56. Rimša E. *Heraldry: Past to present.* Vilnius, 2005. P. 95.
[68] *Stemmata Polonica*. S.237, 239.
[69] Łojko J. *Chorągwie polskie i litewskie w bitwie pod Grunwaldem*. S.151, № 6.
[70] У 1428 г. Вітаўт запісаў Наваградак у пажыццёвае ўладанне сваёй жонцы Ўльяне, гл.: Гайба М. *Навагародак* // ВКЛЭ. Мн.: БелЭн, 2006. Т.2. С. 358.
[71] Шаланда А. *Дзяржаўная і зямельная сімволіка.* С. 52.

С. Стрэнкоўскі (Мінск)

# Сістэма самакіравання горада Навагрудка ў XVI – XVIII стагоддзях

Пытанні самакіравання ў нашы дні з'яўляюцца дастаткова актуальнымі. Цікавасць да іх заканамерная і выклікана шэрагам аб'ектыўных абставін. У нашай дзяржаве адбываецца станаўленне і рост палітыка-адміністрацыйных структур, павялічваецца іх уздзеянне на працэсы, якія працякаюць у сённяшнім беларускім грамадстве. Вырашэнне дзяржавай шматлікіх задач, колькасць і спектр якіх увесь час павялічваецца, прыводзіць да ўскладнення структуры дзяржаўных органаў і росту іх ролі ў механізме грамадскай рэгуляцыі. Разам з тым, рост функцый дзяржаўных органаў і разгалінаванне іх структуры прыводзіць да неабходнасці асэнсавання месца грамадзян і іх аб'яднанняў у быцці дзяржавы. Неабходнасць падтрымання грамадзянскай актыўнасці на высокім узроўні, далейшае развіццё дэмакратыі патрабуе развіцця механізмаў самакіравання. Пры гэтым самакіраванне на тэрыторыі нашай краіны не з'явілася сёння, яно мае трывалыя гістарычныя традыцыі. Адпаведна яго вывучэнне ў тых ці іншых храналагічных і тэрытарыяльных межах ўяўляецца сёння вельмі неабходным.

Трэба адзначыць, што пад самакіраваннем разумеюць «аўтаномнае функцыянаванне пэўнай арганізацыі, якое забяспечваецца прыняццем членамі дадзенай арганізацыі нормаў і рашэнняў, што датычацца яе жыццядзейнасці, супольным вядзеннем гэтымі індывідамі агульных для іх усіх спраў, адсутнасцю ў арганізацыі разрыва паміж суб'ектам і аб'ектам кіравання. Прычым уласцівасці самакіравання такая арганізацыя не губляе па прычыне канстытуіравання ёю уласнага апарата кіравання»[1].

Пры гэтым, паколькі аснова для ўтварэння самакіравання – гэта чалавечы калектыў, які ўяўляе сабой дастаткова складаную функцыянальную сістэму, то і самакіраванне, якое з'яўляецца вынікам развіцця гэтага калектыву, таксама ўяўляе сабой акрэсленую сістэму. Таму менавіта сістэмны падыход як метадалагічны прынцып дазваляе раскрыць уласцівасці самакіравання.

Гаворачы аб самакіраванні як сістэме, па-першае, трэба адзначыць наступнае. Паколькі менавіта арганізацыі грамадзян складаюць аснову самакірвання, то ў залежнасці ад падстаў стварэння такіх арганізацый можна вылучыць асобныя яго ўзроўні. Калі такая арганізацыя з'яўляецца тэрытарыяльнай супольнасцю, то фарміруецца тэрытарыяльны ўзровень самакіравання. Калі ж арганізацыя ствараецца па прафесійнай, рэлігійнай прыкмеце ці, інакш кажучы, па інтэрэсах тых, хто ў яе аб'ядноўваецца, калі яна, такім чынам, носіць карпаратыўны характар, то адпаведна фарміруецца карпаратыўны ўзровень самакіравання.

Па-другое, самакіраванне як сістэма можа быць разгледжана як спалучэнне нормаў,

[1] Институты самоуправления: историко-правовое исследование / В.Г.Графский, Н.Н.Ефремова, В.И.Карпец и др. М.: Наука, 1995. С. 5.

установ, парадку іх арганізацыі і дзейнасці, працэдур, роляў, кола паўнамоцтваў і абавязкаў[2].

Разглядаючы, зыходзячы з гэтых меркаванняў, сістэму самакіравання Навагрудка ў XVI – XVIII стагоддзях, трэба вылучыць два яго ўзроўні: органы гарадской улады, якія фарміраваліся навагрудскімі гараджанамі, і кіраўніцтва такіх карпарацый грамадзян горада, як цэхі і брацтвы. Унутры ж кожнага ўзроўня неабходна акрэсліць прававыя падставы іх існавання, структуры, функцыі і паўнамоцтвы адпаведных інстытутаў.

На жаль навагрудскае самакіраванне не пакінула значнага актавага матэрыяла, як скажам, гарадскія ўлады Магілёва, Брэста, Гродна, Мінска ці іншых беларускіх гарадоў. Таму асноўнымі крыніцамі для яго вывучэння з'яўляюцца тыя дакументы, якія з'яляюцца вынікам дзейнасці такіх дзяржаўных інстытутаў Вялікага княства Літоўскага, як вялікі князь і яго канцылярыя.

Больш-менш стабільнае і раўнамернае развіццё заходнебеларускіх зямель, дзе размяшчаўся Навагрудак, у межах Вялікага княства Літоўскага прывяло да выдвіжэння на парадак дня ў XV стагоддзі задач унутранай рэгламентацыі сацыяльна-палітычнага жыцця. У рамках рэалізацыі гэтай задачы адбылася замена Навагародскага княства адпаведным намесніцтвам. Гэта задача ўвасаблялася, ў тым ліку, і ў стварэнні інстытутаў гарадскога самакіравання.

Першыя звесткі пра тэрытарыяльны ўзровень самакіравання Навагрудка ў складзе ВКЛ адносяцца да XV стагоддзя. Міхал Балінскі ў «Starożytnoj Polsce» гаворыць аб тым, што ў 1444 годзе Навагрудак атрымаў ад вялікага князя Казіміра Ягелончыка «муніцыпальныя свабоды»[3]. Адлюстраваннем гэтага самакіравання, якое працягвала існаваць і на пачатку XVI стагоддзя, быў інстытут войтаўства. Менавіта ён прыгадваецца ў выраку вялікага князя Аляксандра ад 19 лістапада 1499 года ў справе мяшчан новагародскіх з падданымі цырынскімі аб сцеражэнні сваіх тыдняў з падводамі[4]. Па меркаванні знакамітага знаўцы гарадской гісторыі Беларусі З.Ю.Капыскага, усталяванне ўлады войта азначала арганізацыю гарадскога самакіравання[5]. Войт у дадзеным акце выступае як прадстаўнік абшчыны грамадзян, ад яе імя звяртаючыся да вялікага князя ў абарону ўстаноўленага пры вялікіх князях Вітаўце, Жыгімонце Кейстутавічы і Казіміры парадка адбывання падводнай павіннасці. Для пацвярджэння гэтага парадку навагародскі войт Свірыд разам з прадстаўнікамі мяшчан прад'явілі гаспадару судовыя лісты ваяводы віленскага, канцлера ВКЛ Мікалая Радзівілавіча і ваяводы троцкага, земскага маршалка Яна Юр'евіча. Апошняе ўскосна сведчыць аб існаванні ў горадзе войтаўскай канцылярыі, у якой павінны былі захоўвацца згаданыя акты. Хутчэй за ўсё, яна была прадстаўлена пасадай гарадскога пісара, як гэта было, напрыклад, у тэрытарыяльна і гістарычна блізкім да Навагрудка Пінску.

На жаль дакументы не дазваляюць дакладна высветліць структуру войтаўскага самакіравання ў Навагрудку. Аднак, ізноў жа кіруючыся прыкладамі войтаўскага самакіравання ў Пінску, Магілёве, Воршы, можна выказаць думку, што ў яе ўваходзілі прысяжнікі (лаўнікі), а ў якасці ніжэйшага звяна падвойскі. Акрамя прадстаўнічых, у функцыі гэтага «урада» напэўна ўваходзіла сведчанне актаў куплі-продажу, арганізацыя выканання гараджанамі павіннасцяў і кантроль за іх выкананнем суседнімі абшчынамі, калі гэта датычылася інтарэсаў навагародцаў, спагнанне падаткаў на карысць дзяржавы, вырашэнне спрэчак паміж мяшчанамі, удзел у судзе намесніка пры разглядзе спраў мяшчанаў. Войт, прысяжнікі, пісар маглі прызначацца намеснікам з тых кандыдатаў, якіх выбірала мяшчанская абшчына[6].

Развіццё Навагрудка ў межах дастаткова стабільнага існавання Вялікага княства

---

[2] Институты самоуправления: историко-правовое исследование… С. 4 – 5.

[3] Starożytna Polska pod względem historycznym, geograficznym i statystycznym / M.Baliński, T.Lipiński. T.3. Warszawa, 1846. С. 618.

[4] Lietuvos metrika / Lietuvos istorijos institutes. – Knyga 6 (1494 – 1506) / parenge: Algirdas Baliulis. Vilniaus, 2007. S. 233 – 234; Акты Литовско-Русского государства /Изд. М.В.Довнар-Запольским. Вып.1. Т. 2. М.: Унив.тип., 1899. С. 93.

[5] Копысский З.Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII в. /Акад. наук БССР, Ин-т истории. Минск: «Наука и техника», 1975. С. 87.

[6] Стрэнкоўскі С.П. Самакіраванне беларускіх гарадоў, не звязанае з нямецкім правам, у XV – XVIII стагоддзях // Весці БДПУ. Серыя 2. Гісторыя. Філасофія. Паліталогія. Сацыялогія. Эканоміка. Культуралогія. 2009. № 1. С.9 – 13

Літоўскага ў канцы XV – пачатку XVI стагоддзя, яго параўнальна высокі ўзровень сацыяльна-эканамічнага развіцця прывялі да ўскладнення сацыяльнай структуры і абпаведна яе біфуркацыі, разгалінавання. У яе рэчышчы адбылася замена войтаўскага самакіравання самакіраваннем на аснове магдэбургскага права. Дадатковай падставай для такой замены, у першую чаргу абумоўленай канчатковым адасабленнем горада ад воласці, было ўтварэнне ў 1507 годзе замест намесніцтва ваяводства. Узрастанне моцы дзяржаўнай улады на гэтай тэрыторыі прывяло да росту занепакоенасці мяшчан умяшаннем яе ў іх справы і, як вынік, жадання да абмежавання такой уклады ў адносінах да іх.

Такім чынам наступным этапам у развіцці тэрытарыяльнага ўзроўню самакіравання Навагрудка стала наданне яму магдэбургскага права граматай Жыгімонта Старога ад 26 ліпеня 1511 года[7]. У пачатку яе тэкста можна знайсці ідэалагічныя перадумовы ўвядзення нямецкага права: «Княжат высоких маестат не так з витества валк есть яко з установенья справедливых устав або прав». Акрамя таго сярод прычын мы бачым жаданне прымнажэння дабрабыту грамадства ў цэлым і горада ў прыватнасці.

Галоўны змест прывілея, які аднолькавы для ўсіх фундацыйных прывілеяў на магдэбургскае права гарадам ВКЛ XIV – XVIII стагоддзяў – гэта вызваленне мяшчан ад правоў і звычаяў ВКЛ, якія парушалі б нормы магдэбургскага права, а таксама ад улады службовых асоб дзяржавы[8].

Згодна з прывілеем 1511 года ў Навагрудку усталёўвалася структура самакіравання, якая была абумоўлена статутамі магдэбургскага права. Уводзіліся пасады войта, бурмістраў, радцаў і лаўнікаў. Пры гэтым трэба адзначыць, што хоць у самім Магдэбургу быў яшчэ бургграф і дакладна вызначалася колькасць іншых службоўцаў, аднак практыка польскіх, а затым і беларускіх гарадоў уносіла ў нормы магдэбургскага права адпаведныя змены. Наогул можна казаць аб тым, што ўвядзенне магдэбургскага права азначала дазвол на магчымасць карыстацца яго нормамі пры вырашэнні судовых і бягучых спраў, а таксама менавіта наменклатуру, а не дакладную колькасць службовых асоб гарадского самакіравання, якая вызначалася ўжо непасрэдна прывілеям, воляй уладара або неабходнасцю. Ды і само магдэбургскае права давала гарадам пэўную магчымасць самім вызначаць колькасць некаторых службовых асоб[9].

У Навагрудку колькасць гарадскіх службоўцаў вызначана ў фундацыйным прывілеі: войт, 2 бурмістры, 6 радцаў, 8 прысяжнікаў. Што ж тычыцца парадку прызначэння на пасаду, то гэта справа больш складаная. Напрыклад, у адносінах да войта занатавана «воитовство знову уставляем и тым нашим листом тое воитовство наддаваем». У адносінах жа да радцаў і лаўнікаў – «вставляем теж в том месте нашом». Такім чынам пералічаныя пасады толькі ўводзяцца, без указання на дакладны спосаб іх персанальнага вызначэння. Можна меркаваць, што як і ў іншых гарадах ВКЛ, якія карысталіся ў гэты час магдэбургскім правам, войт прызначаўся вялікім князем, а іншыя пасады былі выбарнымі. Толькі ў адносінах бурмістраў парадак вызначаны дакладна. Яны павінны былі выбірацца войтам і радцамі з ліку апошніх штогод. Пацвярджэннем выканання гэтага пункта прывілея можа служыць тое, што ў пасведчаннях статутаў цахоў злотнікаў і цырульнікаў у 1636 годзе бурмістры Кірыл Пяршкевіч і Іван Сідаровіч названыя «в том року адмініструючымі». Тэрмін паўнамоцтваў астатніх членаў гарадскога самакіравання ізноў жа дакладна не вызначаны. Прывілей Жыгімонта Вазы 9 мая 1598 года прыгадвае намесніка войта – ландвойта[10].

Паўнамоцтвы прадстаўнікоў гарадской улады вызначаны ў магдэбургскім праве (да

---

[7] Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные Археографической комиссией. Т. 2 (1506 – 1544). Спб, 1848. С. 90 – 92; Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметам. Минск? 1848. С. 2 – 6

[8] Гл. Стрэнкоўскі С.П. Вольнасці і прывілеі гарадоў заходняй часткі Вялікага княства Літоўскага: Вучэбны дапаможнік. Мінск: БДПУ імя М.Танка, 1997. Стрэнкоўскі С.П. Прывілеі і вольнасці беларускіх гарадоў з нямецкім правам у канцы XIV – канцы XVIII стст. Мінск: МГІРА, 2008.

[9] Szczerbicz P. Ius municipale, to jest prawo miejskie maydeburskie nowo z łacińskiego i niemieckiego na polski język [...] przełożone. Lwow, 1581. C. 53.

[10] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметам. Минск, 1848. С. 60.

часу надання яго Навагрудку было выдадзена прынамсі адно друкаванае яго выданне, якое маглі скарыстаць гараджане – на лацінскай мове ў Кодэксе Ласкага[11]). У войта – гэта старшынство ў судзе, у якім слухаюць справу і знаходзяць яе вырашэнне лаўнікі. Урад бурмістра і рады заключаўся ў тым, каб не менш чым раз у тыдзень збірацца ў ратушы для разгляду грамадскіх спраў, прымнажэння грамадскіх пажыткаў, прадухіляць грамадскія шкоды, прыміраць ці рассуджаць «паводле найвысшага розуму і бачання» спрэчкі, сачыць, каб не было дарагавізны харчавання, караць спекулянтаў, даглядаць за пекарамі, мяснікамі і карчмарамі, кантраляваць слушнасць мер і ваг, іх засведчанне гарадскім знакам (як мінімум раз на месяц), не дапушчаць у горадзе сутычак, ахоўваць справядлівасць у дачыненні да ўдоў і сірот, забараняць і выкараняць азартныя ігры (карты, косці і іншыя), забяспечваць выкананне пастаноў, прынятых у ратушы ў прысутнасці старэйшых мяшчан, караць за іх невыкананне штрафамі, штогод рабіць справаздачу аб гарадскіх даходах перад старэйшымі і гаднейшымі з гарадской грамады, пасля абрання прыносіць прысягу[12].

У абавязкі бурмістра польскі юрыст П.Шчэрбіч уключае суджэнне несправядлівых мер, квартаў, ваг, карцоў, локцяў і ўсех харчовых і пітных рэчаў, выпякання малога хлеба, продаж нездаровых і нестандартных прадуктаў харчавання, спекуляцый, дагляд, каб не было дарагавізны[13].

Навагародскі прывілей 1511 года ўносіць некаторыя ўдакладненні ў функцыі гарадскіх службовых асоб. Справядлівасць мяшчанам «маеть … стати перед воитом их и бурмистры и радцы». Такім чынам можна гаварыць аб існаванні ў Навагрудку супольнага суда рады і лавы, які сумесна разглядаў усе судовыя справы. Акрамя таго, войт павінен быў збіраць дзяржаўныя падаткі і накіроўваць іх у вялікакняжацкі скарб (па прывілею 1563[14] – войт і бурмістры), сачыць за тым, каб прыезжыя купцы і іншыя асобы гандлявалі згодна з усталяванымі прывілеям правіламі, а ў выпадку яго парушэння канфіскоўваць тавары на карысць вялікага князя, разбураць крамы і яткі, калі б тыя будаваліся духоўнымі ці свецкімі феадаламі (бо прывілей ім гэта забараняў). Войт з бурмістрамі маглі распараджацца ўсімі пустымі плацамі ў горадзе і гарадскім ворнымі землямі для прымнажэння колькасці яго жыхароў. Войт, бурмістры і радцы павінны былі кіраваць грамадою, а таксама ўсталёваць меры ў гандлі мёдам «водлуг дорогости». Гэта гаворыць аб пашырэнні правоў войта, за кошт аднясення да яго кампетэнцыі некаторых усласна бурмістроўска – радзецкіх паўнамоцтваў, што рабіла яго галавой гарадскога самакіравання ў адрозненні ад уласна Магдэбурга (гэта ўласціва для ўсіх беларускіх гарадоў з нямецкім правам). Як сведчаць наступныя прывілеі Навагрудку, войт, бурмістры і радцы ці войт, бурмістры, радцы і лаўнікі былі прадстаўнікамі горада перад вялікімі князямі і каралямі па пытаннях захавання і пашырэння гарадскіх прывілеяў і вольнасцей. Статуты новагародскіх цэхаў, якія змешчаны ў Метрыцы ВКЛ[15], дазваляюць гаварыць аб тым, што гарадскі ўрад Навагрудка разглядаў, карэкціраваў і зацвярджаў гэтыя статуты, дазваляў накіроўваць іх да караля. Прычым разглядалі іх разам войт, бурмістры, радцы і лаўнікі – «рада цалое сполечности места», «увесь цэлай спалечнасці …магістрат»[16].

Акрамя таго цэхавыя статуты згадваюць такія гарадскія пасады, як месцкія пісар і слугі. Канфірмацыйны прывілей 8 сакавіка 1633 года таксама прыгадвае пісара. З яго зместа вынікае, што ў Навагрудку быў прысяглы месцкі (радзецкі) пісар і непрысяглыя войтаўскія пісары. Прычына адсутнасці прысяглага войтаўскага пісара даволі простая – адсутнасць у горада сродкаў на яго ўтрыманне. У гэтай грамаце Уладзіслаў IV загадаў,

[11] Laski J .Commune incliti Polonie Regni priuilegium et indultuum publicatus decretorum approbatorumque cum nonnullis iuribus tam diunis quam humanis per Serenissimum princepem dominum Alexandrum Regem Polonie. Cracouia: in edibus Joannis Haller, 1506. A.CLXXIII – CCLXIII.

[12] Groicki B. Porządek sądów miejskich. Kraków: Drukował Łazarz Andrusowicz, 1559. S. 7 – 8.

[13] Szczerbicz P. Speculum Saxonum albo Prawo Saskie y Maydeburskie, porządkiem obiecadła z łacińskich y niemieckich exemplarzow zebrane, a na polski ięzyk [...] przełożone [...]. Lwow, 1581. S. 39 – 40.

[14] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии… С. 23.

[15] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (Далей – НГАБ). Ф. КМФ – 18 (Метрыка ВКЛ). Воп.1. Спр.111. Арк. 103адв. – 107адв., 616 – 622, 640адв. – 646.

[16] НГАБ. Ф.КМФ – 18. Воп.1. Спр.111. Арк. 103адв., 616 адв.

каб радзецкія і войтаўскія справы (такім чынам можна сцвярджаць, што ў Навагрудку яны былі падзелены) адзін прысяглы радзецкі пісар запісваў і «экспедыёвал». Справы ж афармленыя непрысяглым войтаўскім пісарам кароль аб'яўляў несапраўднымі[17]. Па прывілею 24 сакавіка 1597 года без узгаднення з гарадскім урадам (а менавіта войтам) не маглі прадаваць, набываць, застаўляць месцкую нерухомасць[18].

Як і ў шэрагу іншых гарадоў, рада і лава па прывілею 1511 года складаліся пароўну з прадстаўнікоў праваслаўнага і каталіцкага насельніцтва горада. На нашу думку, гэта следства ўсталявання ў гэты перыяд у ВКЛ рэлігійнай талерантнасці і распаўсюджання ідэй гуманізму і Рэфармацыі, што само па сабе стварыла ўмовы для распаўсюджання магдэбургскага права, носьбітамі якога першасна былі толькі каталікамі, на пераважна праваслаўнае гарадское насельніцтва ВКЛ. З другога боку гэта аблягчала магчымасць перасялення ў гарады ВКЛ майстроў і купцоў з Польшчы, забяспечваючы ім права на ўдзел ў кіраванні гарадамі.

Дакументы дазваляюць сцвярджаць, што ў жыцці навагародскага грамадства неапошнюю ролю адыгрывала абшчына. Так у статуце цэха злотнікаў Навагрудка прама ўказана, што ён быў «на кілька сесіях пры зграмаджоным на тое паспольстве разоў кілька» прачытаны і толькі пасля гэтага зацверджаны[19].

Безумоўна, што гарадское самакіраванне Навагрудка развівалася на падставе прывілеяў, бо ў феадальны час «кожны чалавек, група, структура былі абавязаны дзейнічаць у адпаведнасці са сваім саслоўным статусам, які набываўся па праву нараджэння ці шляхам набыцця прывілеяў»[20]. Гэта былі нормы, якія вылучалі горад у пэўную аўтаномную супольнасць у дзяржаве, калектыўнага васала вялікага князя літоўскага. Асноўны масіў прывілеяў Навагрудка склаўся напрацягу пачатку XVI – пачатку XVII стагоддзяў. У яго ўваходзілі фундацыйны прывілей 1511 года, які мы ўжо прыгадвалі, а таксама шэраг комплексных і спецыяльных канфірмацыйных прывілеяў.

Комплексны характар насіў прывілей 22 студзеня 1562 года, якім кароль Жыгімонт Аўгуст поўнасцю пацвердзіў фундацыйны магдэбургскі прывілей свайго бацькі, змясціўшы яго ў сваім і не ўнёсшы ніякіх дапаўненняў ці змяненняў[21]. Некалькім пытанням быў прысвечаны і прывілей Жыгімонта Аўгуста 24 верасня 1563 года, які разгядаў пытанні тэрыторыі і насельніцтва, якія падлягалі ўладзе города, землямі, якімі ён мог карыстацца, падаткам на карысць дзяржавы і парадку іх спагнання[22]. Грамата Жыгімонта Вазы ад 16 сакавіка 1595 года, у якой пацвярджаліся ранейшыя прывілеі, надала гораду герб і адпаведную пячатку і занатавала, што справы, якія раней запячатваліся старою пячаткаю, захоўвалі сваю моц, цяпер жа можна было карыстацца толькі новай[23]. Грамата навагародскага ваяводы Тэадора Скуміна Тышкевіча ад 29 красавіка 1598 года і адпаведная комплексная каралеўская грамата Жыгімонта III ад 9 мая 1598 года разглядалі пытанні выплаты падаткаў, парадку гандля, гарадскіх даходаў і добраўпарадкавання, пастояў у дамах членаў магістрата[24]. Комплексны прывілей 7 мая 1613 года разглядаў пытанні адбудовы горада пасля пажару, забароны набыцця нерухомасці гараджанам не магдэбургскай юрысдыкцыі і працаваць у каталіцкія святы[25]; 5 снежня 1613 года – гарадской юрысдыкцыі, гарадскіх і дзяржаўных падаткаў[26]. У канфірмацыйным прывілеі Уладзіслаў Ваза 8 сакавіка 1633 года пацвердзіў усе ранейшыя прывілеі, пераказаўшы іх змест у сваім. Да таго ж ён растлумачыў, што кірмашы праводзяцца бязмытна, удакладніў пытане аб пісары, а таксама аб тым, што судовыя даходы войта і магістрата павінны спаганяцца паводле магдэбургскага, а не паспалітага

[17] НГАБ. Ф. КМФ – 18. Воп.1. Спр.106. Арк. 159
[18] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии… С. 58 – 59.
[19] НГАБ. Ф. КМФ – 18. Воп.1. Спр.111. Арк. 621адв.
[20] Сванидзе А.А. Средневековые города Западной Европы: некоторые общие проблемы // Феномен средневекового урбанизма / А.А.Сванидзе, Л.М.Брагина, П.Ю.Уваров и др. С. 27.
[21] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии… С. 17 – 22.
[22] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии… С. 22 – 23.
[23] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии… С. 50 – 56.
[24] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии… С. 59 – 64.
[25] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии… С. 86 – 87.
[26] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии… С. 88 – 93.

права і Віленскага вількера (плебісцыта)1620 года[27].

У спецыяльных прывілеях знайшлі адлюстраванне асобныя пытанні: у прывілей Жыгімонта Аўгуста 18 кастрычніка 1551 года – падводная павіннасць[28]; у граматах Жыгімонта Вазы 21 сакавіка 1597 года – будаўніцтва цагельні[29]; 22 сакавіка 1597 года – кірмашоў[30]; 24 сакавіка 1597 года – парадку набыцця нерухомасці[31].

Сярод гарадскіх прывілеяў феадальнага горада асобнае месца займаюць імунітэты. Судовыя і адміністрацыйныя мы ўжо прыгадвалі, абазначаючы асноўны змест фундацыйнага прывілея. Але ўсёж найбольшую колькасць складалі падатковыя імунітэты. Навагрудак быў вызвалены ад каляды і валачобнага, падвод, за выключэннем запатрабаваных лістом вялікага князя з яго пячаткай, варты, за выключэннем прыездаў гаспадара, пастоя без згоды мяшчан (з 1511 года), падатка за падводную павіннасць і стацыю (з 1551 года), саладовага, браварнага, старажовага, ад выплаты 50 чырвоных злотых за карыстанне магдэбургскім правам (з 1598 года). Прывілеямі 1511, 1598, 1613 гадоў таксама нармаваліся памеры дзяржаўных падаткаў.

Сярод крытэрыяў, якія характэрызуюць гарадское самакіраванне як сістэму звычайна вылучаюць акрамя самастойнай формы кіравання грамадскімі справамі тэрыторыю дзейнасці самакіравання, мясцовае насельніцтва, уласную фінансава – эканамічную базу.

Тэрыторыю і насельніцтва, якія з'яўляюцца зонай дзеяння самакіравання, фундацыйны прывілей 1511 года вызначае як «нашыя месцы», што азначае землі вялікага князя ў горадзе і насельніцтва, якое на іх жыве. У пытаннях гандлю ўладзе горада падлягалі ўсе, хто прыязджае з гэтай мэтай у Навагрудак. Таксама ў тэрыторыю горада былі ўключаны лясы і бары на тры мілі вакол горада і паствішчы, якія раней выкарыстоўваліся гараджанамі, а па прывілею 1563 года – яшчэ 24 валокі лесу, таксама фальваркі Рута, Мохаў, Горын, зямля па памеры, праведзенай рэвізорам Багданам Сапегам. Жыгімонт Аўгуст устанавіў таксама парадак, каб прыватныя падданыя жылі кампактна, на асобна адведзеных вуліцах. Прывілей ваяводы Тэадора Тышкевіча 22 кастрычніка і адпаведны Жыгімонта ІІІ 5 снежня 1613 года распаўсюдзілі магдэбургскую юрысдыкцыю на замкавых мяшчан, якія ад гэтага часу былі пад уладай і судом магістрата і карысталіся ўсімі гарадскімі прывілеямі.

Фінансава-эканамічны падмурак гарадскога самакіравання Навагрудка складалі тыя даходы, што яму перадаў вялікі князь фундацыйным прывілеям 1511 года: 2 грошы ад перасудаў і він, плата ад месца пад мясныя яткі, даходы ад вагі,васкабойні, капніцы, а таксама крамаў, хлебных ятак і пастрыгальні пад ратушай, меры і мядніцы, млына. З 1597 года горад мог атрымоўваць прыбыткі з цагельні, якую яму дазвалялася пабудаваць, а таксама ад кірмашоў, якія адбываліся па двы тыдні, пачынаючы з днёў Святой Троіцы і Трох Каралёў па каталіцкаму календару. Прывілей ваяводы 29 красавіка і караля 9 мая 1598 года ўводзілі асобы гарадскі падатак з яўрэяў і замкавых мяшчан у 2 грошы з дому на гадзіннік і брукаванне рынку. З 1613 года ў бюджэт горада накіроўваліся гандлёвае і падужнае мыта.

Наглядным увасабленнем самакіравання Навагрудка была ратуша. Хоць у энцыклапедыі «Вялікае княства Літоўскае» сцвярджаецца, што навагародская ратуша ўпершыню прыгадваецца пад 1652 годам[32], аднак статут шэўскага цэху прыгадвае яе наяўнасць ужо ў 1607 годзе, калі магістрат у ёй разглядаў дадзены статут[33]. Статут цэха злотнікаў 10 мая 1636 года таксама зацверджаны «in Pretoris Civitatis»[34].

Карпаратыўны ўзровень гарадскога самакіравання быў прадстаўлены самакіраваннем навагародскіх цэхаў, якія мелі ў якасці зводаў норм жыцця і паводзін свае статуты. Такая

[27] НГАБ. Ф. КМФ – 18. Воп.1. Спр.106. Арк. 155 – 159адв.
[28] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии… С. 12 – 13.
[29] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии… С. 56.
[30] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии… С. 57.
[31] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии… С. 57 – 59.
[32] Вялікае княства Літоўскае: ВКЛ: Энцыклапедыя: У 2 т. / Рэдкалегия: Г.П.Пашкоў (галоўны рэдактар). 2-е выданне. Т.2. Мінск,"Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўскі", 2006. С. 360.
[33] НГАБ. Ф. КМФ – 18. Воп.1. Спр.111. Арк. 103адв.
[34] НГАБ. Ф. КМФ – 18. Воп.1. Спр.111. Арк. 622.

рэгламентацыя жыцця на ўзроўні карпарацыі была абумоўлена «вытворчымі ўмовамі, імкненнем пазбавіць мелкае рамяство ад канкурэнцыі і паставіць яго ва ўмовы, спрыяльныя для развіцця простай таварнай вытворчасці, арганізаваць збыт прадукцыі, падначаліць таварышаў і вучняў кантролю майстроў», аднак пры гэтым яна «не столькі скоўвала чалавека (гэтую скаванасць ён, відаць, доўга суб'ектыўна не адчуваў), сколькі надавала акрэсленую агульназначымую форму яго паводзінам»[35].

Цэхі, выконваючы ролю рэгулятараў вытворчасці ў горадзе, разам з тым выконвалі функцыю ніжэйшых адміністрацыйных, распарадчых і ваенных органаў. Яны выпрацоўвалі і арганізоўвалі выкананне «нормаў публічных і бытавых паводзін, працоўную і асабістую дысцыпліну», давалі «абарону супраць бедстваў жыцця»[36]. Статут навагародскіх злотнікаў гаворыць, што цэх утвораны «для захавання адзінства, міласці і згоды братэрскай, для лепшага цвічэння і недасканалай у тым рамястве моладзі палеравання, для карання свавольных і пагамавання збытачнікаў», «для пахвалы добрых і для дастаўлення за добрыя ўчынкі славы»[37].

Кіраванне навагародскімі цэхамі ажыццяўлялася выбарным органам з двух старэйшых майстроў (цэхмістраў), што прадугледжвалі статуты цэха шаўцоў 8 верасня 1607 года, злотнікаў 10 мая 1636 года, цырульнікаў 1636 года[38]. Кожны цэх самастойна вызначаў тэрмін штогадовых выбараў. Прычым цэх шаўцоў адначасова ўяўляў сабой так званае мядовае брацтва. Да першага маглі належаць толькі непасрэдна шаўцы, да другога – усе жадаючыя[39]. У гэтым цэху усталёваўся парадак выбару старастаў пачаргова ад месцкай, замкавай і мітрапаліцкай юрыдык.

Кожны тыдзень цэхі праводзілі паседжанні – «сходзкі», на якіх павінны былі прысутнічаць усе майстры цэха. Пытанні для абмеркавання вызначаліся так: «обмышлевать о побожном жытию и захованию, о порадку в ремесле своем, которога бы побожне и цвичене, а не партацко се справовало». Навагародскія цэхавыя статуты не прадугледжвалі пасады шафараў, цэхавая скрынка знаходзілася ў аднаго старэйшага майстра, а ключы ад яе – у другога. Аб прыходах і расходах старэйшыя майстры павінны былі рабіць справаздачу па заканчэнні гадавога тэрміна сваіх паўнамоцтваў.

Вышэйшай каштоўнасцю цэха былі яго прывілеі. Таму пры адчыненай цэхавай скрынцы, у якой яны захоўваліся, таварышы павінны былі стаяць, ніхто не меў права павышаць голас і знаходзіцца са зброяй.

Магістрацкая пастанова, якой быў зацверджаны статут шэўскага цэху, прыгадвае паімённа 56 майстроў, прычым дадае, што гэта не ўсе сябры цэха. Такім чынам, улічваючы членаў сямей, таварышаў і вучняў (а статут злотнікаў, напрыклад, дазваляў мець 3 таварышаў і 3 вучняў), цэхавае самакіраванне ахоплівала значную колькасць жыхароў горада.

Цэх, як адміністрацыйны орган, сачыў за паводзінамі сваіх членаў у паўсядзённым жыцці, разбіраў і караў іх спрэчкі. Пры гэтым навагародскія цэхавыя статуты вызначалі ў якасці пакарання пэўную суму грошай або з дазволу магістрата зняволенне. Таксама цэхі выдавалі пасведчанне аб навучанні пэўнаму рамяству. Цэхмістры злотніцкага цэха, выконваючы пэўныя паліцэйскія функцыі, ажыццяўлялі надзор за тым, каб майстры не набывалі крадзеныя рэчы або неякаснае золата ці срэбра, павінны былі западозраных у крадзяжы дастаўляць у магістрат. Адной з функцый цэха, якую прыгадваюць статуты, было супрацьдзеянне пьянству. Кожны цэх быў свайго рода дапаможнай службай магістрата па надзору за правіламі гандлю, кантралючы парадак яго ажыццяўлення ў разрэзе ўласцівай для яго прадукцыі.

Судовыя функцыі цэха па разгляду спрэчак паміж майстрамі, таварышамі і вучнямі ажыццяўлялі ўсе яго сябры пад кіраўніцтвам старэйшых. Як правіла, такія спрэчкі павінны былі вырашацца падчас цэхавага сходу. Пры гэтым статут цырульнікаў агавор-

[35] Гуревич А.Я. «На праве страна строится…» // Категории средневековой культуры / А.Я.Гуревич. – [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://www.philology.ru/literature3/gurevich-72a.htm. Дата доступа: 17.01.2008. С. 46.
[36] Сванидзе А.А. Средневековые города Западной Европы: некоторые общие проблемы … С. 33
[37] НГАБ. Ф. КМФ – 18. Воп.1. Спр.111. Арк.616адв.
[38] НГАБ. Ф. КМФ – 18. Воп.1. Спр.111. Арк. 103адв. – 107адв., 616 – 622, 640адв. – 646.
[39] НГАБ. Ф. КМФ – 18. Воп.1. Спр.111. Арк. 105адв.

вае, што справы «крывавыя» павінны накіроўвацца ў магістрат («супольную лавіцу» – падкрэслівае статут), які быў таксама і апеляцыйнай інстанцыяй у дачыненні да цэхаў. Пры гэтым пакаранне, вынесеная магістратам, не выключала вынясення цэхавага пакарання.

Дзейнасць шэўскага цэху як мядовага брацтва была накіравана на распаўсюджанне і падтрыманне дабрачыннасці. Са спецыяльнай брацкай скрынкі, якая была ў ім побач з цэхавай, аплочваліся расходы на набыццё мёду. Воск ад сычэння апошняга павінен быў ісці на дзве «устаўныя» і дваццаць малых свечах штогод у кафедральны сабор, а таксама ў парафіяльныя цэрквы «яко можность выносить будет». Цэхі павінны былі выдаткоўваць грошы на дапамогу «убогага брата», пахаванне сваіх сяброў і наогул убогіх хрысціян (злотнікі), а таксама ажыццяўляць апеку ўдоваў і сірот, якія засталіся пасля памерлых майстроў. Такім чынам на цэхі лажылася частка паўнамоцтваў гарадскога самакірвання ў сацыяльнай галіне. Пэўным чынам, упісваючы сваіх майстроў, таварышаў і вучняў у адпаведныя рэестры, прымаючы «лісты добрага ўраджэння», цэхі выконвалі і функцыі ўліку насельніцтва горада.

Праз цэхі даводзіліся распараджэнні магістрата. Рабілася гэта на сходах. Для запрашэння на сход выкарыстоўваліся малодшыя майстры ці «хлопцы» цэхмістра. Пры гэтым для абмеркавання важных спраў кожны майстар, а нават і несябар цэха, мог сабраць цэхавы сход. Рабілася гэта па ўзгадненні са старэйшымі майстрамі, за што спаганялася пэўная сума ў цэхавую скрынку.

Сярод цэхаў усталёўваўся пэўны парадак, у якім першынства мелі злотнікі, за якімі ішлі цырульнікі. Цэхі мелі сваю харугву і нават «армату» «для абароны і аздобы места». Такім чынам пры неабходнасці цэх станавіўся вайсковай адзінкай, падначаленай магістрату.

Такім чынам можна сцвярджаць, што ў Навагрудку ў XVI – XVIII стагоддзях існавала двухузроўневая тэрытарыяльна-карпаратыўная сістэма самакіравання, якая ў традыцыях таго часу вырашала большасць пытанняў гарадскога жыцця, спрыяла развіццю горада.

**А. Мацук (Мінск)**

# Апазіцыя Радзівілам на навуградскіх сойміках 1736 – 1763 гг.

**у кантэксце ўнутрыпалітычнай барацьбы ў Рэчы Паспалітай**

З часоў бескаралеўя 1733 – 1736 гг. абвастрыўся канфлікт паміж нясвіжскімі Радзівіламі і шляхтай-пасэсарамі «нойбургскіх уладанняў». Цэнтр гэтага канфлікта аказаўся ў Наваградскім ваяводстве, дзе знаходзілася значная частка «нойбургскіх уладанняў» (Слуцкае і Капыльскае княства). Яго апагей прыпаў на наваградскі соймік (14 – 16 ліпеня 1733 г.) і як недзіўна скончыўся паразай Міхала Казіміра Радзівіла і яго прыхільнікаў. Самыя ўплывовыя ў ваяводстве магнаты Міхал Казімір Радзівіл і Юры Феліцыян Сапега нічога не здолелі супрацьпаставіць пасэсарам «нойбургскіх уладанняў», якіх падтрымліваў наваградскі ваявода Мікалай Фаўстын Радзівіл, але асновай якіх была сярэдняя шляхта. Яе лідэры прапойскі староста Багуслаў Незабытоўскі, Казімір Несялоўскі і Бенедыкт Тызенгаўз выйшлі пераможцамі ў барацьбе з магнатамі Міхалам Казімірам Радзівілам і Юрыям Феліцыянам Сапегай. Удалося выявіць некаторых праціўнікаў нясвіжскіх Радзівілаў і сярод шэраговай наваградскай шляхты: Сымон Данэйка, Цыпрыян Бародзіч, Мельхіор Вержееўскі, роды Корсакаў (Станіслаў, Віктар, Марцін і Антоні), Радзішэўскіх (Юзаф і Габрыэль), Пясецкіх (Міхал, Багуслаў, Ян і Міхал)[1].

Падтрымка абодвума варагуючымі бакамі на трон кандыдатуры саксонскага электара Фрыдэрыка Аўгуста, супакоіла, але не спыніла канфлікту. Аўгуст III не забыўся тых, хто яго падтрымаў. Міхал Казімір Радзівіл – атрымаў урады польнага гетмана ВКЛ і троцкага ваяводы, Казімір Несялоўскі – смаленскага кашталяна, Багуслаў Незабытоўскі – наваградскага кашталяна.

У 1737 – 1739 гг. канфлікт паміж нясвіжскімі Радзівіламі і пасэсарамі «нойбургскіх уладанняў» зноў узмацніўся. Выклікана гэта было як далейшым наступам Радзівілаў на пазіцыі пасэсараў «нойбургскіх уладанняў», так і фактычным зрывам дамовы паміж Радзівіламі і рэйнскім электарам аб шлюбе Геранiма Фларыяна Радзівіла і ўнучкі электара Францішкі. Было зразумела, што калі Радзівілы паспрабуюць заняць уладанні сілай на падставе невыканання Карлам Філіпам ранейшай дамовы, то супраць іх выступіць шырокая кааліцыя з Сапегаў, Агінскіх, Пацеяў, Чартарыйскіх і пасэсараў «нойбургскіх уладанняў». Больш таго, гэтая кааліцыя магла карыстацца і падтрымкай каралеўскага двара, які не быў зацікаўлены ў далейшым узмацненні Радзівілаў. У гэтай сітуацыі Радзівілы прымаюць рашэнне дамагчыся трыбунальскай пастановы аб прызнані сапраўднасці «варшаўскага запісу», што зрабіла б іх уладальнікамі «нойбурскіх уладанняў». Гэта ім паспяхова і ўдаецца на Трыбунале ВКЛ 1737 г.[2]. На наваградскіх

[1] Macuk A. Szlachta województwa nowogródzkiego wobec elekcji Stanisława Leszczyńskiego i Augusta III w 1733 roku // Przegląd Historyczny. 2005. Zeszyt 1. S.51 – 52.

[2] Падрабязней гл.: Мацук А. Радзівілы і справа аб "нойбургскіх ўладаннях" у 1730–1740-я гады // Беларускі гістарычны часвоп. 2005. № 3. С. 15–21.

сойміках сітуацыя для Радзівілаў развіваецца не так удала наваградскія грамнічныя соймікі 1737 і 1739 гг. былі сарваны.

Больш таго, незадоўга да смерці Незабытоўскі пачаў рыхтаваць канфедэрацыю супраць Радзівілаў. Яе стварэнню перашкодзіла толькі смерць Незабытоўскага 21 сакавіка 1739 г.[3]. Яго прыхільнікі ў Наваградскім ваяводстве не засталіся ў адзіноце супраць Радзівілаў, бо былі падтрыманы Чартарыйскімі і Сапегамі. Аднак, безумоўна смерць Незабытоўскага аказвае значны ўплыў на іх становішча і ў першыню за панаванне Аўгуста III у 1740 г. радзівілаўскія прыхільнікі перамагаюць на наваградскім грамнічным сойміку. Сапежынскі прыхільнік Візгерд, які адказваў за наваградскі соймік, тлумачыў сваё паражэнне тым, што яму здрадзілі мясцовыя «адданыя прыяцелі»[4]. За тое Сапегам удалося, каб іх прыхільнік мсціслаўскі дэпутат Мікалай Лапацінскі стаў пісарам рускай кадэнцыі Трыбунала ВКЛ, а не радзівілаўскі кандыдат наваградскі дэпутат, наваградскі падстолі і наваградскі падваявода Аляксандр Корсак. Радзівілы не змірыліся з паражэннем і распрацавалі план, які павінен быў прынесці ўрад пісара рускай кадэнцыі іх прыхільніку. Для гэтага наваградскі ваявода Мікалай Фаўстын Радзівіл вырашыў правесці элекцыйны соймік па выбару наваградскага земскага пісара, які згодна праву і павінен быў стаць пісарам рускай кадэнцыі. Кандыдатам на пасаду наваградскага земскага пісара быў адзін з найбольш вядомых радзівілаўскіх прыхільнікаў наваградскі гродскі пісар Станіслаў Лопат[5]. Аднак прыхільнікам Сапегаў, Чартарыйскіх і Салагубаў удалося перашкодзіць рэалізацыі такіх планаў. Сапегі выдзелілі свайму Візгерду 800 злотых для зрыву двух элекцыйных наваградскіх соймікаў[6]. Збіраліся прасіць Сапегі і дапамогі ва ўплывовага мясцовага шляхціца Храптовіча[7]. Сапежынскі прыхільнік Ян Лапацінскі раіў Сапегам, каб яны як мага хутчэй прасілі падскарбія ВКЛ Яна Салагуба ўздзейнічаць на шляхту ў наваградскім ваяводстве, бо той меў тут значнае кола сваіх прыхільнікаў[8]. У выніку прыхільнікі Сапег і Салагубаў у Наваградскім ваяводстве перашкодзілі радзівілаўскім прыхільнікам правесці выбар свайго кандыдата на ўрад наваградскага земскага пісара.

У 1741 – 1743 гг. у ВКЛ разгортваецца канфлікт паміж Сапегамі і Радзівіламі ў справах спадчыны па па Казіміру Льву і Антонію Казіміру Сапегах. Фактычна гэта быў канфлікт не з-за ўладанні, а за палітычнае вяршэнства і таму Сапег супраць дамініравання Радзівілаў падтрымліваюць іншыя магнацкія роды – Чартарыйскіх, Масальскіх і Салагубаў. Вельмі важным у разгарнуўшайся барацьбе быў кантроль за выбарамі дэпутатаў на наваградскім сойміку. Прычынай была традыцыя згодна якой наваградскія дэпутаты мелі першынство на атрыманне ўраду пісара рускай кадэнцыі Трыбунала ВКЛ.

Сярод Сапег значныя ўплывы ў наваградскім ваяводстве меў вількаўскі староста, а потым мсціслаўскі ваявода Юры Феліцыян Сапега. Ужо ў 1741 г. у межах магнацкай кааліцыі Сапег, Чартарыйскіх, Масальскіх і Салагубаў ён адказваў за наваградскі соймік, які павінен быў сарваць[9]. У сваю чаргу наваградскі ваявода Мікалай Фаўстын Радзівіл надаваў вялікую ўвагу выбару прыхільных дэпутатаў на наваградскім сойміку. Ганна Радзівіл наадварот не бачыла перспектыў у гэтага сойміка, бо ведала, што на ім будуць прысутнічаць наваградскі ваявода Мікалай Фаўстын Радзівіл, лоўчы ВКЛ Міхал Антоні Сапега і вількаўскі староста Юры Феліцыян Сапега. Зразумела, што ў такой сітуацыі соймік будзе сарваны[10]. У выніку ўсё так і адбылося. Мікалай Фаўстын Радзівіл, не звяртаючы ўвагі на пратэсты, заняў пасаду дырэктара наваградска-

---

[3] Archiwum Głowny Akt Dawnych (Далей – AGAD). AR. Dz. IV. Nr. 411, М.К.Радзівіл да Г.Радзівіл, Нясвіж, 05.04.1739. К. 45 – 47.

[4] AGAD. AR. Dz. IV. Nr. 662, У.Ф.Радзівіл да М.К.Радзівіла, 12.02.1740, Нясвіж. К. 2. Lietuvos mokslų akademijos bibliotekos (Далей – LMAB). F. 139. B. 4061, М.А.Сапега да Ю.С.Сапегі, 28.02.1740, Багуславец. P. 314.

[5] LMAB. F. 139. B. 4061, Я.Лапацінскі да Ю.С.Сапегі, 19.06.1740, Вільня. P. 11.

[6] Vilniaus universiteto bibliotekos. F. 4. B. 35780. B.p.

[7] Яна ці Марціна Храптовіча. – Lietuvos valstybės istorijos archyvas. (Далей – LVIA ). F. 1135. Op. 14. B. 1, Я.Лапацінскі да М.Лапацінскага, 09.07.1740, Варшава. P. 45.

[8] LMAB. F. 139. B. 4061, Я.Лапацінскі да Ю.С.Сапегі, 19.06.1740, Вільня. P. 11.

[9] LMAB. F. 139. B. 4061, М.А.Сапега да Ю.С.Сапегі, 21.01.1741, Зельва. P. 414v.

[10] AGAD. AR. Dz. IV. Nr. 628, Г.Радзівіл да М.К.Радзівіла, 05.02.1741, Карэлічы. К. 134.

га сойміка. Гэта справакавала шматлікія выступленні сапежынскіх прыхільнікаў пад кіраўніцтвам вількаўскага старосты Юрыя Феліцыяна Сапегі. Мікалай Фаўстын Радзівіл не звярнуў на іх увагі і дэпутатамі былі абраны радзівілаўскія прыхільнікі Сымон Данэйка і Францішак Магільніцкі[11]. Пратэстацыі супраць наваградскага сойміка ўтрымліваў Юры Феліцыян Сапега. Ён імкнуўся, каб нават смаленскі кашталян Казімір Несялоўскі застаўся сярод пратэставаўшай шляхты і праводзіў з ім перамовы праз свайго прыхільніка Візгерда. Юры Феліцыян Сапега лічыў, што ўплывовыя ў Наваградскім ваяводстве шляхціцы Кунцэвічы будуць заставацца сярод пратэставаўшай шляхты і выканаюць любы загад лідэра роду Сапег лоўчага ВКЛ Міхала Антонія Сапегі. Абяцаў падтрымліваць пратэстацыі і ўплывовы ў наваградскім ваяводстве шляхціц Вайніловіч. Падтрымку абяцаў і Ігнат Міхал Корсак[12]. У выніку ўсё вырашалася на рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ. Лідэр магнацкай групоўкі Радзівілаў віленскі ваявода і вялікі гетман ВКЛ Міхал Вішнявецкі патрабаваў, каб наваградскія дэпутаты былі дапушчаны ў лік трыбунальскіх суддзяў[13]. Сапегі катэгарычна заявілі, што не дапусцяць у лік суддзяў наваградскіх дэпутатаў і не аддадуць ім пасаду рускага пісара, на якую тыя прэтэндавалі, а таксама не дапусцяць у трыбунальскае кола і смаленскіх дэпутатаў. Умяшальніцтва каралеўскага прадстаўніка Юрыя Флемінга дапамагло пазбегнуць канфлікта і прыйсці ад згоды. Абодва наваградскія дэпутаты былі дапушчаны ў лік трыбунальскіх суддзяў, але пісарам рускай кадэнцыі насуперак Радзівілам стаў віцебскі дэпутат Казімір Гурко[14].

У наступным 1742 г. у сітуацыі барацьбы ў ВКЛ паміж Радзівіламі і Сапегамі на наваградскім сойміку ўдалося прыйсці да кампрамісу і з пратэстамі дэпутатамі былі абраны ясмоньскі староста Казімір Ігнат Корсак, Юзаф Кунцэвіч і Вержэеўскі. Барбара Радзівіл прыкладала вялікія намаганні, каб пераканаць Вержэеўскага адмовіцца ад дэпутацтва на карысць Кунцэвіча, які ўжо нават атрымаў крэдэнс ад дырэктара сойміка[15]. Радзівілы не маглі прымусіць адмовіцца ад дэпутацтва самога Кунцэвіча, бо той быў сапежынскім прыхільнікам і яго адмова магла прывесці да ўтрыманню Сапегамі пратэстацый супраць выбараў на наваградскім сойміку. А так Юры Феліцыян Сапега лічыў лепшым кандыдатам на ўрад пісара рускай кадэнцыі наваградскага дэпутата Юзафа Кунцэвіча, які быў абраны дэпутатам толькі дзякуючы падтрымкі Сапег[16]. У выніку перамогу атрымаў падтрыманы Радзівіламі Казімір Корсак.

Спыненне радзівілаўска-сапежынскага супрацьстаяння прывяло да ўсталявання супрацоўніцтва паміж асноўнымі магнацкімі родамі ў ВКЛ у 1745 – 1749 гг. Выбары дэпутатаў і размеркаванне трыбунальскіх урады пры ўдзеле каралеўскага двара ўзгадняліся і размяркоўваліся паміж асноўнымі магнацкімі родамі ВКЛ: Радзівіламі, Сапегамі і Чартарыйскімі. Найбольшыя праблемы ў такіх абставінах у магнатаў як раз выклікалі выбары на наваградскім сойміку, якія ў выніку і сталі тым «яблыкам раздору», які прывёў да разрыву супрацоўніцтва Радзівілаў з Сапегамі і Чартарыйскімі. Ужо ў 1746 г. магнаты не маглі дамовіцца адносна выбараў у Наваградку. Міхал Казімір Радзівіл прапаноўваў кандыдатамі ў дэпутаты на выбар наваградскага стражніка Дамініка Рэйтана, наваградскага чашніка Яна Яблоньскага і абознага Яна Францішка Яблоньскага. Лічыў, што ў такой сітуацыі лепш сарваць наваградскі соймік, каб лягчэй было абраць пісарам рускай кадэнцыі сапежынскага кандыдата з любога іншага сойміка. Сапегі збіраліся пісаць у справе выбараў у Навагарадку да мсціслаўскага ваяводы Юрыя Феліцыяна Сапегі і Віктара Вайніловіча. Яны лічылі, што з-за «розных перасцярог» соймік

[11] AGAD. AR. Dz. IV. Nr. 628, Г.Радзівіл да М.К.Радзівіла, 03.02.1741, Палонка. K. 131. AGAD. AR. Dz. IV. Nr. 628, Г.Радзівіл да М.К.Радзівіла, 05.02.1741, Карэлічы. K. 134. Российский государственный архив древних актов. Ф.1463. Д. 1082. Л. 1.

[12] LMAB. F. 139. B. 4061, Юры Феліцыян Сапега да Ю.С.Сапегі, 09.04.1741, Ляхавічы. P. 474 – 475.

[13] Biblioteka Narodowa (Далей – BN). Biblioteka Ordynacji Zamoyskich (Далей – BOZ). 941. K. 343.

[14] BN. BOZ 941. K. 345 – 346.

[15] AGAD. AR. Dz. IV. Nr. 638, Б.Радзівіл да М.К.Радзівіла, 03.02.1742, б.м.. K. 133, 135 – 136. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (Далей – НГАБ). . Ф. 1730, Воп. 1. Спр. 19. Арк.272 – 273v.

[16] Абодва наваградскіх дэпутата абяцалі дапамагаць Сапегам, але Юры Феліцыян Сапега працягваў лічыць больш прыхільным Кунцэвіча. – LMAB. F. 139. B. 4061, Юры Феліцыян Сапега да Ю.С.Сапегі, б.д., б.м.. P. 628 – 628v. LMAB. F. 139. B. 4061, Юры Феліцыян Сапега да Ю.С.Сапегі, 30.03.1742, Ляхавічы. P. 632 – 632v. LMAB. F. 139. B. 3607, А.Пшаздзецкі да Ю.С.Сапегі, 14.02.1741, Мінск, P. 31.

будзе сарваны[17]. Верагодна па просьбе Сапег іх прыхільнікі Кунцэвіч і Вайніловіч, таксама, прэтэндавалі на дэпутацтва, для таго, каб з-за іх канкурэнцыі лягчэй было сарваць наваградскі соймік[18]. Праўда, Юзаф Станіслаў Сапега пераконваў Міхала Масальскага, што ён супраць планаў Кунцэвіча і Вайніловіча стаць дэпутатамі. Юзаф Станіслаў Сапега лічыў, што іх старанне стаць дэпутатам гэта інтрыгі варожай кааліцыі, якая такім чынам хоча адцягнуць ад Сапег іх прыхільнікаў і вызваліць шлях да дэпутацтва камусьці трэцяму, верагодна прыхільніку наваградскіх ваяводаў Радзівілаў Станіславу Лопату[19]. Пра такія планы Лопата папярэджваў і ваўкавыскі маршалак Стэфан Алендскі. Такая ініцыятыва, па словах Алендскага, зыходзіла ад наваградскіх ваяводаў Радзівілаў і Агінскіх[20]. Зацікаўленасць Сапег у выбары пісара рускай кадэнцыі стала прычынай просьбы Юзафа Станіслава Сапегі да Міхала Казіміра Радзівіла, каб той пагадзіўся на зрыў наваградскага сойміка, дэпутаты ад якога маглі прэтэндаваць на пасаду пісара рускай кадэнцыі[21]. Міхал Чартарыйскі пераконваў Юзафа Станіслава Сапегу, што Міхал Казімір Радзівіл пагодзіцца на зрыў наваградскага сойміка. Ён адзначаў, што трэба пільнаваць, каб на ім дэпутатам не стаў прыхільнік варожай кааліцыі Станіслаў Лопат[22]. Юзаф Станіслаў Сапега настойліва прасіў, каб Міхал Чартарыйскі пераканаў у неабходнасці зрыву наваградскага сойміка і Міхала Казіміра Радзівіла, што падканцлер ВКЛ і зрабіў[23]. Радзівіл паслухаўся яго і наваградскі соймік быў сарваны.

Новыя непаразуменні паміж магнатамі наконт выбараў на наваградскім грамнічным сойміку з’явіліся ў 1748 г. Ужо перад грамнічнымі соймікамі было вядома, што насуперак вызначана раней кандыдата на ўрад пісара рускай кадэнцыі Людвіка Хэлхоўскага на наваградскім сойміку аб дэпутацтва стараюцца і адпаведна канкурэнтамі на пасаду пісара рускай кадэнцыі імкнуцца стаць радзівілаўскія прыхільнікі наваградскі падваявода Антоні Рдултоўскі і наваградскі гараднічы Ян Яблоньскі[24]. У выніку ў Навагрудку дэпутатамі былі абраны Сымон Данэйка і Антоні Рдултоўскі. Супраць абрання апошняга дэпутатам прыхільнікамі мсціслаўскага ваяводы Юрыя Феліцыяна Сапегі была занесена пратэстацыя. Сапежынскія прыхільнікі небеспадстаўна сцвярджалі, што соймікавыя пасяджэнні не пачаліся, бо шляхта не дала іх распачаць найвышэйшаму мясцоваму ўрадніку – наваградскаму харужаму Пятру Корсаку. Ужо пасля таго, як шляхта разышлася, радзівілаўскія прыхільнікі сабраліся ў іншым месцы і, у адсутнасць найвышэйшага ўрадніка, правялі соймік і абралі дэпутатаў[25]. Спачатку Рдултоўскі і Радзівіл спрабавалі прымусіць наваградскага харужага Пятра Корсака і старадубскага гродскага суддзю Ігната Вайніловіча адмовіцца ад пратэстацый[26]. Пазней яны паспрабавалі дасягнуць гэтага праз іх магнацкага патрона Юрыя Феліцыяна Сапегу. Той спачатку катэгарычна заяўляў, што падтрымае пратэстацыю, бо з такой просьбай да яго звярнуўся Міхал Чартарыйскі. Потым абяцаў прыехаць на перамовы да Міхала Казіміра Радзівіла ў Нясвіж[27]. Перамовы былі доўгімі. Сапегам было зразумела, што такія дзеянні Радзівіла выкліканы яго жаданнем, каб пісарам рускай кадэнцыі наваградскі дэпутат, а не прыхільнік Фаміліі Віктар Хэлхоўскі[28].

---

[17] LMAB. F. 139. B. 4982, М.Чартарыйскі да Ю.С.Сапегі, 12.10.1745, Воўчын. P. 89v. LMAB. F. 139. B. 2711, М.Масальскі да Ю.С.Сапегі, 02.11.1745, Воўчын. K. 143v. LMAB. F. 139. B. 4982, М.Чартарыйскі да Ю.С.Сапегі, 16.11.1745, Воўчын. P. 101 – 101v. LMAB. F. 139. B. 4062. P. 349 – 350v. BN. BOZ 941. K. 350, 415. BJ 5006. K. 160, 177. Сам Вайніловіч таксама хацеў быць абраны дэпутатам на наваградскім сойміку. Аднак ня ведаў, як можа канкураваць з “двума значнымі” канкурэнтамі, якіх падтрымліваў Антоні Пшаздзецкі і радзівлаўскім кандыдатам Рэйтанам. – LMAB. F.139. B. 822, В.Вайніловіч да Ю.С.Сапегі, 04.11.1745, Бацкевічы. P. 14 – 15. LMAB. F. 139. B. 822, В.Вайніловіч да Ю.С.Сапегі, 05.12.1745, Дзятлава. P. 16 – 17.

[18] Biblioteka Jagiellońska (Далей – BJ) 5006. K. 180 – 181.

[19] BJ 5006. K. 216.

[20] LMAB. F. 139. B. 3131, С.Алендскі да Ю.С.Сапегі, 28.12.1745, Мачульна. K. 12.

[21] BN. BOZ 941. K. 415. LMAB. F. 139. B. 4982, М.Чартарыйскі да Ю.С.Сапегі, 30.11.1745, Воўчын. P. 103.

[22] LMAB. F. 139. B. 4982, М.Чартарыйскі да Ю.С.Сапегі, 14.12.1745, Воўчын. P. 106.

[23] AGAD. AR. Dz. V. Nr. 2579. Cz. 2. М.Чартарыйскі да М.К.Радзівіла, Воўчын, 14.12.1745. K. 80. BN, BOZ 941. K. 415.

[24] LMAB. F. 139. B. 3607, А.Пшаздзецкі да Ю.С.Сапегі, 03.01.1748, Заслаўль. P. 53.

[25] LMAB. F. 139. B. 822, В.Вайніловіч да Ю.С.Сапегі, 14.02.1748, Бацкевічы. P. 24 – 25.

[26] AGAD. AR. Dz. V. Nr. 12939, А.Рдултоўскі да М.К.Радзівіла, Сноў, 09.04.1748. K. 42.

[27] AGAD. AR. Dz. V. Nr. 12939, А.Рдултоўскі да М.К.Радзівіла, Сноў, 13.04.1748. K. 44.

[28] LMAB. F. 139. B. 4063, Юры Феліцыян Сапега да Ю.С.Сапегі, 16.04.1748, Ляхавічы. P. 201. LMAB. F. 139. B. 4063, Юры Феліцыян Сапега да Ю.С.Сапегі, 17.04.1748, Ляхавічы. P. 202.

Міхал Чартарыйскі не разлічваў, што Міхал Казімір Радзівіл будзе дзейнічаць у адпаведнасці з планам і таму некалькі разоў паўтараў сваю просьбу, каб пісарам рускай кадэнцыі стаў смаленскі дэпутат і смаленскі падстолі Віктар Хэлхоўскі і заўважаў, што выбар наваградскіх дэпутатаў быў нелегальным [29]. Радзівіл адстойваў легітымнасць наварадскага сойміка і адкладаў канкрэтнае рашэнне да рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ і заяўляў, што не можа ўмешвацца ў размеркаванне трыбунальскіх урадаў[30]. Вырашальнай у гэтай справе стала пазіцыя Юзафа Станіслава Сапегі, які падтрымаў кандыдатуру Рдултоўскага, бо не хацеў адначасова прыхільных Фаміліі пісара рускай кадэнцыі і трыбунальскага маршалка[31]. У выніку Міхал Казімір Радзівіл настаяў на выбары пісарам рускай кадэнцыі Рдултоўскага.

Такім чынам, Радзівілы ўдала карысталіся сваімі ўплывамі ў Наваградскім ваяводстве для правядзення выбараў прыхільных дэпутатаў, якія потым былі канкурэнтамі на ўрад пісара рускай кадэнцыі. Чартарыйскія добра разумелі такі план Радзівілаў. Пад час выбараў на грамнічных сойміках на Трыбунал ВКЛ 1750 г. Радзівілы меркавалі правесці выбар Караля Станіслава на наваградскім сойміку. Згодна дамове Радзівілаў і Чартарыйскіх пісарам рускай кадэнцыі павінен быў стаць прыхільнік Фаміліі. Аднак Міхал Чартарыйскі непакоіўся, што пісарам рускай кадэнцыі можа стаць радзівілаўскі прыхільнік, які быў бы абраны дэпутатам на сойміку ў Наваградку. Таму ў канцы лістапада 1749 г. ён прасіў Міхала Антонія Сапегу, каб яго сваяк мсціслаўскі ваявода Юры Феліцыян Сапега быў на наваградскім сойміку: «і каб там не праз гандаль праціўны ніводны дэпутат не быў дапушчаны»[32]. 19 студзеня 1750 г. Міхал Чартарыйскі ў сваім лісце Міхалу Антонію Сапезе падкрэсліваў, што наваградскі соймік павінен быць сарваны[33]. Праз некалькі дзён ён пацвердзіў, каб быў сарваны наваградскі соймікі. У адносінах да зрыву апошняга ён даслаў загад свайму прыхільніку Вайніловічу[34]. Падканцлер ВКЛ, аднак, не хацеў, каб наваградскі соймік скончыўся выбарам дэпутатаў, бо яны маглі патрабаваць, каб адзін з іх згодна з традыцыяй заняў урад пісара рускай кадэнцыі, што было б непрымальна нават калі б гэта быў прыхільнік мсціслаўскага ваяводы. Апасаючыся ваганняў Юрыя Феліцыяна Сапегі, Міхал Чартарыйскі лічыў за лепшае, каб загад аб абавязковым зрыве наваградскага сойміка быў перададзены мясцовым лідэрам Фаміліі – наваградскаму падстолію Ігнату Вайніловічу, Вяжэвічу і вербельскаму старосце Марціну Храптовічу. Яшчэ адзін шляхецкі лідэр Фаміліі наваградскі стольнік Ян Храптовіч збіраўся паехаць на троцкі соймік[35].

З-за пазіцыі Фаміліі Юры Феліцыян Сапега не пайшоў на саступкі Радзівілам[36]. Міхал Казімір Радзівіл вырашыў не рызыкаваць і адмовіўся ад выбара сына Караля Станіслава на наваградскім сойміку, але яму ўдалося правесці выбар у Наваградку двух прыхільных дэпутатаў – мінскага лоўчага Яна Булгака і наваградскага скарбніка Уладзіслава Вольскага. Такі выбар адбыўся, дзякуючы наваградскаму канюшаму Міхалу Кжышылоўскаму і Станіславу Корсаку[37].

Супраць выбару наваградскіх дэпутатаў былі занесены пратэстацыі па загаду

[29] AGAD. AR. Dz. IVa. Ks. 7. K. 124. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 2579. Cz. 3, М.Чартарыйскі да М.К.Радзівіла, 22.02.1748, Варшава. К. 104. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 2579. Cz. 3, М.Чартарыйскі да М.К.Радзівіла, 07.03.1748, Варшава. К. 116. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 2579. Cz. 3, М.Чартарыйскі да М.К.Радзівіла, 23.03.1748, Варшава. К. 119. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 2579. Cz. 3, М.Чартарыйскі да М.К.Радзівіла, 18.04.1748, Варшава. К. 123 – 124. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 2579. Cz. 3, М.Чартарыйскі да М.К.Радзівіла, 26.05.1748, Прыбыславіцы. К. 132. Biblioteka Czartoryskich (Далей – BCz). 3127, М.Чартарыйскі да А.Пшаздзецкага, 17.04.1748, Варшава. К. 26.

[30] AGAD. AR. Dz. IVa. Ks. 7. K. 124, 203. AGAD. AR. Dz. V. Nr. 2579. Cz. 3, М.Чартарыйскі да М.К.Радзівіла, 07.03.1748, Варшава. К. 116.

[31] BN. BOZ 941. K. 480.

[32] BN. 3285. Cz. 1, М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, 23.11.1749, Воўчын. К. 54v. Змяншала моц Фаміліі ў Наваградскім ваяводстве нязгода паміж яе прыхільнікамі. Мясцовы шляхецкі лідэр Фаміліі наваградскі стольнік Ян Храптовіч паехаў у Ляхавічы, каб узгадніць свае планы наконт наваградскага сойміка з Юрыем Феліцыянам Сапегай. Той, аднак, адмовіўся размаўляць з Храптовічам аб сойміку. – BN 3285. Cz. 1, М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, 26.11.1749, Воўчын. К. 57.

[33] BN. 3285. Cz. 1, М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, 19.01.1750, Воўчын. К. 70.

[34] BN. 3285. Cz. 1, М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, 22.01.1750, Воўчын. К. 72.

[35] BN. 3285. Cz. 1, М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, 28.01.1750, Воўчын. К. 76v.

[36] Мацук А. Пінскі соймік у трыбунальскай кампаніі 1750 г. // Гісторыя і сучаснасць Пінска. – Мінск - Пінск, 2007, С.87 – 88.

[37] AGAD. AR. Dz. IVa. Ks. 9. K. 191.

мсціслаўскага ваяводы Юрыя Феліцыяна Сапегі[38]. У выніку Міхал Казімір Радзівіл загадаў сваім прыхільнікам наваградскаму скарбніку Вольскаму, наваградскаму гараднічаму Яблоньскаму, наваградскаму гродскаму суддзі Корсаку, наваградскаму падваяводзе Рдултоўскаму, наваградскаму канюшаму Кжышылоўскаму, каб яны сабралі як мага больш прыхільнай шляхты і прыбылі на рэасумпцыю Трыбунала ВКЛ адстойваць выбар наваградскіх дэпутатаў[39]. Радзівілам удалося дасягнуць частковага поспеху. 12 шляхціцаў заяўляла, што яны не былі на сойміку і былі вымушаны Віктарам і Ігнатам Вайніловічамі падпісаць пратэстацыю супраць сойміка ў лагеры Юрыя Феліцыяна Сапегі разам з іншай шляхтай, якая не была на гэтым сойміку. Сярод прыхільнікаў Фаміліі, якія разам з Вайніловічамі былі ініцыятарамі напісання пратэстацыі яны называлі Неслухоўскіх, Мілеўскія, Марцін Корсак і Адам Керсноўскі[40]. Міхал Чартарыйскі падтрымаў памкненні Юрыя Феліцыяна Сапегі пратэставаць супраць «скрадзенага» наваградскага сойміка на рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ і ў розных судах[41].

Пачаліся працяглыя перамовы паміж лідэрамі Радзівілаў і Чартарыйскіх адносна наваградскага сойміка. Міхал Чартарыйскі лічыў патрэбным, каб мсціслаўскі ваявода ўтрымліваў пратэстацыі супраць сойміку. Тым больш, што подпісаў пад пратэстацыямі было больш чым подпісаў пад крэдэнсам дэпутатам. Каб утрымаць пратэстацыю трэба было, каб на рэасумпцыі прысутнічалі мсціслаўскі ваявода разам з вялікай колькасцю прыхільнікаў і шляхецкія лідэры Фаміліі ў Наваградскім ваяводстве Храптовічы, Вайніловічы, Вяжэвіч і Кунцэвіч[42]. Усе яны, як і яшчэ адзін мясцовы лідэр Фаміліі Тэадор Незабытоўскі, абяцалі прыехаць на рэасумпцыю Трыбунала ВКЛ і таму Чартарыйскі быў упэўнены, што наваградскіх дэпутатаў удасца не дапусціць у трыбунальскае кола[43].

Міхал Казімір Радзівіл прасіў Міхала Чартарыйскага дапусціць наваградскіх дэпутатаў у лік трыбунальскіх суддзяў і абяцаў, што яны ў любым выпадку не будуць старацца атрымаць трыбунальскія пасады, бо хацеў утрымаць наваградскіх дэпутатаў «не для пяра, а для пункту гонару»[44]. Ды і Міхал Чартарыйскі не верыў, што Радзівіл пастараецца, каб пісарам рускай кадэнцыі стаў хтосьці з наваградскіх дэпутатаў, бо большасць суддзяў была прыхільнікамі Фаміліі і яныб гэтага не дапусцілі[45]. У выніку Міхал Казімір Радзівіл, як віленскі ваявода, прызнаў на рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ выбары на наваградскім сойміку сапраўднымі, а пратэстацыі супраць яго няслушнымі і дапусціў наваградскіх дэпутатаў у лік трыбунальскіх суддзяў. Наваградскія дэпутаты падпарадкаваліся загадам Радзівіла і не прэтэндавалі на ўрад пісара рускай кадэнцыі.

Трыбунал ВКЛ 1750 г. толькі пацвердзіў усталяванне ў ВКЛ дамініраванне Чартарыйскіх, якія лічылі за лепшае зрываць наваградскі соймік, бо на ім былі значнымі радзівілаўскія ўплывы. У выніку ўсе іншыя наваградскія грамнічныя соймікі ў перыяд выключнага дамініравання Фаміліі ва ўнутрыпалітычным жыцці ВКЛ 1751, 1752, 1753 і 1754 гг. зрываліся. Не перашкодзіла ўплывам Фаміліі і смерць 3 верасня 1750 г. Юрыя Феліцыяна Сапегі. Наадварот хутчэй умацавала іх пазіцыі ў наваградскім ваяводстве. На змену непаслядоўнаму магнату Юрыю Феліцыяну Сапезе прыходзяць шляхецкія лідэры на чале з Янам і Марцінам Храптовічамі, Юзафам Несялоўскім і Віктарам Вайніловічам.

У 1755 г. Міхал Казімір Радзівіл вырашыў зламаць некалькі гадовае дамініраванне Фаміліі ў Трыбуналах ВКЛ. Зразумела, што Радзівіл хацеў, каб паспяхова скончыўся наваградскі соймік і на ім было абрана два прыхільных яму дэпутаты. Яго саюзнік Ігнат Агінскі меркаваў, што абраць наваградскіх дэпутатаў удасца, бо Юры Флемінг, які адказвае ў Фамілі за наваградскі соймік, не захоча выклікаць незадаволенасць каралеўскага двара і не будзе зрываць соймік[46]. У выніку дэпутатамі ў Навагрудку з пратэстамі сталі

[38] AGAD. AR. Dz. IVa. Ks. 9. K. 241. Пратэстацыі падпісала больш 100 шляхціцаў. – Российская национальная библиотека. Автографы Дубровского. 126, Л.240 – 240v, 241.
[39] AGAD. AR. Dz. IVa. Ks. 9. K. 273 – 275.
[40] Российская национальная библиотека. Автографы Дубровского. 126, Л. 237 – 238.
[41] BN. 3285. Cz. 1, М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, 06.03.1750, Воўчын. К. 80v.
[42] BN. 3285. Cz. 1, М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, 09.03.1750, Воўчын. К. 82 – 82v.
[43] BN. 3285. Cz. 1, М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, 18.03.1750, Воўчын. К. 86.
[44] BN. 3285. Cz. 1, М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, 27.03.1750, Воўчын. К. 91v. AGAD. AR. Dz. IVa. Ks. 9. K. 246v.
[45] BN. 3285. Cz. 1, М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, 09.03.1750, Воўчын. К. 82v.
[46] AGAD. AR. Dz. V. Nr. 10702. Cz. 3, І.Агінскі да М.К.Радзівіла, 10.12.1754, Варшава. К. 75.

радзівілаўскія прыхільнікі інфлянцкі лоўчы Феліцыян Данэйка і наваградскі ротмістр Ян Равінскі. Барбара Радзівіл лічыла, што Фамілія будзе старацца не дапусціць у лік трыбунальскіх суддзяў старадубскіх і наваградскіх дэпутатаў. Яна думала, што трэба супакоіць пратэстацыі супраць гэтых соймікаў, а калі гэта не ўдасца, то неварта звяртаць увагі на пратэстацыі і трэба дапусціць дэпутатаў у лік трыбунальскіх суддзяў[47]. Міхал Казімір Радзівіл меркаваў, што шляхціца Дашкевіча ўдасца ўгаварыць адмовіцца ад пратэстацыі супраць наваградскага сойміка[48]. У выніку наваградскія дэпутаты на рэасумпцыі Трыбунала ВКЛ з-за пададзеных пратэстацый не былі дапушчаны ў лік трыбунальскіх суддзяў. Праўда, у першы дзень працы Трыбунала ВКЛ удалося супакоіць пратэстацыі супраць наваградскіх дэпутатаў і яны ўвайшлі ў лік трыбунальскіх суддзяў. Радзівілу стала вядома, што Фамілія падманула пры допускам наваградскіх дэпутатаў, бо пагадзілася дапусціць іх толькі пасля таго як перападкупіла іх[49].

У сітуацыі наступу ў 1756 г. Фаміліі на Радзівілаў і каралеўскі двор вялікая ўвага яе лідэрамі ўдзялялася і наваградскаму сойміку. Планавалася, што выбары тут будуць пільнаваць Пясецкі і Чыж. Напісаў канцлер ВКЛ яшчэ да некалькіх шляхціцаў. Планавалася, што да сойміку для абароны інтарэсаў Фаміліі прыбудзе Ян Равінскі. Сітуацыю ў ваяводстве заблытваў канфлікт паміж прыхільнікамі Фаміліі: паміж Булгакам, Эліяшам Магільніцкім, Віктарам Вайніловічам і наваградскімі дэпутатамі Феліцыянам Данэйкай і Янам Равінскім, якія далучыліся да Фаміліі толькі пад час Трыбунала ВКЛ 1755 г. Эліяш Магільніцкі прапаноўваў кандыдатам на дэпутата наваградскага канюшага Міхала Кжышылоўскага, які меў старацца стаць калегай Абуховічу. Міхал Чартарыйскі згаджаўся на кандыдатуру Кжышылоўскага і абяцаў яму тысячу злотых за дзейнасць на сойміку на карысць Фаміліі, а ў выпадку выбара яго дэпутатам – далейшую падтрымку. Супраць кандыдатуры Кжышылоўскага выступіў Міхал Антоні Сапега, бо лічыў наваградскага канюшага няпэўным прыхільнікам і невартым даверу па прычыне асабістых якасцяў. Аднак Чартарыйскі быў схільны на падтрымку старанняў Кжышылоўскага, каб дасягнуць станоўчага выніку на наваградскім сойміку. Яшчэ 500 злотых было выдадзена на раздачу іншай наваградскай шляхце прыхільнай Чартарыйскім (50 амаль адразу меркавалася перадаць Віктару Вайніловічу і прадстаўнікам яго роду). Феліцыяну Данэйцы і Канстанціну Пласкавіцкаму планавалася выдаць па 70 злотых. Канцлер ВКЛ прасіў, каб Міхал Антоні Сапега звярнуўся да сваёй стрыечнай сястры (удавы па наваградскім ваяводзе Юрыю Радзівілу Сламеі Ганне – А.М) з просьбай, каб яе прыхільнікі дзейнічалі на сойміку разам з прыхільнікамі Фаміліі. Тая пагадзілася і дала сваім прыхільнікам адпаведныя загады.

На наваградскім сойміку дэпутатамі былі абраны наваградскі падчашы Ануфры Межэўскі і наваградскі падваяводзіч Іахім Рдултоўскі. Нягледзячы на пратэстацыі наваградскія дэпутаты мелі магчымасць увайсці ў лік трыбунальскіх суддзяў, бо сам соймік адбыўся на падставе кампрамісу. Прысутны на сойміку Станіслаў Радзівіл быў вымушаны пагадзіцца, каб дырэктарам сойміку быў прыхільнік Фаміліі Равінскі. Таксама быў вымушаны пагадзіцца, каб з наваградскім падваяводзічам Іахімам Рдултоўскім дэпутатам быў абраны прыхільнік Фаміліі Юзаф Межэўскі, які быў меньш зацяты, чым іншыя кандыдаты Фаміліі на дэпутацтва. Цікава, што наваградскі падстолі Ігнат Вайніловіч нават праводзіў перамовы з лідэрамі групоўкі Чартарыйскіх, каб да ўраду пісара рускай кадэнцыі была рэкамендавана кандыдатура наваградскага падчашыца Юзафа Межэўскага. Гэта павінна была быць абаронай для Фаміліі, бо згодна традыцыі наваградскія дэпутаты мелі першынство для атрымання ўраду пісара рускай кадэнцыі, а другім наваградскім дэпутатам быў радзівілаўскі прыхільнік наваградскі ваяводзіч Іахім Рдултоўскі. Міхал Чартарыйскі лічыў, што лепш аддаць пісарства рускай кадэнцыі іншым дэпутатам прыхільным Фаміліі. Трэба было, праўда, якімсьці чынам аддзячыць і Межэеўскага[50].

[47] AGAD. AR. Dz. IV. Nr. 640, Б.Радзівіл да М.К.Радзівіла, 12.03.1755, Дзятлава. К. 119 – 121.
[48] AGAD. AR. Dz. IVa. Ks. 13. K. 682, 744.
[49] AGAD. AR. Dz. IVa. Ks. 13. K. 787 – 789, 789 – 790, 792, 796 – 797, 813.
[50] AGAD. AR. Dz. II, Suplement. Nr. 930 (24). K. 1. – НГАБ. Ф. 1737, Воп. 1. Спр. 41. Арк.58; Ф. 1730, Воп 1. Спр. 30. Арк. 97, 100, 101, 102, 103, 104, 105, 105а, 825. AGAD. AR. Dz. IV. Nr. 558, С.Радзівіл да М.К.Радзівіла, 10.02.1756, Наваградак. К. 39. BCz. 3127, М.Чартарыйскі да А.Пшаздзецкага, 05.04.1756, Воўчын. К. 87.

Шляхта ў вялікай колькасці з'язджалася на рэасумпцыю Трыбунала ВКЛ 1756 г., каб падтрымаць кандыдата Фаміліі на ўрад трыбунальскага маршалка падскарбія ВКЛ Юрыя Флемінга. Не засталася ў баку і наваградская шляхта. На дапамогу Флемінгу выправіліся Пясецкія, Пагаржэўскія і шмат іншых шляхецкіх родаў[51]. Падтрымка шляхты і стала вырашальнай у перамозе Фаміліі і Флемінг быў абраны трыбунальскім маршалкам.

У сітуацыі абвастрэння ўнутрыпалітычнага становішча ў ВКЛ вялікае значэнне меў выбар на наваградскім пасольскім сойміку 1756 г. Радзівілы пасля працяглых дыскусіяў пастанавілі, што паслом ад наваградскага сойміка павінен быць абраны крайчы ВКЛ Станіслаў Радзівіл. Зразумела, што прыхільнікі Чартарыйскіх паспрабуюць усімі сіламі перашкодзіць яго выбару. Праблемай да прыхільнікаў Радзівілаў у Наваградскам ваяводстве заключалася яшчэ ў тым, што першым ураднікам у ваяводстве быў лідэр прыхільнікаў Чартарыйскіх мясцовы стольнік Іахім Храптовіч. Зразумела, што ён распачаўшы абрады сойміка прапанаваў бы кандыдатам на дырэктара пасяджэння прыхільніка Чартарыйскіх. Той бы ў сваю чаргу мог бы прапанаваць патрэбных Фаміліі кандыдатаў на пасольства. Радзівілы добра разумелі гэтую праблему і таму было вырашана не дапусціць, каб соймік распачаў наваградскі стольнік. Менавіта для гэтага Станіслаў Радзівіл збіраўся прывесці на соймік Караля Мілеўскага, які меў судовую справу з Храптовічам і атрыманымі ў ёй дэкрэтамі павінен быў перашкодзіць, каб наваградскі стольнік распачаў абрады сойміка[52]. Чартарыйскія для выбара Храптовіча вызначылі старадубскі соймік і першынство сярод ураднікаў атрымаў радзівілаўскі прыхільнік наваградскі падстолі Ігнат Вайніловіч. Аднак гэта не дапамагло пазбегнуць канфлікту пад час сойміку і ў выніку адбылося нават два соймікі: адзін – прыхільнікаў Радзівілаў, другі – прыхільнікаў Чартарыйскіх. Станіслаў Радзівіл наступным чынам апісваў пачатак сойміка на якім потым якабы быў выбраны паслом: «як вакол мяне завярцелася, каб мяне згладзіць з таго свету, якаж страляна да мяне як да лося, але не папала, унтэр-афіцэру наваградскаму шляхціцу пад уха патрапіла, які быў за мною, самі тады тумульт зрабіўшы абвінавацілі мяне маніфестамі»[53]. Супраць соймікаў была занесена вялікая лічба пратэстацый. Вельмі цікава, як шляхта з абодвух груповак тлумачыла легітымнасць свайго выбару і нелегітымнасць выбару сапернікаў. Юры Флемінг паведамляў, што ў выніку на наваградскім сойміку было паранена 15 – 20 шляхціцаў[54].

Частка шляхты сцвярджала, што ніводны соймік не адбыўся, бо быў сарваны яшчэ пры выбары соймікавага дырэктара[55]. Прыхільнікі Радзівілаў пратэставалі, што пасля абрання паслоў на соймік ужо пад час напісання інструкцыі адбыўся паўторны соймік на якім быў абраны новы соймікавы дырэктар і паслы: «па прыпыненню дырэктарам сэсіі для звычайнага інструкцыі складання, некаторая частка нашых абывацеляў – – з дапамогай сілы цырынскага старосты арганізавалі паўторны соймік»[56]. Прыхільнікі Чартарыйскіх сцвярджалі, што гэта радзівілаўскія прыхільнікі абралі дырэктара і паслоў на неналежным месцы і ўжо пасля легітымнага сойміка: «пасля пачатку сойміка падстоліям нашага ваяводства Ігнатам Вайніловічам абралі дырэктарам лідскага лоўчага Феліцыяна Данэйку, а пад яго дырэкцыяй без ніводнай пратэстацыі намініраваны былі цырынскі староста Юзаф Несялоўскі і наваградскі вайсковіч Віктар Вайніловіч пасламі на сойм будучы, наступаючы. Па сканчэнню тых абрад Ясна Асвяцоны князь крайчы ВКЛ Станіслаў Радзівіл з вышэй упамінаемым наваградскім падстоліям Вайніловічам ў сваімі афіцэрамі і слугамі і не абывацелямі Наваградскага ваяводства інкогніта ці тое на вуліцы, ці ў станцыі сваёй нібыта пад дырэкцыяй Антонія Міладоўскага, выдуманымі пасламі намініраваў, небудучы ніколі ў соймікавай ізбе аглашанымі шляхтай і цэлым Навгарадскім ваяводствам»[57].

[51] BN 3285. Cz. 1, М.Чартарыйскі да М.А.Сапегі, б.м.. К. 79. Biblioteka PAU PAN 361, s.4 – 6.
[52] AGAD. AR. Dz. IV Nr. 599, С.Радзівіл да М.К.Радзівіла, Любіч, 16.08.1756. К. 18 – 19.
[53] AGAD. AR. Dz. IV. Nr. 599, С.Радзівіл да Г.Ф.Радзівіла, Любіч, 28.08.1756. К. 28.
[54] BJ 24/61, b.p.
[55] НГАБ. Ф. 1730, Воп. 1. Спр. 30. Арк.823 – 824, 825 – 826, 828 – 829, 832; Ф. 1737, Воп. 1. Спр. 41. Арк.417.
[56] НГАБ. Ф. 1730, Воп. 1. Спр. 30. Арк.827, 831, 833.
[57] НГАБ. Ф. 1737, Воп. 1. Спр. 41. Арк.463.

Па подпісам пад інструкцыям паслам з абодвух канкурэнцыйных соймікаў магчыма ўстанавіць кола прыхільнікаў магнацкіх груповак. Фамілію сярод мясцовыхураднікаў падтрымалі лоўчы Антоні Тuханоўскі, сурагатар Эліаш Магільніцкі, канюшы Міхал Кжышылоўскі, будаўнічы Ян Хмелеўскі. Сярод простай шляхты роды Данэйкаў, Кжышылоўскіх, Магільніцкіх, Равінскіх, Бародзічаў, Хэлхоўскіх, Кандратовічаў, Узлоўскіх і Кунцэвічаў. Агулам інструкцыю падпісала 36 шляхціцаў[58]. Адначасова маніфест аб выбары пасламі Несялоўскага і Вайніловіча падпісала яшчэ больш прыхільнікаў Фаміліі 82 шляхціцы[59]. Крыху больш (88 шляхціцаў) прыхільнікаў Фаміліі падпісала пратэстацыю супраць дзейнасці Станіслава Радзівіла і канкурэнцыйнага сойміка[60]. Станіславу Радзівілу і Ігнату Вайніловічу інструкцыю падпісала 23 шляхціцы, а інструкцыю паслам да караля з гэтага сойміка падпісала 39 шляхціцаў. Пратэстацыі супраць сойміка прыхільнікаў Фаміліі былі падпісаны ад 5 да 22 шляхціцаў. Радзівілаў падтрымалі мясцовыя ўраднікі: лоўчы і гродскі суддзя Казімір Ігнат Корсак, стражнік Дамінік Рэйтан, чашнік Ян Яблонскі, падчашы Антоні Рдултоўскі, абозны Міхал Пратасовіч, Юзаф Петровіч. Сярод простай шляхты роды Корсакаў, Вержееўскіх, Яблонскіх і Пазарыскіх[61]. Такім чынам, колькасная перавага сярод шляхты знаходзілася ў Чартарыйскіх, а сярод ураднікаў у Радзівілаў. Такая сітуацыя была цалкам супрацьлеглай у ВКЛ. У гэтым не было нічога дзіўнага, бо менавіта ў Наварадскім ваяводстве Радзівілы шмат гадоў стараліся, каб мясцовыя ўрады атрымлівалі іх прыхільнікі.

Увогуле актыўнай агітацыяная дзейнасць Фаміліі ў 1756 г. значна павялічыла кола яе прыхільнікаў нават ў такіх «радзівілаўскіх рэгіёнах», як Навагрaдскае ваяводства. У 1757 г. з'явіліся чуткі, што дэпутатам і кандыдатам на пасаду трыбунальскага маршалка ад Фаміліі можа стаць навагрaдскі кашталян Ян Храптовіч[62]. Напэўна, для перашкоды Храптовічу Ігнат Агінскі прасіў Міхала Казіміра Радзівіла пільнавць навагрaдскі соймік, які быў «пад Трыбуналам»[63]. Радзівілаўскім прыхільнікам выдавалася неабходным, каб з навагрaдскага сойміку іх прыхільнік Макавецкі быў дэпутатам толькі ў тым выпадку, калі яго калегай будзе не Храптовіч[64].

Міхал Казімір Радзівіл лічыў навагрaдскі соймік за сферу сваіх уплываў і хацеў, калі два радзівілаўскіх прыхільнікі не былі абраны на ім дэпутатамі, то няхай лепш ён будзе сарваны, чым скончыцца кампрамісам. Так у 1760 г. ён быў вельмі незадаволены, што яго прыхільнікі на навагрaдскім сойміку, каб правесці выбар прыхільнага Радзівілам дэпутата пагадзіліся на выбар аднаго прыхільніка Фаміліі. Таму вялікі гетман ВКЛ загадаў занесці і ўтрымліваць пратэстацыю супраць навагрaдскага сойміка[65]. Шляхта сцвярджала, што насуперак праву распачаў навагрaдскі стольнік Ян Храптовіч, які знаходзіўся пад кандэмнатамі. Потым без абмеркавання абралі дырэктарам вербельскага старосту Марціна Храптовіча, які без абмеркавання вызначыў дэпутатаў. Нетолькі простая шляхта, але і ўраднікі не мелі магчымасці выказацца на сойміку[66]. Потым Радзівіл перадумаў і вырашыў, што будзе лепш, калі ў лік суддзяў войдуць па аднаму дэпутату з двух канкурэнцыйных соймікаў[67]. У выніку перамоў выдавалася, што ўдалося знайсці задавальняючы ўсіх варыянт і дэпутатамі па прапанове польнага гетмана ВКЛ павінны былі застацца Макавецкі і Тuханоўскі. Аднак, Макавецкі адмовіўся ад такой прапановы і прасіў, каб з двух навагрaдскіх соймікаў не фарміравалі аднаго[68].

Яшчэ хацелася заўважыць, што Радзівілы не былі роўнымі сваімі ўплывамі на навагрaдскі соймік. У 1760 г. Міхал Казімір Радзівіл прапанаваў Станіславу Радзівілу, каб ён стараўся стаць паслом на сойміку ў Навагрaдку. Нечакана супраць такой пра-

[58] LVIA, SA 121. K. 1406 – 1406v.
[59] LVIA, SA 121. K. 1388 – 1389.
[60] LVIA, SA 121. K. 1391v.
[61] НГАБ. Ф. 1730, Воп. 1. Спр. 30. Арк.827 – 827адв, 828адв, 831адв, 832адв, 833адв, 847 – 847адв, 851 – 851адв.
[62] AGAD. AR. Dz. V. Nr. 10702. Cz. 3, I.Агінскі да М.К.Радзівіла, 03.01.1757, Варшава. K. 207.
[63] AGAD. AR. Dz. V. Nr. 10702. Cz. 3, I.Агінскі да М.К.Радзівіла, 03.01.1757, Варшава. K. 207.
[64] AGAD. AR. Dz. V. Nr. 10, А.Абрамовіч да М.К.Радзівіла, 27.01.1757, Вільня. K. 198 – 199.
[65] AGAD. AR. Dz. IVa. Ks. 17. K. 78.
[66] НГАБ. Ф. 1730, Воп. 1. Спр. 34. Арк.99 – 100, 101 – 101адв, 102, 114 – 114адв.
[67] AGAD. AR. Dz. IV. Nr. 562, С.Радзівіл да М.К.Радзівіла, 09.03.1760, Любеч. K. 57 – 58. AGAD. AR. Dz. IV. Nr. 562, С.Радзівіл да М.К.Радзівіла, 17.03.1760, Любеч. K. 64 – 65.
[68] AGAD. AR. Dz. IV. Nr. 563, С.Радзівіл да М.К.Радзівіла, 29.04.1760, Любеч. K. 10.

пановы выступіў сам Станіслаў Радзівіл, бо мясцовы соймік быў вельмі каштоўны, нават у выпадку выбара паслом магчыма была пратэстацыя ў Варшаве мясцовай шляхты супраць яго і галоўнае, што паслом ён мог быць абраны толькі разам з Юзафам Несялоўскім. На апошняе Станіслаў Радзівіл не хацеў пагадзіцца[69].

Увогуле Станіслаў Радзівіл рабіў слушную выснову, бо прыхільнікі Фаміліі былі настолькі моцнымі ў Наваградскім ваяводстве, што без іх згоды немагчыма было правесці выбар прыхільных дэпутатаў і паслоў. У сітуацыі ўнутрыпалітычнай барацьбы паміж Радзівіламі і Чартарыйскімі мясцовы грамнічны соймік з 1756 па 1763 гг. быў зрываны ці то прыхільнікамі Радзівілаў, ці прыхільнікамі Фаміліі.

Такім чынам, магчыма зрабіць наступныя высновы. Радзівілы валодалі вялікімі ўладанямі ў Наваградскім ваяводстве. Прадстаўнікі роду Радзівілаў да 1755 г. займалі ўрад наваградскага ваяводы. Зразумела, што Радзівілы дамніравалі на наваградскіх сойміках. Аднак, апазіцыя ім была настолькі моцнай, што вельмі часта наваградскі соймік зрываўся. Прычына заключалася ў тым, што наваградскія дэпутаты згодна «традыцыі першынства» былі галоўнымі прэтэндэнтамі на ўрад пісара рускай кадэнцыі Трыбунала ВКЛ. Гэта звярнула значную ўвагу магнацкіх родаў Сапег і Чартарыйскіх на мясцовы соймік. Абодва магнацкія роды спачатку падтрымалі пасэсараў «нойбургскіх уладанняў», якія актыўна змагаліся з Радзівіламі ў канцы 30-х гг. XVIII ст. Сапегі разлічвалі на ўплывы ў Наваградскім ваяводстве Юрыя Феліцыяна Сапегі і яго кліентаў. Фамілія грунтавала сваю моц у ваяводстве на прадстаўніках сярэднешляхецкіх родаў: Храптовічаў, Вайніловічаў, Несялоўскіх, Незабытоўскіх і інш. У выніку ў канцы панавання Аўгуста III уплыў прыхільнікаў Фаміліі ў Наваградскім ваяводстве быў настолькі моцным, што радзівілаўскія прыхільнікі без іх згоды не маглі разлічваць на выбар дэпутатаці пасламі.

[69] AGAD. AR. Dz. IV. Nr. 563, С.Радзівіл да М.К.Радзівіла, 13.08.1760, Жырмуны. К. 20 – 22.

**А. Доўнар (Мінск)**

# Пацвярджальны прывілей Караля Польскага і Вялікага Князя Літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага Навагрудку 1767 года

10 *студзеня 1767 года* Навагрудак атрымаў **прывілей-пацвярджэнне** (канфірмацыю) караля польскага і вялікага князя літоўскага **Станіслава Аўгуста Панятоўскага** сваіх праў, свабод і прывілеяў. Дадзены прывілей быў падпісаны Станіславам Аўгустам у Варшаве пад час вальнага сойма і быў запісаны ў кнізе запісаў Метрыкі Вялікага княства Літоўскага[1].

Пацвярджэнне гарадскіх прывілеяў мяшчане Навагрудака атрымалі звычайным шляхам для XVII – XVIII ст. Спачатку мяшчане выбралі сярод сябе паслоў да караля польскага і вялікага князя літоўскага (у 1767 годзе імі сталі бурмістры Сільвестр Баневіч і Мацей Таўвяньскі), якія ад імя «цэлага магістрату і паспольства» Навагрудка звярнуліся праз Паноў Рад і дворных урадніkаў да манарха з просьбаў пацвердзіць ранейшыя прывілеі. Час звароту быў зноў жа не выпадковым – мяшчане звярталіся да манарха пад час вальнага сойма[2]. Для пацвярджэння навагрудскія гарадскія паслы прад'явілі «лісты прывілеі і рэскрыпты» Навагрудку.

Абмеркаваўшы просьбу навагрудскіх мяшчан, Станіслаў Аўгуст усе гарадскія прывілеі ва ўсіх іх пунктах «апрабіраваў і пацвердзіў», падпісаўшы «сваёй рукой» і загадаўшы прылажыць да прывілея вялікую пячатку ВКЛ[3].

Пры канфірмацыі прывілеяў Навагрудку Станіславам Аўгустам галоўнае месца адводзілася пацвярджальнаму прывілею Навагрудку караля польскага і вялікага князя літоўскага Аўгуста III ад 22 лістапада 1754 г., які быў поўнасцю ўпісаны[4] ў прывілей Станіслава Аўгуста 1767 г.

***Прывілей Аўгуста III*** мяшчане Навагрудака атрымалі па такой жа схеме як прывілей Станіслава Аўгуста Панятоўскага: спачатку мяшчане выбралі сярод сябе паслоў да манарха (у **1754** годзе гэта былі бурмістры Сільвестр Баневіч і Якуб Біліньскі), якія ад імя «цэлага магістрату і паспольства» Навагрудка звярнуліся пад час сойма праз Паноў Рад і дворных урадніkаў да манарха з просьбаў пацвердзіць ранейшыя прывілеі

[1] НГАБ. Ф. КМФ-18 (Метрыка ВКЛ). Воп. 1. Спр.190. Арк. 218 – 241 (арыгінал дадзенага прывілея захоўваецца ў Нацыянальным музеі Літвы – Rimša E. Pieczęcie miast Wielkiego księstwa Litewskiego. Warszawa,2007. S. 730 )

[2] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 218.

[3] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 241.

[4] пры запісе у кнігу запісаў Метрыкі ВКЛ, а хутчэй пры напісанні самага прывілея 1767 года, пачатак прывілея Навагрудку Аўгуста III не быў запісаны, у сувязі з чым пасля азначэння, што да Станіслава Аўгуста звярнуліся навагрудскія мяшчане з просьбай, ідзе непасрэдна тэкст прывілея Аўгуста III з пункта, які змяшчае змест просьбы навагрудскіх мяшчан менавіта да Аўгуста III

ва ўсіх «пунктах , часцях і артыкулах моцай і павагай … каралеўскай … і некаторыя [пункты] з ласкі асаблівай» дадаць і растлумачыць[5].

Для пацвярджэння навагрудскія гарадскія паслы прад'явілі Аўгусту III раней атрыманыя прывілеі, дэкрэты і іншыя дакументы, якія ўтрымлівалі разнастайныя правы, свабоды Навагрудку. Сэнс асноўных дакументаў, якія былі прад'яўлены, быў запісаны ў прывілеі Аўгуста III. Запісаны ў прывілеі Навагрудка 1754 г. змест ранейшых прывілеяў адлюстроўвае пункт погляды мяшчан на іх значэнне для горада, г.зн. адлюстрорўвае тыя пункты прывілеяў, якія былі актуальныя для XVIII ст. У сувязі з чым далей у артыкуле перадаецца пералік прад'яўленых дакументаў і іх змест, які быў занатаваны ў прывілеі Аўгуста III.

**<u>Аўгусту III прад'явілі наступныя дакументы:</u>**

❖ Найперш *прывілей Жыгімонта Старога (Брэст, 1511.26.07):*

➢ на магдэбургскае права, які вызваляў навагрудскіх мяшчан ад улады замкавых і ад іншых судоў, з вольнай апеляцыяй да манарха;

➢ на пабудову ратушы і крам пад ёй, на яткі, якія павінны належыць толькі навагрудскім мяшчанам магдэбургскай юрыздыкцыі;

➢ на вагу, васкабойню, пастрыгальню, з даходам ад іх у «мейскую скрынку» (гарадскі бюджэт);

➢ на войтаўства, дом, мясную ятку войту;

➢ на вольны ўезд мяшчан па дровы і для нарыхтоўкі драўніны для будоўлі будынкаў да Ахонаўскай пушчы і да пушчы за Промшай;

➢ на пабудову гарадскога млыну;

➢ на вольнае раздаванне пустых зямель гарадской юрыздыкцыі;

➢ на недаванне падвод для паслоў, за выключэннем давання падвод гаспадарскім ганцам;

➢ на невыкананне ніякай іншай павіннасці на дзяржаўны скарб і замак, апроч капшчызны, і «на іншыя там апісаныя парадкі».

➢ У гэтым жа прывілеі было напісана пра выплату горадам 50 венгерскіх залатых (дукатаў) у год да дзяржаўнага скарбу.

❖ Па-другое, канфірмацыйныя *прывілеі Жыгімонта Аугуста (Ломжа, 1562.22.01) і Жыгімонта Вазы (Кракаў, 1595.18.03)*, якія пацвярджалі вышэйзгаданы першы прывілей. Акрамя гэтага канфірацыйны прывілей Жыгімонта Вазы надаваў Навагрудку гарадскі герб: выяву Архангела Міхаіла.

❖ Па-трэцяе, *прывілей Жыгімонта Вазы (Варшава, 1598.09.05):*

➢ на адмену выплаты вышэйзгаданых 50 венгерскіх залатых горадам, у сувязі з тым, што навагрудскі ваявода Тэадор Скумін Тышкевіч, на карысць якога ішла гэтая выплата горада з скарбу сам адмовіўся ад іх атрымання;

➢ на сумесныя «складанкі» на часы і на іншыя выдаткі;

➢ на брук, на які павінны былі складацца ўсе навагрудскія мяшчане, пад якой бы юрыздыкай яны не былі, і якія б у Навагрудку «таргоў, шынкаў, раместваў і іншых дабрадзействаў» ужывалі;

➢ на вызваленне дамоў асоб, якія засядалі ў магістраце ад «стаяння гасцей»;

➢ акрамя гэтага, гэтым жа прывілеям навагрудскія мяшчане вызваляліся ад усіх іншых павіннасцяў на замак, акрамя капшчызн з корчмаў і чыншаў з гарадскіх валок, якія «мяшчане кожны год, праз аднаго з свайго асяродка дэпутаванага выбраўшы», павінны былі плаціць;

➢ у тым жа прывілеі агаворвалася, што мяшчане «не перад кім» не павінны рабіць справаздачу аб гарадскіх даходах, «адно паміж сабой»: перад войтам і бурмістрамі;

➢ таксама прывілей 1598 г. замацоўваў вызваленне мяшчан Навагрудку ад выплаты броварнага, сладовага – бо яны ніколі не плацілі дадзеных падаткаў;

➢ як і прывілей 1598 г. замацоўваў правіла, згодна з якім «яўрэям ятак на рынку паміж хрысціанамі мець не вольна было, апроч перад іх школай».

➢ гэтым жа прывілеям асобна падкрэслівалася, каб замкавы урад у ніякія «парадкі

[5] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 218, 232, 240.

і пажыткі» горада не ўмешваўся («не уступаў») і ніякіх здзелак на гарадскую маёмасць (добра) у замкавым, земскім судзе не прымаў[6].

Вышэйзгаданыя прывілея з'яўляліся асноватворнымі для Навагрудку як у плане арганізацыі гарадскога самакіравання так і забеспячэння прававой базы праў і свабод горада, у першую чаргу яго эканамічнага жыцця.

*Акрамя вышэйзгаданых прывілеяў Навагрудку Аўгусту II былі прад'яўлены дакументы, якія замацоўвалі за горадам яго тэрыторыю, землі, засценкі і правы па іх распараджэнню [7]:*

❖ *інвентар места Навагрудка* (1570.13.05), які склаў Багдан Фёдаравіч Сапега, рэвізор Жыгімонта Аугуста. Б. Сапега быў пасланы для памеры гарадскіх навагрудскіх пляцаў, агародаў, валок і моргаў. Сапега, памераўшы тыя землі, прысудзіў гораду два засценкі: адзін засценак Морхава, другі – каля Морхава, на якім было 17 валок. У гэтай рэвізіі гэтыя землі былі абмераны і абмежаваны, пры чым лясы на гэтых землях прадназначаліся на апал месту. У тым інвентару была паказана тая частка места (вуліцы), якая адносілася да юрыздыкцый замкавай, метрапольскай і плебанскай, і якую рэвізор пакінуў пад старой юрыздыкцыяй. Дадаткова да гэтага інвентара былі пакладзены «атворыстыя лісты» навагрудскага ваяводы Паўла Сапегі[8] да яго намеснікаў, каб у засценкі і землі, якія былі нададзены і замацаваны за горадам Б. Сапегам «не уступалі»;

❖ *прывілей Жыгімонта Вазы* (Варшава, вальны сойм, 1614.05.12.) «на прыданне і далучэння (пасля пагарэння Навагрудка) да яго гарадской юрыздыкцыі» некалькіх новых вуліц: «Кавальскай, Віленскай, Дубатольскай і Болчыцкай» і некаторых зямель, якія былі апісаны ў гэтым жа прывілею; тым жа прывілеям была зацверджана перадача гораду Навагрудку навагрудскім ваяводам Т.С.Тышкевічам[9] мыта тарговага і падужнага, якія перад тым ішлі на замак;

❖ *інвентар* навагрудскага ваявода Т.С.Тышкевіча, паданне «да мейскага (гарадскога) права» тых вуліц «у дзяржанне і трыманне Навагрудскаму месту (гораду) права магдэбургскага дадзеных і далучаных» з замкавымі мяшчанамі, «там жа выразна пералічанымі», пры тым і пэўных зямель і мыта тарговага ваяводскага Гэты інвентар быў складзены каралеўскімі рэвізорамі панам Станіславам Лодзялам і скарбавым дваранінам панам Мікалаям Сенкоўскім;

❖ на права валодання тымі землямі («новую юрыздыку») і тарговае мыта мяшчане паказвалі Аўгусту III *ліст навагрудскага ваяводы Мікалая Сапегі* (Навагрудак, 1618.27.07), які ён выдаў пры уступленні на пасаду ваяводу, якім ён прызнаваў тую перадачу гораду свайго папярэдніка, пацверджаную Жыгімонтам Вазам, і якім пры тым праве іх заставіў і абяцаў горад ні чым не абцяжарваць. Пры чым гэты ліст быў упісаны ў прывілеі Аўгуста III.

❖ акрамя гэтага Аўгусту III быў пакладзены для пацвярджэння *ліст Стэфана Баторыя* (Гродна, 1584.16.11)[10], у якім было агаворана:

➢ каб «мяшчане тамашнія сваіх дамоў, крамаў, зямель, пляцаў і ўсіх прыналежнасцяў з гарадской юрыздыкцыі шляхце і нікому, апроч толькі людзям мейскаму праву падлягаючаму» не прадавалі , а калі хто б і прадаў, то тады навагрудскія мейскі (гарадскі) і гродскі ўрад такіх «запісаў і інтрамісій, да сваіх актаў не прымаў»;

➢ калі б хто б з жыхароў Навагрудка, не знаходзячыся пад магдэбургскім правам, купіў дом, тады павінен быў выканаць прысягу на вернасць гарадской юрыздыкцыі.

➢ каб людзі якой-небудзь «кандыцыі і стану» («замкавыя, метрапалічыя, плебаньскія, княжскія, панскія, шляхецкія падданыя, якія ў тым месце жывуць, і ўжываюць аднаго з мейскіх (гарадскіх) добрадзействаў: таргоў, гандляў, шынкаў, рамёслаў») павінны былі складацца на падводы пад ганцоў, каралеўскіх пасланнікаў, жаўнераў і на іншыя патрэбы і выпадкі, «роўна з мяшчаны права магдэбургскага».

---

[6] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 219 – 220.
[7] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 220 – 223.
[8] П. Сапега быў навагрудскім ваяводам у 1558 – 1579 г.
[9] Т. Тышкевіч быў навагрудскім ваяводам у 1590 – 1618 г.
[10] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 224 – 225.

*Асобна мяшчане Навагрудку ў 1754 «паказвалі» манарху дакументы, якія тычыліся плачэння мяшчанамі мытных пошлін, правядзення кірмашоў*[11]*:*

❖ два лісты-*універсалы Стэфана Баторыя*: адзін з яго асабістым подпісам (Скідель, 1584. 14.07); другі з подпісам падканцлера Льва Сапегі (Гродна, 1586. красавік), якія былі напісаны да падскарбія земскага Яна Глебовіча і да скарбнага Лукаша Мамоніча, і ў якім С. Баторы, «прыхіляючыся» да атэстацыі падскарбія, якая была дадзена ў Вільні 1 ліпеня 1581 г., загадаў вызваліць навагрудскіх мяшчан і купцоў ад плачэння «мыта скопнага старага, каторага ніколі перад тым не плацілі».

❖ *прыілей Жыгімонта Вазы* (Варшава. 1597.22.03.) на два кірмашы (ярмаркі) у месце Навагрудскім і іншыя розныя лісты, універсалы пад рознымі датамі «*на розныя прэрагацівы, вольнасці і пункты*»

*Напрыканцы мяшчане Навагрудку прад'явілі пацвярджальныя прывілеі каралей польскіх і вялікіх князей літоўскіх XVII ст. – Уладзіслава Вазы, Яна Казіміра, Міхала Вішнявецкага, Яна Сабескага:*

❖ *прывілей Уладзіслава Ваза (Кракаў, 1633.08.03.)*[12]*:*

➢ «ва ўсіх пунктах апрабуючы, канфірмуючы», зацвердзіў усе прывілеі, лісты, рэскрыпты, універсалы, рэвізорскія пастановы, інвентары, якія былі выдадзены Навагрудку папярэднікамі Уладзіслава;

➢ акрамя пацвярджэння Уладзіслаў Ваза дадаў палажэнні, каб кірмашы ў Навагрудку па прывілею Жыгімонта Вазы былі «публікаваныя» і адбываліся безмытна адпаведна сваіх тэрмінаў;

➢ каб, «мяшчане наваградцы стасуючыся да друкаванага вількера, названага плебісцыт», Вільні ў сваіх судах, перасудах, у даходах, паміж магістратам і войтам, «захоўваліся» не паводле земскага , а паводле магдэбургскага вышэйзгаданага віленскага плэбісцыту;

➢ з мэтай усталявання лепшага парадка ў горадзе, і ўлічваючы, што ў Навагрудку прысяжнага войтаўскага пісара ніколі не было, «а двух пісараў утрымліваць, з-за недастатку свайго тое места (горад) не магло», было ўстаноўлена, каб «справы тамашнія радзецкія і войтаўскія адзін прысяжны радзецкі пісар запісаваў і правяраў», а дакументы, якія рыхтаваліся «непрысяжным войтаўскім пісарам» ужо з'яўляліся б неправамоцнымі.

❖ Я*н Казімір сваім прывілеям (Варшава, 1661.30.06)*[13]*:*

➢ пацвердзіў усе ранейшыя прывілеі, універсалы і г.д. сваіх папярэднікаў, пачынаючы ад Жыгімонта Старога «ва ўсіх пунктах, клаўзулях, абавязках, кандыцыях»;

➢ для падтрымкі дабрабыту мяшчан «пасля суровага знішчэння праз непрыяцеля масквіціна» Ян Казімір замацаваў правіла, што яўрэі не мелі права рабіць дзеянні, якія б супярэчылі прывілеям Навагрудка: г.зн. не мелі права крамы «ў гарадскім радзе, дзе хрысціяне сядзяць», таксама і на прыватных месцах, якія прымыкаюць да рынку мець альбо іх набываць, як і не мелі права набываць якім-небудзь чынам новыя крамы. Але дазвалялася распараджацца дзвюма крамамі ў гарадскім гандлёвым «радзе», якімі яны валодалі здаўна, пры гэтым яўрэі павінны былі выконваць гарадскія павіннасці і не чыніць ніякіх перашкод мяшчанам-хрысціянам у гандлі таварамі, прадуктамі харчавання, «а свае гандлі пры школе адправавуючы, не мяшаліся ў рынку з сваімі гандлямі паміж хрысціян»;

➢ дадаткова Ян Казімір разпарадзіўся яўрэям падаваць і «прызнаваць» акты з нерухомасцю (дамамі, пляцамі) толькі перад навагрудскім мейскім урадам. Гэта распараджэнне з'явілася ў сувязі з тым, што мяшчане скардзіліся на яўрэяў, што яны, «панабываўшы шмат дамоў пад магдэбургскім правам», не удзельнічаюць у выплаце гарадскіх падаткаў і складак, асабліва на «заходзячых жаўнераў»; акрамя гэтага мяшчане скардзіліся, што яўрэі ігнаруюць гарадскія ўлады пры продажы сваіх дамоў іншым яўрэям і не прад'яўляюць магістрату дзедзеныя здзелкі, а рэгіструюць іх перад «школьнікамі сваімі», пры гэтым самі «выходзілі» з горада – што рабіла праблематыч-

[11] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 225 – 226.
[12] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 226 – 227.
[13] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 227 – 229.

ным спагнанне даўгоў ў такіх яўрэяў як прыватнымі асобамі так і гарадскім бюджэтам (яўрэя бралі на сябе абавязак удзельнічаць у выплаце «касцёльнай і шпітальнай сумы», якую выплачвалі органы гарадскога самакіравання).

➢ занатаваў забарону набыцця яўрэямі крамаў у мяшчан-хрысціян, як і забарону яўрэям у гадавыя і нядзельныя святы ажыццяўляць «гандляў і таргоў» пад пагрозай выплаты штрафу (віной) 300 коп літоўскіх. Дадзены штраф быў устаноўлены лістом Жыгімонта Вазы 1597.24.03.

➢ акрамя гэтага, Ян Казімір заставіў Навагрудку на вечныя часы «паводле даўніх праў і старадаўняга агранічэння рэвізора Багдана Сапегі гарадскія землях і засценак Мархава».

❖ *Міхал Вішнявецкі сваім прывілеям (Кракаў, 1669.29.10)*[14]

➢ пацвердзіў усе палажэнні прывілеяў сваіх папярэднікаў;

➢ захоўваў вызваленне навагрудскіх мяшчан ад юрыздыкцыі трыбунальскіх і маршалкоўскіх судоў, як і ад правядзення паседжанняў трыбунальскіх судоў у будынку навагрудскай ратушы;

➢ зацвярджаў вызвалення ад плачэння старога мыта, ад давання кантрыбуцый, якія ўстанаўлівалі сеймікі; як і замацоўваў за горадам права збора торговага, падужнага мыта і падкрэсліваў, каб навагрудскі ваявода не умешваўся ў збор апошніх;

➢ захаваў правіла, каб усе духоўныя і свецкія юрыдыкі Навагрудка былі падпарадкаваны «аднаму паслушэнству і звону» і агульным правілам па ўтрыманню парадку ў горада і ў збору падаткаў.

❖ *Ян Сабескі (Кракаў, 1676.22.03)*[15] *сваім прывілеям усе ранейшыя прывілеі падцвердзіў. А менавіта чатыры прывілеі*:

➢ прывілей Уладзіслава Вазы, якім вуліцы «Кавальскую, Бельчыцкую, Віленскую, Беліцкую» былі далучыны да горада і былі падпарадкаваны юрыздыкцыі магдэбургскага права;

➢ прывілей Яна Казіміра, якім замацаваў правіла, каб навагрудскія мяшчане ўсіх юрыдык, якія «займаюцца рамяством, гандлям, торгам на рынку, адправуючы камерцыю, складанкі прапарцыянальна і нараўне з мяшчанамі», якія знаходзіліся пад юрыздыкцыяй магдэбургскага права, «усякіх прыватных і публічных цяжараў дапамагалі несці»; і каб майстры «усякага рамяства» былі паслухмяныя сваім цэхмістрам пад пагрозай забароны займацца гэтым рамяством;

➢ прывілей Яна Казіміра, замацоўваў за Навагрудкам Вельгельмавічоўскую камяніцу, якая была куплёна горадам, і вызваліў яе ад усялякіх падаткаў[16]. Пры гэтым Ян Казімір перадаў у гарадскую юрыздыкцыю «табачную манаполію», згодна з якой у Навагрудку ніхто «адкрыта і тайна, оптам і ў розніцу, і ніякім спосабам не асьмеліваўся прадаваць» тытунь, пад пагрозай канфіскацыі ўсяго тавару (тытуню) і віны 100 коп грошай літоўскіх на вінаватым. Пры гэтым магістрат павінен быў вызначыць месцы гандлю тытуня і асобу, якая б адказвала за яго продаж. Справаздача аб даходах з табачнай манаполіі рабілася штогод разам са справаздачай іншых гарадскіх даходаў пад час змены бурмістраў.

➢ прывілей Міхала[17], якім ён пацвердзіў усе ранейшыя прывілеі Навагрудка.

Як бачна, пры пацвярджэнні сваіх праў і свабод у 1754 г. навагрудскія мяшчане правялі тэматычны адбо р ранейшых прывілеяў(першыя асноватворныя прывілеі, дакументы аб тэрыторыі распаўсюджвання гарадской юрыздыкцыі, аб узаемаадносінах з яўрэйскім насельніцтвам, аб збору падаткаў; пацвярджальныя прывілеі манархаў XVII ст. і г. д.) і прадставілі найбольш актуальныя дакументы. Пры чым у прадстаўленных дакументахх былі вылучаны і запісаны ў прывілей 1754 г. найбольш важныя з пункту погляда мяшчан палажэнні гэтых дакументаў.

Усе прад’яўленыя Аугусту III прывілеі, лісты, інвентары былі зацверджаны манархам «ва ўсіх пунктах, артыкулах, параграфах».

---

[14] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 229 – 230.

[15] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 230 – 232.

[16] такая асаблівая увага да “Вельгельмавічаўскай камяніцы” і яе вызваленне ад усіх падаткаў і павіннасцяў тлумачылася тым, што яна набыла ў гэты час фунцыі гарадской ратушы Навагрудка

[17] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 232.

Пры пацвярджэнні праў свабод і прывілеяў Навагрудку, зноў жа па просьбе мяшчан Аугуст III звярнуў увагу, што многія палажэнні, пункты прывілеяў сваіх папярэднікаў не былі рэалізаваны, ці да сярэдзіны XVIII ст. перасталі дзейнічаць (напрыклад, навагрудскі ваявода стаў на сваю карысць збіраць пэўныя гарадскія даходы, і ўзяў у сваё трыманне старажытныя ратушныя гарадскія крамы, якія горад сабе будаваў, і ў парушэнне гарадскіх прывілеяў тыя крамы «асадзіў яўрэямі». А мясцовая шляхта і духавенства сталі ўводзіць «неналежныя і забароненыя правам свае юрыздыкцыі» і прымаць пад сваю абарону мяшчан, якія былі падпарадкаваны магдэбургскаму праву, самі іх судзяць).

Такое становішча не толькі парушала прывілеі, але і «волю» манархаў, якія падпісвалі гэтыя дакументы. І ўлічваючы, што такое становішча ідзе не на карысць гораду і яго жыхарам, Аўгуст III даў у сваім прывілеі 1754 г. пэўныя тлумачэнні і дапаўненні да палажэнняў прывілеяў сваіх папарэднікаў, Так, манарх загадаў, каб навагрудскія ваяводы, якія будуць у будучым, да гарадскіх даходаў не мелі ніякага дачынення і не збіралі, і распарадзіўся, каб забраныя ў горада крамы былі яму вернуты і каб ніякіх іншых парушэнняў гарадскім прывілеям ваяводы не рабілі. Як і асобна адзначалася, што Навагрудак згодна пастаноў папярэдніх манархаў і канстытуцый на вечныя часы вызваліны ад выплаты гіберны, у сувязі з чым адміністартары Навагрудскай эканоміі не павінны былі патрабаваць яе выплаты. Аб гэтым павінны былі ведаць так сама цяперашнія і будучыя навагрудскія ваяводы і падваяводы, земскія, гродскія ўраднікі, якія ў сваю чаргу павінны былі ў сваіх дзеяннях адносна Навагрудка прытрымлівацца палажэннямі, якія ўтрымліваліся ў прывілеях горада.

Адносна прыватных юрыдык Аўгуст III замацаваў правіла, згодна з якім мяшчане-рамеснікі, якія належалі да гарадскіх цэхаў, але жылі ў прыватных юрыдыках, павінны былі падпарадкоўвацца і гарадскім уладам і ў кожнай справе для разгляду ў судзе звяртацца да навагрудскага магістрату. А юрыдыкі, якія не былі вызвалены ад гарадскіх павіннасцяў, павінны былі падначальвацца гарадскім уладам і выплочваць усе гарадскія падаткі і выконваць гарадскія павіннасці[18]. Такому ж правілу падначальваліся яўрэі, якія набылі дамы і землі ў мяшчан-хрысціян.

Наогул, можна адзначыць, што становішчу яўрэяў у Навагрудку, іх узаемаадносін з гарадской юрыздыкцыяй (уладай) у прывілеі 1754 г. надавалася значнае месца:

➢ так, адзначалася, што яўрэі, якія жылі ў шляхецкіх, духоўных юрыдыках і займаліся гандлям, павінны былі плаціць разам з хрысціянамі падаткі «на брукаванне і добраупарадкаванне вуліц, на гадзіннік і іншыя гарадскія расходы»;

➢ загадвалася ў адпаведнасці з даўнімі правамі, і ўлічваючы, што яўрэі не мелі гандлёвых месцаў на гарадскім рынку, ажыццяўляць «гандлі і таргі» толькі каля сваёй «школы»;

➢ пры гэтым для прадухілення спекуляцый, павышэння цэн, для захавання роўных умоў гандля падкрэслівалася, што для закупкі, ці скупкі прадуктаў харчавання яўрэям забаранялася выязджаць за межы горада, а было неабходна пачынаць гандлёвыя аперацыя толькі з дзевятай гадзіны раніцы як гэта рабілі навагрудскія мяшчане-хрысціяне;

➢ яўрэям забаранялася трымаць у якасці сваіх слуг («чэлядзі») хрысціян. За парэшэнне дадзенай нормы прадугляджаўся штраф («віна») у 10 грывен;

➢ нагадвалася, што ажыцяўляючы гандаль яўрэі павінны карыстацца адпаведнымі мерамі (бочкамі, чвэрцямі, асмінамі для мерання збожжа, і мядніцамі, гарцамі, квартамі для продажы напояў) за адпаведнасцю якіх устаноўленым нормам сачыў навагрудскі войт і магістрат. Пры выяўленні выкарыстаня яўрэямі ў гандлі якой-небудзь фальшывай меры, справа аб дадзеным правапарушэнні павінна была разглядацца ў гродскім судзе і пасля прызнання абвінавачанага вінаватым апошні павінен быў выплаціць штраф у 50 коп літоўскіх (палова штрафу ішло ў дзяржаўны бюджэт, а палова – у гарадскі), пры гэтым тавар, які быў аб'ектам гандлю, канфіскоўваўся[19].

У сувязі з тым, што Навагрудак, «нядаўнім часам з Божага дапушчэння» у выніку пажара быў зруйнаваны, а сваёй гарадской цагельні для пабудовы і раманту камяніц,

[18] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 234 – 235, 239.
[19] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 235 – 236.

дамоў не меў, мяшчане Навагрудка прасілі пацвердзіць прывілей гораду на пабудову і ўтрыманне цагельні Жыгмунта Вазы (Варшава, 1597.21.03). Аўгуст III той прывілей «сваёй павагай апрабаваў» і дазволіў, каб гарадская цагельня з неабходнымі памяшканнямі і пабудовамі: паведкамі, печамі – была «парадна» пабудавана на гарадской зямлі, «для паленне цэглы і вапны». Дадзеная цагельня павінна б была служыць выгодам і аздобе горада, а даход ад яе дзейнасці паступаў бы ў гарадскі бюджэт (да мейскай скрынкі).

Акрамя гэтага, для паляпшэння супрацьпажарнай бяспекі і папярэджвання пажараў у горадзе Аўгуст III загадаў:

➢ каб усе саламяныя дахі, якія б былі на разнастаўных будынках у горадзе, былі «разбураны», а дамы «як гарадской, так і панскіх, шляхецкіх, духоўных юрыздыкцый, былі пакрыты найменей гонтамі, драніцамі»;

➢ каб усе жыхары Навагрудка складваліся на закупку супрацьпажарнага інвентара, напрыклад: жалезных крукоў для разцягвання загарэўшагася будынку, і т.д.

➢ саладоўні, бровары, гумны, як найбольш пажаранебяспечныя аб'екты, калі б знаходзіліся ў горадзе, каб былі перанесены за тэррыторыю горада. Невыкананне дадзенага распараджэння каралася б штрафам у 20 коп літоўскім;

➢ каб было больш выкапана новых студняў на рынку, вуліцах, а старыя былі адрамантаваны, аб чым павінна дбаіць войт і магістрат;

➢ каб гэтыя меры распаўсюджваліся як на ўсіх навагрудскіх мяшчан, так і ўсех жыхароў горада «духоўнага і свецкага стану, якія жывуць на сваіх грунтах, пляцах, як на хрысціян, так і яўрэяў», каб усе дапамагалі магістрату падтрымываць супрацьпажарную бяспеку і каб ніхто не перашкаджаць караць «непаслушных»[20].

Асобным пунктам прывілея Аўгуста III замацоўвалася, каб гарадскія цэхі «паводле праў» павінны быць паслушнымі навагрудскаму магістрату, каб цэхавыя ўставы прымаліся толькі са згоды магістрату, і каб штогод цэхмістры рабілі справаздачу ад даходах і расходах цэха перад бурмістрамі і членамі цэха. Пры гэтым падкрэслівалася, каб цэхмістры пільна кантралявалі работу усіх без выключэння майстроў цэха, каб кожны выраб рабіўся імі адпаведна існаваўшай тэхналогіі і прадаваўся па належнай цане[21].

Г. зн. дапаўненні і тлумачэнні Аўгуста III норм і палажэнняў навагрудскіх прывілеяў датычыліся у асноўным пытанняў распаўсюджвання юрыздыкцыі магістрата і пытанняў эканамічнага жыцця Навагрудка.

У 1767 г. абмеркаваўшы просьбу навагрудскіх мяшчан, кароль польскі і вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст усе гарадскія прывілеі ва ўсіх іх пунктах «апрабірваў і пацвярдзіў», падпісаўшы сваёй рукой і загадаўшы прылажыць да прывілея вялікую пячатку ВКЛ[22].

Такім чынам, можна сцвярджаць што пацвярджальны прывілей караля польскага і вялікага князя літоўскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага Навагрудку 1767 года замацоўваў і гарантаваў гораду захаванне і выкананне усіх раней атрыманых прывілеяў, свабод і вольнасця ў і ўяўляе сабой яскравы прыклад гарадскіх пацвярджальных прывілеяў.

[20] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 237 – 238.
[21] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 238 – 239.
[22] НГАБ. Ф. КМФ-18. Воп. 1. Спр.190. Арк. 241.

**А. Літвінскі (Баранавічы)**

# Сучасная беларуская гістарыяграфія аб статусе Навагрудка ў складзе ВКЛ і Рэчы Паспалітай

У наш час адбываюцца спрыяльныя змены ў гістарычнай свядомасці беларускага народа. Праяваю дадзенага працэсу можна лічыць абуджэнне цікавасці да лакальнай гісторыі. Беларускае грамадства паступова пераадольвае своеасаблівы "комплекс правінцыялізму", выспявае разуменне таго, што падзеі, якімі адзначана мінулае той альбо іншай мясцовасці, вельмі часта мелі рэгіянальнае і нават агульнаеўрапейскае значэнне. Гэтай тэндэнцыі ў значнай ступені адпавядае асэнсаванне сучаснымі беларускімі навукоўцамі ролі і значэння Навагрудка ў гісторыі Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

Перш чым перайсці да разгляду праблематыкі, адлюстраванай у назве артыкула, неабходна зрабіць шэраг істотных заўваг. Да прыкладу, варта ўдакладніць сэнс словазлучэння "сучасная беларуская гістарыяграфія". Вядома, што ў другой палове 80-х гг. ХХ ст. пачаўся новы перыяд у развіцці беларускай гістарычнай навукі, які, на наш погляд, доўжыцца дагэтуль. Мэтазгодна лічыць, што навуковыя працы гэтага перыяду адлюстроўваюць сучасны стан гістарыяграфіі. Тэрмін "статус" мы прапануем разумець не толькі ў фармальна-юрыдычным значэнні. Маецца на ўвазе яшчэ і рэальнае значэнне Навагрудка ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

Зразумела, фармат артыкула дазваляе толькі зрабіць агляд асноўных прац і акрэсліць найбольш прыкметныя тэндэнцыі ў абранай для аналізу праблематыцы. Пры гэтым аўтар дадзенага артыкула, як прадстаўнік сучаснай гістарыяграфіі, не адмаўляецца ад права выказаць свае меркаванні і пажаданні. Варта адзначыць, што з нядаўна створаных прац інфармацыйнай насычанасцю і грунтоўнасцю вылучаецца шасцітомная "Гісторыя Беларусі", якая пачала выдавацца з 2000 г. Яшчэ неабходна дадаць, што мы свядома арыентаваліся на навуковую літаратуру, якая не мае характару спецыяльнай, прысвечанай Навагрудку, паколькі статус Навагрудка можна высветліць толькі ў параўнанні са статусам іншых гарадоў, а гэта лепш рабіць на аснове навукова-гістарычных твораў абагульняючага характару.

Бадай што галоўным пытаннем сярэднявечнай гісторыі Навагрудка (Навагародка, Наваградка) з'яўляецца пытанне аб ролі горада ў працэсе утварэння і станаўлення ВКЛ. Можна сцвярджаць, што ўяўленне аб Навагрудку як аб першай сталіцы гэтай дзяржавы стала ў апошнія два дзесяцігоддзі даволі трывалым стэрэатыпам гістарычнай свядомасці беларусаў. Асабліва ахвотна дадзены стэрэатып тыражуецца на старонках навукова-папулярных выданняў, так бы мовіць, турыстычнага накірунку[1]. Аднак сцвярджэнне аб

[1] Навагрудак. Фотаальбом. Тэкст Т.П. Царук. Мн., 2006.

сталічным статусе Навагрудка сустракаецца і ў сур'ёзнай навуковай літаратуры[2].

У найбольшай ступені спрычыніўся да ўзнікнення гэтага ўяўлення М. Ермаловіч[3]. Як вядома, ён адстойваў даволі радыкальны погляд на ВКЛ як на выключна беларускую дзяржаву. Адпаведным чынам, даследчык усяляк падкрэсліваў значэнне Навагрудка як цэнтра і рухавіка дзяржаватворнага працэсу – нездарма ж ён назваў новагародскім першы перыяд існавання гаспадарства. "ВКЛ у другой палове XIII ст. і пачатку XIV ст. існавала як Новагародская дзяржава," – рашуча сцвярджаў М. Ермаловіч[4]. Зразумела, тэзіс "Навагрудак – першая сталіца ВКЛ" не выклікаў у даследчыка аніякіх сумненняў. Прычыны страты горадам сталічнага статусу ён тлумачыў наступствамі галіцка-валынскіх і крыжацкіх ваенных акцый.

Слабыя бакі канцэпцыі М. Ермаловіча (лакалізацыя летапіснай Літвы ў беларускім верхнім Панямонні, прыніжэнне ролі Міндоўга, сцвярджэнне аб хрышчэнні ў праваслаўе гэтага князя і г. д., і да т. п.) дастаткова аргументавана крытыкаваліся беларускімі навукоўцамі[5]. Аднак тэзіс аб актыўным удзеле Навагрудка і прылеглых да яго тэрыторый у працэсе утварэння ВКЛ яны не аспрэчваюць, праўда, па-рознаму расстаўляючы пры гэтым акцэнты. Паводле гіпотэзы В. Насевіча, правячыя колы Навагрудскай зямлі прызналі ўладу Міндоўга, паколькі жадалі выйсці з палітычнай сістэмы Кіеўскай Русі і такім чынам пазбегнуць залежнасці ад Залатой Арды. Пры гэтым, на думку гісторыка, з-за вострага дэфіцыту інфармацыі нельга дакладна высветліць рэальныя абставіны пераходу Навагрудка пад уладу балцкага кунігаса[6]. Увогуле, для В. Насевіча, у адрозненне, скажам, ад М. Ермаловіча, характэрная асцярожнасць у меркаваннях, выкліканая і абгрунтаваная гэтым самым дэфіцытам інфармацыі.

Асновай канцэпцыі А. Краўцэвіча стаў тэзіс аб трывалым балта-славянскім узаемадзеянні. У сярэдзіне XIII ст. гэтае узаемадзеянне прыняло форму саюза літоўскага нобіля Міндоўга з усходнеславянскім горадам Навагрудкам – саюза, выкліканага мангола-татарскай пагрозай[7]. Не адмаўляючы ролі балтаў ва ўтварэнні ВКЛ, даследчык лічыць, што ў біэтнічнай дзяржаве дамінаваў усходнеславянскі элемент[8]. Пытанне аб сталічным статусе Навагрудка А. Краўцэвіч не ўздымае. А вось В. Насевіч слушна заначае: "Найбольш верагодна, аднак, што трывалай сталіцы ў сучасным сэнсе ў ВКЛ на ранняй стадыі яго гісторыі ўвогуле не было"[9].

Сапраўды, для раннефеадальных дзяржаў (а ВКЛ, на нашу думку захоўвала рысы такога тыпу дзяржаўнасці прыкладна да канца XIV ст.) характэрная фактычная непадзельнасць адміністрацыйнай, ваеннай і судовай улады, якая ў дадзеным выпадку канцэнтравалася ў руках вялікага князя, а таксама панаванне звычаёвага права як спадчыны эпохі "ваеннай дэмакратыі". Функцыю кіравання ён ажыццяўляў амаль непасрэдна. Пры гэтым патрэбы ў разгалінаваным бюракратычным апараце яшчэ не было, як і не было неабходнасці ў асобным сталічным статусе якогасьці населенага пункту. Іншымі словамі, палітычны цэнтр дзяржавы быў там, дзе ў пэўны момант знаходзіўся яе вярхоўны суверэн. Па сваёй тыпалогіі спосаб кіравання першых вялікіх князёў літоўскіх нагадваў дзеянні імператара франкаў Карла Вялікага, які амаль усё сваё палітычнае жыццё перамяшчаўся са сваім дваром з месца на месца і толькі незадоўга да смерці асеў у Аахене.

Такім чынам, не выпадае лічыць Навагрудак трывалай сталіцай ВКЛ у першы перыяд існавання дзяржавы. Хутчэй за ўсё, гаворка можа весціся тое, што горад быў адной з галоўных рэзідэнцый палітычных кіраўнікоў гаспадарства без юрыдычна вызначанага статусу. У розныя часы і пры розных абставінах гэтую ролю маглі выконваць такса-

---

[2] Нарысы гісторыі Беларусі. У 2-х ч. Ч. 1. Мн., 1994. С.114.
[3] *Ермаловіч М.* Па слядах аднаго міфа. 2-е выд., дап. Мн., 1991; *Ермаловіч М.* Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. Мн., 2000. С. 3–4, 7–116, 429–430.
[4] *Ермаловіч М.* Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. С. 116.
[5] *Насевіч В.Л.* Пачаткі Вялікага княства Літоўскага: Падзеі і асобы. Мн., 1993. С. 20; *Краўцэвіч А.К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. Беласток, 2008. С. 59–60, 107–110.
[6] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага княства Літоўскага. Мн., 2008. С. 60–62, 73.
[7] *Краўцэвіч А.К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 127–128, 160.
[8] *Краўцэвіч А.К.* Стварэнне Вялікага княства Літоўскага. С. 119.
[9] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага княства Літоўскага. С. 76.

ма Варута, Кернава, Трокі, Вільня – аж да 1323 г., калі апошні з пералічаных населеных пунктаў набыў значэнне стабільнай сталіцы дзяржавы. Аднак рэальнае, а не фармальнае значэнне Наваградка у працэсе станаўлення ВКЛ было вялікім, аб чым ускосна сведчаць далёка не адзінкавыя спробы непрыяцеляў маладой дзяржавы ўзяць горад, а таксама той факт, што ва ўзброеных канфліктах Наваградак нязменна захоўваў вернасць вялікім князям Літоўскім (напэўна, жыхарам горада было што губляць са стратай літоўскай дзяржаўнасці). Ва ўсялякім разе, менавіта ў неспакойныя гады другой паловы XIII – першай чвэрці XIV ст. Наваградак заслужыў павагу і прызнанне з боку вярхоўнай улады ВКЛ, што ў далейшым аказала станоўчы ўплыў на статус горада.

У перыяд княжання Гедыміна (1316–1341 гг.) Наваградак перайшоў у валоданне ягонага сына Карыята (хрысціянскае імя – Міхаіл). М. Ермаловіч са спасылкай на Тэадора Нарбута прывёў факт каранацыі Карыята ў 1329 г. ў якасці наваградскага князя, аднак гэты факт вельмі сумніўны, паколькі сумніўнай была навуковая карэктнасць Т. Нарбута, што неаднаразова адзначалі даследчыкі гістарыяграфіі[10].

Па меркаванні Г. Сагановіча, Гедымін разглядаў дзяржаву ў якасці патрымоніуму – спадчыннага ўладання свайго роду. Аднак характэрна тое, што вялікі князь раздаваў землі відавочна з тым разлікам, каб большасць сыноў мелі ўдзелы ў так званай гістарычнай Літве, якая склала першапачатковае ядро дзяржавы і ахоплівала балтаславянскае Верхняе і Сярэдняе Панямонне. Увогуле статус гэтай тэрыторыі ў ВКЛ быў адметным ад іншых зямель. Г. Сагановіч, які абапіраўся на прызнаны навуковы аўтарытэт М. Любаўскага, тлумачыць гэтую адметнасць тым, што дадзеныя землі былі вотчынай Літоўскіх гаспадароў, для якой былі характэрныя адносна высокая ступень цэнтралізацыі і, адпаведна, адсутнасць аўтаноміі, уласцівай другім тэрыторыям дзяржавы[11]. Не трэба толькі бачыць тут прыкметы нейкай дыскрымінацыі. Наадварот, асаблівая ўвага вялікіх князёў да гэтага рэгіёна сведчыць аб ягоным пачэсным статусе. З пэўнымі агаворкамі можна сцвярджаць, што Верхняе і Сярэдняе Панямонне адыгрывала ролю вялікакняскага дамену накшталт той, якую адыгрываў Іль-дэ-Франс у Францыі.

Такім чынам, факт атрымання Карыятам Наваградка сведчыць пра захаванне горадам свайго значэння ў дзяржаве. Яно захоўвалася і тады, калі род Карыятавічаў змізарнеў. На думку В. Насевіча, верагодным з'яўляецца княжанне ў Наваградку Война – сына Кейстута Гедымінавіча. А Ю. Бохан адзначае, што паводле граматы вялікага князя Казіміра, выдадзенай у 1444 г., Наваградак быў уключаны ў лік 15 лепшых гарадоў ВКЛ[12]. Праўда, ён жа на наступнай старонцы інфармуе чытача аб тым, што да канца XVI ст. гэты населены пункт трапіў у разрад сярэдніх гарадоў (маецца на ўвазе перш за ўсё дэмаграфічны фактар у спалучэнні з эканамічным).

Яшчэ адзін аргумент на карысць тэзіса аб прыкметнай ролі Наваградка ў складзе ВКЛ прыводзіць Г. Галенчанка. Асвятляючы пытанне аб утварэнні ў першай чвэрці XIV ст. Літоўскай праваслаўнай мітраполіі, гісторык даволі пераканаўча тлумачыць, чаму менавіта Наваградак стаў цэнтрам новай на той час і даволі буйной царкоўнатэрытарыяльнай адзінкі. "Кафедра Літоўскай мітраполіі дзейнічала ў Наваградку, вядомым царкоўнымі традыцыямі, праваслаўнымі храмамі, мноствам вернікаў. Лепшае месца адшукаць было цяжка. Разам з Гародняй Наваградак заставаўся важным палітычным, абарончым, гандлёвым і вытворчым цэнтрам, ахоўваў шляхі з Вільні на поўдзень, аж да Візантыі," – адзначае навуковец[13].

Ад сябе дадамо, што размяшчэнне праваслаўнага цэнтра ў Наваградку, мабыць, адпавядала інтарэсам вялікіх князёў Літоўскіх, нягледзячы на тое, што яны былі язычнікамі. Справа ў тым, што на ўладу над прылеглай да Наваградскай зямлі Тураўскай епархіяй прэтэндавалі галіцка-валынскія князі, якія ў 1330-х гг. дамагліся аднаўлення мітраполіі

[10] *Ермаловіч М.* Беларуская дзяржава Вялікае княства Літоўскае. С. 16; *Карев Д.В.* Белорусская и украинская историография конца XVIII – начала 20-х гг. XX в. в процессе генезиса и развития национального исторического сознания белорусов и украинцев. Вильнюс, 2007. С. 155–157.
[11] *Сагановіч Г.* Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. Мн, 2001. С. 67, 121–123.
[12] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага княства Літоўскага. С. 85, 332–333.
[13] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага княства Літоўскага. С. 201.

на сваіх землях. У такіх умовах Наваградак павінен быў стаць прыцягальным цэнтрам для праваслаўных беларускага Палесся – больш прыцягальным, чым прыкарпацкая мітраполія.

Пакуль што маладаследаванай застаецца роля Наваградка ў этнаўтваральных працэсах. Паводле канцэпцыі этнолага М. Пiлiпенкi якраз ў Наваградскiм рэгiёне ў перыяд iснавання ВКЛ стварылiся спрыяльныя ўмовы для кансалiдацыi двух субэтнасаў: паўночна-ўсходняга (“беларусцаў”) i паўднёва-заходняга (“палешукоў”) – у адносна адзiную беларускую народнасць[14]. Калi з’явяцца новыя аргументы на карысць дадзенай канцэпцыi, гэта таксама будзе сведчыць, няхай сабе i ўскосна, аб значнасцi Наваградка ў складзе ВКЛ.

Новы этап у развiццi Наваградка звязаны з утварэннем у 1507 г. Наваградскага ваяводства i наданнем у 1511 г. магдэбургскага права гораду. На жаль, гэтыя падзеi, а таксама iх наступствы, у недастатковай ступенi прааналiзаваны ў сучаснай беларускай гiстарычнай навуцы. Як правiла, гiсторыкi абмяжоўваюцца канстатацыяй фактаў i каментарыямi агульнага характару. Напэўна, стварэнне гiсторыi асобных ваяводстваў – справа будучынi. У дадзеным кантэксце даволi цiкава будзе знайсцi адказ на пытанне аб вельмi незвычайнай канфiгурацыi Наваградскага ваяводства. Сапраўды, ваяводскi цэнтр i прылеглая да яго акруга знаходзiлiся на перыферыi ваяводства. Такая ж сiтуацыя была характэрная для горада як павятовага цэнтра. Сярод розных аспектаў гэтага пытання можна прааналiзаваць ступень эфектыўнасцi кiравання.

На наш погляд, цiкавым сюжэтам, звязаным з гiсторыяй Наваградскага ваяводства мог бы стаць сюжэт “Гаштольды i Наваградак”, паколькi прадстаўнiкi гэтага славутага роду ў першай палове XVI ст. былi мясцовымi ваяводамi. Часткова гэтае пытанне разгледжана М. Улашчыкам, якi сярод iншых пытанняў прааналiзаваў так званую легенду пра паходжанне лiтоўскага набiлiтэту (“легенду пра Палямона”) i звязаў яе распаўсюджванне з iнтарэсамi рода Гаштольдаў[15]. Аднак пажадана было б прааналiзаваць рэальны ўклад славутага магнацкага роду ў гiсторыю горада. Мiж ншым, гэты сюжэт таксама можа быць звязаны з праблемай вызначэння статусу Наваградка. Як вядома гiсторыкам, вынiкi перапiсу войска ВКЛ у 1528 г. засведчылi факт маёмаснага лiдэрства Альбрэхта Гаштольда па колькасцi коннiкаў, якiх феадалы выстаўлялi “з павiннасцi”[16]. Вытворным ад багацця быў палiтычны ўплыў. У святле гэтага бачыцца невыпадковым факт прызначэння Гаштольдаў ваяводамi ў Наваградак. Вiдаць, прэстыжнай была пасада кiраўнiка Наваградскага ваяводства.

У параўнаннi з iншымi беларускiмi гарадамi, якiя мелi статус ваяводскiх цэнтраў, Наваградак атрымаў магдэбургскае права пазней за Берасце, Полацк, Менск, але раней за Вiцебск i Мсцiслаўль. Наўрад цi трэба ў гэтым выпадку настойваць на iснаванне нейкай заканамернасцi, тым больш, што наданне магдэбургii Полацку (у 1498 г.) i Менску (у 1499 г.) адбылося не на шмат гадоў раней, аднак пэўнае меркаванне з гэтай нагоды выказаць можна. Як ужо было адзначана Ю. Бохaнам, на працягу другой паловы XV ст. i ўсяго XVI ст. адбылося знiжэнне дэмаграфiчнага патэнцыялу Наваградка ў параўнаннi з такiмi гарадамi, як, напрыклад Пiнск i Магiлёў. Пры гэтым даследчык слушна зазначае, што “на практыцы, аднак, абсалютныя колькасныя памеры таго цi iншага горада Вялiкага Княства маглi не супадаць з яго рэальнай значнасцю”[17]. I з гэтым варта пагадзiцца. У перыяд iснавання Рэчы Паспалiтай у адносiнах да “места Наваградскага” выявiлася наступная тэндэнцыя: горад, саступаючы шмат якiм iншым па эканамiчных паказчыках, захоўваў, тым не менш, становiшча адмiнiстрацыйнага цэнтра, а з 1581 г. ён займеў яшчэ i значэнне судовага цэнтра (разам з Вiльняй i Менскам), паколькi ў iм час ад часу адбывалiся пасяджэннi ўтворанага ў тым годзе Галоўнага трыбунала ВКЛ.

Што да замаруджвання тэмпаў эканамiчнага росту Наваградка ў параўнаннi з iншымi гарадамi, то гэты тэзiс пацвярджаецца сiстэматызаванай гiсторыкамi i рэпрэзентаванай у картаграфiчнай форме iнфармацыяй аб структуры вытворчасцi, перш за

[14] *Пилипенко М.Ф.* Возникновение Белоруссии. Новая концепция. Мн., 1991. С. 72–90.
[15] *Улащик Н.Н.* Введение в изучение белорусско-литовского летописания. М., 1985.
[16] Гiсторыя Беларусi: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялiкага княства Лiтоўскага. С. 262–264.
[17] Гiсторыя Беларусi: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялiкага княства Лiтоўскага. С. 333.

ўсё, рамяства на тэрыторыі Беларусі ў XVI ст.[18] У гэты перыяд Навагрудак з'яўляўся цэнтрам вытворчасці кафлі. Зразумела, ў горадзе працавалі і прадстаўнікі іншых рамесных прафесій, аднак іх дзейнасць мела ў большай ступені лакальны характар. Для параўнання: Пінск спецыялізаваўся на вытворчасці кафлі, зброі і вырабаў з жалеза, Нясвіж – таксама на вытворчасці кафлі і зброі, а ў дадатак – на ліцейнай, дрэваапрацоўчай, папяровай і будаўнічай вытворчасці. Такім чынам, для Навагрудка не была характэрная шматгаліновая спецыялізацыя рамяства.

Аднак даволі сціплыя эканамічныя поспехі Навагрудка ў параўнанні з іншымі гарадамі не перашкаджалі працягвацца традыцыі, якая падкрэслівала ягоны пачэсны статус у дзяржаве – цяпер ужо ў "дзяржаве абодвух народаў" – Рэчы Паспалітай. У пэўным сэнсе можна сцвярджаць, што традыцыя "працавала на горад". Гэта выявілася і ў выпадку са стварэннем ужо згаданага вышэй Галоўнага трыбунала ВКЛ. У сучаснай гістарыяграфіі адзначаецца важнасць дадзенай акцыі, паколькі са стварэннем гэтага органа завяршылася фарміраванне сістэмы вышэйшай улады ў дзяржаве[19]. Улічваючы, якое вялікае значэнне мела ў ВКЛ юрыспрудэнцыя, можна выказаць меркаванне аб тым, што дзейнасць трыбунала калі не павышала, то пацвярджала высокі статус Навагрудка.

Дадзены статус быў стабільным фактычна на ўсім працягу існавання Рэчы Паспалітай. Горад не абмінулі ваенныя ліхалецці: вайна Расіі супраць Рэчы Паспалітай (1654 – 1667 гг.), Паўночная вайна (1700 – 1721 гг.). Войны ў спалучэнні з узброенымі канфліктамі магнацкіх родаў нанеслі непапраўны ўдар па беларускім мяшчанстве. Да таго ж магнатэрыя і шляхта ўчэпіста трымаліся за манаполію на ўладу і палітычную дзейнасць. Усё гэта спрычынілася да заняпаду беларускіх гарадоў, у тым ліку і Навагрудка. Гэты сумны факт знайшоў належнае адлюстраванне ў даследаваннях сучасных беларускіх гісторыкаў, у прыватнасці, У. Пашкевіча і Ю. Бохана[20].

Акрамя ўсяго іншага, разбурэнні і нястачы другой паловы XVII – першай чвэрці XVIII ст. прывялі да павелічэння адлегласці паміж фармальна-юрыдычным статусам Навагрудка і рэальным становішчам горада. Яно паступова пачало выпраўляцца ў другой палове XVIII ст. ў рэчышчы агульнага гаспадарчага ўздыму. У гэтай сітуацыі набыты раней аўтарытэт яшчэ раз спрацаваў на статус Навагрудка. Гаворка ідзе пра пастанову Варшаўскага сойму Рэчы Паспалітай, прынятую ў 1776 г. Паводле яе Навагрудак у ліку іншых значных гарадоў захоўваў за сабою магдэбургскае права, якога пазбаўляліся дробныя гарады і мястэчкі. Ю. Бохан тлумачыць гэты факт непаслядоўнасцю палітыкі вярхоўнай улады ў адносінах да гарадоў, якая выяўлялася ў своеасаблівым спалучэнні мерапрыемстваў па падтрымцы "местаў" з праявамі дыскрымінацыйнага стаўлення да іх[21].

У 1795 г. ў выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Наваградак быў далучаны да Расійскай імперыі, стаўшы там шараговым і даволі непрыкметным павятовым горадам. Ён прайшоў гістарычны шлях, чымсьці падобны на шлях такіх гарадоў, як ўжо згаданы Аахен, а таксама Равенна, Гнезна, Упсала, Таледа. Калісьці сталіцы магутных і славутых дзяржаў (як варыянт, рэзідэнцыі палітычных кіраўнікоў гэтых дзяржаў альбо проста вельмі значныя гарады ў сваіх краінах), яны паступова, па розных прычынах, страчвалі сваё значэнне і статус на карысць больш паспяховых пераемнікаў. Не стаў выключэннем з крыху сумнага правіла і Наваградак.

Аднак у гістарычнай свядомасці жыхароў Навагрудскай зямлі застаўся рамантычны вобраз мінуўшчыны, ахутанай легендамі. Гэты вобраз натхняў Адама Міцкевіча і яго паплечнікаў – філаматаў і філарэтаў. Ён знайшоў адлюстраванне як у мясцовай тапаніміцы (узгадаем пра Гару Міндоўга на паўночным усходзе сучаснага Навагрудка), так і ў мясцовых псеўдагістарычных міфах. Самы вядомы з іх і да нядаўняга часу вельмі распаўсюджаны – гэта міф пра шлюб Ягайлы з Ядвігай Польскай у Фарным касцёле Перамянення Панскага (на самой справе Ягайла там браў шлюб з Соф'яй Гальшанскай).

[18] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 2: Беларусь у перыяд Вялікага княства Літоўскага. Карта "Эканоміка Беларусі ў XVI ст."

[19] *Сагановіч Г.* Нарыс гісторыі Беларусі ад старажытнасці да канца XVIII стагоддзя. С. 208.

[20] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 3: Беларусь у часы Рэчы Паспалітай. Мн., 2004. С. 122–144, 188–190.

[21] Гісторыя Беларусі: У 6 т. Т. 3: Беларусь у часы Рэчы Паспалітай. Мн., 2004. С. 190.

Аб чым гэта сведчыць? Мабыць, аб жывой гістарычнай памяці пра былую веліч Новагародка. І цалкам зразумела, што гэтая памяць мае такія ж хібы, што і ў асобных людзей, паколькі не заўсёды адэкватна дапамагала ёй гістарычная навука.

Прыемна адзначыць, што у наш час дзякуючы як "акадэмічным гісторыкам", так і навагрудскім краязнаўцам – руплівым захавальнікам гістарычнай памяці – адбываюцца істотныя зрухі да лепшага. Найбольшы прагрэс, на нашу думку, дасягнуты у ходзе высвятлення пытання аб ролі Новагародка ва ўтварэнні ВКЛ, хаця гэтаму пытанню яшчэ доўга (ці не назаўжды?) наканавана заставацца дыскусійным з-за недахопу крыніц. Удакладнення патрабуе статус Наваградка ў XIV – XV ст., у прыватнасці, пытанне аб ступені самастойнасці у адносінах да вярхоўнага суверэна князёў, якія мелі ўдзелы на тэрыторыі гістарычнай Літвы – ядра дзяржавы. Большай увагі заслугоўвае гісторыя Наваградскага ваяводства і навагрудскай магдэбургіі (ізноў жа, пры умове наяўнасці рэпрэзентатыўных крыніц). Вельмі цікавай праблемай, хаця і нялёгкай для навуковага вырашэння, з'яўляецца праблема суадносін адмоўнага і станоўчага ў развіцці горада на працягу існавання Рэчы Паспалітай. Урэшце, высвятленню значэння Наваградка ў гісторыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай дапаможа распрацоўка тэмы пад умоўнай назвай "Вобраз Наваградка XIII – XVIII ст. у свядомасці людзей таго часу".

На шляху далейшага набыцця і паглыблення гістарычных ведаў навукоўцы павінны абапірацца на дасягненні сваіх папярэднікаў. Важкі ўклад у гістарыяграфічную скарбонку шносяць і сучасныя беларускія даследчыкі. Яны ўжо нямала зрабілі для вывучэння мінулага Навагрудка і, хочацца спадзявацца, зробяць яшчэ больш.

**Т. Наўмовіч (Навагрудок)**

# Міхась Наўмовіч – беларускі мастак і скульптар на эміграцыі

Вялікая беларуская дыяспара ў свеце стварыла шэраг навукова-культурных асяродкаў на нацыянальнай і духоўнай падставе, абапіраючыся на прынцыпы нацыянальнага самавызначэння, самабытнасці і патрыятызму, захавання беларускай мовы, нацыянальных традыцый і рэлігійнасці. Стваральнікі навукова культурных асяродкаў зьяўляюцца найбольш выдатныя прадстаўнікі інтэлігенцыі беларускага замежжа, у тым ліку мастакі і навукоўцы, якія імкнуцца захаваць і развіваць беларускую культуру ў іншамоўных асяродках.

“Эміграцыя” згодна тлумачальнага слоўніка абазначае перасяленне са сваей айчыны ў іншую краіну па эканамічных, палітычных, рэалігійных і іншых прычынах. Падзяляюць эміграцыю на запланаваную і вымушаную, палітычную і эканамічную. У любым выпадку, гэта крызіс выкліканы тым, што чалавек, вымушаны пакідаць месца, дзе нарадзіўся. Ён як дрэва, якое ўрасло глыбока сваімі каранямі ў зямлю і, калі яго вырываюць, каб перасадзіць у другое месца, яно пачынае сохнуць. Але гэта не заўседы так… Дрэва можа прыжыцца на новым месцы, пусціць гыбока свае карані. Так і чалавек – ён прыжываецца на новым месцы, але ўсе жыццё ён цесна звязаны ўспамінамі з роднай прыродай, зямлёй, з яе пахамі і колерамі… Ён – частка роднай зямлі, а яна частка яго.

З успамінаў Міхася Наўмовіча: (1939 год запомніўся яму вельмі добра). “ Памятаю, як у восень я быў у полі. У нізе – лагчынка, далей – яшчэ невялікія горкі на поўдзень. Раптам прыляцелі буслы. Іх было так шмат, больш, чым тысяча. Занялі цэлую горку, гэтыя чорна-белыя прыгажуны. Яны між сабой нібы гаварылі, гаварылі доўгі час, я слухаў іхную птушыную размову. Потым яны падняліся клінам: адна фармацыя, пасьля другая, трэцяя, чацвертая…Я глядзеў, як быццам хацеў запомніць на ўсе жыццё гэты цудоўны абраз, наш беларускі абраз. І потым, на чужыне, я часта бачыў яго перад вачыма. Шмат зьведаў я краёў, але такога абраза не бачыў у Еўропе ці ў свеце”.

У жыцці кожнага чалавека надыходзіць момант, калі ён непазбежна задумваецца над пытаннемі: як я жыў, што зрабіў добрага для Бацькаўшчыны, які след пакінуў у гісторыі, памяці людзей. Я думаю, такія думкі былі і ў Міхася Наўмовіча. Ён належыць да той часткі беларусаў, якая не згубілася ў чужамоўным свеце, працягвала беларускую справу, несла веды пра Беларусь іншым краінам і народам.

Нарадзіўся Міхась Наўмовіч у 1922 годзе ў весцы Кашалева Наваградскага раёна. Гэта частка Беларусі тады была пад Польшчай. Сям’я была сярэдняга дастатку, складалася з чатырох чалавек: бацька Іван, маці Ганна, Міхась, старэйшы брат Валодзя і сястра Соня. У бацькі Міхася Наўмовіча была дзялянка зямлі ў 5 гектараў, акрамя таго, ён быў бондарам, рабіў бочкі і прадаваў. Першапачатковае навучанне Міхась Наўмовіч атрымаў у весцы Кашалева. Усе дзеці тут былі беларусы, а вучыцца яны адразу павінны

былі па-польску. Вучыліся па-польску, а між сабой гаварылі па - беларуску. Пасля бацькі аддалі яго вучыцца ў Наваградак. Каля станцыі, у новай двухпавярховай школе, да сёмага класа вучыўся Міхась Наўмовіч. Настаўнік геаграфіі Орса прапанаваў бацькам абавязкова паслаць Міхася Наўмовіча ў гімназію. Хоць гэта выклікала матэрыяльныя цяжкасці, яны згадзіліся.

Пасля заканчэння сёмага класа, прыйшлі канікулы і Міхась пайшоў пехатой у Навагрудак здаваць агульны ўступны экзамен у гімназію. Для вучобы патрэбны былі немалыя грошы. Гімназія была дзяржаўная, але мусілі плаціць. Усе плацілі, толькі па-рознаму. Палякі плацілі значна меньш за беларусаў, а беларусам давалі стаўку поўную, 200 злотых на год, гэта раўнялася 100 дням працы работніка. Усё лета сям'я працавала, каб можна было заплаціць за вучобу.У школе было больш палякаў, чым беларусаў. Сяляне не маглі вучыць сваіх дзяцей, бо для іх вучоба была вельмі дарагая. З Кашалева ( мястэчка ў тысячу чалавек ) толькі адзін Міхась Наўмовіч стаў вучнем польскай гімназіі. З кнігі Барыса Рагулі “ Студэнцтва”: “У беларускай гімназіі я ведаў, што я беларус, а ў польскай я адчуваў сябе беларусам”.

Пасля прыходу Чырванай арміі, з гімназіі польскай зрабілі гімназію рускую , і ў 1939-40-м гадах Міхась Наўмовіч прадаўжаў там вучыцца, толькі ўжо на рускай мове. Размаўляць на якой ён так і не ўмеў. У школе выкладалі савецкія настаўнікі, але ўзровень стаў ніжэйшы.

Менавіта там і адбыўся першы канфлікт Міхася Наўмовіча з савецкай уладай. Ён не хацеў разумець і прызнаваць савецкую уладу. Так і праходзіла навучанне ў савецкай школе. У гэты час ён далучыўся да групы, якая малявала. Міхась Наўмовіч афармляў насценную школьную газету. Ён любіў маляваць, вучыўся ў прафесара па малюнку Рамашкевіча, які браў яго ў сваі вандроўкі па ваколіцах.

4 ліпеня 1941 года ў Навградак ўвайшлі немцы. Пачалася акупацыя, але навучане ў прадаўжалася. У Навагрудку, гебітс-камісар, немец, які любіў беларускую моладзь, любіў беларусаў, дазволіў адчыніць беларускую школу. Там былі курсы для будучых настаўнікаў.Пры гебітс- камісары за перакладчыка быў Барыс Рагуля, які шмат зрабіў добрага для беларушчыны і пэўным чынам уплываў на гебітс-камісара. Пасля заканчэння, ўсім выпускнікам былі выдадзены дыпломы з нямецкай свастыкай, што ў будучым, выклікала цяжкасці пры ўладкавнннні на працу.

Міхася Наўмовіча і іншых хлопцаў- выпускнікоў у 1944 годзе накіравалі ў Мінск, у арганізаваную афіцэрскую школу Краёвай абароны. аднак заняткаў яшчэ не было, як пачалося наступленне савецкай арміі. Пры адступленні хлопцаў-выпускнікоў немцы забралі з сабой. Адступалі праз Вільню. Шмат загінула хлопцаў падчас савецкай бамбардыроўкі Віленскай чыгуначнай станцыі. Пасля, па маршруту праз Вільню, Каўнас, Варшаву... Міхася Наумовіча і іншых курсантаў апранулі ў сіне-зяленую ўніформу і залічылі ў дывізію Зіглінга (ён быў зяцем Гімлера, міністра Гестапа).Ён хацеў сабраць з усёй Еўропы шмат хлопцаў( украінцаў, беларусаў, палякаў і іншых), з якіх хацеў стварыць штурмавую дэвізію. Гэты шлях ім дыктавалі немцы. Хто спрабаваў уцячы-растрэльвалі. Шмат хлопцаў, у тым ліку і Міхась Наўмовіч, вырашылі ўцячы ў лес. Ім пашанцавала… Мы абняліся, абрэзалі ўсе нямецкія арлы на ўніформе і заплакалі”- успамінае Міхась Наўмовіч. Менавіта з гэтай хвіліны і пачалося яго жыццё на эміграцыі.

Міхась Наўмовіч з хлопцамі 16-ці розных нацыянальнасцей апынуліся ў Безансоне. Іх агітавалі, каб яны вярнуліся ў Адэсу ў Савецкі Саюз, але ўсіх, хто быў у афіцэрскай школе ў Мінску, вывозілі ў Сібір на дзесяць гадоў адкуль мала хто вяртаўся.

Было яшчэ два выйсці: першае - французскія легіянеры ( “ За каго мне там біцца? Я ня бачыў, за каго я буду ваяваць у французскай арміі, каго буду бараніць далёка ад радзімы. Я мог бы бараніць Беларусь ад Саветаў, бараніць маіх бацькоў, маю зямлю, каб быў у Краёвай абароне, каб яна сапраўды сарганізавалася. Я тады біўся б. А тут? Не!”)

Другое выйсце - польскі корпус ген. Андэрса. Спачатку ён сумняваўся, але падумаўшы, зразумеў, што, фактычна, ёсць толькі гэтае выйсце.

Па дарозе ў Італію Міхась Наўмовіч захварэў, і апынуўся ў шпіталі. Вайна скончы-

лася. За ўсю вайну М.Наўмовіч не зрабіў ніводнага стрэлу, нікога не параніў і не забіў. І гэта яму на працягу ўсяго жыцця давала маральную сілу, што на ім няма граха.

Першае, што яго выратавала ў “чужым” свеце – гэта веданне французскай мовы. Трапіўшы ў Італію Міхасю Наўмовічу пашанцавала, ён стаў працаваць у палявым судзе семай дывізіі Андэрса ў Сан-Базіліо. Суд працаваў на польскай мове, а Міхась Наўмовіч рэгістраваў дакументы з жандармерыі для суда, і адначасова займаўся спортам. У гэтыж час ў Анконе аб’явілі конкурс на лепшую паштовую марку. Міхась Наўмовіч адаслаў чатыры праекты марак, прысвечаных змаганню супраць немцаў пад Монтэ-Касіно. За што яму далі чацвертую ўзнагароду.

У 1947 годзе, пасля дэмабілізацыі Наўмовіч пераехаў у Парыж. Там і пачалася яго мастацкая праца. Сустрэўшыся са знаёмым скульптарам( Венгельскі – паляк з Познаня), які, паглядзеўшы малюнкі, адразу запісаў яго ў Мастацкую акадэмію. Правучыўшыся пять гадоў Наўмовіч атрымаў 9 узнагарод Мастацкай акадэміі.

У школе ад прафесара скульптуры, кіраўніка майстэрні, атрымаў прапанову ўдзельнічаць у стварэнні помніка дзеду егіпецкага караля Фарука, але са зменай улады праца над помнікам была спынена. Скончыўшы факультэт скульптуры Нацыянальнай Вышэйшай Школы Мастацтваў у Парыжы, Міхась шмат працаваў. Быў пераможцам конкурсу на стварэнне статуі Сьвятой Жанны Д’арк. Міхась Наўмовіч зрабіў помнік на магілу кампазітара Міколы Равенскага, працу“ Вяселле ў Кане Галілейскай”. Ён выразаў у каменні больш за дзесяць работ.

Некаторы час Міхась Наўмовіч жыў у інтэрнаце для моладзі. Ён атрымліваў невялікую стыпендыю з Ватыкану, якую для яго і сяброў даставаў айцец Леў Гарошка. Гэта быў вельмі адукаваны чалавек, ведаў шмат моваў і вельмі любіў Беларусь. Разам з Міхасём Наўмовічам працавалі на беларускае Адраджэнне.

Наўмовіч, са сваім сябрам Філістовічам стварылі ў 1948 годзе “ Беларускую Незалежніцкую Арганізацыю Моладзі”, а таксама пачалі выпускаць часопіс “Моладзь”. З 1953 па 1955г Наўмовіч прадаўжаў выдаваць гэты часопіс сумесна з Львом Гарошкам, які таксама выпускаў яшчэ адзін часопіс для беларускай эміграцыі “Божым шляхам”.

Міхась Наўмовіч сутыкнуўся за мяжой са шматлікімі выпрабаваннямі. У першыя гады жыцця ў Францыі ён атрымаў дакументы на побыт, дзе было напісана, што ён беларус. Калі тэрмін дзеяння дакументаў скончыўся, чыноўнікі заявілі, што такой нацыянальнасці не існуе. Яму прапанавалі ўзяць польскую ,обо рускую нацыянальнасці. На што Наўмовіч адказаў: “ Ні адно, ні другое, я ёсць беларус і маю на тое дакумент”. І у гэтай справе яму дапамог айцец Гарошка. У 1977 годзе айцец Гарошка памёр. Гэта быў вялікі ўдар для Міхася Наўмовіча. Ён страціў не толькі вялікага беларускага патрыёта, але і сябра.

У 1956г. ажаніўся, узгадаваў чацвера дзяцей, шмат працаваў, пабудаваў сваімі рукамі дамы. Рабіў скульптуры для маста Аляксандра III і Новага Маста ў Парыжы.

Акрамя скульптуры, Міхась Наўмовіч выявіў вялікія здольнасці ў акварэлі. У гэтай галіне працаваў цікава і плённа. Як графік, у 50-60 гадах аформіў кнігі: « Спадчыну» Янкі Купалы, « Сымона Музыку» Якуба Коласа, « Матчын дар» Алеся Гаруна.

Аднак праца мастака не давала сродкаў для існавання. Па падказцы аднаго з прафесараў Акадэміі Мастацтваў пайшоў вучыцца ў школу фізіятэрапіі і атрымаў дыплом у 1955г., некалькі пазней здаў экзамены і атрымаў права выкладаць у школе фізіятэрапіі.

У 60-х гадах Міхась Наўмовіч быў кіраўніком арганізацыі “ Хрысціянскі сіндыкат работнікаў Францыі”.

З Беларусьсю Міхась Наўмовіч меў перапіску не адразу. Толькі ў 60-х гадах яго знаёмы ехаў у Маскву (дзе жыў стрыечны брат Наўмовіча) , і перадаў ліст, каб адаслалі да бацькоў на Беларусь. Родныя Міхася ўвесь час думалі, што ён загінуў. Маці некалькі дзён плакала і цалавала атрымаўшы гэты ліст.

Першы ліст, які Наўмовіч атрымаў ад бацькі быў падпісаны чужым імем “Янка” Родныя хваляваліся, каб у Міхася не узнікла непрыемнасцяў. У1966 годзе прыязджала

маці Наўмовіча ў Францыю. Міхась хацеў каб яна засталася пры яго дзецях, але маці не згадзілася. Некалькі разоў, яго наведалі і брат з сястрой, з дзецьмі. Прыязджаў і сам Міхась на сваю Бацькаўшчыну і яго дзеці.

Першае спатканне з Беларуссю адбылося ў 90-х гадах. Праз 49 гадоў ён паляцеў на спатканне з Радзімай, прайшоўся па дзіцячых сцежках у Кашалеве. Бацькоўскага дома ужо не было, але яго старэйшы брат Валодзя паставіў новы дом. Ён пабачыў Навагрудак, Навагрудскі замак. Наўмовіч убачыў, што руіны вельмі дрэнна трымаюцца. І ў яго нарадзілася мара ўтрымаць іх, каб яны не разваліліся. Потым у Парыжы, калі гаварыў пра аднаўленне старых будынкаў ён прасіў звярнуць увагу на Навагрудскі замак.

Наўмовіч прапанаваў, каб беларусам далі магчымасць прыязджаць на Беларусь, калі ім захочацца, без усялякіх запросаў і візаў, каб ім далі падвоенае грамадзянства. Бо ён з сябрамі не выехалі з Беларусі самастойна, а іх вымусілі акупанты: немцы і бальшавікі. “Мы ж беларусы, любім Беларусь і гэта наша натуральнае права”. Але каб прыехаць на сваю Бацькаўшчыну ён павінен мець запрашэнне і візу. Наўмовіч , як і многія іншыя, застаўся на чужыне, таму што ўлады не дазвалялі яму быць паўнапраўным беларусам. У яго было шмат планаў па супрацоўніцтву з беларускімі мастакамі, скульптарамі. «Я яшчэ маю вельмі шмат праектаў у жыцці, - гаварыў Наўмовіч, - хачу зрабіць некалькі скульптураў, намаляваць шмат акварэляў, напісаць і аформіць кнігу па анатоміі, якую выкладаю ў вышэйшых школах, бо кніжка вельмі патрэбная. Ці Бог дасць мне на ўсе магчымасьцяў?»

4 сакавіка 2004 года Міхась Наўмовіч памёр у Вальпэне, пад Парыжам.

Не гледзячы на тое , што амаль усё жыццё ён пражыў на эміграцыі, аднак галоўнага забараніць яму не змог ніколі і ніхто: усёй душой, усім сэрцам любіць сваю родную Беларусь. Адбітак гэта дало і на яго мастацкіх працах.

Міхась Наўмовіч належаў да той молодзі, якая не згубілася за межамі сваёй краіны паспрыяла захаванню лепшых якасцей нацыянальнага характару-дабрыні, памяркоўнасці,вернасці роднай мове, ( ведаючы англійскую, французскую, рускую, польскую) ён лічыў сваю ,беларускую мову, адной з прыгжэйшых, мілагучных еўрапейскіх моў і заўсёды карыстаўся ёй.

Нельга не заўважыць, што зроблена нашымі таленавітымі суайчыннікамі за мяжой-гэта агульначалавечы набытак, але , на жаль, яшчэ і сёння прыходзіцца пераконваць у тым, што існуюць агульначалавечыя каштоўнасці, якіх мы проста не маем права не прымаць.

**А. Самусік (Мінск)**

# Навагрудская акруговая школа ў сістэме дзяржаўнай адукацыі Рэчы Паспалітай у 1773 – 1795 гадах

Працэс станаўлення свецкай сістэмы адукацыі на беларускіх землях пачаўся ў апошняй трэці XVIII ст. Гэта было абумоўлена забаронай Ватыканам у 1773 г. ордэну езуітаў і ўтварэннем у Рэчы Паспалітай Адукацыйнай камісіі. Экс-езуіцкія калегіумы былі пераўтвораны ў ваяводскія і павятовыя вучылішчы (пазней перайменаваліся адпаведна ў акруговыя і падакруговыя школы), а іх вучэбныя праграмы карэнным чынам мадэрнізаваны і секулярызаваны. Зразумела, што сапраўдныя змены ў вучэбна-выхаваўчым працэсе адбываліся даволі марудна і занялі не адно дзесяцігоддзе. Асобныя ж этапы і асаблівасці гэтага складанага працэсу выдатна прасочваюцца на прыкладзе якраз Навагрудскай акруговай школы, якая займала адметнае месца ў тагачаснай сістэме асветы ВКЛ.

Як ужо было адзначана асновай для Навагрудскай акруговай школы стаў мясцовы езуіцкі калегіум, заснаванне якога сягае сваімі каранямі ў бурлівае XVII ст. У гэты час Навагрудчына ўяўляла сабою магутны бастыён пратэстантызму. У самім горадзе трывала ўмацаваліся арыяне, якія нават рэгулярна праводзілі тут уласныя Сіноды. У суседняй жа Любчы дзейнічала адна з буйнейшых у ВКЛ кальвінская друкарня. Першымі змагацца супраць Рэфармацыі ў рэгіёне паспрабавалі базыльяне, адкрыўшыя ў 1613 г. у Навагрудку школу "для шляхетскихъ и городскихъ детей". Аднак тутэйшыя кальвіністы адразу ж ажыццявілі "ряд крупных насилий" у дачыненні настаўнікаў, іх выхаванцаў, манастырскіх і школьных будынкаў. Пры чым, падсудак навагрудскага земскага суда славуты мемуарыст Ф. М. Еўлашоўскі адмовіўся нават разглядаць скаргу пацярпеўшых манахаў[1]. Зыходзячы з гэтага зварот увагі кіраўніцтва езуіцкага ордэну на дадзены рэгіён выглядаў цалкам не выпадкова. Пры чым, першапачаткова мясцовым пратэстантам супрацьстаялі нясвіжскія езуіты, якія нават дабіліся ад Жыгімонта III Вазы выгнання арыян з Навагрудка[2].

Асобная ж езуіцкая місія ў Навагрудку была заснавана ў 1626 г. на фундуш Е. Галаўні і Я. Машынскага (першы яе кіраўнік – Я. Разнавольскі). У 1631 г. яна атрымала статус рэзідэнцыі. Відавочна, што з прычыны рэлігійнага становішча ў рэгіёне на першым месцы ў тутэйшых езуітаў стаяла місіянерская дзейнасць – па іх ініцыятыве новыя місіі ордэна былі створаны ў Бурдыкаве, Варончы, Востраве, Гарадзішчы, Любчы, Мажэйках, Моладаве, Пачапаве, Слоніме і Шчорсах. Што ж датычыцца асветніцкай дзейнасці, то з-за захавання моцнага ўплыву пратэстантаў у Навагрудку езуіцкая школа тут была ад-

[1] Харлампович К. Западнорусския православные школы XVI и начала XVII века. Казань: Типо-литография Имп. Университета, 1898. С. 501.
[2] Подокшин С. А. Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы. Минск: Наука и техника, 1970. С. 93.

крыта толькі ў 1649-1650 нав г. па ініцыятыве кс. Градоўскага[3]. Гэта была пачатковая навучальная ўстанова з 1 настаўнікам (першым стаў А. Хаскі). Пасля “крывавага патопу” сярэдзіны XVII ст. яна аднавіла сваю працу толькі ў 1658-1659 нав. г. Спачатку ў ёй працавалі класы граматыкі і сінтаксіса, але ў 1666-1667 нав. г. пачаў дзейнічаць і клас паэтыкі. У сваю чаргу курс рыторыкі быў уведзены ў вучэбную праграму ў 1679-1680 нав. г. У гэтым жа годзе пачала сваю дзейнасць і музычная бурса[4].

Трэба адзначыць, што сапраўдны ўздым навагрудскіх езуітаў прыйшоўся на першую палову XVIII ст. У 1705 г. пры кляштары быў створаны канвікт для заможных выхаванцаў, а ў 1721 г. адкрыта першая ў горадзе аптэка. Нават крывавыя падзеі Паўночнай вайны не здолелі ўнесці істотныя перашкоды ў дзейнасць тутэйшай навучальнай установы. Нягледзячы на тое, што сам кляштар быў спалены, мясцовыя езуіты дамагліся ў 1714 г. узвышэння сваёй абіцелі да ўзроўня калегіума. Пры чым, акрамя 5-класнага аддзялення для свецкай моладзі тут была адразу ж адкрыта і дадатковая вышэйшая студыя няпоўнай філасофіі[5].

Выдатных поспехаў дамагліся мясцовыя езуіты і ў рэфармаванні вучэбна-выхаваўчага працэсу. У адрозненні ад іншых тагачасных айчынных калегіумаў тутэйшыя настаўнікі аднымі з першых зразумелі неабходнасць частковай мадэрнізацыі навучальнай праграмы ў адпаведнасці з патрабаваннямі эпохі Асветніцтва. Непасрэднай прычынай гэтага стала дзейнасць па суседству з імі шэрагу піярскіх школ (Ліда, Шчучын, Геранёны), якія ў гэты час паступова пачалі пераходзіць да выкладання прыродазнаўчых дысцыплін і патрыятычнага выхавання. У выніку, нават раней чым у Полацку ці Пінску, у Навагрудку ужо ў 1733-1734 нав. г. узамен філасофскай студыі пачалі дадаткова чытацца курсы па логіке і фізіке. У наступны годзе да іх дабавілася метафізіка, яшчэ праз год – матэматыка, этыка і грэчаская мова, а ў 1751-1752 нав. г. – гісторыя[6].

Не менш адметным быў і выкладчыцкі корпус Навагрудскага калегіума. Азначаныя вышэй курсы па фізіке, матэматыке, а таксама філасофіі і тэалогіі тут ажно да 1758 г. чытаў славуты айчынны філосаф і мясцовы выхаванец Б. Дабшэвіч. Пры чым, распрацаваны ім у Навагрудку цыкл лекцый “Погляды новых філосафаў” актыўна выкарыстоўваўся настаўнікамі і іншых езуіцкіх школ Рэчы Паспалітай. Шырока былі вядомы і навукова-даследчыя працы іншага мясцовага выкладчыка – яшчэ аднаго адметнага айчыннага філосафа С. Шадурскага, які працаваў прафесарам у Навагрудскім калегіуме ў 1759-1762 гг. – “Зачаткі разважанняў у розных дыялогах, а таксама практыкаванняў па логіцы, этыцы і метафізіцы” (1760), “Філасофскія азначэнні агульнай фізікі, выказаныя публічна аўтарам” (1761) і інш.[7]. Найбольш жа вядомым тутэйшым рэктарам стаў А. Скарульскі, які займаў гэтую пасаду ў 1760-1764 гг. і праславіўся ў якасці аўтара лепшага тагачаснага падручніка па філасофіі – “Каментарыі па філасофіі…” (1755). У далейшым, дарэчы, ён пэўны час кіраваў Віленскай езуіцкай акадэміяй (1772-1774), а пазней, ажно да ўласнай смерці, працаваў у ёй дэканам тэалагічнага факультэта (1774-1780)[8].

Зыходзячы з вышэй азначанага, зусім не дзіўна, што якраз Навагрудскі езуіцкі калегіум займаў у сяр. XVIII ст. сярод навучальных устаноў ордэна адно з першых месцаў па якасці адукацыі. Іншая справа, што з прычыны адносна невялікіх вучэбных памяшканняў ён заставаўся даволі элітарнай школай з колькасцю выхаванцаў каля 50 штогод. Дадзенае становішча спрабавалі выправіць удзячныя бацькі мясцовых выхаванцаў. Так, буйны фундуш на аднаўленне кляштара даў ваявода троцкі Б. Уняхоўскі і яго жонка Барбара (пасля смерці ваяводы выйшла замуж за падстолія літоўскага Міхала Патоцкага). У выніку гэтага, з 1752 г. школа размяшчалася ў мураваным будынку, каля якога праз 2 гады ўзвялі мураваны 3-нефавы касцёл (у 1815 г. пера-

---

[3] Zaleski S. Jezuici w Polsce. T. 4. Cz. 3. Krakow: Druk. W. Anczyca i Spolki, 1905. S. 1293.

[4] Блинова Т. Б. Иезуиты в Беларуси (Их роль в организации образования и просвещения). Гродно: ГрГУ, 2002. С. 69-70.

[5] Zaleski S. Jezuici w Polsce. T. 4. Cz. 3. S. 1295.

[6] Блинова Т. Б. Иезуиты в Беларуси (Их роль в организации образования и просвещения). С. 302-310.

[7] Мысліцелі і асветнікі Беларусі / склад. Г. А. Маслыка. Мінск: БелЭн, 1995. С. 205, 329.

[8] История Вильнюсского университета / А. Бацис, А. Бенджюс, Р. Жюгжда, В. Лазутка, А. Эндзинас; Под ред. С. Лазутки. Вильнюс: Мокслас, 1979. С. 351.

абсталяваны пад ратушу; разбураны ў гады Вялікай Айчыннай вайны)[9].

Як след усяго гэтага, у пачатку 1770-х гг. лічба выхаванцаў у школе перавысіла 100, а колькасць саміх езуітаў у Навагрудскім клаштары дасягнула 37, што ставіла яго на ганаровае 5 месца ў Беларусі (пасля Полацка, Пінска, Нясвіжа і Гродна). Пры чым, 5 тутэйшых манахаў мела званне прафесараў і займалася выключна выкладаннем[10]. Зараз, зразумела, ужо не магчыма адказаць на пытанне – ці здолеў бы тутэйшы калегіум узняцца яшчэ вышэй, бо була папы рымскага Клімента XIV "Dominus as Redemptor noster" ад 21 ліпеня 1773 г. увогуле перакрэсліла ўсю дзейнасць гэтага манаскага ордэна за папярэднія стагоддзі. Разам з тым, менавіта яго ліквідаванне і перадача рашэннем сейма Рэчы Паспалітай ад 14 кастрычніка 1773 г. усёй езуіцкай маёмасці ў ведзенне спецыяльна ўтворанай з гэтай нагоды Адукацыйнай камісіі, адкрыла перад былымі калегіумамі новыя перспектывы для ўнутранага ўдасканалення вучэбна-выхаваўчага працэсу. Ужо з 17 кастрычніка 1773 г. люстратары пачалі наведваць кожны экс-езуіцкі кляштар, што дазволіла шырока распаўсюдзіць адпаведныя пастановы сейма, растлумачыць рэктарам і настаўнікам сэнс запланаваных рэформ[11]. Дзеля гэтага таксама ў пачатку 1774 г. ва ўсе экс-езуіцкія школы па ініцыятыве Станіслава Аўгуста былі разасланы лісты з заклікам да манахаў не спыняць выкладанне, за што ім гарантавалася апека і ахова[12].

Відавочна, што першым імкненнем Адукацыйнай камісіі было жаданне не дапусціць разбурэння дасканала арганізаванай езуіцкай сістэмы асветы. Фактычна пэўны перыяд павінна было захоўвацца статус-кво ў школьнай справе – да таго часу пакуль новыя вучылішчныя ўлады самі не вызначацца ў выбары напрамкаў арганізацыі ў Рэчы Паспалітай свецкай мадэлі педагогікі. А варыянтаў далейшай эвалюцыі тутэйшых школ было шмат. Напрыклад, тыя ж базыльяне ў жніўні 1774 г. прасілі Адукацыйную камісію дазволіць ім заняць будынкі езуіцкіх кляштараў у Брэсце, Мінске, Навагрудку, Гродна і Пінске. За гэта яны абавязваліся трымаць тут вучылішчы для свецкай моладзі, а таксама за ўласны кошт адкрыць школы ў Вільні, Антопалі (Брэсцкае ваяводства), Чэрэі (Аршанскі павет), Ушачах (Полацкае ваяводства) і іншых месцах Рэчы Паспалітай, дзе дазволяць улады. Зразумела, што такі занадта радыкальны праект не знайшоў падтрымкі ў Варшаве (хадайніцтва базыльян было перадана А. Чартарыйскаму для магчымай рэалізацыі яго ў межах Украіны), але само яго з'яўленне сведчыла аб нестабільнасці становішча экс-езуіцкіх навучальных устаноў у тагачаснай Беларусі[13].

У поўнай меры гэта датычылася і Навагрудскай школы. Утвораная сеймам 29 красавіка 1774 г. Літоўская Размеркавальная камісія канфіскавала нерухомую маёмасць і капіталы тутэйшых езуітаў, узамен чаго вучылішчнаму кіраўніцтву было абяцана рэгулярнае фінансаванне з адукацыйнага фундуша ВКЛ[14]. Пры гэтым, сам будынак калегіума з усім вучэбным абсталяваннем і бібліятэкай застаўся замацаваны за навучальнай установай. Праблема з фінансаваннем, аднак, аказалася надзвычай балючай, бо грошай на належнае падтрыманне дзейнасці ўсіх школ аказалася яўна не дастаткова. Увесь школьны бюджэт ВКЛ быў вызначаны ў памеры 240 тыс. зл. Пры гэтым, першыя 42 тыс. зл. былі дасланы з Адукацыйнай камісіі у Вільню толькі ў верасні 1774 г.[15]. Такім чынам, настаўнікі ў тым жа Навагрудку фактычна знаходзіліся без аніякага знешняга фінансавання амаль год. Ды і пазней іх матэрыяльнае становішча істотна пагоршылася ў параўнанні з ранейшымі часамі. Скарачэнне сродкаў на ўтрыманне выкладчыцкага корпусу адбылося больш чым у два разы[16].

[9] Koscialkowski S. Z dziejow ofiarnosci na rzecz nauki i nauczania na Litwie // Nauka Polska: w 8 t. Warszawa: Wyd-wo M. Arcta, 1925. T. 5. S. 259.

[10] Блинова Т. Б. Иезуиты в Беларуси (Их роль в организации образования и просвещения). С. 326, 334-374.

[11] Ambroise J. Komisja Edukacji Narodowej w Polsce. (1773-1794). Wroclaw: Wyd-wo PAN, 1979. S. 21.

[12] Szybiak I. Nauczyciele szkol srednich Komisji Edukacji Narodowej. Wroclaw: Ossolineum, 1980. S. 29.

[13] Protokoly posiedzen Komisji Edukacji Narodowej / Oprac. M. Mitera-Dobrowolska. Wroclaw: Ossolineum, 1973. S. 30.

[14] Учебные заведения Литвы до присоединения ея к России // Журнал Министерства Народного Просвещения. 1862. №12. С. 310-312.

[15] Ustawodawstwo szkolne za czasow Komisji Edukacji Narodowej. Rozporzadzenia, ustawy pedagogiczne i organizacujne. Krakow: Wyd-wo M. Arcta, 1925. S. 9-11.

[16] Szybiak I. Szkolnictwo Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Ksiestwie Litewskim. Wroclaw: Wyd-wo PAN, 1973. S. 26-27.

Разам з тым, нягледзячы на ўсе азначаныя акалічнасці можна лічыць, што школе ў Навагрудку ўсё ж пашанцавала. Калі пры езуітах тып навучальнай установы найперш залежыў ад яе фінансавага становішча і таму буйныя калегіумы маглі часам знаходзіцца ў адносна невялікіх гарадах ды мястэчках (Пінск, Нясвіж), то вучылішчы часоў Адукацыйнай камісіі мелі цэнтралізаванае фінансаванне, а вызначальным для іх быў статус горада, у якім яны размяшчаліся. Менавіта таму падзел усіх экс-езуіцкіх школ на ваяводскія і павятовыя дазваляў Навагрудку юрыдычна замацаваць сваё першынства ў рэгіёне і прэтэндаваць на лідэрства ў адукацыйнай справе ўсёй цэнтральнай Беларусі. Апошняе, дарэчы, пацвердзіла і рашэнне сейма Рэчы Паспалітай ад 21 кастрычніка 1776 г., па якому ў тым ліку і ў Навагрудку пачала дзейнасць правінцыйная адукацыйная каса, сродкі ў якую паступалі непасрэдна ад Генеральнай Варшаўскай касы і ўжо з яе размяркоўваліся паміж навакольнымі павятовымі ды парафіяльнымі школамі[17].

Безумоўна, дадзенае рашэнне стабілізавала фінансавае становішча Навагрудскай ваяводскай школы, што і дазволіла мясцовым вучылішчным уладам распачаць сапраўдную рэарганізацыю вучэбнай праграмы. Пры гэтым, аднак, трэба адзначыць тое, што пэўны перыяд сувязь паміж айчыннымі навучальнымі ўстановамі і Адукацыйнай камісіяй не была як след наладжана. Дайшло нават да таго, што рэктар Навагрудскага вучылішча Ф. Сухадольскі быў вымушаны ў 1774 г. адправіць у Варшаву да падканцлера літоўскага І. Храптовіча (адказны за Беларускі дэпартамент) свайго прэфекта (намесніка па вучэбнай частцы), каб той асабіста ўзяў узоры новых школьных праграм. У той жа час у суседні Віленскі дэпартамент гэтыя дакументы не былі дасланы яшчэ і ў 1777 г.[18]. Пры гэтым, якраз прывезенае ў Навагрудак “Палажэнне аб школах ваяводскіх” стала адпраўным пунктам пры рэарганізацыі вучэбнага курса ў тутэйшым вучылішчы. Згодна яму агульны тэрмін навучання не змяніўся – 6 год (у езуіцкім калегіуме 5 клас быў 2-гадовы), але пералік вывучаемых прадметаў стаў якасна новым. Справаздачы аб педагагічнай дзейнасці, якія рэгулярна з Навагрудка ў Варшаву пачалі дасылацца з 1775 г. паказваюць, што схаластычная філасофія і латынь як асобныя курсы больш ужо не праходзіліся, затое шырока былі прадстаўлены дакладныя і прыродазнаўчыя навукі, а таксама айчынная гісторыя, геаграфія, літаратура і эканоміка. Асноўнай жа мовай навучання замест лацінскай стала польская[19].

Трэба таксама адзначыць, што рэктар Ф. Сухадольскі клапаціўся не толькі аб падкантрольнай яму навучальнай установе. Так, ён звярнуўся да караля Станіслава Аўгуста з просьбай узяць пад манаршую апеку тутэйшую аптэку (з дазволам настаўнікам карыстацца лекамі бясплатна). У 1774 г. асобным каралеўскім прывілеям гэтае хадайніцтва было задаволена “дзеля выгады усіх жыхароў ВКЛ”. Пры чым, дырэктарам, атрымаўшай статус гарамадскай гарадской аптэкі, стаў былы урач кн. Радзівілаў хірург Ф. Т. Эме[20].

Поспехі ў рэфармаванні навучальнага працэсу ў Навагрудскай ваяводскай школе былі прызнаны і самой Адукацыйнай камісіяй, якая менавіта яе лічыла вядучай у цэнтральнай Беларусі. Сваё пацверджанне гэта знайшло ў пачатку 1780-х гг. калі ў Варшаве распрацавалі праект дзялення ўсёй краіны на навучальныя акругі. Пэўныя праблемы ў ВКЛ узніклі са складам так званай “Рускай акругі”, у склад якой увайшлі навучальныя ўстановы Навагрудскага і Мінскага ваяводстваў. Нягледзячы на актыўныя пратэсты з Мінска менавіта Навагрудская ваяводская школа была рашэннем Адукацыйнай камісіі пастаўлена на яе чале. Пры чым, пад яе поўным кантролем апынуліся падакруговыя школы ў Мінске, Нясвіжы, Слуцку, Бабруйску, Мазыры, Халопенічах, а таксама базыльянскае вучылішча ў Беразвечы каля Глыбокага[21].

З улікам высокага статуса была істотна пашырана і вучэбная праграма школы ў Навагрудку: у большым аб’ёме пачалі праходзіць замежную і айчынную гісторыю, мараль, права, прыродазнаўства (батаніка, мінералогія); з’явіўся цыкл карысных для паўсядзённага жыцця прадметаў (агароднiцтва, земляробства, таксатарства); быў увед-

[17] Volumina legum: W 10 t. T. 8. Peterburg: Nakl. i druk. J. Ohryzko, 1860. S. 537-539.
[18] Szybiak I. Szkolnictwo Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Ksiestwie Litewskim. S. 69.
[19] Kot S. Adama Czartoryskiego i Ignacego Potockiego projekty urzadzenia wychowania publicznego // Epoka wielkiej reformy. Studia i materjaly do dziejow oswiaty w Polsce XVIII wieku. Lwow-Warszawa: “Ksiaznica Polska”, 1923. S. 217-226.
[20] Памяць. Навагрудскі раён. Мінск: Беларусь, 1996. С. 147.
[21] Krzeminski S. Kommissya Edukacyjna. Warszawa: Wyd-wo M. Arcta, 1908. S. 34.

зены шэраг новых дысцыплін – “суседская мова” (спачатку ў Навагрудку выкладалі нямецкую, а з 1788 г – французскую мову), “аб захаванні здароўя”, “гісторыя мастацтваў” і г. д. Трэба, пры гэтым, прызнаць тое, што само жыццё настаўнікаў пасля прыняцця Школьнага статута 1783 г. істотна палепшылася. Стварэнне ў Рэчы Паспалітай асобнага “акадэмічнага саслоўя” гарантавала ім юрыдычную абарону і высокі статус у грамадстве. Менавіта выкладчыкі адны з першых у Беларусі атрымалі права на гарантаваную дзяржавай пенсію пасля 20 год працы ў школе (1,6 тыс. зл. штогод)[22].

У гэты час Навагрудская акруговая 6-класная школа дасягнула свайго росквіту. Яе выкладчыцкі штат складаўся з рэктара (з канца 1770-х гг. гэту пасаду займаў М. Баўэр), прэфекта, 6 прафесараў і настаўніка замежнай мовы. Былы рэктар Ф. Сухадольскі хаця і выйшаў на пенсію, але застаўся жыць пры школе і згодна справаздачы візітатара Ф. Бенькоўскага (1782): “час, калі яму палягчае ад болей, абарачае на тлумачэнне мовы Цыцэрона, якой ён надзвычай гладка размаўляе”[23]. Увогуле ж, згодна меркаванню візітатараў школу ў Навагрудку можна было б прызнаць выдатным прыкладам для іншых навучальных устаноў ВКЛ, бо адпаведна іх запісам тут існавала “добрае кіраванне і ўзаемная гармонія”, а таксама “дастойная здзіўленню ў супольным жыцці згода і аднадумнасць, у навучанні жаданне і працавітасць”, вынікам чаго было тое, што “усе навукі з вялікай карысцю для вучняў чытаюцца”[24].

Сярод настаўнікаў найперш візітатары вызначалі прафесара фізікі А. Хінтца, які па іх словах “Не толькі да навучання адносіцца з надзвычайнай ахвотай і працавітасцю, але і ў тлумачэнні цяжкіх ды цёмных для вучняў рэчаў даходлівы. Чым вельмі вучням прывабны і цікавасць ім дадае. У час ад лекцый прызначаных вольны для цікавасці робіць некаторыя фізічныя выпрабаванні, зканструяваўшы для гэтага сабе некаторыя інструменты; таксама разам з вучнямі сабраў калекцыю мясцовых раслін і зрабіў іх апісанне, а для рэдкіх экзэмпляраў айчынных ды замежных заклаў плантацыю ў хатнім агародзе. У час жа канікул з карысцю займае вучняў вывучэннем калекцыі мінералаў, акамянеласцяў і ракавін, якую ён асабіста сабраў у час вандраванняў”. Спецыяльнай падзякай Адукацыйнай камісіі ў 1788 г. быў адзначаны і доктар філасофіі К. Плескі, які “на працягу 15 год з усёй стараннасцю і з карысцю для вучняў спрыяў справе асветніцтва моладзі”[25].

Пры гэтым, аднак, неабходна прызнаць, што распачатае ў Рэчы Паспалітай стварэнне свецкай мадэлі асветы з адначасовай адмовай ад састарэлых езуіцкіх лацінамоўных падручнікаў шмат якіх настаўнікаў паставіла ў вельмі цяжкае становішча. Так, адказны за першы клас доктар філасофіі І. Асіеўскі хаця і быў прызнаны “у навучанні руплівым і практыку маючым” меў істотныя праблемы ў засваенні новых методык выкладання. Згодна заўваге візітатара Д. Пільхоўскага (1786) ён “ужо да старасці схіляючыся, так прызвычаіўся да старой граматыкі, што зараз не можа зразумець сістэму і словы граматыкі элементарнай”. Разам з тым, ужо праз год, наступны візітатар Я. Эрдман з задавальненнем адзначыў, што І. Асіеўскі “ужо прывучыў сабе да граматыкі”, але, пры гэтым, усё ж “ранейшыя словы часта ўжывае, асабліва пры тлумачэнні тэкстаў”[26].

Разам з тым, падобныя “дробязі” не былі здольны ў цэлым спыніць працэс мадэрнізацыі айчыннай сістэма асветы. Пры чым, лепшым сведчаннем гэтых змен стала актыўная грамадская пазіцыя настаўнікаў, якія пачалі куды больш клапаціцца аб дабрабыце ўласнай школы і якасці навучання. Адмова ад манаскага жыцця, узрастанне патрыятычных настрояў і рэгулярнае атрыманне зарплаты – вось тыя фактары, што далі штуршок рэальным зменам у адносінах тагачасных настаўнікаў да сваёй працы. Найбольш яскравай іх праявай у паўсядзённым жыцці стала мецэнацкая справа. Рэктар М. Баўер набыў за свой кошт (1 тыс. зл.) калекцыю мінералаў і ракавін. У сваю чаргу, прафесар красамоўства В. Радкевіч таксама за ўласныя грошы купіў вялікую бібліятэку і прызвычаіў вучняў,

[22] Самусик А. Ф. “Академическое сословие” как профессиональная организация преподавателей учебных заведений Беларуси последней четверти XVIII – начала XIX веков // Труд. Профсоюзы. Общество. 2006. № 4. С. 116.

[23] Raporty generalnych wizytatorow szkol Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Ksiestwie Litewskim / Oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak. Wroclaw: Wyd-wo PAN, 1974. S. 20.

[24] Тамсама. S. 20, 123, 552.

[25] Тамсама. S. 203, 338.

[26] Raporty generalnych wizytatorow szkol Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Ksiestwie Litewskim. S. 203, 239.

а таксама некаторых гараджан да рэгулярнага чытання "добрых кніжак"[27]. Фізічныя ж інструменты ахвяравалі школе яе выкладчыкі А. Хінтц і А. Пастлет, але рашэннем Рады Віленскай Галоўнай школы ад 16 красавіка 1789 г. ім было вырашана вярнуць грошы з адукацыйнага фундуша[28]. Сярод абавязкаў кіраўніцтва школы было і распаўсюджванне народнай асветы. Пад яго пільным кантролем у тым жа Навагрудку была створана 2 новых пачатковых навучальных установы. Першай з іх стаў адкрыты ў 1783 г. прыватны пансіён (канвікт) француза Даэха, а другой – парафіяльная школа, якая была заснавана пры фарным касцёле ў пачатку 1790-х гг. (праіснавала да 1805 г.)[29].

Заставаліся школы і месцамі распаўсюджвання хрысціянскай веры. У лік выкладчыцкага корпуса быў уключаны прапаведнік, сярод абавязкаў якога было правядзенне штодзённа ў 7 гадзін раніцы мшы для выхаванцаў і настаўнікаў, а таксама далучэнне іх да "камуніі і св. сакраментаў" раз у месяц. Таксама святар слухаў споведзі вучняў, наведваў хворых, маліўся за асоб, ахвяраваўшых грошы на карысць асветы. У Навагрудскай акруговай школе ўвесь час яе існавання гэтую пасаду займаў М. Шуміла, які на думку візітатараў "так старанна і пільна свае абавязкі выконвае, што можа служыць прыкладам для іншых святароў". Пры гэтым, ва ўласных пропаведзях ён улічваў узрост і сацыяльнае становішча вучнёўскай моладзі, што было карысна і для прысутнічаючых на мшы гараджан, якія выказвалі яму "ўсеагульную пашану"[30].

Таксама настаўнікі Навагрудскай школы лічылі сабе адказнымі за навуковае вывучэнне краю, якое яны спалучылі з працэсам удасканалення выхаванцамі ведаў па практычнай геаметрыі, эксперыментальнай фізіке і натуральнай гісторыі. Да таго ж, рэгулярныя навуковыя "вандроўкі" за горад паспрыялі стварэнню школьнага музея з чучаламі мясцовых жывёл (24 звяроў і 100 птушак), а таксама калекцыі насякомых (ініцыятар А. Пастлет)[31]. Цалкам верагодна, пры гэтым, што мясцовыя вучні прынялі непасрэдны ўдзел і ў экспедыцыі, арганізаванай рэктарам Гродзенскай медыцынскай акадэміі Ж. Жыліберам, які разам са сваімі студэнтамі збіраў матэрыялы для ўласнай "Флоры Літвы" у тым ліку і ў наваколлі Навагрудка ды Шчорсаў[32]. Дарэчы, падобыя "вясёлыя забавы", а таксама разнастайныя гульні з мячом ды вайсковыя практыкаванні, згодна заўвагам візітатараў, сталі адной з асноўных прычын таго, што з года ў год "здароўе вельмі добра служыла вучням" і толькі 1789 г. адзін юнак памёр ад гарачкі[33].

Усе азначаныя фактары не маглі не знайсці водгук з боку мясцовага насельніцтва. Вынікам гэтага стала параўнальна высокая лічба тутэйшых выхаванцаў – у 1782 г. у Навагрудскай школе вучылася 142 юнака, у 1783 г. – 160, у 1786 г. – 131, 1787 – 130, 1788 – 140, 1789 – 151, 1792 – 156. У 1789 г. візітатар Я. Эрдман сярод лепшых выхаванцаў назваў прадстаўнікоў вядомых айчынных радоў – Францішка Рушчыца, Антонія Храптовіча, Ігнацfolia Чачота (у 1792 г. удастоены залатога медаля Адукацыйнай камісіі за выдатныя поспехі ў вучобе), Яна Булгака, Тэадора і Йозэфа Дамейкаў, Вінцэнта Сапліцу, Антонія Абуховіча, Антонія Вайніловіча, Мікалая Міцкевіча і інш.[34].

На вялікі жаль, бесклапотнае жыццё Навагрудскай школы (як і ўсей айчыннай сістэмы адукацыі) працягвалася не так уж і доўга. Бурлівыя палітычныя падзеі ніяк не маглі абыйсці і яе. Сведчаннем гэтага зноў-так стаў рапарт чарговага візітатара – А. Абрантальскага, які пасля агляду 2-4 чэрвеня 1792 г. Навагрудскай школы запісаў наступнае: "Застаў рэктара і прафесараў у замяшанні і вялікім страху ад пагрозы нападзення непрыяцельскіх Расійчыкаў, якія ўжо у край наш увайшлі і скіраваліся ў глыб Літвы"[35].

[27] Raporty generalnych wizytatorow szkol Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Ksiestwie Litewskim.. S. 239-251, 338.
[28] Instrukcje dla wizytatorow generalnych szkol Komisji Edukacji Narodowej. 1774-1794 / Oprac. K. Bartnicka, I. Szybiak. – Wroclaw: Wyd-wo PAN, 1976. S. 187.
[29] Ambros M. Zarys statystyczny szkół wydziału Wileńskiego // Ateneum Wileńskie. 1939. R. XIV. Z. 1. S. 186.
[30] Raporty generalnych wizytatorow szkol Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Ksiestwie Litewskim. S. 238, 396, 552.
[31] Ambroise J. Komisja Edukacji Narodowej w Polsce. S. 132.
[32] Орловский Е. Очерк истории города Гродны, составленный на основании печатных источников. Гродна: Тип. Губернского правления, 1889. С. 50.
[33] Raporty generalnych wizytatorow szkol Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Ksiestwie Litewskim. S. 239, 338, 397.
[34] Тамсама. S. 20, 123, 202, 238, 336, 394, 396-397, 552-553.
[35] Тамсама. S. 552.

І трэба прызнаць, што іх апасенні ў нейкім плане былі апраўданы, бо пасля падзелаў Рэчы Паспалітай новая расійская адміністрацыя не пажадала клапаціцца аб тутэйшых дзяржаўных школах, а проста ў жніўні 1797 г. перадала іх у ведзенне розных манаскіх ордэнаў. Навагрудская акруговая школа трапіла пад кантроль дамініканцаў, якія звольнілі ўсіх яе супрацоўнікаў і фактычна занава пачалі працэс стварэння ў горадзе сярэдняй навучальнай установы – яе прэфектам стаў 30-гадовы Л. Главіцкі (скончыў Віленскі універсітэт), а астатнія, набраныя з манахаў, настаўнікі мелі толькі сярэднюю адукацыю і ўзрост ад 21 да 25 год[36]. Нягледзячы, аднак, на гэта нельга сцвярджаць, што назапашаныя Навагрудскай акруговай школай педагагічныя традыцыі былі цалкам забыты. Новаму вучылішчу ў спадчыну дасталася бібліятэка і вучэбнае абсталяванне. Ацалела тут і ранейшае імкненне да максімальнай эфектыўнасці ў арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу. І, напэўна, не так уж і дзіўна, што менавіта Навагрудскую школу ў першай трэці XIX ст. скончылі такія выдатныя айчынныя літаратары як Адам Міцкевіч, Ян Чачот і Уладзіслаў Сыракомля.

[36] Сборник материалов для истории просвещения в России: в 4 т. / Под ред. И. П. Корнилова. Т. 1. СПб.: Тип. П. П. Сойкина, 1893. Ст. 233-236.

**В. Чамярыцкі (Мінск)**

# Навагрудскі летапіс 1759 года

Не шмат ёсць у Беларусі гарадоў, якія могуць зраўняцца з Наваградкам-Навагрудкам па багацці сваёй тысячагадовай мінуўшчыны, па такой выдатнай ролі ў гісторыі нашай краіны. Славен ён і знакамітымі людзьмі, лёс якіх быў цесна з ім звязаны. Можна меркаваць, што старажытны Наваградак калісьці меў і сваіх гісторыкаў-летапісцаў, якія зразумелі значнасць і важнасць тых гістарычных падзей, што адбываліся ў краі на працягу стагоддзяў і памяць пра якія неабходна было захаваць для нашчадкаў. На жаль, рэальных слядоў даўніх наваградскіх летапісаў не захавалася і мы не маем пра іх нават прыблізнага ўяўлення. Аднак дакладна вядома, што ў XVIII ст. быў укладзены апошні наваградскі летапіс, які быў нават надрукаваны і цалкам дайшоў да нашага часу. Маю на ўвазе гісторыю Наваградка, напісаную на лацінскай мове і выдадзеную ў 1759 г. у Львове пры непасрэднай падтрымцы тагачаснага наваградскага ваяводы Юзафа ЯблаPоўскага[1].

Разгорнуты загаловак гэтай кнігі, што змешчаны на яе тытульным лісце, выкладзены ў стылі таго часу і гучыць так:

Наваградак, некалі сталіца князёў наваградскіх, а цяпер цэнтр Наваградскага ваяводства ў буйнейшым калісьці ў Літве княстве, паводле гістарычных дакументаў апісаны ў дзесяці раздзелах, дапоўнены і ілюстраваны не толькі славутымі здзяйсненнямі наваградскіх князёў і ваяводаў і генеалогіямі выдатных князёў Русі, Літвы, Наваградчыны, але таксама крытычнымі заўвагамі і філалагічнымі каментарыямі С[вяшчэннай] Р[ымскай] і[мперыі] князя Юзафа Аляксандра Ябланоўскага, з прускіх князёў, ваяводы Наваградскага, захавальніка і абаронцы прыгожага пісьменства.

Самому тэксту працы прадпаслана панегірычная прадмова, звернутая да ваяводы і падпісана Юзафам Пазоўскім. Яна напісана рытарычным стылем з выкарыстаннем прыкладаў з рымскай гісторыі і літаратуры, прыёмаў і сродкаў антычнага красамоўства. Аўтар высока ацэньвае літаратурны талент ваяводы, яго энцыклапедычныя веды, называе яго “акіянам вучонасці”. Асабліва адзначае яго горадабудаўнічую дзейнасць у Навагрудку, якога “ваявода ЯблаPоўскі знайшоў драўляным, пакіне ж нашчадкам аздобленым цэглаю з усіх бакоў”.

Наваградскім ваяводам Юзаф Ябланоўскі стаў у 1755 г. Гэтай высокай пасады ён дамогся цаною настойлівых намаганняў і вялікіх выдаткаў, а таксама дзякуючы таму, што яго жонкай была родная сястра самага магутнага з тагачасных магнатаў Вялікага княства Літоўскага Міхала Радзівіла Рыбанькі, ваяводы віленскага, вялікага гетмана. Дарэчы, прадстаўнікі гэтага славутага роду амаль цэлае паўстагоддзе да 1755 года займалі пасаду наваградскага ваяводы.

Нарадзіўся Юзаф Ябланоўскі ў 1711 годзе на Валыні ў заможнай шляхецкай сям’і польскага паходжання. Быў знакамітым мецэнатам, аматарам навук і кнігалюбам свайго часу. Сабраў багатую бібліятэку, яе частка (больш 5000 кніг на розных мовах) захоўваецца сёння ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Украіны. Сур’ёзна цікавіўся

[1] Унікальны экземпляр гэтага выдання захоўваецца сёння ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы ў Санкт-Пецярбургу.

рознымі навукамі, меў нават друкаваныя працы па гісторыі, геаграфіі, геральдыцы, генеалогіі. Падарожнічаў па краінах Заходняй Еўропы, асабліва часта бываў у Францыі, Італіі і Германіі. Наладзіў шырокія сувязі з дзяржаўнымі дзеячамі, палітыкамі, вучонымі розных краін, быў нават членам шэрагу замежных акадэмій. У 1768 годзе выехаў за мяжу, асеў у Лейпцыгу, дзе купіў палац, заснаваў навуковае таварыства і прэміі за навуковыя даследаванні, там і памёр у 1777 годзе. Пасада навагрудскага ваяводы за ім захоўвалася да 1773 года, калі яе заняў навагрудскі кашталян Юзаф Несялоўскі.

Юзаф Ябланоўскі вылучаўся вялікай амбіцыйнасцю, славалюбствам, любіў розныя званні, пасады, узнагароды, пахвалы. Дамогся нават тытула князя. Заняўшы пасаду навагрудскага ваяводы, ён не толькі ўкладваў сродкі ў адбудову горада і замка. Каб дадаткова ўвекавечыць сваё імя, Ю.Ябланоўскі падтрымаў ідэю напісаць нарыс па гісторыі Навагрудка, уважліва прачытаў рукапіс, унёс каштоўныя дапаўненні і паклапаціўся пра яго выданне.

Як сведчыць прадмова да кнігі пра Навагрудак, яе галоўны аўтар – Юзаф Пазоўскі (Пажоўскі). Крыніцы XIX ст. паведамляюць[2], што ён паходзіў з Варміі (Польшча), у сярэдзіне XVIII ст. выкладаў рыторыку ў Віленскай акадэміі, быў доктарам тэалогіі.

Асноўная частка нарыса “Навагрудак...” складаецца з дзесяці раздзелаў. У дадатку да асноўнага тэксту пра гісторыю гэтага горада змешчаны, напісаныя пераважна папольску, пахвалы: ваяводзе, гораду, Навагрудскаму ваяводству, роду Радзівілаў, жонцы Ю.Ябланоўскага Караліне, слова ў адказ самога ваяводы. Усяго кніга налічвае 225 старонак невялікага фармату, не лічачы тэксту прадмовы, які не пранумараваны.

Гісторыя Навагрудка пададзена ў нарысе ад старажытных часоў і да эпохі Вітаўта і заснавання Навагрудскага ваяводства. Яна выкладзена ў цеснай сувязі з гісторыяй Літоўска-Беларускай дзяржавы і пераважна паводле Хронікі М.Стрыйкоўскага, таму ўтрымлівае шмат гістарычна несапраўднага, бо гэты храніст пры апісанні падзей ранняга Сярэднявечча ў нашай краіне грунтаваўся галоўным чынам на легендарнай гісторыі Вялікага княства Літоўскага ад Палемона. Сустракаюцца таксама спасылкі на Я.Длугаша, М.Кромера, М.Мяхоўскага, В.Каяловіча і інш.

Выклад гісторыі горада перыяду Сярэднявечча вядзецца па княжаннях яго валадароў, легендарных і гістарычна сапраўдных, даволі сцісла і агульна. Адносна больш разгорнута, але таксама без гістарычных дэталяў і невядомых звестак, апісана палітычная гісторыя Навагрудка і Навагрудчыны XIV ст., ад князя Карыята і да Вітаўта (VIII раздзел). У цэлым жа паводле свайго зместу гэты выклад не вылучаецца асаблівай навізною ў параўнанні з М.Стрыйкоўскім, аднак змяшчае нямала каштоўнага і цікавага матэрыялу.

Так, аўтар кнігі лічыў, што Навагрудак існаваў ужо ў X стагоддзі і заснаваны быў славянамі, дулебамі, магчыма, яшчэ ў IX стагоддзі. Пэўны час, сцвярджаў ён, яго былі падпарадкавалі яцвягі, але ў 970 (!) годзе кіеўскі князь Уладзімір выгнаў іх, і горадам больш двухсот гадоў валодалі рускія князі. Сцвярджаецца таксама, што менавіта ў Навагрудку быў хрышчаны і каранаваны Міндоўг. Паведамляецца, што ў гэтым горадзе паводле язычніцкага абраду хавалі прах літоўскіх князёў, што каля Навагрудка ёсць дзевяць старажытных курганоў і ў адным з іх пахаваны Міндоўг.

У заключных раздзелах нарыса выкладаецца перадгісторыя Навагрудскага ваяводства і падаецца поўны спіс навагрудскіх ваяводаў за тры стагоддзі, ад сярэдзіны XV і да сярэдзіны XVIII стагоддзя, ад Пятра Мантыгірдавіча і да Юзафа Ябланоўскага ўключна. Ю.Пазоўскі называе ваяводамі і першых велікакняскіх намеснікаў Навагрудка. Усяго аўтар налічыў 30 навагрудскіх ваяводаў, а князёў – 24. Міндоўга, напрыклад, ён называе сёмым ад пачатку навагрудскім князем, апошнім жа – Вітаўта. Гісторыя Навагрудка больш позняга часу, XVI – першай паловы XVIII ст., не асвятляецца ў гэтай працы.

Каб аб’ектыўна ацаніць змест і крыніцазнаўчую вартасць гэтага гістарычнага нарыса, неабходна грунтоўна параўнаць яго тэкст з тымі пісьмовымі крыніцамі, якімі карыстаўся аўтар, што патрабуе вялікіх намаганняў і спецыяльных ведаў.

У цэлым жа кніга пра Навагрудак цікава і каштоўна і як помнік гістарыяграфіі

[2] Bieliński J. Uniwiersytet Wileński. T.III Kraków,1899-1900. S. 286.

Беларусі пераходнага перыяду, і як літаратурны твор XVIII стагоддзя, напісаны высокаадукаванымі людзьмі свайго часу, якія добра ведалі традыцыі антычнай рыторыкі і ўмела іх выкарыстоўвалі ў сваёй працы і літаратурнай творчасці. Пра гэта пераканаўча сведчаць, напрыклад, і ўжо згаданая прадмова да кнігі, і яшчэ больш разгорнутая, змешчаная ў дадатку другая панегірычная пахвала ваяводзе Юзафу Ябланоўскаму. Яна напісана па-польску і іншым аўтарам – Казімірам Галоўкам, русінам, выхадцам з Піншчыны, доктарам філасофіі, вучоным-энцыклапедыстам, які выкладаў тады ў Віленскай акадэміі граматыку, рыторыку, філасофію, гісторыю, быў таксама аўтарам падручніка па геаграфіі, выдаваў гістарычныя календары. Такім чынам, для ўдзелу ў стварэнні гэтай кнігі былі запрошаны знакамітыя для свайго часу асобы.

Паводле свайго стылю і агульнага характару літаратурна-мастацкая частка нарыса пра Наваградак адносіцца да пераходнага перыяду, эпохі ад позняга барока да новага часу, пачатку асветніцтва і класіцызму. Асноўная ж, гістарыяграфічная яго частка шмат у чым залежыць ад сваіх ранейшых крыніц, асабліва ад кампіляцыйнай Хронікі М.Стрыйкоўскага, твора позняга Адраджэння. Хоць паводле сваёй жанравай формы гэта і не традыцыйны летапіс, аднак паводле асаблівасцяў падыходу да гісторыі, спосаба выкладу падзей далёкага мінулага, некрытычнага выкарыстання пісьмовых крыніц гістарыяграфічная частка нарыса "Наваградак..." больш за ўсё нагадвае сярэднявечную хроніку.

Тым не менш, гэтая каштоўная, сапраўды ўнікальная кніга пра старажытны, тысячагадовы беларускі горад, з гісторыяй якога звязана шмат цікавых і слаўных старонак беларускай мінуўшчыны, безумоўна, заслугоўвае выдання ў перакладзе на беларускую мову. Гэта зробіць яе больш даступнай і навукоўцам і шырэйшаму колу чытачоў, а таксама будзе садзейнічаць усебаковаму даследаванню гэтага твора гісторыкамі і літаратуразнаўцамі.

**Л. Лаўрэш (Ліда)**

# Ксёндз Дзіянісій Хлявінскі, Філамат

Хлявінскі Дзіянісій (Chlewiński Dioniz) быў адзіным святаром сярод філаматаў.

Таварыства філаматаў заснавана ў 1817 годзе па ініцыятыве групы студэнтаў сярод якіх быў Адам Міцкевіч, Тамаш Зан і Ануфры Петрашкевіч, потым далучыліся Ян Чачот, Францішак Малеўскі, ксёндз Дзіянісій Хлявінскі і іншыя. Таварыства было створана дзеля навуковай і грамадскай працы, узаемадапамогі ў паглыбленні адукацыі, маральнага самаўдасканальвання.

Філаматаў было некалькі дзесяткаў чалавек. Для працы з вялікім кругам студэнтаў вясной 1820 года Тамаш Зан стварае таварыства філарэтаў – аматараў дабрадзейнасці. Таварыства філарэтаў налічвала больш за 200 сяброў, у тым ліку двух святароў. Таварыства філарэтаў узначальвалі філаматы. У 1822 годзе кіраўніцтва ўніверсітэта загадала распусціць таварыства філарэтаў. Інцыдэнт 3 траўня 1823 года ў Віленскай гімназіі, калі на дошцы мелам вучань напісаў „Віват Канстытуцыі 3-га Траўня !" прывёў да шырокамаштабнага расследавання і ліквідацыі студэнцкага руху[1].

У Імператарскім Віленскім універсітэце асобнага факультэта тэалогіі не было. І толькі на факультэце навук маральных і палітычных працавалі кафедры тэалогіі і кананічнага права. Таму будучыя святары навучаліся на гэтым факультэце і ў Галоўнай семінарыі пры ўніверсітэце. Трое навучэнцаў гэтага факультэта належалі да таемных таварыстваў. Ксёндз Дзіянісій Хлявінскі – філамат, а філарэтамі былі два піяры: ксяндзы Міхал Брадовіч і Юзэф Каласанты Львовіч.

Ксёндз Хлявінскі быў старэйшы за Міцкевіча і большасці астатніх сяброў таварыства. Ён нарадзіўся ў 1793 годзе. Духоўную семінарыю скончыў Вільні ў 1816 годзе і прыняў сан святара. Потым служыў ва ўніверсітэцкім касцёле і адначасова вывучаў права. Жыў пры касцёле Св. Яна. У чэрвені 1818 года напісаў працу на конкурс „Пра падаткі", і 31-га кастрычніка таго ж года быў прыняты сябрам – карэспандэнтам таварыства філаматаў. Дзейным сябрам таварыства стаў 16.03.1819 года, а 9-га траўня таго ж года на агульным паседжанні таварыства Тамаш Зан павіншаваў яго з гэтай нагоды. У таварыстве Хлявінскі займаўся рознымі арганізацыйнымі пытаннямі, быў памагатым бібліятэкара, а затым бібліятэкарам таварыства.

Ксёндз Хлявінскі скончыў універсітэт са ступенню магістра права. Ён не быў вядомым філаматам і інфармацыі аб ім не шмат. Але ён прымаў дзейны ўдзел у жыцці таварыства, чытаў лекцыі на навуковых пасяджэннях, браў удзел у дыскусіях, а пасля ад'езду Петрашкевіча стаў бібліятэкарам філаматаў і на асабістыя сродкі купляў кнігі, напрыклад „Слоўнік польскай мовы" ў 6-ці тамах. На яго кватэры нейкі час жылі Ян Чачот і Тамаш Зан. Неаднаразова ў яго кватэры праходзілі паседжанні таварыства, часам

[1] Філаматы і Філарэты. Мінск, 1998 г. С.7-24.

з каўбасой і мёдам. Ён разам з Томашам Занам і Янам Чачотам напісаў верш "Барацьба з мёдам" (Walka miodowa) на паэтычны паядынак які адбыўся імянінах Зана 21 снежня 1818 г.[2].

Памяць аб Хлявінскім засталася ў перапісцы філаматаў[3]. Так у лісце Францішка Малеўскага да Ануфрыя Петрашкевіча ад 19.11.1820г. напісана што інфармацыю аб бібліятэцы філаматаў можа даць ксёндз (Хлявінскі)[4]. Ян Чачот на імяніны Хлявінскага напісаў знакамітую песню „Ды пакіньце ж горлы драць" на беларускай мове[5]. У лісце да Міцкевіча ад 16 лістапада 1819 года Чачот пісаў: «Ой, мілыя нашы браты! І на вашай мове для нас склаўся вершык. Спявалі мы «Да пакіньце горла драць». Матыў маем для яе найцудоўны! Тамаш (Зан) з гэтай песняй не толькі ў нас, але і перад спевакамі ў пансіёне выстаўляўся. І здабыў сабе вялікую славу! Старыя былі яшчэ ў большым захапленні. «Ах, як цудоўна! От гэта, – казалі, – сапраўды народны спеў! А які цудоўны матыў! Што там вашы італьянскія ля, ля, ля... як неба ад зямлі!» ... Да імянін Дзіянісія я напісаў некалькі мужыцкіх песень, сярод якіх астатняя «Да пакіньце ж горла драць», найбольш прыйшлася даспадобы Тамашу; прыдумаў, як ведаеш, да яе матыў і гэтай песняй усюды, як цыган на кірмашы, хваліцца ..."[6]. А ў лісце да Міцкевіча ад 10.05.1820 г. Тамаш Зан піша аб філаматах: "Ян (Чачот) страшыць сваімі трывогамі. Міхал (Рукевіч) прапануе меры перасцярогі, наш ксяндзуля (Хлявінскі) дае эканамічныя распараджэнні і парады наконт абраднасці"[7].

Ксёндз Дзіянісій не быў ідэалам. Сябры таварыства мелі да яго прэтэнзіі. Напрыклад ён не заўжды ўдала, без дазволу таварыства, кантактаваў з іншымі людзьмі з прапановамі ад імя філаматаў. Няўдалай была прапанаваная ім кандыдатура для ўступа ў таварыства Шымкайлы[8].

Напрыканцы 1820 года Хлявінскі стаў пробашчам ў парафіі Стараельня пад Наваградкам, парафія была маленькай – усяго "40 дымоў"[9]. Аб жаданні ксяндза – філамата ўладкавацца ў Стараельню з гумарам піша Ян Чачот у лісце да Міцкевіча ад 14 снежня 1820 года: "Ксяндзуля паехаў на конкурс да панны Стараельні, тлустай і гожай пападдзі ...".[10]

Міцкевіч і іншыя філаматы былі незадаволены тым, што не атрымалася ўладкаваць бацьку Чачота на месца эканома плебаніі парафіі Стараельня. У лісце ад 28 сакавіка 1821 года Ф. Малеўскі піша Міцкевічу: "Ян (Чачот) вярнуўся з кантрактаў і піша сам да цябе, пэўна напіша і аб брыдкім учынку ксяндза (Хлявінскага) ..."[11] і 28 сакавіка Чачот піша Міцкевічу: "Разумееш, не кожны філамат трымаецца дадзенага слова ... каб ведаў, што ксёндз, па сканчэнні маіх кантрактаў 20 сакавіка ледзь у Наваградку паказаўся, здагадаўся бы што ... нічога не атрымаецца. Што за дзіўны, што за дзівосны ксёндз!"[12] У

2 Czubek Jan. Archiwum Filomatów. T.2. Kraków, 1922. S.1-33.

[3] Ziemia lidzka. Listopad, 1998 r., nr 6(34) // ks. Tadeusz Krahel. Ksiądz filomata. ks. Dionizy Chlewiński, dziekan i proboszcz lidzki. S.9-10.

[4] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 3. Kraków, 1913. S.36. (O kasie napisze ci Szerok, o bibliotece (NB w czerwonej, bejcowanej jak rydz szafie) ksiądz, *vicesagens* twój. Jeż, jak wiesz, w Szczorsach siedzi i zimę przesypia. Mamy nadzieję, że tłustszy powróci.)

[5] Гістарычная брама № 1 (18) 2001// Александр Ильин. Берестейские и свислочские страницы дела № 632

[6] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 1. Kraków, 1913. S.275-276.

[7] Філаматы і Філарэты. Мінск, 1998 г. С.225.

[8] Ziemia lidzka. Listopad, 1998 r., nr 6(34) // ks. Tadeusz Krahel. Ksiądz filomata. ks. Dionizy Chlewiński, dziekan i proboszcz lidzki. S.9-10.

[9] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 3. Kraków, 1913. S.193. (księdzicha dostał plebanią ową 40dymową)

[10] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 3. Kraków, 1913. S.61. (Księdzicha pojechał w konkury do panny Starojelnej, tłustej i hożej popadzi, której już uprzykrzył się zbyt stary małżonek; piszą, że ze dwadzieścia tysięcy złotych może przyjdzie za rozwód zapłacić. Skrobie głowę księdzicha na tak znaczną sumę, lubo mu wuj deklaracye pożyczenia i czterech tysięcy rubli czynił.)

[11] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 3. Kraków, 1913. S.237. (Powrócił Janko z kontraktów, pisze sam do ciebie; zapewna więc i o brzydkim postępku księdza od niego się dowiesz. Jeż pisał do mnie mało dotąd)

[12] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 3. Kraków, 1913. S.239-240. (... rozumiesz, że i F[ilomat] nie każdy danego słowa dotrzyma, zgadłeś, iż ekonomem nie jestem. Jeżeli przypominasz, że pieniędzy Józefowi dałem, a i tak byłem odłużony Masie, jeślibyś wiedział, że cała aręda w Łowczycach makiem siadła, jeślibyś wiedział, jak tam rodzice sobie być dłużej nie życzyli, jeślibyś wiedział, że ksiądz po skończonych kontraktach *20* marca ledwie się do Nowogródka pokazał, zgadłbyś, że ani łowczyckim posesorem, ani żadnym nie jestem, lecz prosto na ledzie osadzonym kątnikiem. Co za dziwny, co za dziwaczny ksiądz!)

лісце да Чачота ад 31 сакавіка 1821 г. Міцкевіч выказвае сваё абурэнне Хлявінскім[13].

Застаецца невядомым ці мог Хлявінскі уладкаваць гэтую справу, бо ягоная парафія была прыватнага калятарства[14].

Пробашч са Стараельні яшчэ нейкі час падтрымліваў кантакты з таварыствам, пра што сведчыць тое, што ён выступіў на паседжанні 7 траўня 1821 года, даваў свае кнігі філаматам. Аднак адлегласць і занятасць аслабілі сяброўскія сувязі. Тым не менш у 1828-1829 г.г. Хлявінскі разам з Ігнатам Дамейкам перакладаюць на польскую мову для літоўскіх татараў Каран. Упершыню фрагмент гэтага перакладу (1-7 суры) быў выдадзены ў 1848 годзе ў Познані[15]. Дапамагаў перакладаць і рабіў карэктуру тэксту Карана татарын з Падляшша Ян Мурза Тарак Бучацкі (Jan Murza Tarak Buczacki). Гэты пераклад стаў асновай так званага Карана Бучацкага (Koran Buczackiego), які быў выдадзены ў Варшаве ў 1858 г.[16]. Для працы над перакладам Карана ў 1828 годзе Хлявінскі прыязджаў у вёску Заполле пад Лідай, дзе ў той час жыў Дамейка[17].

У 1846 годзе ксёндз Хлявінскі стаў пробашчам і дэканам ў Лідзе, дзе і служыў на працягу 20 гадоў. Узнагароджаны медалём і крыжам за вайну 1853-1856 гадоў. А ў 1866 годзе ўзнагароджаны залатым крыжам. Такія ўзнагароды ад расійскай ўлады былі нячастымі, яны сведчаць пра цеснае супрацоўніцтва і ўзнімаюць шэраг пытанняў.

У 1866 годзе, нягледзячы на сталы ўзрост, Хлявінскі быў пераведзены пробашчам касцёла ў вёску Асава Радунскага дэканата Лідскага павета. З 1870 года служыць у Эйшышках і ў гэтым жа годзе памёр ва ўзросце 77 гадоў (з іх 54 гады – святарства).

Ігнат Дамейка ў сваіх мемуарах, называў яго “вельмі руплівым і працавітым святаром”[18].

На жаль інфармацыі пра яго працу на Лідчыне і Навагрудчыне пакуль больш няма.

[13] Korespondencya Filomatow 1815-1823. T. 3. Kraków, 1913. S.244. (Domyślisz się, a raczej z góry wiedziałeś zapewne, jak kwaśno i gorzko będę czytał doniesienia o two_ich kontraktach. Wszakże zadziwisz się może, jeśli tobie powiem, żem tego się spodziewał, że nawet chciałem ciebie ostrzegać! Wstrzymałem się z bojaźni, aby moje podejrzenia przesadzone nie były, abyś mię za nieufającego w przyjaźń nie poczytał, zwłaszcza, ie sam siebie łudząc, przedstawiałem bezza[sa] dność krzywdzących względem Dyoniza domysłów. Ale raz jeszcze powiadam, spodziewałem się, że albo ksiądz nie dotrzyma, albo nie tak, jak potrzeba, dotrzyma, i nieraz ciebie obchodzeniem się z twoimi rodzicami zasmuci. Trochę mnie było przykro, że okoliczności zmusiły ciebie do przyjęcia od księdza pomocy. Nazbyt masz dobre o ludziach rozumienie. Pokazać im cały niedostatek jest to poniżać się w ich oczach, a te dusze nigdy przyjaźni od interesu odłączyć nie umieją, a jeśli widzą zyski, nawet powoli szczerymi stają się przyjaciółmi. Trzeba więc z nimi zawsze ostrożnie postępować. Czułem dobrze całą scenę z twoimi rodzicami, wszystkie ich powątpiewania ! Jakaż to boleść, że ludzie prości, których zdania poczytajemy *(s)* za zbyt ziemskie i nic nie znaczące w naszem idealnym świecie, którzy tylko z osobami glinianemi przestawali i do których sposobu myślenia zniżać się nie raczemy, zgadują często i przepowiadają fenomena, które my za niebieskie uważając, sami tylko postrzegać umiemy i sami o nich chcemy decydować. Doświadczyłem sam tego kilka razy i coraz się przekonywam, że takich ludzi, jak jest nas kilku, takich ludzi jest bardzo mało, a takich jak ty, dobry Janie, może mniej jeszcze.)

[14] Ziemia lidzka. Listopad, 1998 r., nr 6(34) // ks. Tadeusz Krahel. Ksiądz filomata. ks. Dionizy Chlewiński, dziekan i proboszcz lidzki. S.9-10.

[15] Rocznik Biblioteki Narodowej T.XXXVI. Warszawa, 2004.// Jelena Titowiec. Pierwszy przeklad Koranu na jezyk polski. S.233.

[16] Rocznik Biblioteki Narodowej T.XXXVI. Warszawa, 2004.// Andrzej Drozd. Koran staropolski. S.245.

[17] «Лідскі летапісец» 2002 г. № 3(19), // Суднік С. Каляндар запольскага перыяду жыцця Ігната Дамейкі (1824-1831 гг.) С.13.

[18] Ziemia lidzka. Listopad, 1998 r., nr 6(34) // ks. Tadeusz Krahel. Ksiądz filomata. ks. Dionizy Chlewiński, dziekan i proboszcz lidzki. S.9-10.

**В. Калясінскі (Мінск)**

# Уражэнец навагрудчыны Рафал Слізень і яго сувязі з медальерным мастацтвам Літвы, Беларусі, Польшчы і Расіі

Выяўленчае мастацтва Беларусі сярэдзіны XIX ст. цяпер не уяўляецца без творчасці Рафала Слізеня. Яго творы ў медальерным мастацтве з'яўляюцца здабыткам мастацтва і культуры некалькіх народаў. У Польшчы, Літве, Расіі і Беларусі яго лічаць сваім мастаком. Лес падараваў яму сустрэчы з вядомымі людзьмі, якіх ен увасобіў у сваіх творах. Нягледзячы на тое, што Р.Слізень з'яўляецца класікам медальернага мастацтва, пакуль на Беларусі не апублікаваны яго творы і няма манаграфіі.

Двухсотлетні юбілей Р.Слізеня на Беларусі прайшоў практычна незаўважаным, калі не лічыць артыкула А.Лявонавай, апублікаванага ў штотыднeвіку "Культура". Трэба адзначыць, што энцыклапедычныя звесткі пра Р.Слізеня змешчаны ў трэцім томе "Гісторыі беларускага мастацтва" за 1989 год і ў пятнаццатым томе Беларускай энцыклапедыі 2002 года. На вялікі жаль, у музеях Беларусі адсутнічаюць творы Р.Слізеня, хаця з Навагрудчынай звязана большая частка яго жыцця і творчасці.

Нарадзіўся Рафал Слізень у маентку Бортнікі Навагрудскага павета Мінскай губерніі (цяпер Баранавіцкі раен Брэсцкай вобласці) [1].

Слізні належалі да шляхецкага роду ўласнага герба ў Вялікім Княстве Літоўскім "Свят (Слізень)". Як у кожнай шляхецкай сям'і бацькі выхоўвалі дзяцей на падставе высокародных ідэалаў. Жадаючы атрымаць найлепшую адукацыю, Р.Слізень атрымлівае пачатковыя веды ў суседнім мястэчку Вольна ў школе базыліян (Навагрудскі павет), дзе вучылісь дзеці шляхты. Працягвае адукацыю ў Полацкай езуіцкай акадэміі, дзе набывае прафесійныя навыкі ў выяўленчым мастацтве. У Полацкай езуіцкай акадэміі пачыналі свой творчы шлях шэраг мастакоў: напрыклад, з 1794 па 1796 год у Полацкім езуіцкім калегіуме набываў веды вядомы рускі медальер Ф.Талстой. Захапіўшысь выяўленчым мастацтвам, Р.Слізень у 1820 годзе паступае ў Віленскі ўніверсітэт на юрыдычны факультэт. [2] Як і Ф.Талсты, які вучыўся ў Мірскім корпусе і наведваў заняткі ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў, Р.Слізень пачынае адначасова наведваць Віленскую мастацкую школу. Яго настаўнікамі былі жывапісец Я.Рустэм і скульптар К.Ельскі.

Хутчэй за ўсе Р.Слізень вучыцца на юрыдычным факульцеце пад уплывам бацькоў.

Віленскі ўніверсітэт канцэнтруе актыўную і таленавітую частку моладзі спачатку ВКЛ, а потым і Паўночна-заходняга края, з'ўляясь цэнтрам адукацыі сямі губерній. У Віленскім універсітэце ў першай чвэрці XIX ст. вучылась патрыятычна настроеная

моладзь. Дастаткова ўзгадаць Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Томаша Зана, да якіх Р.Слізень ставіўся з вялікай сімпатыяй. Грамадскія погляды Р.Слізня фарміруюцца пад уплывам наведвання пасяджэнняў таварыства філарэтаў. Эстэтычныя – пад уплывам эстэтыкі класіцызма і рамантызма, якая сцвярджае патрыятычныя, грамадскія ідэалы.

Пасля сканчэння ўніверсітэта Р.Слізень у 1826 – 1829 гадах працаваў у Міністэрстве ўнутраных спраў у Санкт-Пецярбургу. [3]

Пецярбург як сталіца Расійскай імперыі збіраў лепшыя мастацкія сілы, якія гуртаваліся вакол Імператарскай акадэміі мастацтваў. Вялікі поспех мелі медальены і медалі Ф.Талстога. Безумоўна, Р.Слізень цікавіўся мастацкім жыццем Санкт-Пецярбурга. Жыцце ў еўрапейскай сталіцы пашырыла яго мастацкі кругагляд.

У 1830 годзе пачалось вызваленчае паўстанне ў Польшчы і тэрыторыі Севера-Заходняга края, і ў гэтым годзе Р.Слізень стала пасяляецца ў сваім маентку Бортнікі. Пачынаецца напружаная творчая праца як медальера, скульптара, жывапісца, архітэктара.

Творчая спадчына Р.Слізеня ўражвае сваей разнастайнасцю. Ім створаны 57 медалеў і медальенаў, жывапісныя партрэты Міхала і Францішкі Верашчакі, бюст Адама Міцкевіча, а таксама некалькі дзесяткаў скульптурных і жывапісных партрэтаў сваіх родных, блізкіх, знаемых, суседзяў. Паводле яго праетаў пабудавана некалькі гаспадарчых пабудоў і палацаў. [4]

Аналізуючы творчасць Р.Слізеня, можна зрабіць высновы, што асноўным жанрам у яго творчасці з'яўляецца партрэт. Гэта датычыцца як медальернага мастацтва, так і скульптуры, жывапісу. Незалежна ад таго віда мастацтва, дзе ен працаваў, Р.Слізеня цікавілі блізкія яму па ўнутранаму стану людзі, яго сваякі. Вось гэта акалічнасць дае падставу сцвярджаць, што заказных прац у Р.Слізеня было мала. Такім чынам, выяўленчае мастацтва не прыносіла матэрыяльнага забяспячэння. Асноўны даход магла прыносіць гаспадарка ў маентку.

Праца з мадэлямі, якія для Р.Слізеня былі людзьмі блізкімі, была станоўча і ў тым накірунку, што мастак дастаткова ведаў унутраны свет чалавека. Усе гэта дазваляла знайсці ў вобразе галоўнае і характэрнае. Знешняе падабенства, якое так важна ў партрэце, Р.Слізень перадаваў бездакорна. Аб гэтым сведчыць галерэя яго партрэтаў у медальерным мастацтве, дзе кожны персанаж адбіт з тымі падрабязнасцямі, якія характэрны толькі для яго.

Самае значнае месца ў творчасці Р.Слізеня займае медальернае мастацтва, якое ў XIX ст. перажывала ўздым. Мастацтва класіцызму і рамантызму ставіла на першы план асобу ідэалізаваную. У Польшчы, Літве, на землях Беларусі былі папулярны медальены з выявай Т.Касцюшкі, Напалеона I, якія ўпрыгожвалі пакоі шляхты і магнатаў. Да розных юбілеяў і падзей выпускаліс медалі, медальены. Медаль з'яўлялась характэрнай прыкметай XIX ст. і была надзвычай запатрабаванай.

Медалі і медальены, якія выканаў Р.Слізень, даволі аднастайныя. Выкарыстоўваецца агульнапрыняты прыем у мастацтве класіцызма, калі выява галавы з шыяй размешчана ў цэнтры на гладкім полі медаля. У пераважнай большасці паварот у профіль, часам нагрудная выява. Прымяняючы аднастайны кампазіцыйны прыем, Р.Слізень засяроджваецца на ўнутраным свеце персаналіі, перадачы знешняга падабенства. Калі ў профіль знешняе падабенства перадаць вельмі проста, то перадаць характар складана.

Яскравым прыкладам з'яўляецца медальен з выявай Томаша Зана. Галава з шыяй выяўлены ў профіль справа-налева. Партрэт добра закампанаваны ў круг і выразна глядзіцца на гладкім фоне. Выразны профіль адцяняюць добра прапрацаваныя кучаравыя валасы. Галава пасярэдзіне падзяляецца на две паловы пасам з кучаравых завіткоў і бакенбардамі. Уверсе вянчае партрэт густая пасма валос у выглядзе трохкутніка. Першы план рэльефа больш прапрацаваны, а другі меньш рэльефны, што стварае адчуванне большага аб'ема. Характэрны профіль Т.Зана, на якім пад адным вуглом размешчаны нос, лоб і ўверсе валасы, з боку патыліцы валасы ідуць амаль па прамой лініі, ствараючы трохкутнік. Прадуманая кампазіцыя і дасканалая лепка робяць медальен адным з лепшых у творчасці Р.Слізеня. Нездарма медальен заўседы змяшчаецца ў энцыклапедыях. [5] Дадатковую вартасць медальену надае і асоба партрэціруемага Т.Зана, ся-

бра і паплечніка А.Міцкевіча, паэта, рамантыка, вучонага-натураліста, заснавальніка і кіраўніка першых маладзежных арганізацый на землях Беларусі і Літвы.

Медальен з'яўляецца адліўкай у гіпсе, пакрыты таніроўкай. Зроблены з такім разлікам, каб быць прыдатным для тыражыравання. Уверсе кальцо з дрота. Медальен аднабаковы. Дыяметр медальена 145 мм. Год выкананння – 1854. Захоўваецца медальен у Нацыянальным мастацкім музее Літвы.

Цікавы аднабаковы медаль, прысвечаны залатому вяселлю Яна і Амеліі Слізень. 1852 год. Медзь. Дыяметр 65 мм. Ліцце. Захоўваецца у Нацыянальным мастацкім музее Літвы. [6]

На медалі выяўлена супружэская пара ў профіль злева-направа. Ян Слізень з лысым чэрапам выяўлен на заднім плане і перакрываецца Амеліей на першым плане. Лепка партрэтаў сакавітая, выразная, нават трохі шаржыраваная, але добра перадае і падкрэслівае сталы ўзрост. Цікавай знаходкай з'яўляецца галаўны ўбор на Амеліі Слізень, які добра дапаўняе вобраз чалавека сталых гадоў. Свабодная лепка галаўнога ўбора гарманіруе з сакавітай лепкай твара Амеліі і Яна. Па краю фігурны абадок. Медаль яшчэ цікавы і тым, што унізе пад партрэтамі надпіс па кругу /SCUL. RAFHAEL SLIZIEN/. Такім чынам, медаль падпісны. У гэтым выпадку Рафаіл Слізень падпісваецца як скульптар.

Два другіх медальены аб'ядноўваюць амаль аднолькавыя памеры, вушка ўверсе і гладкі край без канта, а таксама месца вытворчасці.

Медальен аднабаковы з вушкам прысвечаны заснавальніку археалагічнага музея ў Вільне Еўстафію Тышкевічу. У цэнтры выява галавы з шыяй Тышкевіча ў профіль справа-налева. Злева надпіс па кругу /E. TYSZKIEWICZ/. Справа гарызантальны надпіс у две стракі /R. SLIZIEN/ /WILNO 1850/. Унізе надпіс па кругу ў две стракі /NAKLAD B:M:WOLLKA./ /ODLEW FABRYKI MINTERA./

Медзь. Ліцце. 1850 (1855). Дыяметр 125 мм. Нацыянальны мастацкі музей. [7]

Добра прапрацаваны партрэт Я.Тышкевіча кантрасна глядзіцца на гладкім полі медаля. Надпісы зроблены ў нізкім рэльефе і не перашкаджаюць успрыманню вобраза. Медальен ад манетнай схемы мае адрозненне ў паварoце партрэта справа-налева. Аўтар медальена з увагай пералічвае дэталі партрэта.

Медальен аднабаковы з вушкам прысвечаны Аляксандру Важынскаму. У цэнтры выява нагруднага партрэта А.Важынскага ў вопратке. Бюст у профіль павернуты злева-направа. Пад бюстам надпіс дробнымі літарамі гарызантальна /SLIZIEN. MOD:/ /FABRYKI MINTERA./ Унізе дробная надпіс па кругу/FABRYKI MINTERA./ Злева вялікімі літарамі па кругу /X: ALEX: WAZYNSKI./

Медзь. Ліцце. Не датаваны. Дыяметр 128 мм. Нацыянальны мастацкі музей. [8]

У кампазіцыю медаля для надання індывідуальнай характэрыстыкі ўведзены плечавы пояс. Такі прыем распаўсюджаны для таго, каб паказаць мундзір, які сведчыць аб сацыяльным стане ці для індывідуальнай характэрыстыкі. Надпісы ў нізкім рэльефе тактоўна дапаўняюць кампазіцыю медаля.

Медальернае мастацтва Р.Слізеня займае выключную ролю ў мастацтве Беларусі сярэдзіны XIX ст. Р.Слізень стварыў галерэю партрэтаў сваіх сучаснікаў. Жывучы ў сваім маентку на Навагрудчыне, Р.Слізень дасягнуў еўрапейскага ўзроўню. Вядома, што Р.Слізень мог наведваць Вільно, Варшаву і там працаваць. Выхаванец Полацкай езуіцкай акадэміі і Віленскай мастацкай школы, Р.Слізень быў перш за ўсе звязаны з расійскім і польскім медальерным мастацтвам. Так яго медальен, прысвечаны Аляксандру Важынскаму, у трактоўке партрэта пераклікаецца з медалем Ф.Талстога, прысвечанага Фадзею Чацкаму, а медаль у гонар залатога юбілея Яна і Амеліі Слізень па кампазіцыі нагадвае медаль у гонар 250-годдзя з дня заснавання Віленскага ўніверсітэта.[9] Медальен з выявай Томаша Зана па кампазіцыі падобны на медальен Яна Астроўскага, прысвечанага Мікалаю Балінскаму. [10] Медальен у гонар Я.Тышкевіча па кампазіцыі мае многа агульнага з медальенам Я.Астроўскага ў гонар У.Сыракомлі. [11]

Трэба адзначыць, што медалі і медальены выкананы метадам ліцця як з медзі і медных сплаваў, так і ў гіпсе. Усе яго творы з'яўляюцца аўтарскімі.

Хоць медальернае мастацтва і даволі кансерватыўны від, Р.Слізень змог у сваей творчасці выкарыстаць лепшыя здабыткі сваіх папярэднікаў і знайсці свой стыль. Яго творы з'яўляюцца звязуючым звяном паміж мастацтвам класіцызма і медальерным мастацтвам канца XIX – пачаткам XX ст. Такім чынам медальернае мастацтва Р.Слізеня з'яўляецца заметнай з'явай у мастацтве Беларусі, Літвы, Польшчы і Расіі.

## Літаратура:


1. Слізень // БЭ. – М., 2002. – т.15. – с.8
2. Лявонава А. Амаль забытае імя/ А.Лявонва// Культура. – 2004.
3. Гісторыя беларускага мастацтва ў 6т.: канец XVIII – пач. XX ст./ Рэдкал.: С.В.Марцэлаеў (гал. рэд.) і інш.: Рэд. Тома Л.М.Дробаў, П.А.Карнач. – Мн.: Навука і тэхніка, 1989. – т.3. – 126с.
4. Слізень // БЭ. – М., 2002. – т.15. – с.8
5. Там жа.
6. LIEOVA MEDALIVOSE XVIα. – XXα./ V.RUZAS, SAULIUS CHLEBINSKAS. – V.LEIDYKLA VAGA, 1998/ - 164с.
7. Там жа – с.164.
8. Там жа – с.164.
9. Там жа – с.163, 171.
10. Там жа – с.165.
11. Там жа – с.165.

**В. Швед (Гродна)**

# Барацьба Адама Міцкевіча за незалежнасць сваёй айчыны

У 210-годдзе з дня нараджэння славутага сына наваградскай зямлі Адама Міцкевіча мы павінны ўшанаваць яго не толькі, як вялікага паэта свету, але і як вялікага барацьбіта за вызваленне сваёй Айчыны з палітычнай нявoлі, за правы сацыяльнапрыгнечаных народаў.

Разуменне Айчыны было ў А.Міцкевіча розным. У лакальным значэнні Айчынай ён называў наднёманскую зямлю, больш абмежавана - ваколіцы Наваградка. Інакш кажучы край нараджэння:

У ім, небагатым, цесным, я быў шчасны;
Як Богу – божы свет, так мой уласны
Дом на радзіме быў шырокім светам
Усіх маіх вытокаў.
Помню: летам
Цвіла на ўзгорку ліпа, а пад ёю
Мы з дзецьмі з вёсак цэлы дзень гульнёю
Былі занятыя. Ручай ля дома
І кожны камень былі мне знаёмы,
Як і памежкі ўсе да старасвецкіх
Слупкоў і сцежак на палях суседскіх [1, с. 341]

Даследчык Ст. Едынак у сваім артыкуле «Айчына ў творчасці Адама Міцкевіча» [2, с. 17-19] не называе Айчыну , як паняцце Літвы, што ёсць у Міцкевіча:

Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое:
Не цэнім, маючы, а страцім залатое –
Шкада ,як і красы твае, мой родны краю.
Тугою па табе тут вобраз твой ствараю [1, с. 10]

«Нідзе на зямлі, – пісаў Міцкевіч сябрам па эміграцыі, – няма такога бесклапотнага жыцця, як у літоўскіх вёсках і засценках. Колькі там радасці, любові, заўсёднага жыцця для ўсіх. Можа, Бог не дасць ужо вярнуцца да гэтага жыцця, але я павінен нешта зрабіць, каб захаваць тое дарагое *нацыянальнае зерне* (курсіў мой – В.Ш.) і даць іншым адчуць яго вартасць» [1, с. 7].

Гаварыў пра Айчыну А. Міцкевіч і ў сэнсе «Рэч Паспалітая» або «Польшча», маючы на ўвазе адзінства Літвы (Вялікага княства Літоўскага) і Кароны Польскай (Польшчы). У кнізе VI «Пана Тадэвуша» А. Міцкевіч піша:

Каб вы, ліцвіны, да прыходу войск француза
Былі гатовыя да братняга саюза
З Каронай і падцвердзілі сваім змаганнем
З агульным ворагам гатоўнасць аб'яднання
*Сястры з заходняю сястрой адзінакроўна* [1, с.173].

Яшчэ больш выразна чытаем пра гэта значэнне Айчыны ў «Кнігах пілігрымства і народу польскага»: «Літвін і Мазур – браты; ці спрачаюцца браты пра тое, што аднаму імя Уладзіслаў, а другому Вітаўт? Прозвішча іх адзінае: прозвішча Палякаў» [3, с. 69].

У «Лекцыях па славянскай літаратуры» А.Міцкевіч выказаў ідэю Айчыны вялікай і разлеглай: «Зразумела, што ў паэтаў, аратараў і палітыкаў польскай нацыі Айчына гэта не тое месца, дзе ёсць добра, гэта не пэўны стан дастатку, гэта не вядомы кавалак зямлі, акрэслянай межамі, за якімі заканчваецца быт і народнае дзеянне Паляка. Айчына Палякаў жыве і дзейнічае ўсюды, дзе б'ецца вернае сэрца яе сыноў» [2, с. 18].

У 1854 г.Міцкевіч, выступаючы на раздачы ўзнагарод у польскай школе Бацігнолес, сказаў, што значыць Айчына ў чужым акружэнні, эміграцыі: «Не хапае вам айчынай стыхіі, таго, што дае айчынае неба, што дабываецца з роднай зямлі, што старажытныя называлі genius loci ( мясцовага духу), таварыства сяброў, крэўных, таго, што нам адчыніла нашу маладосць і што так моцна дапамагала нам ў былым жыцці; словам, не маеце краю. Для вас усё, што мы вынеслі з той вялікай Польшчы, зачынена ў цесных межах чатырох сцен вашае школкі. Тут яшчэ знойдзеце Айчыну, за школай пачынаецца ўжо чужы свет» [2, с. 19].

Барацьбу за адраджэнне сваёй Айчыны Адам Міцкевіч пачаў падчас вучобы ў Віленскім універсітэце, дзе стаў адным з актыўных арганізатараў Таварыства філаматаў. Францішак Малеўскі сцвярджаў, што Міцкевіч быў «стваральнікам.., першай спружынай» усіх планаў, праектаў, пачынанняў філаматаў. Пратаколы паседжанняў філаматаў малююць нам Міцкевіча нястомным арганізатарам, пастаянна выступаючым з разнастайнымі планамі і праектамі, актыўным удзельнікам усіх нарад і абмеркаванняў, аўтарам вершаў, паэм, перакладаў, крытычных даследванняў і паведамленняў [4].

У першым статуце Таварыства філаматаў, падрыхтаваным Міцкевічам і Т.Занам, а потым перапрацаваным Ежоўскім, было да 60 параграфаў. Мэта вызначалася проста: «Вывучэнне навук, асабліва мастацтва пісьменства, аказанне ўзаемнай дапамогі ў навуках...». Але за гэтай прастатой скрываліся планы барацьбы за нацыянальнае адраджэнне, бо навошта тады падтрымліваць строгую канспірацыю, да якой так заклікаў А.Міцкевіч:

Но право нужно быть тупіцей недалёким,
Что б сделать доступ к нам открытым и широким.
Строенье лишь тогда не рушится веками,
Когда строители кладут отборный камень.
И, чтобы замысел не оставался словом,
Пусть исполнители пройдут отбор суровый..!

Першы статут пратрымаўся толькі адзін 1817 – 1818 навучальны год. Міцкевіч дабіўся рэфарміравання таварыства: у чэрвені 1818 г. быў прыняты другі статут. У ім мэта вызначалася, як «узмацненне ўсеагульнай асветы». Пяты параграф сцвярджаў: «Поўная аддача сябе агульнаму дабрабыту з яўляецца асноваю жыцця Таварыства». Але і такі статут не задавальняў Міцкевіча, бо мэта вызвалення Айчыны была сказана невыразна.

У праекце трэцяга статута (студзень – сакавік 1819 г.) Міцкевіч пісаў: «Перш за ўсё аб мэце. Я згодзен, што яна павінна быць па-магчымасці больш шырокай. У прыватнасці таварыства будзе імкнуцца распаўсюджваць усімі сродкамі грунтоўную адукацыю ў польскім народзе.., умацоўваць непахісную народнасць; распаўсюджваць ліберальныя правілы, абуджаць дух грамадскай дзейнасці; займацца справамі, якія цікаваць увесь

народ; нарэшце, фарміраваць, падымаць і усталёўваць грамадскую думку». У час абмеркавання трэцяга статута Міцкевіч заклікаў «імкнуцца да распаўсюджвання вызначаных правіл маралі, так моцна змарнаванай сярод моладзі» [5, с. 26, 37, 47].

У чэрвені 1819 г. трэці статут быў прыняты. Мэтай таварыства было запісана: «Выхоўваць у польскай моладзі пачуцці чыстай маралі, падтрымліваць у яе любоў да роднай гісторыі, абудзіць жаданне да вучобы, умацоўваць у меру сіл народную асвету і такім чынам садзейнічаць дабрабыту і благадзенству краіны» [6, с. 27]. Гэты статут быў разлічаны на пераходны перыяд, бо Міцкевіч задумаў «вялікую рэформу», да якой прыступілі ў пачатку 1819 г. Міцкевіч прапанаваў пераўтварыць таварыства ў агульнанародную палітычную канспіратыўную арганізацыю. Яна ўяўляла бы сабою разгарнутую сетку легальных і нелегальных таварыстваў па ўсёй тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай. У іх маглі бы ўваходзіць не толькі студэнты, але і чыноўнікі, гараджане, купцы, рамеснікі, земляробы. Кіравалі бы такой арганізацыяй філаматы. Выходзіла бы легальная газета.

Ва ўмовах грамадскага ўздыму 1819 – 1820 гг. А.Міцкевіч і яго сябры шукалі новыя формы арганізацыйнай і палітычнай дзейнасці. Пошукі прывялі да стварэння ў канцы 1820 г. Таварыства філарэтаў.Як новая праграма дзеяння гучала міцкевічаўская «Песня філарэтаў». У 1832 г. у трэцяй частцы «Дзядоў» Міцкевіч намалюе вобразы філарэтаў, людзей высокіх маральных якасцяў, простых і сціплых юнакоў, спаяных светлым сяброўствам, гатовых на самаадданасць за патрыятычныя справы. Яны ідуць на ахвяру, бо ведаюць, што гэта разбудзіць народ:

Но если я пойду, звеня кандальным звоном,
В Сибирь, на каторгу, в Литве заговорят:
«Так гибнет ни за что на каторге наш брат.
Постой, прокляты царь! Постой, москаль негодный!»

У 1820 г. Міцкевіч паспрабаваў стварыць у Коўна «Грамадзянскі саюз» і «Грамадзянскую бібліятэку». Тое ж самае марыў зрабіць і ў Навагрудку. Ён гаварыў, што трэба зрабіць абавязкам кожнага філамата стварэнне падначаленных таварыстваў, сябры якіх не павінны ведаць аб існаванні галоўнай арганізацыі. Гімнам і маніфестам рэвалюцыйнай моладзі стала напісаная ў гэтым годзе «Ода да маладосці» [7, с. 5]. Маладосць – гэта ўвасабленне нестрыманай творчай энергіі барацьбітоў прагрэса, старасць – сімвал палітычнай блізарукасці, эгаізма і рабалепства рэакцыянераў. Паэт-філамат бачыў шчасце ў служэнні грамадству і праслаўляў тых, хто аддаў жыццё за агульнае блага чалавецтва. Ён заклікаў моладзь:

Друзья младые! Вставайте разом!
Счастье всех – наша цель и дело.
В единстве мощь, в упоеньи разум.
Друзья младые! Вставайте смело!

«Ода да маладосці» заканчвалася надзеяй на блізкі ўсход сонца свабоды:

Ломают льды весенние воды.
С ночною свет сражается тьмою.
Здравствуй, ранняя зорька свободы!
Солнце спасенья грядёт за тобою!

За ўдзел у тайных таварыствах А. Міцкевіч па прыгавору следчай камісіі быў вымушаны 24 кастрычніка 1824 г. пакінуць горача любімую ім Літву і прабыць у Расіі да 27 мая 1829 г., калі ён выехаў за мяжу. Паэт – барацьбіт ехаў працягваць барацьбу за вызваленне сваёй айчыны. Як пісаў у паэме «Конрад Валенрод»:

Люблю народ, как муж,
любовник, друг, отец.
Хочу поднять его, наставить,
И в мире, из конца в конец,
Его деяния прославить [8]

Чацвертага снежня 1832 г. у Парыжу выйшлі «Кнігі народа польскага і польскага пілігрымства». Міцкевіч пісаў: «А кожны Паляк у паломніцтве не называецца бадзягаю, бо бадзяга ёсць чалавек, блукаючы без мэты; і не выгнаннік, бо выгнаннікам з'яўляецца чалавек, выгнаны загадам урада, а Паляка не выгнаў ягоны ўрад». Міцкевіч заклікаў эміграцыю прымірыцца, закончыць спрычкі аб межах і дзяржаўным уладкаванні будучай Польшчы: «Ці спрачаецца Літвін з Палякам аб мяжы Нёмана і аб Гродне, і аб Беластоку?», «Ёсць сярод Вас тыя, якія гавораць: Няхай лепш Польшча будзе ў няволі, калі мае абудзіцца паводле арыстакрацыі; другія: Няхай лепш ляжыць, калі мае абудзіцца паводле дэмакратыі; а іншыя: Няхай лепш ляжыць, чым будзе мець такія мяжы, а іншыя так ці інакш. Гэтыя ўсе з яўляюцца лекарамі, не сынамі, і не кахаюць мацяры Айчыны.

Праўду гавару Вам: Не даследвайце які будзе ўрад у Польшчы, дастаткова верыць, што будзе лепшы, чым усе. Якія ведаеце; і не пытайцеся аб яе межах, бо будуць большыя, чым былі калісці» [3, с. 45, 88; 9]. Міцкевіч гаварыў аб гістарычных, а не аб этнічных межах Польшчы, а значыць Беларусь уваходзіла бы ў склад будучай польскай дзяржавы.

Міцкевіч раіў: «Не ўцякайце пад апеку князёў, кіраўнікоў і мудрацоў чужаземных. Дурны той, хто ў бурлівы час, калі хмары з перунамі цягнуцца, уцякае пад апеку вялікіх дубоў, або пускаецца на вялікую ваду.

Князі і ўрады гэтага стагоддзя – дрэвы вялікія, а мудрасць гэтага стагоддзя – вялікая вада». Інакш кажучы, самім трэба бароцца за сваю вольнасць, не чакаць, што прынясуць яе чужыя князі ды ўрады, і не прыслухоўвацца асабліва да чужых мудрацоў [3, с. 49].

Сам Міцкевіч так і рабіў усімі мажлівымі для яго сродкамі. У 1840 – 1844 гг. выкладаючы курс славянскай літаратуры ў Коледж дэ-Франс, ён пазнаёміў замежжа не толькі з апошняй, але і з гісторыяй барацьбы народаў былой Рэчы Паспалітай за сваё адраджэнне. На лекцыі 27 чэрвеня 1843 г. Міцкевіч выказаў праект «Ідэала Рэчы Паспалітай»: сейм «натхнёны святым духам», кароль, «маючы асабістыя атрыбуты капланства». Ваюючы за вызваленне Айчыны з рук захопнікаў, якіх Міцкевіч называе сучаснымі сарацынамі, «чалавецтва выканае Божы план і як у Апакаліпсе з хмараў ступіць на зямлю новая Польша, або Новы Ерусалім усіх людзей і ўсіх народаў» [10, с. 184].

Міцкевіч заклікаў у сваіх лекцыях да крыжацкага паходу за вызваленне ўсіх народаў ад захопнікаў. Арганізаванае Міцкевічам «Кола Божай справы» падняла спробу стварэння эліты, якая першай пачне рэалізацыю ідэі новага крыжацкага пахода. У межах Кола ў 1846 г. К.Ражыцкі склаў групу «жаўнераў Хрыстовых» [10, с. 187].

Сёмага лютага 1848 г. Міцкевіч едзе ў Італію, дзе пачалася рэвалюцыя і дзе, на яго думку, можна было рэалізаваць ідэю крыжацкага пахода на дапамогу народам Італіі, што стане пачаткам усеагульнай вайны за вольнасць народаў, за рэлігійнае адраджэнне чалавецтва. У Рыме Міцкевіч паклаў пачатак фарміраванню польскага лігіёна, стаўшага часткай арміі Венецыянскай рэспублікі. Вось, што пісаў адзін з польскіх легіяністаў, ліст якога быў надрукаваны 26.10.1848 г. ў познанскай «Газэце Польскай»: «Як крыжаносцы новай эпохі павінны прайсці цэлую Славяншчыну, у паходзе знішчыць тое, што дыхае яшчэ старым светам і пагражае разнесці далёка, нават, каб і слядоў не засталося смутнага былога. Інакш цяжка, нельга нам было бы, нават, увайсці да той Польшчы, якая павінна быць абяцанаю зямлёю для ўсёй Славяншчыны, ад якой яна павінна браць подых для жыцця. З такой вераю ідзем і можа дасць Бог, калі зможам вытрымаць, дык і Польшчу хутка убачым» [10, с. 213].

Легіён Міцкевіча разглядаўся, такім чынам, не толькі як вызваліцель Польшчы, але і ўсіх славян. Менавіта гэта падкрэсліў Міцкевіч у сваёй прамове ў Фларэнцыі 16.04.1848 г.: Польшча уваскрэсне і збярэ усе братнія славянскія народы (харватаў, далматаў, чэхаў, маравян, ілірыйцаў) супраць «паўночнага тырана» і яны «закрыюць назаўсёды дарогу варвараў паўночы, вечным разбуральнікам вольнасці і цывілізацыі» [11, с. 298].

Польскія легіёны неслі ў сябе «зародак будучага», «мікракосмас новай Польшчы». Як пісаў гісторык Ст. Пігон: «Легіён – гэта не адна кампанія.., але коратка гаворачы, – гэта мікракосмас новай Польшчы, дагледжаны, сфармаваны смелаю думкаю грамадскага дзеяча і рэфарматара, яснабачным сумам патрыёта». Пад штандарамі легіёнаў (яны мелі традыцыйныя бела-чырвоныя коляры) ідэя пераўтварылася ў жыццё: «польскі селянін, мяшчанін, граф, князь зраўняліся паміж сабою і ў войску гэтым ніколі не чутна спрэчак аб праве нараджэння і прывілеях» [10, с. 216, 225].

Для новай Польшчы, Каралеўства Божага на зямлі, А.Міцкевіч напісаў у Рыме 29 сакавіка 1848 г. канстытуцыю «Sklad zasad» ( «Звод асноў»). У пятым пункце яе гаварылася: «Польскі дух – слуга Евангелля, польская зямля са сваім грамадствам – цела. Польша ўваскрашае ў целе, у якім цярпела і была пакладзена ў труну каля ста гадоў назад. Польшча ў асобе вольнай і незалежнай устае і падае далонь Славяншчызне». У дзесяцi наступных пунктах выкладаўся кодэкс праў чалавека і грамадзяніна: вольнасць і роўнасць усіх у правах, не глядзячы на веру і абрады (відаць, этнас па Міцкевічу); вольнасць слова і друку; выбарны на вольных выбарах урад; кожнаму славяніну, які жыве ў Польшчы, братэрства, усе правы грамадзяніна; кожнай сям е – «хатняе поле», шанаванне і недатыкальнасць усялякай уласнасці; хрысціянская дапамога славянскім і ўсім іншым народам, як бліжняму і д.п. [11, с. 7-8].

Ідэі братэрства народаў у барацьбе з дэспатызмам распаўсюджвала створаная Міцкевічам газета «Трыбуна народаў» ( 15.03. – 10.11.1849 г). У артыкуле у №116 Міцкевіч пісаў, што «ні адзін народ не можа ўжо развіваць свайго жыцця па-хрысціянскі, калі не завяжа праўдзівыя хрысціянскія сувязі з іншымі народамі, сваімі братамі. Хрысціянскія сувязі загадзя закладваюць існаванне пачуцця міжнароднай салідарнасці і любві, нясуць у сабе абавязак узаемнай дапамогі» [2, с. 19].

Гэты «абавязак узаемнай дапамогі» паклікаў Міцкевіча на Ўсход у 1855 г. Перад гэтым у «Мемарандуме да Напалеона III» ён паставіў пытанне аб адбудаванні Польшчы і спрабаваў пераканаць французскага імператара ў неабходнасці актыўных дзеянняў у расійска-турэцкім канфлікце. «Імкненне сучасных народаў да вольнасці і справядлівасці, – пісаў Міцкевіч, – знаходзіць праяўленне ў справе вернай і вялікай, у справе Польшчы... Пэўна ёсць то адзінае, што на ўсё, што можа служыць польскай справе, павінен Пан глядзець як на рэчы, якія маюць служыць Тваёй справе, справе Тваёй дынастыі, справе чалавецтва» [10, с. 236].

11 верасня 1855 г. у развітальнай прамове Міцкевіч сказаў: «Наша апостальскае прызначэнне ёсць цяжкае, бо цяжэйшае за пасланніцтва, якое да гэтага часу выконвалі. Бо аглашаем уваскрашэнне народа на руінах заваёўнікаў, якія жывуць прыбыткамі з яго працы, таленту і мужнасці... Мы павінны ваяваць словам, пяром, або зброяю аб заробленым найчасцей хлебе. Польшча нам яго даць не можа, або і не хоча. А тут акрамя жадання да якой-небудзь працы знайсці яе часта не магчыма, а здабытыя пасады трэба кідаць нам на кожны стрэл у Еўропе» [10, с. 244].

26 лістапада 1855 г. Адама Міцкевіча не стала. Лёсам было наканавана яму не ўбачыць фіяска сваёй справы. Але вялікі паэт і нязломны ваяўнік за вольнасць народаў стаў сімвалам барацьбы за незалежнасць Айчыны для наступных пакаленняў барацьбітоў розных краін. Народам Беларусі сам Бог загадаў натхняцца міцкевічаўскімі традыцыямі міжнароднай барацьбы за вольнасць, незалежнасць, справядлівасць і прагрэс.

**Спіс крыніц і літаратуры:**

1. Міцкевіч А. Пан Тадэвуш, або апошні наезд у Літве. - Мінск, 1998. - С.341. Глядзі таксама: Syrokomla-Bulhak A. Gustaw i Peri. Ich kraj rodzinny. - Zielona Gora, 1998; Skuza Z., Wojda K. Szlakiem Adama Mickiewicza po Bialorusi. – W-wa, 1997.

2. Jedynak St. Ojczyzna w tworczosci Adama Mickiewicza // Rota.- 1998.- № 2/3.

3. Mickiewicz A. Ksiegi narodu polskiego i pielgrzymstwa polskiego.- Rzym, 1946.

4. Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 156, воп. 1, сп. 96, а.388; ф. 36, воп. 4,св. 24, сп.297, а.3.

5. Mickiewicz A. Dziela. T. XIV. Listy. Cz. 1. – W-wa, 1953.
6. Materialy do historii towarzystwa filomatow. T. 1. – Krakow, 1920.
7. Гл.: Ланда С.С. У истоков «Оды к юности» // Литература славянских народов. Вып. 1.Ада Мицкевич. Сборник статей. – М., 1956.
8. Усе ўрыўкі твораў Міцкевіча на рускай мове прыведзены па выданню: Мицкевич А. Собрание сочинений в 5 томах. – М., 1948.
9. Міцкевіч прывёў паданне аб хворай мацяры, перад ложкам якой некалькі лекараў спрачалася аб метадах лячэння, а сын вылячыў яе ад летаргічнага сна сваім каханнем.
10. Ruszkowski J. Adam Mickiewicz i ostatnia krucjata. Studium romantyczniego millenaryzmu. – Wroclaw, 1996.
11. Mickiewicz A. Trybuna Ludow. – W-wa, 1956.

Г. Кавальчук (Навагрудак)

# Касцёл святога Міхаіла ў пасляваенны час і яго роля ў рэлігійным жыцці Навагрудка

За сваю шматвекавую гісторыю Навагрудскі касцёл Святога Міхаіла быў сведкам многіх падзей, якія адбываліся на гэтай зямлі і зведаў шмат выпрабаванняў. У розныя перыяды гісторыі ён то адраджаўся, то прыходзіў у разбурэнне і заняпад і не раз стаяў на мяжы поўнага знішчэння.

Асаблівыя страты і занядбанне ён перажыў у пасляваенныя гады, калі пад уплывам савецкай атэістычнай прапаганды многія храмы былі зачынены, ці знішчаны. Але воляй лёсу касцёл выстаяў і сёння з'яўляецца адным са значных цэнтраў рэлігійна-культурнага жыцця горада.

Драўляны касцёл у цэнтры Навагрудка быў пабудаваны ў 1624 годзе на сродкі віленскага ваяводы Кшыштафа Хадкевіча і належаў манахам дамініканскага ордэну. Касцёл быў асвечаны ў гонар Св.Яцка. Драўляныя касцёльныя пабудовы праіснавалі да канца XVII стагоддзя і былі моцна пашкоджаны ў час пажару ў другой палове XVII стагоддзя. Будаўніцтва мураванага касцёла, які з некаторымі перабудовамі захаваўся да нашага часу, пачалося ў 70-80 гады XVII стагоддзя. План будынка новага касцёла, у параўнанні з драўляным, быў зменены. У час гарадскога пажару 1751 года касцёл і кляштар зноў былі пашкоджаны. Але дамініканe знаходзяць сродкі на іх аднаўленне, а таксама поўнасцю змяняюць інтэр'ер касцёла. Менавіта ў гэты час у касцёле былі зроблены каменныя алтары ў стылі ракако. У 1805 годзе нарэшце завяршаецца рамонт храма і ён асвячаецца пад вызваннем Св.Міхаіла. У 1829 годзе з паўднёвага боку касцёла ўзводзіцца мураваная двух'ярусная званіца. У 1831 годзе касцёл зноў гарыць і пасля перабудовы сярэдзіны XIX стагоддзя яго архітэктура набывае рысы позняга класіцызму: больш нізкі дах, спрошчаны трохвугольны франтон.

З самага пачатку свайго заснавання касцёл з'яўляўся распаўсюджвальнікам ідэй манахаў-дамініканаў, ідэаламі якіх былі строгая аскеза, стрыманне і паслушэнства. Галоўным сродкам духоўнага ўдасканалення дамінікане лічылі рэлігійную асвету пры дапамозе пропаведзі. Многія з іх былі не толькі таленавітымі філосафамі і рытарамі, але адначасова падтрымвалі развіццё прыродазнаўчых навук і перадавыя ідэі навукі і тэхнікі Новага часу. У 1797 годзе пры касцёле Св.Міхаіла была адкрыта дамініканская школа, у якой атрымлівалі адукацыю дзеці розных саслоўяў. Узровень выкладання ў гэтай школе быў вельмі высокі. Атрыманыя веды давалі магчымасць многім выпускнікам школы паступаць на розныя факультэты прэстыжных еўрапейскіх універсітэтаў. Прыхажанамі храма ў той час была і сям'я Адама Міцкевіча, а ён сам вучыўся ў дамініканскай школе,

пасля заканчэння якой пастуціў у Віленскі ўніверсітэт. Пасля закрыцця дамініканскага кляштара ў 1853 годзе касцёл Св.Міхаіла становіцца парафіяльным.

У перыяд Першай сусветнай вайны, а затым у 20-30-я гг ХХ стагоддзя касцёл Св. Міхаіла дзейнічаў. Яго знешні выгляд зафіксаваны на фотаздымках і паштоўках пачатку ХХ стагоддзя. Касцёл выглядае вельмі прывабна, яго будынак патанае ў густых кустах бэзу і з'яўляецца сапраўдным упрыгожаннем горада. Побач з касцёлам відаць двухярусная мураваная званіца. Увесь комплекс абнесены мураванай агароджай.

Падчас другой сусветнай вайны будынак касцёла быў толькі нязначна пашкоджаны. Яшчэ на фотаздымку 1946 года ён выглядае без асаблівых змен, нават частка касцёла мае будаўнічыя рыштаванні, што гаворыць аб правядзенні рамонту фасада. Да 1948 года ў касцёле праводзіліся набажэнствы і на першы погляд, яму нішто не пагражала. Але ў жніўні 1948 года прыхажане даведаліся аб тым, што касцёл зачыняецца і ў ім будзе размешчана зернесховішча. Жыхарка Навагрудка Марыя Дабжынская-Каравайская ўспамінае, як яе бацькі, разам з іншымі прыхажанамі не аддавалі ключоў ад брамы, па чарзе несучы варту каля сцен касцёла. Тады ўначы грузавіком былі выбіты дзверы касцёла і ў галоўны алтар храма высыпана збожжа. Некалькі абразоў, у тым ліку ікону Св. Міхаіла, якая затым доўгі час знаходзілася ў адной з капліц Фарнага касцёла, цудам удалося выратаваць прыхажанам. Іконы Ісуса Хрыста і Маці Божай захоўваліся доўгі час у сястры Малгажаты, манахіні жаночага каталіцкага ордэну Найсвяцейшай сям'і з Назарэту, якая пасля вайны засталася ў Навагрудку і жыла ў сакрыстыі Фарнага касцёла.

Амаль адразу пасля закрыцця касцёла райвыканкамам бярэцца на ўлік ўся маёмасць касцёла, якая затым перадаецца ў веданне райфінаддзела. Па акту вопісу і ацэнкі касцельнай маёмасці №40 ад 14.08.1951 г. з касцёла св. Міхаіла было канфіскавана 378 прадметаў рэлігійнага культу, у тым ліку абразы, скульптуры, партрэты, перасоўныя алтары, кленчнікі для малення, распяцці, крыжы, падсвечнікі, званочкі, падносы, мэбля і многае іншае. Канфіскаваная маёмасць касцёла часткова рэалізуецца праз сетку магазінаў райспажыўсаюза, часткова перадаецца розным арганізацыям і ўстановам на іх патрэбы. Так, у жніўні 1951 года Навагрудскаму райспажыўсаюзу для рэалізацыі праз райунівермаг было перададзена касцельнай маёмасці на агульную суму 2788 руб.50 кап. У актах вопісу і ацэнкі кошту канфіскаваных прадметаў маецца пералік дываноў, сурвэтак, пакрывалаў, дарожак, мэблі, падсвечнікаў, свяцільнікаў і іншых прадметаў якія былі перададзены Навагрудскаму райунівермагу і Уселюбскаму сельпо для продажы.

У снежні 1951 года ў раённы выканаўчы камітэт звяртаецца Навагрудскі харчкамбінат з просьбай выдзеліць для вытворчасці карамельных вырабаў дзве мармуровыя дошкі з касцёла Св.Міхаіла. Па акту вопісу і ацэнкі №69 ад 29.12.51 г. Навагрудскі райфінаддзел перадае райхарчкамбінату адну мармуровую дошку памерам 1,75х1х0,4 м і тры мармуровыя дошкі памерам 95х92х4 см і ацэньвае іх кошт па 100 рублёў за 1кв.м. агульная сума перададзенага склала 437 рублёў. Далейшы лёс перададзенай і прададзенай касцельнай маёмасці пакуль невядомы. Магчыма яшчэ сёння ў навагрудскіх сем'ях захоўваюцца рэліквіі з касцёла, якія былі куплены імі ў тыя гады ў магазінах райспажыўсаюза.

Праўда, ў 1953 годзе, нарыхтоўчая кантора "Заготзерно" перадае Дому-музею Адама Міцкевіча бронзавы бюст паэта з плітой з чорнага граніту, які быў зроблены ў 1898 годзе ў Варшаве да 100-годдзя Адама Міцкевіча і тайна ўстаноўлены ў касцёле Святога Міхаіла ў 1903 годзе дачкой паэта Марыяй Гарэцкай. Гэты бюст і сёння знаходзіцца ў Доме-музеі паэта ў Навагрудку.

У 1950-я гады пытанне аб далейшым выкарыстанні будынка касцёла не раз разглядаецца на паседжаннях Навагрудскага райвыканкама. Прымаюцца рашэнні аб перадачы будынка то пад кінатэатр, то пад бібліятэку, то пад музей. Так, тройчы, у 1950, 1951 і 1953 гадах прымаюцца рашэнні аб перадачы касцёла пад кінатэатр, аднак ні адно з гэтых рашэнняў не было выканана. У 1950 годзе райвыканкам просіць Баранавіцкі абласны Савет выдзеліць з абласнога бюджэту 100 тысяч рублёў для правядзення ў касцёле рамонтных работ. Але грошы на гэтыя мэты напэўна выдзелены не былі, таму што ўжо ў 1952 годзе раённы выканкам просіць ўжо 200 тысяч рублёў з абласнога бюджэту на рэканструкцыю першага паверха касцёла пад кінатэатр, а другога паверха пад

бібліятэку. У рашэнні райвыканкама гаворыцца: "…в городе Новогрудке культурно-просветительные учреждения размещены в жилых домах с недостаточной полезной площадью и их несущие конструкции не приспособлены к максимальной нагрузке – не удовлетворяют всё возрастающие требования населения, а существующее здание бывшего костёла, расположенного по улице Советской и Слонимской никем не эксплуатируется и вполне пригодное для реконструкции под культурно-просветительное учреждение…». У рашэнні таксама прадпісваецца дзеля гэтых мэтаў ачысціць памяшканне касцёла ад рэшткаў зерня, а скляпенні ад солі.

Пасля таго, як спробы арганізаваць у касцёле кінатэатр і бібліятэку аказаліся няўдалымі, (рашэнні райвыканкама так і засталіся на паперы), у пачатку 1960-х гадоў касцёл быў перададзены пад мэблевы склад і магазін. У гэты перыяд у касцёле размяшчаліся нарыхтоўчы пункт і магазін. Яшчэ многія жыхары нашага горада памятаюць, як набывалі мэблю ў касцёле і здавалі ў нарыхтоўчы пункт макулатуру, чыгуны, анучы і іншую нарыхтоўчую сыравіну, а замест гэтага куплялі дыфіцытныя ў той час абутак, адзенне, кнігі.

Храм ператвараецца ў месца гандлю і ў гэты перыяд прыходзіць яшчэ ў большае запусценне. Каштоўныя разбяныя і гіпсавыя скульптуры моцна пашкоджаны, многія нагул знішчаны. Тамара Габрусь, вядомы беларускі мастацтвазнаўца, у час экспедыцыі 1968 года разам з групай студэнтаў-мастакоў знаходзіцца ў Навагрудку і наведвае дамініканскую святыню. Вось як апісвае яна свае ўражанні ад убачанага: "У той час у былым дамініканскім касцёле…размяшчаўся мэблевы склад. Сярод хаоса і занядбання, пылу і бруду, у вялікай двухпавярховай сакрыстыі, размешчанай на паўднёва-заходнім вуглу храма, нашай групай былі знойдзены некалькі вельмі каштоўных готыка-рэнесансных разьбяных скульптур святых, перададзеных пасля ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі".

Праходзіў час, і ў фасадзе будынка касцёла з'явіліся аварыйныя расколіны. Патрэбна была яго тэрміновая рэстаўрацыя, якая патрабавала вялікіх намаганняў і ўкладання грашовых сродкаў. Чыноўнікам не вельмі хацелася займацца праблемамі закінутага будынка. Калі ў 1964 годзе было прынята рашэнне ўзарваць сінагогу, якая стаяла побач з касцёлам, па горадзе папаўзлі чуткі, што разам з сінагогай будзе ўзарваны касцёл. Але, на шчасце гэтага не здарылася, магчыма ўся ўзрыўчатка была выкарыстана для падрыву сінагогі.

У 1976 годзе склад мэблі быў ліквідаваны і касцёл застаўся без нагляду. Унутр будынка мог пранікнуць безперашкодна любы. І амаль адразу ў касцёле здарыўся пажар. Многія навагрудчане памятаюць, як з будынка касцёла некалькі дзён запар ішоў дым. Тады многія казалі, што гарадскія ўлады забаранілі пажарным яго тушыць. Жыхары горада называлі розныя прычыны пажару, і адна з іх – наўмысны падпал. Пажар моцна пашкодзіў будынак, і амаль адразу пасля яго абваліўся касцёльны дах.

У руінах касцёл прастаяў да 1986 года. За гэты перыяд ён канчаткова прыйшоў у заняпад. У выніку працякання даху і пападання ў памяканне атмасферных ападкаў і вільгаці, амаль поўнасцю было знішчана ўнутранае ўбранства храма. Быў пашкоджаны насценны роспіс касцёла і амаль страчана разьба. Касцёл нагадваў разбураны і разрабаваны карабель, які сіратліва стаяў у цэнтры горада. Немагчыма было без болю праходзіць каля яго сцен, якія з нямым дакорам углядаліся ў наваколле. І здавалася, што нікому няма ніякай справы да яго пакутнага становішча.

Але ў канцы 1880-х гадоў пачаўся новы этап у жыцці касцёла. Шмат людзей хваляваў лёс храма і многія навагрудчане мелі дачыненне да выратавання каштоўнага помніка беларускага дойлідства. Вялікія намаганні для аднаўлення касцёла Святога Міхаіла прыклаў ксёндз Навагрудскага Фарнага касцёла Антоній Дзям'янка, якому ўдалося пераканаць Міністэрства культуры распачаць яго рэстаўрацыю.

У 1986 годзе Упраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама накіроўвае ў спецыялізаванае навукова-рэстаўрацыйнае аб'яднанне "Белрэстаўрацыя" ліст-заказ на правядзенне комплексных навуковых даследаванняў помніка ХУIII стагоддзя – касцёла Св. Міхаіла і мужчынскага дамініканскага кляштара ў Навагрудку.

У 1987 годзе пачалі праводзіцца гісторыка-архіўныя і бібліяграфічныя, а таксама археалагічныя даследаванні. У 1988 годзе праведзены комплексныя навуковыя даследаванні ўнутранага стану касцёла а таксама падмуркаў кляштара. У працэсе даследавання помніка архітэктуры было выяўлена, што ў 1940-я гг. у інтэр'еры касцёла налічвалася ад 9 да 11 алтароў, арган на харах, да 12 канфесіяналаў, лаўкі для прыхажан, драўляны амвон. Бронзавая жырандоль на 24 падсвечнікі перад Вялікім алтаром, іконы і іншы касцельны скарб. Пасля закрыцця касцёла і да пачатку правядзення навуковых даследаванняў храма, захаваліся толькі 9 алтароў, якія маюць значныя пашкоджанні. Камісія ўстанавіла, што асноўныя пашкоджанні скульптуры, ляпніны і дэкаратыўнага ўбранства касцёла адбыліся менавіта ў 60-70-я гг. XX стагоддзя. "Калі ляпніна ў асноўным разбуралася ад пападання ў касцёл вільгаці праз адтуліну ў зводзе цэнтральнага нефа, то адсутнасць на 90% скульптуры і мноства мясцовых сколаў ляпніны можна аднесці да мэтанакіраванага іх знішчэння асобамі, якія мелі доступ у сярэдзіну храма" – такім было заключэнне экспертаў.

Пасля завяршэння грунтоўных гісторыка-археалагічных і архітэктурных даследаванняў пачаліся рэстаўрацыйныя работы, якія праводзіліся ў некалькі этапаў. Пасля правядзення першапачатковага рамонту храм быў перададзены вернікам і пачаўся новы этап рэстаўрацыйных работ. Канчаткова працы па аднаўленню касцёла былі завершаны ў 1996 годзе.

Сёння адноўлены храм зноў збірае пад сваім дахам вернікаў і з'яўляецца асноўным рэлігійна-культурным і асветніцкім цэнтрам для католікаў Навагрудка. Побач з касцёлам, на падмурках былога дамініканскага кляштара вядуцца будаўнічыя работы.

## Літаратура:


1. Габрусь, Т. Дамініканская святыня ў Навагрудку // Гістарычная і культурная спадчына Навагрудчыны. Мінулае і сучаснасць. Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі 12.06.2004 г., Навагрудак – Мінск, 2004.
2. Касцёл св. Міхаіла ў Навагрудку. Ave Maria . – 1995. - № 9-10.
3. Занальны дзяржаўны архіў у г.Навагрудку. Рашэнні Навагрудскага раённага Савета дэпутатаў №82 ад 20 лютага 1950 г.; №181 ад 17 красавіка 1951 гю; №30 ад 26 студзеня 1952 г. Ф.33 воп.1, спр.62, л.41; спр.81, л.143; спр.101, лл.84,85.
4. Занальны дзяржаўны архіў у г.Навагрудку. Матэрыялы па рэалізацыі маёмасці закрытага польскага касцёла ў Навагрудку. (Акты вопісу і ацэнкі, Асабовыя рахункі, Паручэнні і іншыя дакументы за 1951-1952 гг.). Ф.18, воп.1, спр.196, лл.6-18.
5. Памяць: Гістор.-дакум.хроніка Навагрудскага р-на. – Мн.: Беларусь,1996.
6. Специальные научно-реставрационные производственные мастерские. Историко-архивные и библиографические изыскания. Минск. 1988.
7. Специальные научно-реставрационные производственные мастерские. Комплексные научные изыскания. Памятник архитектуры XVII-XVIII века – костёл Михаила – мужского доминиканского монастыря в Новогрудке. Минск. 1988.
8. Специальные научно-реставрационные производственные мастерские. Комплексные научные изыскания. Архитектурно-конструктивные элементы памятника архитектуры 18 в. костёл Михаила – мужского доминиканского монастыря в Новогрудке. Минск. 1988.
9. Matys, Tatsiana Oltarz glowny z kosciola swientego Michala w Nowogrodku. Historia i proba rekonstrukcji stanu pierwotnego. Praca seminaryjna. Uniwersytet Kardynala Stefana Wyszynskiego. Instytut Historii Sztuki. Warszawa 2007.
10. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі ў 6 т Т.5. Мн.: БелЭн., 1999.






**Ярашук М.В.**

# Навагрудчына першай паловы XIX ст. вачыма сучаснікаў

## (па матэрыялах мемуарнай літаратуры)

Гісторыя Навагрудскай зямлі налічвае хутка ўжо тысячу год, калі лічыць ад заснавання горада. Кожны яе перыяд мае сваю адметнасць і непаўторнасць, насычаны значнымі падзеямі і асобамі, таму не павінен застацца па-за ўвагай даследчыкаў. Першая палова XIX ст. для ўсіх беларускіх зямель была часам вялікіх пераўтварэнняў пасля далучэння да Расійскай імперыі, якія закранулі і грамадскае, і асабістае жыццё іх насельніцтва. Навагрудчыну гэтага перыяда часта называюць Навагрудчынай Міцкевіча. Тут прайшлі яго дзіцячыя, юнацкія гады, менавіта гэта зямля натхняла яго і давала вобразы для творчасці. Па-новаму паглядзець на падзеі тых часоў, зразумець, што бачыў вакол сябе, побач з якімі людзьмі жыў Адам Міцкевіч, які лад жыцця, звычкі, самаўсвядамленне было ў жыхароў Навагрудчыны першай паловы XIX ст. дазваляюць успаміны сучаснікаў.

Каэтан Крашэўскі ва ўступным слове да ўспамінаў навагрудскага шляхціца Нікадзіма Керсноўскага пісаў: "…Есць у іх *(мемуарах)* вобраз жыцця сапраўднага, есць праўда, а праўда – гэта найвышэйшая прыгажосць. Успаміны з'яўляюцца як бы другім пластом гісторыі краю, безумоўнай асновай, на якую кінутая сець галоўных выпадкаў прыймае ўласцівы сабе, сапраўды праўдзівы каларыт. Гісторыя краю – гэта гісторыя людзей, таму з'яўляецца зборам успамінаў яго жыхароў" [1, с. 3].

Да нашага часу захавалася некалькі ўспамінаў жыхароў Навагрудскага павета (у склад яго ў першай палове XIX ст. уваходзілі такія населеныя пункты, як Карэлічы, Мір, Турэц, Баранавічы і шэраг меншых весак і шляхецкіх маенткаў) [2, с. 67-82].

Старэйшы брат Адама Міцкевіча Францішак (1794 – 1862) стала жыў на Навагрудчыне да 1831г., пасля за ўдзел у паўстанні 1830-1831гг. вымушаны быў эмігрыраваць, дзе і пачаў пісаць пад уплывам брата Адама і сябра А.Э. Адынца ўспаміны. Яны ахопліваюць падзеі пачатку XIX ст.–1811/1812гг., ярка прадстаўляюць атмасферу бацькоўскага дома аўтара, жыцце горада, грамадскі настрой у чаканні Напалеона [3, с. 15-29].

Успаміны Нікадзіма Керсноўскага (1794-па 1891), навагрудскага шляхціца, які служыў у адвакатуры, часам урыўкавыя і не звязаныя паміж сабой, але добра характарызуюць судовую дзейнасць, падзеі вайны 1812г. і паўстанне 1830-1831гг. на Навагрудчыне, а таксама перадаюць уражанні самаго аўтара [3, с. 15-29].

Частка гэтых успамінаў была выкарыстана Эдвардам Паўловічам (1825 – 1909), мастаком, удзельнікам паўстання 1863г., у працы "Навагрудак у XIX ст.", якую ен дапоўніў уласным бачаннем жыцця Навагрудка 1840-х – 1850-х гг. [4, с. 1-46]. Ваколіцы Навагрудка і падзеі, што адбываліся тут у першай палове XIX ст., Э. Паўловіч апісвае на аснове ўспамінаў сучаснікаў і сваіх уласных у кнігах "Успаміны з-над Віліі і Немана" [5, с. 31-114], "Успаміны: Навагрудак. Турэмнае зняволенне – выгнанне" [6, с. 15-29].

Цікавасць выклікае твор "Аповесць з майго часу, альбо Літоўскія прыгоды" Ігнацыя

Яцкоўскага (1795 ці 1800 – 1873), ураджэнца Навагрудскага павета, які, хутчэй за ўсе, працаваў адвакатам, удзельнічаў у паўстанні 1830-1831гг., быў вымушаны пакінуць радзіму. І. Яцкоўскі выразна вылучае і адрознівае дзве плыні апавядання: першая плынь – гэта апісанне прыватнага жыцця яе герояў, а другая – характарыстыка найбольш значных здарэнняў (гістарычных і бытавых) на Навагрудчыне. Аўтар падае навагрудскія рэаліі канца XVIII – пачатку XIX ст., падзеі 1811-1812гг. [7, с. 914-915].

У асобную групу можна вылучыць мемуары, аўтары якіх непасрэдным чынам не звязаны з Навагрудчынай:

- Пад час падарожжа маглі пазнаеміцца з паветам і яго жыхарамі, як П.Шпілеўскі [8, с. 83-91], В. Станішэўскі [9, с. 122-123], Ю.У. Нямцэвіч; [10, с. 391-392];
- Сустракаліся па-за межамі Наваградчыны з яе ўраджэнцамі і захавалі свае ўражанні аб іх (Г. Пузыніна [12, с. 159-163]) альбо ўспаміны саміх навагрудчан аб радзіме (М. Гарэцкая [13, с. 4-5]).

Кожны аўтар успамінаў прадстаўляе свае бачанне падзей, таму задача даследчыка – разабрацца ў гэтым калейдаскопе ўражанняў і скласці па магчымасці больш поўную карціну жыцця Навагрудчыны першай паловы XIX ст., шматгранную і непаўторную.

“Навагрудскі павет на Літве – гэта маленькі астравок у акіяне. Яго здалек ледзь відаць, але ен так прываблівае сваею паверхняю, што калі карабель праплывае паблізу яго, то раздаюцца міжвольныя воклічы падарожных, каб затрымацца тут,” – так вобразна характактарызуе гэты край І. Яцкоўскі [14, с. 970]. Удалае размяшчэнне паблізу сістэмы водных каналаў Агінскага, што злучала Чорнае мора з Балтыйскім, і Неманам дазваляла атрымоўваць добрыя прыбыткі ад гандлю. Пушчы і лясы добра забяспечвалі насельніцтва драўнінай для будоўлі і апалу. Землі з-над берагоў Сэрвачы, Ушы і Задзвейкі былі настолькі ўрадлівыя [10, с. 392], што гэту частку павета называлі навагрудскай Украінай. Да таго ж мясцовасць прываблівала маляўнічасцю прыроды, старых касцелаў і цэркваў, весак і ваколіц і можа быць залічана да найбольш шчасліва размешчаных у Літве (як да сярэдзіны XIX ст. называлі заходнюю частку сучаснай Беларусі) [5, с. 15].

Пасля далучэння да Расійскай імперыі Навагрудак перастаў быць цэнтрам ваяводства, пераўтварыўся ў сціплае павятовае мястэчка. Э.Паўловіч пісаў у пачатку XXст.: “З жалем трэба сказаць, што той старажытны горад, тая калісьці сталіца даўняй Літвы, а пасля ўпадку края – адно з найважнейшых асяродкаў, – з цягам часу і сілай выпадкаў, не толькі страціў даўнія рысы свайго вялікага мінулага , – але, шкада гэта прызнаць, ледзве штосьці захаваў з тых бліжэйшых нам часоў, калі будучы майстар песні і асілак у краіне духа, жыў тут” [4, с. 1-2]. Як адбываліся гэтыя змены ў знешнім выглядзе і жыцці Навагрудка дазваляюць прасачыць успаміны сучаснікаў.

Едучы альбо ідучы да ***Навагрудка***, падарожных ужо здаля ўражвала незвычайная вышыня мясцовасці, якую ўвенчвала высокая гара, ашчаціненая спрадвечнымі вежамі [4, с. 3]. На той час захавалася дзве вежы і байніца, апаясаная мурам [3, с. 61]. Мемуары дазваляюць узнавіць таксама адносіны людзей да гэтага помніка, што яны адчувалі, знаходзячыся тут. Э.Паўловіч, як мастак, вельмі захапляўся краявідамі, якія адкрываліся з Замкавай гары. “Гледзячы на ўсе тое з вышыні гары, вока не можа адарвацца ад таго віда, у якім мінулае і сучаснае гаворыць да цябе такой выразнай мовай,” – піша ен у адным месцы [5, с. 52]. У іншым чытаем: “Яе старыя вежы, –яе пышныя краявіды, у якіх губляўся позірк, а дух узнімаўся, – мелі для мяне прыгажосць неапісаную” [6, с. 64].

Пасярэдзіне Замкавай гары ўзвышаліся маляўнічыя муры напалову зруйнаванай царквы Успення Божай Маці. Яе аздабляла стройная вежа, а смела выгнутае скляпенне было мэтай свавольстваў школьнай моладзі, якая заглядала туды падчас перапынкаў паміж лекцыямі. У сярэдзіне XIXст. царкву разабралі, а з матэрыялу пабудавалі гасцініцу [4, с. 4-5]. Перад валамі на замку стаялі два судовыя будынкі, адзін заняты Гродскім судом, а другі – Земскім [14, с. 974].

Каля падножжа гары размяшчаўся вялікі мураваны касцел – Фара Вітаўта, парафіяльны да сярэдзіны стагоддзя, побач з якім былі рымска-каталіцкія могілкі [3, с. 62; 4, с. 5].

З Замкавай гары адкрываўся від на гару Міндоўга, якая ў той час знаходзілася

за межамі горада і яго прадмесцяў Аб яе заснаванні хадзілі легенды [3, с. 62; 14, с. 973]. Н.Керсноўскі ўспамінаў, што “да 1810г. гара была намнога вышэйшай, а на самым версе стаяла мураваная капліца, якая праз нядбаласць магістрату і жыхароў, доўгі час падкопваючых яе для здабычы пяску, з большай часткай гары абрушылася і была разабраная” [4, с. 9-10]. Пазнаеміўшыся з Навагрудкам, Ю.У. Нямцэвіч памылкова назваў яе магілай Альгерда [10, с. 391].

Гарадская плошча размяшчалася на самым версе ўзвышша, была цэнтрам горада і называлася Рынкам. На ім стаялі наўскасяк два рады яўрэйскіх крамаў, што ў пачатку стагоддзя былі драўлянымі. І.Яцкоўскі пісаў, што “даўно было рэкамендавана пакласці брук … і паставіць мураваныя крамы, і дзеля гэтае мэты быў прызначаны ў якасці матэрыялу паезуіцкі касцел… Апроч таго, кожная фурманка, якая ехала з таварам на рынак, павінная была прывезці камень дзеля брукавання. Але тое каменне ці то раставала, ці то правальваліся праз зямлю, цяжка даведацца, бо тыя крушні ніклі адпаведна таму, як будаваліся дамы, у якіх былі зацікаўлены гараднічы, бурмістр ці які лаўнік… Між іншых на рынку стаялі дзве карчмы – Рай і Пекла, у сценах якіх прытаілася свянцоная цэгла…”. У Навагрудку так і заставалася непралазная гразь вясною, восенню і пасля кожнага ліўня [14, с. 972-973], а драўляныя крамы сталі прычынай буйнога пажара ў горадзе [3, с. 70-72]. Дадаць патрэбна, што пэўнае добраўпарадкаванне ў Навагрудку праводзілася, таму што на вуліцах меліся фанары [3, с. 70].



*Навагрудскі павет у першай палове XIXст.*

Побач з плошчай, як успамінаў Ф.Міцкевіч, узвышалася ратуша двухпавярховая з пяціпавярховай вежай, на самым версе якой была змешчана статуя архангела Міхаіла, патрона горада. Ратуша мела гадзіннік з двума званамі, што званіў нават ноччу і гукаў якога прытрымлівалася ў сваім жыцці ўсе насельніцтва горада [3, с. 46-47]. Вакол Рынка валодалі дамамі толькі абываецелі, што мелі зямельныя ўладанні, і гаражане, асабліва члены магістрату [4, с. 12]. Ф.Міцкевіч таксама падрабязна зафіксаваў колькасць дамоў у горадзе, у тым ліку мураваных, кляштароў, касцелаў і цэркваў, колькасць крамаў, аптэкаў, назвы і выгляд вуліц (да 1812г.) [3, с. 68].

Тагачаснай праблемай для Навагрудка быў недахоп вады, якую для патрэбаў жыхароў даставалі толькі са студняў, таму ў горадзе не маглі працаваць фабрыкі. Аднак у лагчынах, на канцы кожнай вуліцы вады было столькі, што можна было рабіць ставы і збіраць там ваду з ручаін і крыніц, якія ніколі не высыхалі [14, с. 973].

Такім бачылі Навагрудак у першай палове XIXст. жыхары горада і павета. Паўсядзеннае іх жыцце таксама добра характарызуецца з дапамогай мемуараў. Так як іх аўтары былі шляхціцамі, больш альбо менш заможнымі, то значную ўвагу яны ўдзялялі ***ладу жыцця*** менавіта свайго сацыяльнага слоя. Звычайна шляхта, якая валодала маенткамі альбо арандавала іх у павеце, у горад выбіралася на кантракты, павятовыя сеймікі, кірмашы альбо забавы.

Навагрудскія кантракты адбываліся штогод у сакавіку, былі аднымі з найбуйнейшых, як кіеўскія, мінскія і віленскія [1, с. 12, 25]. На іх з’язджалася ўся навакольная шляхта, каб уладзіць свае зямельныя і грашовыя інтарэсы. Часцей за ўсе разлічваліся зала-

той альбо срэбранай манетай, баючыся падробленых папяровых асігнацый, якія пастаянна абясцэньваліся [14, с. 929]. Найбольш багатыя абывацелі прыязджалі на кантракты з вялікімі касамі, для якіх выкарыстоўвалі па некалькі, часам больш за 10 коней [1, с. 25].

Яшчэ адной важнай падзеяй шляхецкага жыцця былі павятовыя сеймікі, якія праводзіліся кожныя тры гады і на якіх адбываліся выбары службовых асобаў у суды і вышэйшых чыноўнікаў павета [1, с. 26]. Права голаса мелі шляхціцы, якія валодалі не менш чым васьмю хатамі падданых [1, с. 7] і падцвердзілі свае шляхецтва дакументамі [3, с. 74]. Атмасферу сеймікаў добра перадаў Ф.Міцкевіч: "… для фарміравання спіска кандыдатаў разышліся па гораду. Гоман незвычайны у кватэрах прыезджых: –адны другіх наведваюць, адны з другімі заключаюць дамовы, адны другіх просяць аб дапамозе, рэкамендацыі, выбарчым голасе – дапытваюць, хто аб якой пасадзе будзе старацца? – наколькі моцная партыя таго ці гэтага? –каму давяраць? – …каму кланяцца? – каму лыгаць? – чым каго страшыць? – аб кім не клапаціцца? – каму далей свае паслугі прысвяціць? …– і да таго падобныя камізмы ў вышэйшай ступені займалі тых, хто спяшаўся да прыбыткаў, значэння, прэтэндаваў на грамадзянскую службу" [3, с. 75]. Н.Керсноўскі ва ўспамінах падрабязна назваў службовыя пасады ў павеце, на якія былі выбарчымі: маршалак, усе пасады судовыя – і якія назначаліся ўладамі: гараднічы, страпчы (пракурор), скарбнік, поштмайстар, каморнік, ляснічы, загадчык склада з памочнікамі і канцэлярыстамі, адвакаты (найменш 10 чал.) [4, с. 13]. Ен сам працяглы час працаваў у судзе, паступова прайшоў розныя пасады, пачынаючы з самых ніжэйшых, таму быў добра дасведчаны ў працы суда, аб чым падрабязна расказаў ва ўспамінах. Н.Керсноўскі параўноўваў дзейнасць судоў да адмены Літоўскага Статута і пасля яе [1, с. 9-14].

Пасля далучэння да Расійскай імперыі адтуль сталі прыязджаць розныя прайдзісветы, "каб заняць пасады, на якіх была патрэбна не вядомая яшчэ палякам мова. Адно толькі прачытаць экспедыцыю, напісаную па-расейску, ужо добра аплачвалася" [14, с. 949]. Паступова сеймікі станавіліся ўсе больш фармальнымі, асабліва пасля паўстання 1830-1831гг. Адзін маршалак мог займаць пасаду некалькі разоў па 3 гады, калі яна прыйшлася да смаку, абмяжоўваючы сваю дзейнасць нярэдка падпісываннем папераў, што падаваў сакратар. Так сакратар фактычна кіраваў губерняй ці паветам [4, с. 41].

Звычайна ў лістападзе, скончыўшы гаспадарчыя справы ў маентках, больш заможная шляхта з'язджалася з цэлымі сем'ямі на забавы ў Навагрудак, дзе мела свае дамы альбо здымала памяшканні. У горадзе распачыналіся балі, карнавалы, казіно, вечары, аматарскія і студэнцкія тэатры і іншыя падобныя забавы, незвычайны рух ахопліваў горад [3, с. 60, 69]. "Напачатку ХІХст. шулерства і залетнасць былі для абодвух палоў найбольш выразнымі адзнакамі, чым калі-небудзь пазней. Можна было бачыць панічоў і паважных матронаў, якія сыпалі золата на шулерскі столік, альбо радзілі, у які спосаб адыграцца, альбо складвалі яшчэ больш сакрэтныя планы. Гэта быў тагачасны парадак, які парушыла камета 1811г." – пісаў І.Яцкоўскі [14, с. 972]. У Навагрудку існаваў своеасаблівы звычай – не злоўжываць віном на вечарах пры дамах. Мужчыны маглі "належным чынам ушанаваць Бахуса", калі ўсе жанчыны адпраўляліся дадому [14, с. 993]. Абывацелі павета, падзеленыя на групы згодна ступені, пасады, маемасці, настроя, намераў, цывілізацыі, звычак, схільнасцяў, аддаваліся восеньскім і зімовым пацехам [3, с. 70]. У невялікім сямейным коле адзначалі святы Божага нараджэння, Вялікадзень. Напрыклад, А.Міцкевіч захаваў мясцовыя традыцыі іх святкавання і, жывучы ўжо ў эміграцыі, перадаваў іх сваім дзецям [13, с. 40-41].

У павятовы горад абывацелі накіроўвалі сваіх дзяцей на вучобу. Хлопчыкі навучаліся ў гувернераў альбо ў дамініканскай школе. Жыцце і распарадак вучобы ў ей паказаў Н.Керсноўскі [4, с. 16]. Для дзяўчынак навучальных установаў не было, але ўдава прэзідэнта гродскага суда Пацыніна прымала да сябе на выхаванне шляхецкіх дочак. З дзяўчатамі займаліся Бяляўскі, музыка былога аркестра Агінскага ў Слоніме, Ян Пілецкі, майстар танца таксама са Слоніма, і фартэпіяніст Бенедыкт Паўловіч [14, с. 966-970].

У мемуарах сустракаюцца звесткі і аб іншых сацыяльных і этнічных групах насельніцтва Навагрудка, іх занятках. Значную колькасць жыхароў састаўлялі татары. "Яны мелі пэўныя прывілеі, што захаваліся і пасля далучэння да Расійскай імперыі: не давалі рэкрутаў, не

плацілі з залежных душ падаткаў, альбо на вечных чыншах, арэндах, альбо на ўласнай валоцы зямлі седзячы – вырошчваннем цыбулі, тытуню, зяляніны, садавіны вырабам скур і фурманствам займаліся “[3, с. 66]. Выраз “Паслаць па татарына!” азначаў, што трэба паслаць на пошту па коней [4, с. 8]. Татары запомніліся як вельмі дысцыплінаваны, надзейны народ, які трымае дадзенае слова. Маліліся па-арабску, але сэнс ужо забыліся. Характэрна, што і мужчыны, і жанчыны безупынна курылі тытунь [3, с.67]. Жылі ў Навагрудку яшчэ і яўрэі, якія мелі свае дамы на Жыдоўскай і Валеўскай вуліцах. Займаліся гандлем (іх крамы размяшчаліся на Рынку), майстэрствам, шынкамі і махлярствам [3, с. 66; 4, с. 12]. Нават у эміграцыі А.Міцкевіч з замілаваннем успамінаў навагрудскія абаранкі, якія прадавалі яўрэі, казаў, што няма на свеце печыва, больш цудоўнага за іх [13, с.41].

Заведзены лад жыцця павета быў зменены пад уплывам падзей, звязаных з ***вайной 1812г.***, а пасля паўстаннем 1830-1831гг.

Ужо ў 1811г. са страхам прадбачылі блізкую вайну, нават прыродныя з’явы як бы прадказвалі яе. На небе з’явілася вялікая камета з шырокім хвастом, якая была відаць усе лета да кастрычніка, а ўвесь год быў вельмі спякотным [1, с. 14; 14, с. 962-963]. Ва ўспамінах добра асвечаны наступныя падзеі 1812г.:

- Перамяшчэнне рускіх войскаў на захад у пачатку 1812г., рэквізіцыі, якія праводзіліся вайскоўцамі (І.Яцкоўскі [14, с.1000-1002]);
- Вяртанне рускіх, іх спроба запаліць склады ў Навагрудку і дзеянні мясцовых жыхароў для папярэджвання гэтага (І.Яцкоўскі [14, с.1003]);
- Напрамкі руху арміі Напалеона (Н. Керсноўскі [1, с.15-16]);
- Уступленне польскага войска, у складзе французкай арміі, у Навагрудак і ўстанаўленне новага адміністрацыйнага парадку (І.Яцкоўскі [14, с.1004-1007], Н.Керсноўскі [1, с.17-20]);
- Фарміраванне 19-га уланскага палка ў Навагрудку (І.Яцкоўскі [14, с.1012-1019];
- Паражэнне французскай брыгады Ражнецкага пад Мірам І.Яцкоўскі [14, с.1007], Н.Керсноўскі [1, с.18]);
- Рабункі французамі насельніцтва (І.Яцкоўскі [14, с.1008-1012], Н.Керсноўскі [1, с.18-19]);
- Паражэнне французаў і іх вяртанне (І.Яцкоўскі [14, с.1008-1012], Н.Керсноўскі [1, с.18-19]);

Акрамя таго, успаміны прадстаўляюць вялікую каштоўнасць, таму што дазваляюць прасачыць грамадскі настрой, адносіны да напалеонаўскай арміі і іх змены. Першапачаткова насельніцтва ўскладала вялікія надзеі на Напалеона, спадзеючыся, што ен адновіць былую дзяржаўнасць, вызваліць ад расійскай улады. Яшчэ перад вайной пад гэтым уплывам моладзь уцякала за Неман, што рабіла складанасці бацькам, апекунам, бо патрэбна было апраўдвацца перад уладамі, часта дадаючы на запытанне “цяжкія допісы” у выглядзе нагружаных рознымі прадуктамі фурманак [14, с.947-949]. Насельніцтва радасна сустракала польскае войска ў 1812г., палкі якога праходзілі з музыкай праз горад, адзін за другім на працягу некалькі гадзін [1, с.17]. На вестку, што фарміруецца 19-ы уланскі полк, наплывала моладзь рознага стану; нават сяляне ахвотна станавіліся ў шэрэнгі [1, с. 20-21; 14, с. 1013]. Але агульнае расчараванне ўзрастала па меры таго, як узмацняліся рабункі французамі насельніцтва і грубае абыходжанне з ім [1, с. 18; 14, с.1005, 1008-1011]. Успаміны шляхціца Н.Керсноўскага дазваляюць зразумець адносіны да вайны, пачуцці і перажыванні мясцовага насельніцтва. Рух рускага войска выклікаў страх, абывацелі не адчувалі сябе бяспечнымі ў сваіх маентках, таму накіроўваліся ў горад, дзе вайсковыя аддзелы давалі пратэкцыю [1, с.16; 14,с.1000-1002]. Самаму Н.Керсноўскаму давялося хавацца як ад рускіх войскаў, так і ад французскіх, якія аднолькава займаліся рабункамі [1, с.1000-1002].

Стаў ен сведкам і паўстання 1830-1831гг., якім на Навагрудчыне кіравалі тагачасны маршалак Юзаф Кашыц і Мікалай Межэеўскі, былыя напалеонаўскія афіцэры [1, с. 30-31]. Пунктам збору паўстанцаў былі свіцязянскія лясы [5, с.71-72]. З суседняга Ашмянскага павета на дапамогу прыйшоў палкоўнік Дэмбінскі разам з рэшткамі паўстанцаў. Пераправіўшыся праз Неман, паўстанцы былі гасцінна прыняты гаспадыняй ва Уселю-

бе, хаця яго ўладальнік граф О'Рурк знаходзіўся на расійскай службе. Удзельнікі тых падзей успаміналі, што, хаця ен быў генералам, але не хацеў браць удзелу ў той вайне *(так называлі паўстанне сучаснікі)*, таму вырашыў з атрыманым невялікім атрадам гусараў, рухацца па павеце так, каб нікому не перашкаджаць, з паўстанцамі не сутыкацца [5, с. 94-95]. Жыхары Навагрудка сустракалі паўстанцаў з хлебам і соллю. Аб'яднаныя сілы паўстанцаў рушылі да Дзятлава, дзе адбылася паспяховая для іх сутычка з камандай слонімскага генерала Станковіча. Нягледзячы на гэта, паўстанцы далей не пайшлі, а праз Белавежскую пушчу накіраваліся да Варшавы [1, с.32-34]. У гэтых словах Н.Керсноўскага чуваць шкадаванне, што паўстанне закончылася так бясслаўна.

Э.Паўловіч ва ўспамінах даў пэўны аналіз мерапрыемствам, што праводзіліся расійскім урадам пасля падаўлення паўстання і ўплывалі на матэрыяльнае і духоўнае жыцце тагачаснай Літвы і канкрэтна Навагрудскага павета. Ен пісаў, што наступствамі паўстання быў невядомы дагэтуль упадак духу, і вылучаў шэраг прычын. Перш за ўсе гэта расчараванне пасля гвалтоўнага падаўлення паўстання, апатыя, што ахапіла насельніцтва. Закрыцце Віленскага універсітэта адмоўна сказалася на інтэлектуальным узроўні моладзі, а канфіскацыя маенткаў удзельнікаў – на матэрыяльным жыцці. "Грамадскасць..., пазбаўленая асяродкаў асветы, пазбаўленая жыцця публічнага, усялякага руху, што мог бы дастойна заняць думкі і сэрца, ад прыроды поўная энэргіі, запалу і сілы, вымушана была тыя свае сілы выкарыстоўваць на мэты дробныя, замкненыя ў вузкім коле таварыскага жыцця..." [4, с. 35, 42].

Гэтая глеба стала вельмі прыдатнай для ўплыву французскай моды, імкнення да раскошы, прычым праз меру і звыш матэрыяльных магчымасцей. Дрэнная гаспадарка, шаленыя намаганні, каб падтрымаць раскошнае жыцце, ахрышчанае назвай добрага тону – усе гэта прывяло да збяднення, недахопу крэдыта і ліхвярскіх даўгоў. Менавіта таму ў гэты час зніклі дамы гульні, рэшткі сваволі XVIIIст. Але ж, дзіўная рэч, па меры таго як зніжаўся дабрабыт – узмацнялася і ўсталеўвалася празмернасць [6, с. 37-38]. Жанчыны захапіліся французскай модай, музыкай, літаратурай і імкнуліся быць падобнымі на іх герояў, нават калі тыя былі не лепшым прыкладам паводзінаў і нораваў. Правільна заўважыў якісьці сучаснік, што "па меры як у нас павялічвалася колькасць модных, салонных дамаў, столькі ў нас убывала спраўных гаспадынь і, што яшчэ важней, добрых матак" [4, с. 39].

Добрае размяшчэнне Навагрудскага павета прывяло да таго, што абывацелі былі там больш заможныя, чым у іншых мясцовасцях, таму і празмернаць распаўсюдзілася там шырэй [4, с. 39-40]. Якія ж былі духоўныя асновы навагрудскага таварыства таго часу? Тон у 1840-х гг. задавала кавалерыя: гусары альбо ўланы, якія былі расквартаваны ў горадзе. Хаця іх кіраўнікі былі дастойнымі прадстаўнікамі першых сем'яў Расіі, моладзь тых палкоў была па-рускі разгульная, цынічная і выпіваючая. Карты, п'янкі, а з імі бойкі былі галоўнымі, калі не адзінымі яе заняткамі. Таму амаль штодзень здараліся скандалы, непрыстойныя сцэны і сутычкі з мясцовым насельніцтвам, – сярод якога яўрэі звычайна былі ахвярным казлом [6, с. 41]. Перад Крымскай вайной у горадзе ужо размясцілася артылерыя, афіцэры якой па прыродзе сваей зброі былі людзьмі адукаванымі і па-большай частцы палякамі, таму такіх безупынных свавольстваў ужо не было [6, с. 42].

У канцы 1840-х гг. пачалі адбываліся пэўныя змены ў ладзе мыслення грамадскасці пад уплывам падзей 1848г. на захадзе, а таксама твораў Міцкевіча, Славацкага, Красінскага і інш., але сур'езна над неабходнасцю рэформ яна яшчэ не задумвалася [4, с. 44-45]. Пасля скасавання Статута змянілася навагрудскае таварыства: шматлікія адвакаты згубілі свае значэнне, таму што былі ўведзены закрытыя судовыя пасяджэнні [1, с. 9-10]. Рассеялася гэтае мноства адвакатаў; зніклі двары заселеныя шляхтай пад час набажэнстваў альбо для адпачынку [6, с. 34-36]. Жыцце ў горадзе ўсе больш замірала, і Навагрудак паступова губляў сваю былую значнасць, ператвараючыся ў звычайны невялікі павятовы цэнтр.

Успаміны прадстаўляюць таксама інфармацыю аб ***іншых населеных пунктах*** Навагрудскага павета: весках, маентках, засценках. У першай палове XIXст. адна з галоўных

дарог павета пачыналася з Валеўскай вуліцы ў горадзе, далей ішла да Гарадзішча, дзе разыходзілася направа праз Сталовічы, Дарэўшчызну, Ляхавічы да Пінска, а налева праз Завоссе, міма Стаек, Галубоўшчыны і Снова да Нясвіжа.

Э.Паўловіч, апісваючы вяртанне дадому падчас вучобы ў Вільні, узгадваў наваколлі Навагрудка, іх прыроду, а таксама вескі, праз якія яму даводзілася праязджаць па нясвіжскай дарозе: Глініца, Прылукі, Котлаў, Валеўка, Мірацічы, Туганавічы, Варонча, Дварэц, Гарадзішча, Завоссе, Белая (родная веска) і шэраг шляхецкіх двароў. Рабіў Э.Паўловіч таксама заўвагі аб корчмах, што сустракаліся на шляху [5, с. 53-79]. Асабліва адмоўнае ўражанне заставіла карчма ў Валеўцы. Там ен пабачыў сялянаў, што пілі, сварыліся, скардзіліся на сваю цяжкую долю “з нахіленай смутнай галавою, як бы адчуваючы, што на гэтую іх долю няма ратунку на зямлі”. Аўтар лічыць, што ў распаўсюджванні п’янства вінаваты гаспадары, якія дазваляюць яўрэям адкрываць корчмы і якія не клапоцяцца аб лесе сялян, імкнучыся да ўзбагачэння [5, с. 55-56]. Адзначаў Э.Паўловіч і мясціны, звязаныя з юнацтвам А.Міцкевіча, захапляўся прыгажосцю Свіцязі [5, с. 68-71], распавядаў аб сваіх знаемствах з іх уладальнікамі і жыхарамі [5, с. 59-60, 77]. Перадаў ен і радасны, узнеслы настрой ад сустрэчы Тамаша Зана і Яна Чачота, якія вярнуліся на радзіму пасля 20 гадоў выгнання, былі гасцінна прыняты ў Далматоўшчыне (непадалек ад Цырына) [5, с. 107-113].

У сваіх пазнейшых успамінах Э.Паўловіч імкнуўся даць хаця бы кароткую характарыстыку галоўным асяродкам Навагрудскага павета першай паловы XIXст. Імі былі Шчорсы, Варонча, Сноў, Сваятычы, Крошын, Бартнікі, Вольна, Ятра, Сваротва, Стараельня, Уселюб, Вераскава, Жалязніца [6, с. 48-53].

Першым сярод гэтых дамоў доўгія гады былі Шчорсы. Адольф Кабылінскі з Цяшэўлі быў сведкам апошніх гадоў іх пышнасці. Ен яшчэ з дзіцячых гадоў запомніў, як у Шчорсы да Адама Храптовіча падчас канікулаў наведваліся звычайна прафесары Віленскага універсітэта, найбольш заможная шляхта з усяго краю. Там кіпела жыцце таварыскае і навуковае. Шчорсы пры жыцці Адама Храптовіча насілі назву Літоўскіх Пулаваў [6, с. 48-49]. Падарожнічаючы па краю ў сярэдзіне XIXст, наведаўся туды П.Шпілеўскі. Ен адзначыў прыгажосць каменнага палаца, пышнага сада і багатую бібліятэку, у якой на той момант налічвалася 6000 тамоў. Гэта былі кнігі featured рознага зместу, у асноўным на польскай мове. П.Шпілеўскі пералічыў некаторыя самыя каштоўныя рукапісы XVI-XVIIстст. [8, с. 83-84].

Пра самога Адама Храптовіча Г.Пузыніна пісала, што быў ен характэрнай постацю. Меў выразны твар, валасы белыя, як голуб, ажно ад 30-ці год, нос арліны, голас амаль жаночы, пяшчотны. Пры гэтым валодаў усімі цнотамі, характарызуючымі польскага пана: быў шчодры, міласэрны, паслужлівы. Бацька сваіх сялян і брат шляхты не толькі на паперы, але і на справе. Не на словах, а ва ўчынках быў чалавекам, хрысціянінам і панам [12, с. 159-160].

І.Яцкоўскі звярнуў увагу на адмоўныя рысы Адама Храптовіча. Ен не меў аніякіх пасадаў у павеце, на якія патрэбная была згода абывацеляў. Маенткі Храптовіча, можа, адзіныя на Літве, у якіх паншчына была заменена чыншам. Неман даваў сялянам магчымасць зарабіць на віцінах грошы, каб аплаціць чыншы і падаткі, а робленыя імі колы і каляскі, славутыя на некалькі дзесяткаў міль навокал, гадоўля і продаж быдла і коней, а таксама найманне на цяслярства рабілі іх заможнымі. Храптовіч будаваў асобныя фальваркі, куды перасяляў людзей, каб былі бліжэй да апрацоўваемай зямлі, адкрываў ланкастэрскія школы. Але з часам гэтая добрая сістэма стала псавацца і ліквідоўвацца, асабліва пасля таго, як Храптовіч пачаў асушаць балота. Хутка павялічыўся абшар зямлі, узрасла патрэба ў працаўніках, а таксама прыгон для вяскоўцаў. Паміж сялянамі і адміністрацыяй узніклі спрэчкі, звязаныя з вылічэннем адпрацаваных дзен і падаткаў, што прыводзілі да фізічнага пакарання вяскоўцаў. Маладыя хлопцы, што атрымалі адукацыю ў ланкастарскіх школах, пачалі перабірацца далей ад дому, каб свабодна працягваць вучобу і пастарацца ўжо не вярнуцца ў веску. У адказ Храптовіч скасаваў у сябе ланкастарскія школы. Пры гэтым І.Яцкоўскі не адмаўляў заслугаў Храптовіча, яго патрыятычных памкненняў [14, с. 982-985].

У першай палове XIXст. Мір таксама знаходзіўся ў межах Навагрудскага павета. Успаміны

аб ім пакінулі У.Сыракомля, які нарадзіўся і жыў непадалеку, і П.Шпілеўскі, які завітаў у Мір падчас падарожжа ў сярэдзіне XIXст. У той час Мір быў мястэчкам, вязнучым у гразі, якой славіўся сярод тутэйшых гарадоў [11, с. 39]. Старажытны мірскі замак быў разбураны падчас вайны 1812г. Ад яго захаваліся каменныя вароты, часткі напаўразваліўшайся сцяны і 4 бастыены [8, с. 84]. У мястэчку дзейнічалі касцел, праваслаўная царква, пасярод рынку стаялі мураваныя крамы, драўляная аптэка, паштовая станцыя [11, с. 58-62]. На замкавых развалінах два разы на год збіраліся Мікалаеўскія кірмашы (9 мая і 6 снежня) [8, с. 84], а конскіх кірмашоў праводзілася ажно шэсць на год [11, с. 59]. Калісьці Мір быў цыганскай сталіцай, таму цыгане жылі там і ў першай палове XIXст. Расійскія ўлады ўпарта змагаліся з качавым ладам жыцця цыганаў. Дзесьці ў сярэдзіне стагоддзя цыгане сталі падпарадкоўвацца расійскім законам і перайшлі да сталага жыцця. Звычайна яны займаліся кавальствам, слясарствам, лячэннем коней [8, с. 87, 89-90]. У мястэчку жылі таксама татары і яўрэі, якія займаліся тымі ж справамі, што і навагрудскія [11, с. 62-64]. У Міры дзейнічала яўрэйская семінарыя, якая была ў поўным росквіце ў 1850-х гг., мела каля 200 вучняў. Па успамінах былога яе вучня можна прадставіць лад жыцця мірскіх яўрэяў у іх даволі вузкім нацыянальна-рэлігійным коле [8, с. 87, 89-90].

У другога падарожнага В.Станішэўскага, які не па сваей волі апынуўся ў гэтых мясцінах, а адпраўляўся на выгнанне ў Сібір, такіх глыбокіх успамінаў Навагрудак, Мір, Карэлічы не пакінулі. Гэта можна патлумачыць умовамі, у якіх знаходзіліся зняволеныя і не дазвалялі бліжэй разглядзець мястэчкі. В.Станішэўскі запомніў выразна агульную беднасць і неахайнасць Карэліч, іх незабрукаваныя вуліцы, вялікую гразь і лужыны [9, с. 122-123].

Такім чынам успаміны, што датычацца гісторыі Навагрудка і павета першай паловы XIX ст. вельмі разнастайныя па зместу, храналагічным межам падзеяў, якім яны прысвечаны, арозніваліся таксама мэты, што ставілі перад сабой аўтары, і спосабы іх дасягнення. Але разам успаміны прадстаўляюць карысную крыніцу для ўзнаўлення жыцця Навагрудчыны таго часу, дазваляюць лепш зразумець лад мыслення, традыцыі і звычкі яе насельніцтва, паглядзець на розныя гістарычныя падзеі вачыма іх удзельнікаў.

## Літаратура:

1. Urywki ze wspomnień nowogrodzkiego szlachcica. Opracował Kajetan Kraszewski. Kraków, 1893.
2. Borowy W. Nowogródczyzna Mickiewiczowska // Nowogródzkie. Praca zbiorowa wzdana staraniem Polskiego Towarzystwa Krajoznawczego. Warszawa, 1926. – S. 67 – 82.
3. Pamiętnik Franciszka Mickiewicza. Z autografu wydał i objaśnił Józef Kallenbach. Słowo wstępne Władysława Mickiewicza. Lwów – Warszawa – Kraków, 1923.
4. Pawłowicz E. Nowogródek w XIX wieku. Lwów, 1902.
5. Pawłowicz E. Wspomnienia znad Wilii i Niemna. Lwów, 1895.
6. Pawłowicz E. Wspomnienia: Nowogródek. Więzienie – wygnanie. Lwów, 1887.
7. Хаўстовіч М. "Я хоць і не паэта …" // Arche. Пачатак. № 7-8, 2008. – С.880-923.
8. Шпилевский П.М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Мн., 2004.
9. Staniszewski W. Pamiętnik więźnia stanu i wygnańca.Warszawa, 1994.
10. Niemcewicz I.U. Podróże historyczne po zemiach polskich od 1811 do 1828 roku, wyd. 2. Pbg, 1858.
11. Сыракомля, Уладзіслаў. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах: Успаміны, даслед. гісторыі і звычаяў / Пер. з пол., прадм., камент. Цвіркі К. Мн, 2002.
12. Puzynina Gabriela z Guntherów. W Wilnie i w dworach litewskich. Pamiętnik z lat 1815-1843. Wilno, drukiem Józefa Zawadzkiego.1928.
13. Gorecka M. Wspomnienia o Adamie Mickiewiczu. Kraków, 1897.
14. Яцкоўскі І. Аповесць з майго часу, альбо Літоўскія прыгоды // Arche. Пачатак. № 7-8, 2008. – С. 924-1055.
15. Из записок еврея // Исторический вестник, 1903, т. 91, № 3 – С. 977-1009.

Н. Тэйлар-Тэрлецка (Оксфард)

# Пранікненне ці сімбіёз культур? Двор Замбжыцкіх у Вязыні

Алімпія з роду Замбжыцкіх Свяневіч – паненка са шляхецкага дома, настаўніца геарафіі, жонка даследчыка палітычнай эканоміі, маці чацвярых дзяцей. Яе спадчына, як друкаваная, так і рукапісная, з'яўляецца моцным сведчаннем сувязей польскасці на землях Вялікага княства Літоўскага з этнічнай культурай беларусаў, а яе параскіданыя друкаваныя выданні і чарнавыя накіды з'яўляюцца свайго рода сямейным помнікам[1].

Спачатку некалькі слоў пра яе культурную генеалогію. Каля 1870 г. прадзед Валянцін Замбжыцкі гербу Касьцеша (пам. у 1831 г.), сын аршанскага суддзі Юзэфа, пакінуў родную Магілёўскую губернію і ў некалькіх кіламетрах ад вытоку Вязынкі – прытока Удранкі, купіў два маёнткі: Вязынь з фальваркам Майхроўшчына і Гурновічы з вёскай Сяледчыкі. Мясцовасць была ўзгорыстая і даволі зарослая лесам, землі гліністыя[2]. У Вязыні ён збудаваў дом. На правым беразе ракі насупраць броду на тэрасе вышэй месца, якое затаплівала падчас вясенніх разліваў, адвёў тэрыторыю пад могілкі, якія абслугоўвалі тры бліжэйшыя вёскі; на левым беразе ён пабудаваў маленькую уніяцкую царкву, асвечаную ў гонар св. Ежы (Юрыя). На храмавае свята. 23 красавікаю, сяляне прыходзілі здалёк. І магілы, і каплічку было відаць з вокнаў дому[3]. Пахаванні адпраўлялі на месцы. Да дня пахавання цела знаходзілася ў царкве, дзе звычайна спявалі пахвалы памерламу. У галоўныя святы св. імшу праводзіў уніяцкі ксёндз з Заслаўя, дзе адбываліся хрысціны і вяселлі. Пан Валянцін сябраваў з Гаудэнціем Канстанцінам Вільчыньскім.

Сын Валянціна і Юзафіны з Ясеньскіх, Станіслаў (1823-1907), які ажаніўся з Алімпіяй Чэкатоўскай, збіраў узоры мясцовага фальклору. Пад уражаннем ад даследаванняў Адама Ганорыя Кіркора і Яўстахія Тышкевіча, ён асабліва цікавіўся курганамі[4]. Ён пісаў па-польску і па-беларуску сатырычныя вершы ў алегарычна-эзопавым стылі з нейкіх выпадкаў – *Гутарка Сталука, Малітва, Каляда, а таксама СудКата ў Вайтэлях*, у якіх былі зашыфраваныя тонкія намёкі на ўладальнікаў суседніх маёнткаў, на праследаванні палякаў на тэрыторыі, якую заняла Расія, і крывавыя рэпрэсіі супраць беларусаў пасля забароны уніяцкай царквы. У *Карце-легендзе* ён прадстаўляе постаць

[1] Archiwum Olimpii Świaniewiczowej w Polskim Instytucie i Muzeum Sikorskiego w Londynie, inw. KOL 261.
[2] *Slownik geograficzny Krolestwa Polskiego i innych krajow slowianskich*, pod red. B. Chlebowski, xiii (Warszawa, 1893), s. 277.
O. Świaniewiczowa, *Spór o ludowy pierwowzór* 'Dziadów', „Wiadomości" nr 22 (1471) z 9 czerwca 1974. List do Stanisława Pigonia z 29 listopada 1965.
[3] O. Świaniewiczowa, *Spór o ludowy pierwowzór* 'Dziadów', „Wiadomości" nr 22 (1471) z 9 czerwca 1974. List do Stanisława Pigonia z 29 listopada 1965.
*Slownik geograficzny Krolestwa Polskiego i innych krajow slowianskich*, pod red. B. Chlebowski, xiii (Warszawa, 1893), s. 277.
[4] Por. *Belarusskaya savetskaya entsyklapedya Yanka Kupala. Entsyklapedytchny davednik* (Minsk, 1986), s. 239.

пілігрыма, чалавека несагнутага, які хоча лепш весці бадзячае жыццё, чым змяніць веру.

Замбжыцкія жылі згодна з польскай традыцыяй: цётка Вікторыя Бароўская была нястомнай арганізатаркай падпольнага навучання польскай мове. Як і многія дамы па суседству, Вязынь гасцінна прымаў вандруючых жабракоў – мужчын і жанчын, якія ўцяклі ад прымусовага пераходу ў праваслаўе пасля адмены уніяцкай царквы ў 1839 г. і праследавання рымска-каталіцкага касцёла пасля 1863 г., хадзілі ў святыя месцы, у Вострую Браму ў Вільні і бліжэйшую Кальварыю, пазбягаючы такім чынам увагі царскай паліцыі. Гэтыя паломнікі прыносілі палітычныя навіны з шырокага свету, а зімой у замен за навучанне дзяцей катэхізісу, яны атрымлівалі начлег у дварах і засценках.

Унучка Станіслава і дачка Юзэфа Замбжыцкага (1860-1948) і Зоф'і з Віткоўскіх[5], Алімпія, нарадзілася ў Гомелі 19 лістапада 1902 г. (па старму стылю) і амаль усё дзяцінства правяла ў родным маёнтку. Асабліва ёй запомніўся жабрак, які прыходзіў у Вязынь кожны год аж да пачатку першай сусветнай вайны, расказваў "патрыятычныя" [6] навіны, якія датычылі шансаў палякаў вызваліцца з-пад царскай улады. Юзэф атрымаў Вязынь у 1906 г. і, паколькі ён падтрымліваў традыцыі навакольнага сялянства, у 1912 г. аднавіў на пагорку "Арарат" кастры на св. Яна, якія праваслаўнае духавенства і царская паліцыя забаранілі шмат гадоў назад, на якія жыхары Сяледчык, Ліпеня і Крыніцы збіраліся ў такой вялікай колькасці, што праз год услед за іх прыкладам пайшла вёска Гірэвічы.

Кантактуючы з сялянамі, дзяўчына набіралася ведаў пра нацыянальную гісторыю і гісторыю павета, гісторыю рэлігіі, забабоны і вераванні. З малых гадоў яна ўдзельнічала ў абрадах беларускай вёскі. На Вялікдзень яна разам вясковымі дзецьмі спявала "Малога шкаляра", назаўтра хадзіла па хатах разам з валачобнікамі, разам з імі збірала падарункі – бачок і каўбасы.[7] У святы вечар напярэдадні перад днём св. Яна разам з сястрой яна мылася ў пшанічнай расе і, захоўваючы маўчанне, хутка клалася спаць з надзеяй, што ёй прысніцца вешчы сон. Яна таксама ўдзельнічала ў сельскагаспадарчых працах: пасвіла з дзяўчатамі свіней, паганяла коней падчас малацьбы збожжа.[8] Яна пастаянна суправаджала свінапаса, сірату Базыля Шарэнду. Ён расказваў шматлікія мясцовыя легенды і паданні, якія пачуў ад дзядзькі Ільюка Шарэнды.[9] Так яна даведвалася аб прымусовым пераводзе беларускіх уніятаў ў праваслаўе. З размоў з Базылём і Ільюком, а таксама з Лукашам Грышалем з вёскі Крыніца ведала, што ў 1865 г. сілай перавялі мясцовы уніяцкі касцёл "на магілах", пабудаваны яе прадзедам. Калі парафіяне баранілі сваю святыню, казакі разагналі вясковую грамаду нагайкамі і "слёзы Рагнеды журчалі ў рэчцы Княгінцы"[10].

Вясковыя адносіны: пра беларускае *Ars Moriendi (мастацтва паміраць)*

У перакананні, што паланісты не разумеюць мясцовых рэалій і культурнай асновы "Дзядоў" Міцкевіча, Алімпія, будучы ўжо ў гадах, напісала навуковую працу - першаўзоры рытуалу[11]. Яна апісвае з уласных назіранняў беларускія абрады, звязаныя са смерцю, пахаваннем і культам памерлых. Калі пачыналася агонія, запальвалі грамнічную свечку і адчынялі круглыя жалезныя дзверцы ў печы, каб аблегчыць выхад грэшнай душы чалавека;[12] калі агонія працягвалася, рабілі дзірку ў столі. На палажэнні вачэй памерлага можна было варажыць. Навіну пра смерць гаспадара перадавалі пчолам і коням,

[5] Ur. w 1870 r., była córką Alojzego Witkowskiego, powstańca styczniowego, i Emilii z Postów (1840-1916).
[6] *Spór*..., list do Pigonia z 20 października 1965.
[7] *Spór*..., list do Pigonia z 20 października 1965.
[8] Notatnik pn. *Pamiętnik z pobytu w Indonezji*..
[9] *Interpretacja "Dziadow" mickiewiczowskich na podstawie folkloru bialoruskiego*, s. 59-60.*Interpretacja*, 5.
[10] *Interpretacja*, 5. Rognieda (Rahnieda), córka księcia połockiego Rogwilda, jest bohaterką niezakończonego poematu historycznego Janka Kupaly.
[11] Maszynopis *Interpretacji*... obejmuje 162 ss.. Streszczenie w: „Rocznik Polskiego Towarzystwo Naukowego na Obczyznie", Rok 1970-71, s. 141-151.
[12] *Pogrzeby, stypy i dziady we wsi Sieledczyki*, „Rocznik Polskiego Towarzystwo Naukowego na Obczyznie" x, (1959-60), s. 80-8.

пра гаспадыню – каровм, авечкам, свіням і хатняй птушцы. Труп элегантна апраналі , уключна з капелюшом. У труну, збітую з дапамогай суседзяў, клалі які-небудзь любімы прадмет, а таксама некалькі манет “выкупа”.

Прыходзілі прафесійныя плакальшчыцы, *галасільніцы*, маліліся і спявалі рэлігійныя спевы. Малітвы і літанію за душы памерлых заўсёды гаварылі па-польску[13]. Толькі нявінная істота магла правесці памерлага на могілкі, таму пры труне ехала дзіця ва ўзросце 3-5 гадоў. Усіх прысутных запрашалі на памінкі, нават пасля адмены уніі чыталі толькі польскія малітвы, пераважна Анёл Гасподзень, Вечны Супакой а таксама літанію да Божай Маці. Ходзячы вакол гасцей, родныя расказвалі (часта рыфмаванымі вершамі) пра здарэнні з жыцця памерлага (прыгаворы), якія потым вёска абгаворвала паўгода. Праз шэсць тыдняў адбываліся другія памінкі[14].

У селядчыцкім календары святкаванне дзядоў, паводле Сzяневіч, захаваўся “ у самым чыстым выглядзе”.[15] Іх святкавалі ў доме, хоць старэйшыя асобы гаварылі, што “ад даўна тут было інакш, то на могілкі людзі ішлі і там спраўлялі дзяды”. З размоў з сялянамі вынікала, што ў старыя часы там, дзе пераважаў каталіцкі касцёл, сем дзён на працягу літургічнага года прысвячаліся культу памерлых. У пачатку XX века гэтыя абрады ўцалелі толькі фрагментарна[16].

Вядомыя як “святыя вечары” увесь святочны перыяд часу ад Куцці да Хрышчэння Гасподняга (*Epifanii*) быў часам размоў з памерлымі. Паводле прынятай формулы душы трохразова запрашалі прыняць удзел у сямейнай вячэры, якая складалася з спецыяльна прыгатаванай куцці. Куцця складалася з *поснай куцці* перад пачаткам передкалядная посту, *багатай куцці* ў Калядную ноч, калі запасаў у кладовай было ўдосталь, і *беднай куцці* напярэдадні свята Трох Каралёў, калі запасы ўжо заканчваліся. Пасля вячэры чыталі малітву за душы памерлых, да поўначы можна было варажыць[17].

Пры гэтым існавалі шматлікія забароны. Нельга было біць (*ubijać*) гаспадарчы інвентар, чысціць печы і коміны, заквашваць альбо выпякаць хлеб; а ні цыраваць (авечкі будуць łaciate, а іх воўна – непрыдатнай), а ні прасці (бо “тое, што прадецца ў святы вечар, падыходзіць толькі чорту на порткі”)[18]. Нельга было пачынаць цяжкую работу, толькі тую, якую ўдасца закончыць у той самы дзень, альбо скончыць тое, што ўжо было пачата. За дробныя правіны духі продкаў, як правіла, не помсцілі, затое абмінуць іх свята магло прывесці за сабой беды: град, мор і заразу.[19]

Замбжыцкія, будучы католікамі, уключалі ў сямейнае святкаванне Божага Нараджэння трохі змененую версію зімовых Дзядоў: падчас “святых вечароў” да і пасля вячэры чыталі малітвы за душы памерлых, аднак, не запрашалі іх прыняць удзел у вячэры.[20]

Вясной – піша Свяневіч – былі тры цэрэмоніі ўшанавання памерлых. У аўторак пасля Rezurekcji, пасля ўрачыстай вячэры адкладвалі ежу і напоі для памерлых: не прыбіралі рэшткаў, каб душы маглі паесці. У той жа дзень маці ў жалобе патаемна клалі крашанкі на магілы сваіх дзяцей – гэта “дзіцячыя Дзяды”.[21] Затое традыцыя запрашэння духаў памерлых на Зялёныя Святы цалкам знікла яшчэ перад першай сусветнай вайной, засталася толькі агульная забарона на музыку і танцы.

Найважнейшы момант у кантактах з продкамі – гэта асеннія Дзяды, якія адзначаліся ў ваколіцы ў дзень св. пакутніка Дзмітрыя (26 кастрычніка) альбо “царэвіча Дзмітрыя”.[22] Падчас “Дзмітрыеўскіх Дзядоў” толькі бяздумны смяльчак пайшоў бы ў бліжэйшы лес Дзекшняны ці дрэннае месца “Віселіцу”, таму што ў гэты час здані самазабойцаў звы-

[13] *Pogrzeby*, 84. Gdzie indziej (*Spor* (n. 20) uściśla, że Anioł Pański zmawiano na dziadach i na pogrzebach jeśli nie było księdza prawosławnego.

[14] *Pogrzeby*, s. 85.

[15] Notatnik pn. *Katakumby unitow bialoruskich*.

[16] *Dziady Bialoruskie*, „Rocznik Polskiego Towarzystwa Naukowego na Obczyznie” xi (1960-1), s. 87.

[17] Ibid. 88-9. Por. Świaniewiczowa *The Byelorussian Feast of the Dead*, przeł. z polskiego przez Halinę Bohdanowiczową, „Sift”, 1974, nr 2, 40-7. Por. Adam Varlyga, *Tchatyry uratchystas'tsi*, New York 1970, s. 50-3.

[18] „Sift”, s. 44.

[19] *Dziady bialoruskie*, (n. 36), s. 90.

[20] *Pamiętnik z pobytu..*

[21] *Interpretacja*, s. 127-8.

[22] *Interpretacja*, s. 64.

чайна вандравалі па свеце.[23] У дамах рыхтавалі вячэру, па абраду запрашалі душы памерлых прыняць удзел у сумеснай вячэры і падавалі спецыяльныя стравы.

У тыя гады Дзяды святкавалі выключна ўнутры сялянскіх хат (хоць толькі на тэрыторыі былой Мінскай губерніі), адсюль вывад, што "з перспектывы больш стагоддзя сялянскія хаты і сялянскія магілы адыгрывалі тую самую ролю ў захаванні традыцыі уніяцкай царквы, як і катакомбы у першыя вякі хрысціянства".[24] Праз шмат гадоў пазней Свяневіч успамінаў, што на першым свяце пасля іх шлюбу не ўжывалі лампаў альбо свечак. Адзінае святло ішло ад печы, дзверы былі адчынены, каб духі маглі свабодна ўваходзіць[25].

Свяневіч піша:

Каб падкрэсліць факт, што ўсе стравы былі хатняга прыгатавання, суп, прыгатаваны з галавы забітага звера, павінен быў стаяць на стале разам з галавой на працягу ўсяго піршаства. Абрадавая ежа завярае, што продкі не павінны сумнявацца ў тым, што ахвяра прыносіцца ў знак іх ушанавання. Вячэра пачынаецца з запрашэння памерлых да ўдзелу ў піры. Калі ўсе госці ўжо за сталом, гаспадар альбо гаспадыня запрашаюць: "Усе душы памерлыя просім вас, каб селі разам з намі за вячэру".[26]

Пасля гэтых слоў гаспадыні наліваюць некалькі поўных лыжак супа ў міску, дадаюць кавалалкі мяса і іншыя стравы. Калі падымаецца тост за памерлых, кожны з гасцей праліваае некалькі кропель на абрус. Пад час узгадваюць памерлых а таксама іх больш і менш дадатныя рысы. Успамін не абмяжоўваецца бліжэйшымі сваякамі, неабходна было успамінаць усе важныя асобы ў ваколіцы. Часам выплывалі вельмі інтымныя, ці нават скандальныя, падрабязнасці[27].

У ходзе сваёй працы Свяневіч збірала таксама сведчанні іншых удзельнікаў рытуалу. Формула заклінання выступае ў розных варыянтах. Напр., у парафіі Красная (гм. Беліца, Лідскага павету), якая некалі была уніяцкай, а цяпер праваслаўная, гаспадар тры разы падняў запаленую грамнічную свечку над стравамі, потым адчыніў акно, перахрысціўся і сказаў:

Святыя дзяды, ходьце сюды
Майце есці і піці,
Толькі прашу, крыўды нам не рабіце.

Пасля вячэры ўсе прысутныя ўкленчылі і прачыталі "Анёла Госпадня". Назаўтра пасля снядання гаспадар запаліў свечку, правёў ёй тры разы над стравамі, перадаў жонцы і на развітанне з душамі паўтарыў тры разы: "святыя дзяды, мелі што есці і піці, а цяпер ідзіце", пасля чаго свечку патушылі, усе прысутныя ўкленчылі і прачыталі "Анёл Гасподзень"[28].

Чарговае сведчанне паходзіць з некалі уніяцкай вёскі Бабынічы (маёнтак Дзмітраўшчына, пав. Лепельскі, губ. Віцебск)[29]. Суразмоўца Алімпіі, Юлія з Тамашэвічаў Лісоўская, асабліва запомніла абрадавае заклікание старца – запявайлы. Яно гучала наступным чынам:

Старац: У госці мы к Вам прышлі
Хор: Дзяды, дзяды
Старац: Малачко прыняслі
Хор: Дзяды, дзяды

[23] *Interpretacja*, s. 62.
[24] *Katakumby*...
[25] *Dziady Bialoruskie*, s. 88.
[26] List St. Świaniewicza do Niny Taylor z 28 czerwca 1987. Por. Marek Karp, *Ostatni obywatel* (n. 22), s. 37.
[27] *Interpretacja*, s. 4-6.
[28] *Spór*..., list do Pigonia z 29 listopada 1965. W ll. 30 poinformowała badacza, że w Sieledczykach zimne dania przygotowywano dla żywych, gorące zaś dla zmarłych, gdyż „duchy odżywiają się parą". St. Stankiewicz, *Pierwiastki bialoruskie w polskiej poezji romantycznej. Czesc I (do roku 1830)* (Wilno, 1936), s. 176-226.
[29] *Interpretacja*, s. 55.

Старац: Кашу, мёду няслі
Хор: Дзяды, дзяды
Старац: Ня бойцесь, душы,
Ні ксяндзоў, ні папоў
Самі свае прышлі.
Хор: Дзяды, дзяды
Старац: Ешце, пійце, душы
Хор: Дзяды, дзяды
Старац: Ешце, пійце ўсе
Хор: Дзяды, дзяды.[30]

Алімпія сцвярджае, што аж да 1945 г. мясцовая вера ў моц і прысутнасць духаў продкаў была ўсюды жывая. Усю вайну сялянкі верылі, што авечкі таму бываюць плямістыя, што гаспадыня цыравала ў святы вечар[31]. Падчас вайны малады чалавек хацеў угаварыць гаспадара патанцаваць у Зялёныя Святкі і звярнуўся за дапамогай да нямецкіх салдат. Калі яго потым НКУС вывезла ў ГУЛАГ, у вёсцы меркавалі, што яго пакаралі памерлыя за знявагу іх культу.[32] На апошніх Дзядах, у якіх Алімпія ўдзельнічала перад выездам у Польшчу, успаміналі маладога чалавека, якога павесілі немцы, польскага настаўніка з вёскі, якога забілі савецкія партызаны, а таксама уладальніцу вялікага маёнтка, таксама забітую.[33]

Яшчэ іншая сувязь яднала Замбжыцкіх з беларускай культурай. Паводле хатняй традыцыі іх сяброўства з сям'ёй Янкі Купалы ішло на некалькі пакаленняў углыб. Бацька вялікага паэта трымаў у арэндзе фальварак, які належаў да маёнтка Вязынь. Зноў жа паводле сямейнай традыцыі будучы паэт павінен быў вычыцца чытаць пры двары. Будучая жонка паэта Уладзіслава, якая сябравала з Вікторыяй Баброўскай, выдатна ведала польскую мову, у маладосці ўдзельнічала ў тайным навучанні. Баброўская неаднаразова абараняла яе ў судзе, гаварыла: "Дай, коцечка, мне свой выклік, пайду за цябе, і ўсё будзе добра", потым сама ішла ў паліцэйскі ўчастак. На гэта паліцыя ў Мінску: "Поймаем – молодая учит, как вызовем в канцелярию – старуха является".

Запрошаны на з'езд пісьменнікаў, Янка Купала памёр у Москве у 1942 г.

У пачатку ліпеня 1944 г., калі немцы адступалі пасля ўваходу савецкіх войск і прыходу НКУС, Алімпія выехала з Вязыні (перайменаванай у калгас імя Кірава, потым Янкі Купалы) і пасялілася ў Гурновічах. Там у верасні 1945 г. яна спаткала Уладзіславу. Занятая ў той час арганізацыяй дома-музея паэта, удава яе прасіла, каб не пыталася пра яго смерць. Алімпія і так хутка даведалася аб падрабязнасцях ад агульнай знаёмай у Мінску. Тая расказала, як пасля атрымання дэпешы ўдава паехала ў Маскву. Чыноўнікі, якія сустрэлі яе на вакзале, сцвярджалі, што Купала напіўся падчас банкету, вярнуўся ў гасцініцу і падняўся на трэці паверх. Адчуваў слабасць, нахіліўся праз парапет лесвічнай пляцоўкі і страціў раўнавагу. Разбітае цела знайшлі на каменнай падлозе ўнізе. Такія афіцыйныя дадзеныя. Калі ўдава захацела адчыніць труну, ёй адмовілі пад прэтэкстам, што цела вельмі разбіта; ёй таксама далі зразумець, што лепш не настойваць, "бо гэта можа для Вас дрэнна скончыцца, труны і так Вам не адчынім". Такім чынам яна пераканалася, што нехта спіхнуў паэта, а можа, таксама дабілі ляжачага.

Дом Уладзіславы быў пад надзорам міліцыі, таму Алімпія адмовілася ад далейшых кантактаў. Сама рыхтаваласяда ад'езд з дзецьмі ў Польшчу. Праз некалькі дзён пазней малады Вітэк Свяневіч спаткаў селяніна з Сяледчыкаў. Адбылася наступная размова:

"Скажы, сынок, ці разгаварывала маці з Купаліхай, як была ў Менску?"

Запытаны адказаў, што маці не мела нават калі. Але селянін вёў сваё.

"Эх, ты мне не кажы, мы дагадваемся, што яна разгаварывала, толькі ты не прызнаешся, і мы ўпэўнены, што твая маці скарэй ці пазней даляціць, куды трэба, і раскажыць аб нас, каму трэба".

[30] Ibid.
[31] „Sift", s. 44.
[32] „Sift", s. 45.
[33] Sift", s. 42.

Алімпія, вядома, *даляцела, куды трэба*, але не адразу. У напісанай ад рукі запісцы пад назвай *Крохі навін пра Янку Купалу* яна папярэджвала, што яшчэ зарана рабіць факты вядомымі, і што ў друку не павінна з'явіцца ніводнага успаміну без папярэдняга ўзгаднення з тагачасным прэзідэнтам Беларускай Рэспублікі ў эміграцыі.

## Эпілог

Стары Замбжыцкі канчаткова адмовіўся ад т.н. рэпатрыяцыі ў Польшчу. Ён лічыў, што яго месца там, на зямлі продкаў, там у Гурновічах ён быў пахаваны ў 1948 г.. Алімпія выехала з дзецьмі ў Польшчу. Толькі пасля Адлігі яна далучылася да свайго мужа Станіслава, якога, знялі з катынскага транспарту на станцыі Гняздова ў 1940 г. і адаслалі на маскоўскую Лубянку; правёўшы некалькі гадоў у паўночных лагерах, тады ён ужо быў на Захадзе. Алімпія Сваневіч напісала каментарый і заўвагі да вершаў дзеда Станіслава, пакінула таксама рукапіс пад назвай *З урыўкаў успамінаў бабулі*. Пасля першай працы аб тэрасах Правіліі ў даліне Вакі[34] *gros (большасць)* яе прац датычыць беларускай традыцыі, спраў царкоўнай Уніі, народных звычаяў, яна таксама закранае розныя аспекты рытуалаў Дзядоў, пахаванняў, stур, прадстаўляе постаці ўдзельнікаў студзеньскага паўстання 1863 г. на Міншчыне[35], Пішучы пра пахавальныя звычаі кітайцаў альбо інданезійцаў[36], яна заўсёды суадносіла свае назіранні і вывады са сваёй калыскай – беларускай зямлёй, носьбітам універсальнай ідэалогіі.

[34] *Tarasy Prawilii w dolinie Waki.* Prace Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie, Wilno 1932.

[35] *Sylwetki powstańców w Mińszczyźnie: Michał Ciuńdziewicki, pierwsza ofira Murawiewa.* „Goniec Karpacki", Londyn 1968; *Kornel Feliksza, wojewoda miński w czasie powstania 1863 roku.* „Goniec Karpacki", 1969; *Michał Oskierko, pełnomocny komisarz wojewódzki.* „Goniec Karpacki", 1970; *Naczelnik miasta Mińska.* „Goniec Karpacki", 1971; *Bolesław Swiętorzecki — naczelnik Partii.* „Goniec Karpacki", 1972; *Wincenty Koziełł-Poklewski — naczelnik Partii w pow. wilejskim.* „Goniec Karpacki", 1972.

[36] *Dziady chińskie a dziady białoruskie* „Tydzień Polski", Londyn, 23 grudnia 1973; *Wpływy chińskie w dawnej Rzeczypospolitej*, „Tydzień Polski", 30 czerwca 1973; *Konfucjusz w Europie i u nas*, „Tydzień Polski", 4 sierpnia 1973; *Czy Mickiewicz znał dzieła Konfucjusza?* „Tydzień Polski", 1 września 1973.

А. Макрушыч (Гродна)

# Адукацыя на навагрудчыне ў 60-х гадах XIX – пачатку XX ст.: здабыткі і праблемы

Змены ў эканоміцы і грамадскім развіцці Беларусі, якія адбыліся пасля падзення прыгоннага права на працягу другой паловы XIX стагоддзя, адчуваліся і ў развіцці народнай асветы і адукацыі на Беларусі [1, с. 226]. Разумеючы неабходнасць павышэння адукаванасці народа, царскі ўрад пайшоў у 1864 г. на правядзенне школьнай рэформы. Адным з яе напрамкаў было пашырэнне сеткі пачатковых школ (народных вучылішч). Першае народнае вучылішча на Навагрудчыне з'явілася яшчэ ў 1851 г. у сяле Ятра. У 60-х гг. XIX ст. падобныя навучальныя ўстановы адкрыліся ў Валеўцы, Вераскаве, Лаўрышаве, Любчы, Нягневічах, Шчорсах. У 1863 г. такое вучылішча адкрылася ў Навагрудку. Яно было размешчана ў грамадскім будынку, на яго ўтрыманне выдзялялася 200 рублёў [23, с. 535]. У 1877 г. ва ўездзе існавала 31 народнае вучылішча. Настаўнічалі ў іх выхаванцы Менскай духоўнай (8 чалавек), Маладзечанскай настаўніцкай (13 чалавек) семінарый. У сямі вучылішчах выкладалі жанчыны, выпускніцы Мінскага (2) і Парычскага (3) вучылішч для дзяўчын духоўнага стану [13, с. 336–343]. У 1890/1891 навучальным годзе колькасць народных вучылішчаў павялічылася на 2. Заняткі наведвалі 2486 хлопчыкаў і 231 дзяўчынка [23, с. 200]. Народныя вучылішчы падпарадкоўваліся Міністэрству народнай асветы, навучанне дапускалася толькі на рускай мове. Курс навучання ў народнай школе быў 3-гадовы. Навучальны год працягваўся, аднак, не больш чым 130 – 140 дзён [12, с.170].

Асноўная ўвага ў развіцці пачатковай адукацыі была зроблена на царкоўна-прыходскія школы і школы граматы (пісьменнасці), якія падпарадкоўваліся Сіноду. У 60–80-х гг. XIX ст. ў Навагрудскім уездзе дзейнічала 29 царкоўна-прыходскіх школ, у якіх вучылася 1284 вучні, у тым ліку 363 дзяўчынкі [38, с. 200]. У царкоўна-прыходскіх школах выкладаліся закон Божы, царкоўныя спевы, чытанне царкоўнай і цывільнай літаратуры, арыфметыка, пісьмо. Выкладчыкамі такіх школ пераважна былі святары, дыяканы, а таксама выпускнікі епархіяльных вучылішчаў. Большасць школ знаходзілася ў дамах святароў, псаломшчыкаў, царкоўных каравулках, наёмных кватэрах. Царкоўна-прыходскія школы не атрымлівалі да 1891 г. пастаяннай дапамогі, а ўтрымліваліся на сродкі сялян [1, с. 245]. У канцы XIX ст. у шэрагу населеных пунктаў уезда працавалі школы пісьменнасці. У 1887 г. яны меліся ў Бары, Вераскаве, Галыні, Дзятомлі, Загор'і, Купіску, Налібаках, Нянькаве, Суляцічах, Чарэшлі. Навучанне у іх абмяжоўвалася завучваннем малітваў, пачаткамі чытання, пісьма і лічэння [23, с. 201].

Да сярэдзіны 90-х гг. XIX ст. рост царкоўна-прыходскіх школ і школ граматы

апярэджваў рост школ, падначаленых Міністэрству народнай асветы. Школьная сетка не забяспечвала магчымасць атрымання нават пачатковай адукацыі для ўсіх дзяцей школьнага ўзросту. Паводле статыстычных дадзеных, на рубяжы XIX–XX стст. пісьменнасць у Навагрудскім ўездзе складала 19,1% [24, с. 23], тады як у цэлым па Беларусі яна была 25,7% [5, с. 322]. Сярод сялян пісьменнасць была яшчэ ніжэйшай – каля 15% [24, с. 66], сярод жанчын – сялянак – 5,9% [24, с. 66].

На тэрыторыі Беларусі, у гарадах і мястэчках існавалі прыходскія вучылішчы, у якіх займаліся дзеці працоўных слаеў насельніцтва. У 1864 г. прыхадское учылішча было адкрыта ў Навагрудку, у ім навучаліся 45 вучняў. Размяшчалася яно ў наемным доме, за які плацілі 100 рублёў у год, на ўтрыманне выдаткавалася 617 рублеў з дзяржаўнай казны [23, с. 535]. У 1878 г. колькасць навучэнцаў дасягнула 65 чалавек [14, с. 120], а ў 1885 г. знізілася да 33 [15, Ч. 2, с. 25]. З 1865 г. пры прыходскім вучылішчы ў Навагрудку пачала дзейнічаць жаночая змена, якая размяшчалася ў наёмным доме. На ўтрыманне яе выдзялялася 250 рублёў у год [13, с. 335]. У 1885 г. там вучылася 56 дзяўчынак [15, Ч. 2, с. 25].

У гэты перыяд у Навагрудку дзейнічала казённае яўрэйскае мужчынскае вучылішча першага разраду. Наглядальнікам і выкладчыкам агульных прадметаў у ім быў В. Жук, а яўрэйскія прадметы выкладалі А. Вайшнель, І. Лейбман, С. Канторовіч [19, с. 60]. Акрамя таго, з 1891 г. дзейнічала аднакласнае мужчынскае вучылішча Якава Часаўшчыка, дзе вучылася 20 хлопчыкаў [23, с. 536].

Да разраду ніжэйшых агульнаадукацыйных школ адносіліся ўездныя і гарадскія вучылішчы. Пасля закрыцця Навагрудскай гімназіі на яе базе было створана ў 1869 г. двухкласнае ўезднае вучылішча. На яго ўтрыманне казна штогод выдзяляла 2439,5 руб. [23, с. 535]. 31 мая 1872 г. было зацверджана “Палажэнне аб гарадскіх вучылішчах”, згодна з якім замест ўездных ствараліся гарадскія вучылішчы рэальнага напрамку. Вучылішчы былі платнымі, велічыня платы вызначалася мясцовым вучэбным начальствам. Тэрмін навучання складаў 6 гадоў. У гарадскіх вучылішчах Беларусі выкладаліся: закон Божы, руская мова, царкоўнаславянскае і рускае чытанне, арыфметыка, практычная геаметрыя, чарчэнне, рысаванне, спевы, гімнастыка. У 1878 г. уезднае вучылішча ў Навагрудку было пераўтворана ў гарадское трохкласнае, і, адпаведна, павялічылася фінансаванне – да 3440 рублёў. У 1885/86 навучальным годзе тут вучылася 112 хлопчыкаў, сярод якіх былі як праваслаўныя, так і католікі [15, с. 117]. У 1900 г. ў ім працавала 5 настаўнікаў, 2 законанастаўніка і штатны ўрач [20, с. 168]. Акрамя таго, у мястэчку Мір з 1865 г. працавала ўезднае вучылішча, у 1890 г. пераўтворанае ў гарадское. На яго ўтрыманне казна выдавала 2366 рублёў і 300 рублёў адпускала Кіраванне Віленскай навучальнай акругі [13, с. 334]. У 1885 г. там вучылася 52 хлопчыкі [15, с. 133].

У 1869 г. у Навагрудку было заснавана прыватнае двухкласнае жаночае вучылішча. Яго ўтрымальніцай была дачка паручніка Е.П. Сяргеева (Кургановіч). Вучылішча знаходзілася ў казённым будынку былой Навагрудскай гімназіі разам з ўездным вучылішчам, утрымлівалася за кошт збора за навучанне і датацый з казны ў 385 руб. [23, с. 534]. У 1885 г. там вучылася 33 дзяўчынкі [15, Ч. 2, с. 38]. Яны вывучалі закон Божы, рускую мову, арыфметыку, чыстапісанне, рукадзелле, рускую гісторыю і геаграфію. Тым, хто заканчваў установу, выдаваліся пасведчанні з правам выкладання ў ніжэйшых народных вучылішчах [1, с. 265].

У 1868 г. ў Навагрудку адкрыўся прыватны аднакласны жаночы прывілеяваны пансіён. У іх вучыліся, галоўным чынам, дочкі чыноўнікаў, ваенных, купцоў, багатых землеўладальнікаў [1, с. 267]. У пансіёне ў дадатак да прадметаў, агульных з жаночым вучылішчам, выкладаліся нямецкая, французкая мовы, геаметрыя, музыка, танцы, рысаванне. Выкладчыкамі былі настаўнікі гімназій, ўездных вучылішч, гувернанткі з правам на навучанне. Скончыўшыя пансіёны накіроўваліся настаўніцамі ў народныя вучылішчы, іх аддзяленні і жаночыя змены [1, с. 269].

У 1858 г. ў Навагрудку на базе пяцікласнага дваранскага павятовага вучылішча, адкрытага ў 1834 г., была заснавана Навагрудская гімназія. Яна ўтрымлівалася за кошт

даходаў з маёнткаў, што належылі ліквідаваным каталіцкім кляштарам, часткова – за кошт дзяржаўнай казны. За вучобу гімназісты плацілі 110 рублёў. Ад платы вызваляліся дзеці дробнай шляхты пры наяўнасці адпаведнай даведкі (у 1860 г. іх было 15 чалавек) [25, с. 258]. У 1860 г. ў гімназіі вучылася 276 навучэнцаў, у 1861 – 322. На 1 студзеня 1862 г. ў прадстаўленні Карнілава віленскаму генерал-губернатару дадзены дакладныя звесткі аб колькасці і канфесійным складзе вучняў. Агульная колькасць вучняў, як і ў 1861 г., складала 322 чалавекі, з іх праваслаўных было 29, каталікоў – 274, лютэран – 16 чалавек [3, с. 384].

З 1859 г. дырэктарам гімназіі быў М.А. Дзмітрыеў, член Рускага геаграфічнага таварыства, даследчык гісторыі Навагрудка, этнограф, фальклярыст і педагог. Куратарам гімназіі быў князь К. Радзівіл [25, с. 238]. З 1864 г. дырэктарам стаў Ф.Ф. Чашніцкі. Тады ў гімназіі выкладаліся наступныя вучэбныя прадметы: закон Божы (праваслаўны святар І. Чудоўскі і ксёндз Ф. Берджынскі), руская мова і славеснасць (А. Ягільніцкі і П. Канстанцінаўскі), нямецкая (Ю. Гермут) і іншыя мовы, матэматыка (І. Васілеўскі), геаграфія (А. Ларывіер), прыродазнаўчая гісторыя (Р. Кабецкі, губернскі сакратар), чыстапісанне і маляванне (Э. Паўловіч) [19, с. 59–60]. У 1863 г. Навагрудская гімназія была зачынена ў рамках правядзення ўрадавай палітыкі па абмежаванню доступу шляхты да сярэдняй адукацыі і далейшаму яе пераходу ў прывілеяваныя класы грамадства, а таксама для замены недобранадзейных настаўнікаў на адданых ідэе самадзяржаўя. У лісце папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі І. Карнілава міністру народнай асветы Галаўніну гаворыцца: «...Генерал Муравьёв высказал мне… что закрыл административным порядком гимназии: Поневежскую, Кейданскую и Новогрудскую… При том, он признаёт необходимым раз навсегда покончить с означенными гимназиями, чтобы не поддерживать в поляках надежду на их восстановление. Сокращение гимназий образумит и укротит, по его мнению, пустые претензии шляхетства быть господами и начальниками…» [3, с. 383]. Аднак царскі ўрад хутка зразумеў значэнне школ як цэнтраў прапаганды рускай манархічнай ідэі, і раней зачыненыя гімназіі пачалі адчыняцца. У 1865 г. гімназія адчынілася зноў, але ўжо з новым саставам настаўнікаў. Гэты факт адзначаны ўсправаздачы папячыцеля Віленскай вучэбнай акругі І.Карнілава: «В минувшем, 1865 году… в жизни учебного округа имели место два события первостепенной важности, а именно: 1) преобразование гимназий и прогимназий в классические реальные, согласноуставу, высочайше утвержденному 19 ноября 1864 г. и 2) открытие новых учебных заведений и преобразование существующих, т. е. возобновление гимназии в г. Новогрудке…» [3, с. 385].

У прадстаўленні І. Карнілава віленскаму генерал-губернатару 1866 г. есць звесткі пра колькасць вучняў у Навагрудскай гімназіі і яе стан на той час. На 1 студзеня 1866 г. у гімназіі вучыліся 20 праваслаўных, 113 каталікоў, 1 лютэранін, 4 яўрэя, 9 магаметан, усяго 147 чалавек [3, с. 384]. І. Карнілаў тлумачыў такую малую колькасць вучняў праваслаўнага веравызнання наступным чынам: « ..При недавнем возобновлении существования гимназии в Новогрудке именно с января месяца сего года, среди учебного курса, когда некоторые из родителей, живущие в городе и уезде и в соседних уездах, уже разместили своих детей по ближайшим гимназиям, большего числа православных учеников, на первое время, нельзя было и ожидать; но без сомнения, число учащихся православного вероисповедания в этой гимназии постоянно увеличивалось бы». І.Карнілаў увогуле вельмі станоўча адзываўся аб Навагрудскай гімназіі: «Долгом считаю также свидетельствовать, что во время личного моего обзора Новогрудской гимназии в конце июня месяца сего года я удостоверился в отличном состоянии этого учебного заведения; при энергичном распорядительном директоре, при дельном составе преподавателей, действующих единодушно, гимназия приобрела русский характер, и по своему чисто русскому напрвлению имеет благотворное влияние на население города и уезда» [3, с. 384]. Нават нягледзячы на «рускі характар, Навагрудская гімназія была зачынена па розных звестках у 1866 ці ў 1868 г. Большасць вучняў была пераведзена ў Слуцкую гімназію, а на базе Навагрудскай гімназіі было створана двухкласнае ўезднае вучылішча.

У пачатку XX ст. у выніку пашырэння рэвалюцыйнага і грамадска-педагагічнага руху (асабліва ў перыяд рэвалюцыі 1905–1907 гг.) царскі ўрад вымушаны быў часткова задаволіць патрабаванні настаўнікаў, вучняў і бацькоў аб паляпшэнні якасці навучання і павялічэнні колькасці навучальных устаноў. У выніку гэтага ў сістэме пачатковай школы адбыліся станоўчыя змены: вырасла колькасць народных і гарадскіх вучылішчаў, а колькасць царкоўна-прыхадскіх школ, якімі насельніцтва часта была незадаволена, зменшылася. У Навагрудскім уездзе ў гэты час колькасць народных вучылішч таксама павялічвалася. У 1906/1907 гг. там працавала 47 народных вучылішч [17, с. 266], а ў 1913 г. адчынілася яшчэ 30 (у Ачукевічах, Асташыне, Брольніках, Вераб'евічах, Ізве, Кашалеве, Купіску, Лозках, Налібоках, Сенна, Нянькаве, Панямоні, Пятрэвічах, Сянежыцах, Чарэшлі і інш.) [23, с. 200]. Яны размяшчаліся ў наёмных памяшканнях, якія, у большасці сваёй не задавальнялі патрабаванням школьнай гігіены. Арэндную плату за іх часткова фінансавала земства, а астатнія сродкі збіраліся па валасцям.

Да царкоўнага ведамства адносіліся царкоўна-прыхадскія школы і школы граматы. Апошнія падзяляліся на арганізаваныя і дамашнія. Арганізаваныя мелі штатнага настаўніка і ўключаліся ў школьную сетку епархіяльных саветаў. Дамашнія школы не мелі вучэбных планаў і праграм, навучанне ў іх працягвалася адну зіму. Выкладалі ў іх ў асноўным асобы духоўнага сану, шмат было недавучак ніжэйшых навучальных устаноў [10, с. 1–2]. Плату за працу настаўнікі атрымлівалі ў асноўным з казны (22 руб.), толькі ў 8 – даплату з мясцовых сродкаў [6, с. 68]. У школах граматы завучвалі асноўныя малітвы (а ў Навагрудскім уездзе і звыш праграмы – трапары двунадзесятых свят, малітву Яфрэма Сірына і 50-й псалом), але царкоўна-славянскія словы не тлумачылі, і сэнс малітваў для вучняў губляўся [10, с. 5]. Значная ўвага надавалася царкоўным спевам, але ў Навагрудскім уездзе ў школах «пели по слуху унисоном и на два голоса» – зусім няправільна. Вучыліся ў школах граматы дзеці сялян, сярод якіх абсалютна пераважалі беларусы, і ім цяжка было разумець нават рускую мову, «так как разговорный язык в Минской губернии собственно белорусский с примесью польских и еврейских слов» [10, с. 7]. Нягледзячы на павялічэнне колькасці школ граматы (у Навагрудскім уездзе на 41 ў 1910/1911 гг.), з-за хуткага росту насельніцтва задаволіць патрабаванні ўсіх жадаючых вучыцца яны не паспявалі: на Навагрудчыне сярэдняя колькасць навучэнцаў на адну школу была звыш 50 – гэта быў самы высокі паказчык па губерні [11, с. 2,7].

Царкоўна-прыхадскія школы былі аднакласныя з трохгадовым навучаннем і двухкласныя з чатырох-пяцігадовым навучаннем. Дзеці вывучалі Закон Божы, чытанне царкоўна-славянскае і рускае, пісьмо царкоўна-славянскае і рускае, арыфметыку і царкоўныя спевы. У двухкласных школах акрамя таго выкладаліся царкоўная і антычная гісторыя, геаграфія, чарчэнне і рысаванне [10, с. 21]. Недахопам у выкладанні Закона Божага часта было «рабское следование учебнику, вследствии чего предмет этот теряет своё воспитательное значение» [10, с. 13]. Затое царкоўна-славянскае чытанне ў Навагрудскім уездзе было на вышыні: у некаторых школах вучні завялі сшыткі для запісу, што і каму чытаць у царкве і за чытанне атрымлівалі адзнакі [10, с. 16]. Востра на Навагрудчыне стаяла праблема перапоўненасці школ – 25 школ было з колькасцю навучэнцаў ад 70 і болей (самы высокі паказчык па губерні). Пры гэтым у Ярэмічскай школе было 122 вучня пры 2 настаўніцах, у Вераскаве – 124 пры 1 настаўніке, у Нягневічах – 159 вучняў пры 2 настаўніках [11, с. 22]. Выкладаліся ў царкоўна-прыходскіх школах і дадатковыя ўрокі: ў 13 школах Навагрудскага ўезда па геаграфіі і айчыннай гісторыі, у 9 – рукадзелле [11, с. 60]. У Навагрудскім уездзе ў азначаны перыяд існавала 40 школ царкоўнага ведамства, з якіх толькі адна (ярэмічская жаночая) была двухкласная [21, с. 165]. Значны працэнт яе выпускніц у далейшым таксама вывучваўся на настаўніц [11, с. 50].

Патрэба сярэдніх класаў горада ў адукацыі абумовіла рост сеткі гарадскіх вучылішчаў і ліквідацыю разрыву паміж імі і ніжэйшымі навучальнымі ўстановамі. У Навагрудку гарадское трохкласнае (з 1908 г. – чатырохкласнае) вучылішча існавала да 1913 г., калі яно было пераўтворана ў вышэйшае пачатковае вучылішча. Дадзеныя аб утрыманні і колькасці навучэнцаў прыведзены ў табліцы:

| Навучальны год | Грошы з казны | Спец. сродкі вучылішча | Плата за навучанне | Колькасць навучэнцаў |
|---|---|---|---|---|
| 1902/1903 | 3850 рублёў | 725 рублёў | 8 рублёў | 281 |
| 1906/1907 | 3639 рублёў | 1908 рублёў | 10 рублёў | 292 |
| 1908/1909 | 3264 рублёў | 2021 рубль | 10 рублёў | 226 |

[16, с. 231; 17, с. 320; 18, с. 260].

У 1905 г. ў вучылішчы працавала 6 настаўнікаў і ўрач. Пры ім таксама было арганізавана «Таварыства дапамогі навучэнцам у трохкласным гарадскім вучылішчы», якое ўзначальваў Ж. Ф. Пейкер [21, с. 163]. Вучылішча размяшчалася на вуліцы Мінскай, у доме былога віннага склада [9, с. 9]. Зарплата настаўніка складала 350 руб., апроч таго выдаваліся грошы на кватэру (75 руб.), на харчаванне (190 руб.) [17, с. 321]. Цікава, што ў тыя часы адзін і той жа настаўнік выкладаў па два, на наш погляд, несумяшчальныя прадметы: напрыклад, П.П. Дзэмідовіч – гісторыю і геаметрыю, М.С. Чэтырка – рускую мову і фізіку [18, с. 260].

У Навагрудку ў аднакласным жаночым гарадскім вучылішчы атрымоўвалі веды 99 вучаніц [23, с. 536]. З 1 верасня 1903 г. ў Навагрудку адкрылася прыватнае двухкласнае жаночае вучылішча. Яго ўтрымальніцай з'яўлялася Е.В.Кудраўцава-Меле, дачка настаўніка-інспектара. Вучылішча мясцілася ў трох пакоях Навагрудскага гарадскога вучылішча. У 1905 г. ў вучылішчы займаліся 62 дзяўчынкі. У 1908 г. яно было пераўтворана ў чатырохкласную прагімназію. Да 1914 г. яна перамясцілася з гарадскога вучылішча ў дом Ізраэліта на Базарную плошчу [23, с. 537]. Тут выкладаліся наступныя прадметы: руская мова (Е. В. Кудраўцава), арыфметыка (П. Скрэбец), гісторыя (А. Пецэвіч), чыстапісанне, чарчэнне і маляванне (У. Іваненка), геаграфія (Е. Някрасава), нямецкая мова (В. Керсноўская), французкая мова (М. Твароўская), рукадзелле (Е. Твароўская) [18, с. 261–262]. Плата за навучанне складала ад 55 да 70 руб. у год у адпаведнасці ад класа і ўносілася за паўгода ўперад. У прагімназіі навучаліся 87 дзяўчынак [22, с. 190]. Па нацыянальнай і рэлігійнай прыкмеце склад вучаніц не быў аднародным. У «Нашай ніве» ад 17 сакавіка 1910 г. паведамлялася, што «там вучацца палова жыдоўскіх дзяўчат, а палова – беларусак вясковых» [7, с. 164]. Гэта тлумачыцца тым, што ў горадзе быў вялікі працэнт яўрэйскага насельніцтва, якое востра адчувала патрэбу ў адукацыі. Пасля сканчэння прагімназіі дзяўчыны часта ішлі працаваць настаўніцамі.

У пачатку XX ст. вельмі востра стала праблема недахопу настаўніцкіх кадраў. Колькасць выпускнікоў настаўніцкіх семінарый была значна меншай за колькасць адчыненых пачатковых школ. Таму ўрад быў вымушаны з мэтай забеспячэння пачатковай школы настаўніцкімі кадрамі і павышэння агульнага ўзроўню кваліфікацыі настаўнікаў у 1900 г. адчыніць пры гарадскіх вучылішчах аднагадовыя педагагічныя курсы. З 20 жніўня 1900 г. пры Навагрудскім гарадскім вучылішчы былі заснаваны педагагічныя аднагадовыя курсы, якія ўзначаліў Павел Пятровіч Дземідовіч. Колькасць слухачоў спачатку было 10–15 чалавек, с кожным годам яна павялічвалася [18, с. 261]. Вучням выкладалася руская мова, арыфметыка, геаметрыя, гісторыя, геаграфія, прыродазнаўства, закон Божы ў аб'еме настаўніцкіх семінарый, таксама чыталіся асновы дыдактыкі, методыкі навучання чытанню, пісьму, арыфметыцы, спевам [1, с. 384]. З 1 ліпеня 1912 г. курсы былі пераўтвораны ў двухгадовыя. У 1914 г. на іх навучалася 44 чалавекі. На ўтрыманне курсаў штогод з казны выдзялялася 4000 руб. [23, с. 537].

У 1900–1914 гг. на Навагрудчыне развіваюцца яўрэйскія ўстановы адукацыі. У 1905 г. ў горадзе дзейнічала 38 хедэраў – яўрэйскіх рэлігійных школ, дзе навучалася 729 чалавек. Яўрэйскія дзяўчынкі вучыліся ў прыватным вучылішчы Е. Кудраўцавай ці дома, а таксама ў Мірскім яўрэйскім прыватным жаночым чатырохкласным вучылішчы, утрымальніцай якога была Ф.-Р. А. Брэгер [18, с. 262].

Нягледзячы на тое, што ў 1904 г. царскі ўрад даў дазвол на вывучэнне польскай мовы ў пачатковай школе ў якасці пазакласнага прадмета, у Навагрудскім павеце польскамоўнае навучанне існавала толькі ў нелегальных формах, гэта датычыцца і навучання на белару-

скай мове. У кастрычніку 1905 г. ў Навагрудку была створана прыватная польскамоўная школа, якая дзейнічала нелегальна. Утрымлівалася яна за кошт ахвяраванняў мясцовых жыхароў, загадчыцай яе была Марыя Вяжбоўская. Аднак у 1912 годзе па загаду Мінскага губернатара польскамоўная школа ў Навагрудку была зачынена. Тады Марыя Вяжбоўская дабілася адкрыцця гуртка кройкі і шыцця, які наведвалі вучні ліквідаванай школы і працягвалі тут вывучаць польскую мову. У мястэчках і вёсках уезда дзейнічалі так званыя "тайныя школы", дакладную колькасць якіх устанавіць немагчыма, бо ў архіўных дакументах ёсць звесткі толькі пра тыя з іх, якія былі выкрыты ўрадам. У 1913 г. была выкрыта тайная польская школа ў мястэчку Баранавічы Навагрудскага ўезда, дзе навучалася 9 вучняў, з іх 2 праваслаўных [8, ар. 14].

Такім чынам, у 1861–1914 гг. пасля закрыцця адзінай ва ўездзе сярэдняй навучальнай установы – Навагрудскай гімназіі, асноўнымі тыпамі школ, існаваўшымі на Навагрудчыне, сталі народныя вучылішчы і царкоўна-прыходскія школы. У Навагрудку, акрамя таго, дзейнічалі прыходскае, уезднае (да 1878 г.) і гарадское (з 1878 г.) вучылішчы для хлопчыкаў. У Міры таксама працавала ўезднае вучылішча. Дзяўчынкі ніжэйшых слаёў грамадства атрымлівалі адукацыю ў жаночых зменах, якія дзейнічалі пры народных і прыходскім вучылішчы, царкоўна-прыходскіх школах, ў жаночым аддзяленні пры гарадскім вучылішчы. Дочкі чыноўнікаў, ваенных, купцоў навучаліся ў прывілеяваным жаночым пансіёне і прыватным жаночым вучылішчы. Але меўшыхся навучальных устаноў не хапала для ахопу усяго насельніцтва, аб чым сведчыць нізкі ўзровень пісьменнасці ў Навагрудскім уездзе, асабліва сярод сялян. Адукацыя ажыццяўлялася на рускай мове, уласныя навучальныя ўстановы мелі толькі яўрэі, для іншых этнічных груп навучанне на роднай мове магло існаваць ў нелегальных формах.

## Крыніцы і літаратура:


1. Асвета і педагагічная думка ў Беларусі: са старажытных часоў да 1917 г./ Пад рэд. М. А. Лазарука – Мн.: Народная асвета, 1985. – 464 с.: іл.
2. Гісторыя Беларусі з 1795 г. да вясны 1917 г.: Вучэбны дапаможнік для студ.гіст. спец. ВНУ / Пад рэд. І. П. Крэня, І. І. Коўкеля. – Мінск: Аверсэв, 2001. – 397 с.
3. Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі: У 3 т. – Мн.: Изд-во АН БССР, 1940-1953. – Т. 2 (1772 – 1903)./ Пад рэд. Перцава В. М. – Мн.: Изд-во АН БССР, 1940. – 1031 с.
4. Леуто П. И. Из истории народного образования на Гродненщине (конец XVIII – начало XX вв.) – Гродно, 1990. – 24 с.
5. Літаратура, мова, культура: этнас у святле гісторыі: матэрыялы "круглага стала" і міжнароднай навуковай канферэнцыі. – Гродна, 1998.
6. Минские Епархиальные Ведомости – 1902 - №6 – офиц. часть. – С. 56-62.
7. Наша Ніва: Першая Беларуская Газэта з Рысункамі. Факсімільнае выданне. Вып.3. 1910 г. / Адказны за выпуск З. Ф. Санько. – Мн.: Тэхналогія, 1998. -800 с.
8. НГАБ, ф.295, воп.1, спр.8300, ар.13-14.
9. Отчёт о состоянии учебных заведений и учреждений Виленского учебного округа за 1914 г. – Вильно, 1915. – 105 с.
10. Отчёт о состоянии церковных школ Минской епархии за 1904/1905 учебный год. – Минск, 1905. – 70 с.
11. Отчёт о состоянии церковных школ Минской епархии за 1910/1911 учебный год. – Минск, 1912. – 128 с.
12. Очерки истории науки и культуры Беларуси: IX – нач. XX вв. – Мн.: Навука і тэхніка, 1996. – 527 с.
13. Памятная книжка Виленского учебного округа на 1877 год. Издание Управления Виленского учебного округа. – Вильно, 1877. – 535 с.
14. Памятная книжка Виленского учебного округа на 1878/1879 годы. Издание Управления Виленского учебного округа. – Вильно, 1879. – 488 с.
15. Памятная книжка Виленского учебного округа за 1885/1886 годы. Издание Управления Виленского учебного округа. – Вильно, 1886. – 319 с.

16. Памятная книжка Виленского учебного округа на 1902/1903 учебный год. Издание Управления Виленского учебного округа. – Вильно, 1903. – 257 с.
17. Памятная книжка Виленского учебного округа на 1906/1907 учебный год. – Вильно, 1906. – 436 с.
18. Памятная книжка Виленского учебного округа за 1908/1909 учебный год. Издание Управления Виленского учебного округа. – Вильно, 1909. – 360 с.
19. Памятная книжка Минской губернии на 1864 г. – Минск: Минская губернская типография, 1864. – 204 с.
20. Памятная книжка Минской губернии на 1900 г. – Минск: Минская губернская типография, 1899. – 232 с.
21. Памятная книжка Минской губернии за 1905 г. – Минск: Губернская типография, 1904. – 208 с.
22. Памятная книжка Минской губернии на 1913 г. – Минск: Минская губернская типография, 1912. – 226 с.
23. Памяць: Гістор.-дакум. хроніка. Навагрудскі раён. – Мн.: Беларусь, 1996. – 559 с.
24. Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г./ Под ред. Н. А. Тройницкого. – XII. Минская губерния. – Спб, 1904. – 241 с.
25. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. – Мн.: БелЭн, 1993 – 2003. – Т.5: М – Пуд./ Рэдкал.: Г. П. Пашкоў і інш. – Мн.: БелЭн, 1999. – 592 с.: іл.

І. Соркіна (Гродна)

# Структура насельніцтва мястэчак навагрудскага ўезда ў XIX ст.

Папярэднік сучаснага Навагрудскага раёна, Навагрудскі ўезд (адносна перыяду Вялікага княства Літоўскага – павет) існаваў у XV – першай палове XX ст. (па 1940 г.) Пасля 3-га падзелу Рэчы Паспалітай Навагрудскі ўезд адышоў да Расійскай імперыі, апынуўся ў складзе Слонімскай, затым Літоўскай (з 1797 г.), Гродзенскай (з 1801 г.), Мінскай (з 1842 г.) губерняў. Плошча ўезда складала 97,6 кв.міляў, або 457,7 дзесяцін зямлі. Тэрыторыя тагачаснага Наваградскага ўезда была значна большая за сучасны раён ( у яго уваходзілі землі, якія сёння адносяцца да Карэліцкага, Дзятлаўскага, Іўеўскага, Лідскага раёнаў Гродзенскай, Баранавіцкага і Ляхавіцкага раёнаў Брэсцкай і Стаўбцоўскага раёна Мінскай абласцей).

У канцы XIX ст. ва ўездзе налічваўся 1531 населены пункт, у тым ліку 19 мястэчак (2506 двароў), 27 сёл (1220 двароў), 620 вёсак (12286 двароў)[1].

Навагрудскі ўезд вылучаўся шчыльнай сеткай мястэчак – гэтых пераходных паміж вёскай і горадам паселішчаў, якія вялі сваю гісторыю з XIV – XV ст. і аказвалі велізарнае ўздзеянне на фарміраванне сацыяльна-эканамічнага і культурнага аблічча Беларусі.

**Табліца 1. Мястэчкі Навагрудскага ўезда па звестках на 1859 г.[2]**

| Мястэчка (колькасць двароў) | Усяго мястэчак (двароў у іх) |
|---|---|
| Нягневічы (40), Любча (205), Карэлічы (130), Уселюб (106), Дзяляцічы (75), Гарадзішча (140), Цырын (95), Крошын (92), Новая Мыш (132), Мір (333), Турэц (165), Ярэмічы (90), Ішкальдзь (105), Паланэчка (108), Сноў (39), Ведзьма (Станіславаў) (8), Крывошын (20), Сваяцічы (73), Стваловічы (101), Палонка (21) | 20 (2018) |

Адной з адметных рысаў мястэчак, што адрознівала іх ад сельскіх паселішчаў і набліжала да гарадоў, была сацыяльная і этна-канфесійная стракатасць насельніцтва.

Насельніцтва мястэчак у XIX ст. уяўляла сабой кангламерат розных саслоўных груп, самымі шматлікімі з якіх былі сяляне і мяшчане. Акрамя іх ў мястэчках жылі купцы, дваране, чыноўнікі, разначынцы, духоўныя асобы, ваенныя, аднадворцы, дваровыя людзі, ганаровыя грамадзяне і інш. У мястэчках пражывалі і гарадскія (мяшчане, купцы, ганаровыя грамадзяне), і сельскія саслоўі (розныя катэгорыі сялян). Саслоўную дынаміку мястэчак узмацнялі змены ў размеркаванні габрэяў паміж населенымі пунктамі Беларусі.

[1] Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 год. XXII. Минская губерния. – СПб., 1904. – С. 178.
[2] Складзена па даных: Зеленский, И. Материалы для географии и статистики России. Минская губерния. – Ч. 2. – СПб., 1864. – С. 665 – 666. (інфармацыя пра мястэчкі запазычаная І.Зяленскім са спісаў населеных мясцовасцяў, складзеных па распараджэнню МУС у 1859 г.)

Пераважна за кошт перасяленняў габрэяў, а часткова і ў выніку эканамічных чыннікаў, адбываўся рост гарадскіх саслоўяў (мяшчан, купцоў). Пры гэтым саслоўная структура мястэчак вылучалася адноснай гармоніяй. У сярэдзіне XIX ст. у мястэчках прадстаўнікі сельскіх саслоўяў складалі каля 40%, гарадскіх – каля 60%, яны суадносіліся як 1: 1,5, што пацвярджае прамежкавае становішча мястэчак паміж вёскай і горадам, а таксама перавагу у іх гарадскіх элементаў.

На працягу XIX ст. адбыліся значныя змены ў этнаканфесійным складзе насельніцтва мястэчак: вырасла колькасць і ўдзельная вага габрэяў, яны сталі пераважаць над прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей. Гэта было выклікана гвалтоўнымі мерамі ўлад, накіраванымі на канцэнтрацыю габрэяў у гарадах і мястэчках. Пабочным рэзультатам праводзімай уладамі палітыкі ўрбанізацыі было ператварэнне мястэчак у асяродкі габрэйскай гісторыі і культуры рэгіёна. Своеасаблівая габрэйская субкультура была значна адасобленая ад навакольнага культурнага асяроддзя. Наяўнасць гэтай рэлігійна-культурнай і духоўна-сацыяльнай аўтаноміі габрэйскіх абшчынаў у мястэчках выклікае неабходнасць ўжывання паняцця “штэтл”, пад якім трэба разумець габрэйскую фізічную і духоўную прастору ў беларускім мястэчку. Наяўнасць штэтла выступае галоўнай асаблівасцю беларускага мястэчка канца XVIII – пачатку XX ст. У адзіным працэсе функцыянавання гэтых паселішчаў узаемадзейнічалі прадстаўнікі розных этнасаў і веравызнанняў. Гэта стварала своеасаблівасць гаспадарчага і сацыяльна-культурнага жыцця, унікальныя формы зносін паміж людзьмі ў мястэчках.

Агульная статыстыка па насельніцтву ўсіх мястэчак паўночна-заходніх губерняў Расійскай імперыі была сабраная ў канцы 1860-х гг., калі рыхтавалася новае “Гарадавое палажэнне”, прынятае ў 1870 г.[3] У мястэчках пяці беларускіх губерняў к 1870 г. пражывала 379922 чал., з іх 6956 прадстаўнікоў дваран і духавенства, 228588 купцоў і мяшчан (у т.л. 25905 – хрысціянскага веравызнання, 202683 ці 88,7% – іудзейскага ), 143933 асоб сельскага стану (у т.л. 142690 – хрысціянскага веравызнання, 1243 – іудзейскага). Прадстаўнікі гарадскіх саслоўяў складалі 61,2 % усяго насельніцтва, сельскага стану – 38,8%. Гэта важкі аргумент на карысць гарадской сутнасці мястэчак. Існаванне купцоў і мяшчан было самым непасрэдным чынам звязана з гарадскім жыццём і народжана ім. Менавіта яны вызначалі лад гарадскога жыцця і складалі той пласт гарадскога насельніцтва, які называўся “грамадзяне” або “гарадское грамадзянства”.

Структуру насельніцтва мястэчак Навагрудскага ўезду па гэтых матэрыялах адлюстроўваюць звесткі табліцы 2.

**Табліца 2. Статыстычныя дадзеныя аб мястэчках Навагрудскага ўезда на канец 1860-х гг.** [4]

| Мястэчка | усіх жых. | У тым ліку: | | | | | % адносна агульнай колькасці жыхароў | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | дваран і дух-ва | купцоў і мяшчан | | асоб сельскага стану | | | | |
| | | | хрысц. | іудзеяў | хрысц. | іудзеяў | асоб гарадскіх саслоўяў | асоб сельск. стану | іудзеяў |
| Нягневічы | 433 | 18 | – | 148 | 267 | – | 38,4 | 61,6 | 34,2 |
| Карэлічы | 1242 | 60 | – | 568 | 614 | – | 50,6 | 49,4 | 45,7 |
| Любча | 1686 | 12 | – | 860 | 814 | – | 51,7 | 48,3 | 51 |
| Дзяляцічы | 892 | 57 | – | 248 | 587 | – | 34,2 | 65,8 | 27,8 |
| Уселюб | 998 | 7 | 31 | 198 | 762 | – | 23,7 | 76,3 | 19,8 |
| Гарадзішча | 1280 | 67 | 16 | 853 | 344 | – | 73 | 27 | 66,6 |
| Цырын | 695 | 20 | – | 175 | 500 | – | 28,1 | 71,9 | 25,2 |
| Сталавічы | 635 | 22 | – | 340 | 273 | – | 57 | 43 | 56,6 |

[3] Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи (городовое положение 16 июня 1870 г.). – Т. V. – СПб., 1879. – С. 82 - 102.
[4] Там сама.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Новая Мыш | 1722 | 103 | – | 647 | 972 | – | 43,6 | 56,4 | 37,5 |
| Крошын | 869 | 5 | 31 | 117 | 716 | – | 17,6 | 82,4 | 13,4 |
| Палонка | 277 | 7 | – | 181 | 89 | – | 67,9 | 32,1 | 63,3 |
| Мір | 4273 | 96 | 54 | 2782 | 1341 | – | 68,6 | 31,4 | 65,1 |
| Ярэмічы | 824 | 11 | 4 | 250 | 559 | – | 32,2 | 67,8 | 30,3 |
| Турэц | 831 | 10 | 2 | 189 | 630 | – | 24,2 | 75,8 | 22,7 |
| Сноў | 374 | 14 | 18 | 217 | 125 | – | 66,6 | 33,4 | 58 |
| Сваятычы | 547 | 3 | – | 10 | 534 | – | 2,4 | 97,6 | 1,8 |
| Відзьма | 68 | – | – | 13 | 55 | – | 19,2 | 80,8 | 19,1 |
| Крывошын | 275 | 7 | 6 | 5 | 257 | – | 6,6 | 93,4 | 1,8 |
| Ліпск | 556 | – | – | 16 | 540 | – | 2,9 | 97,1 | 2,8 |
| **Усяго** | **18477** | **519** | **162** | **7817** | **9979** | **–** | **46** | **54** | **42,3** |

Аналізуючы статыстычныя дадзеныя табліцы 2, можам вызначыць, што на тэрыторыі ўезда былі адносна вялікія мястэчкі – Мір (4273), Новая Мыш (1722), Любча (1686), Гарадзішча (1280), Карэлічы (1242); з сярэдняй колькасцю насельніцтва – Уселюб (998), Дзяляцічы (892), Крошын (869), Турэц (831), Ярэмічы (824), Цырын (695), Сталавічы (635), Ліпск (556), Сваятычы (547) і малыя мястэчкі (меньш за 500 жыхароў) – Нягневічы (433), Сноў (374), Палонка (277), Крывошын (275), Відзьма (68).

Гарадскія саслоўі (купцы і мяшчане) сярод жыхароў мястэчак Навагрудчыны складалі 46 %, а сельскія (розныя катэгорыі сялянства) – 54 %. У 6-ці мястэчак гарадскія саслоўі пераўзыходзілі сельскія: Гарадзішча, Сноў, Мір, Палонка, Любча, Карэлічы. Але большасць мястэчак (13 з 19) насілі аграрны характар і складаліся пераважна з сялянства. Удзельная вага іўдзеяў даходзіла да 42,3 % местачкоўцаў Навагрудчыны. Але ў некаторых мястэчках яны пераважалі над хрысціянамі: Гарадзішча (66,6 %), Мір (65,1 %), Палонка (63,3 %).

Уявіць карціну этнаканфесійнай структуры насельніцтва мястэчак Навагрудскага ўезда ў канцы XIX ст. можна з дапамогай апублікаваных у 1904 г. матэрыялаў першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. па Мінскай губерні, дзе ў адной з табліц адлюстравана размеркаванне насельніцтва па роднай мове і саслоўях ва ўездах. Мяшчане і купцы Навагрудскага ўезду паказаны без г. Навагрудка, а значыць гэта, як правіла, жыхары мястэчак.

**Табліца 3. Склад мяшчанаў Навагрудскага ўезда ў 1897 г. па роднай мове[5]**

| Родная мова | мужчыны | жанчыны | усяго |
|---|---|---|---|
| велікаруская | 489 | 188 | 677 |
| беларуская | 2258 | 2167 | 4425 |
| польская | 452 | 459 | 911 |
| іншыя славянскія | 1 | - | 1 |
| літоўская | 2 | 1 | 3 |
| іншыя інда-еўрапейскія | 8 | 5 | 13 |
| нямецкая | 26 | 28 | 54 |
| яўрэйская | 12004 | 13136 | 25140 |
| **усяго** | **15240** | **15984** | **31224** |

Як бачым, мяшчане мястэчак Навагрудчыны размаўлялі ці, дакладней, лічылі роднай 8 моваў. Найбольш было мяшчан-габрэяў (25140). На другім месцы былі беларускамоўныя мяшчане (4425), на трэцім – польскамоўныя (911), затым ішлі рускамоўныя (677). Нямецкую мову назвалі роднай 54 чал.

Купцы мястэчак Навагрудскага ўезду былі амаль усе габрэямі (161), невялікую частку іх складалі рускія (10) і беларусы (5), што адлюстроўвае наступная табліца.

[5] Первая всеобщая перепись населения Российской империи, 1897 год. XXII. Минская губерния. – СПб., 1904. – С. 230 – 231.

**Табліца 4. Склад купцоў (разам з сем'ямі) Навагрудскага ўезда ў 1897 г. па роднай мове**[6]

| Родная мова | мужчыны | жанчыны | усяго |
|---|---|---|---|
| велікаруская | 7 | 3 | 10 |
| беларуская | 2 | 3 | 5 |
| габрэйская | 87 | 74 | 161 |
| **усяго** | **96** | **80** | **216** |

У некаторых мястэчках пражывалі цыганы і татары. Славу "цыганскай сталіцы" меў у XVIII ст. ***Мір***. На полі каля Міра збіраліся цыганы з усіх канцоў края, для выбараў старэйшын, якіх называлі "цыганскімі каралямі". Найбольш вядомым з іх быў Ян Марцінкевіч, які ў 1778 г. атрымаў грамату ад Караля Станіслава Радзівіла, вядомага пад мянушкаю "Пане Каханку". Марцінкевіч уладарыў да 1790 г. і жыў у м.Мір. Ён славіўся сваімі дзівацтвамі, жыў занадта раскошна і даваў шыкоўныя банкеты, на якіх прысутнічалі знаныя шляхціцы і нават сам Пане Каханку. Марцінкевіч пабудаваў у Міры палац і акружыў сябе шматлікай світаю з цыганоў. Ён імкнуўся ва ўсім капіраваць свайго вяльможнага патрона Радзівіла. Цыганскі кароль ездзіў у пазалочанай карэце, запрэжанай 12-ю конямі. Калі ж ён ішоў пешшу, дык яго суправаджала багата апранутая світа, а прахожыя цыганы мусілі здымаць шапкі і пачціва чакаць у паклоне, пакуль ён пройдзе.... Цыганы заснавалі ў Міры папяровыя, суконныя, ткацкія і футравыя мануфактуры, якія квітнелі ў XVIII ст., а ў сярэдзіне XIX ст. пачалі занепадаць, але ткацкія вырабы мірскіх цыганоў па-ранейшаму мелі добры попыт[7]. Ад цыганскага мінулага ў Міры не засталося ніякіх сведчанняў. Жылі ў Міры таксама татары. У XIX ст. іх колькасць тут была заўважная: у 1814 г., напрыклад, 87 чалавек, 19 двароў[8]; у 1840 г. была збудаваная мячэць. Паводле сведчання Уладзіслава Сыракомлі: "Жыве ў Міры некалькі дзесяткаў татарскіх сем'яў, татары маюць тут свайго Молну (мулу – *аўт.*) і малую, прыцененую дрэвамі мячэць. Хто і калі іх тут пасяліў, яны не помняць"[9].




**Мал. 1.** *Сталавічы на нямецкай паштоўцы часоў Першай сусветнай вайны*

[6] Там сама.
[7] Калінін В. Цыганы на Беларусі // З гісторыяй на "Вы". Выпуск другі / Уклад. У.Арлова. – Мн., 1994. – С. 336 – 338.
[8] Адзел Рукапісаў Бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта. –Р4-36348 (А-849) – Арк. 20.
[9] Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах / У.Сыракомля // Добрыя весці: Паэзія, проза, крытыка. – Мінск, 1993. – С. 208.

У пачатку 30-х гг. XIX ст. у м.Новая Мыш было 69 татараў, м.Гарадзішча – 30[10]. Паводле інвентара 1834 г. у Карэлічах было 9 татарскіх двароў[11].

Такім чынам, найбольш распаўсюджаным у беларускіх мястэчках быў класічны "трохкутніка" – *царква-касцёл-сінагога* (што адлюстравана на па мал. 1). У Міры меў месца іншы варыянт – *царква-касцёл-сінагога-мячэць.*

Як складваліся **ўзаемаадносіны паміж прадстаўнікамі розных этнаканфесійных груп** местачковага насельніцтва? Адназначна адказаць на гэтыя пытанні немагчыма. Дакументальныя матэрыялы і мемуарная літаратура дазваляюць заўважыць парадаксальнае спалучэнне напружанай штодзённай барацьбы за існаванне скучанай местачковай беднаты і атмасферы пераважна добразычлівых і даверлівых адносін паміж людзьмі, у аснове якіх ляжалі непазбежныя эканамічныя інтарэсы. Міжэтнічныя ўзаемаадносіны ў мястэчках не заўсёды былі адназначнымі. Мелі месца праявы ўсіх тыпаў гэтых адносін: сяброўскіх, нейтральных, непрыязных. Амплітуда іх вагалася паміж палюсамі добразычлівасці, талерантнасці, эканамічнага супрацоўніцтва, міжкультурнага дыялогу – і ізаляцыянізму, нецярпімасці, падазронасці і нават варожасці. Аднак да гэтага негатыўнага полюсу міжэтнічныя адносіны ў мястэчках Беларусі набліжаліся рэдка. Дзяржаўны антысемітызм часоў Расійскай імперыі меў мінімальны ўплыў на беларусаў. У мястэчках гэты ўплыў у параўнанні з гарадамі, дзе жыццё было значна больш дынамічным, адчуваўся слаба. Істотным фактарам штодзённых міжэтнічных адносінаў у мястэчках было тое, што з-за невялікіх памераў усе местачковыя жыхары ведалі адзін аднаго, што было немагчымым у горадзе. Узаемаадносіны паміж прадстаўнікамі розных этнаканфесійных груп насельніцтва ў мястэчках характарызаваліся досыць высокай ступенню талерантнасці. Іх можна выразіць формулай "іншы свой". Менавіта пачуццё "тутэйшай свойскасці", "тутэйшасці" засцерагала ад канфліктаў. Ва ўмовах такой неталерантнай дзяржавы, якой была Расійская імперыя, мястэчкі дэманстравалі захаванне мясцовых традыцый самакіравання на прынцыпах рэлігійнай талерантнасці і канструктыўнай шматэнічнасці

Такім чынам, самае важнае гістарычнае значэнне мястэчак ў тым, што гэтыя паселішчы з'яўляліся прыкладам "сужыцця" у згодзе пад "адным дахам" розных этнасаў, вераў, моваў і культур, своеасаблівай кантактнай зонай паміж імі. "Напрацоўкай" і заслугай мястэчак, прадуктам местачковага жыцця назваў Вячаслаў Рагойша такія характэрныя для беларусаў якасці, як "нацыянальная, моўная, палітычная талерантнасць, пачуццё сужыцця "у адной лодцы" і інш.[12] Можна сцвярджаць, што і мястэчкі прычыніліся да таго, што Беларусь зрабілася антыподам Вавілонскай вежы: тут Госпад даў паразумецца мноству моваў[13].

---

[10] НГАБ у Гродна. – Ф. 1. – Воп. 4. – Адз. зах. 663. – Арк. 5.

[11] AGAD. – AR. – Dz. XXV. – Sygn. 1814.

[12] Рагойша, В. Заходнебеларускае мястэчка як асяродак беларуска-польскага культурнага сумежжа (на прыкладзе Ракава) / В.Рагойша // На шляхах да ўзаемаразумення. Беларусіка. – Кн.15. – Мінск, 2000. – С. 62.

[13] Гэтае трапнае выказванне пра Беларусь належыць Паўлу Севярынцу: Севярынец, П. Люблю Беларусь / П.Севярынец. – Вільня, 2008. – С. 298.

Р. Александровіч (Мінск-Навагрудак)

# Татарскі след у гісторыі нав激градчыны

## Татарскія этнонімы

Кожны народ мае сваё імя – **этнонім**. Нашчадкі залатаардынскіх воінаў пасяліліся на этнічных землях Беларусі, Літвы і Польшчы ў часы Вялікага Княства Літоўскага. У дачыненні да гэтага народа ўжываецца этнонім «літоўскія татары» – ён як раз і зацвярджае сказанае вышэй.

Гістарычна найбольш апраўданым лічыцца тэрмін «беларуска-літоўскія татары», якім звычайна карыстаюцца гісторыкі і этнографы. Татары пражываюць на землях Беларусі звыш шасці сотняў гадоў і адносяцца да карэнніх этнасаў. Этнонім «беларускія татары» сярод айчынных даследчыкаў набывае ўсё шырэйшы ўжытак, у той час як у сучаснай Польшчы (з часоў Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага ў яе складзе) замацаваўся тэрмін «польска-літоўскія», «польскія» татары (у Літве – «літоўскія» татары).

Менш знаёмыя сучаснікам, але часта сустракаемыя ў публікацыях мінулых стагоддзяў, найменні – «польскія мусульмане», «літоўскія мусульмане», «беларускія мусульмане», «шляхта магаметане», «ліпкі». Самы «малады» тэрмін – «заходнія татары». Мы ж аддаем перавагу назову, які пачаў выкарыстоўвацца ў 20-х гадах XX стагоддзя – «беларускія татары» і яго варыянтам – «тутэйшыя татары», «літоўскія татары»[1].

## З гісторыі пасялення

Першыя пасяленні татараў на беларускіх землях былі вайсковымі і адрозніваюцца ад наступных нешматлікасцю. Агульна вядомым з’яўляецца пісьмовае ўпамінанне 1397 г. аб тым, што князь Вітаўт утварыў вайсковыя пасяленні татараў на землях ВКЛ. Але яшчэ вялікія князі Гедымін, Кейстут, Альгерд запрашалі татараў з Залатой Арды для барацьбы з нападамі суседзяў з усходу і захаду. Вядома, напрыклад, што ў бойцы вялікага князя Гедыміна з тэўтонцамі ў 1319 г. ўдзельнічаў татарскі перадавы атрад.

Пад час бітвы вялікага князя літоўскага, жамойтскага і наўгародскага Рынгальта супраць кіеўскага князя Святаслава, валынскага (уладзімірскага) князя Льва і друцкага князя Дзімітра ў аб’яднаным войску апошніх знаходзілася каля 15 тысяч татараў. Пасля працяглага бою «над Немном у Могильны» на яго астатак Бог дапамог Рынгальту. «Ринголт з великим триумфом и добычею неошанцованною, маючи при собе тысячу татаров, а руси двесте невольников повернул до Новгородка и был всем потом Ринголт страшен». **Вось тады і з’явіліся ў Новагародскім княстве першыя татары[2].**

Найбольш бліскучай старонкай у гісторыі пасялення і жыцця татараў з’яўляецца эпоха княжання аднаго са слаўнейшых правіцеляў дзяржаў Еўропы – Вітаўта. Аб тым, што татары асоба вылучалі і шанавалі Вітаўта, гаворыць той факт, што яны называлі яго Бе-

[1] Ад “Вялікае Княства Літоўскае”
[2] Хроника Литовская и Жмойтская. ПСРЛ. Т. 32. - М., 1975. С.25, 26.

лым Ханам і Ватадам. Ватад (Ватадзь) – апора татараў[3]. Вітаўт імкнуўся выкарыстаць Тахтамыша ў барацьбе з крыжакамі, з Масковіяй. Выконваючы ролю абаронцы, запрошаныя Вітаўтам татары аселі вакол замкаў у Вільні, Троках, Медніках, Лідзе, Навагародку, Крэве, утварыўшы сваім пасяленнем абарончае паўкола[4].

У ВКЛ у 1409 г. прыбыў сын Тахтамыша **Джэлал-ад-Дзін**, у 1410 г. ён прымаў свой важкі ўдзел ў Грунвальдскай бітве. Пазней воіны з Залатой Арды прыходзілі паступова, сяліліся сваімі родамі, у тым ліку і ў Наваградскім павеце. У 1631 г. тут пасялілася найбольшая колькасць прадстаўнікоў **племя барын** - 82 дымы ў Навагрудскім і Мсціслаўскім паветах. У племя барын увaходзілі нашчадкі вышэйшых арыстакратычных родаў Крымскага ханства. Таксама ў Навагрудскім павеце жылі нашчадкі залатаардынскай знаці з **уланаў**[5] і нашчадкі мангольскага **племені джалаір (**цюркскія плямёны ўвайшлі ў яго склад) - 74 дымы ў Віленскім, Навагрудскім і Ашмянскім паветах. Некаторыя прыбылі з жонкамі і дзецьмі, іншым быў дазволены шлюб з мясцовымі жанчынамі[6].

## Заняткі татараў

Пры надзяленні татараў зямлёю ўрад даваў ім прывілеі на права ўладання. Самы старажытны акт 1392 г., у якім узгадваюцца землі, адпісаныя татарам, змешчаны ў кнізе Запісаў Літоўскай Мэтрыкі № 4: „Привилей татарину Сиатию и его сыну на поместья, в повете **Новогрудском, называемые Тупалы и Гнетковичи”**[7]**.**

Татары ядналіся ў харугвы. У кожную харугву ўваходзілі прадстаўнікі аднаго роду, не гледзячы на тое, што гэты род, часам, меў асады[8] па некалькіх паветах. На чале кожнай харугвы, паводле гаспадарскіх прывілеяў, з ліку мурз[9], уланаў, юшынаў прызначаліся харужыя і маршалкі[10]. Антон Мухлінскі[11] адзначае: “Как звание хорунжаго было военное, так звание маршалка было земское и свойственное только Литве. Татары там издавна имели своих Маршалков: в Литовской Метрике находится привилегия Короля Александра, данная Маршалку Татарскому Келдыяру Курченичу на две службы людей в Новогородской волости, 7 апреля 1505 года. Обязанностию маршалка было, по словам грамоты Сигизмунда І, пожалованной на звание маршалка князю Махмету Улану Осанчуковичу в 1540 г. 15 Мая «в стягу, ся рядити и справовати»”[12].

У 1521 г., 18 жніўня быў выдадзены ліст караля Жыгімонта І, які дазваляў князю Малікбашы адчыніць ў маёнтку Крошын корчмы[13]. У 1523 г., 17 чэрвеня каралём выдадзены прывілей сынам князя Малікбашы на маёнтак Крошын. З цягам часу татары мелі права прадаваць свае маёнткі. У 1566 г. быў выдадзены ліст Астафію Валовічу на

---

[3] у перакладзе з арабскай мовы Ватад – “палаточный кол”, “столб”. Баранов, Х.К. Арабско-русский словарь, издание 7-е, стереотипное. – М.: «Русский язык», 1989.

[4] па нашым уяўленні - паўмесяц

[5] частка уланаў пазней прыняла прозвішча Карыцкія ад маёнтка Карыца ў Наваградскім павеце

[6] Канапацкі, І.Б. Татары / Ібрагім Канапацкі. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 6. Кн. 1.– Мн.: БелЭн, 2001. – 592 с.: іл. С. 508-511.

[7] Daniłowich. «Skarbiec dyplomtów papizskich, królewskich, książecych … poslugujących do krytycnego wyjaśnienie dieilów Litwy, Rusi Lietywskiej i ościennych im krajow». Wilno. 1860—62. T.I, str. 296, № 626.

[8] асады называліся „татаршчызна”(татаршчына); татаршчына – дзяржаўная вайсковая служба ў ВКЛ, з тягам часу – назва паселішча

[9] “Мурза, мірза (ад перс. эмір-задэ – сын эміра, князя). 1) У Іране тытул членаў манаршага дома (ставіцца пасля імя) або чыноўнік, сакратар (ставіцца перад імем); 2) У цюрскіх мусульманскіх народаў з XIII ст. словам “мурза” называліся буйныя феадалы, кіраўнікі асобых ордаў і родаў. У беларускіх татараў “мурза” (князь) – прадстаўнік шляхецкага саслоўя. У некаторых выпадках слова “мурза” стала часткай прозвішча, як напрыклад. Мурзы-Мурзічы.” Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т. 5. - Мн.: БелЭН, 2000. С. 241.

[10] Литовская Метрика. Кн. Зап. № 100, л. 107; Лаппо, И. И. .Великое Княжество Литовское за время от заключения Люблинской унии до Стефана Батория (1569—1586). С. 232-233.

[11] Антон Восіпавіч (Іосіфавіч) Мухлінскі нарадзіўся ў сям’і дробнага шляхціча 20 кастрычніка 1808 г. у маёнтку Саснова на Навагрудчыне. Яго праца “Изследование о происхождении и состоянии литовских татар” служыць крыніцай вывучэння гісторыі татараў і сёння.

[12] Мухлинский, А. Изследование о происхождении и состоянии литовских татар. Минск: Беларускае кааператыўнае таварыства ”Адраджэнне”, 1993. (Репринт. воспроизв. Изд. СПб.: Тип. Эдуарда Веймара, 1857).

[13] Акты, издаваемые Виленскою Комиссiею для разбора древнихъ актовъ. Томъ XXXI. Акты о литовских татарахъ. Вильна. – 1906. – Акт №1. Стр. 1

набыццё ў татар маёнтка Крошын[14].

Трэба адзначыць, што былі і падданыя татары. У часе кіравання Казіміра Ягелона (1444-1492) вялася барацьба з Перакопскім царом Мэнглі-Гірэем, дзеля чаго палонных татараў не „асаживали", як гэта было звычайна, а раздавалі панам і шляхце, якія карысталіся татарамі для рознай паслугі: пры двары Рудніках, Наваградскага павету, запісаны цяглы—Алей Суліdespite Суліmановіч[15]. У выпадках войн паны і шляхта бралі сваіх падданых татараў „въ почогъ", дзеля чаго, з цягам часу гэтыя татары пачалі несьці службу баяр путных"[16].

Воінская павіннасць заставалася за татарамі. Згодна з дадзенымі перапісу войска ВКЛ 1528 г. улічвалася колькасць коней (значыць конных воінаў-рыцараў), якую шляхцічы павінны былі выстаўляць на ваенную службу ў залежнасці ад велічыні сваіх маёнткаў. Баярыны-шляхцічы Ноўгародскага павета выстаўлялі 350 коней, або ў сярэднім па 1,4 конніка. Пры гэтым 70 татараў Ноўгародскага павета выстаўлялі 117 коннікаў (у сярднім па 1,7 каня), што складала значную частку. 19 з іх - "козакі" - сялян не мелі, а астатнія 51 з'яўляліся дробнымі феадаламі, выстаўлялі па 2-3 кані[17]. Многія татары з найдрабнейшай шляхты не мелі сялян і ездзілі на ваенную службу асабіста. Так, харужы з татараў князь Банько Сенькавіч прыехаў на збор войска разам з братам Адкам і яшчэ адным коннікам.

Пастунова татары пачынаюць адыходзіць ад галоўнага свайго занятку – воінства і сярод іх усё больш распаўсюджваюцца іншыя віды дзейнасці. У Статуце 1588 г. запісана: "а некаторыя татары ізвозам прамышляюць, агароды трымаюць, жывёлай гандлююць, скуры вырабляюць і якім-небудзь рамяством на жыццё зарабляюць"[18].

Вайсковая служба заставалася за прывілеяванымі татарамі, іншыя заняткі разглядаліся як сродак мець дадатковы заробак. Аб тым сведчыць хадайніцтва Насыфа Александровіча аб пацверджанні прывілей і замацаванні адзінай павіннасці – воінскай. Каралём Польшчы ў 1586 г. выдадзены дакумент аб зацверджанні яго ў тытуле князя, наданні герба і надзяленні землямі над ракой Апітай у Ашмянскім павете Наваградскага ваяводства. Жыгімонт III пакідае за ім маёнтак Уліта Ташлікаўская "они сами, жёны, дети и потомки их, от даты сего листу нашего с тых имений своих уживати вечными и непорушными часы маютъ... До этого листа печать нашу Великого Князства Литовского привесити есьмо велели... Писан в Варшаве, лета Божего нароженья 1590, марца 23 дня"[19].

Урад не толькі даў татарам да некаторай ступені самакіраванне, але там, дзе былі значныя асады татараў, прызначаў і на пасады з выканаўчымі абавязкамі ў дзяржаўных судах[20]. У справах паміж сабою, не злучаных з уладаннем зямлёю, яны карысталіся самакіраваннем, складалі асаблівае войска ў час вайны, а ў час мірнага стану выконвалі сумесна абрады мусульманскай веры[21]. Татары судзіліся паміж сабою ў абраных сярод іх суддзяў, якія называліся „кадыямі"[22]. У справах з іншым насельніцтвам і, галоўнае, злучаных з зямельнымі надзеламі, павінны былі накіроўвацца да суду, агульнага з іншаю шляхтаю[23].

Польска-беларускі паэт Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч) адзначаў: "Татары займаюцца вырабам шкур, агародніцтвам, якое вядуць адмыслова, і фурманствам. Увогулле гэта працавіты люд…"[24]. Прыкладна тое ж чытаем у падарожных запісах Вінцеся Каратынскага **"Наваградчына і Наваградак"**: "Сярод татараў адны таксама

[14] Акты, издаваемые Виленскою Комиссіею для разбора древнихъ актовъ. Томъ XXXI. Акты о литовских татарахъ. Вильна. – 1906. – Акт №11. Стр. 12

[15] Акты Літоўскай Мэтрыкі. Кн. Перапісаў № 12.

[16] Гембіцкі, Я. Да пытання аб сацыяльна-эканамічным стане беларускіх татар у сярэднявеччы. / Ях'я Гембіцкі. Беларуская Акадэмія навук. Запіскі Аддзела Гуманітарных навук. Працы па гісторыі. Кн. 8. Т. III. – Менск, 1929. С. 61.

[17] Памяць: Гістор.-дакум. хроніка Навагруд. р-на. – Мн.: Беларусь. – 559 с.: іл.С. 95.

[18] Статут ВКЛ 1588 г.

[19] Акты Галоўнага Літоўскага Трыбунала, Вільна, 1836. Т. XIII. Дакумент № 19. С. 60.

[20] АВК. Т. XXXI. 1592-1594 гг.

[21] A. Kruman. "0 muślimach Litewskich. Str. 30.

[22] АВК. Т. XXXI. 1594 г.

[23] Мухлинский, А. Изследование о происхождении и состоянии Литовских татар.

[24] Сыракомля, У. Вандроўкі па маіх былых ваколіцах. - Вільна, 1853.

служаць, займаюцца агародніцтвам, гарбарствам, зарабляюць фурманкаю. Яны вылучаюцца годнасцю і працавітасцю… Паводзіны насельнікаў горада, хрысціян і татараў, узорныя; узаемаадносіны шчырыя, простыя, амаль вясковыя; бура пачуццяў, якая стрымліваецца рэлігіяй і славянскаю лагоднасцю; прастата, ветлівасць, гасціннасць – усё гэта ўяўляецца вельмі сімпатычным"[25].

Цікавіліся татарамі, іх гісторыяй і культурай віленскія філаматы, сярод якіх быў наваградчанін Адам Міцкевіч, які хадзіў па Наваградку аднымі сцежкамі з татарамі, у тым ліку на вуліцы Татарскай (сучас. Інтэрнацыянальная), якая адыходзіла ад цэнтра і вяла да драўлянай мячэці. Філаматы ведалі публікацыі Тадэуша Чацкага "Аб татарах"[26], "Як і калі татары сталі мець у нас свае асады[27]" .

Аб тым, што праблема татараў ВКЛ вывучалася філаматамі бачна з публікацыі 1821 года пад назвай «Інструкцыя па складанні вопісу парафіі Н, у повеце Н, у губерні Н». У раздзеле «Стан насельніцтва» змешчаны табліцы. На адной з іх пад назвай «Перапіс насельніцтва у залежнасці ад прыналежнасці» татары ўзгадваюцца пасля палякаў, немцаў, рускіх, але перад габрэямі, караімамі і цыганамі. У таблицы «Перапіс насельніцтва ў залежнасці ад рэлігіі» указваюцца: каталікі, лютаране, кальвіністы, уніяты, магаметане, раскольнікі[28].

У 1930-ыя гады Навагрудак меў найбольш сканцэнтраваную частку татарскага насельніцтва ў параўнанні з іншымі гарадамі. У час выбараў у мясцовыя органы ўлады былі створаны асобныя блокі з прадстаўнікоў розных нацыянальнасцяў (акрамя асноўнага насельніцтва). Татары разам з палякамі стваралі адзіны каталіцка-мусульмансткі блок.

## Статыстыка пражывання татараў у Навагрудку на періяд да Другой сусветнай вайны

У ХУ-ХУІІ ст. жыло татараў у паветах - найболей у Троцкім (1243), Наваградзкім (942), Менскім (818) і Ашмянскім (788). У канцы ХУІІІ ст., калі Рэч Паспаліта была поўнасцю падзелена, у межах Расійскай імперыі жыло прыблізна 11 тыс. татараў. Мінск знаходзіўся на першым месцы, тут пражывала больш чым 1300 чалавек, у Слоніме больш чым 700, а затым ішоў Навагрудак, дзе татараўскае насельніцтва складала 500 чалавек[29]. Напачатку ХІХ ст. дадзеныя аб колькасці жыхароў Наваградка з ліку татараў сведчаць аб іх зніжэнні. Так, у **1817 г.** са 1571 жыхароў горада вылучалася 319 татараў. Ці гэта сведчанне няпоўнага ахопу ці наступстваў (не абавязкова смерці) вайны 1812 года? Перапіс **1861 г.** сведчыць што колькасць татараў-магаметан вярнулася да колькасці канца ХУІІІ ст. **Паводле веравызнання** насельніцтва горада падзялялася наступным чынам: праваслаўныя 1064 (муж.), 309 (жан.); каталікі 678 (муж.), 736 (жан.); іўдзеі 1617 (муж.), 1615 (жан.); магаметане 246 (муж.), 223 (жан.); пратэстанты 9 (муж.), 4 (жан.). **У 1888** г. насельніцтва горада павялічылася да 12000 жыхароў. Паводле веравызнання вылучаліся: праваслаўныя-беларусы – 470, каталікі – 2200, магаметане – 1160.

Знакаміты найбольш поўным ахопам насельніцтва Расійскай імперыі перапіс **1897 г.** паказаў, што ў Навагрудку было 7887 жыхароў. Паводле веравызнання было праваслаўных і аднаверцаў 1573, рымска-католікаў 790, іўдзеяў 5015, магаметан 494, пратэстантаў 14, старавераў – 1. Размеркаванне насельніцтва паводле роднай мовы выглядала наступным чынам: веліка-, мала- і беларуская мовы – 2011[30], яўрэйская – 4992, польская – 401, нямецкая – 5, татарская – 475, астатнія – 3 чалавекі. Размеркаванне насельніцтва паводле саслоўяў: дваране патомныя і асабістыя – 883, духавенства – 28, купцы – 87, мяшчане – 5519, сяляне – 1324, замежныя падданыя – 11, астатнія – 35.

[25] Вінцэсь Каратынскі. Творы. Укл прадмова і камент. У.Мархеля. Выд. 2-ое, дапоўн.. - Мн.: Маст. літ-ра, 1994 – 406 с. С. 200

[26] Dziennik Wileński, 1810.

[27] Dziennik Wileński, 1816.

[28] Збігнеў Вуйцік.Філамацкі пераклад Кур'ану для татараў Наваградчыны // часопіс "Літаратура людова". №3, 1995. С.15-28

[29] пасля Навагрудка заставаліся Вільня, Гродна, Відзы, Ашмяны, Докшычы, Ляхавічы, Клецк, Іўе і інш.

[30] Размеркаванне насельніцтва па ўсходне-славянскіх мовах: беларуская (874 муж., 802 жан.); велікаруская (175 муж., 144 жан.); маларуская (10 муж., 6 жан.).

Пачатак XX ст. у статыстыцы адзначаны **1910 годам.** Па матэрыялах кнігі “Памяць”[31] у графе “Насельніцтва паводле веравызнання” магаметан – **545 чал.,** што складала 6,5 **%** ад агульнай колькасці жыхароў.Тыя ж лічбы адноста татараў значыліся і ў графе “**Насельніцтва па нацыянальнасці”.** У 1912-1915 гг. на тэрыторыі этнаграфічнай Беларусі мусульманаў было каля 10 тыс. 400 чал., на Літве 300 чалавек.

У 1921 г. у горадзе жыло 335 мусульман (5,7 % ад агульнай колькасці жыхароў).

## На абароне Айчыны

Татары прымалі актыўны ўдзел у **Грунвальдскай бітве** 1410 года. На баку саюзных Польскага каралеўства і ВКЛ змагаліся татарскія чамбулы ханаў Джэлал-ад-Дзіна і Багардзіна. Сорак харугваў Вітаўта занялі пазіцыю праваруч ад палякаў. “Некалькі ранішніх гадзін бітва не распачыналася. Крыжакі не хацелі сыходзіць з узвышша. Хаўруснікі, маючы ў заплеччы лясістую мясцовасць, таксама не спяшаліся наступаць, бо атака праз лагчыну на схілы ўзгоркаў ставіла іх у невыгоднае становішча. Урэшце на рашучыя дзеянні наважыліся вялікакняскія харугвы, якія выкарысталі тактыку **стэпавых ваяроў**. Трэба было выцягнуць крыжакоў на сябе, парушыць іх закаваныя ў жалеззе шыхты. Таму **ў першую атаку пайшлі лёгкаўзброеныя вершнікі і татары**. Пад залпамі бамбардаў, бранябойнымі джаламі арбалетных стрэлаў, праз воўчыя ямы, трацячы сотні таварышаў, дасягнулі яны рыцарскіх шыхтоў. І закіпела сеча…”[32].

З-за вялікай колькасці войск было так цесна, што «коні аціраліся бакамі» і ўклініцца ў баявыя парадкі закаваных у міланскую браню крыжакоў можна было толькі «скінуўшы з каня ці забіўшы праціўніка». “Каб пазбегнуць празмерных страт, татары ўжылі выпрабаваны манеўр уяўных панічных уцёкаў. Яны адначасова адарваліся ад праціўніка і накіраваліся на Паўночны усход ад Таненберга. Пасля адыходу татар крыжакі ўдарылі ў правы фланг беларуска-літоўскага войска… Вялікі магістр разлічваў змяць правае крыло саюзнікаў і ўсімі сіламі наваліцца на польскае войска. Быў момант, калі гэта задума была блізкая да ажыццяўлення: высечаныя больш чым напалавіну харугвы ВКЛ пахіснуліся і пачалі адступаць. Ад немінуючага разгрому іх выратаваў бліскуча выкананы падманны манеўр уяўнага панічнага адступлення: частка харугваў правага фланга россыпам памчалася да лесу і, падзяліўшыся на дзве часткі, адкрыла праход да ваеннага лагера ВКЛ,ператворанага ў непрыступны лагер…”[33].

“Лічыцца бясспрэчным, што менавіта ад рукі татарскага хана Багардзіна загінуў галоўнакамандуючы Тэўтонскага ордэна вялікі магістр Ульрых фон Юнгінген – гэта дае дастаткова падстаў разглядаць татарскую прысутнасць у ВКЛ як з’яву больш жаданую для апошняга, чым для саміх прышэльцаў у лепшым разуменні гэтага слова”[34].

Напрыканцы XVI ст. у Рэчы Паспалітай адбываецца змена дынастый. Першыя гады праўлення караля Жыгімонта III (1587—1632) азнаменаваліся захаваннем ягелонскіх традыцый. Новы манарх зацвердзіў татарам усе існаваўшыя да яго правы і прывілеі. Акрамя таго ён выказваў падданым магаметанскага веравызнання сваю прыхільнасць. Воінаў татарскіх харугваў, меўшых заслугі перад Рэччу Паспалітай, кароль надзяліў вялікімі маёнткамі. “Как и во времена Ягеллонов, при монаршем дворе **в Вавеле находилось несколько десятков татарских лучников, исполнявших обязанности королевской стражи, гонцов и курьеров.** Тех солдат, которые знали восточные обычаи, часто посылали с важными поручениями в Бахчисарай и Стамбул. **В коронной армии было 500 татар,** собранных в три хоругви Станислава Пшеренбского, Якуба Потоцкого и **Абрамовича”**[35].

Прадстаўнікі рода Александровічаў герба “Александровіч” неслі вайсковую служ-

[31] Памяць: Гістор.-дакум. хроніка Навагруд. р-на. – Мн.: Беларусь. – 559 с.: іл.

[32] Чарняўскі, М. Дзесяць бітваў / Міхась Чарняўскі. - Вільня: Наша будучыня, 2004. С.17-19.

[33] Цярохін, С. Грунвальдская бітва. / Станіслаў Цярохін. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: У 6 т. Т. 3. – Мн.: БелЭн, 1966. – 527 с.: іл. С. 159.

[34] Лыч, Л.М.// Л. М. Лыч. У асяроддзі хрысціянскага свету. Мн., 2006. С. 11.

[35] Гришин, Я.Я. Польско-литовские татары (Наследники Золотой Орды). Научно-популярные очерки. — Казань: Татарское кн. изд-во, 1995. — 195 с. С. 25-26.

бу. **Мехмед,** сын Насыфа - ротмістр караля, за службу атрымаў маёнтак Сёгда пад Ашмянамі Наваградскага ваяводства. Сын Мехмеда **Самуіл** ці Ісмаіл (1706 г. нар.) - паручнік караля, валодаў зямлёй над р. Ахнешыцай пад Наваградкам, а таксама меў фальварак у Асмолаве. Разам з жонкай Хамерай Багдановіч пакінуў чатырох сыноў. З іх **Абрагам** (1741(2) г. нар.) служыў у войску літоўскім (каралеўскі полк), з 1801 г. у адстаўцы. **Александр** з роду Александровічаў быў брыгадзірам (сяржантам) швадрона татарскага гвардыі Напалеона, прайшоў кампаніі ў Маскве, Саксоніі і Францыі.

**Найбольш знакаміты з татарскіх воінаў генерал Юсуф (Юзэф) Беляк.** Ён сын ротмістра Самуэля Беляка, які з 1761 г. быў уладальнікам часткі Лоўчыц пад Наваградкам. Юзэф Беляк стаў першым сярод татараў генералам Рэчы Паспалітай. Амаль усё жыццё храбрага воіна і вопытнага камандзіра было праведзена на вайне. Беляк узначальваў з 1764 г. чацвёрты полк Авангарднай аховы У 1772 г. кароль надаў Юзэфу Беляку чын генерал-маёра. У такім чыне ён працягваў камандаваць палком, а ў 1790 г. прызначаны камандзірам брыгады лёгкай кавалерыі, у склад якой уваходзіла тры татарскія палкі. На пачатку мая 1794 г. Беляк быў пастаўлены на чале брыгады з некалькіх палкоў лёгкай конніцы. У сярэдзіне мая брыгада далучана да корпуса князя Францішка Сапегі і корпус узначаліў вопытны Беляк.

Апошні польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі шанаваў вопыт знанага воіна, ацэньваў яго баявыя якасці, вытрымку, дабрадушнасць і меў звычай называць яго "добры Беляк". І гэта не гледзячы на тое, што ў падзеях 1768-1771г.г. Беляк падтрымліваў Барскую канфедэрацыю і за ідэі канфедэрантаў змагаўся супраць рускай арміі. У ліку яго поспехаў баі пад Кукелкамі, пад Слонімам, пад мястэчкам Сталовічы. Менавіта ўдалыя разлікі ў размяшчэнні палкоў дазволілі палкам Беляка і Карыцкага пазбегнуць разгрому войскамі Суворава, што не мінулі іншыя палкі. У войсках Рэчы Паспалітай існавала практыка набыцця чыноў за грошы. Не хапала дасведчаных афіцэраў, на канец 1780-х гадоў было 18 генеральскіх вакансій, большасць пасад была куплена, "у вайну 1792 года[36] ўсе яны, акрамя генерала-маёра Беляка, паказалі сваю няздатнасць"[37].

Юзаф Беляк без перабольшання быў у Рэчы Паспалітай у некаторых выпадках адзіным генералам, які валодаў талентам прымаць правільныя рашэнні, умеў разумна ацэнькаць сітуацыі. Генерал меў палкае сэрца - сэрца патрыёта. Сэрца старога генерала спынілася **пад час паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі,** калі ён камандаваў корпусам. Памяць аб слаўным патрыёце існуе ў гістарычных крыніцах, але для Наваградчыны было бы гонарам мець памятныя месцы, звязаныя з імем земляка з Лоўчыц.

У **час паўстання 1863 года** татары не мелі асабістых вайсковых фарміраванняў, як гэта было ў 1831 годзе, але многія падтрымлівалі паўстанне і сталі ў шыхты прыхільнікаў незалежнасці Рэчы Паспалітай. **Самуэль Туган-Бараноўскі** камандаваў атрадам паўстанцаў на Наваградчыне. **Адам Туган-Бараноўскі** тайна перавозіў для паўстанцаў Кастуся Каліноўскага зброю з Прусіі, арганізаваў збор сродкаў сярод памешчыкаў, кіраваў нацыянальнай жандармерыяй ў Мар'япольскім, Ваўкавыскім і Кальварыйскім паветах. Сярод паўстанцаў атрадаў Пасербскага, Чэрняка і Любіча сустараецца імя Туган-Бараноўскага[38]. Памешчык Навагрудскага павету **Тuганоўскі** пасля паражэння паўстання абвінавачваўся ў выкананні абавязкаў акружнога начальніка Навагрудскай паўстанскай арганізацыі[39].

25 чэрвеня 1835 года адкрыты Полацкі кадецкі корпус. На вучобу прымалі дзяцей дваран, многія навучаліся за казённы кошт. У 1890 г. жыхар Навагрудка Калежскі Асэсар Саліх Захар'еў Якубоўскі звяртаўся ў Дваранскі сход з прашэннем "об определении сына Давида 11 лет на казённое содержание". Пасля разгляду дакументаў "В Новогруд-

[36] вайна запалала ў абарону Канстытуцыі 3 мая
[37] Грыгор'еў, М. С.14
[38] Восстание 1863 года. Материалы и документы: Восстание в Литве и Белоруссии 1863-1864 гг. М: Изд-во «Наука», 1965. – 586 с. С. 177.
[39] Из заключения Временного полевого аудиториата по военно-судному делу о Новогрудской повстаческой организации // Восстание 1863 года. Материалы и документы: Восстание в Литве и Белоруссии 1863-1864 гг. М: Изд-во «Наука», 1965. – 586 с. С. 465.

ское уездное Полицейское управление" быў накіраваны адказ за подпісам "Предводителя Дворянства **В. Павлова"**[40]**: "**Прошу объявить Г-ну Якубовскому, что поименованный сын его назначен мною вместе с другими кандидатами к конкурсному экзамену для приёма на вакансию Дворянского пансионера". Спіс малалетніх дваран, якія вытрымалі экзамен і былі залічаны на вучобу ў **1890 г.,** утрымлівае наступныя звесткі: **Якубовский** Давид Салихович, время родж. 21 Января 1879, вероисповедания Магометанского, происхождения дворянин, отец имеет имение в Новогрудском уезде, обучение – домашнего приготовления[41].

На вучобу ў Брэсцкім (Аляксандраўскім) і Полацкім Кадетскіх карпусах ў 1852 г. прэтэндавалі сыны адстаўнога падпаручыка Мустафы Багдановіча - Іосіф (31 снежня 1840 г.нар.) і Алій (22 лютага 1843 г.нар.). "Сверх этих двух (Богдановичей Иосифа и Алия) старший уже определён в Брестский (Александровский) корпус"[42].

15 сакавіка 1876 г. у Мінскі Губернскі Дваранскі Сход было накіравана прашэнне ад пісьмавадзіцеля Іосіфа Палтаржыцкага, "ходатайствующего о помещении в Полоцкую Военную Гимназию малолетнего сына его Ивана на счёт капиталов, пожертвованных Дворянством или же в одну из военных Гимназий на счёт казны". У хадатайстве Дваранскага сходу адзначалася, што "Г-н Полторжицкий недвижимой собственности и капиталов не имеет, а хотя за опекою его и числится **фольварок Ловчицы** Новогрудского Уезда, заключающий в себе, как видно из ведомости и поземельной собственности Дворян, 28 десятин земли, но фольварок этот таких доходов, чтобы Полторжицкий мог воспитывать своих детей на собственный счёт не даёт, и потому, по бедности своей, поставлен в необходимость ходатайствовать о о помещении сына на казённое содержание"[43].

## У часы ваеннага ліхалецця

З жыхароў горада Навагрудка у кнізе "Памяць"[44] значацца наступныя:

**Абрамовіч** Мацвей Ібрагімавіч, нар. у 1909, загінуў у 1941.

**Шагідзевіч** Бекір Бекіравіч, н. у 1922, прызваны ў армію 22.07,1944, рад. 323 Бранскай сд, загінуў, 6.02.1945, пахаваны ў в. Гюнтэнсберг Брандэнбургскай правінцы (Германія).

**Эльяшэвіч** Мустафа Аляксандравіч, н. у 1923, прызваны ў армію 22.07.1944, нам. кам. аддз. 785 сп 144 сд, прапаў без вестак 14.01.1945.

**Якубоўскі** Іван Амуратавіч, рад. 415 сп, загінуў 15.03.1945 у Польшчы.

**Якубоўскі** Мустафа Бекіравіч, н. у 1908, стралок 413 сп І Брэсцкай сд, загінуў 15.09.1944,пахаваны ў Радзімінскім пав. Варшаўскага ваяв. (Польшча).

**Якубоўскі** Сцяпан Іосіфавіч, н. у 1923, прызваны ў армію 22.07.1944, рад., загінуў 19.04.1945, пахаваны ў в. Страні Учэрска Бродскай воласці (Чэха-Славакія).

**У 1939-41 гг.** частка інтэлегенцыя з ліку татараў Заходняй Беларусі дэпартавалася ў глыб Савецкага Саюза. Сярод іх быў і Эмір Байрашэўскі з Навагрудка. Уступілі ў Армію Андэрса і прайшлі шлях ад Блізкага Усходу да Італіі[45].

Са спіса узнагароджаных медалём **"За ўдзел у абарончай вайне 1939 года"** па г. Навагрудку: **Александровіч** Мар'яна Сцяпанаўна (1921 г.нар.), **Аліевіч** Фатма Сцяпанаўна (1919 г.нар.), **Смольскі** Мустафа Якаўлевіч (1915 г.нар.).

## Адданасць веры

Татары маглі мець розныя заняткі і гэта не выклікала ў іх такой моцнай нязгоды, якую выклікалі ўціскі, звязаныя са спавяданнем сваёй рэлігіі. З гэтым не маглі не лічыцца ўлады, што і адлюстравана ў дакументах. Статут абвяшчаў, а дакладней замацоўваў

[40] Гістарычны архіў. Фонд 320, вопіс 1, справа 517, інв. № 2.
[41] пазней на вучобу быў прыняты другі сын С.З. Якубоўскага – Іван
[42] Список малолетних дворян Минской губернии, представленных для определения в Александровский (*Брестский*) и Полоцкий Кадетские корпуса (1851-1872 гг.)
[43] Фонд 320, вопіс 1, справа 112.
[44] С. 450-454.
[45] Александровіч, Х.М.

існаваўшую ў краі цярпімасць ў адносінах да людзей розных рэлігійных канфесій[46].

Існуе паданне пра татарына Яна Мурзіча **з маёнтка Харавічы пад Навагрудкам.** У паданні расказваецца, што "пасля сканчэння руска-турэцкай вайны 1877-1878 гадоў згаданы вайсковец, які удзельнічаў ў вайне на баку рускай арміі, узяў у маёнтак некалькі палонных турэцкіх юнакоў, якія перакладалі тэксты мусульманскіх духоўных кніг, напісаных па-арабску. Уласна арабская мова ў ХУП-Х1Х стст. была ўжо незразумелай мулам і муэдзінам. Звычайна карысталіся перакладамі на польскую, рускую, беларускую мовы"[47]. У Турцыі ведалі арабскую мову, а мясцовыя татары, маючыя адпаведную адукацыю, ведалі турэцкую мову, наведвалі Турцыю.

Існавалі спробы перакладу Кур'ана на польскую мову. Гэтаму спрыялі і філаматы, асабліва тыя, хто меў дачыненне да Навагрудчыны. Бацькі Яна Чачота жылі ў недалёкім ад Навагрудка **фальварку Лоўчыцы**, куды пераехалі з Рэпіхава. Першыя паведамленні аб перакладзе з'явіліся ў 1828-1830 гг. ў лістах Ігната Дамейкі з Заполля ў маскоўскую высылку Ануфрыю Петрашкевічу. У сярэдзіне 1829 г. Дамейка ад імя навагрудскіх татараў падпісаў дамову з віленскім выдаўцом Тэафілам Глюксбергам. Ёсць меркаванні, што пераклад здзяйсняўся на французскаму выданню 1821 года "La Coran…"[48]. Спадзяемся, што Адаму Міцкевічу таксама было вядома аб перакладзе. Ён жа сам у 1855 г. апынуўся ў Турцыі, дзе спрабаваў вывучаць арабскую мову[49].

Жыццё татарскага этнасу на Беларусі на працягу стагоддзяў мацуецца выпрацаванымі не адным пакаленнем людзей традыцыямі – гэта той скарб, які члены этнаса ацэньваюць як вельмі значнае, гэта з'ява матэрыяльнай і духоўнай культуры, сацыяльнага і семейнага жыцця, якая свядома перадаецца ад пакалення да пакалення з мэтай падтрымання жыцця этнаса. Сярод найбольш трывалых вызначаюцца традыцыі, звязаныя з духоўным жыццём і рэгламентуемыя мусульманскім календаром, чаго да гэтай пары актыўна прытрымліваюцца навагрудскія татары. Жыве здаўна і актыўна дзейнічае ў наш час традыцыя збірацца разам (талакой) дзеля ўпарадкавання прылягаючай да мячэці, мізара (могілак) тэрыторыі.

Маральны воблік беларускіх татар па словах старэйшага брата Адама Міцкевіча Францішка, быў вельмі высокі. У сваім дзённіку ён пісаў: "Гэты народ незвычайна патрыятычны. Ён вядомы сваёй сардэчнасцю, кожны з іх нічым не здрадзіць веры. Не было выпадку, каб за злачынствы, крадзёж судзілі татарына… акуратныя, працавітыя, смелыя, спрытныя, яны непахісна верныя свайму слову і рашэнню"[50].

Традыцыя развітання з нябожчыкам і пахавання ўтрымлівае як трывалыя, характэрныя для жыхароў мусульманскіх краін элементы, так і запазычанні, якія ўзніклі пад уплывам доўгага (часта вельмі шчыльнага, на сямейным узроўні) пражывання сярод хрысціян. На схеме праектнага плана г. Навагрудка 1872 г. пазначаны Татарскія могілкі, якія ахоўваюцца і зараз.

Сярод звычаяў вылучаецца раздача садагі. Садагу "дзеляць" у мячэці, на мізары, а таксама разносяць па дамах суседзяў і сваякоў. Садагой з'яўляецца найчасцей печыва, цукеркі, садавіна, а таксама рытуальная ежа ў памяць пра памерлых – джайма і гальма. Рытуал садагі выконваецца без хвальбы і шчыра.

## Татарскія святыні Навагрудка і ваколіц

Нацыянальныя святыні – шануемыя народам сведчанні яго духоўнасці – здаўна дапамагалі захаванню, яднанню народа. Да святыняў беларускіх татараў найперш належаць мячэці. На Навагрудчыне — у Лоўчыцах, Навагрудку і Асмолаве —

[46] Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588. Гл. 3, арт. 3.

[47] Лакотка, А.І. Бераг вандраванняў, ці адкуль у Беларусі мячэці. Мн.: Навука і тэхніка, 1994, С.33.

[48] Вуйтик, З. Филомацкий перевод Аль-Корана для Новогрудских татар / Збигнев Вуйтик. Пер. с польского И.М. Александровича // Байрам. – 1995. С.62-63.

[49] яго аўтограф (копія) з практыкаваннямі ў арабскай каліграфіі ёсць ў музеі ў Навагрудку. У Турцыі А. Міцкевіч стварыў Польскі легіён для барацьбы з царскай Расіяй. Зусім верагодна, што заўважную ролю ў стварэнні Саюза крыжа і паўмесяца ў Польскім Легіёне ў Турцыі, а пазней на Каўказе, мелі польска-літоўскія татары.

[50] Гайба, М.П. Сэрцу мілая айчына: Вобраз радзімы ў жыцці і творчасці Адама Міцкевіча. Баранавічы: БелАніГал, 2008 – 112 с. С.44.



*Сны Наваградка. Анжэлін Туфкрэо. 2004.*

існавалі буйныя прыходы татараў-мусульман. У 1792 г. Станіславам Аўгустам быў выдадзены прывілей на будаўніцтва мячэці ў **Навагрудку**, мячэць была пабудавана праз чатыры гады (1796) на вуліцы Валеўскай. У матэрыялах Мінскага губернскага праўлення ёсць "…даведка Таўрычаскага магаметанскага духоўнага праўлення ад 31 жніўня 1854 года, пры якой пераправодзіцца на… разгляд губернскага праўлення прадстаўлены хатыпам Навагрудскай саборнай мячэці Багдановічам прыгавор мясцовых прыхаджан аб хадатайніцтве пра дазвол на пабудову новай мячэці ў г.Навагрудку". У выніку хадатайніцтва адстаўнога маёра Асановіча, стаўшага фундатарам новай драўлянай мячэці, сабраных дакументаў, сведчанняў гарадской паліцыі аб ветхасці мячэці "праўленне знайшло неабходным дазволіць пабудаваць новую мячэць на месцы існуючай, якая прыйшла ў канчатковую ветхасць". Пры гэтым загадвалася, каб пры ўзвядзенні мячэці не было адступлення ад устаноўленага законам парадку карыстання так званымі "узорнымі" планамі і фасадамі.

Народныя дойліды і цесляры знаёміліся з асаблівасцямі ісламскага дойлідства дзякуючы дыванам і насценным малюнкам (мухірам), якія дараваліся мячэцям заможнымі гасцямі з Усходу альбо прывозіліся тымі, хто рабіў хадж у Меку[51]. На здымку пачатку XX ст. бачна, што аснову мячэці складае зрубны, блізкі ў плане да квадрата аб'ём, які пераходзіць у шатровы дах з нізкім чацверыком і палогай чатырохсхільнай страхой,

[51] на мумібіры былой мячэці можна было знайсці імя дойліда

мінарэтам з паўсферным завершэннем. Мінарэт выкананы ў традыцыях мусульманскага дойлідства - выцягнуты гранёны барабан, увенчаны купалам, аснова якога падкрэслена карнізам[52]. Да асноўнага аб'ёму далучаны прытвор і два бакавыя прырубы. Сцены ашаляваны, вокны і дзверы аздоблены ліштвамі, афарбаванымі ў белы колер. Верхнія ліштвы маюць кілепадобную форму, шырока распаўсёджаную ў ісламскай архітэктуры. Навагрудская мячэць з'яўляецца арыгінальным варыянтам разгледжанага тыпу: больш складаенае рашэнне асноўнага аб'ёму, асноўных дэталяў. Але тут адсутнічае такі важны элемент, як слупавая галерэя"[53].

Як і ў кожнай мячэці набажэнства адбывалася ў мужчынскай і жаночай паловах, для "людзей слабавітых" і старэйшага ўзросту ўздоўж сцен стаялі лавы. У сцяне, звернутай да Меккі, мелася зрубная ніша – міхраб (альбо кібла). Справа ад міхрабы мелася своеасаблівая кафедра – узвышэнне з прыступкамі і невялікім навесам (балдахінам на слупах) – мумібір. Сюды ўзыходзіў мула, ганаровыя госці пад час урачыстых выпадкаў, дзеля абвяшчэння важных дакументаў, малітвы за здароўе (хутбэ). У мячэці была ўстаноўлена мармуровая дошка ў гонар Аляксандра Асановіча, які аднавіў мячэць ў 1855 годзе[54].

Наваградская мячэць трапляла ў поле зроку тых, хто наведваў горад. 2 кастрычніка 1858 года Вінцесь Каратынскі запісаў: "У татараў здавён у Наваградку ёсць свая мячэць, здаецца, заўсёды, так, як і сёння, драўляная"[55]. Паэт Мацей Канановіч на польскай мове стварыў верш "**Мячэць у Навагрудку".** У даваенны час у Наваградскую мячэць прыязджала дэлегацыя з Турцыі. Наведвала мячэць дэлегацыя, якая прыехала у Навагрудак на чале з Пільсудскім, у верасні 1929 года прымала Прэзідэнта Польскай Рэспублікі Ігната Масціцкага. У савецкі час мячэць была пераабсталявана пад жылы дом. Да 600-годдзя пражывання татараў на землях Беларусі, Літвы і Польшчы, у 1997 годзе ў рамках шырока падтрыманых дзяржавай мерапрыемстваў, вярталіся татарам-мусульманам мячэці. Была вернута мячэць у Навагрудку, адрэканструявана з удзелам мясцовай татарскай абшчыны і з'яўляецца дзеючай.

**Лоўчыцы** – прыход недалёка ад Навагрудка. Быў заснаваны, згодна з паданнем, каля 1420 года, мячэць закладзена ў 1588 годзе. Рычард Брукоўскі, са спасылкай на Алі Вpopaновіча і Станіслава Крычынскага, адзначае, што на тым месцы, магчыма, была пабудавана мячэць у 1688 г. Захаваўшаяся да пачатку ХХ ст. мячэць, магчыма, была пабудавана пазней, (1820-1840), на месцы існаваўшай да нядаўняга часу мячэці ў 2000 г. закладзена, а летам 2002 г. адрэканструявана згодна з былой архітэктуры і можа разглядацца як помнік драўлянага доўлідства Беларусі.

У Лоўчыцах на працягу ХІХ і пачатку ХХ стст. функцыянаваў мусульманскі прыход, на чале якога стаялі мулы. Пісьмовыя паведамленні пра Лоўчыцкую мячэць прыводзяцца У 1820 г. мула лоўчыцкі Ахмед Леановіч у мемарандуме да расійскіх улад паведаміў, што мячэць была збудавана ў 1688 г., згодна прывілеі польскага караля. Апісанне мячэці выглядае так: «Драўляная, зрубная. У плане прамакутная, з невялікім прырубам ад увахода і асобна вылучаным мінарэтам; дах ламанай формы чатырохсхільны з вежай пасярэдзіне, крытай бляхай»[56]. З фота пачатку ХХ ст.[57] можна меркаваць пра агульныя параметры зруба, бакавыя дзверы, якія адпавядаюць захаваўшамуся праёму, абрысы даху паказваюць, што ён меў, як мінімум, тры схілы (незразумелы выгляд з боку фасаду), відаць гранёная вежа з сапраўднымі (ці імітаванні) праёмамі і шлемападобным завяршэннем.

З разбураных рэштак Лоўчыцкай мячэці было відаць, што прыкладна на ²/з даўжыні меў асобны зруб. Невялічкае акно згадвае прастору пад галерэйнай антрэсоллю ўнутры

[52] Мінарэты з паўкупальным завяршэннем — характэрны элемент мячэцяў Малой Азіі і Ірана XVI— XVII стст.
[53] Лакотка, А.І. С.60; Памяць: Гістор.-дакум. хроніка Навагруд. р-на. – Мн.: Беларусь. – 559 с.: іл. С. 233-234.
[54] Звычайна фундатары рабілі свае ўнёскі не спадзеючыся ні на якія зямныя ўшанаванні, а ў імя Алаха, але павага да іх дзеянняў была такая, што ў якасці насценнага аздаблення мячэцяў акрамя мугіроў - вывешваліся змешчаныя ў рамкі пад шклом спадчынныя акты на карысць мячэці (тэстаменты), памятныя дошкі ў гонар фундатараў.
[55] Каратынскі В. Творы. / Вінцэсь Каратынскі; Уклад., прадмова і камент. У.Мархеля. Выд. 2-ое, дапоўн., Мн.: Маст. літ-ра. 1994 – 406 с. С. 199.
[56] Kryczyński St. Tatarzy litewscy. Próba monografii historyczno-etnograficznej. Rocznik tatarski. 1938. T. 3.
[57] фота апублікаванае ў манаграфіі С. Крычынскага

мужчынскай паловы для муэдзіна. Часткова разабраная пярэдняя частка мела самастойную канструкцыю і, магчыма, дабудавана пазней альбо з'яўляецца вуглавой галерэяй — падсенню. Станіслаў Крычынскі лічыць, што менавіта дадзеная мячэць пабудавана ў 1688 г. Значыць, папярэдняя, 1558 г., ці згарэла, ці была разабрана з-за драхласці[58].

**У 1834 г. была пабудавана драўляная мячэць у Асмолаве**. У 1921 — 1925 гг. яна была перабудавана з-за звятшаласці. Захаваўся здымак пачатку XX ст.: прамакутны зруб, чатырохсхільны дах са стромкім мінарэтам у цэнтры. Бачны прыруб-міхраба і прытворы для ўваходу ў мужчынскую і жаночую паловы. Сцены ўмацаваны лісіцамі, праёмы вокнаў абшаляваны ліштвамі.

Не толькі духоўную каштаўнасць для татараў, але і несумненную гістарычную каштоўнасць маюць мізары - татараўскія могілкі са шматлікімі помнікамі, надпісы на якіх шмат пра што распавядуць. Даследаваннем татараўскіх могілак ў недаўні час займаліся мусульмане з Польшчы, продкі якіх жылі на гэтых землях, вынікі іх намаганняў, патрабуючых шмат сіл, прафесійнасці, выдладзены ў асобных працах. Той, хто здзейсніў паломніцтва ў Мекку, атрымліваў тытул хаджы. Хто не меў магчымасці і сродкаў адправіцца да свяшчэннай мячэці Каабы, адпраўляўся ў беларускую Мекку – у Лоўчыцы да магілы пастушка Аўліі (Эўліі) Контуся (Кантуся, Кунтуся). І зараз існуе павер'е для вернікаў любых канфесій - хто наведае магілу пастушка і шчыра памоліцца ля яе, можа пазбавіцца хваробаў.

[58] зрабіць канчатковыя вывады пра архітэктуру Лоўчыцкай мячэці магчыма азнаёміўшыся з працамі М. Л. Крычынскага «Гісторыя мячэцяў у Лоўчыцах» («Татарскае жыццё», 1936 г., № 5) і Міхаіла Дзмітрыеўскага «Паданне пра Лоўчыцы (татарская вёска ў Мінскай губерні)», надрукаванай у «Віленскім весніку» (1861 г., № 43).

**Р. Крывальцэвіч**

# Старыя хрысціянскія могілкі ў Наваградку: да гісторыі горада XIX ст.

*Калі хочаш даведацца пра гісторыю*
*гэтага горада ці зямлі, ідзі на могілкі...*
(З кнігі Stanisław Nicieja: „Cmentarz Łyczakowski we Lwowie”. Ossolineum,1988)

*Навагрspecial могілкі… Яны – сведкі часу, памяць аб мінулым…*

*Якія яны? Розныя. Велічныя і занядбаныя. Велічнымі іх робіць адчуванне вечнасці, якое пануе тут, густоўныя надмагільныя помнікі – адбітак часу. Занядбанымі робім мы самыя…*

**Важнасць могілкаў як культурна-гістарычнай спадчыны. Сітуацыя з могілкамі ў свеце.**

Напрацягу апошніх стагоддзяў у Еўропе прыйшлі да разумення значэння старых могілкаў у гісторыі і культуры, а таксама ў культурным (гістарычным, мемарыяльным, настальгічным, могілкавым) турызме. Дагледжаныя ў лепшых традыцыях садова-паркавага мастацтва, з выдатнай надмагільнай архітэктурай, могілкі дзесяткаў еўрапейскіх гарадоў прыцягваюць да сябе ўвагу як аб’екты культурна-гістарычнай спадчыны.



*Капліца Альбрыхта Ёзэфа Заборскага (пам. у 1802 г.).*

Сёння турыстычныя сайты нашых суседзяў запрашаюць наведаць выдатныя могілкі: Лычакоўскія (Львоў, Украіна), Павaнзкоўзкія і Ракавіцкія (Варшава і Кракаў адпаведна, Польшча), Росы, Кальварыйскія і многія іншыя (Вільня, Літва), Ваганькаўскія, Навадзевічыя, пахаванні ля Крамлёўскай сцяны (Масква, Расія). Вядомыя на ўсю Еўропу Пер-Лашэз (Парыж, Францыя) ці ўнесеныя ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЭСКА Лясныя могілкі ў Стакгольме (Швецыя) наведваюцца турыстамі з усяго свету. Найбольшую ж папулярнасць на сённяшні дзень у турыстаў маюць могілкі Тэстача ў Рыме, Цэнтральныя могілкі ў Вене і Габрэйскія могілкі XY ст. у Празе.[1]

Значэнне старых мясцовых могілак у малых і вялікіх гарадах Беларусі не меньшае для людзей, якія цікавяцца гісторыяй роднага краю.

[1] http://www.vienna.cc/russky/zentralfriedhof09.htm

**Узнікненне могілкаў і іх сучасны выгляд.**

У паўднёвай частцы горада, паміж вуліцамі Савецкай (былая Яўрэйская падчас Другой Рэчы Паспалітай 1921 – 1939 гг.) і Леніна (былая Валеўская) месцяцца старыя хрысціянскія могілкі, каталіцкія і праваслаўныя, дзе напрацягу XIX і да другой паловы XX ст. (апошняе пахаванне – 1961 г.) знаходзілі свой вечны спачын лекары, чыноўнікі (часта – выпускнікі Віленскага універсітэта), землеўладальнікі, вайскоўцы, асобы, добра вядомыя ў горадзе і малавядомыя, усе разам – сведкі часу і гісторыі краю (напачатку 1990-х гадоў тут налічвалася каля 1275 надмагільных помнікаў)[2].

Старыя наваградскія хрысціянскія могілкі былі закладзеныя ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. (пра гэта дазваляе сцвярджаць прымацаваная пліта 1802 г. на "капліцы Заборскага".) Стварэнне іх звязанае з агульнаеўрапейскім працэсам канца XVIII ст., часам, калі на тэрыторыі Расійскай імперыі (Наваградак увайшоў у яе склад у 1795 г., пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай), як і ў заходнееўрапейскіх краінах, былі прынятыя ўказы аб забароне хаваць памерлых пры касцёлах ці цэрквах у мэтах санітарна-гігіенічнай абароны гарадоў і, адпаведна, вынясенні могілкаў за горад (exter urbem).[3] (Вядома, што ў Наваградку хрысціянаў хавалі на той час таксама і на гары Міндоўга).

**Некаторыя асобы пахаваных у XIX ст. і іх сваякоў.**

Па надмагіллях з эпітафіямі можна даведацца пра людзей, імёны якіх нераздзельна звязаныя з гісторыяй краю. Гэта прадстаўнікі вядомых на Наваградчыне шляхецкіх родаў, звесткі пра сваякоў (папярэднікаў ці наступнікаў) якіх захаваліся ў пісьмовых крыніцах.

**Абламовічы.**

Адно з найстарэйшых пахаванняў на каталіцкай частцы старых Наваградскіх могілак належыць **віцэ-маршалку** Наваградскага павета **Даменіку Абламовічу (1756-1815)**. Абламовічы гербу Габданк (Абданк) упамінаюцца ў Гербоўніку польскім Адама Банецкага: Дамінік, сын Міхала, чый сын Ігнацы быў прызнаны ў шляхецтве ў 1840 г.[4] Згодна з Гербоўнікам беларускай шляхты, Дамінік Абламовіч пакінуў у спадчыну сынам Ігнацы, Пятру і Адаму зямельныя ўладанні, некаторыя з якіх у свой час у 1794 годзе (падчас паўстання Касцюшкі) былі разрабаваныя расійскімі войскамі (асабліва фальварак Бярозаўцы Наваградскага павета).[5]



*Уладыслаў Абламовіч (1812-1864).*

Сынам было ўсяго толькі за дваццаць, як не стала бацькі…

Старэйшы сын Даменіка Абламовіча Ігнацы (нар. у 1788 г.) служыў у войску, пасля выхаду ў адстаўку быў гродзенскім межавым суддзёю, ажаніўшыся з Ганнай Гофман, меў трох сыноў, але да нараджэння ўнукаў бацька не дажыў [6]…

Сярэдні сын Даменіка Абламовіча Пётр (нар. у 1790 г.) скончыў Віленскі універсітэт са ступенню кандыдата філасофскіх навук, займаў пасады земскага спраўніка, як і старэйшы брат – межавога суддзі, а таксама старшыні межавога суда ў Наваградку. Пятру Абламовічу належаў маёнтак Гарадэчна на Наваградчыне.[7] Ад другой жонкі, Разіны Гаціскай, Пётр меў сына Станіслава (1844 – 1901). Станіслаў закончыў з залатым медалём гімназію ў Наваградку і ў 1862 г. запісаўся

[2] Гайба М. П. Могілкі і пахаванні ў Наваградку. Мн., Пейто 2000. С. 29.

[3] Юры Гардзееў. Фарныя могілкі ў Гродне, 1792–1939. "Наша вера" (інтэрнэт-варыянт): http://media.catholic.by/nv/n25/art17.htm

[4] A. Boniecki. Herbarz Polski.Część 1. Wiadomości historyczno-genealogiczne o rodach szlacheckich. Tom 1. Warszawa, 1899. S. 17.

[5] Гербоўнік беларускай шляхты. Т. 1. Мн., 2007. С. 41.

[6] Гербоўнік беларускай шляхты. Т. 1. Мн., 2007. С. 41.

[7] Гербоўнік беларускай шляхты. Т. 1. Мн., 2007. С. 41.

на філасофскі факультэт Кракаўскага універсітэта. Але хутка, у лютым 1863 г. вярнуўся на радзіму, каб удзельнічаць у паўстанні. У ліпені таго ж года пасля паразы паўстання 19-гадовы Станіслаў быў арыштаваны і знаходзіўся пад следствам у цытадэлі ў Вільні. Увосень 1864 г. ваенны суд пазбавіў Станіслава Абламовіча праў стану, вынес рашэнне аб канфіскацыі маёнтка і дэпартацыі ў Арэнбургскую губернію. На месца ссылкі вязень вымушаны быў дабірацца пешшу больш пяці месяцаў. Потым- чатыры гады жыцця ва Уфе пад наглядам паліцыі. Падчас выгнання атрымаў калецтва – страціў вока. У 1870 годзе Станіслаў Абламовіч быў вызвалены без права вяртацца на радзіму і асталяваўся ў Кракаве, прыняўшы аўстрыйскае грамадзянства. Атрымаўшы юрыдычную адукацыю, Абламовіч стаў вядомым адвакатам, стварыў уласную адвакацкую кантору. Станіслаў Абламовіч шмат займаўся грамадскай працай, адчыніў бясплатную народную школу, якую ўтрымліваў на свае сродкі. У справах мужу дапамагала жонка Марыя з Матусевічаў. Пахаваны ў Кракаве.[8]

Малодшы сын Дамініка Абламовіча **Адам** (нар**. у** 1800) годзе валодаў маёнткам Несутычы, як і браты, пэўны час служыў межавым суддзёй (наваградскім).[9]

Некаторыя звесткі пра яго вядомыя з **“**Дѣла О жестоком обращении помещика Новогрудского уезда Адама Абламовича съ крестьянами”, якое разглядалася напрацягу 1846-1848 гг. многімі афіцыйнымі інстанцыямі: Гродзенскай і Мінскай крымінальнай палатамі, Гродзенскім і Мінскім грамадзянскім губернатарамі, Гродзенскім і Мінскім губернскімі, а таксама Навагрудскім павятовым прадвадзіцелем дваранства, Мінскім дваранскім праўленнем і г. д. У справе “Адам Дементьевич (чамусьці не Дамінікавіч – *заўвага аўт.*) Абламович 47 лет … оговаривается в строгом и отяготительном … управлении крестьянами”,[10] у тым, што “допустив расстройство в имении незаботливым управлением употребляетъ несвойственные с правами владельца методы наказания крестьян и не заботится о продовольствии, а дворовым людям не даёт одарения…”[11], “угнетал крестьян сверх меры.”[12]

Адам Абламовіч абвінавачваўся такасама ў давядзенні да спробы пазбавіць сябе жыцця селяніна з маёнтка Мольнічы Астапа Шыльпука. Яму ставілася ў віну і самазабойства селяніна маёнтка Несутычы Дарашкевіча. І хоць у дакументах канстатавалася, што “Правительствующий Сенат… не находит достаточных доказательств к обвинению помещика Абламовича о доведении истязаниями крестьянина Дорошкевича к самоубийству…”,[13] тут жа давалася ацэнка, што “обращение Абламовича с крестьянами и вообще управление имением несообразно с узаконенными для сего правилами”.[14]

Гродзенскі губернатар распарадзіўся аб “ограждении крестьян Абламовича от всяких незаконных отягощений”[15]. Былі прынятыя меры “к обузданию Абламовича в предосудительность обращения его с крестьянами”.[16]

Пакараннем стала рашэнне “о подвержении имения Абламовича опекунскому управлению”,[17] пераход маёнтка Несутычы у распараджэнне Наваградскай Дваранскай Апекі, а земскай паліцыі было “вменено в обязанность наблюдать строго за Абламовичем”.[18]

Яшчэ адна асоба з роду Абламовічаў, **Уладыслаў, сын Міхаіла, Абламовіч,** пахаваны на Наваградскіх могілках (1812-1864). Ён - “выхаванец Віленскага універсітэта (1832), губернскі сакратар (1835), служыў у канцылярыі павятовага маршалка (1835-1842), жонка Ганна Анцута, з якой меў сыноў Міхаіла-Зянона і Яна-Баляслава”[19].

У 1861 годзе Наваградак упершыню ў жыцці наведаў сын і біёграф Адама

[8] Polski Słownik Biograficzny. T. 1. Krakow, 1935. S. 7.
[9] Гербоўнік беларускай шляхты. Т. 1. Мн., 2007. С. 42.
[10] Ф. 320. Воп. 3. Спр. 95. С. 11.
[11] Ф. 320. Воп. 3. Спр. 95. С. 1.
[12] Ф. 320. Воп. 3. Спр. 95. С. 7..
[13] Ф. 320. Воп. 3. Спр. 95. С. 11.
[14] Ф. 320. Воп. 3. Спр. 95. С. 11.
[15] Ф. 320. Воп. 3. Спр. 95. С. 12.
[16] Ф. 320. Воп. 3. Спр. 95. С. 12.
[17] Ф. 320. Воп. 3. Спр. 95. С. 10.
[18] Ф. 320. Воп. 3. Спр. 95. С. 11.
[19] Гербоўнік беларускай шляхты. Т. 1. Мн., 2007. С. 42.

Міцкевіча Уладыслаў Міцкевіч. Разам з іншымі прадстаўнікамі наваградскага дваранства ў сустрэчы удзельнічаў і **Уладыслаў Абламовіч**. Гэта і ад яго імя жаданаму госцю быў падораны альбом з наступным надпісам: "Сыну несмяротнага Адама, Уладыславу Міцкевічу землякі-наваградцы, на памяць бытнасці яго на зямлі роднай 22 сакавіка - 4 красавіка 1861 г. у Навагрудку".[20]



*Тут пахаваны доктар Ігнацы Ажахоўскі (1803-1886).*

Старэйшы сын Уладыслава Абламовіча **Міхаіл-Зянон** у 18-гадовым узросце прыняў удзел у паўстанні 1863 г.[21] Магчыма, трагічныя грамадскія і звязаныя з імі асабістыя падзеі сталіся адной з прычынаў даволі ранняй смерці Уладыслава Абламовіча.

Міхаілу –Зянону Абламовічу ўдалося праз шмат гадоў вярнуцца на радзіму. У 1899 годзе ён быў наваградскім ганаровым міравым суддзёй.[22]

**Ігнацы Ажахоўскі (1803 - 25.04.1886).**

Калі вярнуцца да падпісантаў вітальнага адраса сыну Міцкевіча ў 1861 годзе, то знойдзем сярод многіх вядомых прозвішчаў наваградскай шляхты і імя лекара, які пакінуў след у гісторыі горада – **Ігнацы Ажахоўскага.** Надпіс на абеліску, які уздзвігла Ажахоўскаму таварыства дабрачыннасці ў Варшаве, сведчыць пра тое, што гэта быў выбітны, ахвярны чалавек, які служыў сваім дакторскім уменнем многім людзям, і не толькі за грошы, а і ў славу Божую.



*Доктар Ігнацы Мілакоўскі (1880-1878).*

Вядома, што Ажахоўскі быў сынам прыгоннага селяніна графа Храптовіча са Шчорсаў. Выпускнік Віленскага універсітэта (зачынены расійскімі ўладамі ў 1832 г. пасля паўстання), за паўстагоддзя лекарскай практыкі Ажахоўскі дапамог многім. Перад смерцю завяшчаў 280 тыс. рублёў на ўтрыманне калек і ўбогіх.[23]

На старых могілках у каталіцкай яе частцы знойдзем пахаванні яшчэ двух лекараў, лёсы якіх патрабуюць даследавання. Гэта таксама выпускнік Віленскага універсітэта **Ігнацы Мілакоўскі (1800-1878).** Эпітафія, прысвечаная доктару Мілакоўскаму, з'яўляецца рэдкай, калі не адзінай для наваградскіх могілкаў, у моўным сэнсе, бо выкананая амаль цалкам на французскай мове.

Прыцягвае ўвагу і абеліск ў выглядзе стылізаванага дрэва з абсечанымі галінамі (сымбаль завершанага жыцця на Зямлі), які сведчыць пра жыццё і смерць доктара **Зыгмунта Шолма (1898).**

**Казімір Жадзеўскі і пахаванні расійскіх вайскоўцаў.**

Каштоўным сведчаннем для гісторыі горада зяўляецца абеліск з надпісам, які сведчыць пра пахаванне ўдзельніка паўстання 1863 года Казіміра Жадзеўскага. Вядома, тэкст эпітафіі з падкрэсленым удзелам у паўстанні: **"Казімеж Жадзеўскі, ветэран**

[20] Władysław Mickiewicz. Pamiętnik "Przezdrowie na obiedzie 22 marca — 4 kwietnia 1861 r."T.2, 1862-1870. S. 56-58.
[21] Гербоўнік беларускай шляхты. Т. 1. Мн., 2007. С. 42.
[22] Гербоўнік беларускай шляхты. Т. 1. Мн., 2007. С. 42.
[23] Звесткі ўзятыя з кнігі Ф.І. Ігнатовіча. Уладзіслаў Борзабагаты. Мн., Полымя, 1993. С. 16-17.


Доктар Зыгмунт Шолма. (1828-1898).


Казімір Жадзеўскі, ветэран паўстання 1863 г. (1844-1924)

**паўстання 1863 г. Памёр 10.01.1924 г.”** (у час паўстання Казіміру было ўсяго 19 год) стаў магчымы таму, што Наваградак у 1920-я-1930-я гады быў часткай Другой Рэчы Паспалітай.

Адгалоскі неспакойнай сітуацыі ў краі, шляхецкіх паўстанняў 1831 і 1863 гг. знойдзем і ў пахаваннях **ваеннаслужачых 120 пяхотнага Сярпухоўскага палка расійскай арміі,** якія кватаравалі на Наваградчыне (першае – 1863 г., апошняе – 1910).

Падпаручык Козін, ураджэнец Арлоўскай губерніі, знайшоў спачын далёка ад радзімы ва ўзросце 25 год, а штабс-капітан Лемяшоў, ураджэнец Курскай губерніі – у 31. Смерці датуюцца 1863 і 1864 гадамі, магчыма, былі звязаныя з паўстаннем, хаця на помніках фігуруе слова “умер”.

Надмагільныя помнікі расійскіх вайскоўцаў штабс-капітана Ермалаева і падпалкоўніка Лангеншэльдэ моцна адрозніваюцца па знешнім выглядзе ад мясцовых. На чыгунных плітах – нехарактэрная для мясцовых пахаванняў сімволіка смерці і новага жыцця: труна, ля яе – чэрап, над імі ўзвышаецца раскідзістае дрэва.

Ускосным сведчаннем прысутнасці расійскіх войск у наваградскім краі ў 19 ст.з’яўляецца магіла Пятра Пушкіна – унука вялікага паэта. Пяцімесячнае немаўля памерла ў сям’і старэйшага сына Пушкіна – Аляксандра Аляксандравіча (1833-1914), які ў 1860-я гады служыў у Наваградку. На надмагіллі надпіс: «Младенец Петр Пушкин. Родился июнь 1870 г. Скончался ноябрь 1870 г.»

**Чачоты (родавы герб Астоя).**

**У** бліжэйшай да вуліцы Леніна частцы старых хрысціянскіх могілкаў у г. Наваградку знаходзяцца некалькі надмагілляў з вядомым прозвішчам Чачот, якое праславіў блізкі сябар А. Міцкевіча паэт Ян Чачот. Надмагільныя камні сведчаць, што тут пахаваныя **Прымус (1820-1860)**, а таксама **Антаніна Чачот(пам. у 1893 г.)**.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Мінску у фондзе 320, які ўтрымлівае ў сабе дакументы канцылярыі Мінскага губернскага прадвадзіцеля дваранства (Наваградак з 1843 г. належаў да Мінскай губерні), захоўваецца дакумент – “Дѣло о назначении пособия вдовъ письмоводителя Новогрудской дворянской опеки Чечота” – справа ўдавы тытулярнага саветніка Антаніны Міхайлаўны Чачотавай, звязаная з просьбай назначыць “единовременное пособие” у сувязі са смерцю ў 1860 г. у амаль 40-гадовым узросце (надпіс на надмагіллі сведчыць, што нябожчык не дажыў да свайго 40-годдзя два тыдні) мужа Прымуса Венедыктава Чачота, які служыў пісьмавадзіцелем

Навагрудскай дваранскай апекі і пакінуў сіротамі шасцёра малалетніх дзяцей.


*Прымус Чачот (1820-1860).*

Са службовага фармуляра Прымуса Чачота вынікае, што ён (у прошлым – пісар Гродзенскай палаты дзяржаўных маёмасцяў, калежскі рэгістратар) быў рымска-каталіцкай веры, жанаты на дваранцы Антаніне Тубялевіч, у родавым памесці валодаў пяццю душамі сялян, атрымліваў за службу 210 руб у год срэбрам.[24]

Казённая перапіска цягнецца доўга, больш года, з 29 лістапада 1860 г. па 23 лютага 1862 г. У ёй занятыя Дэпартамент міністэрства дзяржаўных маёмасцяў, Мінскае губернскае праўленне, Мінскі губернскі прадвадзіцель дваранства, Наваградскі павятовы прадвадзіцель дваранства. Справа не можа вырашыцца хутка, бо патрабуе пісьмовай згоды ці адмовы дваранскіх сходаў усіх паветаў Мінскай губерні (не толькі Наваградскага) ад выплаты дапамогі.

Пасля доўгай перапіскі ў канцы 1862 года высветлілася, што толькі "…дворянство Новогрудского Уезда на уездном собрании 2 мая прошлаго 1861 года предположило дать из доходов собственных имений вдовъ Чечотовой по полъ копейки сер. (серабром – *заўвага аўт.*) съ каждой ревизской души, что составитъ не более двести руб. сер. Каковое единовременное пособие очень незначительное для матери шестерых малолетних детей…" [25]Астатнія "на оказание пособия вдовъ Чечотъ не согласились".[26]


*Антаніна Чачот з Тубялевічаў (пам. у 1893 г.).*

Таму Мінскі губернскі прадвадзіцель дваранства вырашае дзейнічаць далей – хадайнічаць перад губернскім праўленнем, каб тое звярнулася да ураду для атрымання казённай пенсіі, "имея въ виду, что покойный письмоводитель Новогрудской Дворянской Опеки Титулярный Советник Примус Чечотъ состоял на службе во ведомству Государственных имуществ съ 1838 по 1845 годъ"[27] і што ўдава Чачотава "обременена семейством и не имеет никаких средств содержания".[28]

Як развівалася доўгая гісторыя з казённай дапамогай сям'і Чачотаў, можна толькі здагадвацца, але вядома з надмагільнай эпітафіі, што Антаніна перажыла мужа больш чым на 30 гадоў, яна была пахаваная побач. Аднаго з шасцярых дзяцей Антаніны Тубялевіч і Прымуса Чачота – **Адама Прымусавіча Чачота,** які, як вынікае са службовага фармуляра яго бацькі, нарадзіўся 4 лістапада 1848 г., знаходзім у "Списке лиц, владеющих землёй в Новогрудском уезде Минской губернии 1914 г." Адаму на той час– 66 гадоў. Ён, паводле дакумента, разам з малодшым братам Пятром (нар. 1 жніўня 1856 г., як сведчыў дакумент аб працоўнай дзейнасці бацькі) валодаў

[24] Ф. 320. Воп. 3. Спр. 127. С. 3.
[25] Ф. 320. Воп. 3. Спр. 127. С. 17.
[26] Ф. 320. Воп. 3. Спр. 127. С. 16.
[27] Ф. 320. Воп.3. Спр. 127. С. 17.
[28] Ф. 320. Воп.3. Спр. 127. С. 17.




*Падпалкоўнік расійскай арміі Лангеншэльдэ.*

у 1914 годзе 44 дзесяцінамі у в. Насейкі Гарадзечанскай воласці.[29]

**Ускосныя звесткі: Керсноўскія (гербу Pobóg) і Літыньскія.**

Копія службовага фармуляра Прымуса Чачота завераная прадвадзіцелем дваранства Наваградскага павета **Керсноўскім** (імя неразборлівае).

На старых могілках ёсць пахаванне **Керсноўскага Рышарда (1850-1926).**

Керсноўскія–вядомынаНавагрэдчынешляхецкі род. У 1812 годзе, калі навагрaдская шляхта чакала ад Напалеона вызвалення ад расійскай улады, у сядзібе Керсноўскіх – Гарадзілоўцы (сёння гэтую назву носяць могілкі, дзе хаваюць нашых сучаснікаў) спыняўся, кватараваў нейкі час 5-ы корпус Юзафа Панятоўскага.[30]

Адзін з прадстаўнікоў роду Керсноўскіх, **Францішак Керсноўскі**, уладальнік маёнтка Паручына, удзельнік паўстання 1830-1831 гадоў, атрымаў ад царскіх уладаў у 1857 г. дазвол на вяртанне на радзіму.[31]

Сярод падпісантаў вітальнага адрасу 1861 года Уладыславу Міцкевічу побач са ўзгаданымі імёнамі Уладыслава Абламовіча і Ігнацы Ажахоўскага стаіць імя **Ігнацы Керсноўскага**.

У 1919 г. сярод арыштаваных бальшавікамі і зняволеных у турму **- Керсноўскі Казімір.**[32]

Прадстаўнік яшчэ аднаго навагрaдаскага шляхецкага роду – **Літыньскіх - Ежы Літыньскі** (пам. у 1897 г.) - пахаваны на старых хрысціянскіх могілках**. Магчыма,** пісар паштовай станцыі ў Навагрaдку **Ігнацы Літыньскі**, які кароткачасова знаходзіўся сярод паўстанцаў 1831 гг. і атрымаў дараванне ад уладаў, вярнуўшыся дабраахвотна, быў сваяком Ежы Літыньскага.[33]




*Пахаванне расійскга вайскоўца Ермалаева (19 ст.).*

**Перспектывы аховы і выкарыстання.**

Навагрaдскія могілкі даўніх часоў (мусульманскія, юдэйскія, двое старых хрысціянскіх) адлюстроўваюць разнастайнасць канфесій, нацыянальнасцяў, культур, эстэтычных густаў, падзеяў, яны – сведкі часу, якія нясуць у сабе гістарычную, культурную, эстэтычную вартасці.

У Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Гродзенскай вобласці, выдадзены ў 1986 г., каталіцка-праваслаўныя могілкі XIX ст., (як і старыя могілкі іншых канфесій) не ўнесеныя. Брацкая ж магіла чырвонаармейцаў, якія загінулі падчас падзеяў 1939 г., а таксама могілкі савецкіх воінаў і партызан[34], якія месцяцца ў непасрэднай блізкасці са старымі хрысціянскімі могілкамі XIX ст.) і скла-

[29] Список лиц, владеющих землёю в Новогрудском уезде Минской губернии. 1914 г. С. 13.
[30] Nowogródzkie. Warszawa, 1926. S. 72.
[31] В.В. Гарбачова.Удзельнікі паўстання 1830-1831 гг. на Беларусі. Біябібліяграфічны слоўнік. С.184.
[32] Жмігродскі Ёзэф. Навагрудак і аколіцы. Нав., 1927. С. 20.
[33] Гарбачова В.В.Удзельнікі паўстання 1830-1831 гг. на Беларусі. Біябібліяграфічны слоўнік. С. 215.
[34] Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гродзенская вобласць. Мн., “Бел. Сав. Энц. Імя П. Броўкі”, 1986. С. 260, 265.

даюць з імі адзінае цэлае, увайшлі ў Збор. Такі падыход да ўнясення помнікаў у каштоўнасны рэетр тлумачыцца, безумоўна, ідэалагічнымі, класавымі ўстаноўкамі дзяржавы і патрабуе на сённяшні дзень выпраўлення.


*Магіла Пятра Пушкіна (чэрвень 1870- лістапад 1870), унука знакамітага паэта.*

Старым наваградскім хрысціянскім могілкам, у адрозненне ад не менш каштоўных у іншых беларускіх гарадах, пашанцавала ў тым сэнсе, што яны - адныя з нямногіх (разам з Кальварыйскімі ў Мінску), якія ўнесеныя ў Дзяржаўны Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь (1996 г.) Але, на жаль, гэта не ратуе іх ад занядбанасці. Сёння, улетку 2009 года, мы назіраем тут паваленыя помнікі, зарослыя крапівой надмагіллі, усыпаныя пласцікавымі шклянкамі месцы для выпіўкі, горы смецця, а таксама зелля з бліжэйшых агародаў, каляіны ад цяжкай тэхнікі камунальнікаў (прайшла дзе-нідзе ў сантыметрах ад надмагілляў), якія парупіліся спілаваць старыя дрэвы, але забыліся іх прыбраць…

Могілкі чакаюць не толькі дабраўпарадкавання, але і навуковага вывучэння. Неабходнасць у правядзенні інвентарызацыі, складанні пуцевадзіцеля па могілках, навуковым даследаванні і экскурсійнай дзейнасці відавочная. Карысць тут вялікая як для жыхароў горада (праца па дабраўпарадкаванні ці экскурсіі на могілкі дапамаглі б глыбей зразумець край і сябе ў ім, далі б магчымасць дакрануцца да сваёй, жывой, блізкай гісторыі, спрыялі б развіццю гістарычнай свядомасці, без чаго немагчыма паўнацэннае развіццё асобы, яе духоўны рост), так і для іншых наведвальнікаў горада, турыстаў, якія часта шукаюць на Беларусі свае карані. Пацверджанне таму – увага нашых суседзяў з Польшчы да могілкаў, дзе ляжаць іхнія продкі – выпуск кніг- пуцевадзіцеляў па беларускіх могілках.[35]

Але найбольшая карысць у захаванні – для нас – тых, хто тут жыве, ці нарадзіўся – бо нездарма кажуць, што занядбаныя могілкі – паказчык вялікага духовага спусташэння, згубленай ідэнтычнасці, сведчанне духовай хваробы ў грамадстве.

Хацелася б, каб старыя хрысціянскія могілкі ў Наваградку – гісторыка-культурная каштоўнасць Рэспублікі Беларусь – былі абароненыя ад занядбанасці і сталі гонарам горада, яго жыхароў. Гэта магчыма толькі ў выпадку, калі зменіцца свядомасць людзей, калі людзі пачнуць разумець іх каштоўнасць… Апошняе можа адбыцца толькі ў выпадку руплівай, мэтанакіраванай працы…

[35] Lewkowska A., Jacek Lewkowski, Wojceh Walczak. Zabytkowe zmentarze na kresah wshodnih Drugiej Rzechypospolitej. Warszawa, 2008. S. 163-169.

С. Траццяк (Мінск)

# Наваградчына ва ўмовах войн, рэвалюцый і інтэрвенцый (1917 – 1921 гг.)

## Наваградчына ў 1917 – 1918 гг.

25 кастрычніка (7 лістапада) 1917 г. у Петраградзе перамагло ўзнятае бальшавікамі ўзброенае паўстанне. У ім прынялі ўдзел і ўраджэнцы Наваградчыны – маракі крэйсера Балтыйскага флоту “Аўрора”: Канстанцін Сямёнавіч Бакуновіч, Аляксандр Паўлавіч Гіль, Антон Данілавіч Горбач, Мяфодзій Астапавіч Патоцкі, Георгій Сяргеевіч Шчур.

Наогул, як зазначае адпаведны том гісторыка-дакументальнай хронікі “Памяць”, многія жыхары і ўраджэнцы Наваградчыны ў тыя бурлівыя гады апынуліся ў цэнтры гістарычных падзей у Беларусі і за яе межамі. Дастаткова прыгадаць такіх людзей, як Маісей міхайлавіч Маўшовіч, Міхаіл Андрэевіч Макулік, Аляксандр Адамавіч Норык, Мікалай Нікіфаравіч Нагорны, Станіслаў Станіслававіч Трусевіч (Казімір Залеўскі), Іван А. Пятровіч (Янка Нёманскі), Сцяпан Сямёнавіч Чэрнік, Міхаіл Паўлавіч Гнілякевіч, Павел Іосіфавіч Сечка, Міхаіл Аляксандравіч Літвінскі, Аляксандр Васільевіч Антончык, Алена Лявонаўна Сосік, Іосіф Фаміч Сосік, Барыс Сцяпанавіч Сокал, Пётр Сямёнавіч Анацка, Міхаіл Паўлавіч Журко і інш.[1]

Тэрыторыя Навагрудскага павета к кастрычніку 1917 г. была падзелена лініяй фронту надвое. Заходняя частка павета з павятовым цэнтрам горадам Навагрудак і буйнейшым прамысловым і чыгуначным вузлом горадам Баранавічы была акупавана войскамі 3-га рэзервнага корпуса германскай 10-й арміі. Тут усю паўнату ўлады трымаў германскі генерал Доўбадзель-Шэфер. Усходняя частка з мястэчкам Мір засталася пад кантролем расійскіх войскаў. На станцыі Замір’е (зараз Гарадзея) размяшчаліся павятовыя ограны кіравання Навагрудскага павета; з гэтай прычыны усходнюю Наваградчыну ў 1915 – 1918 гг. нярэдка называлі Замір’еўскім паветам. У мястэчку Мір размяшчаўся штаб 3-га Сібірскага армейскага корпуса 2-й арміі расійскага Заходняга фронта.

Вестка аб звяржэнні самаўладдзя і пераходзе ўлады да Усерасійскага Часовага ўрада была ва ўсходняй Наваградчыне сустрэта з вялікім энтузіязмам. У мястэчку Мір на дэманстрацыю, арганізаваную па ініцыятыве бальшавікоў у першыя дні сакавіка 1917 г., рабочыя мясцовых прадпрыемстваў выйшлі разам з салдатамі вайсковых часцей гарнізона. Многія з выступаўшых на мітынгу аратараў патрабавалі найхутчэйшага заканчэння вайны і заключэння міру. Іх сустракалі бурнымі апладысментамі, крыкамі адабрэння, воклічамі “ура”.[2] У Замір’і быў створаны Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. У гэтым органе, таксама як і ў іншых Саветах прыфрантавой паласы і франтавога тылу, пераважаў “ваенны элемент” – салдаты і афіцэры рускай арміі. Два дэпутаты ад Замір’я

[1] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.241, 244.
[2] Победа советской власти в Белоруссии. – Мн., 1967. С.85.

(ад Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў і ад гарнізоннага камітэта) прынялі ўдзел у рабоце 1-га з'езда ваенных і рабочых дэпутатаў Заходняга фронта, які праходзіў у Мінску 7 – 17 красавіка 1917 г.[3]

Аднак вельмі хутка надышло расчараванне. Народ не атрымаў ад Лютаўскай рэвалюцыі ні міру, ні зямлі, ні хлеба. 18 чэрвеня 1917 г., падчас чарговага палітычнага крызісу "лютаўскай рэспублікі", у Замір'і адбылася дэманстрацыя, падрыхтаваная мясцовым Саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў, дзе мела вялікі ўплыў невялікая колькасна (на 24 жніўня 1917 г. – 35 членаў[4]), але надзвычай актыўная Замір'еўская арганізацыя Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (бальшавікоў). У дэманстрацыі прынялі ўдзел 3 тысячы салдат і мясцовых жыхароў. Яны неслі транспаранты з лозунгамі: "Няхай жыве міжнародны мір!", "Няхай жыве рэвалюцыя!", "Няхай жыве сацыялізм!", "Няхай жыве Інтэрнацыянал!", "Уся ўлада Саветам рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў!". Як зазначалася ў інфармацыйным паведамленні, "сярод лозунгаў, выстаўленых маніфестантамі, не было ніводнага лозунгу імперыялістычнага і даверу Часоваму ўраду".[5] Калі ў красавіку 1917 г. у падкантрольнай Расіі частцы Навагрудскага павета сяляне актыўна займаліся высечкай памешчыцкіх лясоў, працідзейнічаннем памешчыцкай сяўбе і разгромам хутароў, то ў верасні 1917 г. шырокі размах набылі захопы сялянамі памешчыцкай зямлі і маёмасці з наступнай дзялёжкай па едаках.[6]

9 (22) верасня 1917 г. Замір'еўскі Савет, па свежых слядах падаўлення ваеннага путчу генерала Л.Г. Карнілава, за подпісам старшыні Савета І.Качэргіна апублікаваў рэзалюцыю свайго агульнага сходу, у якой "для выратавання Расіі ад растучай гаспадарчай разрухі, пагрозы фінансавага краху, разгрома рускай арміі нямецкімі полчышчамі і для прадухілення новых контррэвалюцыйных выступленняў" патрабаваў:

"1. Неадкладнага разгону самога гнязда контррэвалюцыі – Дзяржаўнай думы і Дзяржаўнага савета, і прыцягнення выяўленых змоўшчыкаў да строгай законнай адказнасці.

2. Неадкладнага скасавання смяротнага пакарання пасля прымянення яго да ініцыятараў яго ўзнаўлення, злосных паклёпнікаў на нашу армію і здраднікаў рэвалюцыі ген. Карнілава і яго прыспешнікаў.

3. Неадкладнага ажыццяўлення дэмакратызацыі арміі шляхам поўнага абнаўлення каманднага саставу і ўзмацнення аўтарытэту і палітычнага значэння вайсковых камітэтаў.

4. Абураныя і негадуючыя на паводзіны буржуазнага друку, патрабуем спынення цкавання супраць арміі, якая штодня тысячамі гіне ў жорсткіх баях, абараняючы рэвалюцыйную Расію, і прыцягнення да судовай адказнасці ўсіх аўтараў, рэдактараў і выдаўцоў, якія займаюцца гэтым цкаваннем.

5. Для знішчэння існуючай ілжы і паклёпу супраць арміі, пралетарыята і рэвалюцыйнай дэмакратыі патрабуем неадкладнага аднаўлення свабоды друку і бесперашкоднага пропуску ўсіх сацыялістычных газет на фронт, што паслужыць да ўмацавання рэвалюцыйнай арміі.

6. Неадкладнага ажыццяўлення свабоды сходаў як у тыле, так і на фронце.

7. З прычыны празмернага ўздаражання жыцця, якое разраслося ад харчовай разрухі і частковага закрыцця фабрык і заводаў, патрабуем усталявання рэвалюцыйнага кантролю над вытворчасцю, абменам і спажываннем усіх прадметаў першай неабходнасці.

8. Патрабуем неадкладнага выдання і правядзення ў жыццё зямельных законаў, якія рэгулююць сацыяльныя адносіны ў вёсцы, а таксама заканадаўчай перадачы ўсіх зямель у веданне зямельных камітэтаў.

9. Давядзення да максімуму фінансавага аблажэння заможных класаў.

---

[3] Победа советской власти в Белоруссии. – Мн., 1967. С.118.

[4] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Документы и материалы. В 2 т. Т.1. – Мн., 1957. С.601.

[5] Из истории установления советской власти в Белоруссии и образования БССР. Документы и материалы по истории Белоруссии. Т.4. – Мн., 1954. С.102.

[6] Из истории установления советской власти в Белоруссии и образования БССР. Документы и материалы по истории Белоруссии. Т.4. – Мн., 1954. С.61; Победа советской власти в Белоруссии. – Мн., 1967. С.112, 225.

10. Неабходна канфіскаваць усе капіталы манастыроў і цэркваў, якія з’яўляюцца народным набыткам і, дасягаючы пачварліва буйных памераў, ляжаць мёртвым капіталам, бо не ажыўляюць прамысловасці краіны, не ўздымаюць яе дабрабыту эканамічнага, не садзейнічаюць асвеце народа, а ляжаць у сундуках ці разыходзяцца па кішэнях епіскапаў, святароў і манахаў. У бягучую цяжкую гадзіну рускі народ мае поўнае права ўзяць гэтыя свае зберажэнні на выратаванне радзімы і свабоды. Здаровых манахаў – усіх у акопы.

11. Неадкладнага правядзення ў жыццё дэкларацыі, абвешчанай усенародна 8 ліпеня.

12. Найхутчэйшага склікання Устаноўчага сходу без усялякіх адтэрміновак.

13. Неадкладнага вызвалення ўсіх палітычных зняволеных у сувязі з падзеямі 3 – 5 ліпеня ў Петраградзе і ўсіх тав. салдат, прыцягнутых за час карнілаўшчыны, а таксама бесперашкоднага пропуску палітычных эмігрантаў, якія затрымваюцца за мяжой па распараджэнні Міністэрства замежных спраў.

14. Патрабуем узбраення рабочых буйных прамысловых цэнтраў у як мага шырокіх памерах пад кіраўніцтвам органаў рэвалюцыйнай дэмакратыі.

15. У знешняй палітыцы патрабуем актыўнага выступлення перад саюзнымі ўрадамі, скіраванага на хутчэйшае дасягненне міру на дэмакратычных пачатках”.

Замір’еўскі Савет заявіў, што “гатовы па першаму закліку правадыроў дэмакратыі выступіць у абарону рэвалюцыі”.[7] І ў хуткім часе гэтае абяцанне стрымаў.

У пачатку лістапада 1917 г., пасля атрымання весткі пра падзеі ў Петраградзе, уладу ў Замір’еўскім павеце ўзяў у свае рукі Замір’еўскі ваенна-рэвалюцыйны камітэт – рабочы орган Замір’еўскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які абвясціў сябе вышэйшым органам улады на тэрыторыі Навагрудскага павета. Аднак кіраўніцтва Заходняй вобласці і фронта разглядала Замір’еўскі Савет толькі як орган улады ў Замір’еўскай воласці, а ніяк не ў Навагрудскім павеце.[8] У мястэчку Мір уладу ў свае рукі ўзяў мясцовы Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які таксама выставіў прэтэнзіі на ролю паўятовага органа ўлады. За Мірскім Саветам стаяў карпусны камітэт 3-га Сібірскага корпуса. Акрамя таго, Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў горада Нясвіжа і “свабоднай тэрыторыі Навагрудскага павета” таксама арганізаваў ваенна-рэвалюцыйны камітэт з прэтэнзіямі на ўладу ў Нясвіжска-Навагрудскім раёне.[9] За апошнім органам грамадзянскай улады стаяў бальшавіцкі ваенна-рэвалюцыйны камітэт 2-й арміі Заходняга фронта. Склалася сітуацыя савецкага шматуладдзя. Аднак канчаткова вырашыць пытанне аб канструкцыі савецкай улады ва ўсходняй Навайградчыне, таксама як і правесці ў жыццё прынятыя савецкім урадам дэкрэты аб зямлі і аб аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы, у першыя “сто дзён Саветаў на Беларусі” не ўдалося.

18 лютага 1918 г. войскі германскай 10-й арміі перайшлі ў наступленне і да сярэдзіны дня поўнасцю захапілі ўсходнюю частку Навагрудскага павету.[10] На ўсёй тэрыторыі Наваградчыны ўсталяваўся ваенна-каланіяльны рэжым дэспатызму і рабаўніцтва. Акупанты разагналі савецкія ўстановы, арыштоўвалі і расстрэльвалі ўсіх, каго лічылі “бальшавікамі”. У прыватнасці, у першы ж дзень акупацыі мястэчка Мір быў разагнаны Савет, зачынены рабочы клуб і знішчана бібліятэка.[11] У сялян рэквізавалі коней, кароў, збожжа. Паводле загада ад 24 мая 1916 г., які дзейнічаў на тэрыторыі павета, рэквізіцыі падлягаў увесь ураджай, забараняўся ўсялякі продаж прадуктаў земляробства. Парушэнне каралася штрафам у 6 тыс. марак або турэмным зняволеннем на тэрмін да 6 месяцаў.[12] Усё працаздольнае насельніцтва павета павінна было выконваць працоўныя павіннасці на карысць акупацыйнай германскай арміі (пракладка вузкакалейнай ваеннай чыгункі Любча – Наваельня, будаўніцтва і рамонт мастоў, дарог), а таксама

[7] Известия Минского Совета. – №62, 9(22) сентября 1917 г.

[8] Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Документы и материалы. В 2 т. Т.2. – Мн., 1957. С.811.

[9] Победа советской власти в Белоруссии. – Мн., 1967. С.282.

[10] Комитеты бедноты Белоруссии. Сб. документов и материалов. – Мн., 1958. С.46.

[11] Иностранная военная интервенция в Белоруссии, 1917 – 1920. – Мн., 1990. С.90.

[12] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.241.

фурманковую павіннасць. Усё гэта рабілася, нягледзячы на тое, што ў адпаведнасці з расійска-германскім мірным дагаворам, заключаным у Брэсце 3 сакавіка 1918 г., тэрыторыя Навагрудскага павета з'яўлялася тэрыторыяй Расійскай Сацыялістычнай Федэратыўнай Савецкай Рэспублікі, толькі часова (да заключэння ўсеагульнага міру) акупаванай Германіяй.

Сяляне Навагрудчыны супраціўляліся нямецкім акупантам пры рэквізіцыях, ухіляліся ад мабілізацый на абарончыя работы. У некаторых месцах "насельніцтва рвалося да паўстання супраць немцаў і памешчыкаў".[13] У маі 1918 г. у Мінскую катаржную турму была кінута вялікая група арыштаваных германскімі акупантамі сялян з Навагрудскага, павета, якія аказалі супраціўленне германскім рэквізіцыйным атрадам "падчас адабрання апошнімі ў сялян правіянту і сельскагаспадарчага скарбу".[14] Мінская і Магілёўская губерні былі камандуючым германскай 10-й арміі генералам Э.Фалькенгайнам аб'яўлены на ваенным становішчы, карныя атрады атрымалі права расстрэльваць сялян на месцы без суда.[15] Мясцовая інтэлігенцыя пэўныя надзеі звязвала з абвешчанай 25 сакавіка 1918 г. ў Мінску незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікай. Прадстаўнікі Навагрудскага павета ўдзельнічалі ў пасяджэнні Рады БНР ад 21 красавіка 1918 г.[16] Арганізацыяй партызанскага руху ў тыле германскіх акупантаў кіравалі Навагрудскі, Замір'еўскі і Баранавіцкі падраённыя камітэты Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі і Літвы – складовай часткі Паўночна-Заходняга абкама Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў).[17] На 1-й Мінскай падпольнай раённай канферэнцыі РКП(б) (15 ліпеня 1918 г.), прадстаўнік Замір'еўскай арганізацыі І.І. Валодзька выказаўся за падрыхтоўку ўзброенага паўстання ва ўсёй Беларусі супраць акупантаў "у сувязі з надыходзячай уборкай хлябоў".[18] Прапанова Валодзькі ўвайшла складовай часткай у пастанову канферэнцыі. У выкананне рашэнняў канферэнцыі ў 5 валасцях Навагрудскага павета, якія прылягалі да чыгункі, былі створаны падпольныя валасныя і сельскія батрацкія камітэты, прызначаны камісары маёнткаў, якія ўсяляк тармазілі малацьбу і вываз хлеба немцамі і памешчыкамі, псавалі машыны.[19]

## Эвакуацыя германскай акупацыйнай арміі. Навагрудскі павет у складзе ССРБ і Літоўска-Беларускай ССР

Падзеі развіваліся хутка. 27 жніўня 1918 г. у Берліне быў падпісаны Дадатковы савецка-германскі дагавор, які паклаў пачатак эвакуацыі германскіх войскаў з Беларусі. 16 верасня 1918 г. у Вільні было заключана савецка-германскае тэхнічнае пагадненне аб парадку эвакуацыі германскай арміі. У адпаведнасці з ім да 28 лютага 1919 г. апошні германскі салдат павінен быў пакінуць тэрыторыі на ўсход ад вызначанай Брэсцкім мірам савецка-германскай дзяржаўнай граніцы. Пасля звяржэння 9 лістапада 1918 г. ў выніку Лістападаўскай рэвалюцыі манархіі ў Германіі і капітуляцыі яе 11 лістапада 1918 г. перад саюзнікамі па Антанце, урад РСФСР 13 лістапада 1918 г. ануляваў Брэсцкі мірны і Берлінскі дадатковы савецка-германскія дагаворы. На занятую германскімі войскамі тэрыторыю рушылі часці чырвонай Асобнай Заходняй арміі.

Падчас эвакуацыі германскіх акупацыйных войск з Беларусі кіпучую дзейнасць развіў Замір'еўскі падрайкам КП(б)БіЛ. Яго баявыя групы выканалі вялікую задачу па затрыманні на станцыі Замір'е транспартаў з грузамі ваеннага і цывільнага прызначэння, рухомага саставу і паравозаў, якія германскае камандаванне і прыватныя асобы з ліку маёмасных класаў рыхтавалі да ўгону ў Германію і Украіну, прадухіленні падрыву чыгуначных мастоў у Баранавіцкім напрамку. Арганізаваныя замір'еўскімі бальшавікамі атрады чырвонагвардзейцаў 7 – 10 снежня 1918 г. прынялі ўдзел у аднаўленні савецкай улады ў Мінску.[20]

[13] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.1. – Мн., 1968. С.538.
[14] Разгром немецких захватчиков в 1918 году. Сб. документов. – М., 1943. С.129.
[15] Разгром немецких захватчиков в 1918 году. Сб. документов. – М., 1943. С.138.
[16] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.241.
[17] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.1. – Мн., 1968. С.502.
[18] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.1. – Мн., 1968. С.146.
[19] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.1. – Мн., 1968. С.538.
[20] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.1. – Мн., 1968. С.539.

18 снежня 1918 г. часці 152-га стралковага палка 17-й стралковай дывізіі Асобнай Заходняй арміі занялі мястэчка Мір. Па загадзе камісара 152-га палка Дзергачова, былі арыштаваны і этапіраваны ў Мінск “старыя прыставы, ураднікі, старшыні земскіх упраў і былыя афіцэры”, якія не паспелі эвакуіравацца з немцамі. Ужо ўвечары 19 снежня 1918 г. у Міры быў арганізаваны рэўкам, пачалася арганізацыя валаснога выканкама. Мірскі рэўкам прыняў пад нагляд земскую управу і казначэйства. Валасны камітэт беднаты канфіскаваў запас памешчыцкага сена ў раёне мястэчка Замір'е і прапанаваў 152-му палку набыць яго ў камбеда за наяўныя грошы. Па прычыне адсутнасці ў мястэчку і воласці камуністаў, аднак, на сходзе “мясцовых сацыялістычных сіл” не ўдалося стварыць камуністычнай ячэйкі[21].

Германскае камандаванне разлічвала затрымаць свае войскі ў Навагрудку да канца студзеня 1919 г. Але разлік быў дарэмны: германскія салдаты рваліся дадому і не выказвалі жадання змагацца з Чырвонай Арміяй. Падчас адыходу з Навагрудка нямецкіх войскаў улада ў горадзе часова перайшла да мясцовай міліцыі, якая стварыла 21 снежня 1918 г. павятовы земскі Савет Навагрудскага павета і прыняла меры па навядзенні ў горадзе парадку. У сваю чаргу, Мінскі раённы камітэт РКП(б) камандзіраваў у Навагрудак партыйных арганізатараў Бобчу і Анішчыкава ў дапамогу старшыні Навагрудскага падрайкама Бекеру.[22] У наступным Навагрудскі падрайкам часоў германскай акупацыі “з прычыны няцвёрдай стойкасці на платформе Савецкай улады” быў распушчаны.[23]

27 снежня 1918 г. у Навагрудак увайшла 5-я рота 152-га стралковага палка. Пры адыходзе нямецкія салдаты спрабавалі ўчыніць у Навагрудку пагром, але чырвонаармейцы яго не дапусцілі.[24] Быў створаны Навагрудскі рэўкам. Развіваючы поспех, 29 снежня 1918 г. падраздзяленні 152-га палка занялі Новаельню, дзе захапілі вялікія запасы выбуховых рэчываў і іншай маёмасці. 6 студзеня 1919 г., на суткі раней, чым меркавалася, часці 17-й стралковай дывізіі занялі горад Баранавічы. Тым самым уся тэрыторыя Навагрудскага павета перайшла пад кантроль савецкіх войск.

Яшчэ раней, 23 снежня 1918 г. у Міры прайшло першае пасяджэнне ізноў створанага Навагрудскага павятовага Савета рабочых, сялянскіх і батрацкіх дэпутатаў.[25] Аднак у ім адсутнічалі прадстаўнікі ад павятовага цэнтру і заходніх валасцей, і таму паўнавартасным павятовым органам улады Савет у Міры не быў. Менавіта таму аддзел мясцовага самакіравання Наркамата ўнутраных спраў РСФСР 30 снежня 1918 г. аднес Навагрудскі павет да тых, дзе саўдэпы арганізаваны не былі.[26] 31 снежня 1918 г. прайшлі перавыбары, у выніку якіх быў створаны Навагрудскі павятовы рэўкам, “куды ўвайшлі толькі камуністы і частка спачуваючых ім”, а Саветы ў Навагрудку і Міры, дзе “заселі кулакі”, спынілі існаванне[27]. Рэарганізаваны рэўкам сканцэнтраваў у сваіх руках усю паўнату грамадзянскай і ваеннай улады ў горадзе і павеце. Першачарговае значэнне атрымаў аддзел сацыяльнага забеспячэння рэўкама, патрабаванні якога павінны былі выконвацца ў тэрміновым парадку. Была створана павятовая надзвычайная камісія па барацьбе з контррэвалюцыяй і спекуляцыяй. Старшынёй рэўкама быў прызначаны А.К. Залескі. Ён жа ўзначаліў створаны 5 студзеня 1919 г. павятовы камітэт Кампартыі (бальшавікоў) Літвы і Беларусі. У павятовы камітэт КП(б)ЛіБ увайшлі таксама І.Валодзька, В.Назарэнка, П.Лабаноўскі, І.Вінькоў. Па стане на 20 лютага 1919 г. (дзень правядзення канферэнцыі камуністаў Навагрудскага раёна) у павеце мелася 6 партыйных ячэек (36 камуністаў, 6 кандыдатаў).[28]

Вестка пра абвяшчэнне 1 студзеня 1919 г. незалежнай Сацыялістычнай Савецкай

[21] Революционные комитеты БССР (ноябрь 1918 г. – июль 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1961. С.65 – 66.

[22] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.1. – Мн., 1968. С.399.

[23] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.1. – Мн., 1968. С.540.

[24] Иностранная военная интервенция в Белоруссии, 1917 – 1920. – Мн., 1990. С.174.

[25] Траццяк С.А. Брэсцкі мір і грамадска-палітычныя працэсы ў Беларусі: лістапад 1917 – студзень 1919 г. – Мн., 2009. С.184.

[26] Из истории установления советской власти в Белоруссии и образования БССР. Документы и материалы по истории Белоруссии. Т.4. – Мн., 1954. С.443.

[27] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.241, 244; Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.1. – Мн., 1968. С.539.

[28] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.242; Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.1. – Мн., 1968. С.541.

Рэспублікі Беларусі працоўнымі павета была сустрэта прыхільна. Сяляне Кашалеўскай воласці нават даслалі прывітальную тэлеграму Часоваму рабоча-сялянскаму ўраду Беларусі.[29] Стварэнне Літоўска-Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі было ў павеце і горадзе ўспрынята спакойна, але і без вялікага энтузіязму.

Вызваленая ад акупантаў тэрыторыя Навагрудскага павета была ўздоўж і поперак зрыта акопамі, аблытана дротам, эканамічна знясілена за гады вайны. Была спалена і разбурана пятая частка населеных пунктаў, шчыльнасць насельніцтва зменшылася ў параўнанні з 1911 г. больш чым на 35%. Над паветам, які моцна цярпеў ад вайсковых рэквізіцый, навісла пагроза голаду.[30] Да таго ж у студзені 1919 г. Навагрудскі павет перажыў першую тэрытарыяльную рэарганізацыю – з яго складу былі выдзелены горад Баранавічы і частка валасцей, якія стварылі новы Баранавіцкі павет. Таму першым клопатам Навагрудскага рэўкама стала аднаўленне народнай гаспадаркі павета і наладжванне забеспячэння насельніцтва харчаваннем і спажывецкімі таварамі.

19 студзеня 1919 г. павятовы рэўкам выдаў загад №6 аб здачы зброі цывільнымі асобамі, узяцці на ўлік прыватных запасаў харчовых і спажывецкіх тавараў і катэгарычнай забароне рабавання грамадскай маёмасці “некаторых валасцей, сёл і вёсак грамадзянамі”.[31] 20 студзеня 1919 г. павятовы рэўкам пастанавіў: усім кааператывам, гандлёвым прадпрыемствам, прыватным асобам і грамадскім арганізацыям горада і навакольных мясцовасцей даць да 24 студзеня 1919 г. дакладныя звесткі аб колькасці і месцы знаходжання ўсіх відаў харчовых тавараў і прадметаў жыццёвай неабходнасці (нарміраваных и ненарміраваных), а таксама ўсіх сельскагаспадарчых прылад і машын. Усе рэквізіцыі валаснымі і сельскімі органамі ўлады прадметаў харчавання і жыццёвай неабходнасці без санкцыі павятовага камісарыята харчавання забараняліся. Пры гэтым насельніцтва папярэджвалася, што ўсе вінаватыя ў парушэнні пастановы будуць аддадзены пад суд рэвалюцыйнага трыбуналу.[32] На ўсё насельніцтва павета быў накладзены надзвычайны рэвалюцыйны падатак.[33]

Былі нацыяналізаваны ўсе прамысловыя і гандлёвыя прадпрыемствы, узяты на ўлік маёнткі, уведзена абмежаванне на вываз прадуктаў, складзены спіс насельніцтва павета з разбіўкай па катэгорыях, роду заняткаў і сацыяльным становішчы, вызначана колькасць зямельнай плошчы для сем’яў. У Мірскай воласці валасны выканкам 30 снежня 1918 г. пастанавіў неадкладна ўзяць на ўлік усю наяўную соль для наступнага прапарцыянальнага размеркавання паміж насельніцтвам воласці і мястэчка Мір, вызначыць на ўсіх млынах аднолькавую натуральную плату за памол зерня (3 фунты з пуда) і за абдзірку круп (5 фунтаў з пуда), а ўсю наяўную на млынах муку апісаць і раздаць беднаму насельніцтву па пасведчаннях сельскіх камітэтаў.[34] У Гарадзечанскай воласці выканкам пастанавіў усю сабраную муку і крупы перадаваць у харчовы аддзел рэўкама для наступнага размеркавання па цвёрдых цэнах сярод бяднейшага насельніцтва, а грошы за памол мукі на млынах скарыстаць на ўтрыманне млынароў і рамонт млыноў.[35] Рэўкам ухваліў такія захады і распаўсюдзіў іх на ўвесь павет.

У Навагрудку пачалі працаваць абутковая, шавецкая, рымарская і слясарна-кузнечная майстэрні, якія абслугоўвалі патрэбы дзеючай арміі. Былі ўзяты на ўлік беспрацоўныя, арганізаваны грамадскія работы і бясплатная сталоўка для беспрацоўных.[36]

Лес перайшоў у дзяржаўную ўласнасць. Была забаронена яго самавольная высечка, а дровы, нарыхтаваныя у час германскай акупацыі, канфіскаваны і перададзены ў фонд пададдзела паліва. Дровы з гэтага фонду выдаваліся пагарэльцам і пацярпелым ад вайны, а таксама прадаваліся іншым жыхарам павятовага цэнтра і савецкім установам за нарміраваную плату. Пададдзел лесанарыхтовак прыступіў да нарыхтоўкі будаўнічага лесу для аказання дапамогі пацярпелым ад вайны і да нарыхтоўкі паліва для чыгуначных станцый.

[29] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.242.
[30] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.241.
[31] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.245.
[32] Революционные комитеты БССР (ноябрь 1918 г. – июль 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1961. С.89 – 90.
[33] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.242.
[34] Комитеты бедноты Белоруссии. Сб. документов и материалов. – Мн., 1958. С.524 – 525.
[35] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.242.
[36] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.246, 247.

У лютым 1919 г. у Навагрудку прайшоў павятовы з'езд Саветаў, які абвясціў пра пераход усёй паўнаты ўлады ў горадзе і вёсцы да Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў, абраных на падставе савецкай канстытуцыі. Былі прыняты дэкрэты аб канфіскацыі зямлі ў 48 найбольш буйных землеўладальнікаў, аб аддзяленні школы ад царквы. З 17 абраных на з'ездзе членаў павятовага выканаўчага камітэту 14 былі бальшавікамі. Было вызначана, што пры вырашэнні ўсіх важных задач выканкам папярэдне павінен абмяркоўваць іх з павятовым камітэтам КП(б)ЛіБ. На пачатак красавіка 1919 г. павятовая камуністычная арганізацыя мела ў сваім складзе 8 ячэек з 37 членамі.[37]

Павятовы выканкам распрацаваў шырокую праграму работ. У мэтах аднаўлення і далейшага развіцця павятовай гаспадаркі было прынята рашэнне аднавіць ваенную вузкакалейку ў якасці грамадзянскай чыгункі і звязаць яе са станцыямі Наваельня – Навагрудак – Замір'е, арганізаваць у валасцях кузнечна-слясарныя майстэрні, а ў горадзе стварыць цэнтральную майстэрню, звязаць тэлефоннай сувяззю ўсе валасныя выканкамы і правесці электрычнае асвятленне ўсюды, "дзе толькі будзе для гэтага малейшая магчымасць". Пачаліся работы па добраўладкаванні горада, рамонце абвятшэлых будынкаў.[38] Нацыяналізаваныя маёнткі ўвайшлі ў новастворанае Навагрудскае раённае ўпраўленне народных маёнткаў Літвы і Беларусі. Без уліку пасеваў і рагатай жывёлы батракоў і служачых, яны валодалі 4 тыс. дзесяцін зямлі, занятых пад бульбу, лён і гародныя культуры, а таксама 3 тыс. кароў.[39] Значныя намаганні, нягледзячы на вострую нястачу самых элементарных матэрыяльных рэсурсаў (у прыватнасці, аддзел аховы здароўя зазначаў: "Адчуваецца востры крызіс у інструментах, медыкаментах, сываратках і дэтрыце"[40]), прадпрымаліся ў справе арганізацыі сістэмы аховы здароўя, сацыяльнай дапамогі і народнай асветы. Былі нацыяналізаваны аптэкі і аптэкарскія магазіны, створаны цэнтральны аптэкарскі склад у Навагрудку, 2 шпіталі (у Навагрудку і Міры), некалькі фельчарскіх пунктаў. Аддзелам народнай асветы былі адкрыты 2 працоўныя школы і школа для дарослых у Навагрудку, некалькі бібліятэк, арганізаваны літаратурна-асветны гурток. На дзяржаўны кошт былі ўзяты прытулкі і багадзельні, якія належалі прыватным асобам і дабрачынным арганізацыям, пачаліся падрыхтоўчыя работы па стварэнні сеткі начлежных дамоў і дзіцячых ясляў.

У жыццё гараджан укараняліся новыя традыцыі і святы. 23 лютага 1919 г. быў урачыста адзначаны Дзень чырвонага падарунку (Дзень Чырвонай Арміі). Навагрудак быў упрыгожаны чырвонымі сцягамі і транспарантамі з лозунгамі: "Пралетарыі ўсіх краёў, злучайцеся!", "Няхай жыве Чырвоная Армія!". У 11 гадзін раніцы на гарадскую плошчу выйшлі дзве каравульныя роты, атрад ЧК, гарадская міліцыя, камуністы, савецкія служачыя, навучэнцы дзвюх працоўных школ і школы для дарослых. Адбыўся ўрачысты мітынг, на якім прынялі рэзалюцыю-прывітанне чырвонаармейцам. Вечарам у рабочым клубе прайшоў мітынг-канцэрт, а ў зале гасцініцы "Варшаўская" – аматарскі спектакль. У той жа дзень вуліцы Базарная і Яўрэйская былі перайменаваны адпаведна ў Чырвонаармейскую і Савецкую.[41]

## Пад польскай акупацыяй

Але час "другога" існавання Савецкай улады на Наваградчыне быў нядоўгі. Шматлікія злоўжыванні мясцовых адміністратараў пры спагнанні надзвычайнага рэвалюцыйнага і натуральнага сельскагаспадарчага падаткаў, пры ажыццяўленні дэкрэта аб аддзяленні дзяржавы і школы ад царквы, а таксама няспраўджаныя надзеі на прырэзку зямлі з савецкага зямельнага фонду выклікалі моцнае абурэнне сялянства. У Мірскай воласці справа дайшла да антысавецкага ўзброенага паўстання, падаўленне якога зацягнулася на 4 дні (1 – 4 красавіка 1919 г.) і каштавала жыцця 30 чэкістам і 25 мяцежнікам.[42] Ад-

[37] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.2. – Мн., 1971. С.66.
[38] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.2. – Мн., 1971. С.69.
[39] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.2. – Мн., 1971. С.171.
[40] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.246.
[41] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.242 – 243.
[42] Віцьбіч Ю. Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. Выданьне другое, выпраўленае. – Смаленск, 2007. С.93.

начасова абвастрылася становішча і на знешнім фронце. Правячыя колы адроджанай у лістападзе 1918 г. Польшчы, маючы намер уключыць у склад яе ўсе землі былой Рэчы Паспалітай у т.зв. "гістарычных граніцах", сталі на шлях вайны з Савецкай Рэспублікай. Ужо вясною 1919 г. пачаліся напады асобных польскіх атрадаў на населеныя пункты Навагрудскага павета. У канцы сакавіка 1919 г. лінія фронту наблізілася непасрэдна да Навагрудка. У горадзе і павеце была абвешчана мабілізацыя камуністаў у Чырвоную Армію.[43] У 19 гадзін 25 сакавіка 1919 г. адбылася першая перастрэлка чырвонаармейскай заставы, выстаўленай ля Навагрудка, з польскім атрадам, які дзейнічаў з раёна на паўднёвы ўсход ад Ліды.[44]

Некалькі тыдняў прайшлі ў баях мясцовага значэння, падчас якіх населеныя пункты павета Дварэц і Наваельня неаднаразова пераходзілі з рук у рукі. 16 красавіка 1919 г., скарыстаўшыся перавесам сіл на ўчастку Ліда – Баранавічы, войскі польскага Літоўска-Беларускага фронту (камандуючы генерал С.Шэптыцкі) перайшлі ў наступленне ў напрамках на Ліду, Наваельню, Навагрудак і Баранавічы.[45] Супраць польскіх войскаў, якія наступалі на Навагрудскім напрамку, былі кінуты ўсе наяўныя сілы Навагрудскага гарнізона – 2 каравульныя роты і эскадрон кавалерыі пад агульным камандаваннем Сцесліцкага. Камандаванне Заходняй стралковай дывізіі Беларуска-Літоўскай Чырвонай Арміі і паставіла ім задачу не дапусціць захопу палякамі чыгункі Баранавічы – Мінск і пераправы праціўніка праз Нёман. Аднак сілы былі занадта няроўныя. Пасля некалькіх баявых сутычак, з якіх асабліва жорскі і ўпарты характар набылі баі за Наваельню, Навагрудскі атрад апынуўся ў акружэнні, не маючы шляхоў для адступлення.[46] 18 красавіка 1919 г. у Навагрудак увайшлі польскія войскі.

Падчас зыходу савецкіх войск з Навагрудскага павета меў месца выпадак, на які 28 красавіка 1919 г. звярнуў увагу Савет Абароны ССР Літвы і Беларусі. Перад самым адыходам часцей Заходняй дывізіі з пасёлка Гарадзея Замір'еўскі валасны выканкам нечакана ўзняў пытанне аб эвакуацыі 2 тыс. пудоў аўсу, 20 тыс. пудоў бульбы, племянной жывёлы і іншай маёмасці, "у той час як раней на ўсе патрабаванні арміі аб харчаванні адказвалі, што нічога не маецца".[47] Маёмасць эвакуіравалі, але "гарадзейская гісторыя" – яскравы паказчык народнагаспадарчага партыкулярызму, які панаваў у разбуранай вайной Беларусі ў 1917 – 1920 гг.

Павет апынуўся ізноў пад іншаземнай акупацыяй – цяпер польскай. І гэтая акупацыя па сваіх жудасцях аказалася горшай за германскую. Польскае Грамадзянскае ўпраўленне Усходніх зямель пакінула без змен адміністрацыйны падзел тэрыторыі Беларусі, які існаваў да прыходу польскіх войск, аднак 29 жніўня 1919 г. перадала Навагрудскі павет у склад Віленскай акругі. Акупацыйная адміністрацыя скасавала савецкае заканадаўства (зямельнае найперш), забараніла публічныя сходы, зборы і мітынгі, абвясціла польскую мову дзяржаўнай на "абшарах, занятых польскімі войскамі". Сялян і ўсіх "незаконных уласцiцеляў" нацыяналізаванай, канфіскаванай ці "награбленай" прыватнай уласнасці абавязалі да 10 верасня 1919 г. безадкладна вярнуць уласнасць "законным уласцiцелям". Вінаватыя ў парушэнні загадаў і распараджэнняў польскай адміністрацыі, "незалежна ад абавязковага адказу перад судом", караліся 30 тыс. рублёў штрафу або 6 месяцамі арышту.[48]

Рабуючы апошнюю маёмасць навагрaдчукоў пад маркай рэстытуцыі або вайсковых і грамадзянскіх рэквізіцый, польскія захопнікі лічылі ніжэй за свой гонар клапаціцца пра "хлопаў". Дэлегацыя сялян Навагрaдчыны, якая прыбыла ў Мінск у верасні 1919 г., расказала дзеячам беларускага нацыянальнага руху, што ў павеце знішчаны цэлыя вёскі, насельніцтва жыве ў акопах або зямлянках, зусім няма хлеба. У павеце пануюць чорная воспа, тыф, дызентэрыя, ад якіх толькі ў вёсцы Воўкарэзь за адзін дзень па-

[43] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.2. – Мн., 1971. С.95.
[44] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.2. – Мн., 1971. С.52.
[45] Иностранная военная интервенция в Белоруссии, 1917 – 1920. – Мн., 1990. С.201.
[46] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.2. – Мн., 1971. С.72 – 73; Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.243.
[47] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.2. – Мн., 1971. С.89.
[48] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.2. – Мн., 1971. С.179 – 181, 185 – 187, 188.

мерла 12 чалавек.[49] Карэспандэнт польскай газеты “Кур’ер Варшаўскі”, які ў лістападзе 1919 г. наведаў Навагрудскі і Пінскі паветы, у карэспандэнцыі ад 21 лістапада 1919 г. паведамляў пра “жудасны голад сярод насельніцтва”. За апошнія пяць месяцаў, пісаў ён, у многіх вёсках сілкаваліся выключна зелянінай і рознай травой. Жудасных памераў дасягнула смяротнасць.[50]

Польскія акупанты ўсталявалі на Наваградчыне рэжым шалёнага тэрору і рабавання. Адказам наваградчукоў стала ўзброеная партызанская барацьба. Партызанскія атрады, створаныя мясцовай арганізацыяй партыі беларускіх эсэраў, а таксама падпольнай арганізацыяй бальшавікоў, дзейнічалі ў Гарадзішчанскай, Наваельненскай і іншых валасцях Навагрудскага павета. Навагрудак і Замір’е ператварыліся ў буйныя цэнтры транзіту бальшавіцкай нелегальнай літататуры са Смаленска і Мінска ў Беласток, Ліду і Вільню.[51]

У гісторыю іншаземнай інтэрвенцыі і грамадзянскай вайны 1917 – 1925 гг. у Беларусі ўвайшла т.зв. “ярэміцкая трагедыя”. Жыхары мястэчка Ярэмічы паўсталі супраць акупантаў і ўступілі ў адкрытую барацьбу з польскім вайсковым атрадам, які прыбыў для ўціхамірвання бунту. Удзельнікі паўстання былі жорстка пакараны. Уся моладзь мястэчка ва ўзросце да 26 год падверглася арышту і катаванням, а 14 чалавек з ліку кіраўнікоў паўстання – расстраляны ў Навагрудку, у т.л. М.А. Царук, У.А. Кузьміч, М.В. Курыла, І.С. Вацановіч, П.Р. Сініца, М.А. Бразовіч, В.Ф. Выдзерка, М.К. Выдзерка, В.Б. Тамашэвіч.[52] Усяго ж ахвярамі польскай акупацыйнай палітыкі на тэрыторыі Навагрудскага павета ў красавіку 1919 – ліпені 1920 гг. сталі 31116 чалавек – 11443 мужчыны, 9960 жанчын і 7913 дзяцей.[53]

## Другое вяртанне Савецкай улады. Навагрудскі павет у складзе ССРБ другога абвяшчэння. Рэакупацыя Наваградчыны польскімі войскамі

19 ліпеня 1920 г. падчас Ліпеньскай наступальнай аперацыі савецкага Заходняга фронту Навагрудак быў вызвалены ад польскіх акупантаў. Непасрэдна ў вызваленні горада ўдзельнічаў 242-і Волжскі стралковы полк 27-й Омскай стралковай дывізіі 16-й арміі, якім камандаваў выдатны савецкі военачальнік С.С. Вастрацоў. (Менавіта С.С. Вастрацоў у канцы 1922 – пачатку 1923 гг. у якасці камандуючага асобным Ахоцкім атрадам бліскуча ажыццявіў Ахоцка-Аянскую дэсантную аперацыю, якая паставіла кропку ў Грамадзянскай вайне на расійскім Далёкім Усходзе і Расіі ў цэлым.) 27-й Омскай стралковай дывізіяй камандаваў не менш знакаміты военачальнік В.К. Путна.

Улада ў горадзе і павеце перайшла да ваенна-рэвалюцыйнага камітэта, які быў створаны 21 ліпеня 1920 г.[54] Старшынёй рэўкама стаў Лагвіновіч; пазней – былы беластоцкі рабочы, стары бальшавік Станіслаў Адамавіч Мертэнс. (У далейшым Мертэнс зрабіў бліскучую кар’еру, займаў пасады наркама ўнутраных спраў Беларускай ССР, члена ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР.) намеснікамі старшыні рэўкама былі абраны В.Г. Аблажэй і А.Г. Максіменка. Па ініцыятыве першага старшыні рэўкама ў Навагрудку была створана гарадская міліцыя, а 22 жніўня 1920 г. прынята рашэнне аб выданні павятовай газеты “Труженик”.[55]

Пасля другога абвяшчэння ССРБ (31 ліпеня 1920 г.) Навагрудскі павет увайшоў у склад апошняй. Пры гэтым частка валасцей Навагрудскага павета адышла да Літвы (па ўмовах савецка-літоўскага мірнага дагавора ад 12 ліпеня 1920 г.) і да новастворaных Нясвіжскага і Баранавіцкага паветаў ССРБ.

Ужо першым сваім загадам Навагрудскі павятовы рэўкам забараніў павышаць цэны

[49] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.243.
[50] Иностранная военная интервенция в Белоруссии, 1917 – 1920. – Мн., 1990. С.260.
[51] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.2. – Мн., 1971. С.161.
[52] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.243; Иностранная военная интервенция в Белоруссии, 1917 – 1920. – Мн., 1990. С.218.
[53] Белоруссия в борьбе против польских захватчиков в 1919 – 1920 гг.: Сб. документов и материалов. – М. – Л., 1940. С.160.
[54] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.247.
[55] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.243.

ў крамах і на кірмашы вышэй за існаваўшыя да прыходу чырвоных войскаў. Усе гандляры, заўважаныя ў павышэнні цэн, прыхоўванні тавараў і адмове прымаць у аплату савецкія грошы неслі адказнасць “па законах ваеннага часу”.[56] Была арганізавана павятовая міліцыя, “якой прыняты неадкладныя меры да ізалявання з насельніцтва павета усіх шкодных элементаў – рэштка ў разбэшчанай шляхты, якія арыштоўваюцца і адпраўляюцца ў турму да правядзення следства”.[57] Амаль у кожным мястэчку і вёсцы ствараліся камітэты абароны для барацьбы з бандытызмам і дэзерцірствам.

Разам з дапамогай войскам Заходняга фронта (Навагрудскі павет увайшоў у тылавы раён забеспячэння 16-й арміі[58]) адной з асноўных задач Навагрудскага рэўкама стаў збор ураджаю, яго ўлік, падрыхтоўка зямлі да сяўбы. Нарыхтоўчы аддзел рэўкама арганізаваў уборку ўраджаю ў нацыяналізаваных памешчыцкіх маёнтках, правёў па валасцях развёрстку хлебу для дастаўкі яго ў горад, наладзіў кантроль на млынах. Былі выдадзены загады аб мабілізацыі ўсіх коней для заворвання і засеву палёў азімымі, а таксама аб уліку пасяўной плошчы “грамадзян дробных уладанняў”.[59] Была наладжана ахова лясоў і арганізавана лясная стража. Загадам №26 ад 28 жніўня 1920 г. былі ануляваны акты куплі і продажу маёмасці нацыяналізаваных (народных) маёнткаў перыяду польскай акупацыі і было аддадзена прадпісанне вярнуць распрададзеную памешчыкамі маёмасць у народныя маёнткі. Выключэнне рабілася толькі для тых гаспадароў, якія прадставяць у павятовы зямельны аддзел “неабвержны доказ таго, што здзелка ўчынена пакупшчыкамі, якія церпяць нястачу, і не ў мэтах прыхоўвання маёмасці або спекулятыўных, а для забеспячэння сябе сапраўды неабходным”.[60]

Загадам рэўкама №14 ад 11 жніўня 1920 г. прадпісвалася ў мэтах дапамогі сем’ям чырвонаармейцаў і пацярпелым ад польскай акупацыі грамадзянам “і наогул беднякам” у самым тэрміновым парадку арганізаваць заворванне агульнымі сіламі і засяванне іх палёў. Грамадзян, якія мелі коней, абавязалі апрацоўваць і засяваць палі тых, у каго коней не было. Акрамя таго, загадам была дазволена бязвыплатная перадача коней са шматконных гаспадарак у карыстанне бясконным гаспадаркам “па ўказанні ўлады”.[61] Гэты загад, аднак, не выконваўся. У прыватнасці, Мірскі валасны рэўкам атрымліваў неаднаразовыя скаргі бясконных грамадзян на тое, што яны не атрымліваюць належнай дапамогі ад грамадзян, якія маюць коней. У адпаведным прадпісанні Мірскаму местачковаму рэўкаму ад 20 жніўня 1920 г. было прапанавана ў дачыненні да вінаватых “прымяніць у поўнай ступені ўсе існуючыя на гэты прадмет распараджэнні, не спыняючыся перад рэпрэсіўнымі спагнаннямі”. Пры гэтым асаблівую ўвагу трэба было звярнуць на тое, “каб у катэгорыю бясконных не патрапілі грамадзяне зусім заможныя, якія могуць мець коней, каб не дазволіць ім злачынна эксплуатаваць чужую працу. Зямля такіх грамадзян ў мэтах сяўбы можа быць аддадзена малазямельным”.[62] З 27 верасня па 4 кастрычніка 1920 г. па загаду рэўкама №41 ад 17 верасня 1920 г. быў арганізаваны тыдзень ворыва – “Тыдзень дапамогі селяніну”.[63]

Вытворчы аддзел рэўкама наладзіў у горадзе работу кузні і слясарна-такарнай майстэрні, праводзіў абследаванне з мэтай падрыхтоўкі да аднаўлення вытворчасці буйнейшых прамысловых прадпрыемстваў павета – кафлева-чарапічнай фабрыкі братоў Лейт у Навагрудку, цагельнага завода Неймана ў Чамяроўцы, цагельнага завода Казадкі ў Сёмкаве, смалакурных заводаў у Валадове, Азерках, Каменцы-Кміта, Вярдоўцы-Студзянец. Аддзел гарадской гаспадаркі узяў на ўлік гарадскую маёмасць. У камунальную ўласнасць перайшлі электрастанцыя, лазня і дэпо пажарнага таварыства з усёй іх маёмасцю. Быў распачаты рэмонт машын электрастанцыі. Будаўнічы аддзел пабудаваў “кіпяцільнік з навесам для забеспячэння горада кіпнем”, прыступіў да капітальнага рамонта гарадской лазні і трох мастоў праз раку Сэрвеч, спаленых

[56] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.47.
[57] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.81.
[58] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.325.
[59] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.81, 82.
[60] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.248 – 249.
[61] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.248.
[62] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.274 – 275.
[63] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.250.

польскімі войскамі пры адступленні, вузкакалейнай чыгункі на станцыі Наваельня, а таксама наладзіў выдачу будаўнічых матэрыялаў для патрэб савецкіх устаноў. Жыллёвы аддзел браў на ўлік памяшканні і мэблю, пакінутыя выехаўшымі грамадзянамі, прыватныя кватэры з мэтай іх наступнага размеркавання паміж установамі, савецкімі служачымі і грамадзянамі, якія маюць патрэбу ў жыллі і мэблі. Аддзел сацыяльнага забеспячэння склаў спісы сем'яў чырвонаармейцаў, а таксама асоб, якія вярнуліся са старой арміі, інвалідаў, дзяцей ва ўзросце да 6 год. Былі арганізаваны 2 шпіталі на 100 ложкаў кожны, праведзены ўлік медыкаментаў і перавязачных сродкаў.[64] У мястэчку Мір і на станцыі Замір'е "для аказання дапамогі насельніцтву, пацярпеламу ад контррэвалюцыі і грамадзянскай вайны" былі створаны ўрачэбна-харчовыя пункты. Сталоўкі грамадскага харчавання, арганізаваныя ў Навагрудку, мястэчках і на чыгуначных станцыях атрымлівалі на кожнага едака ў суткі 1/8 фунта хлеба, 9 залотнікаў круп, 1/8 фунта мяса ці рыбы, 60 залотнікаў свежай і 4 залотнікі сушанай гародніны.[65]

Аддзел народнай асветы разаслаў ва ўсе валасныя рэўкамы анкеты для атрымання звестак аб наяўнасці школ, вучняў і настаўнікаў, аб месцах, дзе ёсць неабходнасць стварэння новых школ. Былі прыняты на дзяржаўнае забеспячэнне дзіцячыя прытулкі павета. Было аддадзена распараджэнне аб ахове пакінутых у маёнтках кніг і школьных дапаможнікаў. У Навагрудку адкрыліся вячэрнія курсы, бібліятэка, Народны дом, арганізаваны музыкальна-драматычны гурток.[66]

Загадам №40 ад 16 верасня 1920 г. рэўкам прадпісаў аддзелу народнай асветы стварыць у доме, дзе жыў Адам Міцкевіч, музей або народную бібліятэку імя А.Міцкевіча, "сабраць усе наяўная ў павеце кнігі і інш. помнікі аб Міцкевічу і ўключыць іх у музей або бібліятэку".[67] Яшчэ раней, 14 жніўня 1920 г. Навагрудскі павятовы рэўкам разаслаў у валасныя рэўкомы прадпісанне сабраць звесткі пра захоўваемыя ў маёнтках мастацкія каштоўнасці (карціны, эцюды, эскізы, партрэты, статуі, статуэткі, гравюры, альбомы, "розныя калекцыі і чучалы") для музея, які адкрываецца ў Навагрудку.[68]

29 ліпеня 1920 г., у знак ушанавання памяці "14 таварышаў, жыхароў мяст. Ярэмічы, якія паўсталі супраць прыгнёту і гвалтаванняў жандараў" і былі расстраляны польскімі акупантамі, павятовы рэўкам пастанавіў мястэчка Ярэмічы перайменаваць у мястэчка імя тав. Валадарскага, а Турэцкую воласць, да якой адносілася мястэчка, – у Валадарскую. Перайменаванні былі, хутчэй за ўсё, зацверджаны, таму што ў наступным перапіска вялася не з Турэцкім, а з Валадарскім валасным рэўкамам.[69]

17 верасня 1920 г., пасля стварэння павятовага аддзела рабоча-сялянскай інспекцыі, Навагрудскі рэўкам выдаў адпаведны загад, якім абавязаў усе савецкія ўстановы, грамадскія арганізацыі і прыватныя асобы аказваць безумоўнае садзейнічанне рэвізорам-кантралёрам інспекцыі пад пагрозаю звальнення са службы і аддачы пад суд рэвалюцыйнага трыбуналу.[70]

У нядзелю, 3 жніўня 1920 г., па ініцыятыве Навагрудскай арганізацыі КП(б)ЛіБ адбыўся першы гарадскі нядзельнік, у якім прымалі ўдзел камуністы, служачыя рэўкама, члены прафсаюза і які быў прысвечаны добраўпарадкаванню горада. Былі ачышчаны ад смецця і ламачча двары шпіталяў, прыведзены ў належны від магіла 14-ці расстраляных і брацкія магілкі памершых ад ран чырвонаармейцаў. "Погляд абывацеляў на суботнікі, якія раней іранічна ставіліся да іх, – зазначалася ў інфармацыйнай зводцы інфармацыйна-інструктарскага пададдзела Рэўкама ССРБ ад 14 жніўня 1920 г., – праясняецца, і ёсць упэўненасць, што ў недалёкай будучыні ўсё насельніцтва прыме ў іх самы гарачы ўдзел".[71] Упэўненасць спраўдзілася. 9 верасня 1920 г. адбыўся другі нядзельнік, у якім прынялі ўдзел каля 800 чалавек – не толькі камуністы, члены прафсаюзаў, персанал савецкіх устаноў да старшыні рэўкома ўключна і асабовы склад міліцыі, але і про-

[64] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.81, 82.
[65] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.421.
[66] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.81 – 82.
[67] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.249.
[68] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.381 – 382.
[69] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.52.
[70] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.112.
[71] Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. – Мн., 1996. С.248.

стыя грамадзяне. Нядзельнік быў прысвечаны нарыхтоўцы і дастаўцы ў горад паліва. На мітынгу, які адбыўся пасля вяртання з работ у горад, гучалі палымяныя прамовы пра “вялікае значэнне масавай працы для перамогі над разрухай, роўна і для большай дапамогі сем’ям чырвонаармейцаў і фронту”.[72]

“Кожную нядзелю, акрамя спецыяльных інструктараў, выязджаюцьпа валасцях усе адказныя работнікі савецкіх установ, праводзяць мітынгі, растлумачваюць значэнне і задачы Камуністычнай партыі, арганізуюць ячэйкі, наладжваюць кантроль, прымаюць скаргі сялян, растлумачваюць усе непаразуменні, даказваюць неабходнасць падтрымкі Чырвонай Арміі. Усяго ў горадзе прачытана 8 лекцый, праведзена 9 мітынгаў. У павеце праведзены масавыя мітынгі”, – пісала 1 верасня 1920 г. газета “Звезда” пра ідэалагічна-прапагандысцкую работу камуністаў Навагрудскага павета.[73] І яна давала пэўныя вынікі. Так, агульны сход рабочых народнага маёнтка “Мір” пастанавіў вітаць Чырвоную Армію “з нагоды яе перамогі над нашымі прыгнятальнікамі – польскімі памешчыкамі” і “нашу савецкую ўладу, якая дала нам магчымасць сабрацца для абмеркавання ўласных патрэб, не памешчыка, а нас саміх”, і прыкласці ўсе намаганні для адраджэння гаспадаркі “ў інтарэсах рабочых і Чырвонай Арміі”.[74] 14 жніўня 1920 г. на агульным сходзе сялян вёскі Пясочна Мірскай воласці пры абмеркаванні пытання, “як палепшыць сваё бядацкае становішча”, было прынята рашэнне аб арганізацыі калектыўнай гаспадаркі на базе часткі землеўладанняў фальварка Пясочна.[75]

Па стане на 1 верасня 1920 г. Навагрудская павятовая арганізацыя КП(б)ЛіБ налічвала 3 ячэйкі ў савецкіх установах Навагрудка і 3 валасныя ячэйкі – 21 камуніст і 22 кандыдаты ў члены партыі. Пры гэтым калі камуністы былі накіраваны ў павет з цэнтра або з Чырвонай Арміі, то кандыдаты ў партыю былі мясцовымі жыхарамі. Члены і кандыдаты ў члены партыі абавязваліся павышаць уласны культурны і ідэйны ўзровень, для чаго двойчы ў тыдзень наведваць лекцыі і дыскусіі, браць абавязковы ўдзел у суботніках і сходах, назіраць за работай савецкіх установ. У павеце былі арганізаваны Саюз камуністычнай моладзі і яўрэйская секцыя.[76]

На 5 верасня 1920 г. намячалася скліканне гарадской беспартыйнай канферэнцыі, а на 12 верасня – павятовай канферэнцыі жанчын-работніц. На 26 верасня былі прызначаны выбары ў выканкам Навагрудскага гарадскога Савета, а на 2 кастрычніка 1920 г. – выбары дэлегатаў на павятовы з’езд Саветаў.[77] Аднак ажыццявіць гэтыя мерапрыемствы і перадаць уладу ад надзвычайных органаў да органаў, пабудаваных на падставе савецкай канстытуцыі, не ўдалося. Пасля паражэння савецкіх войскаў пад Варшавай фронт ізноў імкліва наблізіўся да Навагрудка. Надзея камандавання Заходняга фронта затрымаць праціўніка на лініі Ашмяны – Трабы – Юрацішкі – Ляхавічы – Уселюб – Навагрудак – Валеўка[78] не спраўдзілася. 1 кастрычніка 1920 г. войскі польскай 4-й арміі ў другі раз занялі горад і рушылі далей на ўсход – на Мінск.

Па ўмовах савецка-польскага дагавора аб перамір’і ад 12 кастрычніка 1920 г. і Рыжскага мірнага дагавора паміж савецкімі рэспублікамі і Польшчай ад 18 сакавіка 1921 г. тэрыторыя Навагрудскага павета з горадам Навагрудак адышла да Польшчы.

---

[72] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.192 – 193.
[73] Звезда. – №39(610). 22 сентября 1920 г.
[74] Звезда. – №5(576). 13 августа 1920 г.
[75] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.269 – 270.
[76] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.102 – 103; Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.2. – Мн., 1971. С.562.
[77] Революционные комитеты БССР (июль – декабрь 1920 г.). Сб. документов и материалов. – Мн., 1957. С.446.
[78] Борьба за советскую власть в Белоруссии, 1918 – 1920 гг. Сб. документов и материалов. В 2 т. Т.2. – Мн., 1971. С.480.

М. Кобрын (Баранавічы)

# Беларускі краевы з’езд у Навагрудку ў студзені 1919 года

Змена геапалітычнай сітуацыі ў канцы 1918 года, у прыватнасці вывад германскіх войск з тэрыторыі Беларусі, уступленне Чырвонай Арміі на беларускія землі, прэтэнзіі Польскай дзяржавы на тэрыторыі, якія ўваходзілі ў яе склад да 1772 года і незбежнасць вайны з Савецкай Расіяй у сувязі з гэтым, выклікалі змену палітычных настрояў сярод беларускай інтэлігенцыі. У беларускім нацыянальным руху ўзнікае паланафільская плынь, якая імкнулася максімальна садзейнічаць польскім інтэрвентам. 22 студзеня 1919 года адбылося пасяджэнне арганізацыйнага камітэта ў справе склікання Краевага Беларускага З’езду Гродзеншчыны ў Навагрудку. Месца дзе гэта адбылося, як і сам з’езд, дакладна ў Навагрудку не знойдзена. Было вырашана склікаць з’езд 28 студзеня 1919 года ў Навагрудку. Пратакол падпісалі ад Беларускай гродзенскай управы – Боеў, Курлоў, Якавюк, Зіньковіч, Міклашэўскі, Чарнецкі, Грынкевіч, Скабелкін, Юргела, Грышкевіч, Махнач, Марозаў; ад Беларускага Гродзенскага Камітэта – Натусевіч, Грыкоўскі, Краўцэвіч, Крачынскі, Дзенісевіч, Злоцкі, Зайцаў, Алексюк, Бялецкі, Аляксючанка, Машук [1, с. 320].

Гэта быў прадстаўнічы форум “дэлегатаў беларускіх грамадзянскіх і палітычных арганізацый, сялянскіх радаў, членаў Рады БНР”, які адбыўся 28-30 студзеня 1919 года падпольна ў зоне бальшавіцкай акупацыі Беларусі ў  Навагрудку. На з’ездзе была абрана Беларуская Краевая Народная Рада, як прадстаўнічы орган беларускай улады ў зоне будучай польскай акупацыі Беларусі. Кастусь Цвірка-Гадыцкі стаў яе прэзідэнтам [2, с. 494].

23 сакавіка 1919 года К. Цвірка-Гадыцкі і член Беларускай Краевай Народнай Рады А. Янсан накіравалі ліст міністру-прэзідэнту Польшчы І. Падэрэўскаму, у які уключылі рэзалюцыю, прынятую на з’ездзе. Яна называлася “Зварот членаў Беларускай Краевай Народнай Рады ў справе саюза беларускіх зямель з Польшчай”. “Да Пана Прэзідэнта Польшчы і міністрам польскай дзяржавы – пачынаецца гэты дакумент. Мы ніжэйпадпісаўшыяся члены Беларускай Краевай Народнай Рады, абраныя на Беларускім Краевым З’ездзе беларускіх дэлегатаў грамадскіх і дзяржаўных арганізацый, павятовых з’ездаў, членаў былой Рады БНР і іншых краявых арганізацый усей Беларусі, які адбыўся ў акупіраваным бальшавікамі Навагрудку з 28 па 30 студзеня 1919 года – павінны выканаць пастанову гэтага з’езда, ад яго імя, складзеную пану прэзідэнту і міністрам Польскай Рэчы Паспалітай рэзалюцыю з’езду, якая датычылася праблемы беларускай дзяржаўнасці. Беларускі краявы з’езд, прыймаючы ва ўвагу цэлы шэраг прычын, аб якіх ен падрабязна інфармаваў, канстатуе, што: 1) Існаванне незалежнай беларускай дзяржавы немагчыма; 2) народ беларускі  па эканамічным, палітычным і іншым прычынам павінен уступіць у болей цесныя сувязі з адным з сваіх суседзяў; 3)былая расійская дзяржава, якая апынулася пад бальшавіцкай анархіяй, якой няма канца, а таксама аказала ўплыў на Украіну і Літву, з неабаснаванымя прычынамі дзяржаўнага

жыцця – не можа даць беларусам упэўненасці ў яго дзяржаўных патрэбах; 4) нашым суседам будзе толькі адроджаная польская дзяржава, з якой народ беларускі існаваў цераз два стагоддзя сумеснага існавання – саюз з ей, а адначасова і з усімі дэмакратыямі Захаду – есць адзін выхад для беларускага народу, якая можа гарантаваць незалежнасць беларускага краю. У выніку Беларускі Краявы З'езд пастанаўляе: 1) Беларусь у сваіх этнаграфічных межах з захаваннем канстытуцыі беларускага народа – далей у цеснай сувязі з Польскай Рэччу Паспалітай, якая гарантуе ей падтрымку культурнай свабоды і гаспадарчага жыцця; 2) правядзенне ў жыцце пастаноў Беларускага Краявога З'езду даручана абранай Беларускай Краявой Народнай Радзе, згодна даручанай ей рэкамендацыямі [3, с. 31-32].

Дэкларацыя Беларускага Краявога З'езда была выкарыстана Польшчай на праходзячай у Парыжы мірнай канферэнцыі як доказ прапольскіх настрояў сярод беларускага насельніцтва. "Чым больш вайна праходзіць у цяперашні час, тым больш насельніцтва даваеннай усходняй часткі беларускіх і рускіх тэрыторый будзе імкнуцца да Польшчы – ужо 3 красавіка 1919 года сярджаў у сваім выступленні ў сейме С.Грабскі. Нядаўна на Беларусі прайшоў з'езд, верагодна тайна, з'езд не польскі, а скарэй беларускі, і гэты з'езд прыслаў сваіх прадстаўнікоў і даслаў рэзалюцыю для таго каб з ей азнаеміўся польскі ўрад і міжнародныя місіі, якія тут былі. У гэтай рэзалюцыі ясна гаворыцца аб тым, што беларускае насельніцтва лічыць, што незалежная беларуская дзяржава немагчыма, і што беларускі народ павінен аб'ядначца з адной з суседніх краін. А для развіцця культуры і цывілізацыі Беларусі аб'яднанне гэтых зямель ці з Расіяй ці з Польшчай было б небяспечным і шкодным, беларускае насельніцтва дабіваецца іх далучэння да Польшчы"[4, с. 11].

Афіцыйна польская дэлегацыя 2 мая 1919 года ў Парыжы прад'явіла пастанову Беларускай Краявой Народнай Рады за подпісам яе старшыні К. Цвірка-Гадыцкага, даказваючы непаўнавартасць патрабаванняў Рады БНР аб прызнанні яе незалежнасці. Супраць гэтых выступленняў пратэставаў А.Луцкевіч, кіраўнік дэлегацыі БНР на Парыжскай мірнай дэлегацыі. Аднак да яго не прыслухаліся [5, с. 224].

## Літаратура


1. Архівы БНР. Т.1: Фонд № 582. У 2 кн./Беларускі ін-т навукі і мастацтва, Т-ва беларускага пісьменства "Наша ніва"; Укл. С. Шупа. – Вільня; Нью-Ерк; Менск; Прага: БІНіМ – ТБП, 1998. – Кн. 1. – 850 с.
2. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6 т. Т.1. 494 с.
3. Archiwum polityczne Ignacego Paderewskiego, T.1. (1909-1941), 654 s.
4. Sprawozdanie stenograficzne z Sejmu Ustawodawczego z dnia 3 kwietnia 1919 r., 11 s/
5. Весялкоўскі Ю. Беларусь у Першай Сусветнай вайне (гістарычны нарыс). 361 с.

П. Стецкевич (Гродно)

# Деятельность сионистских партий и организаций на территории новогрудского воеводства в 1921–1926 гг.

По условиям Рижского мирного договора 1921 г. Западная Беларусь вошла в состав Польши. На этой территории польскими властями было создано четыре воеводства: Новогрудское, Полесское, Виленское и Белостокское. В Новогрудском воеводстве преобладающую массу населения составляли белорусы. Значительной была также доля еврейского населения (56 тыс. человек, или 6,8 %). Евреи проживали преимущественно в городах и местечках. В некоторых из них еврейское население было преобладающим. Так, в Столине на 16 251 горожанина приходилось 8605 евреев (52,9 %). В Барановичах из 22 818 жителей 9680, или 42,4 % были евреями [1, s. 56].

В первой половине 20-х гг. XX в. евреи Новогрудского воеводства активно участвовало в политической жизни региона. Значительным влиянием среди еврейского населения воеводства пользовались сионистские партии и организации. Их идеологическую концепцию составлял тезис о возвращении евреев в Палестину и восстановлении там еврейской государственности. Наиболее влиятельной сионистской партией была «Сионистская организация в Польше». Она входила в состав Всемирной сионистской организации, высшим органом власти которой являлся сионистский конгресс. В ноябре 1918 г. «Сионистская организация в Польше» высказалась за независимое демократическое польское государство и за реализацию широкого самоуправления национальных меньшинств. Партия стремилась к обеспечению культурно-национальной автономии евреев, основанной на организации еврейских общин, которые должны были носить светский характер. Национальным языком, по мнению сионистов, являлся иврит. Идиш как язык народных масс допускалось использовать в странах проживания еврейской диаспоры, в том числе в Польше [2, s. 267].

В 1921–1922 гг. на территории Новогрудского воеводства сионисты вели активную работу по формированию первичных организаций. Наиболее многочисленными они были в Новогрудке, Слониме, Лиде, Барановичах. Партия особенно активизировала свою деятельность в преддверии выборов 1922 г. в парламент Польши. Так, в Слониме на базе местного отделения партии был организован избирательный комитет «Еврейского союза в Слониме», штаб-квартира которого находилась на улице Подгорной, 16. В его состав входили 5 членов: А. Клецкин, Х. Закройский, М. Аронович, И. Светицкий, С. Лидовская [3, л. 25]. В Слониме сионисты проводили агитационную работу через избирательный комитет Народного блока. В состав этого блока, кроме них, входили Временный еврейский народный совет, Центральный союз купцов, Центральный союз рабочих, Центральный союз мелких купцов [3, л. 9].

В 1922 г. в Барановичах также существовало крупное отделение Сионистской организации, объединявшее в своих рядах представителей местной еврейской буржуазии и интеллигенции. На своих собраниях сионисты обсуждали важнейшие вопросы, волновавшие еврейское население региона. Наиболее ярко настроение этой группы характеризует предвыборное собрание членов отделения, которое состоялось в Барановичах 27 мая 1922 г. На нём представители СО С. Гожалка и И. Фишман, говоря о положении евреев в Польше, охарактеризовали его следующим образом: «В Польше 60 % евреев живёт на деньги, получаемые из Америки, а остальные живут с доходов от торговли, которую у евреев постепенно отбирают и передают христианам. На государственную службу евреи также не могут рассчитывать, так как идет их вытеснение из госаппарата. В результате открытой антисемитской политики государства (легальное существование антисемитской организации «Развитие» и т.п. – П.С.) отношение местного населения к нам может ещё ухудшиться, и тогда останется только один выход – массовая эмиграция за границу. Однако и там положение евреев с каждым днём становится всё хуже. Тогда единственной страной, где мы сможем жить и развиваться, останется Палестина» [4, л. 80].

В это же время, по данным полиции, отделение Сионистской организации, насчитывавшее 30 членов, существовало в Воложине. Первоначально оно не проводило какой-либо активной работы [5, л. 250].

В 1922 г. в местечке Ивье был создан местный комитет Сионистской организации, деятельность которого сводилась в основном к работе по созданию еврейской школы и библиотеки, а также распространению сионистской прессы [5, л. 250].

22 июля 1922 г. Учредительный сейм Польши одобрил новый избирательный закон о выборах в сейм и сенат. Выборы были назначены на 5 и 12 ноября 1922 г. [6, s. 4]. Сионистская организация накануне выборов 1922 г. пользовалась в регионе широкой поддержкой, особенно среди буржуазии и интеллигенции. Более слабое, но отнюдь не ничтожное влияние она имела среди рабочих. В Новогрудском воеводстве по избирательному округу № 61 в сейм были избраны сразу два представителя «Сионистской организации в Польше» – Израиль-Михаил Люблинский-Стучинский и доктор Якоб Выгодский [2, s. 267].

В 1923–1926 гг. Сионистская организация продолжила на территории Новогрудского воеводства работу по созданию новых ячеек партии и укрупнению существовавших ранее.

Так, 12 августа 1923 г. в местечке Деречин (Слонимский повет) было создано отделение Сионистской организации. В состав его руководства вошли: А. Златогора, М. Альпер, К. Фердер [7, л. 104–107].

К октябрю 1923 г. в Новогрудском воеводстве Сионистская организация насчитывала 1500 зарегистрированных членов, не считая большого числа сочувствующих. Во главе организации в регионе стоял Мендель Гинзбург, в состав президиума входили также – доктор Я. Нахумовский, доктор М. Ясиновский, Кацав Израэль, Яцек Ясиновский, В. Сегалович [8, к. 13–15].

С целью поддержки местных отделений Сионистской организации, привлечения в её ряды новых членов в воеводство неоднократно приезжали лидеры партии из Варшавы, Вильно. Так, 7 мая 1923 г. в Новогрудок прибыл депутат сейма доктор Я. Выгодский, который провел ряд встреч с еврейской общественностью воеводства. В одном из своих выступлений он отметил, что «до сих пор еврейские партии были в дружелюбных отношениях с польскими политическими партиями. Однако если со стороны последних продолжится давление на евреев, то мы будем считать подобные шаги враждебными» [8, к. 13]. Поддержка со стороны центральных органов в Варшаве и проводимая партией работа на местах способствовали тому, что Сионистская организация в Новогрудском воеводстве в данный период являлась наиболее влиятельной среди всех политических еврейских организаций.

В 1924–1926 гг. Сионистская организация продолжала укреплять свои позиции в поветах воеводства. Основной формой работы партии в этот период являлась активная агитационно-разъяснительная работа среди местного еврейского населения. С этой целью проводились многочисленные лекции, собрания, концерты и даже бал-маскарады в

Новогрудском, Слонимском, Барановичском, Лидском, Несвижском, Седлицком и ряде других поветов [9, л. 27]. Подобная работа способствовала увеличению сторонников Сионистской организации в воеводстве. Так, в Слониме в январе 1924 г. партия насчитывала 300 членов, в большинстве своем представителей интеллигенции. Председателем местного отделения партии являлся купец М. Люблинский-Стучинский, его заместителем – Я. Заблоцкий. Деятельность организации была наиболее активной в образовательной и гуманитарной сферах. Проводились акции по сбору средств на нужды Палестины, а также мероприятия, посвященные памяти погибших на её территории еврейских переселенцев [9, л. 27].

Большое внимание деятели партии уделяли освещению положения в Палестине. Отделения партии регулярно устраивали публичные чтения докладов и лекций о возрождении Палестины, на которых выступали как руководители местных отделений Сионистской организации, так и видные представители сионистского движения со всей страны, а также из-за рубежа. В ходе этих мероприятий собирались средства на нужды палестинских переселенцев. 20 января 1924 г. в Лиде в помещении кинотеатра «Эдисон» состоялся сионистский вечер, тема которого – «Современная Палестина». С докладами перед собравшимися выступили один из руководителей сионистского движения в Польше депутат сейма Я. Выгодский и делегат из Палестины К. Иоффе. Во время собрания проводился сбор средств на развитие Палестины [10, л. 27–27 об.].

17 июня 1925 г. в помещении Сионистской организации в Слониме депутат сейма М. Люблинский-Стучинский организовал лекцию о состоянии дел в Палестине, а также о деятельности сейма по решению еврейского вопроса. На собрании присутствовало около 200 человек [11, л. 4].

2 февраля 1926 г. в Слониме по инициативе местной Сионистской организации были организованы чтения на тему «Палестина и её противники». Выступавший А. Бергман из Варшавы обрисовал собравшимся слушателям концепцию возрождения Палестины как независимого еврейского государства. Он заявил о том, что противников этой идеи необходимо рассматривать как предателей национального еврейского движения. На собрании присутствовало около 100 человек. Доход от чтений был передан в пользу Еврейского национального фонда возрождения Палестины [12, л. 340].

6, 13, 20 и 27 февраля 1926 г. в помещении Сионистской организации в Слониме местными сионистами были организованы выступления на темы: «Пророки» (докладчик М. Шлупер), «История развития еврейской работы от самого начала до сегодняшнего дня» (докладчик Я. Заблоцкий), «Современная техника и её использование в колонизации Палестины» (докладчик Стучинский), «Aguda как показатель иудаизма» (докладчик К. Нельсон). Эти доклады имели целью ознакомление еврейской общественности с развитием еврейского движения в Палестине [12, л. 340].

Определенным влиянием среди еврейского населения Новогрудского воеводства в 1921–1926 гг. пользовалась ортодоксальная партия «Мизрахи», которую также следует отнести к партиям сионистского толка. В своей программе «Мизрахи» использовала лозунг «Религия, наука и труд». В выступлениях лидеров партии отмечалось, что национально-культурное развитие еврейского народа должно осуществляться на принципах иудаизма и сообразно с еврейскими традициями.

На территории воеводства партия имела свои комитеты в Барановичах, Лиде и Несвиже [13, л. 188]. Их возглавляли такие известные деятели партии, как раввин Л. Брот, Х. Фарбштейн, И. Рубинштейн [14, л. 28]. В Новогрудском воеводстве влияние «Мизрахи» распространялось также на ряд общественных еврейских организаций. В первой половине 20-х гг. партия оказывала финансовую помощь организации «Ритуальные услуги» в г. Барановичи [13, л. 192].

Еще одной партией сионистского толка, действовавшей на территории Новогрудского воеводства в указанный период, была «Всемирная сионистская партия труда». Основными положениями её политической программы были: создание в Палестине национального еврейского центра; подготовка кадров трудящихся для эмиграции в Палестину; политическое объединение евреев в странах их компактного проживания; защита экономи-

ческих интересов еврейских рабочих; возрождение и внедрение древнееврейской культуры в государствах со значительной еврейской диаспорой. В 1921–1926 гг. «Всемирная сионистская партия труда» имела в Новогрудском воеводстве три поветовых отделения – в Слониме, Барановичах и Клецке.

Некоторое влияние в Западной Беларуси имели партии сионистско-социалистической направленности. Среди них наибольшей поддержкой у еврейского населения пользовалась Еврейская социал-демократическая рабочая партия «Поалей Цион». Партия выступала с программой создания еврейской государственности в Палестине на социалистических началах. Временным решением еврейского вопроса должна была стать национально-культурная автономия евреев в Польше. Однако считалось, что автономию удастся получить только после победы в Польше социалистической революции [2, s. 272].

На территории Западной Беларуси первоначально партию «Поалей Цион» поддерживала сравнительно небольшая часть еврейского населения региона. Партия подвергалась нападкам со стороны ортодоксов и Бунда, однако успешно развивалась во всех самоуправленческих еврейских организациях и еврейском кагале. Электорат партии составляли рабочие, ремесленники, мелкие торговцы. Во главе «Поалей Цион» находились известные литературные и общественные деятели. На территории Новогрудского воеводства партия имела 14 отделений: в Новогрудке, Лиде, Ивье, Несвиже, Клецке, Городее, Любче, Кореличах, Слониме, Щучине, Столбцах, Воложине, Барановичах и Ляховичах. Самое крупное отделение «Поалей Цион» находилось в Барановичах. В 1925 г. оно насчитывало 90 членов. В Несвиже местное отделение партии объединяло 30 человек. По данным за 1926 г., отделения «Поалей Цион» в Слониме и Столбцах насчитывали 55 и 44 члена соответственно [13, л. 193].

Таким образом, сионистские партии и организации на территории Новогрудского воеводства в 1921–1926 гг. обладали разветвлённой сетью местных отделений, объединявших значительную часть еврейского населения воеводства и оказывавших серьезное влияние на его общественно-политическое и экономическое положение, культурную и религиозную жизнь.

## Литература


1. Pierwszy powszechny spis Rzeczpospolitej Polskiej z dnia 30 września 1921 roku. – Warszawa, 1927. – 192 s.
2. Holzer, J. Mozaika polityczna II Rzeczypospolitej / J. Holzer. – Warszawa: Książka i Wiedza, 1974. – 670 s.
3. Государственный архив Гродненской области (далее ГАГО). – Фонд 678. – Оп. 2. – Д. 3.
4. Литовский Центральный государственный архив (далее ЛЦГА). – Фонд 119. – Оп. 1. – Д. 3.
5. ГАГО. – Фонд 93. – Оп. 1. – Д. 3.
6. Belcikowska, A. Stronnictwa i związki polityczne w Polsce: charakterystyki, dane historyczne, programy, rezolucje, organizacje partyjne, prasa, przywódcy; Dodatek: Polityczne związki młodzieży w Polsce / A. Bełcikowska; część ogólną oprac. J. Bełcikowski; słowo wstępne napisał A. Romer. – Warszawa: Dom Książki Polskiej, 1925. – 186 s.
7. ГАГО. – Фонд 678. – Оп. 2. – Д. 4.
8. Архив Новых Актов в Варшаве. – Фонд «MSW». – Sygnt. 975/1.
9. Государственный архив Брестской области (далее ГАБО). – Фонд 67. – Оп. 1. – Д. 780.
10. ГАБО. – Фонд 119. – Оп. 1. – Д. 3.
11. ГАГО. – Фонд 678. – Оп. 2. – Д. 5.
12. ЛЦГА. – Фонд 119. – Оп. 1. – Д. 147.
13. ГАГО. – Фонд 662. – Оп. 3. – Д. 38.
14. ГАГО. – Фонд 209. – Оп. 1. – Д. 10.

В. Даніловіч (Мінск)

# Дзейнасць арганізацыі «змаганне» ў навагрудскім ваяводстве (1927–1930 гг.)

Лева-радыкальная нацыянальна-вызваленчая арганізацыя "Змаганне" з'яўлялася паслядоўніцай Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ). Гісторыя арганізацыі пачынаецца з лістапада 1927 г., калі ў Вільні з прадстаўнікоў былога актыву Грамады было ўтворана Беларускае сялянска-работніцкае аб'яднанне (БСРА) "Змаганне за інтарэсы сялян і рабочых". У снежні ж [1, с. 377] для ўдзелу ў парламенцкіх выбарах вясной 1928 г. на базе яго Цэнтральнага камітэта быў створаны Цэнтральны выбарчы камітэт (ЦВК) БСРА "Змаганне за інтарэсы сялян і рабочых", які распаўсюдзіў сваю дзейнасць на ўсю Заходнюю Беларусь [2, с. 5].

Спіс "Змагання" ў Навагрудскай выбарчай акрузе было прапанавана ўзначаліць вядомаму грамадоўцу М. Чатырку, але ён адмовіўся, бо быў за кампраміс з уладамі і выставіў свой уласны спіс. Аднак арганізацыя здолела ў сціслы тэрмін перагрупавацца, скласці новы спіс з 16 чалавек на чале з І. Дварчанінам і падарваць сярод выбаршчыкаў аўтарытэт М. Чатыркі [3, с. 65 – 66]. Пры гэтым І. Дварчанін адыграваў актыўную ролю ў фармаванні спіса і асабіста ўгаварыў Я. Гаўрыліка, будучага кіраўніка арганізацыі, стаць у ім кандыдатам [4, с. 180].

Перадвыбарчая праграма "Змагання" ў асноўным адпавядала праграме БСРГ. Ужо ў адозвах і на сустрэчах з насельніцтвам кандыдаты ад арганізацыі выказвалі намер ісці шляхам Грамады, заставацца вернымі барацьбітамі за яе праграму, патрабавалі вызваленя арыштаваных грамадоўцаў [5, л. 204].

Кандыдаты ў парламент ад "Змагання" наведвалі шматлікія населеныя пункты Заходняй Беларусі, дзе прымалі ўдзел у перадвыбарчых сходах і мітынгах, якія збіралі тысячы ўдзельнікаў. Насельніцтва ўсюды сустракала кандыдатаў ад арганізацыі з вялікай прыхільнасцю [6, л. 65 – 66].

У выбарчай кампаніі лева-радыкальнага блоку актыўны ўдзел прымалі не толькі камуністы і камсамольцы, але і шырокі беспартыйны актыў, у тым ліку і па лініі Таварыства беларускай школы (ТБШ). У правядзенні перадвыбарчых акцый праз Таварыства вызначыўся І. Дварчанін, які з'яўляўся членам Галоўнай управы (ГУ) ТБШ [7, с. 133 – 134]. Агітацыя за спісы блоку вялася не толькі на сходах, але і па дамах. Яна дасягнула самых глухіх куткоў горада і вёскі. Пры падтрымцы рабочых і сялян нават зрываліся мітынгі сапернікаў па выбарах [8, л. 254; 9, л. 2].

Увогуле перадвыбарчая барацьба мела вострыхарактар. З аднаго боку прыхільнікі ўрадавай палітыкі "санацыі", а з другога боку прадстаўнікі лева-радыкальнага лагера не спыняліся перад зневажаннем, навешваннем ярлыкоў, заклікамі да расправы адзін з адным. Аднак, на баку ўрадавага лагера была ўся моц дзяржаўнага апарату, што давала яму перавагу ў палітычным, эканамічным, маральна-фізічным ціску на сваіх сапернікаў па выбарах.

Працэдура саміх выбараў, як і выбарчая кампанія, праходзіла не на дэмакратычным грунце. Для рэпрэсій і запалохвання выбаршчыкаў быў мабілізаваны ўвесь адміністрацыйна-паліцэйскі апарат. У Заходняй Беларусі спісы кандыдатаў лева-радыкальнага блоку ў большасці выбарчых акруг пад рознымі падставамі былі скасаваны ўладамі. Кандыдацкія спісы "Змагання" ў сейм былі зацверджаны акруговымі выбарчымі камісіямі толькі ў Брэсцкай (Брэсцкі, Драгічынскі, Камень-Кашырскі, Кобрынскі, Косаўскі, Пружанскі паветы) пад № 38, Гродзенскай (Аўгустаўскі, Гродзенскі, Сувалкскі паветы) пад № 36, Навагрудскай (Баранавіцкі, Навагрудскі, Нясвіжскі, Слонімскі, Стаўбцоўскі паветы) пад № 39 акругах [10, s. 24 – 25, 121 – 122]; а ў сенат – толькі ў Віленскім і Навагрудскім ваяводствах [11, с. 2].

У Навагрудскай выбарчай акрузе спіс арганізацыі двойчы ануляваўся ўладамі. Але надзвычайная арганізаванасць "Змагання" і яго саюзнікаў па блоку, а таксама надзейная падтрымка выбаршчыкаў дазволілі ў апошнія 3 дні падаць у трэці раз у акруговую выбарчую камісію спіс з неабходнай колькасцю подпісаў. Актыўны ўдзел ва ўсім гэтым браў І. Дварчанін. На чале з ім адразу пасля рэгістрацыі спіса ўдзельнікі арганізацыі паспяхова схілілі на свой бок аўдыторыю мітынгу, які праводзіў Беспартыйный блок супрацоўніцтва з урадам [12, с. 109 – 111].

Калі ўлады высветлілі, што ўсе ўзначальваемыя кампартыяй левыя сілы краю маюць намер галасаваць за спісы "Змагання", рэпрэсіўны ціск на яго ўзмацніўся. Усе адозвы ЦВК БСРА "Змаганне за інтарэсы сялян і рабочых" былі канфіскаваны, але перад гэтым удалося забраць з друкарняў у Беластоку і Навагрудку некалькі сот экземпляраў адозваў, якія нарасхват былі разабраныя выбаршчыкамі. Ні адзін легальны мітынг арганізацыі не быў дапушчаны, аднак усё роўна збіраліся нелегальныя масоўкі і былі праведзены некалькі выступленняў у гарадах, якія былі разагнаны паліцыяй. У Слоніме паліцыя разграміла акруговую ўправу ТБШ толькі з-за таго, што там знайшлі выбарчыя нумаркі "Змагання" для галасавання [5, л. 203]. Увогуле ўлады неафіцыйна забаранілі друкаваць такія нумаркі для арганізацыі, таму яна выраблялa іх у паўлегальных умовах [13, с. 280 – 281]. Акрамя гэтага, за 5 дзён да выбараў быў арыштаваны і 3 месяцы ўтрымліваўся за кратамі кандыдат са спіса "Змагання" ў Навагрудскай выбарчай акрузе камуніст П. Крынчык [14, с. 4].

Усе свае сілы "Змаганне" сканцэнтравала ў Навагрудскай выбарчай акрузе, дзе меліся найбольшыя шанцы на перамогу, і разгарнула там у першыя дні сакавіка ўзмоцненую агітацыю за свой спіс [15, л. 17].

Злоўжыванняў з падлікам галасоў было вельмі многа непасрэдна пасля заканчэння выбараў. Масавыя выпадкі гэтых злоўжыванняў былі зафіксаваныя і ў Лідскай, Навагрудскай і Пінскай выбарчых акругах [16, л. 34].

Аднак, нягледзячы на цяжкасці, звязаныя з вядзеннем выбарчай кампаніі, на абмежаванні і парушэнні правоў выбаршчыкаў, арганізаваныя ўладамі рэпрэсіі, подкупы, прамыя шантажы і злоўжыванні, 4 сакавіка 1928 г. спіс "Змагання" ў Навагрудскай выбарчай акрузе здабыў 71706 галасоў выбаршчыкаў са 175167 галасаваўшых. арганізацыя заняла тут першае месца. У выніку па спісу арганізацыі ў Навагрудскай выбарчай акрузе ў сейм прайшлі Я. Гаўрылік, І. Дварчанін і А. Стагановіч. Яны ўтварылі ў сейме Беларускі пасольскі клуб (БПК) "Змаганне за інтарэсы сялян і рабочых", старшынёй якога стаў Я. Гаўрылік. У сярэдзіне красавіка [17, с. 1] да клуба далучыўся Ф. Валынец, выбраны ў сейм па спісу "Беларускіх сялян і аграрнікаў" № 41 (група Я. Станкевіча) у Лідскай выбарчай акрузе. 12 мая 1928 г. Ф. Валынец публічна адмежаваўся ад Я. Станкевіча [18, с. 4], бо яшчэ падчас выбарчай кампаніі дэклараваў, што будзе трымацца ў сейме разам з лева-радыкальнымі паслaмі [19, с. 5 – 6]. У пачатку мая 1928 г. [20, л. 32] са згоды сваёй сеймавай фракцыі да БПК "Змаганне за інтарэсы сялян і рабочых" далучыўся Я. Грэцкі, выбраны па спісу Сельроба-левіцы ў Брэсцкай выбарчай акрузе [10, s. 124 – 127]. У сакавіку 1929 г. А. Стагановіч склаў пасольскія паўнамоцтвы і ўвогуле адышоў ад працы ў "Змаганні" [21, с. 6 – 7], а яго месца заняў П. Крынчык [22, s. 642]

"Змаганне" прыняло актыўны ўдзел і ў сенацкай выбарчай кампаніі. Агітацыя за спісы

арганізацыі была разгорнута праз яе газету, а таксама адозвы і ўлёткі, якія выдаваліся на беларускай, польскай і яўрэйскай мовах [20, л. 26]. Аднак улады рабілі ўсё магчымае, каб не дапусціць поспеху арганізацыі на сенацкіх выбарах у Навагрудскім ваяводстве. Таму, каб канчаткова дабіць спіс М. Чатыркі, яна пайшла на неардынарны крок. Было прынята рашэнне агітаваць выбаршчыкаў за спіс № 18 Блоку нацыянальных меншасцяў (украінска-беларуска-нямецкі блок). Гэты спіс узначальваў адзін з кіраўнікоў Беларускага сялянскага саюза В. Рагуля [3, с. 66 – 67]. У выніку, дзякуючы падтрымцы "Змагання", 11 сакавіка 1928 г. ён быў абраны сенатарам.

БПК "Змаганне за інтарэсы сялян і рабочых" распачаў актыўную палітычную і агітацыйную працу ў напрамку стварэння масавай лева-радыкальнай нацыянальна-вызваленчай арганізацыі. У маі 1928 г. [23, с. 125] ён, каб падкрэсліць, што з'яўляецца адзіным пераемнікам традыцый БСРГ, змяніў сваю назву на Беларускі сялянска-работніцкі пасольскі клуб (БСРПК) "Змаганне". Але польскія ўлады, баючыся з'яўлення другой Грамады, не дазволілі "Змаганню" цалкам сфарміраваць цэнтральныя кіруючыя органы арганізацыі, забаранілі ствараць мясцовыя гурткі [24, с. 75].

Паслы клуба часта выязджалі ў гарады і мястэчкі Навагрудскага ваяводства, дзе сустракаліся з актывістамі, вялі з імі перапіску, уцягвалі ў арганізацыйную дзейнасць [25, л. 128, 132].

Сакратарыяты БСРПК "Змаганне" з 1929 г. дзейнічалі ў 18 паветах Заходняй Беларусі: у Ашмянах, Баранавічах, Беластоку, Брэсце, Вілейцы, Вільні (быў утвораны пры Цэнтральным сакратарыяце клуба [26, л. 102]), Вішняве, Гайнаўцы, Глыбокім, Гродне, Косаве, Лідзе, Маладзечне, Навагрудку, Паставах, Пінску, Свіслачы і Слоніме [5, л. 212 – 213]. Як бачым 4 павятовыя сакратарыяты дзейнічалі ў Навагрудскім ваяводстве.

Сакратарыяты наладжвалі ў першую чаргу сувязі з гмінамі, дзе прызначалі сваіх упаўнаважаных і карэспандэнтаў. Вакол сакратарыятаў гуртаваўся мясцовы актыў (супольная чытка газет, абмеркаванне палітычных і эканамічных спраў, выступленні на розных грамадскіх сходах у якасці адзінай фракцыі і г. д.). Перад сакратарыятамі побач з падтрыманнем сувязі паміж насельніцтвам і клубам ставілася задача актыўнага кіравання барацьбой народных мас за надзённыя патрэбы [27, л. 30]. Згуртаваны такім чынам актыў з'яўляўся касцяком для будавання масавай легальнай арганізацыі.

На чале сакратарыятаў БСРПК "Змаганне" ў розны час стаялі актывісты, якія мелі вопыт палітычнай дзейнасці: С. Апон, М. Астапчык, А. Астравецкі, Я. Бажко, В. Баярчук, І. Боська, А. Валынец, П. Валынец, А. Васіленя, К. Варановіч, К. Воранаў, І. Высоцкі, С. Жыткевіч, С. Ігнатовіч, У. Каляда, Я. Качаргін, П. Кізевіч, І. Куліковіч, С. Кулікоўскі, С. Лаўрынчук, Б. Махляр, А. Патоцкі, Я. Піваварчык, Р. Пілецкі, М. Пястрак, П. Пяткун, А. Рыжы, Е. Рэдзька, Я. Сакалоўскі, К. Сапонька, С. Сіняк, А. Сцефановіч, С. Татарын, В. Таўлаха, У. Таўпеха, А. Трахімік, С. Тышкевіч, М. Шэрбук і інш. [20, л. 95].

Сакратарыяты сталі, па сутнасці, мясцовымі камітэтамі арганізацыі. Яны ўзначалілі працу мясцовага актыву, распаўсюджвалі камуністычныя і левыя рэвалюцыйна-дэмакратычныя выданні і літаратуру; паведамлялі ў БСРПК "Змаганне" аб становішчы на месцах, ходзе палітычных кампаній, пераследаваннях і рэпрэсіях з боку ўлад і іх прыхільнікаў; пашыралі свой ўплыў сярод інтэлігенцыі, салдат, сялян і рабочых; кіравалі сацыяльна-эканамічнай і палітычнай барацьбой насельніцтва; каардынавалі дзеянні левых рэвалюцыйна-дэмакратычных грамадскіх арганізацый. Дзейнасць сакратарыятаў распаўсюджвалася не толькі на свае, але і на сумежныя паветы, дзе не было іх аналагаў [28, л. 2].

Вакол сакратарыятаў сфарміраваўся значны актыў. Праз іх з сеймавым клубам падтрымлівалі сувязь упаўнаважаныя для вядзення працы на месцах. Большасць гэтых упаўнаважаных, шырокая сетка якіх сягала глыбока ў масы насельніцтва, кіравала падсакратарыятамі з некалькіх актывістаў [29, л. 5].

Сярэдняя колькасць мясцовых актывістаў "Змагання" ў паветах, дзе існавалі сакратарыяты, складала каля 90 чалавек. Нажаль спісы актыву арганізацыі па ўсіх паветах не захаваліся. Калі зыходзіць з наяўнасці сакратарыятаў БСРПК "Змаганне" ў 4 паветах Навагрудскага ваяводства, то колькасць удзельнікаў арганізацыі тут можна вы-

значыць у межах каля 400 чалавек. БСРПК “Змаганне” згуртаваў вакол сябе асноўны касцяк былога актыву БСРГ, яго больш стойкую і паслядоўную частку. Гэта былі пераважна маладыя прадстаўнікі незаможнага сялянства, рабочых і левай рэвалюцыйна-дэмакратычнай інтэлігенцыі.

Па сваім ідэйна-палітычным поглядам кіраўніцтва і актыў арганізацыі не былі аднароднымі. Я. Грэцкі, П. Крынчык, большасць сакратароў, інструктараў і частка ўпаўнаважаных з’яўляліся членамі кампартыі. Я. Гаўрылік, І. Дварчанін, Ф. Валынец, частка сакратароў, інструктараў і ўпаўнаважаных не былі камуністамі, але прыхільна ставіліся да сацыялістычных ідэй. Большасць жа мясцовага актыву “Змагання” займала рэвалюцыйна-дэмакратычныя нацыянальна-вызваленчыя пазіцыі [24, с. 76, 79 – 80].

У коле інтарэсаў арганізацыі былі разнастайныя пытанні грамадска-палітычнага і сацыяльна-эканамічнага жыцця [30, л. 8]. Гэта адлюстроўвае не толькі рознабаковасць працы членаў “Змагання”, але і іх важную ролю ў кіраўніцтве левым рэвалюцыйна-дэмакратычным нацыянальна-вызваленчым рухам у Заходняй Беларусі.

Недатыкальнасць паслоў сеймавага клуба арганізацыі дазваляла ім пранікаць у самыя аддаленыя куткі краю, дзе яны праводзілі мітынгі, дэманстрацыі, сходы і масоўкі [31, л. 88].

“Змаганне” вяло ўзмоцненую працу па прыцягненню ў свае шэрагі моладзі і знаходзіла значную падтрымку ў яе асяроддзі. Гэта дзейнасць у супрацоўніцтве з КСМЗБ і Беларускай сялянска-работніцкай групай студэнтаў, якой арганізацыя аказвала матэрыяльную падтрымку, была шырока разгорнута і ў Навагрудскай беларускай гімназіі. Штомесяц на працу сярод моладзі “Змаганне” выдаткоўвала 1 тыс. злотых [20, л. 8, 68, 71 – 72; 28, л. 13 – 17; 32, л. 1 – 23].

Арганізацыя актыўна ўдзельнічала ў палітычных кампаніях узначальваемых кампартыяй левых сіл. З 1929 г. удзел у гэтых кампаніях, якія часта былі ўзаемазвязаны, набывае планавы характар.

“Змаганне” прымала чынны ўдзел ужо ў першамайскай кампаніі 1928 г. Так, І. Дварчанін і А. Стагановіч у гэты дзень вялі прапагандысцкую дзейнасць сярод жыхароў Навагрудку [20, л. 152].

Арганізацыя таксама надавала пільную ўвагу судоваму працэсу, які адбыўся 27 лістапада – 5 снежня 1928 г. у Навагрудку над А. Стагановічам і яшчэ 20 былымі грамадоўцамі па абвінавачванню ў вядзенні камуністычнай прапагандысцкай працы ў Навагрудскім і Баранавіцкім паветах. На гэтым працэсе сведчанні на карысць А. Стагановіча зрабілі В. Рагуля і нават М. Чатырка, а таксама Я. Гаўрылік, які адкрыта заявіў, што “Змаганне” – партыя самаабароны супраць існуючага рэжыму, мэта якой – здабыццё незалежнасці для беларускага народа. У выніку А. Стагановіч разам з некаторымі іншымі абвінавачанымі быў апраўданы і выйшаў на волю, хоць пракурор і падаў апеляцыю [33, с. 5; 34, с. 1 – 2].

Буйной акцыяй, ініцыятарам якой была арганізацыя стала кампанія ў сувязі з неўраджаем і голадам у большасці заходнебеларускіх ваяводстваў. У рамках гэтай кампаніі летам 1929 г. пры ўдзеле паслоў БСРПК “Змаганне” адбылася буйная маніфестацыі сялян у Карэлічах Навагрудскага павета (каля 2 тыс. чалавек) [35, л. 84].

Арганізацыя прымала актыўны ўдзел у сацыяльна-эканамічнай барацьбе насельніцтва Заходняй Беларусі.

“Змаганне” праводзіла кампанію па ўтварэнню сялянскіх кааператываў і камітэтаў, арганізоўвала выступленні сялян супраць ліквідацыі сервітутаў, правядзення камасацыі, спагнання падаткаў і штрафаў [36, л. 26; 37, л. 19].

У 1929 г. арганізацыя звярнула асаблівую ўвагу на дзейнасць сярод рабочых. Праз стварэнне прафсаюзаў і камітэтаў рабочых, супрацоўніцтва з імі члены “Змагання” наладзілі цесную сувязь нават з невялікімі прамысловымі цэнтрамі Заходняй Беларусі, бралі ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні забастовак і палітычных выступленняў на прадпрыемствах, у тым ліку і ў Навагрудскім ваяводстве. Было арганізавана выданне адозваў да рабочых на беларускай, польскай і яўрэйскай мовах. Акрамя гэтага, у студзені 1930 г. была праведзена акцыя ў падтрымку барацьбы амерыканскіх рабочых [5, л. 229 – 230; 20, л. 101, 105 – 107; 36, л. 7 – 8; 38, л. 21].

З 1929 г. арганізацыя ўдзельнічала ў кампаніі па абароне правоў беспрацоўных. Былі праведзены мітынгі каля бюро запісу беспрацоўных, а таксама дэманстрацыі і масоўкі ў шэрагу населеных пунктаў Навагрудскага ваяводства [5, л. 211; 39, л. 4 – 5; 40, л. 111 – 112].

У другой палове 1929 г. па ініцыятыве кампартыі ўзначальваемыя ёй левыя сілы, у тым ліку і "Змаганне", разгарнулі шырокую хвалю пратэстаў супраць пагаршэння турэмнага рэжыму для палітычных вязьняў, катаванняў, збіцця і расстрэлаў, вылучаючы на ўсіх масавых акцыях і ў выданнях лозунг барацьбы за вызваленне ўсіх палітычных зняволеных [42, л. 213].

Напрацягу 2-й паловы 1927 г. і ў пачатку 1928 г., нягледзячы на перашкоды ўлад, адбываліся хуткі рост і актывізацыя працы ТБШ, якое ператваралася ў масавую арганізацыю. У Таварыства ішлі сяляне, рабочыя, інтэлігенцыя. Але падаўляючую большасць яго членаў складалі сяляне, галоўным чынам сельская моладзь. У складзе ТБШ пераважалі былыя члены БСРГ. Гэта было абумоўлена тым, што пасля разгрома і забароны Грамады польскімі ўладамі беларускі нацыянальна-вызваленчы рух пачаў групавацца вакол Таварыства як адзінай найбольш масавай легальнай арганізацыі ў Заходняй Беларусі. У пачатку 1928 г. у ТБШ налічвалася да 16 тыс. членаў [43, л. 55]. У сувязі з павелічэннем членскага складу для паляпшэння кіраўніцтва на месцах былі створаны 12 акруговых упраў, у тым ліку ў Баранавічах, Лідзе, Міры, Навагрудку і Слоніме [24, с. 106 – 107, 112].

Мясцовы актыў Таварыства ў асноўным склаўся к канцу 1927 г. Значную працу па стварэнню і кіраванню дзейнасцю гурткоў і іх павятовых аб'яднанняў на Навагрудчыне вялі ў гэты час разам з іншымі будучыя дзеячы "Змагання": А. Стагановіч у Навагрудскім, а П. Крынчык і С. Жыткевіч у Слонімскім паветах [24, с. 109; 44, с. 116].

Такім чынам, у канцы 1927 г. быў закладзены добры падмурак для ўзаемадзеяння паміж "Змаганнем" і ТБШ. Непасрэдна ж супрацоўніцтва распачалося пад час парламенцкай выбарчай кампаніі ў снежні 1927 г. – сакавіку 1928 г. У гэты перыяд мясцовы актыў Таварыства вёў актыўную агітацыю за кандыдатаў лева-радыкальных спісаў.

Так, у студзені 1928 г. у Навагрудку адбыўся павятовы з'езд ТБШ, у якім удзельнічала каля 90 дэлегатаў ад 56 гурткоў. Ад Галоўнай управы Таварыства на з'ездзе прысутнічалі І. Дварчанін і А. Уласаў. Сваю прамову І. Дварчанін прысвяціў неабходнасці стварэння беларускіх пачатковых і сярэдніх школ, вышэйшых навучальных устаноў; ураўнання ў правах беларускіх настаўнікаў з іншымі і ўвядзення школьных інспектараў-беларусаў; арганізацыі своеасаблівых клубаў у выглядзе народных дамоў. Дэлегаты з'езда заклікалі галасаваць на парламенцкіх выбарах за кандыдатаў, якія будуць працаваць для аб'яднання беларускага народа, за блок сялян і рабочых. Падобныя з'езды адбыліся і ў іншых паветах Навагрудскага ваяводства [15, л. 16; 45, л. 77].

Паспяховыя ў цэлым для лева-радыкальных сіл вынікі выбараў у сейм садзейнічалі ўмацаванню ўзаемадзеяння паміж "Змаганнем" і ТБШ, тым больш, што многія члены арганізацыі адначасова займалі кіруючыя пасады ў Таварыстве і былі яго актывістамі на месцах. Сеймавы клуб "Змагання" з дапамогай сваіх сакратарыятаў кантраляваў і накіроўваў дзейнасць ТБШ [46, л. 1 – 2, 5].

Аднак у канцы 1928 г. – пачатку 1929 г. улады ліквідавалі акруговыя ўправы Таварыства ў Навагрудку і Слоніме. У адказ "Змаганне" распаўсюдзіла 2 адозвы І. Дварчаніна і Ф. Валынца да членаў ТБШ з заклікам да барацьбы супраць рэпрэсій [47, л. 111 – 114]. У 2-й палове 1929 г. у Навагрудскім ваяводстве праца "Змагання" была скіравана на аднаўленне дзейнасці арганізацыйнай сеткі Таварыства [25, л. 4, 134, 162].

З-за рэпрэсіўнай палітыкі ўлад колькасць членаў ТБШ на пачатак 1930 г. скарацілася да 10 тыс. [48, л. 65]. Усе рэпрэсіі супраць Таварыства асвятляліся ў друку "Змагання", а яго сеймавы клуб збіраў рэзалюцыі пратэсту ад гурткоў ТБШ [49, л. 1 – 2]. Не спынялася і праца "Змагання" па арганізацыі гурткоў Таварыства [50, с. 101 – 102].

ТБШ разам са "Змаганнем" прымала актыўны ўдзел у акцыях па падрыхтоўцы да антыфашысцкага і Еўрапейскага сялянскага кангрэсаў. Іх члены ўваходзілі ў склад мясцовых камітэтаў і абіраліся дэлегатамі на кангрэсы [51, с. 86].

Яшчэ адной важнай кампаніяй Таварыства, якая праводзілася пры актыўнай падтрымцы “Змагання”, была арганізацыя пратэсту супраць закрыцця беларускіх школ і гімназій. Гэту дзейнасць падтрымалі тысячы людзей. Складзеныя імі дэкларацыі ў масавым парадку паступалі ў Галоўную управу ТБШ, у тым ліку і з Навагрудскага ваяводства, асабліва з Навагрудскага павета. Гэтыя дэкларацыі завяраліся ў гмінах і накіроўваліся ў адпаведныя староствы ці ў выглядзе пітыцый з прыкладзенымі заявамі, якія былі падпісаныя неабходнай для адкрыцця беларускай школы або рэарганізацыі польскай школы ў беларускую колькасцю людзей, а таксама дасылаліся самастойна Таварыствам ці праз сеймавы клуб “Змагання” ў адпаведныя ваяводствы альбо ў міністэрства асветы [20, л. 66; 52, л. 7 – 8; 53, л. 273 – 274].

Аднак з-за пазіцыі польскіх улад практычныя вынікі такой кампаніі былі мінімальнымі, але яна мела вялікае ідэйна-палітычнае значэнне ў справе абароны беларускай культуры і асветы [54, с. 95 – 96]. Разам з тым, нават і ў такіх варунках “Змаганне” магло ахвяраваць палітычнымі прынцыпамі дзеля развіцця беларускай асветы. Аб гэтым сведчыць галасаванне ў пачатку 1930 г. яго паслоў у сейме за выдаткаванне з бюджэту 200 тыс. злотых для Навагрудскай беларускай гімназіі, якая знаходзілася пад уплывам “беларускай санацыі”. Але пад ціскам кампартыі паслы вымушаны былі прызнаць свае дзеянні памылкай [41, с. 2].

У жніўні 1930 г. адбыўся роспуск парламента і арышт большасці паслоў БСРПК “Змаганне”. Разам з арыштам паслоў клуба былі ліквідаваны яго сакратарыяты. Такім чынам, па сутнасці, “Змаганне” было разгромлена, што з’явілася лагічным вынікам той палітыкі пераследванняў і рэпрэсій, якую польскія ўлады праводзілі ў адносінах да арганізацыі з першых дзён яе існавання.

Аднак тыя, хто застаўся на волі, працягвалі барацьбу. Як толькі першая хваля арыштаў прайшла, ацалелы актыў на чале з М. Верамеем тэрмінова выдаў ад імя “Змагання” адозву, у якой заклікаў насельніцтва пратэставаць супраць арыштаў членаў арганізацыі і патрабаваць іх вызвалення [55, с. 170].

У такіх умовах ацалелыя члены “Змагання” распачалі падрыхтоўку да парламенцкай выбарчай кампаніі. Быў распачаты збор подпісаў для вылучэння дзяржаўнага і акруговых выбарчых спісаў і арганізаваны ў якасці складовай часткі інтэрнацыянальнага антыфашысцкага рабоча-сялянскага блока левых сіл на чале з кампартыяй Цэнтральны беларускі рабоча-сялянскі выбарчы камітэт (ЦБРСВК) “Змаганне” з прэзідыумам у складзе Я. Баліцкага (старшыня), І. Кур’янкі (сакратар) і К. Шаблоўскай (скарбнік). ЦБРСВК “Змаганне” падаў свой дзяржаўны спіс, пад якім было сабрана 3850 подпісаў выбаршчыкаў, у Галоўную выбарчую камісію ў Варшаве, якая дала спісу № 8 [56, с. 3].

“Змаганню” ўдалося акрамя дзяржаўнага спіса ўнесці яшчэ ў 4 акруговыя выбарчыя камісіі кандыдацкія спісы ў сейм і сенат [57, л. 239а – 239б]. Аднак усе гэтыя спісы, як і дзяржаўны спіс, хоць і былі падпісаны ў некалькі разоў большай колькасцю выбаршчыкаў, чым гэта патрабавалася па закону, былі скасаваны на падставе сфабрыкаванага недахопу прызнаных аўтэнтычнымі подпісаў [58, s. 182 – 183]. Таму адрадзіцца арганізацыя не здолела.

Такім чынам, у насельніцтва Заходняй Беларусі, у тым ліку і ў Навагрудскім ваяводстве, “Змаганне” мела папулярнасць менавіта як арганізацыя, якая працягвала справу БСРГ. “Змаганне” мела значны ўплыў у асяроддзі ТБШ, плённа супрацоўнічалі з ім на ніве абароны беларускай культуры і асветы, карысталіся падтрымкай большасці членаў Таварыства. Праз гэта супрацоўніцтва арганізацыя ўнесла значны ўклад у культурна-асветную працу сярод беларускага народа. У 1929 – 1930 гг. “Змаганне” і ТБШ уяўлялі сабой адзіную арганізацыйную сістэму. Аднак З кожным годам “Змаганне” ўсё мацней радыкалізавалася ў левым кірунку. Усё часцей арганізацыя выконвала ролю легальнай пляцоўкі для дзеянняў камуністаў. З аднаго боку, цесная сувязь з кампартыяй спрыяла афармленню структуры “Змагання” і выкарыстанню арганізацыяй багатага палітычнага вопыту камуністаў. З другога ж боку, залежнасць ад кампартыі, у якой на той час панавалі лявацка-сектанцкія тэндэнцыі, вяла да праявы іх у працы “Змагання”. Арганізацыя незаўсёды ўлічвала змены палітычных настрояў і паўсядзённых

патрабаванняў розных пластоў насельніцтва, канцэнтравала ўвагу на агульных задачах, адсоўвала на другі план нацыянальна-вызваленчую барацьбу, вызначалася рэзкім і бескампрамісным падыходам да палітычных апанентаў. У выніку “Змаганне” не стала буйной арганізацыяй, яго ўплыў сярод насельніцтва быў значна меншы, чым уплыў БСРГ у свой час. Дачыніліся да гэтага і рэпрэсіўная палітыка польскіх улад, якая біла па актыву.

## Крыніцы і літаратура:


1. Вильнюсское подполье. Воспоминания участников революционного движения в Вильнюсском крае (1920 – 1939 гг.). Вильнюс, 1966.
2. Права працы. 1928. № 6. 24 сьнежня.
3. Рагуля В. Успаміны. Мн., 1993.
4. Адамушка У. Язэп Амяльянавіч Гаўрылік // Беларускі гістарычны часопіс. 1995. № 2. С. 174 – 182.
5. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 242. Воп. 1. Спр. 162.
6. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 207.
7. Михалевская В. Д. В деревнях Новогрудчины // Годы испытаний и мужества. Мн., 1973. С. 127 – 135.
8. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 59.
9. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 175а.
10. Rzepeccy T. i Rzepeccy K. Sejm i Senat Rzeczypospolitej Polskiej 1928 – 1933. Poznań, 1928.
11. Воля працы. 1928. № 1. 8 сакавіка.
12. Багданчук А. І. У барацьбе за правядзенне нашых дэпутатаў у польскі сейм // У суровыя гады падполля. Мн., 1958. С. 103 – 113.
13. Струмень В. Шляхам барацьбы // Місарэвіч Я. А., Каралёў М. Д. І. С. Дварчанін. Гісторыка-біяграфічны нарыс. Гродна, 1995. С. 276 – 281.
14. Зара працы. 1928. № 6. 20 чэрвеня.
15. Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці (ДАБВ). Ф. 67. Воп. 1. Спр. 927.
16. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 155.
17. Голас працы. 1928. № 1. 14 красавіка.
18. Голас працы. 1928. № 12. 23 траўня.
19. Слова працы. 1928. № 3. 10 кастрычніка.
20. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 824.
21. Беларуская газета. 1929. № 1. 24 кастрычніка.
22. Posłowie rewolucyjni w Sejmie (lata 1920 – 1935). Wybor przemówień, interpelacij i wniosków. Warszawa, 1961.
23. Полуян В. А. Революционно-демократическое движение в Западной Белоруссии (1927 – 1939 гг.). Мн., 1978.
24. Полуян В. А. и Полуян И. В. Революционное и национально-освободительное движение в Западной Белоруссии (1920 – 1939). Мн., 1962.
25. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 574.
26. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 822.
27. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 135.
28. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1341.
29. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1346.
30. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 789.
31. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 123.
32. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1318.
33. Да працы. 1928. № 1. 1 сьнежня.
34. Да працы. 1928. № 3. 8 сьнежня.
35. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 47.
36. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1321.
37. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1352.

38. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1316.
39. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1283.
40. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 556.
41. На варце. 1930. № 2. 25 сакавіка.
42. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 215.
43. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 183.
44. Адамушка У. Ігнат Дварчанін – рэвалюцыянер, гісторык, паэт // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 3. С. 113 – 118.
45. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 462.
46. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 301.
47. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 88.
48. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 265.
49. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1319.
50. Муха-Мухновский Г. М. Из Праги на родину // Годы испытаний и мужества. Мн., 1973. С. 99 – 109.
51. Лябецкая А. К. Дзейнасць гурткоў “Таварыства беларускай школы” // У суровыя гады падполля. Мн., 1958. С. 96 – 102.
52. ДАБВ. Ф. 1. Воп. 9. Спр. 1320.
53. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці. Ф. 93. Воп. 1. Спр. 3.
54. Ковальский Ю. С послами клуба “Змаганне” // Годы испытаний и мужества. Мн., 1973. С. 92 – 98.
55. Муха-Мухновский Г. Пути-дороги. Мн., 1973.
56. Корчык П. Вынікі фашыстоўскай выбарчай кампаніі ў Заходняй Беларусі // Бальшавік. 1931. № 1. С. 1 – 11.
57. НАРБ. Ф. 242. Воп. 1. Спр. 98.
58. Kowalski J. Trudne lata. Problemy rozwoju polskiego ruchu robotniczego 1929–1935. Warszawa, 1966.

А. Чарнякевіч (Гродна)

# Наваградскі перыяд жыцця «бацькі» беларускіх паланафілаў

Цяжка ўзгадаць сярод дзеячоў беларускага руху асобу больш... непрывабную, чым Павел Аляксюк. Фактам застаецца аднак тое, што "Бацька беларускіх паланафілаў" - так яго ахрысцілі ў міжваенным друку за арыентацыю на Польскую дзяржаву, П.Аляксюк быў адным з найбольш актыўных беларускіх палітыкаў пачатка 1920-х гадоў. У яго біяграфіі дастаткова "белых плямаў". Прычым, гэта ў роўнай ступені адносіцца як да ягонага паходжання, гэтак і да апошніх гадоў яго жыцця. Менавіта Наваградак стаў тым апошнім вядомым нам месцам, дзе, судзячы па ўсім, скончылася палітычная кар'ера гэтага нетрывіяльнага дзеяча...

Ён з'явіўся на свет 28 лістапада 1892 г. ў сям'і рускага афіцэра [29, с.113]. Аб дзяцінстве Аляксюка нам нічога не вядома. Упершыню ягонае імя ўзгадваецца ў літаратуры ў сувязі з дзейнасцю Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. Восенню 1909 г. П.Аляксюк разам з невялічкай групкай аднадумцаў, у асноўным навучэнцаў старэйшых класаў мясцовых гімназій, закладае нелегальны гурток. Цяжка сказаць, якую ролю адыграў Аляксюк у стварэнні гэтай першай у Гродна беларускай арганізацыі, аднак відавочна, што не апошнюю, калі адразу стаў яе віцэ-старшынёй.

Судзячы па зацемкам у "Нашай Ніве", з якой ён супрацоўнічаў у якасці карэспандэнта, ужо з сярэдзіны 1910 г. П.Аляксюк пераязджае з Гродна ў Коўна, дзе далучаецца да суполкі мясцовых беларусаў [26, с. 68]. Характэрна, што ў гэты час будучы "бацька паланафілаў" выказваў сябе зацятым прыхільнікам не столькі польскай, колькі літоўскай арыентацыі [26, с.62].

Пасля Коўна П.Аляксюк вучыцца на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэту [28, с.133-134; 29, с.113]. Пра пецярбургскі перыяд ягонага жыцця мы можам толькі сказаць, што ён быў сябрам Беларускага літаратурна-навуковага гуртка студэнтаў Санкт-Пецярбургскага універсітэта. Мабыць, мы не памылімся, калі выкажам меркаванне, што П.Аляксюк у гэты час разам з іншымі студэнтамі-беларусамі наведваў суботнія вечарыны на кватэры Б.Эпімах-Шыпілы. Між іншым, П.Аляксюк прымаў удзел у першай пастаноўцы купалаўскай «Паўлінкі», дзе яму дасталася роля ў масоўцы [24, с.58; 32].

Аднак, худчэй за ўсё, атрымаць універсітэцкі дыплом П.Аляксюку перашкодзіла Сусветная вайна [13, с. 4]. А ўжо першая значная грамадская пасада - Паўнамоцнага прадстаўніка Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны на Гродзеншчыне, вылілася ў першы ж вялікі канфлікт, прычым не абы з кім, а з адным са стваральнікаў беларускага руху – Антонам Луцкевічам [15, № 4, л. 3].

Дзесці прыкладна ў канцы 1916 г. П.Аляксюк з'яўляецца ў Мінску. Гэты перыяд у ягонай біяграфіі займае выключнае месца. Лютаўская рэвалюцыя паклала пачатак актыўнай палітычнай дзейнасці ў ягоным жыцці. Унутраная энэргія П.Аляксюка, якая

да гэтага знаходзіла сабе выхад адно толькі ў газетных артыкулах, ды працы на грамадскай ніве, ягоныя ініцыятыўнасць, хуткасць у прыняцці рашэнняў, нарэшце, авантурызм, зараз знайшлі сваё выкарыстанне. Ужо на пачатак сакавіка 1917 г. П.Аляксюк, як прадстаўнік Мінскага Беларускага нацыянальнага камітэта (БНК), уваходзіць у склад новапаўсталага Камітэта грамадскай бяспекі Мінска [30, с. 33-34], кааптуецца ў склад Мінскага губернскага камітэта Усерасійскага земскага саюзу [30, с. 127], выступае на першых беларускіх мітынгах [30, с. 79].

У маі 1918 г. П.Аляксюк займае месца ў новапаўсталым Народным Сакратарыяце, на чале з усё тым жа Раманам Скірмунтам [25, ст. 76-78, 99 –101]. Аднак, чарговы ўрад БНР гэтак і не здолеў прыступіць да сваіх абавязкаў [13, с. 189].

У сярэдзіне сакавіка 1919 г. П.Аляксюк быў прызначаны камісарам ўрада БНР на Гродзеншчыне і становіцца галоўнай фігурай беларускага нацыянальнага руха ў Гродна. Менавіта тады і адбываеццу змены ў ягоных поглядах у бок супрацоўніцтва з Польшчай. 2 чэрвеня 1919 г. П.Аляксюк пад час урачыстай сустрэчы Ю.Пілсудскага ў Гродна ўжо з інтузыязмам заявіў аб “новай эпосе, якая прыйшла да беларусаў” [1, s. 472].

22 кастрычніка 1919 г. Ю.Пілсудскі падпісаў дэкрэт аб стварэнні беларускага войска. Гэтым разам П.Аляксюк вярнуўся з Варшавы ў якасці афіцыйнага кіраўніка Беларускай Вайсковай камісіі [13, с. 446]. Калі канец 1919 – пачатак 1920 г. для беларускіх дзеячоў быў назвычай насычаны падзеямі, дык для П.Аляксюка гэты перыяд прыйшоў незаўважальна. Дакладней, гэта П.Аляксюк быў непрыкметны на фоне таго ж расколу Рады БНР, які здавалася б, быў напрамую звязаны з фармаваннем паланафільскага накірунку ў беларускім руху.

У хуткім часе П.Аляксюк зноў пераходзіць да актыўных дзеянняў. 5 чэрвеня 1920 г. разам з С.Лянкоўскім і А.Уласавым ён ставарае аргкамітэт “Беларускай рэспубліканскай сувязі”, які выступіў за аднаўленне дзяржавы ў межах ВКЛ з апорай на дэмакратычную Польшчу [13, с. 755]. Чарговыя змены на польска-савецкім фронце, выкліканыя перамогай польскіх войскаў пад Варшаваю, прывялі да стварэння на пачатак восені 1920 г. Беларускага палітычнага камітэта, у кіраўніцтва якога ўвайшлі бацька і сын Адамовічы, Сянкевіч і ўласна П.Аляксюк [14, с. 1074]. Відавочна, стаўка пры гэтым рабілася на вайсковыя фармаванні на чале з С.Булак-Балаховічам, пры якіх камітэт меў адыграваць ролю палітычнай шырмы. На гэты раз, аднак, фінал чарговай палітычнай авантуры атрымаўся даволі драматычным і амаль не каштаваў яе арганізатару жыцця. У дакументах сустракаюцца звесткі аб тым, што 26 афіцэраў батальёна М.Дзямідава, які ваяваў на баку “балахоўцаў”, “вызначыўшы і выкрыўшы правакацыйную дзейнасць Аляксюка, пастанавілі яго забіць”. У выніку, П.Аляксюк выратаваўся толькі дзякуючы польскаму каменданту ў Альшанах, які схаваў яго ад пагоні [14, с. 1355].

У гэты час на тэрыторыі «Сярэдняй Літвы», якая фармальна заставалася па-за межамі II Рэчы Паспалітай, склалася своеасаблівая сітуацыя. Польска-літоўская тэрытарыяльная спрэчка і палітычная напружанасць вакол Віленскага пытання спрыялі ўтварэнню чарговага паланафільскага асяродку ў беларускім руху. Улады Сярэдняй Літвы прызначаюць на пачатак студзеня 1922 г. выбары ў прадстаўнічы орган краю, які і павінен быў выказацца аб далейшым лёсе гэтых зямель, на што большасць беларускіх арганізацый аб'явсціла аб сваім байкоце будучых выбараў [9, S. 134]. Аднак, П.Аляксюк не правёў аніводнага дэпутата, атрымаўшы на свае спісы ўсяго толькі 2400 галасоў [11, S. 75; 19, ст. 1].

Параза на выбарах у Сейм Сярэдняй Літвы стала апошняй кропкай у чарговым перыядзе жыцця П.Аляксюка. Вільню, у адрозненні ад Варшавы, Гродна, ці, нават, Мінска, ён пакідаў поўным палітычным банкротам. Здавалася б, што ягоная рэпутацыя, уплывы у беларускім руху страчаны назаўсёды [20, № 2, л. 3]. На Беларускім з'ездзе прадстаўнікоў ад вёсак 23 красавіка 1922 г., што праводзіў былы сябра П.Аляксюка па Палітычнаму камітэту Я.Міткевіч, было нават пастаноўлена вынесці П.Аляксюку вымову за тое, што ён павёў працу Краёвай сувязі ў “шкодным эканамічна-палітычным напрамку патрэбнасцям сялянства…”. Адначасова, паведамлялася, што П.Аляксюк правёў нейкі ў Стаўбцах з'езд Польскага краёвага саюза [20, № 2, л. 3]. І так бы яно і здарылася з кожным іншым, але не з Паўлам Аляксюком. Ці то хаваючыся ад палітычных праціўнікаў,

ці то крочачы за ўласнай інтуіцыяй, якая падказвала яму, што прыйшоў час перанесці беларускую працу са сталіц на перыферыю, ён на пачатак 1922 г. пераезджае ў Навагрúдак, дзе далучаецца да працы напоўлегальнага месцовага беларускага камітэта. Па сутнасці, П.Аляксюк змяніў у Наваградку беларускага дзеяча Друцкага-Падбярэскага, які адправіўся ў Вільню [8].

Ужо ў канцы таго ж 1922 г. П.Аляксюк зноў займаецца палітыкай і, нават, далучаецца да Беларускага цэнтральнага выбарчага камітэта, але ўжо саступіўшы першыя ролі іншым асобам [10, s. 14]. "Зараз галоўны пункт беларускай дзейнасці, - паведамляла крыніца польскай контрразведкі, - быў перанесяны з выбарчага камітэта, які знаходзіўся ў кватэры Падбярэскага, да беларускай гімназіі"[8].

Троху пазней П.Аляксюк, які меў некалькі курсаў Пецярбургскага ўніверсітэта, скончвае, а дакладней – давучваецца, на юрыдычным факультэце Віленскага ўніверсітэта, што адчыняе яму дзьверы да адвакатскай кар'еры.

Вырашальны шмат у чым 1924 г. беларускі грамадска-палітычны рух у Польшчы сустрэў, па сутнасці, адзіным фронтам – гэта быў той рэдкі момант, калі паланафільскі асяродак, нават такі, які б дзейнічаў на пазіцыях вымушанага лаялізму, перастаў існаваць. Час ад часу, імя П.Аляксюка сустракаецца на старонках справаздач палітычнай паліцыі і II аддзела. Гэтак у данясенні Навагрудскага ваяводскага ўпраўлення за сакавік 1924 г. адзначалася, што "прадстаўнікі найбольш лаяльных адносна Рэчы Паспалітай беларускіх арганізацый: Аляксюк і д-р Паўлюкевіч поўнасцю падпалі пад уплывы пасла Рагулі і разам з ім развіваюць савецка-беларускую палітычную ідэю "Вызвалення Айчыны" [4]. Паведамляючы аб тым, што "вядомы здаўна беларускі дзеяч Аляксюк, які ад часу выбараў (маецца на ўвазе выбары ў Сейм 1922 г. – аўтар) зусім адсунуўся ад палітычнага жыцця, зараз зноў вяртаецца на палітычную сцэну" і на прапанову Віленскага БНК "збіраецца аднавіць працу ТБШ у Наваградку", "Справаздача з эканамічна-грамадскага і палітычнага жыцця" за красавік 1924 г. дадавала: "Падтрымаць падарваны аўтарытэт Аляксюка ў Наваградак выехалі паслы Уласаў і Рак-Міхайлоўскі" [5]. Са справаздачы за першы квартал 1925 г.: "...Аляксюк зараз працуе над рэабілітацыяй свайго вобліка ў вачах Віленскага БНК. У першай палове красавіка ён некалькі разоў наведваўся да Р.Астроўскага, ксяндза А.Станкевіча, С.Рак-Міхайлоўскага, д-ра Паўлюкевіча і Б.Тарашкевіча" [3]. Сустракаючыся на кватэры дырэктара беларускай гімназіі Р.Астроўскага ў канцы кастрычніка 1924 г. П.Аляксюк, між іншым, меў папярэдзіць Б.Тарашкевіча пра магчыма хуткі арышт апошняга [6, к. 87].

18 студзеня 1925 г. "Беларуская доля" надрукавала рэдактарскі водгук на артыкул П.Аляксюка ў "Грамадскім голасе", у якім той пратэставаў на выкарыстанне тэрміна "аляксюкоўшчына" у дачыненні да дзеячаў паланафільскіх арганізацый Часовая беларуская Рада ды Прасвета. "Грамадзянства, - скончваўся артыкул, - ужо ацаніла гэтых бязумоўна здольных, але на жаль, зышоўшых з простае дарогі некалі сапраўдных беларускіх дзеячоў. I ім больш выпадала б біцца ў грудзі і каяцца, чым рабіць выгляд "пакрыўджанае нявіннасці"" [16, № 4].

У другой палове 1920-х гадоў П.Аляксюк працуе адвакатам у Навагрудку і адначасова з'яўляецца намеснікам старшыні Навагрудскай павятовай управы ТБШ. Да таго ж, у 1925 г. ён, магчыма, працаваў карэспандэнтам газеты «Nadniemeński Kurjer Polski». 1 сакавіка 1925 г. у Наваградку адбывалася вулічнае "квэста" на рэч ТБШ. Пазней у рэмізе пажарнай стражы прайшоў "літарацка-вакальны паранак" аб'яднаны са сходам ТБШ. Павел Аляксюк, як старшыня ТБШ, выступіў на ім з прамовай, у якой заклікаў беларускае насельніцтва да ўдзелу ў стварэнні беларускіх школак і аказання ім матэрыяльнай дапамогі. Пазней слова ўзяў пасол В.Рагуля. Калі той пачаў востра крытыкаваць польскі ўрад, П.Аляксюк перарваў яго словамі, што мэта гэтага сходу – беларускае школьніцтва. Падчас выбараў у праўленне мясцовага ТБШ, П.Алексюк быў абраны ў Раду [22, с. 16]. 8 красавіка 1925 г. ён разам з П.Свірыдам выступілі ад імя Рады ТБШ у Наваградку супраць вобыскаў у паасобных сяброў Рады, якія адбыліся напярэдадні [16, № 26]. У лістападзе 1925 г. пад час святкавання дзесяцігоддзя існавання беларускай

школкі ў Наваградку П.Аляксюк выступіў з прамоваю пра значэнне нацыянальнай асветы [7].

7 лістапада 1926 г. пасол Е.Сабалеўскі склікаў у Баранавічах з'езд беларускіх дзеячаў Сталбцоўскага, Баранавіцкага і Навагрудскага паветаў, як паведамлялася ў справаздачы польскіх спецслужбаў, "з мэтай прыцягнуць у склад Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады тыя элементы, якія да гэтага часу заставаліся па-за яе межамі" – галоўным чынам, гаворка шла аб так званай «групе Аляксюка», куды адносілася пэўная колькасць беларускіх настаўнікаў з Навагрудчаны. Прыхільнікі Аляксюка са свайго боку высунулі ў якасці ўмовы аб'яднання – пасольскі мандат для самаго П.Аляксюка і ў будучыне – пост міністра ў непадлеглай Беларусі. "Так як, – рабіў выснову рэферент ДОК IX, - гэтая групоўка прадстаўляла толькі саму сябе, у рэшце рэшт, да "транзакцыі" не дайшло…"[3].

6 червеня 1927 г. у памяшканні Пажарнай каманды ў Наваградку прайшоў з'езд Настаўнікаў агульных школаў Навагрудскага павета, на якім сярод іншых прысутнічалі ваявода, школьны інспектар, стараста, бурмістр ды іншыя афіцыйныя асобы. І вось перад гэтымі ўплывовымі асобамі ад імя Навагрудскай Гарадской Рады і мясцовай Асветніцкай камісіі выступае з прамоваю П.Аляксюк. "Хацелася б, - распачаў ён сваю прамову, - выказаць удзельнікам з'езда вялікую пашану за працу на карысць нашай агульнай польскай школы. Вы ствараеце вялікую справу ў цяжкіх умовах нашых крэсаў, аддаючы гэтай зямлі ўсе сваі маладыя сілы ды энергію. Сваё кароткае прывітанне, хацелася б мне скончыць пажаданнем, каб вашая праца дала багатыя ўсходы, каб дарагое маладое пакаленне нарадзіла шчырых людзей і верных сыноў Айчыны, ды каб гэтае новае пакаленне ўвайшло ў жыццё з моцным пачуццём любові. Калі гэтым чынам вы выканаеце сваё прадназначэнне і аддадзіце каласальную гістарычную паслугу чалавецтву – створыце гэтым самым моцную супрацьтэзу таму, што робіцца на ўсход ад нас..." [12, № 6, S. 4-5].

Паступова, аднак, адносіны паміж П.Аляксюком і радыкальнай часткай беларскіх дзеячоў у чарговы раз далі трэшчыну. У лютым 1929 г. "Беларуская Ніва" пісала пра П.Алексюка, што той праз пэўны час узначаліў Наваградзкае ТБШ і "ўтрупіў" яго, а зараз на выбарах у мясцовыя самаўрады арганізаваў блок беларусаў, жыдоў і палякаў і тым самым, быццам бы, забраў ў беларусаў магчымасць абяднаўшыся з жыдамі пераматчы палякаў [17, №9, ст. 2]. У выніку, пікам ягонай палітычнай кар'еры у Навагрудскі перыяд жыцця сталася пасада раднага ў мясцовым Магістраце, куды ён патрапіў ад польска-беларускага блока [21, Ст. 64; 24, Ст. 3] …

27 лютага 1928 г. на працэсе Б.Рагулі ў Наваградскім судзе П.Аляксюк выступіў у якасці аднаго з адвакатаў. У сваёй прамове ён між іншым адзначыў: «…Імкненне да незалежнасці, нават гутарка аб ёй і прызыў да яе, як да астатняга найвышэйшага ідэала палітычнага існавання кожнага народа, не ёсць злачынства супраць лаяльнасці. …Дзеля чаго і выкрык Рагулі, калі б ён нават і ўзапраўду закрычаў: «Няхай жыве незалежная Беларусь!» ня мае ў сабе прызнакаў злачынства… Рагуля – гарачы нацыяналіст і барацьбіт за свабоду і дабрабыт свайго народу, але зусім не прыхільнік далучэння Беларусі да СССР. Гэта паказала ўся далейшая праца Рагулі і было б вялікай амылкай у працы „na przyszłość", на будучыню, бо гэтае асуджэнне налажыла б новую перашкоду да магчымага збліжэння паміж Беларускім і Польскім Народамі" [27, №8(14), ст. 11].

І раптам, у кастрычніку 1931 г. "Беларускі звон" – газета так званай "беларускай санацыі", спасылаючыся на віленскае "Slowo", змясціла сціплае паведамленне аб тым, што "бацька паланафілаў" Павел Аляксюк падпаліў сваю маёмасць у Наваградку, якую напярэдадні застрахаваў на 100 тысяч злотых, за што быў арыштаваны па загаду польскай пракуратуры [19, № 21].

Гэта апошняя з вядомых нам звестак з жыцця Паўла Аляксюка, як апошні штрых партрэта, у якім няма аніводнай светлай фарбы. Аднак, нават чэрнь мае свае адценні, а гістарычная постаць з "чорнай дошкі" можа быць бліжэй да рэаліяў сённяшніх дзён, чым шмат хто з "апосталаў нацыянальнага адраджэння". Варта толькі прыглядзецца да мінулага…

## Спіс крыніц і літаратуры:


1. Archiwum PAN, t. IV, Diariusz M.S.Kossakowskiego, 1919 r.;
2. Centrałny archiwum Wojskowy (CAW). - Oddzial II Sztabu Gieneralnego, syg. I.303.4.2696;
3. CAW. - Oddzial II S.G. - syg. I.303.4.2696;
4. CAW. – Oddział II Sztabu Generalnego. – Sygn. I.303.4.5148. – Podteczka 3;
5. CAW. – Oddział II Sztabu Generalnego. – Sygn. I.303.4.5229;
6. CAW. – Oddział II Sztabu Generalnego. – Sygn. I.303.4.5230;
7. CAW. – Oddział II Sztabu Generalnego. – Sygn. I.303.4.5248.
8. CAW. - SRI DOK IX, syg. I.371.9/A.127;
9. Krótki zarys zagadnienia białoruskiego. – Warszawa, 1928;
10. Ładnow E. Przeciwko blokowi z Niemcami. – Warszawa, 1922;
11. Wybory do Sejmu w Wilnie, 8 stycznia 1922. Oświetlenie akcji wyborczej i jej wyników na podstawie źródeł urzędowych. – Wilno, 1922;
12. Życie Nowogródzkie. – 1927;
13. Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 1. – Вільня-Менск-Нью-Йорк-Прага, 1998;
14. Архівы Беларускай Народнай Рэспублікі. Т. 1. Кн. 2. – Вільня-Менск-Нью-Йорк-Прага, 1998;
15. Беларускае слова. – 1926;
16. Беларуская доля. - 1925;
17. Беларуская Ніва. - 1926;
18. Беларускі голас (аднаднёўка). – 11.12.1921;
19. Беларускі звон. - 1931;
20. Беларускі шлях - 1921;
21. Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (ДАГВ). - Ф. 93. - Воп. 1. - Спр. 2.;
22. ДАГВ. - ф. 551, - воп. 1, - спр. 977;
23. ДАГВ. - Ф. 551. - Воп. 2. - Спр. 117;
24. Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця. Успаміны. - Мн., 1974;
25. Нацыянальны Архіў Рэспублікі Беларусь. - ф. 325. - Воп. 1. - Спр. 8;
26. Наша ніва, 1911. - Факсімільнае выданне, Мінск, 2003;
27. Праваслаўная Беларусь. - 1928;
28. Пяткевіч А. Гродзенскі гурток беларускай моладзі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т.3. -Мн.: БелЭн, 1996. - с.133-134;
29. Рудовіч С. Аляксюк Павел Паўлавіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т.1. -Мн.: БелЭн, 1993;
30. Рудовіч С. Час выбару: Праблемы самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе. – Мн.: Тэхналогія, 2001;
31. Семашкевіч Р. Беларускі літаратурна-грамадскі рух у Пецярбурзе // http://kamunikat.net.iig.pl/, www/knizki/historia/siemaszkievicz/02.htm;

**Іоанна Пухальска, Крыстына Стасевіч (Варшава)**

# Двор і яго сувязі з наваколлем: аб дзейнасці Марыі Карповіч з Чамброва пад Навагрудкам

Калі ў 1896 г. памешчык з Нвагрудчыны Караль Карповіч прывёз сваю жонку, з якой толькі што ажаніўся, у радавое гняздо Чамброў, бацькі маладога гаспадара – суддзя Юльян і Караліна з Булгакаў – сардэчна прынялі выбранніцу сэрца адзінага сына. Баба Ганулю, беларуска, нянька Юльяна і Караля, крытычна настроеная да паненак, якія круціліся вакол паніча, гэту жанчыну прыняла, што было немалым поспехам. Так Марыя з Паплаўскіх увайшла ў сям'ю, якая жыла ў незвычайным месцы.

Размешчаны ў 4 км ад славутай Свіцязі, Чамброў быў месцам асаблівым. Пад канец XVIII ст. яшчэ ў папярэдніх уладальнікаў Узлоўскіх упраўляючым быў Матэуш Маеўскі, а аптэкаркай – яго дачка Барбара. Як добра вядома, яна выйшла замуж за адваката навагрудскага суда Мікалая Міцкевіча, а хроснай маці іх сына Адама стала Анеля Узлоўская, якая атрымала Чамброў у спадчыну. Чамброў потым быў звязаны з лёсам паэта і павінен быў быць яму добра вядомы. Існуе гіпотэза, даволі моцна падтрыманая фактамі, што гісторыя апісаная ў *Пане Тадэушы,* была падказана наездам, які на самой справе меў месца ў сям'і Узлоўскіх і стаў апасрэдаванай прычынай продажу маёнтка Карповічам у 1827 г.[1].

Маладая сям'я Карповічаў пасялілася спачатку ў фальварку Мухаўка і хутка аказалася сярод самых актыўных землеўладальнікаў Навагрудчыны. Марыя была асобай жыццярадаснай, гаспадарлівай і энергічнай. Яна клапацілася аб мужу і аб дзецях. Мела іх чацвёра: Юзэфа, Зоф'ю (Зулю), Януша і Станіслава Вітольда, якога звалі Літкам. Аднак, яна далёка не была дамаседкай. Яна арганізоўвала грамадскае жыццё, клапацілася пра забавы. Праз год пасля нараджэння Януша падрыхтавала выступленне аматарскага тэатра, які 29.12.1903 г. з гадзіннымі перарывамі прадставіў тры аднаактныя камедыі нораваў папулярных у той час аўтараў: *Пакацілася* і *Дам нагу* Элізы Ажэшка, *Нешліфаваны дыямант* Станіслава Дабраньскага. Захавалася тэатральная праграма, зробленая Марыяй Карповіч. Варта нагадаць, што твор Ажэшка пра двух братоў: Караняра і Літвіна, вядомы ў кракаўскай і пазнаньскай пастаноўках канца XIX ст.[2] быў пастаўлены ў Мухаўцы раней, чым у польскім клубе "Огніско" (Касцёр – Т.В.) у Мінску. Толькі ў 1906 г. драматычная секцыя пад кіраўніцтвам Наталлі Бальдвін-Рамульт паставіла гэту камедыю на інаугурацыі сваёй дзейнасці.[3]

[1] Data ustalona na podstawie sądowego aktu przeniesienia własności z 30 IX 1830 roku. Do tej pory w literaturze podawano rok 1826 jako datę sprzedaży Czombrowa. (Jeśli nie zaznaczono inaczej, cytowane rękopisy pochodzą z archiwum rodzinnego Karpowiczów w Brwinowie).

[2] H. Gacowa, *Orzeszkowa Eliza*, w: *Dawni pisarze polscy od początków piśmiennictwa do Młodej Polski. Przewodnik biograficzny i bibliograficzny,* t. 3, Warszawa 2000, s. 193-194.

[3] A. Romanowski, *Młoda Polska wileńska,* Kraków 1999, s. 358.

Караль Карповіч, хімік па адукацыі, заснаваў у Мухаўцы ў 1908 г. Усходняе Агранамічнае Бюро[4] для распаўсюджвання прымянення штучных угнаенняў, якое разам з іншымі справамі займалася аналізам дасылаемых пробаў глебы[5]. Яно дзейнічала тут на працягу трох гадоў, а пасля перасялення Карповічаў у Чамброў, было перанесена ў Вільню.

У чамброўскім доме нацыянальныя і сямейныя традыцыі перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Члены сям'і ўдзельнічалі ў агульна прынятым рытуале хатняга жыцця. Разам святкавалі, упрыгожвалі ў салоне калядную ёлку, рыхтавалі прысмакі.[6] Ва ўсім гэтым не магло абыйсціся без узгаданай на пачатку Бабы Ганулі, пра якую славуты майстар фатаграфіі Ян Булгак, брат Караля з боку цёткі, так пісаў у *Краі дзіцячых гадоў*: "…ні смятана без яе ні разу не скісла, ні масла не збілася […] Яна была не толькі любіміцай усяго дому, але і яго чыстай мукай, бо ўсім прыслужывала і выгаварвала ўсім сваім беларускім басам, паказваючы суровую сярдзітасць і ўсміхаючыся пад носам".

Шмат гадоў пазней Марыя Карповіч цёпла напіша, поўныя тугі *Успаміны пра старую няньку Ганулю*, у якія ўключыць беларускія байкі, што расказвала старая, і якія падабаліся ўсім дзецям, а таксама расказы з яе доўгага жыцця: "Калі я прыходзіла ў яе хаціну, старая мяне дабразычліва вітала, ахвотна размаўляла (нягледзячы на 30 гадоў, праведзеных сярод палякаў, яна не навучылася гаварыць па-польску, заўсёды карысталася беларускай мовай), расказвала, як яе мужа "узялі ў маскалі" на 25 гадоў, бо быў такі закон пры цары Мікалаі I, альбо як "маленькі Каролічак ўглядзеў муху да і спалохаўся" (яна заўсёды смяялася, успамінаючы гэта)".

Калі пачалася першая сусветная вайна, Марыя Карповіч стала актыўней як грамадзянка. З 1915 г. яна пачала вучыць сялянскіх дзяцей з Валеўкі і Радагошчы.[7] На абуджэнне цікавасці да школы мог паўплываць Станіслаў Карповіч, вядомы педагог, стрыечны брат мужа, які яшчэ да першай сусветнай вайны прыязджаў з Варшавы на Навагрудчыну абудзіць, як ён гаварыў, "рух думкі": ён чытаў лекцыі, даваў парады ў справе развіцця асветы ў вёсцы. У 1915-1916 гг. Ён таксама быў у Чамброве[8]. Уладальніца выдатна справўлялася з новым заданнем, таму што Казімір Карповіч, які выкладаў малюнак у добра вядомай жаночай гімназіі на вул. Віленскай у Варшаве[9], напісаў у лісце да стрыечнага брата Караля: "Віват, братавая, твая школа, твая дзейнасць!"[10]

Сядзібу ў часы першай сусветнай вайны рабавалі нямецкія, аўстрыйскія і расійскія войскі; пасля таго, як Польшча вярнула незалежнасць, небяспечна было і далей. У 1919 г. пачалася неаб'яўленая вайна з бальшавікамі.[11] Яшчэ ў снежні 1918 г., калі немцы адыходзілі на захад, Караль Карповіч са старэйшымі сынамі 21-летнім Юзэфам і 16-летнім Янушам выехалі ў накірунку Беластока. Там Юзэф пайшоў дабраахвотнікам у польскае войска і быў залічаны ў палявую артылерыю, а Януш паехаў у гімназію ў Варшаву.[12]

Верагодней за ўсё на мяжы лютага і сакавіка 1919 г. бальшавікі арыштавалі ўладальніцу Чамброва і пасадзілі ў турму ў Навагрудку, палохалі, што расстраляюць, калі пацвердзяцца слухі, што яе муж і сыны ў войску.[13] Дакучалі пастаяннымі рэвізіямі, забіралі, што траплялася, капаліся ў шафах і пісьмовым бюро Караля ў по-

[4] Hasło Karpowicz Karol w *Słowniku biologów polskich*, pod red. Stanisława Feliksiaka, Warszawa 1987, s. 252. W słowniku podano, że było to Wschodnie Biuro Agrotechniczne, natomiast na firmowym papierze listowym widnieje nazwa Biuro Agronomiczne.

[5] List administratora majątku Zajezierze w powiecie ihumeńskim, należącego do Piotra Wańkowicza, z prośbą o analizę próbek gleby, Zajezierze 22 VIII 1902.

[6] Z. Brzozowska, *Impresje czombrowskie*, Bydgoszcz 1997, s. 23-24, 27; J. Puchalska, *Wstęp* do: *Próbowane i... dobre. Przepisy kulinarne ręką Marii Karpowiczowej przepisane*, Gdynia 2002, s. VII, IX.

[7] Podpisane 9 III 1941 roku przez mieszkańców Walówki i Radohoszczy *Oświadczenie*, że Maria Josifowna Karpowicz za darmo, w latach 1915-1926, uczyła ich dzieci – polskiego, rosyjskiego, niemieckiego, arytmetyki i geografii – oraz, również za darmo, prowadziła wieczorne kursy dla dorosłych.

[8] S. Konarski, *Karpowicz Stanisław*, w: *Polski słownik biograficzny*, t. XII, z. 1, Wrocław 1966, s. 121-122.

[9] *Szkoła na Wiejskiej,* Kraków 1974, s. 261.

[10] Kazimierz Karpowicz do Karola Karpowicza, Warszawa, 17 X 1917.

[11] *Wielka historia Polski,* t. 9: Cz. Brzoza, *Polska w czasach niepodległości i II wojny światowej (1918-1945)*, Kraków 2001, s. 27.

[12] Maria (Niusia) Karpowiczowa, *Wspomnienie o Józiu, Januszu i Litku*, rękopis z ok. 1970 r.

[13] Maria Karpowiczowa do Karola Karpowicza, Czombrów, 2 V 1919.

шуку дакументаў. Зулька ўспамінае вялікую адвагу маці і павагу, з якой адносіліся да яе бальшавікі нават у турме.[14] Ёй загадалі мыць падлогу. Яна выконвала гэта не супраціўляючыся, але часта яе выручалі ў гэтым сялянкі, якіх яна вучыла пісаць.[15] У турме яна прабыла нядоўга, таму што палякі спачатку перамагалі.

Маючы званне хатняй настаўніцы[16], Марыя адразу ўключылася ў барацьбу з няграматнасцю, якую праводзіла арганізацыя Мацер Школьна (Школьная Маці),[17] на падставе дэкрэта Кіраўніка Дзяржавы ад 7.02.1919 г. аб абавязковым усеагульным навучанні дзяцей ва ўзросце ад 7 да 14 гадоў. Былі праблемы з памяшканнем, настаўнікамі, але не было недахопу энтузіязму. Сваю дзейнасць яна ўспрымала як асветніцкую місію, была супраць прымусовай паланізацыі. У лісце да мужа піша так: "…пасля заявы пана Прушынскага, што руская мова ўвогуле не будзе выкладацца, і школы будуць выключна польскія, уся Пачапаўская гміна адмовілася ад школ". Але я ім сказала, што "будзем учить и по-польски, и по-русски", і зараз усе вёскі просяць школы, згаджаюцца на ўсе ўмовы і з радасцю прымаюць настаўніц".[18]

На працягу ўсяго міжваеннага часу яна клапацілася пра маладых настаўніц, якія прыязджалі вучыць у занава адчыненых вясковых школах. Асабліва пасябравала з трымя: Мечыславай Тарасевіч (пазней Журомскай), Зоф'яй Чайкоўскай (пазней Залеўскай) і Анеляй Нямiравай, якая стала яе нявесткай.

Да формаў пазашкольнай асветы, якія прапагандавала Мацер належалі прадстаўленні аматарскіх тэатраў. Такі тэатр дзейнічаў у будынку чамброўскага спіртзавода, які ў той час ужо не выкарыстоўваўся. З плаката, які захаваўся, вынікае, што 14.1.1920 г. дзеці са школы ў Варончы павінны іграць *Яселькі (*лялечнае прадстаўленне на Каляды – Т.В.*)*, даход ад спектакля пойдзе для Мацеры Школьнай у Навагрудку. Запланавалі два прадстаўленні: раніцай – бясплатнае для дзяцей, а па палудні – платнае для дарослых. Не абышлося без непрыемных сюрпрызаў. Карповіч так піша мужу 21.1.1920 з Чамброва: "…сяляне, думаю, не пайшлі з-за агітацыі, і бедная Мацер Школьна панесла страты". Назаўтра ж моцна аб гэтым пашкадавалі і Гайдук прыйшоў прасіць ад іх імені, каб зрабіць прадстаўленне яшчэ раз, то пойдуць усе. А потым, каб заснаваць драматычны Чамброўска-Радагашчанскі кружок, выбраць ім п'еску і навучыць іх сыграць яе папольску. Геншэль (навагрудскі стараста), вядома, як я яму паведаміла, аж падскочыў і сказаў абавязкова накіраваць скаутаў з *Снежкай,* што павінна адбыцца, уласна кажучы, у гэту нядзелю. Прыедуць 12 скаутаў і дадуць дзённае прадстаўленне ў той самай саладоўні. Потым я буду развучваць з сялянамі ролі, і няхай сабе іграюць перарobленых *Цыганоў* Княжніна.

Перарабіць камічную оперу васемнаццатага стагоддзя для патрэб аматарскай сцэны было вельмі амбіцыйным намерам з боку Марыі Карповіч, таму што гэта рэдка іграная п'еса не належала да самых лёгкіх у сэнсе рэалізацыі. Музыка Міхала Казіміра Агінскага не захавалася, але Станіслаў Манюшка зацікавіўся *Цыганамі*, напісаў для іх музыку і паставіў у Вільні ў 1860 г[19]. Мы не ведаем, ці выкарыстоўвалі музыку ў чамброўскім прадстаўленні, хоць фрагментарна.

*Цыгане* былі, верагодней за ўсё, паказаны 25.4.1920 г., таму што ў лісце да сына Юзэфа, напісаным у Баранавічах 7.5.1920 г., Карповіч інфармуе:

25 красавіка ў Чамброве было вялікае прадстаўленне маёй трупы. З'ехалася ўся навагрудская смятанка з панам старастам на чале. Мы зрабілі фурор, што называецца.

[14] Zula Karpowiczówna do Janusza Karpowicza, Czombrów [IV 1919].
[15] Zob. przypis 15.
[16] Po ukończeniu gimnazjum rządowego w Moskwie otrzymała świadectwo, którego odpis wydany 27 lutego 1893 r. zachował się w rodzinnym archiwum. Na jego mocy Maria Josifowna Popławska, poddana Imperium Rosyjskiego, która maturę „zdała dobrze, osiągając bardzo dobre wyniki w nauce i zachowaniu", miała prawo do tytułu nauczycielki domowej i nauczania następujących przedmiotów: „język rosyjski, język francuski, język niemiecki, pedagogika, historia, geografia, matematyka, nauki przyrodnicze, oraz pobierania stosownego wynagrodzenia i korzystania z przysługujących jej z tego tytułu przywilejów".
[17] K. Kabziński, *Znaczenie działalności oświatowej Polskiej Macierzy Szkolnej dla rozwoju edukacji*, „Zeszyty Naukowe Wyższej Szkoły Pedagogicznej w Olsztynie", Prace Psychologiczne, z. 1: *Psychologia rozwoju* pod red. H. Romanowskiej-Łakomy, Olsztyn 1996, s. 121-124.
[18] Dopisek Marii Karpowiczowej do listu Zuli Karpowiczówny do Karola Karpowicza [1919]
[19] M. Klimowicz, *Oświecenie*, Warszawa 1975, s. 328-329.

18 мая 1920 г. яна зноў піша з Навагрудка таму ж адрасату пра гэту падзею, але шырэй: "Мацер пайшла ўгару. І гэта з таго часу, як адбылося наша прадстаўленне 25 красавіка ў чамброўскім спіртзаводзе[…] Гледачоў з горада было столькі, што не хапала месцаў, з Навагрудка прыехала ўся смятанка на чале з Геншэлем, і даход нетта (чысты – Т.В.) быў каля 500 марак!"

Стараста ацаніў працу мясцовай Мацеры і падараваў 4 950 марак для стварэння канцэртнай залы і тэатра ў Навагрудку.

Карповічы ўвогуле маюць амбіцыйныя планы. Марыя клапоціцца, каб атрымаць будынак былой фабрыкі сухароў у Навагрудку для сушкі лекавых траў.[20] Караль засноўвае Народны Банк, з'яўляецца старшынёй Сельскагаспадарчага Таварыства, а таксама арганізуе сельскагаспадарчы кааператыў, да якога належаць і дробныя гаспадары з навакольных вёсак.

Прыйшло 4.7.1920 г. і на Беларусь пачалося наступленне рускіх войск Заходняга фронту. Двое старэйшых сыноў, Юзэф і Януш, былі ў войску[21], а бацькі з Зуляй і з Літкам, разам з уладальнікамі суседніх маёнткаў, уцяклі на вазах у Цэнтральную Польшчу. Карповіч з дзецьмі даехала аж да Віслы. За гэты цяжкі пераезд 20-гадовая Зуля заплаціла жыццём. Яна памерла ад дызентэрыі 28.8.1920 г. і была пахавана ў Казеніцах. Для маці гэта быў страшны удар. Самага малодшага Літка яна паслала ў школу ў Быдгошчы, а сама восенню, зрабіўшы абавязковыя прышчэпкі ад халеры[22], вярнулася ў Чамброў. Маёнтак быў знішчаны, дом – брудны і абшарпаны. Уладальнікі не здаюцца, набіраюць слуг, адбудоўваюць гаспадарку. Марыя разам з Меткай Тарасевіч сабрала каля 40 вучняў. Пачалі вячэрнія курсы для дарослых, бо аб гэтым прасілі парабкі, і школай маглі таксама карыстацца людзі з вёскі.[23]

31.12 таго ж года Марыя піша з Чамброва да Літка: "Вучняў у нас пакрысе пастаянна прыбывае. Сёння даведалася, што буду развучвць з дарослымі новую тэатральную п'есу. Прыйшлі мае былыя артысты, мы спявалі і я ім чытала свайго *Курганчыка.* У Навагрудку збіраюцца зрабіць прадстаўленне без мяне. Я павінна толькі навучыць".

Вялікім яе захапленнем былі адукацыйныя гульні, альбо праверанымя метады навучання з дапамогай гульні. Гэта пытанне патрабуе асаблівай увагі, але варта ўспомніць хоць некалькімі словамі. Карповіч кіравалася прынцыпам: не толькі вучыць, але і навучыць. З гэтай мэтай яна пашырала сваю эрудыцыю, мастацкія і мануальныя здольнасці, а таксама веданне методыкі. Гульні былі розныя: гістарычныя (у т.л. *Паход на Вавель*), прыродазнаўчыя (сярод іншых – С*трашыдлы,* аснованая на складанні карцін са звярамі), арыфметычная (Бекса, табліца множання), альбо моўныя. Патрэбныя рэквізіты выконвала сама. У лістах да бліжэйшай і больш далёкай радні увесь час з'яўляецца ўпамінанне выдаўцоў гульняў у Вільні, Варшаве і, нават, у Пазнані. Аднак, не хапала грошай, і справа скончылася тым, што яе ўхвалілі за ідэі.

Пад канец 1921 г. Марыя напісала кароткую п'есу у трох актах пад назвай *Маці*. Гэта – патрыятычны твор пра зняволеную трымя захопнікамі Рэч Паспалітую, пачатак першай сусветнай вайны, вяртанне незалежнасці, аб шматлікіх пагрозах з боку яўных ворагаў і схаваных, пра бяду, але і пра надзею на лепшае заўтра. Побач з персаніфікаванымі абстрактнымі паняццямі Айчыны, Вайны, Голаду, Бяды, Хваробы, Смерці выступаюць рэальныя постаці Жанчыны, Дзіцяці, Хлапца, Чалавека, Беспрацоўнага, Інваліда. Захаваўся рукапіс сцэнарыя гэтай п'есы, якую паставілі ў Чамброве пры ўдзеле вясковых дзяцей, дарослых з ваколіцы і з сядзібы. Аўтар умела падае псіхалагічныя партрэты герояў і індывідуалізуе мову іх расказаў, напрыклад, Чалавек, які просіць дапамогі, бо згарэла хата, выказвае сваю просьбу па-беларуску. Цікава дадаць, што ў ролі Вайны выступіла Анна Булгак, жонка Яна Булгака.

Увесь час уладальніца Чамброва вучыць дзяцей з Радагошчы і Валеўкі ў школе, якая адносіцца да Мацеры Школьнай. Яна неверагодна занятая. Вечарамі рыхтуецца да ўрокаў, правярае па 40-50 сшыткаў штодзённа[24], плануе школьныя экскурсіі ў Вільню,

[20] Maria Karpowiczowa do Józefa Karpowicza, Baranowicze, 7 V 1920.
[21] Zula Karpowiczówna do Karola Karpowicza, 4 X [1919].
[22] Maria (Niusia) Karpowiczowa, op. cit.
[23] Maria Karpowiczowa do Litka Karpowicza, Łaziska, 24 X 1920.
[24] Brulion *Sprawozdania rocznego z czynności Szkoły Powszechnej w Radohoszczy do Inspektoratu Szkolnego w Nowogródku*, Czombrów, 2 VII 1926.

Варшаву, Чэнстахоў, Кракаў, а таксама па наваколлі: У Навагрудак, Дварэц, Шкляную Гуту (Бярозаўка). У яе шмат клопатаў рознага характару[25]. Дзеці бедныя, і яна вымушана знаходзіць грошы на паездкі. Знаходзіць дапамогу з розных крыніц: Дэпартамента пазашкольнай асветы, Варшаўскай Мацеры Школьнай, Кола Нацыянальнай арганізацыі жанчын, со Школьнага інспектарата ў Навагрудку, ад прыватных асобаў. І тут недаверлівыя бацькі няправільна разумеюць яе намеры. Сяляне баяцца, што яна завязе іх дачок "у фабрыку на работу". [26]

Яна радуецца, калі вучні задаволены паездкамі, выказваюь зацікаўленасць прадаўжаць вучобу, напрыклад, пасля агляду гаспадарчай школы для дзяўчат у Касцельцы ў ліпені 1923 г. яе падапечныя выказалі жаданне вучыцца ў гэтай школе. Самых здольных яна, між іншым, возіць на экзамены ў настаўніцкую семінарыю ў Вільню.

Яна працягвае ставіць п'есы з вучнямі і дарослай вясковай моладдзю. Школа ў Радагошчы ў 1926 г. дала 11 прадстаўленняў: *Яселькі, Радня з Амерыкі, Спячая Каралеўна, Чарадзейны урок, Плата за крыўду, Клопаты Зосі, Цудоўны доктар, Ноч на св. Яна.* Аматары таксама выконвалі спевы сола і ігралі на скрыпцы, пелі сола пад акампанемент фартэпіяна, прадставілі інструментальную музыку на скрыпцы з фартэпіяна і кларнетам.[27]

Карповіч помніла, што школа павінна не толькі даваць веды, але і выхоўваць, асабліва калі дзеці часта паходзілі з забітага асяроддзя. Аб прывіццi вучням асноў этычных паводзін сведчаць *Правілы для вучняў і вучаніц нашай школы*, якія захаваліся. Яны сабраны ў 20 пунктаў, пачынаюцца ад простых парад тыпу: "З раніцы чыста вымый твар, рукі, вушы і шыю, гладка прычашы валасы, скажы пацеры". Яна змагла актывізаваць сваіх падапечных з Радагошчы, якія заснавалі *Кола Аховы Птушыных Гнёзд і Дрэў*, каб "бараніць дрэвы і дзікія кусты ад бяздумнага і свавольнага знішчэння".[28] Мэта ішла далёка: "каб у будучым можна было абсадзіць дарогі пладовымі дрэвамі як у Пазнаньскім ваяводстве і на Памор'і".[29]

Яна ўдзяляла вялікую ўвагу пазашкольным кантактам з вучнямі. Давала ім парады, запрашала ў двор на Калядную ёлку, частавала салодкімі пачастункамі, ахвотна пазычала кніжкі са сваёй бібліятэкі[30]. Аб тым, што яе праца была вельмі патрэбнай, сведчаць два лісты з 1926 г., напісаныя па-польску Янам Захарчуком, які адбываў ваенную службу ў Яраслаўлі. Ён – адзін з вучняў і членаў заснаванага ў вёсцы па яе ініцыятыве Кола Моладзі. Яны шчырыя і сардэчныя, хоць відаць пэўная моўная і арфаграфічная няправільнасць, характар пісьма відавочна набыты ў школе каліграфічнымі практыкаваннямі: О як было б добра, - пісаў ён 14.5 – і як бы мы былі ўдзячныя, каб Вы гэтых дзяцей куды-небудзь павезлі і паказалі ім крыху свет, бо [...] гэтыя дзеці апрача Радагошчы нічога не бачылі[...]. Я рады зараз і ўдзячны Вам за тое, што навучылі маю сястру Алесю, ужо маці ёй падыктуе, а яна мне ліст напіша, гэта для мяне радасць, што даведаюся пра бацькоў і край, а ўсё гэта дзякуючы Вашай працы.

Тым часам Караль Карповіч, побач з іншымі заняткамі, звязанымі з упраўленнем маёнткам і грамадскай дзейнасцю, асноўвае Малочны кааператыў, у якім на 25 членаў ёсць 8 уладальнікаў навакольных сядзібаў, а астатнія – жыхары Валеўкі, Мондзіна (сёння – Чаромушкі), Радагошчы, Нязнанава і Міраціч, як палякі, так і беларусы. На жаль, з-за клопатаў са збытам, кааператыў праз два гады існавання развалiўся. Каб не браць у бяднейшых членаў прыпадаючай на іх часткі доўгу, што магло бы іх знішчыць, цяжар выплаты квоты, якая складала 8 997 злотых і 65 грошай, узялі на сябе 5 самых заможных асобаў.[31]

---

[25] Brulion listu Marii Karpowiczowej do inspektora szkolnego w Nowogródku, [Czombrów 1922]; *Sprawozdanie do Departamentu Oświaty Pozaszkolnej od kierowniczki wycieczki białoruskiej do Warszawy i Kościelca, Marii Karpowiczowej*, Czombrów 14 VII 1923.

[26] Maria Karpowiczowa do Karola Karpowicza, Baranowicze, 14 VII 1922.

[27] Zob. przyp. 28.

[28] Brulion *Ustawy Koła Ochrony Gniazd Ptasich.*

[29] Ibidem.

[30] Z. Brzozowska, op. cit., s. 24, 27.

[31] Pismo do Wydziału Powiatowego w Nowogródku od członków upadłej i zlikwidowanej Spółdzielni Mleczarskiej w Czombrowie z dn. 13 II 1936 r. Zobowiązania uregulowali: Józef Karpowicz z Muchówki, Karol Karpowicz z Czombrowa, Anna Bułhakowa z Czombrówka, Maria Czechowiczowa z Mondzina i Helena Poniatowska z Miratycz.

сколько недель до акции была введена дополнительная раздача хлеба лучшим работникам. Раздача проходила один раз в неделю в помещении самой большой мастерской. В тот момент, когда специалисты получали хлеб, полиция окружила женщин и детей, стоявших во дворе на перекличке, и погнала со двора. Расстрел был осуществлён в 400 м от гетто, в 20 м от шоссе.

В ночь с 17 на 18 июля в городе арестована группа польской молодёжи (120 человек). 24 июля – первый вывоз из числа арестованных на работы в Германию. 31 июля арестованы, а 1 августа расстреляны 11 сестёр-назаретанок.

И в то же время, по воспоминаниям студента учительской семинарии Павла Наваро, «лето 1943 было весёлым. По улицам Новогрудка с песнями маршировали колонны юношей-семинаристов, которые проходили военную подготовку в летнем лагере»[12].

Это было после майского расстрела узников трудового лагеря, который был осуществлён утром  местной полицией в черте города на глазах едущих и идущих по шоссе в город людей.

Выводы:

1. Анализ ситуации, сложившейся в Новогрудке в период оккупации, подтверждает вывод, сделанный немецким генералом Блюментритом о том, что Гитлер не одержал великих побед во второй мировой войне, но его главное достижение состоит в том, что он заставил людей думать, что можно жить, закрыв глаза на страдания других.

2. Более масштабное спасение и выживание евреев на Новогрудчине в условиях Холокоста по сравнению с другими регионами Беларуси и возможность возникновения здесь самого многочисленного еврейского отряда на территории оккупированной Европы обусловлено сложившимися взаимоотношениями между евреями, поляками и белорусами, которые можно определить как своеобразный культурный мост между этими народами, сформировавшийся в том числе и под влиянием Адама Мицкевича.

[12] П. Навара, Успаміны, фонды НГКМ

с. Рут Ядвіга Кава (Варшава)

# “Ніхто не вінаваты, самы ўзялі на сябе віну” Гісторыя навагрудскіх назарэтанак

*Іх забілі ў жніўні*
*ў сярэдзіне лета.*

*Ніхто не вінаваты, самы ўзялі на сябе віну.*
*Дзверы дома засталіся адчынены,*
*каб лепш было чуць покліч з цемры*
*І занадта голасна думалі пра брата*
*у чалавеку. У не свае, адным словам,*
*умешваліся справы найвышэйшага*
*ўгледзеўшы слабасць.*

*І ў белы дзень прыйшоў анёл*
*малітву змяніў на кроў*

*Першая іх магіла – у лесе.*
*Калі туды калі-небудзь пойдзеш,*
*і будзе зноў лета трэба будзе спярша прадзірацца*
*праз лугпоўны кветак*

*с. Бажэна Анна Флак*

У Навагрудак сёстры назарэтанкі прыбылі 4 верасня 1929 г. і знаходзяцца тут бесперапынна да сённяшняга дня.

Заснаванне каталіцкага манаскага згуртавання сёстр у гэтым горадзе можна абгрунтаваць шматлікімі меркаваннямі. У каталіцкім касцёле асобаў, асвечаных манаскім шлюбам – чыстасці, беднасці і паслушэнства – прызываюць да радыкальнага пацвярджэння: Бог палюбіў мяне – адкажу на яго любоў поўнай аддачай усёй сябе (шлюб чыстасці); валоданне маёмасцю ёсць чымсьці добрым, але найвялікшым дабром лічу самаго Бога (шлюб беднасці); хрысціянства – рэлігія свабоды - поўнай свабоды дасягну аддаўшыся ў распараджэнне Бога з вераю ў прынятыя падзеі, паведамленні і асабліва дзякуючы рашэнням старэйшых (шлюб паслушэнства). Жыццё з верай, актыўная любоў і праца – гэта характэрныя рысы кожнага манаскага згуртавання. Але ордэнаў (манаскіх, сузіральных) і згуртаванняў (апостальскіх, дзеючых) шмат у каталіцкім касцёле, і вельмі

розных. Характэрная рыса, якая адрознівае, уласцівая толькі бенедыктынкам (Нясвіж), брыгідкам (Гродна), непакалянкам (Слонім), палатынкам (Райца) альбо назарэтанкам (Навагрудак), называецца харызмай.

Харызмай Згуртавання Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта (назарэтанак) з'яўляецца распаўсюджванне Царства Божай Любові ўсюды, і асабліва ў сем'ях, праз знаёмства з самым дасканалым узорам любві ў сям'і Ісуса, Марыі і Іосіфа. Ісус, сапраўдны Бог, будучы Чалавекам займаўся звычайнымі людскімі справамі, працаваў, вучыў, цярпеў, асвяшчаючы паўсядзённасць. Назарэтанкі, услед за Святым Сямействам стараюцца сваім звычайным простым жыццём сцвярджаць прысутнасць Бога ў свеце. Гэту місію яны выконваюць праз выхаванне і навучанне дзяцей і моладзі.

*Дасі дзіцяці Бога – дасі ўсё* – пераконвала сваіх сясцёр па духу Марыя Францішка Седліска, благаслаўлёная заснавальніца назарэтанак, якая сама балюча адчувала недахоп Бога ў родным доме.

Марыя Ф. Седліска была полькай, але Згуртаванне заклала ў Рыме ў 1875 годзе. Яна хацела, каб у ім былі сёстры розных нацыянальнасцей, каб з іх дапамогай Добрая Вестка магла абвяшчацца цэламу свету. Хутка пасля заснавання ў Кракаве (1881), паўстаў дом у Чыкага (1885), а потым у Парыжы (1891), Львове (1893) і Лондане (1895). У 1906 г. назарэтанкі (яшчэ ў свецкіх уборах, інкогніта) адкрылі школы ў Вільні, Чэнстахове (1907) і Гродна (1908). Наступныя дамы з'явіліся ў Рабцы, Вадовічах, Калішу, Варшаве, Стрыю, Роўна. Галоўным чынам на землях, якія некалі былі захоплены рускімі, таму што тут ніжэйшы працэнт дзяцей быў ахоплены навучаннем (72-84%), а таксама быў найбольшы недахоп настаўніцкіх кадраў. Назарэтанкі прынялі гэты выклік. Напярэдадні вайны ў 1938/39 навучальным годзе Згуртаванне мела ў Польшчы 7 гімназій і ліцэяў, 1 швейны ліцэй, 9 пачатковых школ, 7 дашкольных устаноў і 12 інтэрнатаў. Агульная лічба вучняў у школах складала 2 680, у інтэрнатах было 567 выхаванак.

Прыезд чатырох першых назарэтанак у Навагрудак восенню 1929 г. быў адказам на просьбу ксяндза Зыгмунта Лазінскага, родам з Літоўкі з-пад Навагрудка, біскупа Пінскай дыяцэзіі, да якой тады належаў Навагрудак. Ксёндз біскуп перадаў сёстрам касцёл Праабражэння Гасподня – Фару і заахвоціў адчыніць інтэрнат для дзяўчат, якія вучыліся ў каэдукацыйнай (для дзяўчат і хлопцаў – Т.В.) гімназіі.

Пачатак быў вельмі цяжкім. Праўда, ксёндз біскуп ахвяраваў сёстрам былую плябанію, даў пасаду арганісткі ў касцёле, гаспадарчыя пабудовы і сад з лугам (5 га), аднак выдзеленую маёмасць яны змаглі атрымаць толькі праз тры месяцы, калі скончылася арэнда навагрудскага старасты. Да таго часу яны жылі ў Антавільскім завулку ў частцы недабудаванага дома, якую ім аддала беларуская сям'я. Гарадскія ўлады прынялі іх непрыхільна. Ваявода Зыгмунт Бечковіч, да якога яны пайшлі ў першыя дні пасля прыезду, прывітаў іх з'едліва: *"Назарэтанкі, вялікія пані ... апускаюцца да стварэння інтэрната. Мясцовыя людзі вас не ведаюць, гэта праца – не для сясцёр".* Вялікія пані – ці былі яны сапраўды такімі? Дванаццаціасабовы склад згуртавання сясцёр у 1943 г. быў наступны. Трое з іх (т.н. chórowe) с. Стэла Мардашэвіч, с. Імельда Жак і с. Канізія Мацкевіч мелі педагагічную адукацыю, яны скончылі настаўніцкую семінарыю. Астатнія (т.н. konwerski – іх было 9) працавалі фізічна – у агародзе, пральні, на кухні, па гаспадарцы, прыбіралі школу, а таксама клапаціліся аб касцёле і сакрысціі (рызніцы). З недалёкіх месцаў паходзілі с. Стэла (Цясноўка, сёння – у Віленскай вобласці), с. Раймунда (Барванішкі каля Шумска), с. Барамея (Верцялішкі каля Гродна), с. Канізія (Сувалкі); з аддаленых – с. Імельда (Асвенцым), с. Малгажата (Вадовіцы), сс. Даніэла і Феліцыта (Падлесе), сс. Сергія і Геліадора (Памор'е), сс. Канута і Гвідона (Цэнтральная Польшча). Тры першыя прайшлі першую ступень – навіцыят у Альбана (Італія), астатнія – у Гродна.

Нягледзячы на непрыязны прыём і шматлікія цяжкасці, якія схілялі іх выехаць адсюль, сёстры, аднак, засталіся ў Навагрудку з-за настойлівай просьбы біскупа Лазінскага і генеральнай старэйшай сястры, якая напісала: *Нам нельга адмовіцца ад рашэння рашуча пратрымацца на месцы, тут справа датычыць Цара Хрыста. Ён павінен перамагчы; нам трэба змагацца за яго Царства. Бясстрашна перанесці усе цяжкасці, таму што там*

*адбываюцца вялікія справы".* Узмоцненыя гэтымі словамі, сёстры пачалі шукаць працу. Яны прынялі ў інтэрнат у свой цесны дом чатырох вучаніц, якім адна з сясцёр адначасова давала урокі французскай мовы; арганізавалі курсы ручной работы, на якія ахвотна прыходзілі дзяўчаты, у тым ліку мусульманкі; арганізавалі ўрокі рэлігіі; наведвалі хворых, паміраючых, пакінутых – арганізоўвалі для іх духоўную і матэрыяльную дапамогу. Калі адна з сясцёр сваімі паводзінамі прымусіла раскаяцца забойцу, які знаходзіўся ў шпіталі, гэта вестка хутка абышла горад, выклікаючы ўсеагульнае здзіўленне. Сёстрам пачалі выказваць з кожным разам усё большую павагу і давер. Ваявода Бечковіч, назіраючы за пачынам сясцёр, хутка змяніў свае меркаванні аб Згуртаванні і стаў яго вялікім сябрам.

Дзякуючы самаахвярнасці навагрудчан, сёстры паступова заняліся рамонтам Фары. У 1930 г. яны адчынілі каэдукацыйную пачатковую школу ў арэндаваным будынку. Хоць у Навагрудку была дзяржаўная пачатковая школа, аднак, недахопу ў кандыдатах у школу, якую арганізавалі сёстры, не было. У 1932 г. ксяндзу Мар'яну адмовілі ў арэндзе школьнага будынку з канца 1933 года. У гэтай сітуацыі, а таксама з-за таго, што было шмат дзяцей, сёстры прынялі рашэнне будаваць школу на сваёй тэрыторыі. Будоўля цягнулася 8 месяцаў, ад лютага да верасня 1933 г. Школа, хоць і драўляная, была вялікая: на першым паверсе знаходзіліся класы і гімнастычная зала, на другім паверсе быў інтэрнат і пакоі для сясцёр-выхавацельніц.

Даваенны перыяд побыту назарэтанак у Навагрудку іх суседка выказала словамі: *"Змагаліся з вялікімі цяжкасцямі, прыехалі да нічога: маленькі домік, фарны касцёл і рукі для працы. Перамаглі шматлікія цяжкасці, але велізарнымі намаганнямі збудавалі школу, інтэрнат, каб дзеці маглі вучыцца".* Праз сваё служэнне сёстры аказвалі значны ўплыў на разнароднае грамадства Навагрудка. Яны змаглі, як і іншыя жыхары Навагрудка, жыць у згодзе, прымаючы пад увагу дабро кожнага, незалежна ад нацыянальнасці ці веравызнання. Без сумнення, большасць з іх прынеслі гэта ўменне з роднага дому. Для сясцёр, якія правялі сваё дзяцінства і маладосць пад рускімі ўладамі, было звычайнай справай кожны дзень сустракацца з праваслаўнымі, а для сясцёр, якія жылі пад Прусіяй, - з пратэстантамі. У школе сясцёр, як сцвярджаюць іх выхаванкі, на практыцы панавалі рэлігійная талерантнасць і экуменізм. *"Яны змаглі прывіць любоў да кожнага чалавека незалежна ад яго веравызнання і перакананняў сваім вучням і вучаніцам (*словы выхаванкі). Спакойнае ў згодзе сумеснае жыццё палякаў, беларусаў, яўрэяў і татар перарваў пачатак другой сусветнай вайны.

## Жыццё назарэтанак у 1939-1941 гг.

Згодна дагавора Рыбентропа-Молатава савецкія войскі ўвайшлі ў Навагрудак 17 верасня 1939 г. каля 18.00. Сёстры назарэтанкі, якія добра ведалі сітуацыю каталіцкага касцёла на тэрыторыі СССР, спачатку думалі выехаць з горада. Аднак, у Вільню праз некалькі тыдняў выехалі толькі дзве: с. Верытас Пёнткоўска і с. Цэліна Беднарска - старэйшая сястра, абавязкі якой ўзяла на сябе с. Стэла Адэля Мардасевіч. Вырашыўшы застацца ў Навагрудку, сёстры былі вымушаны прыняць цяжкую рэчаіснасць акупацыі. Яны былі вымушаны змяніць хабіты (манаскія расы – Т.В.) на свецкае адзенне. Савецкія ўлады забралі ў іх школу і кляштар (вясной 1940 г. – таксама гаспадарчыя пабудовы і агарод), таму яны былі вымушаны шукаць працу. Кс. Аляксандр Зенкевіч – капелан сясцёр, дакладна апісаў жыллёвыя ўмовы і занятак сясцёр. *"Маці Стэла пасялілся ў сп. Сікажыны. С. Канізія на працягу некалькіх месяцаў выкладала ў школе, а жыла з с. Малгажатай у сп. Болтуцяў. С. Малгажата ўладкавалася на працу ў шпіталі. С. Імельда працягвала выконваць абавязкі па дагляду за рызніцай і атрымала пакой у сп. Хмараў. С. Даніэла непасрэдна даглядала капелана, пасялілася ў сп.сп. Жукоўскіх. Сёстры Раймунда і Барамея ўладкаваліся на працу прыбіральшчыцамі ў былую школу назарэтанак, якая ў той час ужо была савецкай польскай школай, і таму яны знайшлі жыллё на тэрыторыі сваёй страчанай сядзібы. Сёстры Гвідона і Сергія наглядалі за гаспадаркай, жывучы па суседству ў сп.сп. Рамановічаў. С. Геліядора вырашыла пайсці служанкай у сям'ю дырэктара польскай школы, рускага, члена партыі".*

Без запрашэння сёстры штодзённа сустракаліся на раняшняй імшы ў касцёле і пасля абеду на службе. Яны стараліся захаваць манаскія сувязі. Ні адна з іх не паказвала, што яна свецкая. Яны працягвалі рыхтаваць дзяцей да першага прычасця і аказвалі дапамогу тым, каму яна была патрэбна, - падтрымлівалі духоўна і матэрыяльна сем'і дэпартаваных, дапамагалі пісаць пісьмы, высылалі пасылкі. Прыкладам малітвы прыбліжалі да Бога.

У перыяд двухгадовай савецкай улады ў Навагрудку не адчувалі вялікіх праследаванняў за практыкаванне рэлігій, хоць атэістычная прапаганда была моцнай.

## У гады германскай акупацыі

У нядзелю, 22 чэрвеня 1941 г., пачалася новая вайна: дзве цяжкія бамбардзіроўкі нямецкай авіяцыі нішчаць цэнтр горада. 6 ліпеня ў Навагрудак уваходзяць нямецкія часці. Першыя два тыдні – час арганізацыі нямецкай адміністрацыі – прайшлі спакойна. Тэрор пачаўся з прыходам гестапа, і яго першай ахвярай сталі яўрэі. Праўда, не дазволілі адчыніць польскую школу (працавалі беларускія), але каталіцкі касцёл не праследавалі. У абодвух навагрудскіх касцёлах засталіся ксяндзы, праходзілі службы. На малітву прыходзілі нават салдаты вермахта, якіх раскватэравалі ў школе сясцёр. Назарэтанкі, пасля ўваходу ў Навагрудак нямецкіх войск, зноў апранулі хабіты, пачалі жыць разам і старанна заняліся рэлігійнай і харытатыўнай дзейнасцю.

Сітуацыя пагоршылася ў чэрвені 1942 г. Гестапа ўзялося за польскую інтэлігенцыю. Сярод 63 асобаў (большасць з іх былі палякамі), якіх расстралялі 31 ліпеня 1942 г. у лесе каля казармаў Войска польскга, аказаліся два ксяндзы: навагрудскі дзекан кс. Міхал Далецкі і кс. Я. Кучынскі, прыходскі ксёндз з Уселюба. Нямецкія акупанты мэтанакіравана ўзбуджалі міжнацыянальныя раздоры. Калі са школы сясцёр выселіліся нямецкія салдаты, на іх месцы з'явіліся "рагулеўцы" (калабарацыйныя беларускія атрады), і выселілі сясцёр з іх дома.

Рэлігійнае жыццё канцэнтравалася ў фарным касцёле. *Сёстры падтрымлівалі яго, дбалі аб эстэтычным выглядзе, убранстве. (…) Касцёл патанаў у кветках, адчувалася, што сёстры з'яўляюцца асяродкам рэлігійнага жыцця. Дзякуючы сёстрам захоўваліся рэлігійнасць і польскасць. Нам было неяк лягчэй перажываць разам з касцёлам.* (успаміны выхаванкі). Падтрымлівала надзею малітва сясцёр на ружанцы за арыштаваных, забітых, за мір, міласэрдзе Бога, а вясной 1943 г. трохразовая ўрачыстасць святога першага прычасця (камуніі), як быццам бы яны прадчувалі, што яна будзе апошняй на доўгі час.

Паражэнне немцаў на фронце, дзейнасць польскіх і савецкіх партызан выклікалі ў адказ карныя акцыі, праследаванні і забойствы. У ноч з 17 на 18 ліпеня 1943 г. гестапа з Баранавіч арыштавала і кінула ў турму каля 120 асобаў, большай часткай мужчын і моладзь. Яны не абманывалі сябе, што іх збіраюцца расстраляць. Сярод арыштаваных не было кс. капелана Аляксандра Зенкевіча, хоць яго прозвішча, як аказалася, было тады ў спісках гестапа. Ксёндз з-за асцярожнасці не начаваў дома, хоць прадаўжаў выконваць свой абавязак свяшчэнніка (капелана). А сёстры "займаліся сваім", не мяняючы ход жыцця. Лёгка пазнаваемыя ў хабітах (за выключэннем сястры Малгажаты, якая працавала ў шпіталі), маліліся яшчэ старанней.

24 ліпеня – неспадзяваная падзея, нечаканы паварот акцыі: *прыгавораных да смерці* вывезлі на работы ў Германію, некалькіх адпусцілі дахаты.

31 ліпеня, у суботу, перад 18.00 у дом да сясцёр прыйшоў немец у цывільнай вопратцы з вусным загадам з'явіцца ў камісарыят па вуліцы Слонімскай у 19.30. С. Стэла, як старэйшая, паведаміла кс. капелану пра вызаў і прыняла рашэнне, што яны пойдуць адразу пасля службы. Пайшлі ўсе, за выключэннем Малгажаты Банась, якая засталася, каб скончыць працу. (…) *Я спаткала сясцёр, якія ішлі ў накірунку гестапа. Спытала ў адной з іх: куды вы ідзяце. Сястра адказала, што іх выклікалі ў паліцэйскі участак. Яны былі апрануты ў хабіты на выхад. Ішлі без суправаджэння. З размовы з той сястрой я зразумела, што яны не ведаюць для чаго іх вызвалі, яны падумалі найгоршае,*

*г.зн. магчымы вываз на работы ў Германію. З сабой не мелі ніякіх дадатковых рэчаў.* (з успамінаў Ірэны Грахольскай). Аб тым, што адбывалася ў камісарыяце, вядома няшмат і то з апасрэдаваных расказаў. Ад татарына, які працаваў у камісарыяце качагарам, кс. Зенкевіч даведаўся, што гестапаўцы крычалі на сясцёр. С. Гвідона і с. Геліядора, якія добра ведалі нямецкую мову, спрабавалі нешта адказваць. Адказы выклікалі ў гестапаўцаў яшчэ большую агрэсію. Зместу размовы ніхто не ведае. Аднак, не было ніякага допыту. Галоўная Камісія Расследавання Злачынстваў Супраць Польскага Народа сцвярджае ў сваім заяўленні, што рашэнне адносна лёса сясцёр ўзнікла, відаць, раней і на вышэйшым узроўні ў Берліне. Вырашэнне лёсу асобаў, якімі зацікавілася гестапа, прымалася, як правіла, на падставе сабранай інфармацыі, часта без дапросаў. Дастаткова было пацвердзіць, што назначаныя асобы і ёсць тыя самыя людзі.

Прыкладна каля 20.30 да камісарыята пад'ехаў грузавік і два легкавыя аўтамабілі. Сясцёр памясцілі на грузавік у суправаджэнні гестапаўцаў з Баранавіч. Аўтамашыны выехалі за горад і спыніліся на трэцім кіламетры ад Навагрудка насупраць казармаў у раёне, дзе раней праводзіліся масавыя расстрэлы. Аўтамашыны спыніліся (паводле расказаў двух вясковых жанчын, якія потым перадалі с. Малгажаце Банась) блізка ад іх дома. У малым сасновым ляску, у некалькіх сотнях метраў ад дарогі, быў прыгатаваны дол, які быў часткай лініі акопаў. Гестапаўцы, аднак, убачылі, што ўмовы не спрыяюць правядзенню прыгавора ў выкананне, таму што сонца заходзіла і ваколіца пачала ажываць: гналі дадому скаціну, гаспадары варочаліся з поля. Відаць, баючыся партызанаў, яны не маглі паехаць далей. Таму вярнуліся з сёстрамі ў камісарыят. Ахвяр завялі ў сутарэнне, дзе да таго часу нікога ніколі не ўтрымлівалі. Паводле слоў Анатоля Галянеўскага, які ў тую ноч дзяжурыў у камісарыяце ў якасці пасыльнага, вядома, што сёстры ішлі спакойна, не супраціўляліся. Хутчэй за ўсё памяшканне, у якім яны правялі ноч, знаходзілася адразу па левым баку ад бакавога ўваходу са двара, каб іх не маглі ўбачыць з вуліцы. Ноч з 31 ліпеня на 1 жніўня 1943 г. яны правялі ў малітве. Застаўся след ад таго, што яны ляжалі крыжам, і крыж з пояска.

На наступны дзень, 1 жніўня, каля 4.00 сясцёр вывелі з падвала і пасадзілі на грузавік, той самы, што і напярэдадні вечарам. Аўтамашыны выехалі за горад і на гэты раз спыніліся на пятым кіламетры ад Навагрудка ў накірунку на Наваельню, за леснічоўкай, якую называлі "Батароўка". У некалькіх сотнях метраў ад шашы ў бярозава-сасновым лесе знаходзілася толькі што выкапаная магіла. Пасля таго, як злезлі з аўтамашыны, сёстры павінны былі прайсці нейкі кавалак дарогі пешшу. Потым удзельнікі спецыяльнага карнага падраздзялення з Баранавіч расстралялі сясцёр і маладога беларуса, які, як вынікае са сведчанняў, быў староннім сведкам злачынства, а можа капаў магілу. Ахвяр, відавочна, скінулі ў агульную магілу, альбо яны падалі ў яе падчас расстрэлу, на што ўказвае палажэнне цел пры эксгумацыі. Сёстрам, па іх просьбе, дазволілі застацца ў хабітах, але яны былі вымушаны зняць вэлюмы, таму што іх забівалі выстралам у патыліцу. Магілу прысыпалі слоем пяску.

Даведаўшыся, які лёс напаткаў 11 назарэтанак, с. Малгажата Банась, кс. Зенкевіч і бліжэйшыя суседзі не траці не гублялі надзеі, што сёстры вернуцца з камісарыяту, альбо ў самым горшым выпадку будуць вывезены на работы ў Германію. Суседкі Х. Сікожына і Я. Жукоўская рана 1 жніўня пайшлі ў камісарыят і ў турму, каб перадаць сёстрам самыя неабходныя рэчы і што-небудзь даведацца пра іх лёс. Аднак, аказалася, што ў турме іх увогуле няма, а ў камісарыяце немец, які быў у складзе карнай групы, не хацеў ім нічога казаць. Калі запыт пра сясцёр паўтарылі тры разы, гэта іх раз'юшыла. Стала відавочна, што сясцёр няма ні ў турме, ні ў камісарыяце. Пустыя лаўкі сясцёр у фары прыцягвалі ўвагу вернікаў. У горадзе пачала распаўсюджвацца розная, часам недарэчная інфармацыя адносна лёсу сясцёр.

Між тым, пасля святой імшы ў фары ў 9.00, кс. Зенкевіч пайшоў адпраўляць св. імшу ў касцёле св. Міхаіла. Перад св. імшой ён сядзеў у спавядальні. Да яго падыйшла Марыя Тарноўская з горкім паведамленнем, што сясцёр расстралялі ў той дзень на раніцы, пра што яна ведала са слоў і паводзін латыша, удзельніка карнай групы гестапа, якога пасялілі ў яе доме. Калі праз некалькі дзён вестка пра смерць сясцёр стала агульна вя-

домай, Навагрудак апанавалі прыгнечанне, смутак і абурэнне. *Не маглі знайсці прычыны, з-за якой быў выкананы прыгавор. Хіба толькі тое, што яны былі добрымі (словы выхаванкі сясцёр).*

## Ніхто не вінаваты, самы ўзялі на сябе віну

Смерць адзінаццаці сясцёр назарэтанак можна разглядаь як яшчэ адзін прыклад зла вайны, злачынства супраць нявінных людзей, тэрору *часоў, калі не выконваліся дзесяць запаведзяў.* Гісторыкам можа быць дастаткова апісання падзей. Аднак, веданне, хоць не па імёнах (дакументацыя ліквідацыйнага падраздзялення гестапа з Баранавіч не захавалася), кім былі тыя, хто аддаваў загад і хто выконваў прыгавор, супярэчыць сцвярджэнню: *Ніхто не вінаваты.* Нацысцкая ідэалогія немцаў была нацыяналістычнай і антыхрысціянскай. Закон Евангелля, закон любові быў ёй чужым. *Сёстры самы ўзялі на сябе віну:* не займаліся, што праўда, падпольнай дзейнасцю, а маліліся за дэпартаваных, арыштаваных, суцяшалі і падтрымлівалі хворых – *занадта адкрыта думалі пра брата і чалавека.* Калі ў ноч з 17 на 18 ліпеня 1943 г. у Навагрудку арыштавалі 120 чалавек, у тым ліку шмат маладых мужчын, с. Стэла, узрушаная трагедыяй шматлікіх навагрудскіх сямей, прамовіла перад кс. Аляксандрам Зенкевічам словы гатоўнасці прынесці ахвяру з мэтай вярнуць тых, каго кінулі ў турму: *Божа мой, калі патрэбна ахвяра жыццём, няхай расстраляюць лепш нас, чым тых, хто мае сям'і – молімся нават за гэта.* Калі 24 ліпеня горад абышла навіна, што арыштаваных вышлюць на работы ў Германію, і што некалькі чалавек адпусцілі дахаты, радасць змешвалася з недаверам. Хіба ў замен за выкуп? – Няпэўнай ён бываў гарантыяй. У выніку ўмяшання кмісара Трауба, уражанага тым, што гестапа з Баранавіч правяло акцыю арышту, калі яго не было ў Навагрудку? Можа быць. Тым не менш, далейшы ход падзей указвае на іншы "інструмент" уратавання. Кс. Александр Зенкевіч, адзіны капелан у Навагрудку, ужо быў у спісе гестапа. С. Стэла Мардасевіч, якая адказвала за аб'яднанне навагрудскіх назарэтанак, у апошнія дні ліпеня паўтарыла гатоўнасць ахвяры: *Ксёндз капелан намнога больш патрэбны, чым мы, таму зараз молімся таксама за тое, каб забраў лепш нас, чым ксяндза, калі яшчэ патрэбна ахвяра.* Бог злавіў яе на слове, *малітву замяніў на кроў.*

5 сакавіка 2000 г. у Рыме Ян Павел II беатыфікаваў с. Стэлу і 10 сясцёр як пакутніц. Пасля дакладнага вывучэння падзеі і апросу сведкаў смерць сясцёр была прызнана пакутніцкай. Рашаючае значэнне мела наступнае: праследавацель быў ідэйным праціўнікам хрысціянства, злачынства імкнуліся схаваць, сёстры не займаліся ні падпольнай, ні палітычнай дзейнасцю, затое вельмі плённа працавалі ў галіне рэлігіі, служачы павучальным доказам абшчыннага жыцця. сведчанне жыцця згуртавання. dając budujące świadectwo życia wspólnotowego

У Божым вучэнні "пшанічнае зярне", якое павінна памерці, каб прынесці плод, смерць нараджае жыццё, крыж перамагае. Кс. Зенкевіч 11 жніўня 1943 г. цудам пазбег арышту гестапа. Хаваўся, уцалеў. Малгажата Людвіка Банась, адзіная, якая не пайшла ў гестапа па волі старэйшай сястры, *дзеля выканання тэрміновых спраў*, стала ахоўніцай фары ў самыя цяжкія часы праследаванняў веры і каасцёла. Яе адзінокае "белае пакутніцтва" аж да самай натуральнай смерці ў 1966 г. чэрпала сілы ў ахвяры 11 пакутных сясцёр, з якімі яна адчувала духоўную сувязь. Той факт, што с. Малгажата засталася ў Навагрудку стаў сведчаннем мужнасці і веры для многіх і выклікаў прыход новых сясцёр ў Згуртаванне сясцёр назарэтанак. 31 ліпеня 1995 г. пасля перыяда ўтойвання сёстры назарэтанкі, якія адсюль родам, працягваюць сваю місію ў горадзе, азначаным прысутнасцю сваіх благаслаўлёных папярэдніц.

М. Васілючак (Гродна)

# Акаўцы ў памяці сучасніка і навукоўца

Пасля ўстанаулення Савецкай улады ў Заходняй Беларусі ў 1939 годзе з боку польскіх патрыётаў пачалася барацьба з бальшавікамі: яна праяўлялася толькі ў нязначных тэрарыстычных актах і дыверсіях. Новы імпульс развіцця польскага руху супраціўлення прыдаў загад І. Сікорскага, стаўшага на эміграцыі прэм'ер-міністрам і Вярхоўным Галоўнакамандуючым Польшчы, аб стварэнні новай падпольнай вайсковай арганізацыі – Саюза Узброенай Барацьбы (СУБ) ў лістападзе 1939 года. Галоўнай задачай СУБу з'яўлялася адраджэнне Польскай дзяржавы да 1 верасня 1939 года. Але стварыць шырокую сетку сваіх арганізацый на тэрыторыі Заходняй Беларусі СУБ у прадваенны перыяд не ўдалося, так як многія актыўныя члены гэтай арганізацыі органамі НКУС былі арыштаваны і значная частка радавых членаў пад час дэпартацыі апынуліся ў Сібіры, на Далёкім Усходзе і іншых рэгіёнах Савецкага Саюза.

З прыходам нямецкіх акупантаў дзейнасць падпольных структур польскага руху супраціўленя ў Заходняй Беларусі, у тым ліку на Іўеўшчыне і Лідчыне, дзе я жыў, актывізавалася. У лютым 1942 года Саюз Узброенай Барацьбы быў пераіменаваны ў Армію Краёву (Ак).

Як аднесліся палякі да фашысцкіх акупантаў? Мая родная вёска Малыя Князікаўцы знаходзіцца на ўсход ад Ліды, каля 20 вёрстаў, на правым беразе ракі Жыжма. Калі ўзяць нацыянальны склад, то больш за 90 сем'яў былі беларусамі праваслаўнымі і шэсць – сем сем'яў – палякі каталікі. У першы дзень прыходу немцаў, у чэрвені 1941 года, палякі каталікі каля Бічэлевай студні сустракалі фашыстаў хлебам-соллю. Яны спадзяваліся, што немцы знішчаць бальшавікоў і на тэрыторыі Заходняй Беларусі адновяць польскую ўладу. Праўда, немцы ў гэты час, палякаў не растрэльвалі, а вось 20 сялян з вёсак Вялікія і Малыя Князікоўцы Іўеўскага раёна і 5 чырвонаармейцаў, палонных ва ўрочашчы Камарышкі-Падбярэзнік, 30 чэрвеня 1941 года - растралялі [1].

Што датычыць аднавяскоўцаў палякаў, то большасць з іх супрацоўнічала з немцамі, а з паяўленнем Арміі Краёвай дапамагала акаўцам. У першую чаргу неабходна адзначыць С. Міхаловіча, які пры немцах быў старастам. Актыўна падтрымліваў немцаў і акаўцаў Юзак Шарыч. Ён ужо ў 1920 г. выдаў свайго суседа Міхася Барысевіча польскім жаўнерам, якія таго растралялі за сімпатыю да бальшавікоў. І ў гады Вялікай Айчынай вайны Ю. Шарыч выдаваў як немцам, так і акаўцам сваіх аднавяскоўцаў за сувязь з партызанамі. Пасля вайны Шарыч са сваёй сям'ёй апынуўся ў Польшчы. Партызаны вельмі хацелі злавіць Міхаловіча і рабілі некалькі папытак, але на працягу двух гадоў так і не змаглі яго пакараць. Прывяду два выпадкі. Аднойчы партызанам стала вядома, што С. Міхаловіч знаходзіцца ў сваёй хаце, гэта была зіма 1944 года, партызаны акружылі хату і сталі калаціць у дзверы. Калі ў хаце пачулі грукат, то Міхаловіч хутка залез на гару і пабег да знаёмых у веску Андрушкі. Партызаны ўвайшлі ў хату, а яго і след прастыў. Другі выпадак: ён вясной ехаў на возе да хаты з адной з трох дачок - Вандай. Партызаны хацелі яго затрымаць, але ён так пагнаў кабылу, што тыя не змаглі

астанавіць павозку. Тады яны адкрылі з ружаў агонь. Сам гаспадар у гэтай перапалцы застаўся цэлым, а вось 12 гадовую дачку цяжка паранілі, але яна засталася жыць. Пры адступленні немцаў у ліпені 1944 года С. Міхаловіч апынуўся ў Польшчы, а ў пасляваенны перыяд туды забраў жонку і трох дачок.

Але было б памылкова думаць, што ў маёй вёсцы толькі дапамагалі немцам і акаўцам. У гады вайны з вёскі на франтах Вялікай Айчынай вайны і ў партызанскіх атрадах з першых месяцаў змагаліся Міхаіл Заруба, Міхаіл Новік, Уладзімір Паплёўка, Валянціна Барысевіч, якая выйшла замуж за партызана па прозвішчу Багданаў і яны разам змагаліся з фашысцкімі акупантамі. Аднойчы мой тата, рызыкуючы сваім жыццём і сваёй сям'ёй схаваў В. Барысевіч у сваёй хаце ў час аблавы нямецкіх карнікаў.

Першыя атрады (батальёны) Арміі Краёвай на тэрыторыі Заходняй Беларусі з'явіліся ў 1942 годзе [2]. На тэрыторыі Заходняй Беларусі былі створаны і дзейнічалі чатыры акругі Арміі Краёвай: Беластоцкая, Навагрудская, Віленская і Палеская. Найбольш буйнымі атрадамі былі батальёны Навагрудскай акругі, якія ў чэрвеня 1944 года дасягнулі 7,7 тыс. чалавек, прычым 40% з іх складалі праваслаўныя беларусы [3]. Усяго на тэрыторыі Заходняй Беларусі на чэрвень 1944 г. налічвлася каля 20 тысяч жаўнераў і афіцэраў. У некаторых крыніцах указваецца, што ў структурных падраздзяленнях АК, што дзейнічалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі, налічвалася 50 тыс. чалавек, у тым ліку – 565 афіцэраў, 530 падафіцэраў і 8796 сяржантаў [4].

На першых парах Армія Краёва мела някепскія адносіны з беларускімі партызанамі. Праходзілі сустрэчы паміж камандаваннем АК і партызанскімі палявымі камандзірамі ў пошуках паразумення. Так, сустракаліся прадстаўнікі 7 батальёна Навагрудскай акругі АК і партызаны Рудніцкай пушчы за рэчкай Сольчай і абмяркоўвалі магчымасць правядзення сумеснай аперацыі на разграмленне нямецкага гарнізона ў Лідзе. Але ад гэтага плана прышлося адказацца, бо не хапала сілы і ахвяры былі б несуадносныя з пастаўленай мэтаю [5]. Але ёсць шмат прыкладаў, калі беларускія партызаны і Армія Краёва сумесна правялі шэраг баявых аперацый супраць нямецкіх акупантаў. Так, вясной 1943 года акаўцы і беларускія партызаны атакавалі фашысцкі гарнізон у Жалудку, а ўлетку гэтага года партызаны і акаўцы сумесна вялі гераічную барацьбу супраць 60-тысячнай групоўкі нямецкіх войск, якія праводзілі блакаду Налібоцкай пушчы [6].

На жаль, добрыя адносіны паміж беларускімі партызанамі і Арміяй Краёвай хутка перараслі ў сутычкі і крывавыя бойкі. Адной з прычын такіх паводзін беларускіх партызан і акаўцаў было тэрытарыяльнае пытанне. Польскі эміграцыйны ўрад і АК лічылі, што пасля вызвалення тэрыторыі Заходняй Беларусі ад нямецкіх акупантаў, далучыць яе да Польшчы, што азначала аднавіць тэрыторыю Польшчы ў граніцах да вераснёўскіх падзей 1939 года. Іншымі словамі, тэрыторыя і насельніцтва Беларусі павінны быць у межах Польскай дзяржавы. Палякам стала вядома і аб трагедыі польскіх афіцэраў ў Хатыні. Адносіны паміж СССР і польскім урадам у сакавіку 1943 года былі разарваны. У хуткім часе ЦККП(б) Беларусі накіроўвае падпольным цэнтрам лісты "Аб ваеннапалітычных задачах работы ў заходніх абласцях БССР". У якім гаварылася: "Заходнія вобласці Савецкай Беларусі з'яўляюцца неад'емнай часткай Беларускай Рэспублікі. На яе тэрыторыі, акупіраванай Германіяй, дазваляецца дзейнасць толькі тых груп, арганізацый і атрадаў, якія кіруюцца інтарэсамі СССР" [7].

Што датычыць кіраўніцтва Арміі Краёвай, то і яна прымае адпаведнае рашэнне. Вось выпіска з пратакола № 5 ад 3 мая 1943 г. "Адносіны партыі "Грэнадзёраў" да нямецкай улады: "Наша партыя падвяргаецца праследаванню як з боку немцаў, так і з боку партызан" – і далей – "як беларус, так і немец з'яўляюцца нашымі ворагамі" [8]. І вось пачаліся разборкі паміж беларускімі партызанамі і акаўцамі. Так, камандаванне брыгады імя Кірава Лідскага партызанскага злучэння камандзіру Баранавічскага злучэння ад 10 лютага 1944 года паведамляюць: "Праведзена вялікая аперацыя на ачышчэнне лідскага раёна ад белапольскіх банд (АК – М.В.). У аперацыі ўдзельнічала – 110 чалавек атрада "Іскра", 40 чалавек атрада "Бастыец", 60 чалавек атрада группы капітана Вароніна і ад Чапаеўскай брыгады – 90 чалавек. Было забіта 15 чалавек, 18 паранена і адзін акавец узяты ў палон. Адначасова злавілі і растралялі 4 белапольскіх шпіёнаў.

Нашыя страны: 1 забіты і 1 паранены" [9]. У адказе на дзеянне партызан Армія Краёва 24 і 25 лютага 1944 года спалілі вёскі Турэйск і Затор'я Жалудоўскага раёна, спалілі 350 хат. Многіх жыхароў гэтых вёсак акаўцы забілі і паранілі. Яны захапілі правы бераг Нёмана і толькі ў адным падраздзяленні на працягу лютага забілі 15 партызан [10].

Згодна афіцыйных данных, толькі у Навагрудскай акрузе ў гады вайны Армія Краёва правяла 158 баёў, у тым ліку з беларускімі партызанамі – 83. Баі партызан з акаўцамі, дзе былі значныя ахвяры з абедзвюх бакоў, адбыліся на Навагрудчыне, Іўеўшчыне, Ашмяншчыне, Лідчыне і ў другіх населеных пунктах Заходняй Беларусі.

Супярэчнасці паміж беларускімі партызанамі і Арміяй Краёвай умела скарысталі немцы. Нямала ёсць прыкладаў і сведкаў тых трагічных падзей, калі немцы аказвалі акаўцам дапамогу ў зброі і вялі сумесна з імі баявыя дзеянні супраць партызан.

У маёй памяці засталіся некалькі эпізодаў сустрэч з акаўцамі, з іх дзеяннямі ў маёй роднай вёсцы і ў суседніх вёсках, у якіх жылі знаёмыя і сваякі, якіх я ведаў асабіста. Так, вясною 1944 года перад Вялікаднем Я. Конан з Засценка вяртаўся дамоў з города Ліды з пакупкамі. Яго затрымалі акаўцы каля вёскі Бялундзі, завялі ў лес на Лысую гару і растралялі. Акаўцы растралялі сялян-беларусаў у Сліжах – Ігнася і Міхала Ігнатовічаў і Андрэя Горбача.

Не раз акаўцы прыходзілі ў маю вёску, дзе рабавалі сялян-беларусаў. Гэта было вясной 1944 года, калі ў нашу вёску ўварвалася група акаўцаў і стала здзеквацца з сям'і Сямёна Мальца. Гэта ўсё бачыла маці Сямёна, васьмідзесяцігадовая Палюта. Яна заступілася за ўнукаў і сказала акаўцам: "Каб вас пазабівалі ў нямыя дошкі, як вы б'яце нявінных людзей". Кажуць, што за гэтыя словы яе хацелі застрэліць, але ім перашкодзілі выстралы партызан і парада ксёндза, які тут быў.

Здаецца дзівосным, але гэта факт, што мне і маім аднавяскоўцам не менш 3-4 разоў прышлося шукаць ратунку ад акаўцаў у нямецкім гарнізоне, які ахоўваў чыгуначны мост на рацэ Жыжма. Калі ў нашу вёску ішлі акаўцы, то насельніцтва бегла да немцаў і прасіла дапамогі. Звычайна ў вёску прыходзіла 2-3 немца з Жыжэмскага гарнізона і па іх загаду акаўцы пераставалі рабаваць насельніцтва і увогуле зніклі. Я быў сведкай, як акаўцы затрымалі двух партызан: Уладзіміра Келя, актыўнага барацьбіта за савецкую ўладу, і другога партызана, таксама мясцовага жыхара. Акаўцы завялі гэтых партызан у Сонтакі і пасля катаванняў і здзекаў іх растралялі [11]. Неверагодна, але факты! Якія я бачыў і перажыў.

Не спыніла сваёй дзейнасці АК і пасля вызвалення Заходняй Беларусі ад фашысцкіх акупантаў. Так, на тэрыторыі Лідчыны за перыяд са жніўня 1944 г. па чэрвень 1945 г. ахвярамі акаўцаў сталі 112 чалавек, у тым ліку 28 раённых работнікаў, 10 старшынь сельскіх Саветаў, 27 дэпутатаў і ўпаўнаважаных [12]. На Іўеўшчыне за няпоўныя шэсць месяцаў пасля вызвалення ад немцаў, ад рук акаўцаў загінула 32 камуністы. На тэрыторыі былога Юрацішкаўскага раёна за гэты ж перыяд акаўцы забілі 33 сельскіх і раённых актывістаў [13].

Афіцыйна Армія Краёва была распушчана ў пачатку 1945 года. І на мой погляд, пасля заканчэння вайны трэба лічыць, што гэта ўжо былі не акаўцы, а звычайныя бандыты, так як яны займаліся бандытызмам. Некаторыя крыніцы даюць нам звесткі, што на Іўеўшчыне з лета 1944 года па 1953 год былымі акаўцамі забіта 124 жыхара, не лічачы байцоў і камандзіраў савецкіх узброенных фарміраванняў [14].

Няхай больш такіх жудасных падзей на беларускай зямлі ніколі не будзе. А нам, беларусам і палякам, патрэбен мір, узаемапаразуменне і братэрскія адносіны, якія існавалі не адно стагоддзе.

## Крыніцы і літаратура:


1. Памяць. Іўеўскі раён. Мн., Белта, 2002 г. С – 248, 251.
2. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., Т.1 С. – 153.
3. Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Мн., Беларусь, 1933. С. – 61.
4. Тэзісы чацвёртай навуковай канферэнцыі беларускіх і польскіх гісторыкаў: Армія Краёва на тэрыторыі Заходняй Беларусі (чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.г.). Гродна, 1994 г. С. – 61.

5. Сямашка Яўген. Армія Краёва на Беларусі. Мн., 1994, С – 153.
6. 55 гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне: погляд праз гады, новыя канцэпцыі і падыходы. Матэрыялы навукова-тэарэтычнай канферэнцыі 4-5 мая 2000 года. Частка II. Мн., 2001. С – 41.
7. Туронак Юры. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. “Беларусь”, 1993, С. – 101.
8. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Воп. 2 СПР. 50, л. 51
9. НАРБ, Воп 4, Спр. 253, с. – 18.
10. НАРБ, Воп 2, Спр. 49, с. – 163.
11. Памяць. Іўеўскі раён. Мн., Белта, 2002 г. С. – 221.
12. Ліда. Наш радавод. Ліда, 1994. Кн 6. С. – 105.
13. М.В. Васілючак і іншшыя. Іўе. Гісторыка-эканамічны нарыс. Мн., “Беларусь”, 1991. С. – 74.
14. З гісторыі вякоў і пакаленняў Іўеўскага краю. Матэрыялы навукова-практычнай краязнаўчай канферэнцыі 15 лютага 1998, г.п. Іўе. Беларусь. Гродна 1999. С. – 140.

**Я. Бязлепкін (Мінск)**

# Партызанскі і падпольны рух на Навагрудчыне ў 1941-1944 гадах

Пасля цяжкіх кровапралітных баёў на Навагрудчыне ў чэрвені – пачатку ліпеня 1941 года адрэзанымі ад фарміраванняў Чырвонай Арміі аказаліся сотні і тысячы савецкіх воінаў. Як адзначаў гродзенскі даследчык І. Басюк у кнізе "Навагрудскі кацёл", "разрозненыя савецкія часці да сярэдзіны жніўня 1941 г. аказвалі супраціўленне ў раёне Налібоцкай пушчы" [1]. Былі акружэнцы і на поўдні Навагрудчыны, менш лясістай, таму яны вымушаны былі хавацца ў аддаленых хутарах і вёсках, прасіць у насельніцтва прытулку і дапамогі. Многіх з гэтых воінаў, ураджэнцаў шматнацыянальных рэспублік СССР, прытулілі сельскія жыхары.

У кнізе І. Басюка змешчана цікавая інфармацыя пра тое, што Навагрудскі раённы савет ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны склаў спіс з 48 ваеннаслужачых, былых акружэнцаў, а пазней партызан, якія знайшлі дапамогу сярод мясцовых жыхароў. У гэтым спісе – вядомыя прозвішчы партызан, якія вызначыліся падчас змагання супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў і іх памагатых, а некаторыя загінулі і пахаваны на навагрудскай зямлі. Названы таксама вёскі, у якіх знайшлі прытулак галодныя, параненыя ці кантужаныя воіны. Рызыкуючы жыццямі сваіх сем'яў, гэтыя людзі выхаджвалі параненых, забяспечвалі іх адзеннем і ежай, выдавалі за сваіх родзічаў, пакуль вермахт у сакавіку 1942 года не прыняў указ, згодна якога адпушчаныя чырвонаармейцы павінны былі вярнуцца ў лагеры ваеннапалонных. Нямецкія ўлады на Навагрудчыне, як і ўсюды на акупаваных імі тэрыторыях СССР, узяліся ўшчыльную за праверку і гвалтоўнае прыцягненне ў паліцыю мужчын мабілізацыйнага ўзросту.

Можна меркаваць, што сапраўдная колькасць воінаў і колькасць вёсак нашмат большыя, бо многія партызаны з былых акружэнцаў засталіся безымяннымі, загінуўшы ў першых "партызанскіх" сутычках. У гістарычнай літаратуры ўзгадваецца пра "атрад палкоўніка Басіярава, які ваяваў на ўсход ад Навагрудка", групу пагранічніка Івана Марозава, пра іншыя невялічкія атрады ці групы вайскоўцаў, якія ва ўмовах акружэння, а пасля знаходжання ў нямецкім тыле вымушаны былі перайсці да партызанскіх метадаў барацьбы [2]. Многія з іх загінулі ў першыя месяцы акупацыі Навагрудчыны [3].

З іх, акружэнцаў так званага Навагрудскага катла, і пачынаецца адлік першага, бадай, самага складанага перыяду партызанскай барацьбы ў гэтым рэгіёне. Фактычна яны, людзі, якія ўмелі трымаць у руках зброю і якія паспелі паўдзельнічаць у баях і мелі няхай і невялікі, але ваенны вопыт, сталі фундаментам першых партызанскіх груп,

[1] Басюк, І. Навагрудскі кацёл. С. 176.

[2] Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. (июнь 1941 - июль 1944). Сост. В.Ф.Романовский, В.С.Лазебников. Мн, Беларусь, 1983. -765 с. ; Памяць: гісторыка-дакументальая хроніка Навагрудскага раёна. Мн: Беларусь, 1996. – 559 с.

[3] Памяць: гісторыка-дакументальая хроніка Навагрудскага раёна. Мн: Беларусь, 1996. – С. 325-26

а потым і атрадаў у Навагрудскім раёне. Да іх далучыліся патрыёты з ліку мясцовых жыхароў, якія  вымушаны былі пайсці хто ў партызанскі атрад, а хто ў падполле, бо з'яўляліся камуністамі, займалі пэўныя пасады пры савецкай уладзе, а многія з іх яшчэ раней пад "панскай Польшчай" былі палітвязнямі ў польскіх турмах і ў 1939 годзе віталі ўз'яднанне Заходняй і Усходняй Беларусі. У партызанскія атрады паступова прыходзіла і моладзь, якой пагражала прымусовая мабілізацыя ў мясцовую дапаможную паліцыю.

"Пачыналі  з дзвюх вінтовак і пяці патронаў", – прыгадваў на старонках "Гродзенскай праўды" А.М. Ляошка, лейтэнант-акружэнец, які сабраў партызанскую групу з такіх самых акружэнцаў [4]. Восенню 1941, нападаючы на атрад карнікаў, партызаны групы А.М. Ляошкі мелі на мэце перш за ўсё разжыцца трафейнай зброяй. Збіралі яе па лясах, выпрошвалі ў мясцовых людзей, якія ўлетку падабралі зброю ў наваколлі, дзе ішлі моцныя баі.  Найбольш цяжка было партызанам зімой, калі ў снежні 1941 і ў студзені-лютым 1942 г.  на Навагрудчыне стаялі лютыя маразы і не было яшчэ вопыту дзейнасці ў такіх умовах. Недарэмна потым у мемуарах многія былыя нямецкія генералы наракалі на савецкага "генерала Зіму", але сапраўды суровыя маразы былі перашкодай як для нямецкага, так і для савецкага боку. Магчыма, таму, што існавалі праблемы з нястачай зброі,  зямлянак, запасу харчавання, зімовай вопраткі, большасць партызанаў вырашылі перачакаць зіму ў розных аддаленых ад нямецкіх гарнізонаў вёсках і актывізавалі сваю дзейнасць вясною.

З партызанскіх груп А.Ляошкі і М.Чайкоўскага, з іншых разрозненых груп, якія дзейнічалі на тэрыторыі Навагрудскага і суседніх раёнаў, быў створаны ў маі 1942 г. партызанскі атрад імя Р.І.Катоўскага. На баявым рахунку гэтага атраду было шмат смелых аперацый: па дарозе Навагрудак-Карэлічы захапілі каменданта Карэліч, узялі ў палон обер-лейтэнанта, знішчылі два  нямецкія грузавыя  аўтамабілі з жывой сілай, напалі на карнікаў, якія спрабавалі  ўгнаць моладзь у Германію [5].

З былых акружэнцаў быў ствараны і атрад (у верасні 1942 г. ён атрымаў назву "імя Чапаева"), які спачатку базіраваўся на хутары Баркі непадалёку ад Любчы, куды паступова сагітавалі моладзь з Любчанскага, Мірскага і Карэліцкага раёнаў. Канспірацыі вучыліся цаною ўласных жыццяў: аднойчы хутар разбамбіў нямецкі самалёт (спрацавала нямецкая разведка), і рэшткі атраду ў 80 чалавек вымушаны былі перабрацца ў адзін з  гушчароў велізарнай Налібоцкай пушчы. У асноўным займаліся  знішчэннем паліцэйскіх участкаў, падрыўнымі работамі на чыгунцы і нападамі на нямецкія аўтамашыны на шасэйных дарогах. Так, за 1942 год гэты атрад разграміў 10 паліцэйскіх участкаў, пусціў пад адхон 12 эшалонаў і ўзарваў 4 аўтамабілі праціўніка [6].

Партызанскі атрад "Кастрычніцкі" таксама вырас з былых акружэнцаў (да 13 лютага 1943 г. дзейнічаў самастойна як атрад "96-ы Панчанкі", назва ўзята ад прозвішча камандзіра лейтэнанта Віктара Ільіча Панчанкава) [7]. Лейтэнант камандаваў кулямётным узводам 213-га стралковага палка 56-й стралковай дывізіі, разам з саслужыўцамі ў акружэнні перайшоў на партызанскія метады барацьбы, з цягам часу да яго далучылася група А.А. Рэдзькі, а потым ужо гэтая ўзбуйненая група значна вырасла за кошт  мясцовых людзей. Вайна прымусіла жыхароў Навагрудскага раёна цэлымі сем'ямі станавіцца партызанамі, як, напрыклад, сям'я Мазураў з вёскі Дубатоўка, дзе старэйшы сын неўзабаве ўзначаліў конную разведку атрада, а малодшыя таксама сталі разведчыкамі, бо добра ведалі наваколле і мясцовыя рэаліі. У большасці выпадкаў у лес ішлі маладыя хлопцы, услед за імі прыходзілі іх сем'і, калі нямецкія ўлады пачалі помсціць родзічам партызан. Вось чаму каля 80% партызан атрада "Кастрычніцкі" было з тутэйшых жыхароў, а 20% складалі былыя акружэнцы.

Атрад "Кастрычніцкі" вызначаўся баяздольнасцю: рэгулярна праводзіліся дыверсіі на чыгунцы Наваельня, засады на шасэ Навагрудак-Наваельня і іншых дарогах, за час вайны пусцілі пад адхон 40 цягнікоў, нягледзячы на тое, што немцы ахоўвалі гэтыя аб'екты і загадалі вырубіць лес уздоўж чыгунак [8]. Летам 1943 г. атрад пусціў пад адхон

[4] Встреча// Гродненская правда. – 1983. – 12 ноября.
[5] Памяць: гісторыка-дакументальая хроніка Навагрудскага раёна. Мн: Беларусь, 1996. – С. 292
[6] Памяць: гісторыка-дакументальая хроніка Навагрудскага раёна. Мн: Беларусь, 1996. – С. 292
[7] Макулик, М.Г. Любчанские подпольщики / М. Макулик // В принёманских лесах. Воспоминания партизан и подпольщиков. Мн: Беларусь, 1978. – С.100–117
[8] Памяць: гісторыка-дакументальая хроніка Навагрудскага раёна. Мн: Беларусь, 1996. – С. 291

цягнік з танкавым батальёнам, які ішоў у бок Баранавіч. Атрад "Кастрычніцкі" падчас вайны кантраляваў тэрыторыю ад чыгункі на станцыі Наваельня да чыгункі на станцыі Нёман. Гэта быў вопытны і вялікі атрад, невыпадкова ў лістападзе 1943 г. "Кастрычніцкі" выдзеліў групу партызан для стварэння асновы новага атраду "За Савецкую Беларусь", куды ўліліся байцы з ліку жыхароў Навагрудскага і Івянецкага раёнаў. На ліпень 1944 г. новастворааны атрад ужо складаўся з 84 партызан, а ў атрадзе "Кастрычніцкі" на момант злучэння з Чырвонай Арміяй у 1944 г. было 298 байцоў. Да таго ж гэты атрад карыстаўся падтрымкай насельніцтва: базіраваўся ў вёсках Кміцянка, Каменка, Радзюкі, Осава, Навіны, Журавельнікі, Пятрэвічы, Пературкі, Ігнатава, Драчылава, Янавічы Навагрудскага раёна і ў шэрагу вёсак Дзятлаўскага раёна. Партызанскі атрад "Кастрычніцкі" пазней увайшоў у партызанскую брыгаду імя Кірава з Лідскага раёна, а з красавіка 1943 г. Лідскае партызанскае злучэнне аб'яднала шэсць партызанскіх брыгад, створаных з шэрагу партызанскіх атрадаў, якія дзейнічалі на тэрыторыі Навагрудскага, Любчанскага, Лідскага, Юрацікага, Радунскага, Іўеўскага і Воранаўскага раёнаў [9].

У кнізе "В едином строю. Воспоминания участников партизанского движения в Белоруссии" змешчана цікавая інфармацыя пра атрад Нікіціна, чые баявыя групы вызначыліся 8 ліпеня 1942 г. пры нападзе на нямецкую калону аўтамашын на шасэ Навагрудак-Баранавічы [10]. Адзначаючы баявы ўнёсак гэтага і іншых партызанскіх атрадаў у 1942 г., варта гаварыць і пра маральна-псіхалагічнае значэнне іх дзейнасці: у ліпені 1941 г. немцы з'явіліся на Навагрудчыне ў статусе новаяўленых гаспадароў, многія з іх, прайшоўшы паў-Еўропы, былі ўпэўненыя, што ўсходнія тэрыторыі гэтаксама лёгка заваяваць і падпарадкаваць Рэйху, і памыліліся. У хуткім часе акупанты пачнуць баяцца перамяшчацца па шасэ Навагрудак-Наваельня, Навагрудак-Бярозаўка без суправаджэння танкаў, чыгунка будзе ўспрымацца як вельмі небяспечны шлях, нягледзячы на рэгулярную ўзмоцненую ахову, а невялікія пасялковыя дарогі ўвогуле будуць уяўляць для немцаў суцэльны жах. Акупанты пачнуць баяцца не толькі савецкіх партызан, але і партызан польскіх, якія на Навагрудчыне напачатку вайны ваявалі супраць немцаў, баяцца нават няўзброеныя групкі сялян, падазраючы ў іх партызанаў.

Будуць баяцца немцы гарадскіх і сельскіх падпольшчыкаў, якія знешне выглядалі пакорлівымі і падпарадкоўваліся загадам нямецкай цывільнай адміністрацыі, але таемна на лесапільнях, сепаратарных пунктах, на палях сярод звычайных працаўнікоў у вёсках Паўбераг, Чарэшля, Галковічы, пасёлку Любча, у Навагрудку і многіх іншых населеных пунктах назіралі, выведвалі, аналізавалі, дастаўлялі звесткі партызанам, здзяйснялі сабатажы і дыверсіі, перашкаджалі рэквізіцыям зерня, мяса, малака, лесу і іншага дабра. На рахунку Любчанскага камсамольскага падполля, напрыклад, ужо ў 1942 годзе было нямала патрыятычных спраў: разграмілі гміну, малочны пункт, пашкодзілі тэлеграфна-тэлефонную сувязь, узарвалі цягнік на вузкакалейцы Любча-Навагрудак, папярэдзілі пра аблаву былых акружэнцаў, якія ўладкаваліся па вёсках[11].

Значнай баявой сілай на акупаванай тэрыторыі Беларусі былі атрады і дыверсійныя групы, створаныя па рашэнні франтоў і органаў дзяржбяспекі. Адзін з такіх атрадаў у маі 1942 г. быў накіраваны штабам Заходняга фронту: каля мястэчка Налібокі суседняга з Навагрудкам Івянецкага раёна была дэсантавана дыверсійная група лейтэнанта пад клічкай "Цыганок" (прозвішча засталося невядомым, падчас вайны група была законспіравана). За год – на май 1943 – гэтая дыверсійная група вырасла ў даволі салідны атрад (спачатку называўся "партызанскі атрад імя Знаменскага", а з 19 чэрвеня 1943 г. быў перайменаваны ў партызанскі атрад імя Молатава. Да сярэдзіны 1943 г. атрад дзейнічаў самастойна ў Навагрудскім, Карэліцкім і Гарадзішчанскім раёнах, а потым увайшоў у склад партызанскага злучэння Баранавіцкай вобласці [12].

[9] Высшее партизанское командование Белоруссии. 1941-1944: справочник / под ред. Э.Г. Иоффе. Мн.: Беларусь, 2009. – С. 82-83

[10] В едином строю. Воспоминания участников партизанского движения в Белоруссии. Мн.: Беларусь, 1970. – С. 416

[11] Макулик, М.Г. Любчанские подпольщики / М. Макулик // В принёманских лесах. Воспоминания партизан и подпольщиков. Мн: Беларусь, 1978. – С.100–107

[12] Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Июнь 1941- июль 1944. Сост. В.Ф.Романовский, В.С.Лазебников. Мн.: Беларусь, 1983. – 765 с.

На тэрыторыі Навагрудскага раёна дзейнічаў атрад "Кастрычнік" пад камандаваннем А.А.Гарэліка, які таксама, як і атрад імя Молатава, "вырас" з дыверсійнай групы, што была прыслана з-за лініі фронту. У адрозненне ад атраду "Кастрычніцкі", які ўзнік стыхійна з былых акружэнцаў, касцяк "Кастрычніка" склалі добра падрыхтаваныя байцы, якія прайшлі падрыхтоўку ў спецыяльнай школе .

Восенню 1942 г. для ўстанаўлення надзейнай сувязі з падпольнымі арганізацыямі і партызанскімі атрадамі і каардынацыі іх дзеянняў, а таксама для кіраўніцтва імі ЦК КП(б)Б прыняў рашэнне аб узнаўленні работы Баранавіцкага абкама партыі ў савецкім тыле, дзеля чаго было створана 10 арганізацыйных груп. Сакратар Баранавіцкага абкама партыі В.Я.Чарнышоў, які з першых дзён вайны займаўся арганізацыяй партызанскіх атрадаў у тыле праціўніка на тэрыторыях Віцебскай і Смаленскай абласцей, выконваў іншыя спецзаданні ЦК КП(б)Б у тыле ворага, быў цяпер прызначаны ўпаўнаважаным ЦК КП(б)Б і Цэнтральнага штаба партызанскага руху па Баранавіцкай вобласці [13]. З пастановы за № 268 ЦК КП(б)Б аб зацвярджэнні кіруючых партыйных кадраў па Баранавіцкай вобласці ад 16 лістапада 1942 г., згодна якой В.Я.Чарнышоў быў зацверджаны упаўнаважаным ЦК КПбБ па Баранавіцкай вобласці, працытуем наступныя радкі: "Выдзеліць у распараджэнне тав. Чарнышова 1 рацыю і 1 друкарскую машынку" [14]. Яны сведчаць пра разуменне вялікай ролі сувязі ў справе кіраўніцтва і каардынацыі дзеянняў партызанскіх фарміраванняў. Надавалася вялікае значэнне і друкаваным сродкам: насельніцтву акупаваных тэрыторый не хапала праўдзівай інфармацыі пра падзеі на франтах, маральнай падтрымкі, добрай агітацыі. І калі ў 1943 г. выйшлі першыя нумары Навагрудскай падпольнай газеты "Звязда" і Любчанскай "Смерць фашызму" тыражамі ў некалькі соцен экземпляраў, яны хутка разышліся сярод насельніцтва [15]. Нямецкая сістэма прапаганды была накіравана на сферу выхавання жыхароў, у першую чаргу моладзі, культурна-асветніцкія і прапагандысцка-палітычныя мерапрыемствы. Не толькі лістоўкі і аб'явы рэгулярна вывешваліся акупацыйнымі ўладамі для інфармавання мясцовага насельніцтва, але дастаўляліся газеты, дэманстраваліся кінафільмы з выразнай прафашысцкай ідэалогіяй і антыбальшавіцкімі лозунгамі. У Баранавіцкай акрузе падчас акупацыі нямецкія ўлады адкрылі пяць кінатэатраў, адзін з іх быў і ў Навагрудскім раёне. У рэпертуары гэтых кінатэатраў была ваенная кінахроніка і фільмы пра жыццё ў Германіі, у якіх праслаўляліся германскі рэйх і гітлераўскі рэжым [16].

З сакавіка 1943 г., з моманту стварэння арганізацыйных партыйных груп і пачатку дзейнасці Баранавіцкага падпольнага абкама партыі на чале з В.Я.Чарнышовым, пачынаецца працэс узбуйнення партызанскіх фарміраванняў. Так, напрыклад, у маі 1943 г. на базе партызанскіх атрадаў Навагрудскага, Карэліцкага, Мірскага і іншых раёнаў была створана Першамайская партызанская брыгада. На момант злучэння з Чырвонай Арміяй у ёй налічвалася 627 чалавек [17].

Партызанская брыгада імя Ф.Э.Дзяржынскага таксама была створана на базе партызанскіх атрадаў некалькіх раёнаў, у складзе гэтай брыгады ваяваў атрад імя Катоўскага (пасля гібелі М.Чайкоўскага камандзірам быў прызначаны малодшы лейтэнант А.Ляошка). Байцы брыгады ўдзельнічалі ў знакамітай дыверсійнай акцыі пад кодавай назвай "Канцэрт" у чэрвені 1944 г. на чыгунцы Ліда-Маладзечна. Аб'яднанне ў брыгаду дало магчымасці каапераваць сілы, планаваць і ажыццяўляць адначасовыя буйнамаштабныя аперацыі. Стала звычайнай практыкай, калі некалькі атрадаў дзейнічаюць, а некалькі "падстрахоўваюць" у засадах, бо ў 1944 г. фронт знаходзіўся непасрэдна на тэрыторыі Беларусі, а тылавыя і франтавыя войскі вермахту, а таксама ваенізаваныя калабарацыяніcцкія фарміраванні і мясцовая дапаможная паліцыя былі добра ўзброены і падрыхтаваны да ўпартай абароны.

[13] Высшее партизанское командование Белоруссии. 1941-1944: справочник / под ред. Э.Г. Иоффе. Мн.: Беларусь, 2009. – С. 77-79

[14] Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941-июль 1944), т.2, кн.1. Мн.: Беларусь, 1973. – С. 436-437

[15] Памяць Беларусі: Рэспубліканская кніга // Рэд. кал. Г.П.Пашкоў і інш. Мн.: БелЭн, 2005. – С. 386

[16] Коваленя, А.А. Беларусь 1939-11945 гг. Война и политика. Мн.: Веды, 2001. – С. 86-87

[17] Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Июнь 1941- июль 1944. Сост. В.Ф.Романовский, В.С.Лазебников. Мн.: Беларусь, 1983. – 765 с.

Узмацненне партызанскага руху ў заходніх рэгіёнах Беларусі сведчыла пра разуменне ваенным і партыйным кіраўніцтвам СССР важнасці такой стратэгічнай меры, бо ў хуткім часе на гэтай тэрыторыі планаваліся наступальныя аперацыі Чырвонай Арміі, а немцы ў зоне дзейнасці групы армій "Цэнтр" мелі моцную абарону. Вялікую небяспеку ўяўляла на той перыяд таксама польскае "акаўскае" падполле. 22 чэрвеня 1943 г. ЦК КП(б)Б прыняў пастанову аб далейшым разгортванні партызанскага руху ў заходніх абласцях Беларусі [18]. Згодна гэтай пастановы з Усходняй у Заходнюю Беларусь былі перакінуты 9 партызанскіх брыгад, 10 атрадаў і 15 арганізацыйных груп, адпаведна было накіравана папаўненне і на тэрыторыю Навагрудскага раёна.

Можам меркаваць, што была яшчэ адна значная прычына для ўзмацнення партызанскіх сіл. Пасля цяжкіх паражэнняў падчас Сталінградскай і Курскай бітваў, а таксама пасля контрнаступу Чырвонай Арміі на поўдні СССР нямецкае камандаванне разумела, што адбыўся канчатковы перелом у вайне, таму планавала ўпартае супраціўленне на тэрыторыі Беларусі. Неабходна было ўмацоўваць тылавыя раёны, у тым ліку і за кошт знішчэння партызанскіх фарміраванняў, якія былі добра ўзброены і ўсё больш актыўна дзейнічалі на чыгуначных і іншых камунікацыях, нападалі на нямецкія гарнізоны і г.д. Нямецкі абвер разам з кіраўніцтвам СС і армейскім камандаваннем у гэты час распрацоўвалі буйнамаштабныя карныя аперацыі з мэтай зачысткі тылавых раёнаў. Былы сакратар Баранавіцкага падпольнага абкама партыі і камандзір Баранавіцкага партызанскага злучэння В.Я.Чарнышоў ва ўспамінах расказваў пра тое, як у чэрвені 1943 г. партызанская разведка даведалася, што у Навагрудак, Мінск, Маладзечна і Ліду прыбылі групы воінскіх фарміраванняў з артылерыяй і танкамі і новыя аўтамабільныя часці [19]. Разведка паведаміла, што рыхтуецца карная аперацыя, у якой будуць задзейнічаны 4 групоўкі нямецкіх войск агульнай колькасцю больш за 50 тыс чалавек. Кіраваць гэтай аперацыяй будзе сам Готберг, які са сваім штабам размясціўся ў Навагрудку. Разам з Готбергам у горад прыбыў упаўнаважаны Гітлера па барацьбе з партызанамі генерал фон Бах-Зялеўскі...

Камандаванне Баранавіцкага партызанскага злучэння прыняло рашэнне частку брыгад і атрадаў пакінуць для абароны пушчы, дзе хавалася насельніцтва, а другой часткай выйсці ў тыл ворага і граміць яго. Больш месяца змагаліся партызаны з франтавымі і карнымі войскамі СС. Сілы былі няроўнымі, да таго ж моцна спрацавала нямецкая разведка, якая, на думку шэрагу айчынных і замежных гісторыкаў, здолела ўкараніць у партызанскія атрады агентаў абверу з мясцовых калабарантаў і былых ваеннапалонных [20]. Так, немцы адрэзалі лясныя базы, тым самым пазбавіўшы партызан магчымасці папаўняць запасы зброі і харчавання. Партызанам давялося перажыць пяць "катлоў", апошні тэрыторыяй 9 км. на 5 км. Згодна інфармацыі генерал-маёра В.Я. Чарнышова, падчас карнай аперацыі "Герман" было забіта 129 партызан, 52 паранены, а 24 прапалі без весткі. Наконт нямецкіх страт В.Я. Чарнышоў пісаў, што было забіта каля сотні немцаў, узарвана 60 аўтамабіляў, знішчана некалькі танкаў і бронемашын, а таксама артылерыйскіх і мінамётных батарэй [21].

Аперацыя "Герман" праводзілася ў раёнах, якія ў асноўным кантраляваліся партызанамі. Шырокамаштабная акцыя ажыццяўлялася з мэтай ліквідацыі партызанаў і іх баз, а таксама рэквізіцыі прадуктаў харчавання і жывёлы. Але не менш важнай задачай, якая была пастаўлена Берлінам перад нямецкімі акупацыйнымі ўладамі , была мабілізацыя людзей у Германію, якой былі патрэбны працоўныя рукі на ваенных прадпрыемствах і ў сельскай гаспадарцы. Падчас аперацыі "Герман" было гвалтоўна ўгнана 20 944 асобы працаздольнага ўзросту – своеасаблівы "рэкорд" у параўнанні з усімі папярэднімі карнымі акцыямі 1942-1943 гг. [22]

[18] Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941-июль 1944), т.2, кн.1. Мн.: Беларусь, 1973. – С. 467-468

[19] Чернышев, В.Е. Организующая и направляющая сила / В.Е. Чернышев // За край родной. Воспоминания партизан и подпольщиков Барановичской области. Мн.: Беларусь, 1978. – С. 28-35.

[20] Туронак, Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі / Ю Туронак. Вільня. Інстытут беларусістыкі, 2006. – С. 590.

[21] Чернышев, В.Е. Организующая и направляющая сила / В.Е. Чернышев // За край родной. Воспоминания партизан и подпольщиков Барановичской области. Мн.: Беларусь, 1978. – С. 28-35.

[22] Туронак, Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі / Ю Туронак. Вільня. Інстытут беларусістыкі, 2006. – С. 612.

Уганялі не толькі ў Германію, але і жорстка эксплуатавалі на прыфрантавых тэрыторыях, адпраўлялі жыхароў капаць акопы і іншыя ваенныя ўмацаванні , так быў угнаны ў Расію ў раён ракі Волхаў разам з аднавяскоўцамі падпольшчык, сакратар Навагрудскага падпольнага райкома камсамола Іван Капытка, які шмат рызыкаваў дома, на Навагрудчыне, выконваючы небяспечныя заданні( дастаўляў з Мінску любчанскім партызанам ўзрыўчатку, здабываў праз падпольшчыкаў нямецкія лекі і многае іншае), а загінуў далёка ад дому ля латвійскага хутара пры спробе збегчы з няволі. Такі ж лёс напаткаў і многіх іншых маладых падпольшчыкаў Любчанскай зоны, якія былі ўгнаны на прымусовую працу ў прыфрантавыя зоны і ў Германію. Пра тое, што на трэцім годзе вайны з СССР немцы мелі вострую няхватку працоўных рук, сведчыць і такі факт: у канцэнтрацыйным лагеры Калдычава пад Баранавічамі ў канцы 1943 г. начальнік лагеру "перадэкларававаў" яўрэйскіх рабочых у звычайных вязняў, адрапартаваўшы наверх, што ўсе яўрэі знішчаны: лагеру былі даведзены вялікія працоўныя заданні для патрэб вермахту, выконваць якія станавілася ўсё больш праблематычна [23].

Партызанскі рух на Навагрудчыне пасля аперацыі "Герман" характарызаваўся яшчэ большай актыўнасцю з прычыны масавага прыходу ў партызаны мясцовага насельніцтва, якое ўцякала ў лясы і імкнулася адпомсціць немцам за злачынствы, учыненыя над іх роднымі. Значна актывізавалася сувязь між падпольнымі камсамольскімі і антыфашысцкімі маладзёжнымі арганізацыямі і партызанскімі атрадамі, кіраўнікі Любчанскага і Навагрудскага падпольных райкамаў партыі і камсамола працуюць у шчыльнай звязцы з кіраўнікамі партызанскіх фарміраванняў. Працягваецца папаўненне партызанскіх радоў не толькі за кошт мясцовага насельніцтва: у студзені 1944 г. у Навагрудскі раён прыбыла партызанская брыгада імя Чапаева (быў яшчэ і атрад імя Чапаева). Немецкая разведка таксама фіксавала ўзмацненне партызанскіх сіл, у сваю чаргу нямецкі бок павялічвае свае тылавыя і франтавыя войскі вермахту, перакідвае на тэрыторыю будучых абарончых баёў казацкія войскі [24], робіць захады па мабілізацыі мужчынскага насельніцтва ў войскі Беларускай краёвай абароны, а ў чэрвені 1944 года вымушаны былі таксама прыцягнуць сілы так званай Рускай вызвольнай народнай арміі Б. Камінскага, сумна вядомай сваёй жорсткасцю, якая два з паловай тыдні ваявала супраць партызан і байцоў Чырвонай Арміі ў раёне Усялюб-Навагрудак [25]. І хаця Навагрудчына ў нямецкіх планах жорсткай абароны займала не такое важнае месца, як, скажам, Віцебск, Орша, Магілёў, Бабруйск, Барысаў і Мінск, якія загадам Гітлера былі аб'яўлены гарадамі-крэпасцямі [26], тым не меней тут таксама была створана моцная сістэма барацьбы з Чырвонай Арміяй і партызанскім рухам.

Што ж уяўляў сабой партызанскі рух Навагрудчыны восенню 1943 года? Партызанскія брыгады і атрады, якія дзейнічалі на тэрыторыях Навагрудскага, Любчанскага і Мірскага раёнаў, па рашэнню Баранавіцкага падпольнага абкама партыі ўваходзяць у Лідскае партызанскае злучэнне [27]. І арганізацыйна, і колькасна гэтыя фарміраванні прадстаўляюць сабой значныя воінскія сілы, якія цэнтралізавана забяспечаны зброяй і выбуховымі матэрыяламі. Вось, напрыклад, партызанская брыгада імя Дзяржынскага, якая дзейнічала ў тым ліку і на акупаванай тэрыторыі Любчанскага раёна. Створаная на базе атрадаў імя Дзяржынскага і імя Катоўскага ў кастрычніку 1943 г., гэтая брыгада актыўна дзейнічала на чыгуначных участках Маладзечна-Ліда, Ліда-Баранавічы: падарвалі 24 варожыя эшалоны, 7 чыгуначных мастоў, а ў чэрвені 1944 г. прымалі актыўны ўдзел у "рэйкавай вайне". У сакавіку 1944 г. адначасова нанеслі ўдар па варожых апорных пунктах у в.Вялікія Вераб'евічы і Басіна, а 2 ліпеня 1944 г. – па Вераскава. На наступны дзень, 3 ліпеня, партызаны гэтай брыгады штурмам авалодалі

[23] Бракель, А. Катастрофа евреев в Барановичах / А. Бракель // Другая сусветная вайна: новыя аспекты даследаванняў. Матэрыялы міжнароднага навуковага семінара. Мн.: НАРБ, 2004. – С. 83-87

[24] Літвін, А.М. Акупацыя Беларусі (1941-1944). Пытанні супрацiву і калабарацыі / А.М. Літвін. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. – С. 203-230

[25] Жуков, Д. 29-я гренадёрская дивизия СС "Каминский" / Д. Жуков, И. Ковтун. М.: Вече, 2009. – С. 157

[26] Беларусь в годы Великой Отечественной войны 1941–1945 / А.А. Коваленя (руководитель авторского коллектива), А.М. Литвин, В.И. Кузьменко и др. – Мн.: БЕЛТА, 2005. – С. 434.

[27] Высшее партизанское командование Белоруссии. 1941-1944: справочник / под ред. Э.Г. Иоффе. Мн.: Беларусь, 2009. – С. 82

райцэнтрам Любча, дзе знішчылі добра ўмацаваны гарнізон, але 6 ліпеня пад націскам ворага давялося адступіць[28]. 8 ліпеня партызаны ізноў захапілі Любчу і ўтрымлівалі яе да падыходу часцей Чырвонай Арміі –передавога падраздзялення 69-га стралковага корпуса 49-й арміі.

Партызанская брыгада імя С.М. Кірава дзейнічала на акупаванай тэрыторыі Навагрудскага, Лідскага, Іўеўскага і Воранаўскага раёнаў (створана была на базе атрадаў з некалькіх раёнаў, у т.л. атрада "Кастрычніцкі"). На рахунку гэтай брыгады было шмат дыверсій на чыгунцы, разгром паліцэйскіх участкаў, валасных упраў і г.д. У ліпені 1944 г. да прыходу Чырвонай Арміі партызаны брыгады імя С.М. Кірава ўтрымлівалі стратэгічна важную пераправу праз раку Нёман і 7 ліпеня злучыліся з Чырвонай Арміяй. Камандзіру партызанскай брыгады Сінічкіну за ажыццяўленне гэтай удалай аперацыі было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза [29].

Партызанская брыгада Першамайская дзейнічала на акупаванай тэрыторыі Навагрудскага і суседніх раёнаў (на базе атрадаў імя Катоўскага, "Кастрычнік" і інш., пазней з яе "адпачкаваліся" шэраг атрадаў для стварэння брыгад "25 гадоў БССР" і брыгады імя А.В.Суворава [30].Партызанская брыгада імя В.І. Чапаева дзейнічала на тырыторыі Навагрудскага, Валожынскага і Лідскага раёнаў (на базе атрадаў імя Чапаева і імя Пархоменкі). Грамілі гарнізоны і апорныя пункты, вялі баі супраць карнікаў. У чэрвені 1944 г. на чыгунцы Ліда-Маладзечна спынілі рух варожых цягнікоў на двое сутак, падарваўшы каля 350 рэек. 6 ліпеня 1944 г. брыгада, у якую былі аб'яднаны 464 партызаны з 4 атрадаў, злучылася з Чырвонай Арміяй [31].

На тэрыторыі Мірскага і Стаўбцоўскага раёнаў дзейнічала партызанская брыгада імя Г.К. Жукава. У чэрвені-ліпені 1944 г. партызаны разбурылі пераправу праз раку Сула, вялі баі з немцамі, падчас якіх захапілі 5 аўтамашын, кулямёт, 100 вінтовак, абоз, а таксама ўдзельнічалі ў "рэйкавай вайне" на чыгунцы Негарэлае-Коласава, з Чырвонай Арміяй гэтая брыгада злучылася 10 ліпеня 1944 года [32].

Як адзначаў беларускі даследчык А.М. Літвін, з 2 па 16 чэрвеня 1944г. на Навагрудчыне знаходзіўся ўпаўнаважаны па казакам-бежанцам маёр Мюлер. У дакладной рэйхсміністэрству па занятым усходнім тэрыторыям "Мюлер паведамляе, што ў Навагрудскай акрузе *з пачаткам нямецкага адступлення* (вылучана намі – Б.Я.) вымушаны размясціць 11 000 казакоў з прыкладна 6 000 коней" [33]. Немцы , як сведчыць гэты дакумент, дбалі пра ўласнае адступленне, а для казакоў спланоўвалі ўрачысты прыём у Навагрудку і па-сутнасці бласлаўленне скласці галовы за рэйх: "На 16 чэрвеня 1944 было сфарміравана 2 казачыя палкі па 1000 чалавек. Яны ахоўвалі раёны свайго пражывання (казакі прыехалі з сем'ямі – Б.Я.), шасэ і невялікі участак чыгуначнай лініі Наваельня-Навагрудак. Уздоўж усёй лініііі былі абсталяваны казачыя апорныя пункты, якія забяспечылі бесперашкодны рух па шасэ чыгуначнай лініі", – пісаў у данясенні маёр Мюлер [34]. У такіх умовах партызанам вельмі складана было падбірацца да чыгункі. Да таго ж у Навагрудку быў сфарміраваны яшчэ адзін казачы полк менавіта для аперацый супраць партызан. У данясенні Мюлера ў рэйхсміністэрства ёсць інфармацыя пра гібель атамана Паўлава падчас сутычкі з партызанамі [35]. У выніку наступлення Чырвонай Арміі і актыўнасці партызанскіх сіл "Казацкі стан" вымушаны быў адступаць услед за нямецкімі войскамі.

1944 г. змяшчаў у сабе супэрэчлівыя і трагічныя моманты, бо ў гэты час вялася актыўная барацьба савецкіх партызан з польскім рухам супраціўлення. Гэта вельмі доўгая гісторыя,

[28] Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне: 1941-1944. Энцыклапедыя. Мн.: БелСЭ, 1990. – С. 430-431; Акаловiч, Н.М. Освобождение Белоруссии / Н.М. Акалович. 2-е изд. Мн.: Наука и техника, 1989. – 346-360
[29] Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне: 1941-1944. Энцыклапедыя . Мн.: БелСЭ, 1990. – С. 433-434
[30] Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне: 1941-1944. Энцыклапедыя . Мн.: БелСЭ, 1990. – С. 446-447
[31] Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне: 1941-1944. Энцыклапедыя . Мн.: БелСЭ, 1990. – С. 440
[32] Беларусь у Вялікай Айчыннай вайне: 1941-1944. Энцыклапедыя . Мн.: БелСЭ, 1990. – С. 431
[33] Літвін, А.М. Акупацыя Беларусі (1941-1944). Пытанні супраціву і калабарацыі / А.М. Літвін. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. – С. 228
[34] Літвін, А.М. Акупацыя Беларусі (1941-1944). Пытанні супраціву і калабарацыі / А.М. Літвін. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. – С. 229
[35] Літвін, А.М. Акупацыя Беларусі (1941-1944). Пытанні супраціву і калабарацыі / А.М. Літвін. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. – С. 229

якую складана пераказаць коратка, каб не спрасціць яе да пэўных палітызаваных схем. У даследаваннях беларускіх гісторыкаў А.М. Літвіна, Л. Сямашкі, польскага гісторыка Ю. Туронка і інш. досыць падрабязна прааналізаваны ўзаемаадносіны Арміі Краёвай з савецкімі партызанамі ад няхай не вельмі шчыльнага, але супрацоўніцтва ў сумесных баях супраць немцаў і мясцовай паліцыі ў 1942 г. да актыўнага супрацьстаяння, барацьбы адзін супраць другога з мая 1943 г., на што паўплывалі перш за ўсё складаныя адносіны між урадам СССР і польскім эміграцыйным урадам у Лондане, а таксама амбітнасць вышэйшых польскіх эміграцыйных колаў і галоўнага камандавання АК у Варшаве. Нязменныя мэты польскага эміграцыйнага ўраду па адваёўванні Заходняй Беларусі, этнічных беларускіх зямель ("усходніх крэсаў"), якія ў 1939 г. былі далучаны да СССР, уплывалі на стратэгічныя і тактычныя планы, а потым і дзеянні Арміі Краёвай на чале з галоўным камандаваннем АК.

Дзеля аб'ектыўнасці варта адзначыць, што гэтыя супярэчнасці адбіваліся не лепшым чынам на лёсах мясцовых жыхароў беларускай і польскай нацыянальнасцей. У Арміі Краёвай ваявала нямала этнічных беларусаў – па ўласным жаданні і пад прымусам. У 1944 г. АК, змагаючыся супраць савецкіх партызан, па-сутнасці ваявала не толькі супраць беларусаў, але і супраць сваіх суайчыннікаў, бо нямала партызан польскай нацыянальнасці было ў савецкіх атрадах. Так, напрыклад, у 1944 г. у раёне Налібоцкай пушчы дзейнічаў "Першы батальён Варшаўскага пяхотнага палка імя Тадэуша Касцюшкі", у шчыльным узаемадзеянні з Чырвонай Арміяй быў задзейнічаны польскі партызанскі атрад імя Ванды Васілеўскай, сярод партызан Баранавіцкага злучэння, у якое ўваходзілі і партызанскія атрады, што дыслацыраваліся на тэрыторыі Навагрудчыны, налічвалася 500 палякаў як радавога, так і нерадавога саставу. У адрозненне ад Арміі Краёвай з яе лозунгам "двух ворагаў" ( Германіі і СССР – Б.Я.) гэтыя палякі дбалі перш за ўсё пра вызваленне савецкіх і польскіх тэрыторый ад акупацыйных войск нацысцкай Германіі. Дарэчы прыгадаць словы расійскага філосафа В. Мяжуева: "Этнас я не выбіраю, а нацыю магу выбраць. Нацыя – гэта дзяржаўная, сацыяльная, культурная прыналежнасць індывіда, а не яго антрапалагічная і этнічная вызначанасць" [36]. Спробы немцаў развязаць грамадзянскую вайну на глебе этнічных рознагалоссяў не дасягнулі поспеху. Дзяржаўныя і сацыяльныя інтарэсы большасці палякаў, што пражывалі на тэрыторыі Навагрудчыны, пераважылі над этнічнымі, адыграў вялікую ролю і ваенны фактар з боку палітычнага і ваеннага кіраўніцтва СССР .

У айчыннай гісторыі добра вядомы імёны доктара Бенядзікта Шыманскага, які быў начальнікам медслужбы Баранавіцкага партызанскага злучэння, і доктара Бернарда Заблоцкага, намесніка камандзіра партызанскага атрада "Грозны" Першамайскай брыгады (атрад дзейнічаў на поўдзень ад Навагрудка), іншых мужных партызан польскай нацынальнасці, якія ваявалі поруч з беларусамі, грузінамі, рускімі, узбекамі, яўрэямі, байцамі іншых нацыянальнасцей [37]. Навагрудскія лясы і гушчары Налібоцкай пушчы былі таксама месцам дыслакацыі яўрэйскага партызанскага атраду братоў Бельскіх, у якім знаходзіліся людзі рознага ўзросту яўрэйскай нацыянальнасці, што ўцяклі ад нямецкага пераследу з Навагрудскага і іншых гета, з лагеру ў Калдычава пад Баранавічамі. Пазней гэты атрад быў падзелены на дзве групы: баявую, якая ўтварыла партызанскі атрад імя Арджанікідзе, і сямейную, якая стала называцца сямейным партызанскім атрадам імя Калініна [38].

Лічым неабходным спыніцца яшчэ на адной праблеме, досыць палітызаванай на сучасным этапе, калі асобныя гісторыкі робяць спробы ўвязаць рост масавых злачынстваў нямецкіх акупацыйных улад, войск вермахту, жандармерыі, СС і іншых карных

[36] Межуев, В.М. Идея национального государства в исторической перспективе / В.М. Межуев // Полис. – 1992. – № 5-6. – С. 16

[37] Хацкевич А.Ф., Крючок Р.Р. Становление партизанского движения и дружба народов СССР. Мн. : Наука и техника, 1980. – 320 с.

[38] Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Навагрудскага раёна. Мн: Беларусь, 1996. – С. 323; Высшее партизанское командование Белоруссии. 1941-1944: справочник / под ред. Э.Г. Иоффе. Мн.: Беларусь, 2009. – С. 83; Каган, Дж. Як мы перажылі Халакост з яўрэйскім партызанскім атрадам у Беларусі / Дж. Каган. Мн. : Медысонт, 1999. – 307 с.

фарміраванняў з ростам актыўнасці партызанскага руху [39]. Раданачальнікамі гэтай канцэпцыі з'яўляліся былыя нямецкія генералы, якія ў самарэабілітацыйнай мемуарыстыцы імкнуліся пераканаць чытачоў, што войскі вермахту не мелі ніякага дачынення да шматлікіх злачынстваў у адносінах да мірнага насельніцтва, у тым ліку на акупаваных землях Беларусі. У эпоху "халоднай вайны" гэтую праблематыку разгарнулі шматлікія заходнія даследчыкі, асабліва актыўна яе распрацоўвалі палітолагі і гісторыкі, якія карысталіся метадамі палітычнай сацыялогіі [40].

Меркаванне, што немцы спальвалі вёскі па віне партызан, якія знаходзілі тут прытулак, харчаванне і іншую падтрымку, узнікла на глебе адстароненасці ад нашых рэалій, ці, хутчэй, няведання гэтых рэалій. Нават польскі даследчык Ю. Туронак, які напісаў грунтоўную працу па гісторыі Беларусі пад нямецкай акупацыяй, піша наступнае: "…на тэрыторыях, дзе не былі занатаваны выступленні партызан, не натавалася і "барацьбы з насельніцтвам" [41] . Але польскі гсіторык супярэчыць сабе праз колькі сказаў, узгадваючы, што "ўжо ўлетку і ўвосень 1941 г. шмат беларускіх вёсак, асабліва тых, што стаялі паблізу вялікіх лясных масіваў, было спалена" [42].

Можна прыгадаць і першыя дні вайны на Навагрудчыне, калі скідваліся бомбы на гарадкі і пасёлкі без агляднкі на лаяльнасць альбо нелаяльнасць людзей, забівалася яўрэйскае насельніцтва. У адпаведнасці з расавай палітыкай нацысцкай Германіі прадугледжвалася знішчэнне большасці славянскіх народаў Усходняй Еўропы і запрыгоньванне тых, каго запланавана было пакінуць у жывых. У нацысцкай палітыцы ваеннаэканамічнага гаспадарання і "ўціхамірвання" насельніцтва не было месца гуманізму.

Апелюючы толькі да статыстыкі, можна сапраўды спрасціць прычыны павелічэння колькасці знішчаных вёсак напрыканцы вайны ў 1943-1944 гг. "Утрыманню Беларусі ў сваіх руках гітлераўскае камандаванне надавала вялікае значэнне. Група армій "Цэнтр" прыкрывала важнейшыя накірункі (усходнепрускае і варшаўскае) і захоўвала ў распараджэнні гітлераўскага камандавання развітую сетку аэрадромаў, базіруючыся на якіх гітлераўская авіяцыя пагражала раёну Масквы. Акрамя таго, утрыманне Беларусі давала магчымасць ажыццяўляць аператыўна-стратэгічнае ўзаемадзеянне паміж групамі армій "Поўнач", "Цэнтр" і "Паўночная Украіна". Таму на Беларусі праціўнік стварыў эшаланіраваную абарону глыбінёй да 250-270 км. і трымаў буйную групіроўку войскаў" [43].

Калі прааналізаваць асноўныя фактары, якія ўплывалі на бруталізацыю тылавых і франтавых войск вермахта, войск СС, СД і падпарадкаванай ім мясцовай дапаможнай паліцыі пасля няспраўджвання "бліцкрыгу", паражэнняў пад Масквой, Сталінградам, Курскам і адступленняў групы армій "Цэнтр" на Беларусь, то сітуацыя не будзе здавацца простай і адназначнай. Цікава ў гэтай сувязі прыгадаць і такія факты. Л. Сямашка ў кнізе "Армія Краёва на Беларусі" прыводзіць цытату з дэпешы штаба польскага генерала Сікорскага: "Спрадвечныя польскія тэрыторыі беражыце" [44]. Згодна інструкцый па дыверсійнай дзейнасці польскім падпольшчыкам забаранялася праводзіць дыверсіі на тэрыторыі акупаванай немцамі Польшчы, загадана было праводзіць дыверсіі на тэрыторыі Заходняй Беларусі і на тэрыторыі Літвы. Да таго ж акаўцы "насілі звычайна чырвонаармейскую форму, каб не наклікаць з боку немцаў рэпрэсій супраць мясцовага польскага насельніцтва" [45].

---

[39] Соколов, Б.В. Фронт за линией фронта. Партизанская война 1939-1945 гг. / Б.В. Соколов. М. : Вече, 2008. – С. 134–158; Хадакевіч, М. Палякі-фашысты супраць саветаў-акупантаў. Закуліссе партызанскай вайны ў Беларусі / М. Хадакевіч // Arche. – 2008. – №5. – С. 65–71

[40] Бязлепкін, Я.П. Роля партызанскага руху ў вызваленні Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў (у кантэксце эвалюцыі гістарыяграфіі ЗША і Вялікабрытаніі) / Я.П. Бязлепкін // Партизанское движение в Беларуси и его роль в разгроме фашистских захватчиков в 1941-1944 годах: материалы Междунар. Науч.-пркт. Конф. (Минск, 25-26 июня 2009 г.) / Нац.акад.наук Беларуси, Ин-т истории, М-во обороны Респ.Беларусь; редкол. : М.В.Мясникович (пред.) [и др.]. – Минск: Беларус.навука, 2009. – 494 с. 165-170

[41] Туронак, Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі / Ю. Туронак. Вільня. Інстытут беларусістыкі, 2006. – С. 610

[42] Туронак, Ю. Мадэрная гісторыя Беларусі / Ю. Туронак. Вільня. Інстытут беларусістыкі, 2006. – С. 610

[43] Сборник материалов по истории военного искусства в Великой Отечественной войне.. Вып. 5, т.3.: Третий период войны (1944) // Высшая Военная Академия им. К.Е.Ворошилова. Воениздат, 1956. – С. 168–169

[44] Сямашка, Л. Армія Краёва на Беларусі / Л. Сямашка. Мн. : Беларускае выдавецкае таварыства "Хата", 1994. – С. 71

[45] Сямашка, Л. Армія Краёва на Беларусі / Л. Сямашка. Мн. : Беларускае выдавецкае таварыства "Хата", 1994. – С. 134

Нагадаем, што нямецкая разведка не толькі засылала абвераўскіх агентаў, якія валодалі рускай мовай, у савецкія партызанскія атрады, але і стварала ілжэсавецкія атрады і нават дзеля праўдападобнасці дазваляла рабіць налёты на мясцовую паліцыю (ахвяруючы некалькімі мясцовымі паліцэйскімі, немцы выйгравалі ў стратэгічным плане, бо людзі, якія пацярпелі ад такіх "партызан", не маглі адчуваць да іх сімпатый). Можна меркаваць, што і ў Навагрудскім раёне, дзе заблытаныя нацыянальныя ўзаемаадносіны дапаўняліся складанасцямі ваенных рэалій, нямецкая разведка магла выкарыстоўваць такія метады.

Выкарыстоўвалі ж немцы ў чэрвені 1941 г., асабліва ў першыя два тыдні вайны, вельмі актыўна "ілжэгенералаў" і "ілжэчырвонаармейцаў" – пераапранутых у савецкую форму агентаў абверу, завербаваных у свой час з ліку эмігрантаў [46]. А датычна Навагрудчыны абвер бліскуча распрацаваў і ажыццявіў аперацыю па таемным супрацоўніцтве з атрадамі Арміі Краёвай ад інсцэніраваных "нападаў" акаўцаў на нямецкія склады са зброяй да адкрытых перадач гэтай зброі з мэтай барацьбы з савецкімі партызанамі. Гэтая тэма слаба распрацавана як ў айчыннай (з прычыны недастатковасці трафейных нямецкіх матэрыялаў у беларускіх архівах, бо немцы "аберагалі" такую дакументацыю і хутчэй за ўсё вывезлі ці знішчылі яе перад адступленнем), так і ў замежнай гістарыяграфіі (з прычыны зацяжной "халоднай вайны", калі нямецкая разведка з вясны 1945 г. стала актыўна выкарыстоўвацца (была пераверабавана ) амерыканскай разведкай супраць СССР і краін сацыялістычнага лагеру, а захопленыя нямецкія матэрыялы былі засакрэчаны нават у архівах ЗША і Вялікабрытаніі [47]).

Надзвычай важную ролю адыгралі партызанскія злучэнні падчас наступальнай Беларускай аперацыі [48]. Была праведзена вялікая арганізацыйная работа па падрыхтоўцы партызан да аператыўна-тактычнага ўзаемадзеяння з часцямі Чырвонай Арміі. Лідскае партызанскае злучэнне, у якое таксама ўваходзілі брыгады і атрады, што дыслацыраваліся на тэрыторыі Навагрудчыны, былі задзейнічаны ў адпаведнасці са стратэгічнай важнасцю пэўных населеных пунктаў і мясцовасцей рэгіёна .Партызаны здзяйснялі дыверсіі ў рамках трэцяга этапу "рэйкавай вайны", нападалі на нямецкія гарнізоны, здабывалі разведданыя для Чырвонай Арміі, прымалі сумесны ўдзел у вызваленні раёна, а пасля асноўны састаў уліўся ў рады Чырвонай Арміі.

---

[46] Сандалов, Л.М. 1941. На Московском направлении / Л.М. Сандалов. М. : Вече, 2010. – С. 135; Иоффе, Э.Г. Абвер, полиция безопасности и СД, тайная полевая полиция, отдел "Иностранные армии–Восток" в западных областях СССР. Стратегия и тактика. 1939-1945 гг. / Э.Г. Иоффе. Мн. : Харвест, 2007. – 384 с. ; Толстой, Н.Д. Жертвы Ялты / Н.Д. Толстой. М. : Русский путь, 1996. – 543 с.

[47] GAO report on Nazi war criminals in the United States. Oversight hearing before the Subcommittee on Immigration, Refugees, and International Law of the Committee on the Judiciary. House of Representatives. Ninety-ninth Congress. First session on GAO report on Nazi war criminals in the United States. October 17, 1985. Serial no. 39. U.S. government printing office, Washington : 1986. – 114 p.

[48] Беларусь в годы Великой Отечественной войны 1941–1945 / А.А. Коваленя (руководитель авторского коллектива), А.М. Литвин, В.И. Кузьменко и др. – Мн.: БЕЛТА, 2005. – С. 449–469 ; Glenn, R. Soviet Partisan Warfare: Integral to the Whole / R. Glenn. – School of Advanced Military Studies U.S. Army Command and General Staff College, 1988. – P. 32.

А. Добриян (Новогрудок)

# Из истории развития музейного дела в Новогрудке

Новогрудок, один из древнейших городов, внесший значительный вклад в развитие истории и культуры Беларуси. Его славной истории и историческим местам посвящено множество исследований. В данной статье сделана попытка осветить малоизвестные факты, касающиеся развития музейного дела в Новогрудке в XVII-XVIII вв.

Появление первых музейных коллекций на Беларуси связано с начавшимся в XVI-XVII вв. эпохой Возрождения, которая характеризовалась подъемом науки и культуры и сопровождалась пробуждением интереса к древностям, особенно античным. Сначала это была дань европейской моде коллекционировать художественные произведения и античные вещи. Наличие таких собраний считалось свидетельством хорошего вкуса их владельца. Самая крупная на Беларуси коллекция, основанная в XVIв. принадлежала Радивилам. Большую коллекцию древностей, в том числе и археологические находки собрал в дворце в Щорсах магнатский род Хрептовичей. К сожалению сведения о ней очень скупы [1,с.5; 2, с.22 ]. Известно только, что в 1811г. Иохим Литавор Хрептович привез из Неаполя одну или несколько античных ваз[3, s.100]. Но все эти коллекции носили закрытый характер и были предназначены для личного пользования их владельцев и ублажения своего самолюбия. Первая на Беларуси публичная коллекция дидактического характера появилась не позднее последней четверти XVIII в. в Новогрудке. Об этом свидетельствует рапорт генерального инспектора школ Адукационной комиссии ВКЛ Яна Эрдмана, который инспектировал в 1787 году Новогрудские школы. В ходе инспекции выяснилось, что школа в Новогрудке имеет коллекцию дидактического характера, в которой в одном из отделов находится «местный древний каменный топор» [4,s.38]. Судя по реестру, приложенному к рапорту, в коллекции находились «выкопанные и морские экспонаты», купленные в 1787 году ксендзом Бауэром, ректором школ русского отдела. Каменный же топор проходит по реестру коллекции, собранной стараниями ксендза Антония Хунца, профессора физики новогрудской школы [3,s.150]. Коллекция в Новогрудской школе существовала и раньше. В 1786 году инспектор Давид Милховский, хваля профессоров, высоко оценил деятельность Хунца, который «совместно с учениками создал коллекцию местных растений с описанием оных, показывает ученикам минералы, камни, раковины и т.д., которых собрал большую коллекцию»[3,s.150-151].

О составе Новогрудской коллекции можно судить по рапорту инспектора Якуба Яске, инспектировавшего школу в 1788 году, в котором отмечалось: «Есть тут коллекция различных древних медалей и монет, собранных в кабинете стараниями (Антония – А.Д.) Постлета, профессора права. Не менее превосходная коллекция разнообразных дорогих, шлифованных и нешлифованных, восточных и европейских, местных камней, окаменелостей, инкрустаций, руд, мрамора, алебастров, горных пород, раковин и т.д., и т.д.,

старанием и за счет ректора А.Хунца, профессора физики в хорошем вкусе собрана» [3,s.151]. На основании этого можно говорить о наличии в Новогрудской школе не одной, а двух коллекций. Первая, нумизматическая, собрана Постлетом, и вторая, минералогическая коллекция Хунца. В состав последней и входил шлифованный каменный топор, о котором сообщал Я.Эрдман. Вероятно, что топор этот не был единственным экспонатом, относящимся к местным древностям. Ответ на вопрос, почему исторические древности помещались в минералогические собрания нужно искать в градации наук эпохи Возрождения, в соответствии с которыми все, что находилось в земле, относилось к ископаемым, минералогическим экспонатом, а сама «минералогия – есть существенная часть натуральной истории, с ее помощью мы знакомимся с ископаемыми вещами» [3,s211-212]. По Уставу Адукационной комиссии 1790 года натуральная история всецело была подчинена физике: «В пятом классе первого года повторяется введение к физике и часть ее первая, а также будет даваться натуральная история об ископаемых с терминами латинскими» [7,s.43-44]. Это объясняет, почему древности в собраниях Новогрудской школы находились в минералогической коллекции физического кабинета и использовались в учебном процессе в качестве наглядных пособий. Дальнейшая судьба большей части новогрудских коллекций неизвестна. Известно только, что каменный топор из коллекции Антония Хунца каким то образом попал в физический кабинет последнего польского короля Станислава Августа Понятовского. В 1795 году в Гродненском замке король отрекся от престола и по повелению Екатерины II находился здесь под домашним арестом с 12 января 1795 года по 7 февраля 1797 года. В Гродно по его приказу был доставлен обширный архив, большая часть исторических материалов и коллекция карт. Попали ли в этот перечень археологические материалы и нумизматическая коллекция короля сказать трудно. Но по выезде Станислава Августа в феврале 1797 года в Петербург, он забрал с собой большую партию документов, находящихся в Гродно, и след бывших королевских коллекций затерялся. Но в обзоре «Музеи и собрания музейного характера в Польше» за 1927 год в материалах о Гродненском музее упоминается, что в фондах музея находятся 700 копий античных гемм и камней из сборов Станислава Августа [5, s. 106]. Не исключено, что и каменный топор из Новогрудской школы мог оказаться в этих фондах.

## Литература:


1. Гуревич Ф.Д. Древности белорусского Понеманья – Изд. АН СССР. М.-Л.: 1962. – 221 с.
2. Каханоўскі Г.А. Археалогія і гістарычнае краязнауства Беларусі у XVI-XIXстст. Мн.: Навука і тэхніка. 1984. – 120 с.
3. Abramowicz A. Dzieje zainteresowan starozytniczych w Polsce. Czesc II. Czasy stanislawowskie i ich poklosie. Wroclaw – Warszawa. IHKM. 1987. – 288 s.
4. Abramowicz A. Historia archeologii polskiej. Poczatki. Acta archatologica Lodziensia №36 Lodzkie towrzystwo naukowe Lodz 1992. – 53 s.
5. Bankowski P. Archiwum Stanislawa Augusta. Wr. 1958. – 309 s.
6. Muzea i zbiory o chrakterze myzealnym w polsce//Nauka polska. T. VII. 1927. – S.98-161
7. Wojcik Z. Wplyw komisji Edukacji Narodowej na rozwoj geologii w Polsce w II polowie XVIIIw // Prace Muzeum Ziemi / Wr. 1975. – S 40-46.

Мірaслава Левандоўска-Волаш (г. Цеханаў (Польшча))

# Што яднае Опіногуру з Навагрудкам альбо “нашчадкі” Красінскага і Міцкевіча ў XX ст.

Навагрудак і Опіногура – горад у Беларусі і вёска ў Польшчы на Мазоўшы. Іх раздзяляюць сотні кіламетраў і аб’ядноўваюць асобы двух рамантычных паэтаў: Адама Міцкевіча і Зыгмунта Красінскага. Уласна кажучы, гэта стала прычынай прыезду ў Беларусь музейшчыкаў з Опіногуры. Падчас візіта ў Навагрудак у чэрвені 2008 г. госці і гаспадары вырашылі, што было б варта зрабіць адносіны больш цеснымі. 19 чэрвеня 2008 г. быў падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве паміж Навагрудскім гістарычна-краязнаўчым музеем і Музеем Рамантызму ў Опіногуры. Ён прадугледжвае сярод іншага абмен выставамі, выданнямі, арганізацыю сумесных навуковых канферэнцый і г.д., а таксама ўдзел супрацоўнікаў абодвух музеяў у канферэнцыях і іншых мерапрыемствах, такіх як, напрыклад, пленэры альбо рэгіянальныя даследаванні, арганізуемыя абодвума бакамі. Супрацоўнікі могуць абменьвацца досведам падчас узаемных візітаў.


*Дырэктар Тамара Вяршыцкая на канферэнцыі ў Музеі Рамантызма ў Опіногуры 25 мая 2009 г.*

Першую выставу з Беларусі – Даваенны Навагрудак на фотаздымках Яна Булгака і сучасны – у творах Канстанціна Зобніна, Івана Грыня, Сяргея Плыткевіча і Уладзіміра Суцягіна – мы прымалі ў Опіногуры ў першы год пасля падпісання дагавора. Яе адкрыццё 25 мая 2009 г. упрыгожыла канферэнцыю “Дасягненні і перспектывы развіцця музейнай справы Мазавецкага ваяводства”, арганізаваную Музеем Рамантызма ў Опіногуры і Мазавецкім аддзелам Згуртавання Польскіх Працаўнікоў музеяў. Яна была прысвечана Міжнароднаму Дню Працаўнікоў Музеяў. На канферэнцыі выступіла Тамара Вяршыцкая, дырэктар музея ў Навагрудку, якая прадставіла як свой музей, так і горад Навагрудак, а таксама расказала аб перспектывах супрацоўніцтва.

Навагрудак у Польшчы перш за ўсё звязваюць з Адамам Міцкевічам, аднак горад мае доўгую і багатую ўласную гісторыю. Іначай выглядае справа з Опіногурай, якую ведаюць практычна толькі дзякуючы

сувязі з родам Красінскіх і як месца, дзе Зыгмунт Красінскі правёў свае дзіцячыя і юначыя гады, і дзе ён пахаваны ў сутарэннях парафіяльнага касцёла.

Вернемся да Міцкевіча і Красінскага. Яны пазнаёміліся ў 1830 г. у Жэневе ў Швейцарыі. Тады правялі разам два тыдні, падарожнічаючы па Альпах. Малады Красінскі быў пад вялікім уражаннем ад Міцкевіча, які быў тады ўжо славутым паэтам. Пра гэта спатканне ён напісаў у лісце да бацькі: "бясспрэчна, гэта будзе мець уплыў на маё далейшае жыццё, уплыў добры і высакародны". Больш дзесяці гадоў пасля гэтага яны не сустракаліся сасбіста, аднак, Красінскі вельмі цікавіўся тым, што робіць і піша Міцкевіч, а таксама, як ён ацэньвае яго творчасць. Бывала таксама, што ён падтрымліваў паэта матэрыяльна. Пасля выхада "Пана Тадэуша" ён параўнаў яго з "Іліядай" і "Адысеяй" і сцвярджаў, што там *"ёсць усё, усё перададзена з такой прастатой, што аж страх бярэ".* Міцкевіч у сваю чаргу вельмі ўважліва падышоў да "НеБоскай камедыі" у сваіх парыжскіх лекцыях. Варта дадаць, што менавіта з пад пяра Красінскага, калі прыйшла навіна аб смерці Міцкевіча, выйшла меркаванне, якое да сённяшняга дня цытуюць тысячы раз: *"Мы ўсе – з яго".*



*Палацава-паркавы ансамбль у Опіногуры. Від з вышыні птушынага палёту, 2008 г.*



*Палац у Опіногуры.*

*"У канцы мінулага (XIX) ст., калі ў нас яшчэ панаваў культ "трох пракрокаў", [...]не раз гаварылі: - Ну так, Міцкевіч быў з Літвы, Славацкі з Валыні, і толькі адзін Красінскі быў з Мазураў"* – напісала аўтар аповесці "Зыгмунт" Аліна Свідэрска. Дададзім яшчэ, што толькі адзін Красінскі паходзіў з іншага асяроддзя. Ён быў арыстакратам, меў тытул графа. Аўтар напісала на мяжы 50-60 гадоў міналага стагоддзя: *"Няшчасцем для Красінскага як для паэта стала тое, што ён нарадзіўся графам. Гэта паўплывала на ацэнку яго асобы і яго творчасці з пункту гледжання класавай прыналежнасці. Гэтаму былі падвержаны нават сур'ёзныя крытыкі. Да яго адносіліся перадузята і пагардліва, яму адмаўлялі ў званні прарока, які яму надавалі сучаснікі, і яго паэтычную творчасць ацэньвалі менавіта з гэтага пункту гледжання".* Сёння лічыцца, што паэзія Красінскага не вытрымала выпрабаванне часам, аднак, яго



*Фотавыстава з Навагрудскага гістарычна-краязнаўчага музея, Опіногура, май 2009 г.*



*Партрэты Красінскіх у пастаяннай экспазіцыі ў флігелі, Опіногура 2009 г.*

самая вядомая драма, "Не-Боская камедыя", не страціла, без сумнення, свайго значэння. Акрамя таго, пасля выдання ўжо пасля другой сусветнай вайны поўнай перапіскі Красінскага з сям'ёй, сябрамі, знаёмымі ён стаў адным з найслыннейшых польскіх эпісталаграфаў.

Опіногура знаходзілася ў руках мазавецкай галіны роду Красінскіх на працягу стагоддзяў, спачатку яны кіравалі опіногурскім старостам, а ва ўласнасць яе атрымаў Вінцэнт Красінскі ад імператара Напалеона, які меў звычай рабіць падарункі сваім любімым палкаводцам. У выніку стараннеяў новага ўладальніка ў 1844 г. была створана Опіногурская ардынацыя, якая перажыла другую сусветную вайну. Варта дадаць, што яе чарговыя ўладальнікі – сын і ўнук паэта, і апошні ардынат, Эдвард Красінскі, які паходзіў з пабочнай лініі, (забіты немцамі ў лагеры Дахау ў 1940 г.), былі вядомымі мецэнатамі культуры. Яны працягвалі справу, пачатую калекцыянерскім захапленнем Вінцэнта Красінскага, узбагачаючы зборы бібліятэкі і Музея ардынацыі Красінскіх у Варшаве, і зрабілі іх даступнымі для наведвання і карыстання. У міжваенны час быў пабудаваны сучасны будынак, у якім яны размясціліся. Ён быў спалены немцамі падчас другой сусветнай вайны з амаль усім бясцэнным скарбам. Уцалелі толькі нешматлікія экспанаты, кнігі, дакументы.

Стварэнне ў Опіногуры музея было мясцовай ініцыятывай. Пачалі з праекта адбудовы палаца, разбуранага ў апошнія дні другой сусветнай вайны. Такую ідэю прапанавалі ў 1957 г. члены Таварыства Прыхільнікаў Цеханаўскай Зямлі Грамадскай нацыянальнай Радзе ў Опіногуры. Палітычны клімат, крыху больш свабодны пасля нядаўняй адлігі, спрыяў гэтай ініцыятыве. Падкрэслівалася, што гэта – згодна жаданню грамадскасці, а ў адбудаваным аб'екце было запланавана месца для сельскага клуба і бібліятэкі, і нават кінатэатра. Музей Зыгмунта Красінскага павінен быў размясціцца ў вежы палаца. Аднак, кошты праекта былі занадта вялікія, каб яго мог



*Партрэт Зыгмунта Красінскага Ары Шэфера, копія 1-ай паловы XIX ст., Музей Рамантызму ў Опіногуры*

ажыццявіць мясцовы бюджэт. На шчасце, справай зацікавілася Міністэрства культуры і мастацтва. У сувязі з набліжаючайся круглай датай – 100-годдзем – быў створаны Камітэт ушанавання гадавіны смерці Зыгмунта Красінскага і вырашана, што ў Опіногуры будзе адбудаваны палац, у якім размесціцца музей, прысвечаны жыццю і творчасці паэта. Новы аб'ект назвалі Музеем Рамантызма, абмінаючы імя Красінскага і пазбягаючы тым самым супярэчнасцей, звязаных з асобай паэта-графа, які памёр "з крыжам на грудзях" (ні адна, ні другая акалічнасць у той час не разглядаліся пазітыўна). Аўтарам сцэнарыя экспазіцыі быў Адам Мауэрсбергер, дырэктар Музея Адама Міцкевіча (зараз Музей Літаратуры ім. А. Міцкевіча ў Варшаве).

Музей быў афіцыйна адчынены 26 мая 1961 г. З цягам часу павялічвалася колькасць аб'ектаў, якія знаходзіліся на тэрыторыі сядзібы альбо будаваліся занава. Сёння гэта – цэлы палацава-паркавы комплекс плошчай 21 га. Парк, у якім зараз адбываецца рэваларызацыя, набыў рамантычны выгляд XIX ст. Ён падзяляўся на тры зоны: пейзажны парк, які раскінуўся паміж палацам і домам з аднаго боку і касцёлам з другога, агарод з садам над адной з сажалак і найбольш аддалены – звярынец.

Акрамя неагатычнага палаца 30-х гадоў XIX ст. тут знаходзяцца: дом, флігель для дваровай службы, "домік садоўніка" і аранжэрэя (будуецца). Дом збудавалі на месцы старога драўлянага ў 2007 г., выкарыстаўшы праект Юзэфа Галензоўскага, які быў распрацаваны на архітэктурны конкурс, арганізаваны у 1908 г. Адамам Красінскім. Тады ён не быў рэалізаваны з-за нечаканай смерці ардыната. У ім знаходзяцца выставачная зала з пастаяннай экспазіцыяй пад назвай "Польскі рамантызм" (на першым паверсе), фонды і службовыя пакоі. У флігелі знаходзіцца бібліятэка (на другім паверсе), а таксама экспазіцыйныя залы (першы паверх) з пастаяннымі экспазіцыямі "У коле сям'і Красінскіх" і "Напалеон і Польшча".

Тэма Напалеона можа здавацца дзіўнай як прадмет зацікаўленняў Музея Рамантызма. Але яе прысутнасць у Опіногуры мае глыбокае абгрунтаванне і шматгадовыя традыцыі. Бацька Зыгмунта Красінскага, Вінцэнт, у маладосці быў генералам у войску Напалеона, камандаваў кавалерыяй. Паэт, які нарадзіўся ў Парыжы, пры хрышчэнні атрымаў пяць імёнаў, першым з якіх было Напалеон. Легенда, звязаная з Напалеонам, жыла ў сям'і Красінскіх. Біёграф паэта Юзэф Каленбах так апісваў у пачатку XX ст. убранства старога ўжо не існуючага дома ў Опіногуры: *"На сценах […] відаць у вялікай колькасці абразы, на якіх адлюстраваны найважнейшыя подзвігі кавалерыйскай гвардыі: Самас'ера, Тудэль, Ваграм і іншыя лаўравыя лісты, з якіх полк генерала Красінскага сплятаў сабе вянец бессмяротнай славы. Нарэшце мы ўваходзім ў прасторны салон, які называецца "залай Напалеона": тут сабраны абразы і скульптуры, якія маюць дачыненне да вялікага імператара, і ўсе тыя доказы памяці і прызнання, якімі ён адорваў генерала".* На опіногурскіх могілках да гэтага часу знаходзяцца помнікі таварышаў па зброі Вінцэнта.

Опіногура – гэта перш за ўсё Зыгмунт Красінскі. Гэта дзякуючы яму вёска знаходзіцца на трасе шматлікіх экскурсій, і яе наведваюць госці з Польшчы і з-за мяжы. Памяць пра паэта захоўваюць таксама ў бліжэйшых ваколіцах. Традыцыйна, пачынаючы з міжваеннага часу, школы з блізляжачага Цеханава кожны год арганізоўваюць экскурсіі моладзі ў Опіногуру на роварах. Да вайны гімназістаў прымаў ардынат Эдвард Красінскі, сёння іх суправаджаюць экскурсаводы Музея Рамантызму.

**Д. Крывашэй (Мінск)**

# Сацыяльна-эканамічнае і грамадска-палітычнае жыццё Навагрудчыны ў канцы XX – пачатку XXI стст.

**Эканоміка.** У 1990 г. у горадзе былі закладзены асновы рыначнай інфраструктуры: паволі праходзілі працэсы раздзяржаўлення шляхам стварэння малых прадпрыемстваў, передача ў арэнду працоўным калектывам. Лічылася, што гэта дазволіць актывізаваць структурную перабудову эканомікі, хутка рэагаваць на змяненне спажывецкага попыту, забяспечыць хуткую акупнасць затрат. Ад новых уласнікаў патрабавалася павялічыць выпуск новых тавараў і паслуг. У 1990 г. статус малога прадпрыемства атрымала РБГУ-9, у самастойную фабрыку па пашыву і рамонту абутку выдзелена былая майстэрня аб'яднання "Праца"[1].

Аб'ём прамысловай вытворчасці горада ў 1990 г. павялічыўся на 12,8 %. Выпуск тавараў народнага спажывання – на 14 %. Прадукцыйнасць працы – на 10,6 %, а сярэднемесячнага зарплата – на 16,5 %.[2] Побач з гэтым была зніжана прамысловая выпрацоўка малака сухога і абястлушчанага на 551 тону, менш на 4 тысячы пар выпушчана валюшнага абутку, скарацілася вытворчасць балонаў 50 літровых на 6,4 % або на 26 тысяч штук. Агульны выпуск тавараў ў 1990 г. знізілі тры прадпрыемствы горада: ВВП таварыства сляпых, масларобчы камбінат, гарбыткамбінат. Выкананне плана за год не забяспечыў масларобчы камбінат (98,0 % да плана), на 25,7 % знізіла выпуск прадукцыі друкарня, на 2 % - піўзавод, на 0,3 % - валюшна-лямцавая фабрыка. [3]

У параўнанні з 1989 г. на 4 % больш было аказана насельніцтву бытавых паслуг. План быў выкананы на 108,3 %. Разам з тым на многія віды паслуг попыт не быў задаволены. У прыватнасці на рамонт і індпашыў швейных вырабаў, індпашыў і вязку трыкатажных вырабаў.[4] Каб забяспечыць попыт насельніцтва горада, гарбыткамбінат поўнасцю спыніў адпраўку заказаў у іншыя месцы. А гэта больш чым на 100 тыс. руб. абутку і трыкатажных вырабаў. Прадпрыемствам быў наладжаны выпуск ложкаў, тумбачак пад тэлевізар, банкетак, асвоены выпуск іншых вырабаў. [5]

З-за татальнага дэфіцыту і ажыятажу пакупніцкага попыту на 8,1 млн. руб. перавыкананы аб'ём рознічнага таваразвароту. У магазінах скупляўся практычна ўвесь асартымент тавараў і прадуктаў. Становішча, якое склалася, запатрабавала прыняцця

[1] Тэзісы даклада // Новае жыццё. – 1991. – 6 мая. – С. 3.
[2] Там жа.
[3] Аб выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця горада і раёна ў 1990 годзе // Новае жыццё. – 1991. – 5 сакавіка. – С. 3.
[4] Там жа.
[5] Тэзісы даклада // Новае жыццё. – 1991. – 6 мая. – С. 3.

непапулярных мераў. Аднак і яны не далі істотных вынікаў. Прылаўкі магазінаў паранейшаму заставаліся пустымі.[6]

1991 год жыхары горада (як і ўсе жыхары рэспублікі) сустрэлі з візітнымі карткамі і талонамі на некаторыя прадуктовыя і прамысловыя тавары. З іх дапамогай планавалася да нейкай ступені адрэгуляваць гандаль, перакрыць шлях спекулянтам і перакупшчыкам да набыцця тавараў. Але сітуацыя не палепшылася. Нягледзячы на наяўнасць талонаў і візітных картачак гархарчпрамгандаль знаходзіўся ў палоне пастаяннага дэфіцыту літаральна на кожную групу ці катэгорыю тавараў. Да гэтага ж абласное кіраўніцтва мяняла свае рашэнні. Спачатку упраўленнем гандлю аблвыканкама было загадана па візітках і талонах у магазінах горада атаварваць толькі навагрудчан. Але праз некалькі тдняў было прынятае рашэнне атаварваць кожнага грамадзяніна Гродзенскай вобласці незалежна ад яго месца пражывання.[7]

Крытычны стан гандлёвага абслугоўванне прывёў да таго, што работнікам гарпрамхарчгандлю не было чым плаціць зарплату. Выхад бачыўся ці ў скарачэнні кадраў, ці ў нарошчванні тавараабароту. Аднак не было тавараў. Былі абмежаваны магчымасці па дэцэнтралізаванай закупцы, бо не было чаго абменьваць, да таго ж удвая ўзраслі транспартныя расходы. Побач з гэтым нарошчваліся таварныя запасы па асобнаму асартыменту. Але яго з-за перашкодаў розных інстанцый нельга было рэалізаваць. Гэта датычылася, напрыклад, дзіцячага асартыменту, які рэзка падаражаў. Кіраўніцтва гандлю выказвала прапанову адмены на гэты асартымент продажу па візітках.[8]

Працэс фарміравання новых структур гаспадарання ў 1991 г. істотна змяніў існаваўшыя гаспадарчыя ўклады. У практыку ўвайло раздзяржаўленне. У адпаведнасці з планамі яму ў першую чаргу падлягалі прадпрыемствы сферы бытавога і гандлёвага абслугоўвання, камунальнай гаспадаркі, мясцовай прамысловасці. Права юрыдычнай асобы ў 1991 г. атрымала прадпрыемства “Крыніца” (магазін № 30), з сістэмы гандлю масларобчаму камбінату быў перададзены магазін № 13, дзе быў арганізаваны фірменны продаж яго прадукцыі. У сферы бытавога абслугоўвання пайшлі па шляху ўдзелу камбіната ў складзе таварыстваў з абмежаванай адказнасцю. Так былі створаны таварыствы “Абеліск”, “Метраном”, “Свіцязь”.[9]

Масларобчы камбінат з 1 студзеня 1991 г. выйшаў з падпарадкавання аб’яднання і атрымаў поўную гаспадарчую самастойнасць. У яго з’явіўся свой рахунак у банку, права заключаць дамовы з пастаўшчыкамі сыравіны. А вось рэалізацыя прадукцыі адбывалася як і раней – праз аб’яднанне згодна дасылаемых нарадаў. Камбінат быў нерэнтабельным, бо фонд зарплаты апярэджваў аб’ём выпускаемай прадукцыі. Грашовы дэфіцыт пакрываўся за кошт мясцовага бюджэту, які ў сваю чаргу цэнтралізавана запаўняўся зверху. Да пераходу на новыя ўмовы гаспадарання прадпрыемства атрымоўвала прыбытак. У новых умовах завод не меў права самастойна размяркоўваць звышпланавую прадукцыю. Таму калектыў быў не зацікаўлены ў яе выпуску. У пачатку 1991 г. завод купляў у насельніцтва сыравіну па новых закупачных цэнах. А прадукцыю рэалізоўваў па старых рознічных. Зразумела, што такое становішча не спрыяла атрыманню прыбытку. Камбінат карыстаўся значнымі датацыямі.[10]

У новых умовах гаспадарання завод адкрыў свой фірменны магазін, дзе рэалізоўваў прадукцыю часам без талонаў. Гэта прыводзіла да таго, што пакупнікі маглі набыць масла ў фірменным магазіне, а затым яшчэ і атаварыць свае талоны ў магазіне горхарчгандлю. Норма ў той час раўнялася 500 грамам на чалавека. Адкрыццё фірменнага магазіна стварыла і праблемы для гарадскога гандлю. Прадукцыя, якая ў ім рэалізоўвалася, адымалася з фондаў, якія павіны былі ісці ў магазіны горада. А дадаць да гэтага продаж без талонаў – і атрымоўваецца, што масла хапала не ўсім. Як выйсце – прапановы аб памяншэнні нормы да 400 грамаў на чалавека масла ў месяц.[11]

---

[6] Там жа.
[7] У палоне талонаў і... дэфіцыту // Новае жыццё. – 1991. – 5 сакавіка. – С. 1.
[8] Пункт прыкладання сіл // Новае жыццё. – 1991. – 28 мая. – С. 2.
[9] Справаздача выканкама // Новае жыццё. – 1992. – 20 мая. – С. 2.
[10] “Нам бы год прадтрымацца...” Так лічаць на масларобчым камбінаце // Новае жыццё. – 1991. –19 сакавіка. – С. 2.
[11] Няўжо новы дэфіцыт? // Новае жыццё. – 1991. – 30 лістапада. – С. 2.

У сваю чаргу дырэктар масларобчага камбіната Я.В.Жарын заўважаў: “фірменны мы сапраўды забяспечваем больш. Дакладней, вязём туды столькі, колькі просяць і могуць рэалізаваць за рабочы час тыя, хто там працуе. Дарэчы, яны не адмаўляюцца ад фляжнага малака, не лянуюцца прадаваць яго на разліў. Не адмаўляюцца і ад тварагу, які ім вязуць не расфасаваны, а ў спецыяльнай тары […] Яны бяруць усё тое, ад чаго, спасылаючыся на дадатковыя цяжкасці, адмаўляюцца ў магазінах гархарчпрамгандлю. Тут чамусьці прадаўцы за лепшае лічаць стаяць на фоне пустога прылаўка, чым наліць у посуд пакупніка літар-другі малака або адважыць, узяўшы з флягі, тварог”.[12]

Добрыя словы пра гандаль у фірменным магазіне пакупнікі выказвалі і праз год. Напрыклад, у сваім лісце ў рэдакцыю раённай газеты навагрудчанін А.В.Давыдзенка адзначаў: “Усе кажыць, што ў фірменным магазіне маслазавода, што насупраць кінатэатра “Звязда”, смятана такая, што на хлеб намазвай, а малако такое, што пасля яго бутэльку ледзьве адмыеш. Чэргі тут заўсёды вялізныя. Кожны ж хоча набыць добры прадукт. А вось посуд з-пад малака, купленага ва ўсі’х астатніх крамах горада, мыць не трэба. Яго дастаткова спаласнуць. А смятану, каб і хацеў, то да канца есці не будзеш. У слоіку абавязкова збярэцца нейкая вадкасць незразумелага паходжання”. Адказ на пытанне, у чым прычына адрознення прадукцыі ў фірменным і іншых гандлёвых кропках горада, дырэктар параіў шукаць у прадаўцоў магазінаў горада і ў супрацоўнікаў санэпідэмстанцыі. Ён запэўніў, што ва ўсе гандлёвыя кропкі (і ў тым ліку фірменны магазін) прадукцыя ідзе аднолькавая.[13]

Побач з гэтым станоўчым прыкладам былі і адмоўныя. Жыхары горада былі незадаволены арганізацыяй фірменнага гандлю прадукцыяй мясцовай швейнай фабрыкі. Спачатку фірменны аддзел прадпрыемства быў адкрыты ў магазіне “Дзіцячы свет”. Праўда, існаваў ён там нядоўга. Кіраўніцтва фабрыкі пачало дыктаваць такія ўмовы, што дырэкцыя магазіна за лепшае палічыла адмовіць у арэндзе. Пасля гэтага не згадзіліся заключаць дамову з дырэкцыяй фабрыкі на арэнду плошчаў ў магазіне “Адзенне”. У выніку былі знойдзены плошчы ў магазіне “Дружба”. Але ў ім рэалізоўвалася прадукцыя толькі для работнікаў фабрыкі. Дырэктар І.І.Лазараў на пытанне, чаму такі парадак адказваў: “Я не магу задаволіць попыт усіх гараджан на швейную прадукцыю. На фабрыцы гандляваць нам забаронена. Таму ўсе свае ідуць у фірменны. Астатнія ж няхай набываюць нашы вырабы ў іншых магазінах”. Аднак туды фабрыка амаль нічога не пастаўляла…[14]

У 1991 г. завод газавай апаратуры і аўтапарк № 10 узялі свае прадпрыемствы ў арэнду. Кіраўнік завода газавай апаратуры У.І.Крупіч на пленуме гаркома КПБ у красавіку 1991 г. выступаў з крытыкай эканамічнай сітуацыі. З-за некіруемага росту цэнаў калектыў не мог вызначыцца ў планах і прагнозах. Кіраўнік выказваўся за раздзяржаўленне, пошук формаў, якія б прывязвалі чалавека да ўласнасці ў калектыве, каб ён адчуваў сябе яе гаспадаром, звязваў з ёю вынікі сваёй працы. Кіраўнік крытыкаваў рашэнне аблвыканкама аб перадачы 50 % атрыманай па бартэрных здзелках прадукцыі гандлю. У выніку заводу заставалася толькі 25 %. На думку кіраўніка, таго, хто праяўляе ініцыятыву, нешта шукае, сякуць на корані.[15]

У 1991 г. усё больш паслуг становіцца платнымі. Напрыклад, згодна рашэння аблвыканкама ад 22 студзеня 1991 г. філіял дзяржаўнага архіва ў г.Навагрудку быў пераведзены на новыя ўмовы гаспадарання. Было зацверджана новае палажэнне і прэйскуранты цэн. Згодна ім філіял амаль за ўсе паслугі пачаў браць грошы. Выключэннем сталі толькі даведкі аб стажы працы ці зарплаце. З гэтага ж года архівісты пачалі браць грошы з усіх устаноў і арганізацый, якія здавалі на пастаяннае захоўванне службовыя дакументы.[16]

У 1991 г. на прадпрыемствах горада праводзілася работа па пашырэнню выпуску

[12] “Ахаваць калектыў ад узрушэнняў жыцця…” Інтэрв’ю з дырэктарам Навагрудскага масларобчага камбіната Я.В.Жарыным / Інтэрв’ю вяла А.Міхневіч // Новае жыццё. – 1991. – 28 снежня. – С. 2-3.
[13] Міхневіч А. Фірменнае… ашуканства, або Так нас абслугоўваюць // Новае жыццё. – 1991. – 3 лютага. – С.3.
[14] Міхневіч А. Фірменнае… ашуканства, або Так нас абслугоўваюць // Новае жыццё. – 1991. – 3 лютага. – С.3.
[15] Знайсці сваё месца // Новае жыццё. – 1991. – 23 сакавіка. – С. 2.
[16] Паслугі сталі платнымі // Новае жыццё. – 1991. – 2 сакавіка. – С. 3.

тавараў народнага спажывання і платных паслуг з улікам наяўнасці матэрыяльных рэсурсаў. Так, заводам газавай апаратуры меркавалася асвоіць па кааперацыі вытворчасць пыласосаў і электрапрасаў. Пашырыў асартымент вырабаў хлебазавод. На швейнай фабрыцы адзін паток быў пераключаны на пашыў джынсавых касцюмаў. У ГАП-10 пачалася вытворчасць аўтамабільных крылаў для аўтамашын ВАЗ-2101.[17]

У 1991 г. па словах дырэктара Навагрудскай швейнай фабрыкі І.І.Лазарава, на прадпрыемствах панаваў страх перад спыненнем вытворчасці. З-за яго арыентаваліся на накапленне матэрыяльнага рэсурсу. Непасрэдна на фабрыцы "колькі маглі і дзе маглі, скуплялі сыравіну, каб фабрыка магла стабільна працаваць". У выніку былі створаны запасы коштам большым за кошт самой фабрыкі. Эканамічны "аўрал выскраб амаль усе рэсурсы" і фабрыка знаходзілася ў складаным фінансавым становішчы. Кіраўніцтва прадпрыемства пужалі перспектывы пачатку з 1 студзеня 1992 г. масавай прыватызацыі. Трэба заўважыць, што фабрыка працавала ў той час ва ўмовах "савецкага многаварыянтнага бартэру". Па словах дырэктара, "каб дастаць [гэта быў асноўны дзеяслоў у вызначэнні працы кіраўніцтва ў той перыяд – Д.К.] патрэбную нітку, трэба задзейнічаць 2-3 пасрэднікаў, адпаведна зацікавіўшы іх.". Дырэктар абураўся: "Хіба гэта нармальная эканоміка? Аб якой прыватызацыі прадпрыемстваў нашай галіны можа зараз ісці гутарка, калі заўтра, напрыклад, гэты самы бартэр не спрацуе і мне прыйдзецца распускаць людзей?"[18]

Побач з гэтым тая ж швейная фабрыка магла ганарыцца поспехамі. У той час яе прадукцыю купляў маскоўскі цэнтр моды "Люкс", у якім канцэнтраваліся самыя лепшыя вырабы прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці. З усёй Беларусі туды адпраўлялі прадукцыю каля пяці прадпрыемстваў. У 1991 г. фабрыка выканала заказ для польска-савецкага СП. Да яе праявіла цікавасць бельгійская фірма, з якой вяліся перамовы.[19]

Апісваючы становішча 1991 г., дырэктар швейнай фабрыкі заўважаў: "калі раней нас болей-меней апякалі, выклікалі ў выканкамы, міністэрствы, раіліся, прапаноўвалі, прыязджалі з камісіямі, то ў цяперашні час нас кінулі ў бездань. І ўся эканоміка пакуль трымаецца на працоўных калектывах і дырэктарах прадпрыемстваў."[20]

Эканамічны крызіс заявіў аб сабе ва ўсю моц ў 1992 г. Бюджэт горада на 1992 г. быў сфарміраваны сыходзячы з асноўных палажэнняў праграмы пераходу рэспублікі да рыначнай эканомікі і з улікам новага падатковага заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Новая падатковая сістэма адмяніла падатак з абароту, які быў арыентаваны на прымяненне фіксаваных рознічных і аптовых цэн і іх дзяржаўнае рэгуляванне. Замест яго быў уведзены падатак на дабаўленую вартасць і акцызы. З калгасаў пачалі браць плату за зямлю. Быў уведзены падатак на нерухомасць.[21]

Пачынаючы з 1992 г. узаемаадносіны паміж прадпрыемствамі-пастаўшчыкамі і спажыўцамі (гандаль) пачалі рэгуляваць палажэнні Закона "Аб прадпрыемствах у Беларускай ССР". Частка другая арт. 70 закона прадугледжвала, што прадпрыемствы "свабодныя ў выбары прадмета дагавора, вызначэнні абавязацельстваў, любых іншых умоў гаспадарчых узаемаадносін, якія не супярэчаць дзейнічаючаму заканадаўству".

У складаных умовах ў 1992 г. апынулася раённая газета "Новае жыццё". У кастрычніку 1992 г. газета замест лідскай пачала друкавацца ў гарадской друкарні. Як тлумачыла рэдакцыя, гэта было зроблена для таго, каб газета выходзіла больш стабільна, пазбегнуць недарэчнасцей, якія дапускалі лідскія сувязісты, па чыёй віне газета часам спазнялася да чытача. Пры гэтым скарачаліся выдаткі на перавозку.[22] Гэта практыка была нядоўгай. Ужо праз некалькі месяцаў газета зноў друкавалася ў Лідзе.

За два месяцы 1992 г. аўтапарк № 5 панёс страты на 1,2 млн рублёў. Гэта пры тым, што 1991 г. для прадпрыемства быў закрыты без страт. Каб выжыць закрываліся

---

[17] Сёння і заўтра // Новае жыццё. – 1991. – 1 чэрвеня. – С. 2.

[18] Тут ёсць над чым падумаць. Інтэрв'ю з дырэктарам Навагрудскай швейнай фабрыкі І.І.Лазаравым / Гутарыў Ю.Гацкі // Новае жыццё. – 1991. – 2 лістапада. – С. 2.

[19] Там жа.

[20] Там жа.

[21] Замест планаў… прагнозы // Новае жыццё. – 1992. – 2 лютага. – С. 1.

[22] Газета друкуецца ў Навагрудку // Новае жыццё. – 1992. – 17 кастрычніка. – С.1.

міжнародныя, прыгарадныя і гарадскія маршруты.[23] У маі 1992 г. было прынята рашэнне заставіць толькі тры гарадскія маршруты з існаваўшых васьмі.[24] З 1 чэрвеня гэтага ж году былі ўведзены карткі на бензін і лімітавана выдача нафтапрадуктаў. Аўтааматары маглі разлічваць на 60 літраў ў месяц.[25] Аднак і іх нельга было знайсці. У адзін з дзён канца 1992 г. на заправачнай горада было толькі 150-200 літраў бензіну дзвюх марак. Кіраўніцтву горада ўдалося "выбіць" некалькі тон паліва для грамадскага транспарту, каб на святочныя і навагоднія дні здзейсніць перавозкі пасажыраў.[26] За 1992 г. перавозка грузаў скарацілася на 13,2 %, пасажыраабарот – на 45,2 %.[27] Увосень 1992 г. мясцовая жыллева-камунальная гаспадарка атрымала паведамленне аб змяншэнні на 24 % паставак газу. Сярод насельніцтва пачалі распаўсюджвацца чуткі аб змяншэнні сярэдняй тэмпературы ў кватэрах пры ацяпленні да 14 градусаў. Камунальнікам даводзілася супакойваць насельніцтва.[28]

У 1993 г. аўтапарк № 5 працаваў цалкам за кошт датацый з гарадскога бюджэту. За першы квартал яны ў 11,9 разоў перавысілі даходы прадпрыемства.[29] Існуючая сістэма датацый не стымулявала калектыў да пошуку шляхоў павышэння эфектыўнасці за кошт унутраных рэзерваў. Гарадскія ўлады папракалі кіраўніцтва за тое, што аўтагаспадаркай не выкарыстоўваюцца рэзервы пошуку рэнтабельных маршрутаў з высокім пасажырапатокам, не вышукваюцца шляхі скарачэння агульнагаспадарчых расходаў за кошт здачы ў арэнду памяшканняў адміністрацыйнага будынку, аказання дадатковых паслуг насельніцтву, выяўлення безбілетнага праезду пасажыраў, паляпшэння работы кантрольнай службы.[30]

Аднак паляпшэнню становішча аўтапарка акрамя адзначаных фактараў перашкаджала адсутнасць бензіну. Напрыклад, у канцы жніўня - пачатку верасня 1993 г. не здзяйсняліся маршруты па горадзе і раёне. Былі перабоі і з выхадам на міжгароднія лініі.[31]

Аўтапарк № 5 і ў наступныя гады існаваў за кошт датацый. За пяць месяцаў 1999 г. яго даходы ад гарадскіх перавозак склалі толькі 28 %. На гэта значнае ўздзеянне аказала павелічэнне патоку пасажыраў-льготнікаў, якіх налічвалася больш за 50 катэгорый. За пяць месяцаў 1999 г. па горадзе было перавезена 84,4 тыс. чалавек, што мелі 50-працэнтную скідку, або 35 % перавезеных пасажыраў па поўным тарыфе. Фінансавыя сродкі аўтапарка па-ранейшаму былі абмежаваны. Калі ў 1991 г. прадпрыемства мела 115 аўтобусаў, то ў 1998 г. – толькі 54. Мясцовыя ўлады патрабавалі ад кіраўніцтва аўтапарка знайсці шляхі выкарыстання свободных плошчаў, правесці іх інвентарызацыю. Да апошніх адносіліся: другі паверх аўтавакзала, сталовая, крытая аўтастаянка, вялізарнае памяшканне басейна (991,5 кв. м). Яшчэ адной істотнай праблемай была кадравая. Нізкая заработная плата, на памер якой непасрэднае ўздзеянне аказвалі нізкія тарыфы, прывяла да росту цякучасці спецыялістаў.[32] А 17 лістапада 2000 г. ў рэйс не выйшаў ні адзін аўтобус. Прычынай сталі вялікія даўгі аўтапарка, якія рэзка павялічыліся ў сувязі з ростам кошту паліва. Яно за перыяд са жніўня па лістапад падаражала ў 2 разы. Такое становішча працягвалася некалькі дзён.[33]

Неабходна адзначыць, што сярод прадпрыемстваў горада былі і тыя, што здолее прыстасавацца да ўмоваў рынку і дастаткова паспяхова ў ім развівацца. Напрыклад, завод газавай апаратуры нават ва ўмовах крызісу працягваў будаўніцтва фізкультурнааздараўленчага комплексу, узводзіў каўбасны цэх. За сродкі прадпрыемства да канца

[23] Гацкі Ю. Зноў бунт на караблі?.. // Новае жыццё. – 1992. – 21 сакавіка. – С. 1.
[24] Справаздача выканкама // Новае жыццё. – 1992. – 20 мая. – С. 2.
[25] Аб тым, што хвалюе // Новае жыццё. – 1992. – 6 чэрвеня. – С.1.
[26] Прычына – няма паліва // Новае жыццё. – 1992. – 30 снежня. – С. 3.
[27] Тэзісы даклада // Новае жыццё. – 1993. – 12 мая. – С. 2.
[28] Гоцкі Ю. Толькі без самадзейнасці // Новае жыццё. – 1992. – 10 кастрычніка. – С. 1.
[29] Адказы на пытанні дэпутатаў // Новае жыццё. – 1993. – 22 мая. – С. 2.
[30] У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 1993. – 18 жніўня. – С. 1.
[31] Вось гэтыя аўтобусы… // Новае жыццё. – 1993. – 8 верасня. – С. 1.
[32] Транспарт – пасажыр – дарога // Новае жыццё. – 1999. – 30 чэрвеня. – С. 3.
[33] У рэйс не пускаюць... даўгі. Інтэрв'ю з дырэктарам аўтапарка № 5 М.У.Сафронавым / Гутарыла А.Міхневіч // Новае жыццё. – 22 лістапада. – С. 1.

1992 г. было пабудавана 40 кватэр. За 9 месяцаў 1992 г. аб'ём вытворчасці ў супастаўных цэнах дасягнуў узроўню 1991 г. Заводам выконваліся дагаварныя абавязацельствы па пастаўках прадукцыі. Да канца 1992 г. планавалася стварыць 140 рабочых месцаў на ўчастках па выпуску камплектуючых вырабаў.[34]

Па выніках працы ў 1992 г. аб'ём прамысловай вытворчасці горада ў супастаўных цэнах у параўнанні з 1991 г. знізіўся на 12,7 %.[35] На гэта аказалі ўплыў шэраг фактараў: рэфармаванне эканомікі, з якім звязаны ўзлёт свабодных цэн, парушэнне сувязей з прадпрыемствамі іншых дзяржаў, інфляцыйныя працэсы. У выніку скарацілі выпуск прадукцыі ўсе прадпрыемствы горада за выключэннем завода газавай апаратуры і друкарні.[36] З 20 відаў вырабаў, якія ўлічваліся ў той час ў тэрміновай справаздачнасці, скарачэнне адбылося па 16. Павялічыўся выпуск толькі газабалонных сістэм на заводзе газавай апаратуры, мужчынскага асартыменту на швейнай фабрыцы, бланачнай прадукцыі ў друкарні, мэблевай фурнітуры на ВВП таварыства інвалідаў па зроку. На працягу года страты рабочага часу з-за розных прычын склалі 131 тысячу чалавека-гадзін. Па выніках года вытворчасць тавараў народнага спажывання была зніжана ў фактычна дзеючых цэнах на 6,4 %, у тым ліку харчовых на 22,3 %. На 20,3 % ў супастаўных цэнах знізіўся аб'ём рознічнага тавараабароту. Тавараабарот грамадскага харчавання знізіўся на 30 %. Аказанне платных паслуг скарацілася на 24,1 %, у тым ліку бытавых на 42,2 %.[37]

Эканамічны стан ў першым квартале 1993 г. быў яшчэ больш складаны. Асабліва вялікае зніжэнне вытворчасці назіралася на піўзаводзе, дзе выпуск прадукцыі склаў 48 % да адпаведнага перыяду 1992 г., масларобчым камбінаце – 58 %. Не дапусцілі спаду аб'ёмаў на заводзе газавай апаратуры (120,5 %) і ў друкарні (110%). Асноўнымі прычынамі, якія выклікалі такое становішча спраў, былі адсутнасць сыравіны для выпуску той ці іншай прадукцыі і цяжкасці са збытам з-за высокай цаны. [38] Да гэтага неабходна дадаць высокія тэмпы інфляцыі, рост цэнаў на паліўна-энергетычныя рэсурсы, прадукцыю металургіі, сыравіну для вытворчасці тавараў народнага спажывання, увядзенне пошлін на ўвоз і вываз. У выніку цэны ў прамысловасці горада ў 1992 г. у параўнанні з 1991 г. павялічыліся ў 9,2 разы, а ў першым квартале 1993г. яшчэ ў 4,6 разы. У тым ліку на заводзе газавай апаратуры ў 14,7 разы (1993 г. – 4,6), на хлебазаводзе – 12,6 (1993 г. – 21,9), вучэбна-вытворчым прадпрыемстве таварыства інвалідаў па зроку – 11,7 (1993 г. – 3,9). Прадукцыя прадпрыемстваў рабілася неканкурэнтаздольнай па цане, на яе падаў попыт, і як вынік наступаў спад вытворчасці.[39]

І калі на прадпрыемствах, якія выраблялі такую жыццёва неабходную прадукцыю як хлеб і малакапрадукты, працоўны рытм захоўваўся, то там, дзе выпускаліся тавары лёгкай прамысловасці, культбыту і гаспадарчага ўжытку, прадпрыемствы вымушаны былі працаваць няпоўны рабочы дзень. Звычайнай справай сталі прастоі вытворчасці. Цікава, што найбольшая іх колькасць – 3456 чалавека-дзён – была ў завода газавай апаратуры, на якім пры гэтым назіраўся самы значны рост вытворчасці. На заводзе прастойвалі асобныя цэхі з-за адсутнасці сыравіны.[40]

Значны ўплыў на стан вытворчасці рабіла неплацёжаздольнасць пакупнікоў. Яна прыводзіла да скарачэння абаротных сродкаў у вытворцаў, адсутнасці грашовых сродкаў на разліковых рахунках. І гэта адбывалася нягледзячы на нядрэнныя вынікі фінансавай дзейнасці. Па выніках апошняй за першы квартал 1993 г. ні адно прадпрыемства не з'яўлялася стратным.[41]

У выніку росту рознічных цэн значна знізілася пакупная актыўнасць людзей. Калі яшчэ ў 1992 г. адчуваўся недахоп таварнай масы, то ў 1993 г. узнікалі праблемы са збытам. Напрыклад з планавых для рэалізацыі ў другім квартале 1993 г. 3560

[34] У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 4 лістапада. – С.1.
[35] Чаго дабіліся, што трэба зрабіць // Новае жыццё. – 1993. – 24 лютага. – С. 3.
[36] Там жа.
[37] Чаго дабіліся, што трэба зрабіць // Новае жыццё. – 1993. – 24 лютага. – С. 3.
[38] Галоўнае – забяспечыць людзей занятасцю // Новае жыццё. – 1993. – 24 красавіка. – С. 1.
[39] Адказы на пытанні дэпутатаў // Новае жыццё. – 1993. – 22 мая. – С. 2.
[40] Галоўнае – забяспечыць людзей занятасцю // Новае жыццё. – 1993. – 24 красавіка. – С. 1.
[41] Адказы на пытанні дэпутатаў // Новае жыццё. – 1993. – 22 мая. – С. 2.

тон малакапрадуктаў у красавіку было прададзена толькі 568 тон ці 16 %. У гандлі накапліваліся запасы дарагакаштуючых тавараў. З цяжкасцю знаходзіла збыт мэбля. Для набыцця тавараў гандлёвымі прадпрыемствамі горада не хапала крэдытных рэсурсаў, а ўласныя абаротныя сродкі складалі толькі 10,2 % ад патрэбнасці.[42]

Калі за 1992 г. спад вытворчасці склаў 12,7 %, то за першы квартал 1993 г. – 6,7 %. На прадпрыемствах мела месца скарачэнне працягласці рабочых змен, адпраўка людзей у водпуск за свой кошт. Абвастрыліся пытанні працаўладкавання. За першы квартал 1993 г. колькасць работнікаў у прамысловасці зменшылася на 130 чалавек ці на 3 %. Толькі завод газавай апаратуры і масларобчы камбінат не дапусцілі скарачэння. [43]

У верасні 1993 г. ў чатыры разы павялічыліся цэны на расійскі газ, за які трэба было разлічвацца расійскімі рублямі.[44]

Прадпрыемствы горада ў новых умовах імкнуліся да абнаўлення выпускаемага асартыменту, асваенню новых відаў прадукцыі. На швейнай фабрыцы ў 1991-1993 гг. штогод абнаўлялася да 70 % вырабаў. 19 новых відаў хлебабулачных і 23 кандытарскіх вырабаў выпускаў хлебазавод. У 1993 г. значна пашырыў асартымент камбінат надомнай працы. [45] Вытворцы заключалі дагаворы з прадпрыемствамі замежжа па выпуску прадукцыі з сыравіны пастаўшчыка. Першыя вынікі былі заўважны ўжо ў 1994 г. [46]

7 ліпеня 1994 г. завод газавай апаратуры набыў новую форму ўласнасці – стаў акцыянерным таварыствам адкрытага тыпу.[47] У гэты ж перыяд у самастойнае прадпрыемства з прысваеннем статуса юрыдычнай асобы быў выдзелены камбінат надомнай працы. На яго базе было арганізавана прамыслова-камерцыйнае прадпрыемтсва “Купалінка”.[48]

На заводзе газавай апаратуры ў той час былі распрацаваны тэхнічныя абгрунтаванні па асваенню 28 новых вырабаў. У тым жа годзе на швейнай фабрыцы і ў прадпрыемстве “Купалінка” былі заключаны дамовы на пашыў аддзення з фірмамі Германіі, Польшчы, Галандыі. У аўтобусным парку № 5 быў знойдзены іншы шлях павышэння прыбытку – ў снежні 1994 г. у аўтобусах пачалі працаваць кандуктары. Гэта дазволіла атрымаць за месяц у 2,5 разы болей, чым у лістападзе.[49]

Істотнай праблемай сталі неплацяжы за пастаўленую прадукцыю. Не садзейнічала зніжэнню запазычанасці і ўведзеная ў другім паўгоддзі 1994 г. сістэма пені. У выніку за кошт налічэння пені стратнай аказалася вытворча-гандлёвая фірма грамадскага харчавання. У цяжкім фінансавым становішчы аказалася аўтабаза № 10, валюшна-лямцавая фабрыка. Прадпрыемствы нн выконвалі пастанову Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 10 чэрвеня 1994 г. “Аб абавязковым афармленні векселямі запазычанасці за пастаўленыя тавары і аказаныя паслугі” і не афармлялі камерцыйныя крэдыты. Працягвалася практыка правядзення ўзаемаразлікаў за кошт банкаўскага крэдыту.[50]

Прыкметай часу стала павелічэнне выпуску віна-гарэлачнай прадукцыі і піва пры агульным спадзе вытворчасці тавараў народнага спажывання. Па выніках 1994 г. вытворчасць першых павялічылася на 45 %, а другіх – скарацілася на 24,4 %.[51]

Сістэма падаткаабкладання не садзейнічала будаўнічым арганізацыям у разгортванні будаўніцтва ў горадзе. Справа ў тым, што пастановай Вярхоўнага Савета БССР плацяжы падатку з прыбытку па аб’ектах АПК быў устаноўлены ў памеры 7 %, у той час, як па астатніх вытворчых і невытворчых аб’ектах – 35 %. У Навагрудку на той час былі дзве будаўнічыя арганізацыі “Белсельбуда”, у якіх былі розныя стаўкі падаткаабкладання.[52]

Па выніках працы за 1994 г. вытворчасць скарацілі 7 прадпрыемстваў. Сярод іх былі масларобчы камбінат, завод газавай апаратуры, швейная фабрыка. Асноўнай прычы-

---

[42] Там жа.
[43] Больш тавараў і паслуг лепшай якасці // Новае жыццё. – 1993. – 24 снежня. – С.1.
[44] У лёгкай прамысловасці зусім нялёгка // Новае жыццё. – 1993. – 11 верасня. – С. 1.
[45] Больш тавараў і паслуг лепшай якасці // Новае жыццё. – 1993. – 24 снежня. – С.1.
[46] У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 1995. – 4 студзеня. – С. 1
[47] Стаў завод акцыянерным таварыствам // Новае жыццё. – 1994. – 20 ліпеня. – С. 2.
[48] Тэзісы справаздачы // Новае жыццё. – 1994. – 1 кастрычніка. – С.2.
[49] У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 1995. – 4 студзеня. – С. 1
[50] Там жа.
[51] Аб сацыяльна-эканамічным становішчы раёна ў студзені-снежні 1994 г. // Новае жыццё. – 1995. – 11 лютага. – С. 3.
[52] Тэзісы даклада // Новае жыццё. – 1991. – 6 мая. – С. 3.

най быў недахоп сыравіны з-за адсутнасці сродкаў, цяжкасці са збытам прадукцыі, вялікія дэбіторскія і крэдыторскія запазычанасці. Знізілася вытворчасць большасці відаў прадукцыі: запачастак для аўтамабіляў (на 85,7 %), сеткі металічнай (на 64%), мэблевай фурнітуры (на 46,4%), сухога нятлустага малака (на 44,1%), масла жывёльнага (на 32,2%), газабалонных сістэм (на 32,8%). Аўтамабільным транспартам было перавезена на 51,8 % грузаў менш, чым у 1993 г. У 1994 г. прастоі прадпрыемстваў аказаліся ў 1,6 разы большымі, чым ў 1993 г. У снежні 1994 г. у адпачынак без захавання зарабатнай платы было адпраўлена 702 чалавекі. Парадаксальна, але ў гэты ж перыяд ўвод жылля без прыцягнення сродкаў насельніцтва павялічыўся на 27 % у параўнанні з 1993 г. само ж насельніцтва за свае сродкі пабудавала 33 кватэры, што на 15 % больш, чым у 1993 г. Станоўчымі вынікі працы былі і ў аўтапарка. Аўтобусамі агульнага карыстання было перавезана ў 3 разы болей пасажыраў, чым у папярэднім годзе. [53]

У 1995 г. спад вытворчасці працягваўся. Калі ў 1994 г. па прадпрыемствах раёна было выраблена 75,6 % тавараў ад паказчыкаў 1993 г., то ў 1995 г. толькі 51,3 % да ўзроўню 1994 г. Найбольшы спад назіраўся ў вытворчасці тавараў лёгкай прамысловасці – 23,9 % да паказчыкаў папярэдняга года. Спад вытворчасці дапусцілі 8 прадпрыемстваў. Больш чым напалову скарацілі аб'ём вытворчасці валюшна-лямцавая фабрыка, швейная фабрыка, завод газавай апаратуры, на 48,1 % – масларобчы камбінат. Выпуск газабалоннай прадукцыі скараціўся на 73,8%, мэблевай фурнітуры – на 66,4%, балонаў 50-літровых – на 37,1%, нанматрацнікаў – на 33,7%. Разам з гэтым 4 прадпрыемстваў павялічылі выпуск прадукцыі: піўзавод (на 24,4%), ВПП БелТІЗ (на 2,4%), хлебазавод (на 1,01%), друкарня (на 0.3%). У горадзе і раёне назіралася скарачэнне рознічнага таваразвароту ў супаставімых цэнах на 35,7 % у параўнанні з 1994 г. На 12,8 % скарацілася аказанне платных паслуг, на 25,6 % – бытавых. Запасы гатовай прадукцыі на пачатак 1996 г. складалі 8,7% ад аб'ёму вытворчасці ў дзеючых цэнах. У 1995 г. прастойвалі 7 прадпрыемстваў. Сума страт склала 257,3 тысячы чалавека-дзён, што ў 2,8 разы болей 1994 г. 55,5% ўсіх страт прыпадала на завод газавай апаратуры, 28,6% - на швейную фабрыку. У сувязі са спыненнем вытворчасці ў снежні 1995 г. было адпраўлена ў адпачынак без захавання або з частковым захаваннем заработнай платы 1,2 тысячы чалавек.[54]

Яскравае ўяўленне аб памерах спаду вытворчасці ў першай палове 1990-х дае прыклад Навагрудскага агароднінасушыльнага завода. У 1990 г. на прадпрыемстве было перапрацавана каля 5 тысяч тон ялавічыны і пастаўлена лідскаму аб'яднанню, якое вырабляла харчовыя канцэнтраты, 957 тон сушанага фаршу. Акрамя гэтага ў той год завод паставіў галоўнаму прадпрыемству аб'яднання 191 тону сушанай агародніны (цыбулі, морквы і г.д.), было нарыхтавана 380 тон яблычнага соку. У 1995 г. было выраблена сушанага мяснога фаршу толькі 16,1 тоны, соку яблычнага – 39 тон, і ў прыкладна 5 разоў меньш у параўнанні з 1990 г. насушана гародніны. Са снежня 1995 г. і да мая 1996 г. вытворчасць на заводзе ўвогуле была спынена. Кіраўніцтва завода здолела аднавіць вытворчасць. Быў наладжаны выпуск сушанай бульбы для спажыўцоў расійскага таварнага рынку.[55]

У 1995 г. ў горадзе сталі праводзіць аўкцыёны па продажу ва ўласнасць некаторых аб'ектаў. Праўда некалькі першых так і не адбыліся з-за адсутнасці пакупнікоў. Першым паспяховым стаў аўкцыён, што адбыўся 28 верасня 1995 г. у актавай залі музычнай школы. На таргі было выстаўлена 7 аб'ектаў. Уласніка знайшоў толькі адзін – магазін № 34. Яго набыла ва ўласнасць мясцовая фірма "Мерком".[56]

Тэндэнцыі да росту аб'ёмаў вытворчасці сталі заўважнымі ў прамысловасці пачынаючы з лютага 1996 г. Па выніках 9 месяцаў 1996 г. большасць прадпрыемстваў горада не мелі запазычанасці па плацяжах за энерганосьбіты і выплаце заработнай платы. На 1 студзеня 1997 г. запасаў гатовай прадукцыі на складах было 6% ад аб'ёму вытворчасці. Толькі на двух прадпрыемствах назіралася скарачэнне вытворчасці. Страты працоўнага

[53] Аб сацыяльна-эканамічным становішчы раёна ў студзені-снежні 1994 г. // Новае жыццё. – 1995. – 11 лютага. – С. 3.
[54] Там жа.
[55] Завод павінен і будзе жыць / Гутарка з дырэктарам агароднінасушыльнага завода А.П.Яцуком. Запісаў М.Сакольчык // Новае жыццё. – 1996. – 24 ліпеня. – С. 2.
[56] Грыгор'ева. Аўкцыён адбыўся // Новае жыццё. – 1995. – 30 верасня. – С. 2.

часу па прадпрыемствах раёна склалі 144,2 тысячы чалавека-дзён. Больш за 68% страт была звязана з цяжкасцямі са збытам прадукцыі, 21,6% - з недахопам сродкаў для набыцця матэрыяльных рэсурсаў, 10,1% - з адсутнасцю сыравіны, матэрыялаў і камплектуючых вырабаў.[57]

Па выніках 1996 г. у горадзе і раёне ў сапаставімых цэнах павялічыўся аб’ём рознічнага тавараабароту на 6,2%, тавараабароту грамадскага харчавання – на 8,9%. На 8,9% больш рэалізавана прадукцыі ўласнага вырабу. На 8,6% вырас аб’ём аказаных бытавых паслуг.[58]

1996 г. стаў годам, калі дзяржаўны гандаль стаў працаваць з прыбыткам. Гэта было дасягнута выдзяленнем ў 1995 г. з сістэмы гандлю 5 буйнейшых прамтаварных магазінаў у самастойныя адзінкі гаспадарання.[59] Станоўчым у рабоце шэрагу прадпрыемстваў было тое, што значна знізіліся ў параўнанні з мінулым годам прастоі: на валюшна-лямцавай фабрыцы – ў 22 разы, на швейнай фабрыцы – у 7,3 разы, на заводзе газавай апаратуры – на 18%.[60]

16 жніўня 1996 г. ў горадзе з рабочай паездкай быў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Г.Лукашэнка. Ён наведаў завод газавай апаратуры. На сустрэчы з калектывам Прэзідэнт выказаўся за тое, каб кантрольны пакет акцый заставаўся ў руках дзяржавы. Хаця на яго мела намеры разійскае аб’яднанне “Газпрам”.[61]

1996 г. стаў пераломным ў працы Навагрудскай швейнай фабрыкі. Калі ў папярэдні, 1995 г. у фабрыкі фактычна адстунчала база для работы, не быў закючаны ні адзін кантракт, а склады завалены прадукцыяй, абсталяванне зношана “да краю”. У гэты перыяд у прадпрыемства змяніўся кіраўнік. Новым дырэктарам стла А.І.Бахар. Яна пачала з пошуку замежных партнёраў. Першы кантракт быў заключаны з фірмай “Беламін”. Умовы не былі выгаднымі, але прадпрыемства атрымала абсталяванне вільготна-цеплавой апрацоўкі. У той час на фабрыцы працавалі тэхнікі з фірмы, якія кантралявалі ўсю працу. Па словах дырэктара, “давялося вучыцца працаваць па-новаму. Гэта быў сапраўдны пералом у псіхалогіі калектыву”. Фабрыка атрымала крэдыт, заключыла кантракты з замежнымі партнёрамі, выконвалі ваенныя заказы. У выніку ў 1996 г. толькі 12% прадукцыі пастаўлялася на айчынны рынак. Астатняя прадукцыя ішла ў Італію, Францыю, Англію, ЗША.[62]

У 1997 г. аб’ём прамысловай вытворчасці ў Навагрудскім раёне павялічыўся на 28,1% у параўнанні з 1996 г. *Аднак гэта адпавядала 44% ўзроўню 1990 г.*[63] Запасы гатовай прадукцыі на канец снежня 1996 г. склалі 32,4% ад вытворчасці ў снежні 1997 г. Тавараў народнага спажывання выраблена на 24,7% больш, чым у папярэднім годзе. Вытворчасць харчовых тавараў узрасла на 21,1%. нехарчовых – на 35,5%, тавараў лёгкай прамысловасці – на 20,2%, віна-гарэлачных вырабаў і піва – на 24,4%. Прадукцыйнасць працы ў параўнанні з 1996 г. павялічылася на 31,9%. Аб’ём платных паслуг у сапаставімых цэнах павялічыўся на 4,3%, бытавых – на 15,2%.[64]

Крызіс 1998 г. адмоўна адбіўся на эканоміцы горада. Неплацяжы краіны за пастаўляемыя з Расіі энергарэсурсы прывялі да ўвядзення з 12 лістапада жорсткага абмежавання спажывання апошніх. Практычна ўсе спажыўцы, у тым ліку буйнейшыя прамысловыя прадпрыемствы, працавалі ў рэжыме адключэння. Выключэнне было зроблема для прадпрыемстваў і арганізацый, якія забяспечвалі сацыяльную бяспеку – хлебазавода, водаканала, цэнтральных кацельняў горада. Па магчымасці абмяжоўваліся адключэнні жылога сектара.[65]

---

[57] Абсацыяльна-эканамічным становішчы Навагрудскага раёна ў студзені-снежні 1996 года // Новае жыццё. – 1997. – 12 лютага. – С. 3.
[58] Там жа.
[59] Тэзісы справаздачы выканкама // Новае жыццё. – 1996. – 19 кастрычніка. – С.2.
[60] Там жа.
[61] Аляксандр Лукашэнка на Навагрудчыне // Новае жыццё. – 1996. – 21 жніўня. – С. 1.
[62] Грэкава С. На фарыцы зноў... заспяваюць // Новае жыццё. – 1996. – 23 кастрычніка. – С.2.
[63] Рашэнне аб аб’яднанні прынята // Новае жыццё. – 1997. – 21 чэрвеня. – С. 1.
[64] Аб рабоце народнай гаспадаркі Навагрудскага раёна ў студзені-снежні 1997 года // Новае жыццё. – 1998. – 11 лютага. – С. 2.
[65] Пакуль у рэжыме адкоючэння. Што бдзе далей – цяжка прадказаць // Новае жыццё. – 1998. – 18 лістапада. – С. 1.

Ва ўмовах крызісу нечаканымі і дзіўнымі падаваліся поспехі валюшна-лямцавай фабрыкі. Па словах дырэктара С.І.Грэйбы, на прадпрыемстве крызіс не адбіўся таму, што да "абвалу" рубля паспелі запасціся сыравінай. Акрамя гэтага, з расійскімі партнёрамі працавалі па бартэру. А грашовыя паступленні былі ў асноўным ад работы на ўнутраным рынку. У Беларусі ў той час фабрыка рэалізоўвала больш за 30 % прадукцыі. Цэны на яе былі ў 1,5 разы меншыя, чым на экспартную. У 1998 г. на фабрыцы пайшлі на павышэнне аб'ёмаў вытворчасці. Набралі і абучылі людзей з цэнтра занятасці і арганізавалі на прадпрыемстве работу ў дзве змены. У выніку вытворчасць павялічылася на 70 %. І яна ўся знаходзіла спажыўца. Дагаворы ў лістападзе былі заключаны да сярэдзіны снежня. Пры гэтым яны былі складзены з улікам прыбытковасці. З недзяржаўнымі структурамі прадпрыемства пачало працаваць па дагаварных цэнах. Асобны кантракт быў заключаны з літоўскай фірмай на пашыў камуфляжных касцюмаў. Атрыманню добрых вынікаў спрыяла і правядзенне капрамонту часальных машын.[66] Аднак ужо ў лютым 1999 г. наступствы крызісу ў Расіі далі пра сябе знаць. Набытая да крызісу сыравіна скончылася, новая была ў 5 разоў даражэй. Па сабекошту адна пара валёнак абыходзілася фабрыцы ў 5 даляраў, а ў Расіі іх набывалі толькі за тры. Вельмі ўскладняла жыццё неканвертуемасць у Расіі беларускага рубля, увядзенне падатку на дабаўленую вартасць на ўвозімую сыравіну, неабходнасць закупаць сыравіну ў Сярэдняй Азіі.[67]

Упершыню за шмат гадоў прырост прамысловай прадукцыі амаль на ўсіх прадпрыемствах горада быў адзначаны ў 1998 г. Найбольшых паказчыкаў за дзевяць месяцаў дасягнуў піўзавод (прырост на 59,7 %), валюшна-лямцавая фабрыка (на 58,9 %), завод металавырабаў (на 47,1 5). Разам з гэтым, шэраг вострых праблем, якія існавалі ў той час, аказвалі адмоўны уплыў на работу прадпрыемстваў. З-за адсутнасці сыравіны на 54 % знізіла выпуск прадукцыі сумеснае прадпрыемства "Валарэкс", на 10,2 % – СП "Леор-Пластык". На 32,1 % паменшыўся выпуск тавараў народнага спажывання вучэбна-вытворчым прадпрыемтсвам БелТІЗ, на 16,7 % – СП "Леор-Пластык", на 0,7 % – хлебазавод. Не на высокім ўзроўні былі і аб'ёмы паставак прадукцыі за межы рэспублікі. У параўнанні з адпаведным перыядам 1997 г. аб'ём экспартных паставак за 9 месяцаў 1998 г. склаў 68,1 % пры заданні 108,4 %. Не апошнюю ролю ў гэтам адаграла перш за ўсё пагаршэнне эканамічнай сітуацыі ў Расіі. Не спрыялі росту экспарту нізкая плацёжаздольнасць расійскіх спажыўцоў, засваенне аналагічнай прадукцыі ў краінах СНД, рэзкае падаражанне імпартнай сыравіны, курсавая розніца каціровак беларускага рубля. Пры агульным выкананні аб'ёму вытворчасці раслі запасы гатовай прадукцыі на складах прадпрыемстваў. Удзельная вага іх у месячным аб'ёме вытворчасці ў 1998 г. складала 68,3 %[68] (у папярэднія гады яна не дасягала нават 10 %).

Па выніках 1998 г. прадпрыемствамі горада ў параўнанні з 1997 г. было больш выпушчана газабалонных сістэм, сеткі металічнай, швейных вырабаў, натуральнамалочнай прадукцыі, масла жывёльнага, піва, пладова-ягадных він. Вытворчасць харчовых тавараў павялічылася на 0,9%, нехарчовых (без тавараў лёгкай прамысловасці) – на 20,0%, тавараў лёгкай прамысловасці – на 17,4 %, віна-гарэлачных вырабаў і піва – на 50,1 %. Прадукцыйнасць працы ў цэлым па прамысловасці раёна ўзрасла на 9,6 %. У той жа час скарацілася вытворчасць рыбнай прадукцыі, суроў тлустых, хлеба і хлебабулачных вырабаў, балонаў 50-літровых. Страты працоўнага часу склалі 52,8 тысячы чалавека-дзён супраць 71,7 тысячы ў 1997 г. [69]

Запазычанасць прадпрыемстваў і ў цэлым рэспубліке за энергарэсурсы прывяла да таго, што 6 сакавіка 1999 г. у Навагрудку былі ўведзены абмежаванні на падачу гарачай вады для камунальна-бытавых патрэб. Прадпрыемства ацяпляльных кацельняў і цеплавых сетак было вымушана выконваць загад міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі аб зніжэнні ліміту спажывання прыроднага газу на 25 %. Для таго, каб вы-

[66] "Фенамен" ці заканамернасць? / Інтэрв'ю з дырэктарам валюшна-лямцавай фабрыкі С.Г.Гайбам / Гутарыла Святлана Грэкава // Новае жыццё. – 1998. – 28 лістапада. – С. 2.
[67] Спад ці зацішак? / Інтэрв'ю з дырэктарам валюшна-лямцавай фабрыкі С.Г.Гайбам / Размову вяла С.Грэкава // Новае жыццё. – 1999. – 30 чэрвеня. – С. 2.
[68] Грэкава С. Як у люстэку жыцця // Новае жыццё. – 1998. – 4 лістапада. – С. 1.
[69] Аб рабоце народнай гаспадаркі раёна ў студзені-снежні 1998 года // Новае жыццё. – 1999. – 17 лютага. – С. 2.

канаць гэта распараджэнне цалкам прадпрыемства павінна было б наогул адмовіцца ад падачы гарачай вады насельніцтву і працаваць толькі на ацяпленне жылфрнду, прадпрыемстваў і арганізацый. Але з улікам таго, што схема цеплазабеспячэння горада ў зімовы перыяд была сумешчана з сістэмай гарачага водазабеспячэння, то было прынята рашэнне аб зніжэнні тэмпературы цепланосьбіту ў дзённы час і павяшэнню ў вячэрні. Насельніцтва без гарачай вады ў выніку не засталося. Пры гэтым плата за ваду як і за ацяпленне ўзымалася ў тых жа памерах. Тут неабходна заўважыць, што ў сувязі з ростам курса долара на працягу ацяпляльнага сезона кошт энерганосьбітаў павялічыўся як мінімум у 8 разоў. Тарыфы ж на цеплаэнергію для насельніцтва заставаліся ранейшымі. Калі ў пачатку ацяпляльнага сезона насельніцтва аплочвала 20 % ад сабекошту цяпла, то ў сакавіку 1999 г. толькі 2,5-3 %.[70] Падобная сітуацыя паўтарылася ў канцы 2000 г. У той час па распараджэнню мясцовых уладаў у сувязі з запазычанасцю за газ і электраэнергію, гарачая вада стала падавацца толькі па пятніцах, суботах і нядзелях.[71]

У 1999 г. з вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў самастойную арганізацыю з правам юрыдычнай асобы выдзелілася жыллёва-эксплуатацыйная служба (ЖЭС). З гэтага часу ў яе значна палепшылася матэрыльна-тэхнічная база, была набыта новая тэхніка. ЖЭС рашэннем райвыканкама былі перададзены на абслугоўванне і бягучы рамонт ўнутраныя інжынерныя сеткі і збудаванні водаканала, прадпрыемства ацяпляльных кацельняў.[72]

Шмат нараканняў на сваю працу ў 1998 г. чуў масларобчы камбінат. У той час ён меў тры фірменныя магазіны. Але ў адрозненні ад добрых водгукаў ў пачатку сваёй дзейнасці, у 1998 г. ў іх адрас выказвалася толькі крытыка. Магазіны мелі малы тавараабарот, замест прыбытку былі страты. У іх была недастаткова прадстаўлена прадукцыя камбіната. Напрыклад, нельга было купіць марожанае, ёгурт.[73] Становішча стала выпраўляцца ў 1999 г., калі ў крэсла дырэктара пасля перапынку ў чатыры гады вярнуўся былы кіраўнік. За некалькі месяцаў завод пагасіў банкаўскія крэдыты, атрымаў прыбытак, набыў запасныя часткі і новае абсталяванне. З усімі прадпрыемствамі-пастаўшчыкамі сыравіны завод стаў расплачвацца своечасова, што садзейнічала вяртанню іх да супрацоўніцтва. І больш за гэта. Малако ў Навагрудак сталі вазіць некаторыя гаспадаркі Іўеўскага раёна. У планах дырэктара было пашырэнне сыравіннай базы і аднаўленне асартымента прадукцыі.[74]

Побач з некаторымі поспехамі ў 1999 г. вельмі адчувальнымі былі праблемы, звязаныя са зношанасцю абсталявання. Напрыклад, асноўныя фонды завода газавай апаратуры былі зношаны на 50 %. А гэта ўплывала на канкурэнтаздольнасць прадукцыі, яе кошт. З другога боку, "бензінавы крызіс" 1999 г. прывёў да значнага росту попыту на газавыя сістэмы для аўтамашын. У параўнанні з 1998 г. выпуск газавых сістэм для легкавых аўтамабіляў павялічыўся ў 2 разы, для грузавых – у 4. Замест 2,5 – 4 тысяч камплектаў завод стаў выпрабляць 10-11 тысяч. Такія аб'ёмы вытворчасці былі толькі ў 1989-1990 гг.[75]

Далейшым поспехам заводу перашкодзіў газавы крызіс восені 1999 г. З-за адсутнасці сыравіны айчынныя нафтаперапрацоўчыя заводы недапаставілі спажыўцам 50% звадкаванага газу. Асноўную колькасць газу неабходна было закупаць за мяжой. У гэты час цэны на звадкаваны газ рэзка ўзраслі. Калі ў верасні за тону плацілі 105 долараў, то ў пачатку кастрычніка цана ўзрасла да 189,5 долара. Аднак і па такіх коштах камерцыйныя структуры Літвы і Расіі пастаўлялі газ у абмежаванай колькасці. Для выпраўлення становішча спецыялісты "Белпалівагаза" шукалі выйсце ў заключэнні дамоваў з рэгіёнамі Расіі. У сувязі з нязначнымі пастаўкамі гэтага паліва ў краінн былі

[70] Няпростая сітуацыя з "простай" вадой / Інтэрв'ю з дырэктарам прадпрыемства ацяпляльных кацельняў і цеплавых сетак Г.К.Барэйкам / Запісала С.Грэкава // Новае жыццё. – 1999. – 20 сакавіка. – С. 1.

[71] З вадой зноў праблемы // Новае жыццё. – 2000. – 20 снежня. – С.1.

[72] "Гаспадар павінен быць адзіным..." Інтэрв'ю з начальнікам жыллёва-эксплуатацыйнай службы райвыканкама У.У.Падгайскім / Гутарку вяла А.Міхневіч // Новае жыццё. – 2000. – 12 ліпеня. – С. 2.

[73] Васільеў К. Для чаго фірменны? // Новае жыццё. – 1998. – 18 красавіка. – С. 3.

[74] Міхневіч І. Другое "дыханне" масларобчага // Новае жыццё. – 1999. – 4 жніўня. – С. 2.

[75] Ад няўстойлівасці да стабільнасці / Інтэрв'ю з дырэктарам завода газавай апаратуры А.Я.Чурай / Запісала С.Грэкава // Новае жыццё. – 1999. – 4 верасня. – С. 1.

ўведзены абмежаванні на яго водпуск насельніцтву. Газ стаў адпускацца толькі на гатаванне ежы і ў першую чаргу падаваўся ў групавыя ёмістыя ўстаноўкі, якія забяспечвалі газам шматпавярховыя дамы, а таксама абанентам, якія мелі ільготы.[76]

Асноўныя паказчыкі працы прадпрыемстваў горада і раёна прыведзены ў табліцы 1.

**Табліца 1. Паказчыкі эканамічнага развіцця г.Навагрудка і раёна за 1997-2001 гг.**[77]

| | 1997 | 1998 | 1999 | 2000 | 2001 |
|---|---|---|---|---|---|
| Аб’ём прамысловай прадукцыі (у % да паказчыку папярэдняга года) | +28,1 | +12,1 | +13,9 | +10,2 | +2,1 |
| Выпуск тавараў народнага спажывання (у % да паказчыку папярэдняга года) | +24,7 | +14,4 | +17,9 | -4,4 | +7,7 |
| Прадукцыйнасць працы (у % да паказчыку папярэдняга года) | +31,9 | +9,6 | +14,5 | +9,5 | +6,4 |
| Аказанне бытавых паслуг (у % да паказчыку папярэдняга года) | +15,2 | +6,2 | +52,4 | -13,2 | -4,3 |
| Тавараабарот грамадскага харчавання (у % да паказчыку папярэдняга года) | +19,4 | +20,7 | +21,3 | -5,2 | +25,9 |
| Рознічны тавараабарот (у % да паказчыку папярэдняга года) | +16,7 | +18,7 | +11 | -0,1 | +12,7 |
| Прастоі прадпрыемстваў (тысяч чалавека-дзён) | 71,7 | 52,8 | 20,6 | 19,7 | 7,6 |

Як відаць з Табліцы 1, 1999 г. быў па ўсіх асноўных паказчыках паспяховым. Толькі тры прадпрыемствы, якія выпускалі спажывецкія тавары, не дасягнулі ўзроўню папярэдняга года. Побач са значным ростам вытворчасці нехарчовых тавараў (на 55,3%), віна-гарэлачных вырабаў і піва (на 21,3%) скараціўся выпуск харчовых тавараў (на 10,8%). Пры агульным росце прадукцыйнасці працы на 14,5%, на чатырох прадпрыемтсвах было адзначана падзенне гэтага паказчыка.[78]

У 2000 г. тры прадпрыемствы горада – масларобчы камбінат, хлебазавод і піўзавод выпускалі 29,1 % прадукцыі ў агульным аб’ёме тавараў народнага спажывання. У той час толькі на піўзаводзе ўся прадукцыя была рэнтабельнай. Складаным было становішча на хлебазаводзе. Значныя даўгі перад ім мелі аб’яднанне рознічнага гандлю і райспажыўтаварыства. Гэта прыводзіла да таго, што завод у сваю чаргу не меў сродкаў на набыццё мукі. Ад кіраўніцтва прадпрыемства патрабавалі развіваць ўласны гандаль. Як тут не ўспомніць сітуацыю пачатку 1990-х, калі жыхары станавіліся ў чаргу за хлебам ў фірменных аддзелах хлебазавода ў крамах горада. Цяпер жа раённае кіраўніцтва патрабавала ад завода пашыраць выязны гандаль, браць у арэнду гандлёвыя аддзелы ў крамах. Цяжкім было становічша на масларобчым камбінаце, які завінаваціўся значную сумму калгасам. З-за даўгоў камбіната практычна паралізавалася фінансавае дзейнасць дваццаці сельскіх гаспадарак. Загрузка вытворчых магутнасцей ў той час складала усяго 15 %. Прадукцыя была стратнай. Асабліва сметанковага масла. Для дасягнення рэнтабельнасці неабходна было наладзіць выпуск новай прадукцыі, адносна якой не прымяняліся фіксаваныя цэны. Не выключаўся варыянт развіцця падзей, калі камбінат вымушаны будзе спыніць сваю дезйнасць.[79]

[76] Газавыя праблемы // Новае жыццё. – 13 лістапада. – С. 1.

[77] Складзена па: Аб рабоце народна йгаспадаркі Навагрудскаг араёна ў студзені-снежні 1997 года // Новае жыццё. – 1998. – 11 лютага. – С. 2; Аб рабоце народна йгаспадаркі Навагрудскаг араёна ў студзені-снежні 1998 года // Новае жыццё. – 1999. – 17 лютага. – С. 2; Аб эканамічным і сацыяльным становішчы раёна ў студзені-снежні 1999 года // Новае жыццё. – 2000. – 16 лютага. – С. 3; Аб эканамічным і сацыяльным становішчы раёна ў студзені-снежні 2000 года // Новае жыццё. – 2001. – 7 лютага. – С. 3; Аб эканамічным і сацыяльным становішчы раёна ў студзені-снежні 2001 года // Новае жыццё. – 2002. – 6 лютага. – С. 3.

[78] Аб эканамічным і сацыяльным становішчы раёна ў студзені-снежні 1999 года // Новае жыццё. – 2000. – 16 лютага. – С. 3

[79] Пятроў В. Не толькі выжыць... // Новае жыццё. – 2000. – 16 жніўня. – С. 1.

Найбольш складаным было становішча на валюшна-лямцавай фабрыцы. З 1 сакавіка 2000 г. фабрыка спыніла валюшна-лямцавую вытворчасць, а з 1 чэрвеня такі ж лёс напаткаў швейную вытворчасць. Пачаўся актыўны пошук фірм, якія на ўмовах арэнды змаглі б зноў вярнуць фабрыку да жыцця і аднавіць вытворчасць. Такой фірмай выступіла унітарнае прадпрыемства “Еўрапейскі тэкстыль”. Арандатары правялі перабсталяванне, пачалі расплочвацца з даўгамі.[80]

Аднак у цэлым вынікі працы за 2000 г. у параўнанні з 1999 г. выглядалі лепш (гл. Табліцу 1). Як і ў папярэднія гады ў лідэрах па росту вытворчасці былі віна-гарэлачныя вырабы і піва – + 26,1 %. У той жа час вытворчасць нехарчовых тавараў скарацілася на 6,3 %, нехарчовых – на 7,6 %, тавараў лёгкай прамыловасці – на 2,6 %. З 11 прадпрыемстваў, якія выпускалі спажывецкія тавары, ўзроўня 1999 г. не дасягнулі на пяці.

У пачатку 1990-х у горадзе ішло фарміраванне новай сацыяльнай групы насельніцтва – ***індывідуальныя прадпрымальнікі***. Калі ў канцы 1980-х для адкрыцця сваёй справы неабходна было ўзяць патэнт, то ў 1991 г. становішча памянялася. Згодна з пастановай Савета Міністраў БССР ад 16 кастрычніка 1991 г. за № 386, неабходна было прайсці ў мясцовых выканаўчых органах рэгістрацыю і, заплаціўшы 20 рублёў, атрымаць пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі прадпрымальніка, які здзяйсняе сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы. Раз у квартал падатковая інспекцыя кантралявала яго дзейнасць і даходы згодна з пададзенай ім дэкларацыяй. Пры гэтым даход да 189 рублёў падаткам не абкладаўся, а пры большых сумах выкарыстоўвалася стаўка ў 12 %. На снежань 1991 г. было зарэгістравана 107 такіх асобаў.[81]

У 1991 г. у Навагрудку дзейнічала 20 кааператываў і таварыстваў з абмежаванай адказнасцю. У іх працавала 356 чалавек. У першым квартале 1992 г. былі зарэгістраваны два прадпрыемствы: філіял ТАА “Надзея” і ТАА “Манометр” і ліквідаваны кааператыў “Абрыс”. У гэты перыяд практычна спыніла работу малое прадпрыемства “Лік”. Дрэнна працаваў кааператыў “Майстар”. Не працавалі такія прадпрыемствы, як “Будінвест”, “Рытм”, “Абеліск”, “Адрон”.[82]

Восенню 1992 г. у горадзе замест былой крамы “Зрабі сам” па вуліцы Садовай адкрыўся фірменны магазін калгаса “Дубкі”. Цэны ў ім былі ніжэйшыя, чым у дзяржаўных крамах, што не магло не выклікаць адабрэння жыхароў горада, іх задаволенасці тым, што разбураецца манаполія дзяржгандлю.[83]

15 мая 1992 г. было афіцыйна зарэгістравана калектыўнае прадпрыемства “Нота”, якое пачало пракладаць у горадзе кабельнае тэлебачанне. Спачатку яго маглі глядзець толькі жыхары мікрараёна “Паўднёвы-Захад”. Акрамя дэманстрацыі некалькіх спадарожнікавых каналаў творчая група тэлекампаніі прапаноўвала гараджанам тэлеперадачу “Вячэрні Навагрудак”.[84] Праўда, кампанія не здолела ахапіць сваімі паслугамі значную частку горада. У 1995 г. кабельнае тэлебачанне было толькі ў жыхароў мікрараёнаў “Паўднёвы Захад-1”, “Паўднёвы-Захад-2”, ваеннага гарадка, некаторых дамоў мікрараёна “Крыніцы”.[85]

На пачатак 1993 г. у горадзе дзейнічала 35 камерцыйных прадпрыемстваў. Было зарэгістравана 586 прадпрымальнікаў без права юрыдычнай асобы.[86] Па выніках працы за 1992 г. яны далі 3,6 % аб’ёму вытворчасці і паслуг і 2,8 % аб’ёму рознічнага таваразвароту. Нягледзячы на такія сціплыя паказчыкі недзяржаўныя прадпрыемствы забяспечылі работай больш за 360 чалавек.[87]

У канцы 1993 г. ў горадзе налічвалася 43 малыя прадпрыемствы, кааператывы, таварыствы з абмежаванай адказнасцю. З іх толькі за 1993 г. было зарэгістравана 12. Колькасць прадпрымальнікаў без стварэння юрыдычнай асобы на канец 1993 г. складала 354 асобы. З іх 18 займаліся саматужным промыслам, 44 – бытавым абслугоўваннем.

[80] Грэкава С. Новае жыццё старой фабрыкі // Новае жыццё. – 2000. – 4 лістапада. – С. 2.
[81] Гацкі Ю. Без паперкі ты казяўка, а з паперкай… // Новае жыццё. – 1991. – 7 снежня. – С. 1.
[82] У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 1992. – 6 чэрвеня. – С. 1.
[83] Андрэеў Ю. Яшчэ адным фірменным больш // Новае жыццё. – 1992. – 10 кастрычніка. – С.1.
[84] Гацкі Ю. У добры час // Новае жыццё. – 1992. – 30 мая. – С. 3.
[85] А з кабельным усё ж зручней // Новае жыццё. – 1995. – 27 верасня. – С. 3.
[86] Чаго дабіліся, што трэба зрабіць // Новае жыццё. – 1993. – 24 лютага. – С. 3.
[87] Тэзісы справаздачы // Новае жыццё. – 1993. – 12 мая. – С. 2.

Напрыклад, прадпрымальнік А.Любых наладзіў вытворчасць мяккай мэблі. Добрым попытам карысталіся вырабы кааператыва “Навагрудак”, заснавальнікам якога была вейная фабрыка. Пазней ён вылучыўся як самастойнае прадпрыемства. Толькі 9 малых прадпрыемстваў (ці 20,9 % ад агульнай лічбы) займаліся вытворчай дзейнасцю. Да іх адносіліся: кааператывы “Сігма” і “Працаўнік”, МП “Манометр”, “Адрон”, “Гаспадар”, “Элегант”, “Таццяна”, “Іcток”. Аб’ём выпрабленай імі прадукцыі складаў усяго 1,5 % ад вытворчасці прамысловых прадпрыемстваў.[88]

Першым вытворчым прадпрыемствам, яое перайшло ў прыватныя рукі, стала ДВКП “Купалінка”. Яно было куплена акцыянерным таварыствам “Стацкевіч”на адбыўшымся 17 снежня 1998 г. аўкцыёне.[89]

У 1993 г. у горадзе налічвалася 27 дзяржаўных структур Мінгандлю, 10 фірменных магазінаў, 292 прадпрымальніка, якія займаліся гандлем.[90]

У горадзе развіваўся фірменны гандаль. У 1993 г. акрамя масларобчага камбіната, завода газавай апаратуры свае гандлёвыя кропкі адкрылі камбінат надомнай працы, МВА, фабрыка па пашыву абутку, гарбыткамбінат. Акрамя гэтага з сістэмы гаргандлю выйшла 5 магазінаў, які сталі існаваць як самастойныя дзяржаўныя прадпрыемствы.[91] На першых парах гандлёвая дзейнасць развівалася стыхійна. Толькі ў 1993 г. згодна з пастановай Савета Міністраў у горадзе было праведзена ліцэнзаванне рознічнага гандлю ўсіх суб’ектаў гаспадарання незалежна ад форм уласнасці. Для здзяйснення ў далейшым кантролю выканання ўсіх умоў, абгрунтаваных ліцэнзіямі, у гарвыканкаме быў створаны аддзел па гандлі і грамадскім харчаванні.[92]

У 1995 г. на мяжы банкруцтва апынуўся дзяржаўны гандаль. Па выніках працы за 8 месяцаў таго году стратнымі былі ўсе прадпрыемствы і аб’яднанні, за выключэннем прадпрыемства “Крыніцы”. Аб’яднанне рознічнага гандлю і грамадскага харчавання існавала за кошт крэдытаў банка. Якія дасягнулі суммы, роўнай сумме страт, якія мела аб’яднанне. Асноўная маса выдаткаў прыходзілася на пакрыццё банкаўскага крэдыта. “Праядаліся” не толькі абаротныя сродкі, чарга дайшла да асноўных фондаў.[93]

У кастрычніку 1995 г. з мэтай нармалізацыі фінансавага становішча прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання, сварэння ўмоў для развіцця ініцыятывы малых прадпрыемстваў, мясцовыя ўлады вырашылі выдзеліць са складу аб’яднання рознічнага гандлю і грамадскага харчавання ў самастойныя прадпрыемствы з прадастаўленнем правоў юрыдычных асобаў і перадачай па балансу ў адпаведных частках маёмасных правоў і абавязкаў магазіны №№ 9, 24 і 29 (“Дружба”, “Спорттавары” і “Гаспадарчыя тавары”).[94]

Новыя камерцыйныя ўстановы шукалі і новыя формы працы. Жыхары горада ў пачатку 1990-х было становўча адзываліся аб працы прыватных магазінаў, дзе сустракалі з ветлівай усмешкай на тавары, рэкламавалі прадукцыю, працавалі ледзь не “ўвесь светавы дзень, а нярэдка і ў выхадныя”. Новым і нязвыклым, але вельмі прыемным для пакупнікоў быў падыход да абслугоўвання ў камерцыйным магазіне “Свіцязь” на вул. Гродзенскай, дзе не толькі рэкламавалі кожную навінку, але і прапаноўвалі пакупнікам… пакаштаваць яе. І пры чым бясплатна.[95]

Адметна, што ў 1996 г. менавіта канкурэнцыя з боку прыватнага прадпрымальніцтва, які насыціў рынак больш таннымі таварамі, была названа ўладамі горада адной з прычын зніжэння рознічнага таваразвароту дзяржаўнага гандлю.[96] Кіраўнікам стратных і нізкарэнтабельных прадпрыемстваў выканкам гарсавета прапанаваў “стварыць маркетынгавую службу на базе таваразнаўцаў і іншых спецыялістаў у адпаведнасці з

[88] Больш тавараў і паслуг лепшай якасці // Новае жыццё. – 1993. – 24 снежня. – С.1.
[89] У новы шлях з новымі надзеямі // Новае жыццё. – 2000. – 6 студзеня. – С. 2.
[90] Больш тавараў і паслуг лепшай якасці // Новае жыццё. – 1993. – 24 снежня. – С.1.
[91] Створаны новы аддзел // Новае жыццё. – 1993. – 13 сакавіка. – С. 1.
[92] Там жа.
[93] Справаздача выканкама // Новае жыццё. – 1995. – 9 верасня. – С. 2.
[94] У шарвыканкаме // Новае жыццё. – 1995. – 11 кастрычніка. – С. 1.
[95] Васілец Л. Аблічваюць, недакладваюць, абважваюць, або Так нас абслугоўваюць // Новае жыццё. – 1992. – 2 верасня. – С. 3.
[96] У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 1996. – 13 сакавіка. – С.1.

патрабаваннямі часу і рынку, прыняць канкрэтныя меры па павышэнню прадукцыйнасці працы ў сферы абароту, забяспечыць кантроль за захаваннем асартыменту, пастаянна аналізаваць стан запасаў сыравіны".[97]

Па стану на 1 студзеня 1997 г. у Навагрудку быдо зарэгістравана 56 прадпрыемстваў недзяржаўнай формы ўласнасці. З іх працавала толькі 24. Выпускам прадукцыі займаліся 4, аказаннем паслуг – 11, рознічным і аптовым гандлем – 8. У выніку іх дзейнасці за 1996 г. у бюджэт горада паступіла 5,2% ад агульнай сумы падаткаў. У 1996 г. стратнымі былі чатыры прадпрыемствы. У 1997 г. іх стала больш – 11.[98]

У 1999 г. у горадзе налічвалася трыццаць таксістаў-прыватнікаў. Дзяржаўны таксапарк на той час быў ліквідаваны з-за стратнасці. Паркоўку таксі рабілі толькі каля аўтавакзала па вул. Міцкевіча. Стаянкі таксі адсутнічалі ў раёне новай забудовы горада. Фактычна работа машын была неарганізавана. Быў не прадугледжан выклік таксі па тэлефоне, адсутнічала дыспетчарская служба.[99]

У самым канцы 1994 г. у горадзе замест камерцыйна-турыстычнага прадпрыемства "Белая Русь" была зарэгістравана вытворча-камерцыйная турыстычная фірма ТАА "Лучоса-М". Асноўным заяўленым ёй відам дзейнасці быў паляўнічы і рыбалоўны турызм.[100] У 1998 г. у горадзе пачаў дзейнічаць філіял Мінскага таварыства з абмежаванай адказнасцю "Аверс-тур". Адной з асноўных задач, вырашэннем якой займаўся філіял, была арганізацыя экскурсій па мясціных, якія мелі адносіны да жыцця і першых этапаў творчасці Аама Міцкевіча. Праўда, на той час ў горадзе не было дзе размясціць турыстаў. Адзіная гасцініца знаходзілася на рамонце. Таму начлег планавалася прадстаўляць у Баранавічах, Карэлічах. Лідзе, пансіянаце "Свіцязь". Акрамя наладжвання экскурсій па Гродзеншчыне і Беларусі філіял прапаноўваў замежныя турыстычныя і шоп-паездкі[101].

Перабудова эканомікі ва ўмовах рыначных адносін самым непасрэдным чынам змяніла механізм аплаты працы, аказала ўздзеянне на ***занятасць насельніцтва***, яго матэрыяльнае становішча. У 1992 г. працоўныя рэсурсы горада складалі 17,9 тысячы чалавек, або 60 % ад агульнай колькасці насельніцтва. Калі за 1991 г. колькасць працуючых амаль не скарацілася, то за першыя чатыры месяцы 1992 г. на прадпрыемствах і арганізацыях было скарочана каля 150 чалавек, 24 прызнаны беспрацоўнымі і 14 з іх выплачвалася дапамога.[102] Па выніках года колькасць працуючых у прамысловасці зменшылася на 3,8 % і склала 4609 чалавек. На пачатак 1993 г. ў горадзе было зарэгістравана ўжо 139 беспрацоўных, з іх 57 атрымлівалі дапамогу. [103]

Узровень беспрацоўя ў першым квартале 1993 г. складаў 0,6 %. У цэнтры занятасці было зарэгістравана 162 беспрацоўных (у 1992 г. – 24). За 1992 г. пры дапамозе цэнтра занятасці было працаўладкавана 1174 чалавека. За першы квартал 1993 г. за кошт сродкаў фонду занятасці на перападрыхтоўку было накіравана 52 чалавекі. [104]

У далейшым становішча пагоршылася. Па стану на 1 верасня 1994 г. ў горадзе была зарэгістравана 1018 беспрацоўных. З іх працаўладкавана 613 (60,2 %), 514 атрымлівалі дапамогу. Гарадскі цэнтр занятасці насельніцтва арганізоўваў на дагаварных асновах аплочваемыя грамадскія работы. Напрыклад, за 8 месяцаў 1994 г. у іх прынялі ўдзел 415 чалавек. Імі было адпрацавана 2872 чалавека-дні. За кошт сродкаў фонду занятасці вялася падрыхтоўка і перападрыхтоўка незанятага насельніцтва. За 8 месяцаў 1994 г. новым спецыяльнасцям было навучана 35 чалавек. Нягледзячы на прымаемыя меры, у 1994 г. назіраўся рост колькасці беспрацоўных. За 8 месяцаў ён павялічыўся з 1,4 да 2,9 % супраць 1,8 % па вобласці. Складанай заставлася структура беспрацоўных. Большую іх частку складалі жанчыны. У многіх з іх былі малыя дзеці. Павялічылася коль-

[97] Там жа.

[98] У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 1997. – 9 мая. – С. 1.

[99] Транспарт – пасажыр – дарога // Новае жыццё. – 1999. – 30 чэрвеня. – С. 3.

[100] У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 1995. – 28 чэрвеня. – С. 2.

[101] Запрашае "Аверс-тур" / Інтэрв'ю з дырэктарам Навагрудскага філіяла ТАА "Аверс-тур" Л.У.Усенка / Гутарыла А.Міхневіч // Новае жыццё. – 1996. – 13 чэрвеня. – С. 4.

[102] Справаздача выканкама // Новае жыццё. – 1992. – 20 мая. – С. 2.

[103] Чаго дабіліся, што трэба зрабіць // Новае жыццё. – 1993. – 24 лютага. – С. 3.

[104] Больш тавараў і паслуг лепшай якасці // Новае жыццё. – 1993. – 24 снежня. – С.1.

касць беспрацоўны маладога ўзросту, у асноўным за кошт выпускнікоў розных навучальных устаноў. У той жа час па стану на 1 жніўня 1994 г. у горадзе працавала 1250 пенсіянераў.[105]

З мэтай садзейнічання беспрацоўным грамадзянам, звольненым з прадпрыемстваў і арганізацый, адстаўнікам-вайскоўцам, датэрмінова скарочаным з радоў Узброеных Сіл, і іншым у набыцці новых прафесій ў канцы 1994 г. у Навагрудку была створана новая грамадская арганізацыя – "Адаптацыя". Пры ёй планавалася стварыць школу бізнесу, якая павінна была працаваць на базе гандлёва-эканамічнага тэхнікума.[106]

Праявай часу стала рашэнне гарадскіх уладаў у канцы 1995 г. аб устанаўленні квоты прыёму на работу асоб, што не здольныя на роўных умовах канкураваць на рынку працы. А іх у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб занятасці насельніцтва" былі аднесены адзінокія, мнагадзетныя сем'і, якія выхоўвалі непаўналетніх дзяцей і дзяцей-інвалідаў, моладзь, інваліды, грамадзяне, што выехалі з зон радыяцыйнага забруджання. Усе яны падлягалі абавязковаму працаўладкаванню па накіраванню цэнтра занятасці.[107]

Сітуацыя з беспрацоўем у горадзе ў 1995 г. пагоршылася. За год у цэнтр занятасці па дапамогу звярнуліся 1934 чалавекі. 1195 з іх зарэгістраваліся беспрацоўнымі. З агульнай колькасці звярнуўшыхся было працаўладкавана 72,5 %. На прафесіянальную і перападрыхтоўку было накіравана 37 чалавека (планавалася – 70). У горадзе павялічылася колькасць тых, хто працяглы час нідзе не працаваў, а таксама тых, хто на ўлік станавіўся паўторна. Папаўненне свабоднай рабочай сілай ішло за кошт скарачэння работнікаў з завода газавай апаратуры, швейнай фабрыкі, агароднінасушыльнага завода, АП-10 і іншых. На 1 студзеня 1996 г. у цэнтры занятасці на ўліку знаходзілася 836 чалавек, што на 40 % болей паказчыка папярэдняга года.[108] На 1 верасня 1996 г. ў народнай гаспадарцы горада было занята 8236 чалавек, гэта на 667 чалавек (7,5%) менш, чым на такі перыяд у папярэднім годзе.[109]

У 1996 г. працягвалася тэндэнцыя скарачэння колькасці працуючых. За 8 месяцаў на швейнай фабрыцы было звольнена 192 чалавек (18,3%), на ЗГА – 268. (13%). Усяго на прадпрыемствах колькасць працуючых скарацілася на 490 чалавек (12,%%). На 1 кастрычніка было зарэгістравана 1104 беспрацоўных, што складала 6,7% ад усяго працаздольнага насельніцтва. У параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года рост склаў 439 чалавек. Больш за 100 чалавек было накіравана на перанавучанне.[110]

У такіх умовах нястрымана расло п'янства як у грамадскіх месцах, так і на прадпрыемствах. Яго ўзровень ў Навагрудку ў 1996 г. быў самым высокім у Гродзенскай вобласці – больш за 700 чалавек на 10000 насельніцтва.[111]

Толькі ў 1998 г. намецілася стабілізацыя з беспрацоўем. На 1 студзеня 1998 г. колькасць беспрацоўных па раёне была на 23,4% менш, чым год назад.[112]У 1998 г. узровень беспрацоўя спыніўся на паказчыку ў 2,4 %. У супрацоўніцтве з цэнтрам занятасці былі зацікаўлены прадпрыемствы, бо за прадстаўленне працоўных месц былым беспрацоўным яны маглі разлічваць на беспрацэнтныя крэдыты. У 1998 г. такія крэдыты атрымалі 7 прадпрыемстваў. Шмат грошай цэнтр выдаткоўваў на перападрыхтоўку кадраў. У тым жа годзе яна адбывалася па 25 спецыяльнасцях. Акрамя гэтага цэнтр займаўся падрыхтоўкай спецыялістаў для канкрэтнага прадпрыемства. Напрыклад, для прадпрыемства ацяпляльных кацельняў былі падрыхтаваны аператары газавых кацельняў. Практыкавалася і навучанне на працоўных месцах. У 1998 г. такім чынам рыхтаваліся кадры для валюшна-лямцавай фабрыкі.[113]

---

105 У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 1994. – 15 кастрычніка. – С. 1.
106 Грыгор'ева А. За справу бярэцца "адаптацыя" // Новае жыццё. – 1994. – 10 снежня. – С.1.
107 У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 1995. – 11 кастрычніка. – С. 1.
108 Міхневіч А. Цэнтр занятасці: інфармацыя і прагноз // Новае жыццё. – 1996. – 24 студзеня. – С. 2.
109 Тэзісы справаздачы выканкама // Новае жыццё. – 1996. – 19 кастрычніка. – С.2.
110 Там жа.
111 Там жа.
112 Аб рабоце народнай гаспадаркі Навагрудскага раёна ў студзені-снежні 1997 года // Новае жыццё. – 1998. – 11 лютага. – С. 2.
113 Рынак працы: позірк уперад / Інтэрв'ю з дырэктарам Навагрудскага раённага цэнтра занятасці М.І.Калініным / Размову вяла С.Грэкава // Новае жыццё. – 1998. – 9 снежня. – С. 3.

***Дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцця***, страта аўтарытэту камуністаў прывялі да таго, што па выніках 1990 г. звыш 30 % свайго саставу страцілі партарганізацыі завода газавай апаратуры, райсельгасхіміі, МВА, райаграпрамтэхнікі. Няўхільна скарачалася колькасць камуністаў, якія працавалі ў гарадской арганізацыі ЛКСМБ. У той жа час ніводзін камуніст не пакінуў партарганізацыі на валюшналямцавай фабрыцы, у гардрукарні, камбінаце кааператыўнай прамысловасці, аўтапарку № 10, гараддзеле ўнутраных спраў, большасці школ.[114]

Неабходна адзначыць, што адна з першых у рэспубліцы забастовак адбылася ў аўтапарку № 5 Навагрудка ў 1988 г. Яна прывяла да змены кіраўніка. Але ўжо ў сакавіку 1992 г. рашэннем канферэнцыі працоўнага калектыву большасцю галасоў быў выказаны недавер дырэктару П.М.Стасевічу.[115]

У красавіку 1991 г. на заводзе газавай апаратуры адбыўся мітынг рабочых, быў створаны стачачны камітэт, а ў маі таго ж году рашэннем агульназаводскай канферэнцыі было прынятае рашэнне аб вывадзе з завода партыйнага камітэта і камітэта камсамола. На канферэнцыі быў абраны новы старшыня прафсаюзнага камітэта. Ім стаў рабочы Г.П.Янчанка, які ў сваёй прамове адмовіўся ад грашовых даплат на пасадзе старшыні прафкама з бюджэту завода, матывуючы гэта тым, што прафкам павінен утрымлівацца толькі на прафсаюзныя грошы.[116] Неабходна заўважыць, што канферэнцыя адбывалася ў час, калі прадпрыемства ўжо знаходзілася ў крызісе. Першыя чатыры месяцы 1991 г. яно жыло за кошт запасаў на складах, але выпуск новай прадукцыі быў пад пагрозай зрыву. З-за адсутнасці ліста спыніўся газабалонны цэх, не выключалася магчымасць спынення другога.[117] Побач з гэтым на прадпрыемстве назіралася тэндэнцыя да падзення дысцыпліны. А работнікі патрабавалі павелічэння заробку ў два разы. Так і пасля канферэнцыі дэлегаты пачалі абмеркаванне рашэнняў “круглага стала”, які па слядах красавіцкага мітынгу адбыўся паміж стачкамам і адміністрацыяй завода. Асноўным было пытанне аб павелічэнні зарплаты.[118]

Некаторыя жыхары горада ў пачатку 1990-х спрабавалі вырашаць хвалюючыя іх пытанні радыкальнымі метадамі. Напрыклад, жыхарка горада С.Петрушкевіч не магла вырашыць з мясцовымі ўладамі пытанне адносна свайго зямельнага ўчастку па вул. Садовай. Гэта штурхнула яе на акцыю галадоўкі падчас адкрыцця веснавой сесіі 1992 г. Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.[119]

Нарастанне сацыяльна-эканамічнага крызісу нараджала ў людзей недавер да ўладаў. Нават самі дэпутаты гарадскога савета праяўлялі абыякавасць да ўдзелу ў працы гэтага органа ўлады. Напрыклад, у верасні 1992 г. пад пагрозай зрыву апынулася сесія гарадскога савета народных дэпутатаў, на якой абмяркоўвалася пытанне “Аб рабоце медыцынскіх устаноў горада па паляпшэнню медыцынскага абслугоўвання насельніцтва і аздараўленню ўмоваў працы, быту і адпачынку працоўных”. На пачатку пасяджэння не было кворуму. Адкрыццё сесіі зацягвалася. Сітуацыю выратавала тое, што напярэдадні творчая група “Нота-ТБ” зняла кадры, прысвечаныя праблемам аховы здароўя ў горадзе, і іх паказалі дэпутатам. З цяжкасцю, але кворум удалося сабраць. На сесіі старшыня Савета Г.Я.Бака выказаў прапанову надрукаваць у газеце інфармацыю аб некаторых пытаннях работы дэпутатаў у гарадскім Савеце. Большасцю галасоў яна была адхілена. Дэпутаты, як кажуць, “не захацелі выносіць смецця з хаты”. Некаторыя нават задавалі пытанне: а ці не распусціць гарадскі Савет наогул?[120]

20 чэрвеня 1997 г. адбылося сумеснае пасяджэнне сесіі раённага і гарадскога Савета дэпутатаў. На ім было прынята рашэнне аб аб’яднанні двух адміністрацыйных адзінак – Навагрудскага раёна і горада Навагрудка.[121]

Цяжкая эканамічная сітуацыя не дазваляла добра працаваць і сістэме ***аховы здароўя***.

[114] Знайсці сваё месца // Новае жыццё. – 1991. – 23 сакавіка. – С. 2.
[115] Гацкі Ю. Зноў бунт на караблі?.. // Новае жыццё. – 1992. – 21 сакавіка. – С. 1.
[116] Гацкі Ю. Сваё слова сказала канферэнцыя // Новае жыццё. – 1991. – 28 мая. – С. 1.
[117] Пункты прыкладання сіл // Новае жыццё. – 1991. – 28 мая. – С. 2.
[118] Гацкі Ю. Сваё слова сказала канферэнцыя // Новае жыццё. – 1991. – 28 мая. – С. 1.
[119] Пытанні чакаюць адказаў // Новае жыццё. – 1992. – 23 мая. – С. 3.
[120] Кузьміч В. Вымушанае пасляслоўе // Новае жыццё. – 1992. – 30 верасня. – С.2.
[121] Рашэнне аб аб’яднанні прынята // Новае жыццё. – 1997. – 21 чэрвеня. – С. 1.

У апошні перадкрызісны гоод (1990 г.) у горадзе была ўведзена новая паліклініка на 380 наведванняў. Пачата будаўніцтва стаматалагічнай клінікі на 250 наведванняў у змену.[122]

Аднак у горадзе не было ні воднага тыпавога корпуса. Усе падраздзяленні працавалі ў прыстасаваных умовах. Ніякай крытыкі не вытрымлівалі памяшканні, дзе месціліся дзіцячая паліклініка, малочная кухня, раддом, гінекалогія, жаночая кансультацыя, стаматалогія. З-за адсутнасці сродкаў было спынена будаўніцтва стаматалагічнай паліклінікі, якую планавалася ўвесці ў строй у 1991 г. Першых наведвальнікаў яна прыняла толькі ў кастрычніку 1994 г.[123]

У 1991 г. так і не пачалося будаўніцтва дзіцячай паліклінікі, жаночай кансультацыі на 200 наведванняў. У праекце заставаўся акушэрскі корпус на 100 ложкаў. У горадзе востра адчуваўся недахоп медыкаментаў. На той час у Беларусі выпускалася толькі 100 назваў лекаў, а ў абіходзе ўрача павінна было быць сама менш 2,5 тысячы розных прэпаратаў. З-за таго, што з развалам Савецкага Саюза былі парушаны ранейшыя сувязі, з ранейшых крыніц лекаў не атрымлівалі. Адзіным існуючым тады выхадам была закупка медыкаментаў у фірмы, якая знаходзілася ў Мінску. Яна прадавала самыя розныя медпрэпараты за рублі, але па валютнаму курсу. Зразумела, што выдзеленых з бюджэту грошай катастрафічна не хапала.[124]

З-за недастатковага і нерытмічнага фінасавання ТМА адчувала сур'ёзныя цяжкасці ў набыцці медпрэпаратаў, лекаў, пасцельных рэчаў, што не магло не сказацца на якасці аздараўлення насельніцтва. З-за вялікай запазычанасці перад абласным аптэчным складам ў 1996 г. ТМА адчувала вялікія цяжкасці ў водпуску лекаў па ільготных рэцэптах, мела пастаянную запазычанасць па аплаце пастаўляемых прадуктаў харчавання. З-за новых праблем патрабавала карэкціроўці распрацаваная яшчэ ў канцы 1980-х мэтавая комплексная праграма "Здароўе". Асабліва гэта было актуальна ў сувязі з ростам захворвання інфекцыйнымі хваробамі, такімі як сальманелёз, эпідэмічны паратыт, венерычныя хваробы, захворванні СНІДу.[125]

У 1995 г. з-за недахопу сродкаў было прыпынена будаўніцтва дзіцячай паліклінікі, якая ўзводзілася за кошт сродкаў, выдзяляемых на пакрыццё наступстваў аварыі на ЧАЭС.[126]

Складаныя эканамічныя ўмовы аказалі адмоўны ўплыў на стан здароўя жыхароў горада. У 1992 г. назіраўся рост смяротнасці. Калі ў 1991 г. гэты паказчык быў 3,8 чалавек на 1000 жыхароў, то ў наступным годзе – 3,9. Дзіцячая смяротнасць за першае паўгоддзе 1992 г. складала 12,8 (у 1991 г. – 11,9) чалавек на 1000 народжаных. Назіраўся рост захворванняў страўніка ў работнікаў на шэрагу прадпрыемстваў. На швейнай фабрыцы ў 1992 г. павелічэнне адбылося на 17,2 %. Адна з прычын заключалася ў тым, што многія рабочыя ў сувязі з ростам цэн перасталі харчавацца ў сталовых.[127] З-за росту цэн у два разы скараціласся колькасць заказаў. Па гэтай жа прычыне згортвалася школьнае харчаванне. Выйсце бачылася ў дацыраванні з бюджэту харчавання школьнікаў малодшых класаў.[128] Становішча ў наступныя гады не выправілася. Так толькі ў пяці школах горада ў 1996/1997 н.г. было наладжана гарачае харчаванне ў школьных сталовых. У двух працавалі буфеты. Дзеці атрымлівалі два разы на тыдзень бясплатнае харчаванне, у астатнія дні – за кошт сродкаў бацькоў.[129]

У дрэнных сацыяльна-эканамічных умовах адзначаўся натуральны спад насельніцтва. На пачатак 1991 г. у Навагрудку пражывала 32 тысячы чалавек, што складала 51,8% усяго насельніцтва раёна.[130]

У 1994 г. у параўнанні з 1993 г. у раёне колькасць народжаных паменшылася на

[122] Тэзісы даклада // Новае жыццё. – 1991. – 6 мая. – С. 3.
[123] Грыгор'ева А. Клініка змяніла адрас // Новае жыццё. – 1994. – 3 снежня. – С. 3.
[124] Навагран В. На што "хворая" наша медыцына // Новае жыццё. – 1992. – 19 верасня. – С. 1.
[125] Тэзісы справаздачы выканкама // Новае жыццё. – 1996. – 19 кастрычніка. – С.2.
[126] Справаздача выканкама // Новае жыццё. – 1995. – 9 верасня. – С. 2.
[127] Пра што сказана ў дакладзе // Новае жыццё. – 1992. – 30 верасня. – С. 2.
[128] Там жа.
[129] Адукацыя: стан і перспектывы // Новае жыццё. – 1996. – 24 снежня. – С. 2.
[130] Аб выніках сацыяльна-эканамічнага развіцця горада і раёна ў 1990 годзе // Новае жыццё. – 1991. – 5 сакавіка. – С. 3.

3,2%, а колькасць памерлых – узрасла на 14,4 %. У 2000 г. у раёне нарадзілася на 14,2 % менш, чым у 1999 г. А колькасць памерлых узрасла на 3,1%. Назіралася павелічэнне колькасці разводаў. У 1994 г. на 100 шлюбаў прыходзілася 39 разводаў супраць 27 у 1993 г. З гадамі гэты паказчык толькі павялічваўся. У 2000 г. на 100 шлюбаў па раёну прыходзілася амаль 65 разводаў (у 1999 г. – 60).[131]

Істотнай праблемай для Навагрудка ў 1990-я гады была праблема ***водазабеспячэння***. Пэўная работа па паляпшэнню водазабеспячэння і цеплазабеспячэння была праведзена ў 1990 г.. калі было пракладзена 800 м.п. цепласетак, зроблены водаправод працягласцю 1744 м.п. Вяліся работы па праектаванню новага водазабору, бурэнню дзвюх артэзіянскіх свідравін. Камунальнымі службамі на аднаго жыхара было аказана паслуг на 8 руб. 66 кап. Гэты паказчык быў большы, чым у Лідзе, Слоніме, Ваўкавыску. Разам з гэтым сама жыллёва-камунальная гаспадарка знаходзілася не ў лепшым стане. Востра стаяла пытанне аховы навакольнага асяроддзя, ачысткі сцёкавых вод. [132]

У сярэдзіне 1990-х у горадзе праблема водазабеспячэння абвастрылася. Жыхары горада былі забяспечаны вадой не ў поўнай меры. 30% вуліц у 1996 г. не мелі вадаправодных сетак. Існуючыя сеткі патрабавалі перакладкі як па прычыне зношанасці, так і па прапускной магчымасці. У 1994 г. пачалося будаўніцтва новага водазабору “Промша”. Аднак з-за недахопу грашовых сродкаў у наступныя гады работы практычна не вяліся.[133] У 1999 г. было асвоена толькі 10 % ад каштарыснага кошту першай чаргі будаўніцтва.[134]

У 1996 г. было прыпынена будаўніцтва новага водазабора дзіцячай паліклінікі.[135]

Другой істотнай праблемай для горада было забруджанне ракі Нягрымаўка сцёкавымі водамі ў выніку неэфектыўнай працы ачышчальных збудаванняў гарадской жыллёва-камунальнай гаспадаркі. У 1991 г. у эксплуатацыі збудаванняў парушалася тэхналогія ачысткі сцёкавай вадкасці перад выкідам яе ў раку. Пярвічныя адстойнікі своечасова не ачышчаліся ад мулу, не на поўную магутнасць працавалі біялагічныя сажалкі. Наяўныя праектныя магутнасці збудаванняў біялагічнай ачысткі былі не ў стане эфектыўна ачышчаць сцёкавыя воды. Востра стаяла пытанне выкарыстання мулу, што накапіўся. Наяўныя мулавыя пляцоўкі былі перапоўненыя, што не давала магчымасці рэгулярна выпускаць мул з ачышчальных збудаванняў. На работу апошніх негатыўнае ўздзеянне аказвалі сцёкавыя воды масларобчага камбіната, што скідваліся ў гарадскую сетку каналізацыі. Пры залпавых выкідах іх паралізавалася біялагічная ачыстка. Штрафныя санкцыі да масларобчага камбіната і другіх прадпрыемстваў горада былі неэфектыўнымі.[136]

У пачатку 1990-х гадоў была распрацавана праграма прыродаахоўных мерапрыемстваў “Экалогія”. У 1996 г. за кошт пераводу кацельняў на спажыванне прыроднага газа на 34% знізіліся выкіды шкодных рэчываў. Пэўныя поспехі былі ў напрамку зніжэння ўжывання пітной вады на вытворчыя патрэбы. Значныя мерапрыемствы ў 1996 г. былі выкананы па паляпшэнню эфектыўнасці работы гарадскіх ачышчальных збудаванняў. У гэтым жа годзе пачалося будаўніцтва палігона цвёрдых бытавых адходаў.[137]

У першай палове 1990-х гг. ***забудова горада*** праводзілася ў адпаведнасці з зацверджаным у 1988 г. генеральным планам забудовы. Капітальная забудова канцэнтравалася ў цэнтральнай і паўднёва-заходняй частках. Намячалася яе далейшае развіццё з боку магістралі Гродна-Навагрудак па вул. Валчэцкага і Гродзенскай, з боку магістралі Мінск-Навагрудак на тэрыторыі існаваўшага аэрадрома і па вул. Мінскай, другая чарга забудовы мікрараёна “Паўднёвы Захад-2”. Асноўныя прадпрыемствы горада знаходзіліся ў паўднёва-заходнім мікрараёне, а таксама ў заходнім і ўсходнім пра-

[131] Аб сацыяльна-эканамічным становішчы раёна ў студзені-снежні 1994 г. // Новае жыццё. – 1995. – 11 лютага. – С. 3; Аб эканамічным і сацыяльным становішчы раёна ў студзені-снежні 2000 года // Новае жыццё. – 2001. – 7 лютага. – С. 3

[132] Тэзісы даклада // Новае жыццё. – 1991. – 6 мая. – С. 3.

[133] Тэзісы справаздачы выканкама // Новае жыццё. – 1996. – 19 кастрычніка. – С.2.

[134] Аб “Валоўкі” да “Промшы”. Інтэрв’ю з дырэктарам вытворчага прадпрыемства водаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі У.І.Галушкам / Гутарыла Святлана Грэкава // Новае жыццё. – 2000. – 24 мая. – С. 4.

[135] Тэзісы справаздачы выканкама // Новае жыццё. – 1996. – 19 кастрычніка. – С.2.

[136] У чым прычына? // Новае жыццё. – 1991. – 23 ліпеня. – С. 1.

[137] Тэзісы справаздачы выканкама // Новае жыццё. – 1996. – 19 кастрычніка. – С.2.

мысловых раёнах. З мэтай забеспячэння добрых умоў для працы, жыцця і адпачынку, гарвыканкам сваім рашэннем ў 1995 г. прызнаў неабходням добраўпарадкаваць санітарна-ахоўную зону, якая аддзяляла паўднёва-заходні мікрараён, арганізаваць зялёную зону з прадпрыемствамі па абслугоўванню насельніцтва па вул. Міцкевіча. У той час ставілася задача сфарміраваць уезды ў горад з боку Гродна, Мінска, Баранавічаў, Наваельні. Тэрміновага вырашэння патрабавала праблема забеспячэння інжынернымі камунікацыямі новых раёнаў індывідуальнай забудовы.[138]

У верасні 1999 г. раённы выканкам зацвердзіў генеральны план забудовы Навагрудка да 2015 г. У тэрытарыяльным плане горад павінен быў расці за кошт будаўніцтва жылля. На той момант быў распрацаваны план дэталёвай планіроўкі мікрараёна “Паўднёвы-захад-2”. Далейшае развіццё горада планавалася ў заходнім накірунку. Прадугледжваўся квартал шматпавярховай і вялікі раён індывідуальнай забудовы. У выніку павінны былі аб’яднацца зона адпачынку ў раёне возера Бандэра, гаражны масіў і забудова в. Метраполь. У больш далёкай перспектыве развіццё гэтага раёна павінна было скіравацца ў напрамку в.Пуцавічы. Пасля яго забудовы планавалася будаўніцтва шматпавярховых дамоў у раёне былога аэрапарта і на выездзе з правага боку аўтадарогі Навагрудак-Ліда. Нажаль, у горадзе так і не была рэалізавана ідэя пераводу часткі вул. Савецкай у пешаходную.[139]

У канцы 1980-х ў горадзе штогод уводзілася прыкладна 200 кватэр, але чарга на атрыманне жылля не скарачалася. У 1990 г. з планаваных на ўвод 325 кватэр было ўведзена толькі 250. Не быў забяспечаны ўвод 60-кватэрнага дома МПМК-157 і 20-кватэрнага дома РБГУ-9. [140] На ўліку на атрыманне жылля на сярэдзіну 1991 г. у горадзе стаяла 315 маладых сем’яў, а з 1989 па 1991 кватэры атрымалі толькі 163 сям’і. За гэты ж перыяд гарадская чарга на кватэры павялічылася на 27 чалавек. 1450 чалавек значыліся ў чарзе на атрыманне месца ў дашкольных установах горада. З-за адсутнасці рабочых месцаў не маглі працаўладкавацца многія маладыя жанчыны. Вострай для маладых сем’яў была праблема забеспячэння таварамі першай неабходнасці. У той час ўсеагульнага дэфіцыту існавала размеркавальная сістэма. На шэрагу прадпрыемстваў горада усе вострадэфіцытныя рэчы і рэчы першай неабходнасці размяркоўваліся у першую чаргу па стажу работы, а не зыходзячы з патрэбы. У выніку маладыя сем’і заставаліся без самага элементарнага – ложка, шафы, дывана, халадзільніка.[141] Па стану на 1 мая 1993 г. у чарзе на атрыманне жылля значылася 3250 сем’яў.[142]

Змены эканамічных умоваў патрабавалі пошуку новых шляхоў вырашэння жыллёвага пытання. У 1993 г. гарвыканкам перайшоў да прынцыпу ўдзелу грамадзян і працоўных калектываў у кааператыўным і індывідуальным жыллёвым будаўніцтве. Калі ў 1992 г. асноўная колькасць кватэр была пабудавана за дзяржаўныя сродкі, то ў 1993 г. было створана 9 жыллёва-будаўнічых кааператываў. З іх адзін дзейнічаў пры гарвыканкаме, астатнія – пры прадпрыемствах і арганізацыях. Будавалася 356 кааператыўных кватэр.[143] У 1994 г. колькасць кватэр, якія будаваліся, складала 920. З іх за кошт дзяржаўных сродкаў узводзіліся толькі 80, сродкаў прадпрыемстваў – 239, сродкаў насельніцтва – 601.[144] у 1995 г. быў здадзены інтэрнат на 410 месц для работнікаў швейнай фабрыкі.[145]

Аднак далейшае жыццё ўнесла свае карэктывы ў планы. У сувязі са значным ростам інфляцыі выдзеленыя бюджэтныя сродкі капітальных укладанняў у 1993 г. не змаглі забяспечыць будаўніцтва запланаваных аб’ектаў. Кіраўніцтва горада вымушана было перагледзець праграму капітальнага будаўніцтва з тым, каб максімальна сканцэнтраваць фінансавыя рэсурсы на такіх яб’ектах, як стаматалогія і некалькі жылых дамоў.

[138] У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 1995. – 30 жніўня. – С. 3.
[139] Горад “заходняй” перспектывы / Інтэрв’ю х загадчыкам аддзела архітэктуры, горадабудаўніцтва і тэрытарыяльнага планавання А.Заварыным / Гутарку вяла С. Грэкава // Новае жыццё. – 1999. – 25 верасня. – С. 2.
[140] Тэзісы даклада // Новае жыццё. – 1991. – 6 мая. – С. 3.
[141] Моладзь патрабуе ўвагі і падтрымкі. З сесіі гарадскога Савета народных дэпутатаў // Новае жыццё. – 1991. – 7 верасня. – С. 2.
[142] Тэзісы даклада // Новае жыццё. – 1993. – 12 мая. – С. 2.
[143] Там жа.
[144] Тэзісы справаздачы // Новае жыццё. – 1994. – 1 кастрычніка. – С. 2.
[145] Аб сацыяльна-эканамічным становішчы раёна ў студзені-снежні 1994 г. // Новае жыццё. – 1996. – 7 лютага. – С. 3.

Адсутнасць крэдытных рэсурсаў у Ашчадным банку не дала магчымасці прадоўжыць будаўніцтва дамоў жыллёва-будаўнічых кааператываў. Пры гэтым адбылося павелічэнне працэнтнай стаўкі па льготнаму крэдыту з 5 да 10 % у памеры 95 % кошту жылля.[146]

Побач з гэтым у горадзе вялося індывідуальнае будаўніцтва. Для індывідуальных забудоў яшчэ ў канцы 1980-х гадоў быў запраектаваны раён Кібарка, пашыраўся "Мірапаль", забудоўваўся раён "Эканомія".[147] Практыкаваўся адвод участкаў пад індывідуальнае будаўніцтва прадпрыемствам і арганізацыям для іх абуладкавання за кошт сродкаў калектываў, дзе працуюць забудоўшчыкі.[148] Усяго за 1990-1994 гг. быдо адведзена 604 замельныя ўчасткі. На канец 1994 г. на чарзе на атрыманне ўчасткаў пад забудову знаходзілася 260 чалавек.[149]

У 1996 г. было выканана праектаванне і пачалося будаўніцтва групы жылых дамоў па вул. Міцкевіча.[150] У верасні гэтага года на ўліку жадаючых атрымаць кватэры знаходзілася 912 чалавек. Колькасць жадаючых атрымаць зямельныя надзелы для індывідуальнага будаўніцтва складала 126 чалавек. У той жа час з 32 чалавек, якія атрымалі надзелы ў 1996 г., будаўніцтва пачалі толькі 14.[151]

Нажаль, нам не ўдалося атрымаць дадзеных за наступныя гады.

Зроблены аналіз дазваляе канстатаваць той факт, што 1990-я гады сталі для горада перыядам значных сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных змен, пошуку новых форм гаспадарання.

У значнай ступені поспех эканамічнага развіцця горада залежаў ад паспяховасці праводзімай макраэкамічнай палітыкі. Гэтым тлумачыцца станоўчая дынаміка, якая намецілася ў 1997-1998 гг., і спад 1999-2000 гг., звязаны з запазычанасцямі краіны за энерганосьбіты. Ні адно прамысловае прадпрыемства ў разгледжаны перыяд не магло гарантаваць стабільнасць заробку і занятасці.

Як і ўсе жыхары нашай краіны навагрудчане адчулі на сабе ўвесь цяжар трансфармацыйных працэсаў. Паступова на змену пытанню "дзе набыць?" прыйшло пытанне "дзе рабіць?". Недахоп сродкаў значна замарудзіў развіццю сацыяльнай структуры, не дазволіў рэалізаваць намечаныя планы ў жыллёвым будаўніцтве, ахове здароўя.

[146] Адказы на пытанні дэпутатаў // Новае жыццё. – 1993. – 22 мая. – С. 2.
[147] Тэзісы даклада // Новае жыццё. – 1991. – 6 мая. – С. 3.
[148] Там жа.
[149] Тэзісы справаздачы // Новае жыццё. – 1994. – 1 кастрычніка. – С. 2.
[150] Тэзісы справаздачы выканкама // Новае жыццё. – 1996. – 19 кастрычніка. – С.2.
[151] Тэзісы справаздачы выканкама // Новае жыццё. – 1996. – 19 кастрычніка. – С.2.

Д. Крывашэй (Мінск)

# Культура і адукацыя навагрудчыны ў канцы XX – пачатку XXI стст.

1990-я гады ўвайшлі ў гісторыю як час станаўлення нацыянальнай сістэмы адукацыі, пашырэння выкарыстання беларускай мовы. З прыняццем "Закона аб мовах" у горадзе праводзілася мэтанакіраваная работа па яго рэалізацыі. У пачатку 1991 г. планёркі ў гарадскім камітэце КПБ пачалі праводзіцца на беларускай мове. Не чакаючы ўказанняў зверху гаркам прыняў пастанову аб рабоце па выкананню памянёнага закона. У ёй сярод іншага прадугледжвалася з другога паўгоддзя 1991 г. перавесці справаводства ў ГК КПБ на беларускую мову. Дзейнічалі курсы па вывучэнню мовы. У пастанове былі радкі і пра падтрымку дзейнасці таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.[1]

У горадзе праводзілася паслядоўная работа па стварэнню нацыянальнай школы. У 1992/1993 н. г. ўсе першыя класы школ горада былі пераведзены на беларускую мову. Планавалася адкрыццё рускамоўнага класа ў СШ № 7, але не было заяў ад бацькоў.[2] У 1993 г. на беларускай мове працавалі ўсе 9 дзіцячых дашкольных устаноў.[3] У школах горада ў 1992/1993 н. г. займалася 4750 вучняў. Другая змена складала 21,5 %. Але ў СШ № 3 – 47 %. Тут выйсце бачылася ў будаўніцтве прыбудовы.[4]

У 1992 г. эканамічныя ўмовы не спрыялі развіццю ўстаноў асветы і культуры. З-за павелічэння кошту электраэнергіі і паліва, а таксама рознічных цэн на тавары і паслугі сродкаў для забеспячэння патрэбаў гэтых галін не хапала. Гарвыканкам рэкамендаваў кіраўніцтву ўстаноў "падумаць над кожным з запланаваных мерапрыемстваў". Да гэтага неабходна дадаць рост выдаткаў на заробак работнікам асветы і культуры, звязаны з ўвядзеннем у пачатку 1992 г. даплат. Выплаты павінны былі здзяйсняцца за кошт гарадскога бюджэту, за кошт эканоміі іншых сродкаў.[5]

Нягледзячы на цяжкасці, 1 верасня 1992 г. ў горадзе адчыніла дзверы новая, сёмая па ліку сярэдняя школа.[6] Новыя будынкі атрымалі музычная школа і бібліятэкі, быў рэканструяваны Дом культуры.[7]

Высокім прафесійным майстэрствам ў 1993 г. вызначалася праца настаўнікаў А.В.Нікалевай (СШ № 2), А.П. Барсукова (СШ № 5), Г.А.Гайдук (СШ № 7), І.В.Маціеўскай (СШ № 6) У ліку першых за змястоўную і цікавую работу па адраджэнню беларускай мовы і нацыянальнай культуры былі прызнаны СШ № 2 і дзіцячы сад № 7 на абласным аглядзе. Сапраўдным цэнтрам па зборы і выкарыстанню ў навучальна-выхаваўчым

[1] Бармута У. Каб не ўмёрлі // Новае жыццё. – 1991. – 7 лютага. – С. 2.
[2] Тэзісы даклада // Новае жыццё. – 1993. – 12 мая. – С. 2.
[3] Неацэнны скарб – гісторыка-культурная спадчына // Новае жыццё. – 1993. – 18 верасня. – С. 2-3.
[4] Тэзісы даклада // Новае жыццё. – 1993. – 12 мая. – С. 2.
[5] Справаздача выканкама // Новае жыццё. – 1992. – 20 мая. – С. 2.
[6] Зноў паклікала школа // Новае жыццё. – 1992. – 2 верасня. – С. 1.
[7] Неацэнны скарб – гісторыка-культурная спадчына // Новае жыццё. – 1993. – 18 верасня. – С. 3.

працэсе этнаграфічнага матэрыялу быў у той час прадметны кабінет беларускай мовы і літаратуры СШ № 2 (заг. кабінета А.В.Нікалаева). У гэтай жа школе працаваў клуб для настаўнікаў "Спадчына".[8]

У 1996 г. рашэннем выканкама былі зацверданы "Комплексная праграма развіцця адукацыі і выхавання ў г. Навагрудку да 2000 года" і "Комплексны план пазашкольнага выхавання моладзі". У той час у Навагрудку працавала 9 дзіцячых садкоў, адзін з якіх належаў НЗГА, а два перададзены на бюджэт горада ад таго ж завода газавай апаратуры і ад швейнай фабрыкі. У чатырох садках працавалі лагапеды. У двух садках для дзяцей з аслабленным здароўем працавалі санатоныя групы.

У 1996-1997 н. г. ў школах горада навучалася 5083 вучня. У тыя гады сур'ёзную заклапочанасць выклікала захаванне правапарадку непаўналетнімі. Рост п'янства сярод гэтай групы. За розныя правапарушэнні за восем месяцаў 1996 г. да адказнасці было прыцягнута больш за 150 падлеткаў, 29 дарослых панеслі адказнасць за спойванне непаўналетніх.[9]

У той час у горадзе адсутнічалі дзіцячыя арганізацыі. Праводзілася работа па іх стварэнню на базе Цэнтра пазашкольнай работы. Затое ў кожнай школе працавалі разнастайныя аб'яднанні і клубы па інтарэсах. Напрыклад, у СШ №1 "Саюз маладых навагрудчан", "Нашчадкі" і "Пабрацімы", у СШ №2 – "Юныя знайкі" і "Радзімічы". Галоўным накірункам дзейнасці дзіцячых аб'яднанняў былі краязнаўства і экалогія.[10]

У горадзе ў 1996/1997 н.г. была даволі шырокая сетка пазашкольных устаноў: Цэнтр пазашкольнай работы, Цэнтр тэхнічнай творчасці, эколага-натуралісцкі цэнтр, дзіцяча-юнацкая спартыўная школа. У іх займалася 2187 дзяцей, ці 43% ад іх агульнай кількасці. Дзейнічалі 174 гурткі і секцыі.[11]

Амаль ва ўсіх школах горада ў 1996/1997 н.г. з 1-га класа было ўведзена вывучэнне замежнай мовы і рытмікі. Прыкметай часу стала адкрыццё профільных класаў (25 класаў), у большасці школ была павялічана колькасць гадзін на прадметы эстэтычнага цыклу. У 63 класах пачатковай школы дзеці вывучалі прадметы на выбар. У 1996/1997 н. г. з 24 першых класаў 17 былі беларускамоўнымі. У гэтым жа навучальным годзе у чатырох школах з сямі былі ўведзены штатныя адзінкі сацыяльных педагогаў.[12]

У 1998/1999 н. г. у школах горада з'явіліся першыя ліцэйскія класы. Гэта былі дзесятыя класы: з хіміка-біялагічным профілем у СШ № 5, і з грамадска-эканамічным – у СШ № 6. Быў арганізаваны набор у класы з паглыбленным вывучэннем прадметаў: фізіка, матэматыка (10 кл.) – СШ № 5, геаграфія (8 кл.) – СШ № 3.[13]

У 1998/1999 н. г. у Навагрудку на беларускай мове займалася 3333 вучняў (63,3 %). Найбольш беларускамоўных класаў было ў СШ № 5 (82,1 %), СШ № 1 (78,8 %), СШ № 2 (74 %). На беларускай мове навучалася восем падрыхтоўчых класаў, на рускай мове – дзевяць. У параўнанні з папярэднімі гадамі назіралася тэндэнцыя да памяншэння колькасці дзяцей, якія паступалі ў падрыхтоўчыя і першыя класы з беларускай мовай навучання. У 1996/1997 н. г. такіх было 67,3 %, у 1997/1998 н.г. – 59,4 %, а ў 1998/1999 н.г. – толькі 38 %. На пасяэджэнні раённага савета адукацыі адзначалася, што на такі выбар бацькоў уплывала зніжэнне ролі беларускай мовы ў грамадстве. Адбівалася і тое, што педагагічнымі калектывамі праводзілася недастатковая тлумачальная работа наконт роднай мовы, мала расказвалася пра лепшы вопыт работы настаўнікаў-славеснікаў. У сістэме адукацыі адсутнічала пераемнасць наконт мовы навучання паміж дзіцячымі садкамі (якія ўсе былі беларускамоўнмі) і школай.

У школах горада вылося выкладанне і на польскай мове. Першы такі клас быў адкрыты ў 1992/1993 н.г. ў СШ № 6 для 10 вучняў. У наступным годзе жадаючых не было, а з 1994/1995 года былі адкрыты яшчэ тры класы ў СШ № 1. У 1999/2000 н.г. было тры класы, у якіх навучалася 26 вучняў. У СШ № 7 на працягу пяці гадоў працаваў гурток "Гаворым па-польску".

8 Неацэнны скарб – гісторыка-культурная спадчына // Новае жыццё. – 1993. – 18 верасня. – С. 3.

9 Тэзісы справаздачы выканкама // Новае жыццё. – 1996. – 19 кастрычніка. – С.2.

10 Адукацыя: стан і перспектывы // Новае жыццё. – 1996. – 24 снежня. – С. 2.

11 Там жа.

12 Адукацыя: стан і перспектывы // Новае жыццё. – 1996. – 24 снежня. – С. 2; У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 1997. – 11 студзеня. – С. 1.

13 Мітлашук Г. Запрашаюць ліцэйскія класы // Новае жыццё. – 1998. – 22 жніўня. – С. 1.

З 1991 г. такі гурток працаваў на базе цэнтра пазашкольнай работы. У ім вясною 2000 г. займалася 32 школьніка.[14] Аднак у іх былі праблемы. Так, у СШ № 1 і СШ № 6 усе прадметы ў польскіх класах, акрамя польскй мовы і літаратуры, гісторыі, сусвету, музыкі, вяліся па-беларуску. У СШ № 6 асобныя настаўнікі вялі біялогію і хімію на польскай мове. У той жа час падручнікаў на польскай мове не было. Настаўнікі карысталіся беларускамоўнымі. Гэта адбівалася на паспяховасці. Па кантрольных зрэзах па польскай мове ў чацвёртым класе СШ № 1 22,2 % вучняў атрымалі адзнакі "2", 23 % -- "3". У СШ № 6 за першае паўгоддзе толькі адзін вучань з дзевяці меў адзнаку "5", трое – "4", пяць – "3". У сувязі з такім становішчам было пастаўлена пытанне аб тым, што ў інтарэсах дзяцей больш мэтазгодна было б вывучаць польскую мову праз факультатывы, курсы па выбару ці як прадмет. У якасці добрага прыкладу прыводзіліся гурткі пры цэнтры пазашкольнай работы і ў СШ № 7.[15]

У 2000 г. на сесіі раённага Савета дэпутатаў выносілася пытанне аб будаўніцтве польскай школы ў горадзе. Згоды на гэта будаўніцтва дэпутаты не далі. Аргументам было тое, што па выніках перапісу 1999 г. з 2713 палякаў (4,6 % ад агульнай колькасці насельніцтва), якія пражывалі ў раёне, толькі 249 лічылі польскую мову роднай. Дома пазмаўлялі па-польску 63 чалавекі. Настаўнікі пачатковых класаў выказваліся, што ім складана працаваць з дзецьмі, якія прыходзілі ў школу, не маючы знаёмства з польскай мовай, не размаўляючы на ёй. У сваю чаргу вучням было цяжка зразумець педагога. Моўная практыка адбывалася пераважна ў час урокаў, мала хто дома размаўляў з імі па-польску. Значным аргументам не на карысць адкрыцця школы была адсутнасць кваліфікаваных кадраў. З шасці педагогаў, якія выкладалі у польскіх класах, толькі тры з'яўляліся спецыялістамі. Астатнія – сумяшчальнікі без спецыяльнай адукацыі па польскай мове. Яны прайшлі толькі курсавую падрыхтоўку. Былі і фінансавыя перашкоды. Па падліках, утрыманне аднаго вучня ў неўкамплектаваных польскіх класах магло абысціся ў 2,5 разы даражэй, чым у беларускарускіх. Польскі ж бок выказваўся толькі за фінансаванне будаўніцтва школы.[16]

Ва ўмовах рыначнай гаспадаркі на новыя спецыяльнасці пераарыентаваўся гандлёва-эканамічны тэхнікум. Акрамя традыцыйных спецыяльнасцей таваразнаўцы, бухгалтара, навучэнцы пачалі асвойваць аўдытарства, маркетынг і цалкам новую спецыяльнасць – камерцыйная дзейнасць.[17] У 1993 г. установа з адзнакай прайшла атэстацыю. У 1994 г. было створана вучэбна-навуковае аб'яднанне "Навагрудскі гандлёва-эканамічны тэхнікум – Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт". З гэтага часу лепшыя навучэнцы тэхнікума атрымалі магчымасць працягнуць вучобу ў эканамічным універсітэце адразу з трэцяга курса. З 1995 г. навучальная ўстанова стала рыхтаваць кадры банкаўскіх служачых. Адметна, што тэхнікум у першай палове 1990-х быў адзінай у краіне беларускамоўнай навучальнай установай. У ім і выкладанне і справаводства вялося на роднай мове. Загадам Міністэрства адукацыі ад 3 лютага 1997 г. навагрудскі гандлёва-эканамічны тэхнікум быў пераўтвораны ў каледж.[18]

У 1992 г. з ініцыятывай адкрыцця ў Навагрудку філіяла універсітэта культуры выступіла міністэрства культуры. Яна была абгрунтавана тым, што горад з'яўляецца старажытным культурным цэнтрам, дзе можна адрадзіць некаторыя віды народнай творчасці і промыслы. Планавалася, што базай для філіяла стануць вучэбныя ўстановы горада. У маі 1993 г. у горадзе працавала рэспубліканская камісія па вывучэнню матэрыяльнай базы. Адміністрацыя гандлёва-эканамічнага тэхнікума выступіла супраць размяшчэння на сваёй базе філіяла. Разглядалася магчымасць размяшчэння новай ўстановы на базе саўгаса-тэхнікума.[19]

З 1994 г. у саўгасе-тэхнікуме пачалі рыхтаваць тэхнікаў-землеўпарадкавальнікаў, а ў 1998 г. адбыўся першы выпуск спецыялістаў па арганізацыі камерцыйнай дзейнасці на прадпрыемствах аграпрамысловага комплексу.[20]

[14] Навагран В. Пасля абмеркавання // Новае жыццё. – 2000. – 24 чэрвеня. – С. 2.
[15] Гаўрош М. Важна ўсвядоміць. Што мы – беларусы // Новае жыццё. – 1999. – 28 красавіка. – С. 3.
[16] Навагран В. Пасля абмеркавання // Новае жыццё. – 2000. – 24 чэрвеня. – С. 2.
[17] Васілец Л. Тэхнікум пераарыентоўваецца // Новае жыццё. – 1992. – 3 лютага. – С.1.
[18] У Навагрудку першы каледж. Інтэрв'ю з дырэктарам Навагрудскага гандлёва-эканамічнага каледжа З.М.Шляхцюк / Інтэрв'ю вяла А.Міхневіч // Новае жыццё. – 1997. – 26 лютага. – С. 2.
[19] Адказы на пытанні дэпутатаў // Новае жыццё. – 1993. – 22 мая. – С. 2.
[20] Абітурыенты, вас чакаюць // Новае жыццё. – 1998. – 15 ліпеня. – С. 3.

У ***культурным развіцці*** 1990-я гады ўвайшлі ў гісторыю Навагрудка як час, насычаны станоўчымі зменамі. Вядома, што ў перыяд атэізму ў горадзе паволі разбураўся каталіцкі касцёл на плошчы Леніна, пад архіў быў перададзены будынак былой Барысаглебскай царквы, не па прызначэнню выкарыстоўваўся будынак мячэці.[21]

У 1991 г. быў распрацаваны праект рэгенерацыі гістарычнага цэнтра горада. Быў намечаны комплекс будынкаў і збудаванняў новай гарадской плошчы. Да іх адносіўся новы грамадска-культурны цэнтр, новы Дом культуры са школай мастацтваў, прыбудова да гасцініцы на 275 месцаў, комплекс дамініканскага манастыра і касцёла св. Міхала. Планавалася правесці рэстаўрацыю Барысаглебскай царквы і радавой забудовы плошчы з прылеглымі вуліцамі Замкавай, Гродзенскай, Паштовай з завулкамі і г.д. У комплексе работ па рэгенерацыі ў 1991 г. пачаўся вынас гароднінай базы РАПП з плошчы ў зону паўднёва-заходняга прамысловага раёна.[22]

Знешні выгляд горада значна палепшыўся ў сувязі з праведзенымі работамі па добраўпарадкаванні, прымеркаванымі да ўрачыстасцей з нагоды адкрыцця двух музеяў і помніка А.Міцкевічу. У Навагрудку былі заасфальтаваны вуліцы і двары, пабудавана аб'яздная дарога, на плошчы імя Леніна была падмацавана сценка, тратуары былі адрамантаваны, выкладзены пліткай, адноўлена пешаходная дарожка на курган А.Міцкевіча, прыведзены ў належны стан ступенькі ў гарадскі парк.[23]

11 верасня 1992 г. адбылося ўрачыстае адкрыццё гісторыка-краязнаўчага музея, помніка і адноўленага Дома-музея Адаму Міцкевічу. Да гэтых мерапрыемстваў былі прымеркаваны навуковыя "Навагрудскія чытанні", а таксама святочны гала-канцэрт на Замкавай гары. Мерапрыемству было нададзена агульнадзяржаўнае значэнне.[24]

Значнай падзеяй у жыцці горада стала святкаванне 5-6 ліпеня 1993 г. 740-годдзя з дня каранацыі Міндоўга і станаўлення Навагрудка як першай сталіцы Вялікага княства Літоўскага – "Бляск кароны". 5 ліпеня адбылася міжнародная канферэнцыя з удзелам спецыялістаў гісторыі і літаратуры з Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі. 6 ліпеня адбылося адкрыццё мемарыяльнай пліты ля гары Міндоўга. Затым – тэатралізаванае шэсце па вуліцах горада. Увечары – канцэрт з удзелам ансамбля "Свята", "Харошкі", "Неруш". Жыхароў і гасцей горада парадаваў рыцарскі турнір. У гарадскім парку сваё майстэрства паказалі лялечны тэатр і цыркавыя калектывы. А ўвечары на Замкавай гары адбыўся гала-канцэрт з удзелам артыстаў опернага тэатра Беларусі, аркестра Міхаіла Фінберга, ансамбля "Песняры", лаўрэатаў фестывалю "Маладзечна – 93".

У 1993 г. навагрудскі гісторыка-краязнаўчы музей падпісаў дамову аб супрацоўніцтве з музеям войска ў Варшаве. У планах была арганізацыя ў Навагрудку выставы, прысвечанай Арміі Краёвай.[25] Дзякуючы дапамозе Міністэрства культуры ў музей з Санкт-Пецярбургскага інстытута археалогіі была вернутая частка археалагічнай калекцыі з раскопак Навагрудскага замчышча.[26] Для музея было набыта 869 экспанатаў. З Франкфурта-на-Майне быў перададзены архіў Барыса Кіта. З Лондана атрыманы дакументальны фільм пра Навагрудак 1930-х гадоў. У музеі была сабрана бібліятэка рэдкай кнігі, якая налічвала 2480 экземпляраў. Пры дапамозе мясцовых улад музеем былі выдадзены матэрыялы I-III Навагрудскіх чытанняў, пуцевадзіцелі па Дому-музею А.Міцкевіча і гісторыка-краязнаўчаму музею.[27]

Экспазіцыя гісторыка-каязнаўчага музея з кожным годам папаўнялася новымі экспанатамі. У 1995 г. яму перадала афорты і літаграфіі мастачка Тамара Стагановіч. Вельмі карысныя матэрыялы прыслала з Вялікабрытаніі Ева Болчовер. Барбара Буляндо з Польшчы перадала вялікую калекцыю матэрыялаў пар дзейнасць у Навагрудку польскай гімназіі імя А.Міцкевіча. Беларускія прыказкі і прымаўкі, запісаныя на Навагрудчыне, даслала з Польшчы Марыя Скотніцка-Скажыньска. Добрыя сябры музея з за-

[21] Шахідзевіч Б. І мы дачакаліся добрых зрухаў // Новае жыццё. – 1992. – 13 чэрвеня. – С. 2.
[22] Сёння і заўтра // Новае жыццё. – 1991. – 1 чэрвеня. – С. 2.
[23] Андрэеў Ю. "Больш бы такіх святаў…" // Новае жыццё. – 1992. – 19 верасня. – С. 2.
[24] Да ведама навагрудчан і гасцей горада // Новае жыццё. – 1992. – 5 верасня. – С. 1.
[25] Паўлава В. І пра Армію Краёву // Новае жыццё. – 1993 – 26 чэрвеня. – С. 1.
[26] Неацэнны скарб – гісторыка-культурная спадчына // Новае жыццё. – 1993. – 18 верасня. – С. 3.
[27] У гарвыканкаме // Новае жыццё. – 1993. – 4 снежня. – С.1.

межжа Барыс Кіт (ФРГ), Джэк Каган (Вялікабрытанія), Мікалай Аляшкевіч. Мячыслаў Яцкевіч (Польшча) штогод дасылалі рэдкія кнігі, рэчы культу, фотаздымкі. Папаўняць калекцыю музею дапамагалі мясцовыя жыхары і навукоўцы.[28]

У 1999 г. дом-музей А.Міцкевіча пачаў набываць экспанаты. У ліку першых – славуты мейсэнскі фарфор з Саксоніі, шырока вядомы яшчэ з XVIII ст.[29]

Пачатак 1990-х гадоў быў адзначаны з'яўленнем у горадзе новых помнікаў. У 1993 г. побач з магілай Невядомага салдата быў устаноўлены помнік землякам, воінам-інтэрнацыяналістам, якія загінулі ў Афганістане. Ля фарнага касцёла на сродкі вернікаў быў устаноўлены памятны знак сёстрам Назарэцянкам, якія былі расстраляны немцамі. Пры ўдзеле шэрагу прадпрыемстваў і арганізацый, на сродкі абшчыны навагрудскіх яўрэяў у замежжы і гарадскога бюджэту, 16 жніўня 1993 г. былі пастаўлены новыя помнікі на брацкіх могілках яўрэям, што палі ахвярамі генацыду ў гады Вялікай Айчыннай вайны.[30] Побач з гэтым былі і недапрацоўкі. У дрэнным стане знаходзіўся помнік Якубу Коласу ля вакзала, непрывабны выгляд меў помнік удзельнікам Асташынскага паўстання.[31]

У 1994 г. добраўпарадкаванне горада працягнулася. У належны стан была прыведзена вул. Чапаева з часткай вул. Паштовай і завулкаў. Пачалася рэканструкцыя цэнтральных вуліц: на частцы вул. Савецкай ад 1 завулка Леніна да вул. Камсамольскай, пракладзена новая траса водаправода, зроблена ліўневая каналізацыя.[32]

У 1995 г. на Замавай гары пачаліся работы па кансервацыі рэшткаў замка і аднаўленні яго некаторых частак. Яны былі працягнуты і на наступны год. Непасрэдна работы праводзіла сумеснае беларуска-польскае прадпрыемства "Рэнаватум" сіламі Навагрудскага будаўніча-мантажнага ўпраўлення. За першы год работ быў адноўлены першы паверх вежы Малая брама і фрагмент замкавай сцяны. У ліпені 1996 г. праводзіліся архітэктурна-археалагічныя даследаванні цэнтральнай замкавай вежы-шчытоўкі. Яны здзяйсняліся інтэрнацыянальным атрадам з удзелам грамадзян Беларусі, Францыі, ФРГ, Канады. Кіраўніком яго быў кандыдат гістарычных навук В.Е.Собаль.[33]

23-24 верасня 1995 г. прайшлі ўрачыстасці з нагоды 950-годдзя першага летапіснага ўпамінання пра Навагрудак. На навукова-практычнай канферэнцыі, якая адбылася ў тыя дні, прагучала прапанова аб наданні гораду статуса культурнай сталіцы краіны. Падзеяй стала прэзентацыя кнігі мясцовага краязнаўцы М.Гайбы "Навагрудак. Гады і падзеі". Перад афіцыйным адкрыццём свята навагрудчане і госці прыйшлі на Замкавую гару. Там адбылося адкрыццё памятнага герба Навагрудка з выявай архангела Міхаіла ў гонар 400-годдзя заснавання. А на ўрачыстым сходзе на галоўнай плошчы горада сярод выступленняў афіцыйных асобаў слова было прадстаўлена і старэйшаму жыхару горада М.Квятко, якому на той час было 102 гады. Жыхары і госці змаглі таксама ўпершыню пачуць гімн Навагрудка.[34]

У 1996 г. горад прымаў трэцяе Рэспубліканскае свята беларускага пісьменства і друку. А 11-12 верасня 1998 г. ў Навагрудку прайшло Міжнароднае свята паэзіі, прымеркаванае да 200-годдзя з дня нараджэння А.Міцкевіча. Да яго была парведзена рэканструкцыя гістарычнага цэнтра горада – плошчы Леніна. Плошча стала пешаходнай. З яе зрабілі пераход у сквер ля Дома-музея А.Міцкевіча. У выніку атрымаўся адзіны ансамбль. На вуліцы Малы Замак былі рэканструяваны сходы ў гарадскі парк культуры і адпачынку. На кургане сходы былі зроблены больш зручным і бяспечнымі. Само пакрыццё вуліцы Малы Замак было выканана з рванага бутавага каменя, утопленага ў бетон. У скверы ля Дома-музея была пакладзена бетонная плітка. Былі рэканструяваны сходы, якія вялі з верхняга ў ніжні сквер, зроблена новае асвятленне, пракладзены пешаходныя дарожкі, пастаўлены лаўкі. Да свята была рэканструявана і гасцініца, у якой

[28] Ішуціна Т. Сябры музея // Новае жыццё. – 1996. – 7 лютага. – С. 2.

[29] Сычэўская І. Музей прымае экспанаты // Новае жыццё. – 1999. – 31 сакавіка. – С. 2.

[30] Неацэнны скарб – гісторыка-культурная спадчына // Новае жыццё. – 1993. – 18 верасня. – С. 3.

[31] Нам засталася спадчына // Новае жыццё. – 1993. – 25 верасня. – С. 2.

[32] Тэзісы справаздачы // Новае жыццё. – 1994. – 1 кастрычніка. – С. 2.

[33] Гайба М. Інтэрнацыянальным атрадам // Новае жыццё. – 1996. – 27 ліпеня. – С.1.

[34] І было свята ў нашым горадзе // Новае жыццё. – 1995. – 27 верасня. – С. 1.

з'явіліся нумары з палепшанай камфортнасцю. Быў адрамантаваны фасад аўтавакзала. Насупраць Дома быту на месцы, дзе да гэтага размяшчаліся гандлёвыя шапікі, была зроблена пляцоўка для паркоўкі аўтатранспарту. Адначасова быў рэканструяваны прылеглы сквер. Ля сквера насупраць Дома быту быў пабудаваны грамасдкі туалет.[35]

У новых умовах развівалася духоўна-рэлігійнае жыццё горада. 6 лютага 1992 г. Сінод Беларускай праваслаўнай царквы прыняў рашэнне адрадзіць Навагрудскую праваслаўную епархію. 19 лютага рашэнне было зацверджана Свяшчэнным Сінодам Рускай праваслаўнай царквы. Кіруючым архіерэем епархіі з тытулам "Навагрудскі і Лідскі" стаў епіскап Навагрудскі і Лідскі Канстанцін (Гаранаў), рэктар Мінскай духоўнай семінарыі, вікарый Мінскай епархіі.[36]

7 студзеня 1996 г. Барыса-Глебскі сабор быў афіцыйна перададзены вернікам, а 31 сакавіка адбылося яго асвячэнне. Першую літургію ўзначаліў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт.[37] У канцы 1999 г. у Навагрудку па вул. Гродзенскай, 6 пачало дзейнічаць праваслаўнае Сястрынства ў імя святога апостала Іаана Багаслова. Яго мэтай было распаўсюджванне і ўмацаванне праваслаўнай веры на тэрыторыі епархіі. Сястрынства арганізавала нядзельную школу, займалася распаўсюджаннем праваслаўнай літаратуры, адраджэннем праваслаўных традыцый міласэрнасці і дабрачыннасці.[38]

На пачатку 1990-х у горадзе была зарэгістравана абшчына мусульман. Першымі задачамі, якія вырашалі яе сябры, было добраўпарадкаванне татарскіх могілак і аднаўленне службы ў мячэці. Калі з першай асаблівых праблем не было, то вось другая павінна была вырашыцца шляхам перасялення ў іншыя дамы ўсіх тых, хто пражываў у будынку старадаўняй мячэці. З мэтай збору сродкаў для аднаўлення будынку ў Навагрудскім аддзяленні Аграпрамбанку быў адкрыты спецыяльны рахунак для добраахвотных ахвяраванняў.[39] У хуткім часе мусульманам мячэць была перададзена.

Асобна неабходна спыніцца на дзейнасці ў горадзе грамадскага аб'яднання палякаў, якіх згодна перапісу 1989 г. у горадзе налічвалася 6 %. У 1989 г. тут было зарэгістравана культурна-асветнае таварыства імя А.Міцкевіча, якое пазней змяніла назву на "Саюз палякаў Беларусі" у Навагрудку. Дзякуючы намаганням грамадскасці з кастрычніка 1989 г. каля 20 чалавек пачалі вывучаць польскую мову ў гуртку пры тагачасным доме піянераў. Аналагічны гурток доўгі час існаваў пры СШ № 5.[40]

У канцы 1998 г. раённы выканаўчы камітэт у мэтах забеспячэння асобам некарэннай нацыянальнасці неабходныя ўмовы для ўсебаковага развіцця ў вучэбнай, культурнай і духоўнай сферах з улікам іх інтарэсаў і магчымасцей прыняў раённую комплексную праграму работы з нацыянальнымі супольнасцямі на 1998-2000 гады.[41]

У пачатку 1990-х у горадзе працаваў народны ансамбль песні і танца "Свіцязь" і народны цыркавы калектыў. Побач з гэтым перастаў існаваць самадзейны калектыў на заводзе газавай апаратуры, які меў званне "народны". Былі скарочаны пасады мастацкіх кіраўнікоў і загадчыкаў прафсаюзных клубаў на МВА, аўтабазе № 10, швейнай фабрыцы.[42] У 1999 г. за дасягнутыя поспехі ў развіцці самадзейнай мастацкай творчасці, актыўную работу па прапагандзе народных традыцый хору ветэранаў вайны і працы "Радасць" Навагрудскага раённага Дома культуры было прысвоена званне "Народны".[43]

У 1992 г. Навагрудак стаў адзіным горадам у рэспубліцы, дзе бібліятэкі выйшлі з цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы (створанай ў 1979 г.) і сталі самастойнымі адзінкамі. Адной з прычын гэтага кроку было тое, што метадычны цэнтр, створаны на базе раённай бібліятэкі займаўся размеркаваннем кніг. Гэта рабілася не ўлічваючы запытаў бібліятэк. У гарадской дзіцячай бібліятэцы ў той час было 3000 чытачоў. Пры-

[35] Горад рыхтуецца да свята / Інтэрв'ю з намеснікам старшыні райвыканкама А.В.Акуняўцам / Запісаў В.Кузьміч // Новае жыццё. – 1998. – 3 чэрвеня. – С. 1.
[36] Гардун Сяргей. Першы сход духавенства // Новае жыццё. – 1992. – 13 чэрвеня. – С.2.
[37] Рабы Сяргей. Адраджэнне // Новае жыццё. – 1996. – 13 красавіка. – С. 1.
[38] Сястра Зінаіда. Трэба толькі мець веру // Новае жыццё. – 1999. – 4 снежня. – С. 2.
[39] Шахідзевіч Б. І мы дачакаліся добрых зрухаў // Новае жыццё. – 1992. – 13 чэрвеня. – С. 2.
[40] Барадына С. Пагаворым шчыра // Новае жыццё. – 1992. – 1 красавіка. – С. 2.
[41] У райвыканкаме // Новае жыццё. – 1998. – 9 снежня. – С. 1.
[42] Неацэнны скарб – гісторыка-культурная спадчына // Новае жыццё. – 1993. – 18 верасня. – С. 3.
[43] Васільеў К. Цяпер званне "народны" // Новае жыццё. – 1999. – 23 кастрычніка. – С. 1.

кладна столькі ж – у раённай. Але кніг атрымоўвалі розную колькасць. Калі ў гарадскую паступала 1-2 экземпляры кніг, то ў раённую – 10-15. Выхад з адзінай сістэмы на першых парах паставіў бібліятэкі пад пагрозу зрыву, але ў далейшым атрыманае права самастойна распараджацца сваімі грашыма дазволіла некаторым з іх палепшыць матэрыяльна-тэхнічную базу. Як заўважала загадчыца гарадской дзіцячай бібліятэкі Т.І.Гурко, "ужо асобна ад раённай бібліятэкі мы трымалі дзве пасылкі з кнігамі, напрамую з бібліякалектара. І ў гэтых дзвюх пасылках столькі выдатнейшай літаратуры, колькі я, напрыклад, не атрымлівала за 10 гадоў работы."[44]

"Балючым месцам" гарадскога аддзела культуры ў пачатку 1990-х быў гарадскі парк культуры і адпачынку. У 1993 г. ён быў адзіным з усіх паркаў вобласці, які не фінансаваўся з бюджэту, а знаходзіўся на самаакупнасці. У выніку яго становішча ў той час было катастрафічным. Некаторую дапамогу аказвалі прадпрыемствы горада. Выхад бачыўся ў скарачэнні работнікаў парка і пераводу на сезонны наем.[45] Як паказала далейшае жыццё, парк як гаспадарчая структура аказаўся не жыццяздольным і быў закрыты.

Значнай падзеяй у культурным жыцці не толькі горада, але і ўсёй краіны стаў фестываль сярэдневяковай культуры, які адбыўся 24-25 чэрвеня 2000 г. Арганізатарам выступіла канфедэрацыя ваенна-гістарычных клубаў Беларусі. У фестывалі прынялі ўдзел прыкладна 400 гасцей з Расіі, краін Прыбалтыкі, Польшчы. З іх рыцараў – 150-170. Мэтай фестывалю было адраджэнне традыцый сярэднявечча ў сферы музычнай і тэатральнай культуры; знаёмства шырокай аўдыторыі са сярэдневяковымі касцюмамі, ваеннай амуніцыяй, рыцарскімі даспехамі; пашырэнне ведаў аб гістарычным мінулым Навагрудка. Такога фармату фестываль упершыню праводзіўся ў нашай краіне. У цэнтры масавага відовішча з элементамі музычнай культуры і тэатралізацыі ў стылі сярэднявечча была канкрэтная гістарычная падзея – абарона Навагрудскага замка ад крыжакоў у 1314 годзе. Адметна, што фінансавыя затраты на правядзенне фестываля ўзялі на сябе прыватныя прадпрымальнікі. Сродкі з раённага бюджэта не выдаткоўваліся.[46]

У 1990-я гады рэгулярнай падзеяй у культурным жыцці горада сталі "навагрудскія чытанні". Першыя прайшлі ў маі 1991 г. і былі прысвечаны 160-годдзю Уладзіслава Барзабагатава, кіраўніка паўстання на Навагрудчыне ў 1863 г. і 480-годдзю надання Навагрудку магдэбургскага права. У ліку арганізатараў былі таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, гарадскі Савет дэпутатаў, краязнаўчы музей. У 2000 г. чытанні прайшлі ў сёмы раз і прысвячаліся 2000-годдзю хрысціянства і 1000-годдзю Навагрудка.[47]

Нягледзячы на ўсе цяжкасці ў Навагрудку развівалася ***спартыўнае*** выхаванне моладзі. У ДзЮСШ Навагрудка ў першай палове 1990-х рыхтавалі юных спарцменаў па трох відах – біятлону, лёгкай атлетыцы, футболу. Усяго выхаванцаў было 20 дзяўчат і 35 хлопчыкаў.[48] Неабходна заўважыць, што ў 1990-х гадах аддзяленне па біятлону ў Навагрудскай ДзЮСШ № 1 было адзіным на ўсю Гродзенскую вобласць.

У 1996 г. выхаванец дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы Аляксандр Усцінаў (трэнгер А.С.Цецерук) выйграў чэмпіянат рэспублікі сярод юніёраў і ў складзе зборнай каманды Беларусі па біятлону прымаў удзел у юніёрскім чэмпіянаце свету ў Фінляндыі, у розыгрышу Кубку свету. Другі выхаванец таго ж трэнера ў тым жа годзе заняў 1 месца на першынстве рэспублікі сярод ДзЮСШ. [49]

А восенню таго ж года біятланісты выдатна выступілі на першынстве краіны. Дэбютантка спаборніцтваў Таццяна Шынтар у гонцы на 3 км заваявала першы сярэбраны медаль. Бронза была ў Марыні Кісляк. Трэнерам дзяўчат быў В.Б.Літвінскі. Не падвялі і юнакі, якіх трэніраваў А.С.Цецярук. У гонцы на 6 км другім быў Уладзімір Малчанаў.[50]

У 1998 г. першую значную перамогу атрымала Людміла Ананька. Яна выйграла

[44] "На сучасным этапе самае галоўнае, што засталося ў культуры, – гэта бібліятэкі…" Гутарка з загадчыцай гарадской дзіцячай бібліятэкі Т.І.Гурко / Запісала В.Мароз // Новае жыццё. – 1992. – 24 лютага. – С. 3.
[45] Навагран В. Вялікія праблемы малога парку // Новае жыццё. – 1993. – 3 ліпеня. – С. 2-3.
[46] Васільеў К. Фестываль "Навагрудак – 2000" павінен быць // Новае жыццё. – 2000. – 24 мая. – С. 1.
[47] Пятроў В. Навагрудчына на мяжы тысячагоддзяў // Новае жыццё. – 2000. – 1 лістапада. – С. 1.
[48] Навагран В. На задворках // Новае жыццё. – 1996. – 27 красавіка. – С. 2.
[49] Санько Ю. Факты і дасягненні // Новае жыццё. – 1996. – 18 мая. – С. 1.
[50] Барысевіч В. У біятланістаў новыя старты // Новае жыццё. – 1996. – 13 лістапада. – С.2

спрынтарскую гонку на 5 км на рэспубліканкіх юнацкіх гульнях па біятлону. У выніку Людміла выканала нарматыў кандыдата ў майстры спорту. Ана была прызнана лепшай спарцменкай гульняў і атрымала ў падарунак бацінкі фірмы "Адзідас". На тых жа гульнях каманда Навагрудскага раёна заваявала другое камендное месца ў эстафеце.[51]

У 1998-1999 гг. значна палепшылася фінансаванне дзіцяча-юнацкага спорту. Быў абноўлены спартыўны інвентар, адчувальнай стала матэрыяльная і маральная падтрымка. Гэта спрыяла падрыхтоўцы новых перспектыўных спарцменаў. У склад нацыянальнай зборнай па біятлону у 1999 г. ўвайшлі майстры спорту Аляксандр Усцінаў і Людміла Ананька. На адкрытым чэмпіянаце краіны па летнім біятлоне ў спрынтарскай гонцы навагрудскія спарцмены ўпершыню за ўсю гісторыю ўзялі прызавыя месцы. Першае месца сярод юнакоў заняў Дзяніс Быстрык, а сярод дзяўчат таксама першае месца – Вольга Цецярук. На трэцяй пазіцыі апынулася Алена Шынтар.[52]

Вучні гарадскіх школ з поспехам выступалі і на іншых спаборніцтвах. Напрыклад, у маі 2000 г. каманда раёна прыняла ўдзел у абласных спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы сярод школьнікаў 1983-1986 г.н. Першае месца ў скачках у даўжыню і вышыню заняў навучэнец СШ № 6 Дзмітрый Малахоўскі. Двойчы атрымала перамогу навучэнка гэтай жа школы Святлана Кіклевіч, якая стала пераможцай у трайным скачку і скачку ў даўжыню. А Ганна Лецка з той жа школы стала прызёрам сямібор'я, заняўшы трэцяе месца.[53]

А ўлетку на адкрытым чэмпіянаце краіны па летнім біятлоне выхаванец ДзюШОР Дзяніс Быстрык заняў першае месца сярод юніёраў і ў гонцы праследавання. Малады спарцмен стаў сапраўднай сенсацыяй спаборніцтваў і быў уключаны разам з Аляксандрам Усцінавым (заняў 3 месца) і Людмілай Ананька ў склад удзельнікаў чэмпіянату свету.[54] Праўда, на чэмпіянаце ў лік прызёраў увайшла толькі Людміла Ананька. Яна стала сярэбраным прызёрам у эстафеце.[55]

Не адставалі ад сваіх навучэнцаў і выкладчыкі. Адметнай падзеяй у спартыўным жыцці вобласці стаў легкаатлетычны "Прабег Міру-2000", што прайшоў у Гродне ў праграме Алімпійскага дня бегу. На ім выдатна выступіў трэнер ДзЮСШ № 2 А.Малуха, які ў сваёй узроставай групе заняў першае месца. Трэцім на дыстанцыі ў гэтай жа групе быў інжынер-канструктар завода газавай апаратуры А.Рашэтнікаў. Паспяхова закончыў дыстанцыю і выкладчык СШ № 5 В.Кармызаў.[56]

У мэтах удасканалення фізкультурна-аздараўленчай і спартыўна-масавай работы, фарміравання здаровага ладу жыцця і ўмацавання здароўя насельніцтва сродкамі фізічнай культуры 1 студзеня 2001 г. быў створаны раённы фізкультурна-спартыўны клуб.[57]

Поспехі былі ў гарадскога спартыўнага клубу прафсаюзаў, якім у сярэдзіне 1990-х гг. кіраваў З.Д.Шулькевіч. Па выніках 1995 г. клуб заняў 1 месца ў фінальнай абласной рабочай спартакіядзе. На працягу многіх гадоў калектыў фізкультурнікаў завода газавай апаратуры з'яўляўся лідэрам. На іх рахунку ў 1990-х былі шматлікія перамогі ў абласных і рэспубліканскіх міжгаліновых спаборніцтвах. Загартоўваў і арганізоўваў спарцменаў тут А.С.Болтач.[58]

Такім чынам у разглядаемае дзясяцігоддзе ў параўнанні з эканамічнымі цяжкасцямі культурнае жыццё горада было адзначана станоўчымі зменамі. Нягледзячы на скарачэнне культурных устаноў і калектываў, у горадзе мэтанакіравана праводзілася палітыка па нацыянальна-культурнаму адраджэнню, рэгулярнымі сталі культурныя і навуковыя мерапрыемствы, якія адзначаліся на дзяржаўным узроўні.

У гэты ж перыяд спарцмены горада здолелі дасягнуць значных вяршынь, заняць прызавыя месцы на міравых спаборніцтвах.

[51] Барскі В. Навагрудчане "заваёўвалі" "Раўбічы" // Новае жыццё. – 1998. – 14 лютага. – С. 2.
[52] Літвінскі В. Біятланісты выходзяць на старт // Новае жыццё. – 1999. – 22 верасня. – С. 2.
[53] Гарашнякоў Д. Вярнуліся з перамогай // Новае жыццё. – 2000. – 10 чэрвеня. – С. 4.
[54] Літвінчкі В. З ДзЮСШ на ... чэмпіянат свету // Новае жыццё. – 2000. – 26 жніўня. – С. 2.
[55] Літвінскі В. Ёсць у нас "серабро" // Новае жыццё. – 2000. – 13 верасня. – С. 2.
[56] Санько Ю. Бег даступны ўсім // Новае жыццё. – 2000. – 10 чэрвеня. – С. 4.
[57] Грэкава С. Будзе новы клуб // Новае жыццё. – 2000. – 20 снежня. – С. 1.
[58] Санько Ю. Факты і дасягненні // Новае жыццё. – 1996. – 18 мая. – С. 1.

**І. Грынь (Навагрудак)**

# Нашы землякі

Зямля Навагрудчыны па праву ганарыцца многімі сваімі слыннымі сынамі і дочкамі - выдатнымі дзяржаўнымі дзеячамі, падзвіжнікамі веры, палымянымі патрыётамі і адважнымі абаронцамі Айчыны, таленавітымі вучонымі, дзеячамі навукі, літаратуры і мастацтва, самаадданымі працаўнікамі, людзьмі актыўнай і адказнай грамадзянскай пазіцыі.

На працягу стагоддзяў яны праславілі нашу Навагрудчыну, здабылі гонар і шырокую вядомасць не толькі на сваёй малой радзіме, у роднай Беларусі, але і далёка за яе межамі.

Добрыя справы нашых далёкіх і блізкіх папярэднікаў працягваюць нашы сучаснікі, чыё жыццё і дзейнасць поўнасцю ці часткова прыходзіцца на XX і XXI стагоддзі.

**Абрантовіч Фабіян**.

Нарадзіўся ў 1884 годзе ў Навагрудку.

Беларускі грамадскі і культурны дзеяч, каталіцкі духоўнік, рэлігійны педагог.

Скончыў каталіцкую духоўную акадэмію ў Пецярбургу, вучыўся ў каталіцкім універсітэце ў Лювене (Бельгія).

Выкладаў у Петраградскай каталіцкай духоўнай акадэміі, выдаваў каталіцкія газету і часопіс, быў арганізатарам і ўдзельнікам з’ездаў, канферэнцый, кіраўніком грэка-каталіцкай епархіі рускай эміграцыі ў Кітаі. Быў прыхільнікам беларусізацыі касцёла, ідэолагам беларускага нацыянальнага адраджэння.

Рэпрэсіраваны і закатаваны ў Львове ў 1940 годзе.

**Аніщчык Аляксей Сцяпанавіч**.

Нарадзіўся ў 1912 годзе на хутары Мондзіна Навагрудскага раёна.

Беларускі краязнавец, педагог, пісьменнік.

Скончыў Навагрудскую беларускую гімназію, Віленскі ўніверсітэт. Працаваў у шэрагу навучальных устаноў на Навгрудчыне і за яе межамі, у тым ліку ў час Вялікай Айчыннай вайны быў загадчыкам семігодкі ва Ўселюбе, выкладчыкам беларускай настаўніцкай семінарыі ў Навагрудку, рэдактарам Навагрудскай газеты “За праўду”, загадчыкам Навагрудскай друкарні. У пасляваенны час быў на журналісцкай рабоце ў Польшы.

У 1948 годзе быў рэпрэсаваны і зняволены ў канцлагеры. Пасля вызвалення ў 1962 годзе працаваў на Гродзеншчыне, затым жыў у Вільнюсе. Аўтар паэтычнага зборніка, дакументальнай аповесці, літаратурна-біяграфічных нарысаў, краязнаўчага даследавання “Навагрудская беларуская гімназія”, кнігі пра Б.Кіта.

Памёр у 2007 г. у Вільнюсе.

**Анішчык Аркадзь Аркадзевіч**.

Нарадзіўся ў 1945 годзе ў Навагрудку.

Беларускі мастак (мастацкае шкло). Член Беларускага Саюза мастакоў.

Скончыў Вышэйшую школу прыкладнога мастацтва ў Празе.

Працаваў мастаком шклозавода “Нёман”.
З 1990 года жыве ў Фінляндыі.
Удзельнік шматлікіх выставак. Аўтар камплектаў пітнога посуду, блюдаў, набораў.

**Аляшкевіч Фёдар Васільевіч**.
Нарадзіўся ў 1936 годзе ў весцы Балотца Навагрудскага раёна.
Беларускі нейрахірург, Акадэмік Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, доктар медыцынскіх навук, прафесар.
Скончыў Мінскі медыцынскі інстытут.
Працаваў у Навукова-даследчым інстытуце неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі, Мінскім медыцынскім інстытуце.
Аўтар навуковых прац па сасудзістай паталогіі галаўнога і спіннога мозга, распрацоўшчык нейрахірургічнай тэхнікі і перадавых методык лячэння пашкоджанняў мозга.
Памёр у 2008 годзе.

**Арцюх Зміцер**.
Нарадзіўся ў 1978 годзе ў вёсцы Рутка Навагрудскага раёна.
Беларускі паэт, журналіст.
Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.
Працаваў на беларускім радыё і тэлебачанні, у часопісе “Прамысловая бяспека”. Аўтар паэтычнага зборніка, краязнаўчых матэрыялаў.

**Баршчэўскі Валянцін Віктаравіч.**
Нарадзіўся ў вёсцы Войнава Навагрудскага раёна.
Доктар медыцынскіх навук, прафесар.
Працаваў дырэктарам навукова-даследчага інстытута.

**Барысаглебскі Леанід Аляксандравіч**.
Нарадзіўся ў 1912 годзе ў Пецярбургу.
Вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназі, а з 1939 года працаваў у Навагрудку ў адноўленай беларускай гімназі, народнай школе, настаўніцкай семінарыі.
Удзельнік партызанскага руху на Навагрудчыне ў гады Вялікай Айчыннай вайны.
Доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар.
Працаваў у Беларускім дзяржайным універсітэце.

**Басюк Іван Аляксандравіч**.
Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Амневічы Навагрудскага раёна.
Беларускі гісторык, правазнавец, педагог.
Кандыдат гістарычных навук. Дацэнт.
Скончыў Саратаўскае ваеннае вучылішча, Архангельскі педінстытут.
Працаваў на выкладчыцкай і кіраўнічай рабоце ў сістэме вышэйшых навучальных ваенных установ СССР.
Палкоўнік.
З 1987 года працуе ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я.Купалы.
Вывучае пачатковы перыяд Вялікай Айчыннай вайны, гісторыю беларускай дзяржаўнасці.
Выдаў кнігу “Навагрудскі кацёл”.

**Батура Міхаіл Паўлавіч**.
Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Клюкавічы Навагрудскага раёна.
Беларускі вучоны ў галіне інфармацыйных тэхналогій і вылічальнай тэхнікі. Доктар тэхнічных навук, прафесар.
Скончыў Мінскі радыётэхнічны інстытут. З 2000 года - рэктар гэтай жа ўстановы - Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і электронікі.

**Браткоўскі Уладзімір Васільевіч**.

Нарадзіўся ў 1925 годзе ў вёсцы Вялікі Лес Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці.

З 1957 па 2003 год працаваў галоўным урачом, загадчыкам хірургічнага аддзялення, урач-хірург Любчанскай бальніцы.

Кавалер ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Занесены ў Кнігу Славы Навагрудскага раёна.

**Будзько (Бушэйка) Антаніна Піліпаўна**.

Нарадзілася ў 1943 годзе ў вёсцы Альхоўка Навагрудскага раёна.

Беларускі мовазнавец, педагог. Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт.

Скончыла Мінскі інстытут замежных моў.

З 1969 года працуе ў гэтай жа навучальнай установе.

Вывучае методыку выкладання замежных моў. Аўтар дапаможнікаў і падручнікаў, праграм выкладання нямецкай мовы.

**Булыка Аляксандр Мікалаевіч**.

Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Селішча Навагрудскага раена.

Беларускі мовазнавец. Доктар філалагічных навук. Прафесар. Член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі. Лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Скончыў Навагрудскае педагагічнае вучылішча, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

1965 года працуе ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі.

Даследуе мову помнікаў старажытнай беларускай літаратуры, старабеларускую графіку, арфаграфію, фанетыку, марфалогію, лексікаграфію. З'яўляецца аўтарам многіх навуковых прац, сааўтарам і навуковым рэдактарам шматлікіх навуковых выданняў.

**Бурлыка Іван Рыгоравіч**.

Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Гаравічы Навагрудскага раёна.

Беларускі мовазнавец, педагог. Кандыдат філалагічных навук. Скончыў Мінскі інстытут замежных моў.

Працуе ў Гродзенскім дзяржаўным ўніверсітэце.

Даследуе праблемы фанетыкі гаворак Гродзеншчыны, методыкі выкладання замежных моў.

**Вербава (Мацко) Хрысціна Уладзіміраўна**.

Нарадзілася ў 1943 года ў вёсцы Радагошча Навагрудскага раёна.

Беларускі педагог, псіхолаг. Кандыдат псіхалагічных навук. Дацэнт.

Скончыла Гродзенскі недінстытут.

З 1971 года працуе ў Гродзенскім дзяржаўным ўніверсітэце.

Аўтар шматлікіх публікацый па псіхалогіі педагагічнай дзейнасці.

**Вяршыцкая Тамара Рыгораўна**.

Нарадзілася ў 1957 годзе ў вёсцы Ягадзень Іўеўскага раёна.

Беларускі краязнавец, музеезнавец, перакладчык мемуарнай літаратуры.

Скончыла Мінскі інстытут замежных моваў.

З 1989 года ўзначальвае Навагрудскі гісторыка-краязнаўчы музей.

Унесла значны ўклад у стварэнне і арганізацыю работы музея, даследаванне гісторыка-культурнай спадчыны Навагрудчыны.

Асаблівую ўвагу ўдзяляе вывучэнню падзей, якія адбываліся на Навагрудчыне ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Разам з рэспубліканскімі і міжнароднымі арганізацыямі глыбока даследуе тэму яўрэйскага супраціўлення ў Навагрудку ў перыяд Халакосту.

З'яўляецца аўтарам перакладу 3-х мемуарных кніг з англійскай і польскай моў на беларускую.

**Гайба Мікалай Паўлавіч**.

Нарадзіўся ў 1963 годзе ў вёсцы Вялікія Вераб'евічы Навагрудскага раёна.

Беларускі, гісторык, краязнавец, музеезнавец.
Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, аспірантуру пры Інстытуце гісторыі НАН Беларусі.
Працаваў у школе, у Навагрудскім гісторыка-краязнаўчым музеі, аддзеле культуры Навагрудскага гарвыканкама.
З 2000 года - дырэктар Дома-музея Адама Міцкевіча ў Навагрудку.
Адзін з аўтараў экспазіцый, якія дзейнічаюць у цяперашні час у гісторыка-краязнаўчым музеі і Доме –музеі Адама Міцкевіча.
Унёс значны ўклад у даследаванне гісторыі Навагрудчыны, жыцця і творчасці Адама Міцкевіча.
Аўтар 4-х кніг па гісторыі Навагрудчыны, шматлікіх навуковых і навукова-папулярных публікацый у энцыклапедычных выданнях, зборніках, перыядычным друку.

**Гаркавы Аляксандр**.
Нарадзіўся ў 1863 годзе ў Навагрудку.
Яўрэйскі мовазнавец, пісьменнік.
На радзіме атрымаў традыцыйнае рэлігійнае выхаванне.
Жыў у Вільні, Варшаве, Беластоку, Парыжы, ЗША.
Выкладаў гісторыю Амерыкі, літаратуру і граматыку ідзіш.
Напісаў шэраг папулярных кніг па гісторыі і культуры ЗША.
Перакладаў на ідзіш творы еўрапейскіх класікаў. Рыхтаваў агульнадаступныя падручнікі англійскай мовы для яўрэйскага насельніцтва. Падрыхтаваў двухмоўныя англа–ідзіш і ідзіш-англа слоўнікі і 3-х моўны ідзіш–іўрыт–англа слоўнік. Па яго заказу быў зняты фільм “Навагрудак-1931 год”, які расказвае пра жыццё яўрэйскай абшчыны ў Навагрудку.
Памёр у 1939 годзе.

**Гаркавы Аўрам Якаўлевіч**.
Нарадзіўся ў 1835 ў Навагрудку.
Яўрэйскі і рускі ўсходнезнавец, семітолаг.
Скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт. Вучыўся ва ўніверсітэтах Берліна, Парыжа.
Працаваў ў Пецярбургу. Навуковыя інтарэсы датычаць гістарычнай геаграфіі поўдня Расійскай імперыі, гісторыі Усходу, яўрэйскай этнаграфіі, палеаграфіі, філалогі.
Аўтар шматлікіх навуковых прац. Быў рэдактарам перакладаў многіх прац па гісторыі яўрэяў. Быў членам навуковых, асветных таварystваў многіх краін свету.
Памёр у 1919 годзе.

**Гаховіч Валянціна Георгіеўна**.
Нарадзілася ў 1935 годзе ў вёсцы Грыцкевічы Нясвіжскага раёна.
Педагог.
З 1959 па 1998 год працавала настаўнікам рускай мовы і літаратуры. Яе выхаванцы не аднойчы станавіліся ўдзельнікаммі і пераможцамі ўсесаюзных, рэспубліканскіх, абласных і раённых алімпіяд і творчых конкурсаў.
Народны настаўнік СССР. Заслужаны настаўнік БССР.
Была абрана намеснікам старшыні Камітэта Савецкіх жанчын.
Узнагароджана ордэнам “Знак Пашаны”
Занесена ў Кнігу Славы Навагрудскага раёна.

**Герус Сямён Пятровіч**.
Нарадзіўсяў 1925 годзе ў вёсцы Кунічна Навагрудскага раёна.
Беларускі мастак-графік. Член Беларускага Саюза мастакоў. Скончыў Навагрудскае педагагічнае вучылішча, Мастацкі інстытут Літоўскай ССР.
Працаваў у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце, Міністэрстве культуры БССР.

Працаваў у жанрах сюжэтна–тэматычнай кампазіцыі, пейзажа, партрэта. Удзельнічаў у выставах у Беларусі, Расіі, Літве, Англіі, ЗША, Канадзе, Балгарыі.

Яго творы захоўваюцца ў Беларусі, у розных краінах Еўропы, Азіі, Амерыкі.

Памёр у 1998 годзе.

**Гройсман Софія**.

Нарадзілася ў 1945 годзе ў Любчы Навагрудскага раёна.

Адна з вядучых парфюмераў свету. Жыла ў Навагрудку. У 1952 годзе сям'я пераехала ў Гродна, затым у Польшу, дзе скончыла хімічны каледж. Жыве ў ЗША .

Працуе ў парфюмернай кампаніі International Flavours and Fragrancies, Нью Йорк. Стварыла каля 60 формул парфумаў, якія шырока вядомы ва ўсім свеце. Сярод найбольш папулярных – Tresor (Lancome), Paris (Yves Saint Laurent), Sexual (Michel Germain), Eternity (Calvin Klein), White Linen (Estee Lauder) і многія іншыя.

**Грос Віктар Іванавіч**.

Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Дзяляцічы Навагрудскага раёна.

Беларускі савецкі скульптар. Член Беларускага Саюза мастакоў.

Скончыў мастацкі інстытут Літоўскай ССР.

Працаваў у галіне станковай і манументальнай скульптуры, ствараў партрэты, кампазіцыі.

Стварыў помнік загінуўшым землякам, які ўстаноўлены ў вёсцы Дзяляцічы Навагрудскага раёна. Шэраг яго работ захоўваецца на Навагрудчыне.

Памёр у 1980 годзе.

**Грынь Міхаіл Паўлавіч**.

Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Малыя Вераб'евічы Навагрудскага раёна.

Беларускі вучоны ў галіне жывёлагадоўлі.

Доктар сельскагаспадарчых навук. Прафесар.

Скончыў Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут.

З 1957 года працуе ў Беларускім навукова-даследчым інстытуце жывелагадоўлі.

Адзін з заснавальнікаў беларускай школы селекцыянераў у галіне жывёлагадоўлі. Яго навуковыя працы прысвечаны пытанням тэорыі і практыкі развядзення і селекцыі буйной рагатай жывелы, распрацоўцы праграм ы і метадаў генетычнага ўдасканаленя буйной рагатай жывёлы па малочнай і мясной прадукцыйнасці.

**Давідовіч Вацлаў**.

Нарадзіўся ў 1909 годзе ў в. Касы Двор Навагрудскага раёна.

Польскі правазнавец, педагог, перакладчык. Доктар права. Прафесар.

Скончыў польсую гімназію ў Навагрудку, факультэт права і грамадскіх навук Віленскага ўніверсітэта.

Працаваў у Варшаўскім, Торуньскім, Гданьскім універсітэтах, Польскай Акадэміі Навук.

З'яўляецца аўтарам многіх навуковых даследаванняў, падручнікаў. Выдаў ва ўласным перакладзе на польскую мову "Адысею " Гамера.

**Дзіско Уладзімір Антонавіч**.

Нарадзіўся ў 1936 годзе ў в. Брольнікі Навагрудскага раёна.

Беларускі педагог.

Скончыў Навагрудскае педагагічнае вучылішча, Мінскі педагагічны інстытут.

Працаваў у шэрагу сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, з'яўляўся членам рэдкалегій перыядычных выданняў.

Аўтар шматлікіх публікацый па методыцы выкладання беларускай мовы і літаратуры. Складальнік шэрагу хрэстаматый і тэматычных зборнікаў па беларускай літаратуры.

**Дземідовіч Барыс Паўлавіч**.

Нарадзіўся ў 1906 годзе ў Навагрудку.

Савецкі матэматык, доктар фізіка-матэматычных навук. Прафесар Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта, заслужаны дзеяч навукі РСФСР. З'яўляецца аўтарам многіх навуковых прац, шэрагу падручнікаў па матэматыцы, зборнікаў задач і практыкаванняў па матэматычнаму аналізу.

**Дучыц Мікалай Васілевіч**.

Нарадзіўся ў 1886 годзе ў Любчы Навагрудскага раёна.

Беларускі савецкі жывапісец, графік. Член Саюза мастакоў БССР.

Вучыўся ў павятовым вучылішчы ў Навагрудку, у Пецярбургскай школе заахвочвання мастацтваў.

Працаваў у асноўным у жанры пейзажа, пісаў графічныя краявіды, нацюрморты.

Яго творы захоўваюцца ў музеях і прыватных калекцыях у Беларусі, Германіі, Японіі, ЗША, Нарвегіі, Польшы, Расіі.

Памёр у 1980 годзе.

**Дыбоўскі Бенядзікт Іванавіч.**

Заолаг, прыродазнавец, урач.

Прафесар кафедры заалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Член Польскай Акадэміі Навук (1884), член-карэспандэнт АН СССР (1928).

За ўдзел у паўстанні 1963 года быў сасланы ва Усходнюю Сібір. Апісаў прыродныя ўмовы Прыбайкалля, фаўну возера Байкал і басейна ракі Амур. Вывучаў беларускія азёры Любань і Свіцязь.

Памёр у 1930 годзе.

**Дыбоўскі Уладзіслаў Іванавіч**.

Нарадзіўся ў 1938 годзе ў маёнтку Адамарын Мінскага павета.

Прыродазнавец.

Закончыў Дэрыцкі ўніверсітэт.

За ўдзел у паўстанні 1863 года быў пазбаўлены магчымасці займацца навукай.

Да навуковай працы ў Дэрпце звярнуўся ў 1871 годзе. Апублікаваў многія артыкулы па палеанталогіі сілурыйскай фармацыі Прыбалтыкі. Па стану здароўя не мог працаваць ва ўніверсітэтах.

У 1879 годзе пераехаў да сястры ў вёску Нянькава. Сабраў гербарый на берагах возера Свіцязь. Вывучаў мелавую навагрудскую фаўну.

Пісаў артыкулы. Да некаторых з іх сам выконваў малюнкі. Апрацоўваў матэрыялы, якія дасылаў яму брат Бенядзікт з берагоў Байкала.

Займаўся фалькларыстыкай. Пісаў пра метэаралагічныя з'явы, нумізматыку.

Памёр у 1910 годзе. Пахаваны ў вёсцы Войнава Навагрудскага раёна.

**Драчылоўская Антаніна Пятроўна**.

Нарадзілася ў 1925 годзе ў вёсцы Пагост Аршанскага раёна.

Педагог. Заслужаны настаўнік БССР.

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

Скончыла Мінскі педагагічны інстытут.

Працавала настаўнікам, намеснікам дырэктара, дырэктарам у школах Навагрудка.

**Жарскі Іван Міхайлавіч**.

Нарадзіўся ў 1944 годзе ў в. Вярбіцы Навагрудскага раёна.

Беларускі хімік неарганік. Кандыдат хімічных навук. Прафесар. Заслужаны работнік народнай адукацыі БССР.

З 1971 года пасля заканчэння вуза працуе ў Беларускім тэхналагічным інстытуце. З 1987 года – рэктар гэтай жа навучальнай установы.

Распрацаваў і ўкараніў тэхналогію ачышчэння прамысловых сцёкавых вод гальванічных вытворчасцей. Яго навуковыя працы прысвечаны электрахіміі, газавай электронаграфіі, мікрахвалевай спектраскапіі. З'яўляецца аўтарам першага на беларускай мове падручніка для вышэйшай школы "Асновы агульнай хіміі".

**Жарскі Міхаіл Васільевіч.**

Нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Паплавы Навагрудскага раёна.

Беларускі гісторык, педагог. Кандыдат гістарычных навук. Прафесар.

Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Працаваў настаўнікам, дырэктарам школы, займаў кіраўнічыя пасады ў абласных і раённых органах народнай адукацыі. З 1967 года працаваў у Гродзенскім педагагічным інстытуце.

Даследаваў развіццё народнай адукацыі, гісторыі Беларусі і Расіі, навукова метадычныя асновы выкладання гісторыі. З'яўляўся аўтарам артыкулаў па гісторыі Навагрудчыны.

**Ждан Яўгеній Барысавіч** (Архіепіскап Тамбоўскі і Мічурынскі Яўгеній).

Нарадзіўся ў 1942 годзе ў Навагрудку.

У 1976 годзе скончыў Ленінградскую духоўную акадэмію са ступенню кандыдата багаслоўя.

У 1987 годзе архімандрыт Яўгеній быў рукапакладзены ў епіскапа Тамбоўскага і Мічурынскага мітрапалітам Ленінградскім і Наўгародскім Аляксеем (Будучым Святейшым Патрыярхам Маскоўскім і Усяе Русі).

У 1992 годзе ўзведзены ў сан Архіепіскапа.

**Загідуліна (Пяткевіч) Марына Аляксееўна**.

Нарадзілася ў 1955 годзе ў Навагрудку.

Беларускі мастацтвазнавец.

Скончыла Беларускі дзяржаўны інстытут, Беларускую акадэмію мастацтваў.

Працавала ў музеі, упраўленні культуры аблвыканкама. З 1994 года –у Гродзенскім універсітэце.

Аўтар шматлікіх публікацый у навуковых і перыядычных выданнях па гісторыі беларускага выяўленчага мастацтва.

**Зянько Галіна Яўсееўна**.

Нарадзілася ў 1930 годзе ў вёсцы Лютнева Баранавіцкага раёна.

Заслужаны ўрач БССР.

Скончыла Мінскі медыцынскі інстытут.

З 1956 па 1999 год працавала галоўным урачом, урачом акушэрам-гінеколагам Навагрудскага радзільнага дома.

**Кавалеўскі Георгій Васільевіч**.

Нарадзіўся ў 1931 года ў вёсцы Зенеўшчына Навагрудскага раёна. Доктар медыцынскіх навук. Прафесар.

Працаваў у Гродне, у Сібірскім аддзяленні АН СССР, у Мардоўскім універсітэце.

Асноўныя яго работы прысвечаны актуальным праблемам судовай медыцыны, паталагічнай анатоміі, агульнай паталогіі.

**Казыра Леанід Аляксеевіч**.

Нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Негрымава Навагрудскага раёна.

Беларускі перакладчык, літаратуразнавец. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Скончыў СШ№1 г.Навагрудка, Мінскі інстытут замежных моў.

Працаваў у Інстытуце літаратуры АН Беларусі. З 1998 года выкладае ў Беларускім лінгвістычным універсітэце, дацэнт.

Друкуе пераклады з французскай, англійскай, польскай, рускай моваў. Вывучае сувязі беларускай літаратуры з замежнымі літаратурамі, праблемы мастацкага перакладу.

**Калітоўская Клаўдзія Фёдараўна.**

Нарадзілася ў 1911 годзе ў в. Уселюб Навагрудскага раена.

Беларуская артыстка балета, харэаграфічны педагог. Заслужаны дзеяч культуры БССР.

З 1933 па 1937 і з 1945 па 1951 гады танцавала на сцене Беларускага тэатра оперы і балета.

З 1951 па 1975 год працавала дырэктарам Беларускага харэаграфічнага вучылішча.

**Калітоўскі Яўген Федаравіч**.

Нарадзіўся ў 1896 годзе ў вёсцы Уселюб Навагрудскага раёна.

Беларускі савецкі вучоны ў галіне фізіятэрапіі і курорталогіі. Скончыў Ленінградскую ваенна-медыцынскую акадэмію. Працаваў у Мінску, Кіславодску.

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

У 1949-1970 гадах працаваў дырэктарам, кіраўніком аддзела Беларускага навукова-даследчага інстытута неўралогіі, нейрахірургіі і фізіятэрапіі.

Асноўныя працы прысвечаны эксперыментальным і клінічным даследаванням мініральных водаў, сапрапелевых гразяў і клімату Беларусі.

Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі, медалямі.

**Каляда Андрэй Андрэевіч.**

Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Панямонь Навагрудскага раёна.

Беларускі тэатральны педагог. Кандыдат педагагічных навук. Прафесар.

Скончыў актёрскі факультэт Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута.

З 1989 года працуе ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Аўтар шматлікіх публікацый па тэорыі і методыцы вуснага чытання, падручнікаў і навучальных дапаможнікаў. Перакладае літаратурныя творы з рускай мовы.

**Кананові Рамуальд**.

Нарадзіўся ў 1907 годзе ў вёсцы Устрынь Навагрудскага раёна.

Польскі мастак, педагог.

Скончыў настаўніцкую семінарыю ў Вільні, інстытут рысункаў і ручных прац у Варшаве.

Член саюза польскіх мастакоў.

Удзельнік другой сусветнай вайны.

Пісаў у жанры пейзажа, нацюрморта, партрэта. Удзельнік многіх выстаў у Польшы, Амерыцы.

Памёр у 1957 годзе.

**Капытка Аляксандр Іванавіч**.

Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Несутычы Навагрудскага раёна.

Беларускі філосаф, педагог. Кандыдат філасофскіх навук. Дацэнт.

Скончыў Навагрудскае педагагічнае вучылішча, Мінскі педагагічных нстытут.

З 1973 года працуе ў Гродзенскім універсітэце.

Даследуе пытанні гісторыі філасофіі, навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, навуковага светапогляду.

**Каравайчык Павел Гілявіч**.

Нарадзіўся ў 1896 годзе ў Любчы Навагрудскага раёна.

Беларускі культурны дзеяч, пісьменнік.

Скончыў у Навагрудку прыватную рэальную школу, медыцынскі факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Быў членам – карэспандэнтам Інбелкульта, супрацоўнікам наркамата па справах нацыянальнасцей РСФСР, Белнацкама, наркамата асветы РСФСР, у клініцы медыцынскага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

У сярэдзіне 20-ых гадоў па заданню Інбелкульту распрацаваў беларускую медыцынскую тэрміналогію.

У 1931 годзе быў рэпрэсаваны і высланы ў Чувашыю. У 1937 годзе растраляны.

**Каранеўскі Аляксандр Рыгоравіч**.

Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Мілушава Навагрудскага раёна.

Беларускі краязнавец, музыказнавец, журналіст. Член Беларускага Саюза журналістаў.

Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

Працаваў у школе, рэдакцыі газеты, музеі.

Друкуецца як краязнавец у газетах, часопісах, энцыклапедычных даведніках.

**Карповіч Міхаіл Міхайлавіч**.

Нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Антонаўка Навагрудскага раёна.

Педагог, гісторык-краязнавец, музеезнавец.

Працаваў настаўнікам, дырэктарам Любчанскай сярэдняй школы.

Стваральнік і нязменны кіраўнік народнага музея Любчанскага краю.

На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў вядзе работу па збору матэрыялаў па гісторыі Любчанскага краю, нашых знакамітых земляках. З'яўляецца аўтарам шматлікіх гісторыка-краязнаўчых публікацый.

Занесены ў Кнігу Славы Навагрудскага раёна

**Касабуцкі Адам Антонавіч.**

Нарадзіўся ў 1914 годзе.

Працаваў дырэктарам Навагрудскага гандлёва-эканамічнага тэхнікума.

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

Заслужаны настаўнік БССР.

Занесены ў Кнігу Славы Навагрудскага раёна.

Памёр у 1974 годзе.

**Касцюк Міхаіл Паўлавіч**.

Нарадзіўся ў 1940 годзе ў весцы Масцішча Навагрудскага раёна.

Беларускі гісторык, Акадэмік Нацыянальнай Акадэміі Навук Беларусі. Доктар гістарычных навук. Прафесар. Правадзейны член Цэнтральнай Еўрапейскай акадэміі навук і мастацтва, Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі.

Амерыканскім біяграфічным інстытутам неаднаразова прызнаваўся Чалавекам года.

Працоўную дзейнасць пачаў на педагагічнай ніве на Навагрудчыне. Працаваў у Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Каля 35 гадоў працуе ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі, на працягу амаль 12 гадоў яго ўзначальваў. Аўтар і рэдактар многіх грунтоўных навуковых выданняў. Даследуе сацыяльна-эканамічныя і грамадска-палітычныя праблемы гісторыі Беларусі пераважна савецкага перыяду, пытанні гісторыі Навагрудчыны. Унёс значны ўклад у падрыхтоўку раённай кнігі-хронікі "Памяць". Аказвае пастаянную дапамогу ў правядзенні ў Навагрудку прадстаўнічых навуковых канферэнцый. Падтрымлівае цесныя сувязі з навагрудскім гісторыка-краязнаўчым музеем, гісторыкамі і краязнаўцамі раёна.

Лаўрэат прэміі Прэзідыума НАН Беларусі і Сібірскага аддзялення РАН. Мае таксама іншыя узнагароды.

Яго імя занесена ў Кнігу Славы Навагрудскага раёна.

**Карскі Яфім Федаравіч**.

Нарадзіўся ў вёсцы Лаша Гродзенскага раёна.

Дзяцінства прайшло на Навагрудчыне ў вёсцы Ятра.

Беларускі філолаг – славіст, мовазнавец, літаратуразнавец. фалькларыст, этнограф, палеограф, археолаг, бібліёграф, педагог. Заснавальнік навуковага беларусазнаўства.

Доктар філалагічных навук. Прафесар. Акадэмік Пецярбургскай Акадэміі навук. Акадэмік Чэшскай Акадэміі навук.

Скончыў пачатковую школу ў вёсцы Ятры, Мінскае духоўнае вучылішча і Мінскую духоўную семінарыю, Нежынскі гісторыка –філалагічны інстытут.

Працаваў у Віленскай гімназіі, Варшаўскім універсітэце (на працягу 5 гадоў быў яго рэктарам).

Распрацоўваў праект стварэння БДУ, пазней - Інбелкульта.

У Петраградзе працаваў дырэктарам музея антрапалогіі і этнаграфіі, прафесарам Петраградскага ўніверсітэта.

Быў арганізатарам і ўдзельнікам шматлікіх навуковых марапрыемстваў у многіх гарадах і краінах свету.

Апублікаваў больш за 1000 работ, у тым ліку 96 асобных выданняў.

Яго імем названа вуліца ў Навагрудку.

**Каўцэвіч Мікалай Мікалаевіч**.

Нарадзіўся ў 1887 годзе у Любчы Навагрудскага раёна.

Беларускі савецкі фізік. Прафесар, Заслужаны дзеяч навукі БССР.

Скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт.

Працаваў у Беларускім палітэхнічным інстытуце, Беларускім інстытуце сельскай гаспадаркі. У 1944-1949 гадаз працаваў дырэктарам Беларускай сельскагаспадарчай Акадэміі.

З'яўляецца аўтарам многіх навуковых прац.

Памёр у 1949 годзе.

**Каўцэвіч Пётр Пракопавіч.**

Нарадзіўся ў 1923 годзе ў Любчы. Мастак.

Быў навучэнцам Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. З 1944 года ў партызанскім атрадзе брыгады імя Дзяржынскага. Пасля вызвалення Беларусі быў прызваны ў дзеючую армію. Вайну закончыў снайперам. Жыве ў Навагрудку.

**Каханоўскі (сапр. Каган) Антон.**

Нарадзіўся ў 1887 годзе ў Навагрудку.

Польскі дырыжор.

Працаваў дырыжорам, кіраўніком аркестраў Мінска, Масквы, Варшавы, Вільны.

Памёр у 1943 годзе.

**Каханскі Фелікс** (брат Антона Каханоўскага).

Нарадзіўся ў 1889 годзе ў Навагрудку.

Польскі дырыжор.

Скончыў Варшаўскі музычны інстытут.

Працаваў у музычных і тэатральных калектывах Варшавы, Вільні, Друскенікаў.

**Качан Кастусь (Канстанцін Іванавіч**).

Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Лаўрышава Навагрудскага раёна.

Беларускі мастак. Член Беларускага Саюза мастакоў.

Вучыўся ў Шчорсаўскай школе, скончыў фізічны факультэт Белдзяржуніверсітэта.

Працаваў настаўнікам.

Піша пераважна краявіды родных ваколіц. Пейзаж спалучае з тэматычнай кампазіцыяй.

На працягу 30 гадоў удзельнічае ў выставах у Беларусі, Германіі, Францыі, Італі, Чэхаславакіі, Югаславіі, В'етнаме, Фінляндыі, Расіі.

Творы захоўваюцца ў музейных і прыватных калекцыях у больш чым 10 краінах свету.

**Кіт Барыс Уладзіміравіч**.

Нарадзіўся ў 1910 годзе ў Санкт-Пецярбургу.

Дзеяч беларускай эміграцыі, амерыканскі вучоны. Доктар філасофіі ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі. Акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі ў Парыжы.

У 1928 годзе скончыў Навагрудскую беларускую гімназію, Віленскі ўніверсітэт.

У 30–ыя гады працаваў настаўнікам і дырэктарам Навагрудскай беларускай гімназіі. За рэвалюцыйную дзейнасць двойчы арыштоўваўся польскімі ўладамі.

Працаваў выкладчыкам Баранавіцкага настаўніцкага інстытута, у настаўніцкіх семінарыях у Маладзечне і Паставах, у гандлёвым інстытуце ў Маладзечне.

З 1944 года ў эммiграцыі. Зараз жыве ў Франкфурце на Майне.

Знакаміты вучоны.

Аўтар навуковых прац у галіне астранаўтыкі. Удзельнічаў у распрацоўцы касмічных праектаў, выкладаў ва ўніверсітэтах ЗША і Германіі.

Узнагароджаны многімі прэстыжнымі навуковымі ўзнагародамі.

З'яўляецца ганаровым грамадзянінам г. Навагрудка.

Занесены ў Кнігу Славы Навагрудскага раёна.

**Клімовіч Вікенцій Іосіфавіч**.

Нарадзіўся ў 1830 годзе ў вёсцы Пярэсека Навагрудскага раёна.

Вучыўся грамаце прыватным спосабам, самаадукацыяй.

Напісаў музыку на верш-элегію Каратынскага "Туга па чужой старане", іншыя творы.

За ўдзел у паўстанні 1863 года быў сасланы ў Сібір.

Час і месца смерці не вядомы.

**Конан Уладзімір Міхайлавіч**.

Нарадзіўся ў 1934 у весцы Вераскава Навагрудскага раёна.

Беларускі філосаф, гісторык, крытык, літаратуразнавец. Доктар філасофскіх навук. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.

Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

Працаваў у Інстытуце філасофіі і права Акадэміі навук Беларусі.

Даследуе гісторыю эстэтычнай думкі Беларусі, беларускай філасофіі, культуралогію, праблемы фалькларыстыкі, літаратуразнаўства.

Аўтар шматлікіх навуковых даследванняў, артыкулаў, рэцэнзій на тэмы літаратуры, грамадскай думкі, мастацтва, культуры, рэдактар і складальнік навуковых і літаратурных выданняў.

**Котляр Іван Іванавіч**.

Нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Балотца Навагрудскага раёна.

Беларускі палітолаг. Кандыдат філасофскіх навук. Прафесар.

Працуе ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя Пушкіна.

Вядомы ў навуковых колах Беларусі як сістэмны аналітык у даследаванні палітычных працэсаў.

Аўтар некалькіх манаграфій і шматлікіх публікацый.

Даследуе грамадска-палітычныя працэсы ў Расіі, Беларусі.

**Кулакоўская (Хацяновіч) Любоў Міхайлоўна**.

Нарадзілася ў 1943 годзе ў вёсцы Дзяляцічы Навагрудскага раёна.

Беларускі хормайстар, музычны педагог.

Заслужаны работнік культуры БССР (1980).

Спявала ў Дзяляціцкай народнай харавой капэле.

Працавала на Гродзеншчыне дырэктарам музычнай школы, кіраўніком хору.

Аўтар песні "Марш ударнікаў камуністычнай працы", іншых харавых песень.

**Лазоўскі Уладзімір Міхайлавіч**.

Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Нянькава Навагрудскага раёна.

Беларускі мовазнавец, педагог.

Кандыдат філалагічных навук. Прафесар.

Скончыў Любчанскую школу і філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Доўгі час працаваў у БДУ, а на працягу 5 гадоў - у Берлінскім універсітэце імя В.Гумбальта.

**Лазоўская Зінаіда Уладзіміраўна**.

Нарадзілася ў 1939 годзе ў вёсцы Льнянікі Баранавіцкага раёна.

Педагог. Заслужаны настаўнік БССР.

Скончыла Гродзенскі педінстытут.

Працавала настаўніцай фізікі ў школах Навагрудчыны.

**Лівенцава Ніна Рыгораўна**.

Нарадзілася ў 1921 годзе ў Гомелі.

Педагог. Заслужаны настаўнік БССР.

Скончыла Уральскі Казахскі педагагічны інстытут.

З 1951 па 1984 год працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры СШ № 2 г. Навагрудка.

Памерла ў 1987 годзе.

**Лябецкая Ядвіга Станіславаўна**.

Нарадзілася ў вёсцы Свіраны Баранавіцкага раёна.

Педагог. Заслужаны настаўнік БССР.

Скончыла Мінскі педінстытут.

Працавала загадчыцай педкабінета Навагрудскага РайАНА, дырэктарам Навагрудскай вочна-завочнай школы.

**Ламакін Аляксандр Іванавіч.**

Нарадзіўся ў Любчы Навагрудскага раёна.

Кандыдат тэхнічных навук.

Працуе ў Мінскім тэхналагічным універсітэце.

**Лаўскі Вячаслаў Якубавіч**.

Нарадзіўся ў 1900 годзе ў вёсцы Слачва Навагрудскага раёна.

Беларускі грамадска-культурны дзеяч, педагог.

Вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі, ў Пражскім палітэхнічным універсітэце.

Адзін з заснавальнікаў аб’яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый.

У 30-ыя гады 20-га стагоддзя працаваў у Навагрудскай беларускай гімназіі. Пасля - у Лідскім раёне.

У 1945 годзе рэпрэсаваны.

Загінуў у канцлагеры.

**Лецка Раман Сцяпанавіч**.

Нарадзіўся ў 1909 годзе ў вёсцы Вярбіцы Навагрудскага раёна.

Беларускі краязнавец, калекцыянер.

Вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі, Віленскім універсітэце, Варшаўскай акадэміі мастацтваў.

У 1941-1945 гадах працаваў бухгалтарам у гандлёвым таварыстве “Усход”.

Летам 1944 года рэпрэсаваны савецкімі ўладамі і высланыў канцлагер. Вызвалены ў 1949 годзе.

Працаваў тэхнікам-нарміроўшчыкам у Навагрудскім ДЭУ-10.

Збіраў матэрыялы пра Навагрудчыну - рэдкія кнігі, паштоўкі, дакументы, гравюры, успаміны, археалагічныя, этнаграфічныя рэчы.

Працаваў як жывапісец, графік, пісаў партрэты, пейзажы.

Аўтар многіх краязнаўчых артыкулаў пра Навагрудчыну.

Памёр у 1993 годзе.

**Лецка Яўген Рыгоравіч**.

Нарадзіўся ў 1944 годзе ў вёсцы Пабрэззе Навагрудскага раёна.

Беларускі пісьменнік, крытык, літаратуразнавец.

Кандыдат філалагічных навук. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

Працаваў у Інстытуце літаратуры АН БССР, выдавецтве “Мастацкая літаратура”, рэдакцыі газеты “Голас Радзімы”, быў старшынёй Рады Згуртавання беларусаў Свету “Бацькаўшчына”.

З’яўляецца аўтарам аповесцяў, літаратуразнаўчых даследаванняў, публіцыстычных артыкулаў, нарысаў, сцэнарыяў дакументальных фільмаў. Перакладаў з рускай, украінскай, польскай моваў.

Складальнік літаратуразнаўчых і літаратурна-мастацкіх зборнікаў.

**Лукашэвіч Дзмітрый Мікалаевіч**.

Нарадзіўся ў 1890 годзе ў Навагрудку.

Прафесар, генерал-маёр медыцынскай службы.

Быў урачом на франтах у першай сусветнай, грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў.

У пасляваенны час працаваў ў Ленінградскай Ваенна-медыцынскай акадэміі.

Узнагароджаны ордэнам Леніна, ордэнам Айчыннай вайны, двума ордэнамі Чырвонага сцяга.

**Ляшчынская (Цыбульская) Вольга Аляксееўна.**

Нарадзілася ў 1946 года ў вёсцы Уселюб Навагрудскага раёна.

Беларускі мовазнавец, педагог.

Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт.

Скончыла Мінскі педінстытут.

З 1975 года працуе ў Гомельскім універсітэце.

Даследуе праблемы словаўтварэння, лексікалогі, пытанні методыкі выкладання беларускай мовы.

Аўтар манаграфій, вучэбных дапаможнікаў па беларускай мове для настаўнікаў і студэнтаў.

**Маісееў Канстанцін Іванавіч.**

Нарадзіўся ў 1896 годзе ў Навагрудку.

Скончыў медыцынскі факультэт Самарскага універсітэта.

Працаваў у Самары, Пензенскай вобласці, Мардоўскай АССР.

Заслужаны урач РСФСР, Мардоўскай АССР.

Памёр у 1967 годзе.

**Малец Іван Васільевіч.**

Нарадзіўся ў 1908 годзе ў вёсцы Мольнічы Навагрудскага раёна.

Беларускі грамадскі і культурны дзеяч, педагог.

Заслужаны настаўнік БССР.

Вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі.

Быў абраны першым сакратаром ЦК КСМЗБ, сакратаром Беластоцкага і Віленскага акруговых камітэтаў КПЗБ. Быў зняволены польскімі ўладамі.

Перад вайной працаваў дырэктарам мэблевай фабрыкі ў Навагрудку, старшынёй калгаса ў Мольнічах.

Удзельнік Вялікай Айчыннай Вайны.

**Малышэўскі** Іван Ігнатавіч.

Нарадзіўся ў 1828 годзе ў вёсцы Нягневічы Навагрудскага раёна.

Гісторык царквы. Доктар багаслоўя.

Скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію. Зяўляўся прафесарам гэтай жа акадэміі. Даследаваў разнастайныя праблемы гісторыі царквы.

Памёр у 1897 годзе.

**Маляўка Пётр Іванавіч.**

Нарадзіўся ў 1956 годзе ў в. Каменка Навагрудскага раёна.

Беларускі літаратуразнавец, педагог. Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт.

Скончыў Кашалеўскую школу, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

Працуе ў Гродзенскім універсітэце.

Вывучае сучасную беларускую драматургію. З'яўляецца аўтарам вершаў, апавяданняў.

**Маркевіч Ануфрый.**

Нарадзіўся ў Навагрудку.

Беларускі асветнік, юрыст.

Эвалюцыйныя ідэі выклаў у рабоце "Удасканаленне прыроды і паходжанне чалавека".

Памёр у 1807 годзе.

**Марцуль Яўген Сяменавіч.**

Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Рахавец Навагрудскага раёна.

Беларускі гісторык, педагог. Доктар гістарычных навук. Прафесар.

Скончыў Навагрудскае педвучылішча, Мінскі педінстытут.

З 1989 года года працуе ў Мінскім радыётэхнічным інстытуце.

Вывучае праблемы беларускага этнасу, гісторыі беларускай дзяржаўнасці, пытанні сацыяльна-эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця, патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання.

Сааўтар дапаможнікаў для студэнтаў, навуковым рэдактарам навуковых і навукова-метадычных прац па гісторыі Беларусі.

**Міхей Мікалай Дзмітрыевіч.**

Нарадзіўся ў 1938 у вёсцы Нянькава Навагрудскага раёна.

Беларускі мовазнавец, педагог.

Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт.

Скончыў філфак БДУ.

З 1961 года працаваў у Беларускім дзяржаўным універсітэце.

Асноўныя работы прысвечаны даследаванню праблем сінтаксісу беларускай мовы, методыцы яе выкладання.

**Моўчан Міхаіл Аляксеевіч.**

Нарадзіўся ў 1925 годзе ў вёсцы Купіск Навагрудскага раёна.

Беларускі мастак. Член Беларускага Саюза мастакоў.

Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут.

Працаваў у Мінскім педінстытуце.

З 1961 года рэгулярна ўдзельнічае ў шматлікіх выставах.

Працуе пераважна ў станковай графіцы.

Аўтар многіх карцін, у тым ліку дэкаратыўнага пано "Беларусь" для сусветнай выставы "Экспо-67".

**Мурзіч (Кокала) Люся Іванаўна.**

Нарадзілася ў 1953 года ў вёсцы Зенявічы Навагрудскага раёна.

Беларускі літаратуразнавец, педагог.

Скончыла Нягневіцкую школу, Гродзенскі падінстытут, аспірантуру БДУ.

Аўтар многіх навуковых публікацый у галіне гісторыі і тэорыі навукова-фантастычнай літаратуры, рускай паэзіі 19 ст.

**Мухлінскі Антон Восіпавіч.**

Нарадзіўся ў 1808 годзе ў вёсцы Валеўка Навагрудскага раёна.

Рускі і беларускі ўсходнезнавец. Педагог.

Прафесар. Член-карэспандэнт Расійскай акадэміі навук.

Скончыў Віленскі ўніверсітэт.

Амаль 30 гадоў працаваў ў Пецярбуржскім універсітэце.

Здзейсніў падарожжы ў Турцыю, Егіпет, іншыя краіны, дзе вывучаў мову і культуру Усходу, беларускія тэксты, напісаныя арабскім пісьмом. Таксама вывучаў паходжанне татар, якія жывуць на беларускіх землях.

Памёр у 1877 годзе.

**Нагорны Мікалай Нікіфаравіч.**

Нарадзіўся ў 1901 годзе ў вёсцы Асташына Навагрудскага раёна.

Генерал-палкоўнік.

Скончыў Ваенную Акадэмію імя Фрунзе.

Удзельнік Вялікай Айчыннай Вайны.

У пасляваенны час займаў адказныя пасады ў Галоўным штабе Узброеных Сіл СССР, быў 1-ым намеснікам камандуючага войскамі супрацьпаветранай абароны краіны.

**Наўмовіч Міхась.**

Нарадзіўся ў 1922 годзе ў вёсцы Кашалева Навагрудскага раёна.

Вядомы мастак беларускага замежжа (Францыя).

Памёр у 2004 годзе.

**Нікалаеў Мікалай Віктаравіч.**

Нарадзіўся ў Шчучыне.

Дзіцячыя гады прайшлі ў вёсцы Нянькава Навагрудскага раёна і ў Навагрудку.

Скончыў гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта.

Беларускі і расійскі гісторык, кнігавед, культуролаг, мастацтвазнавец.

Доктар філалагічных навук.

Неаднаразова ўдзельнічаў археалагічных раскопках Навагрудскага замка (пад кіраўніцтвам вядомага расійскага археолага Фрыды Давыдаўны Гурэвіч).

З 1978 года жыве ў Санкт- Пецярбургу.

Працуе у Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы.

Даследуе гісторыю і культуру Беларусі, беларускага мастацтва, гісторыю Праваслаўнай царквы на Беларусі.

Адзін з заснавальнікаў і член Прэзідыума Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу. Уваходзіць у склад рэспубліканскага праўлення таварыства "Бацькаўшчына".

Аўтар шматлікіх навуковых публікацый, якія выходзілі ў Беларусі, Расіі, Польшы, Украіне.

Выдаў даследаванне, прысвечанае рукапіснай кнізе на Беларусі ў 10-18 стагоддзях, біяграфічны даведнік, прысвечаны беларусам, якія жывуць у Санкт-Пецярбурзе.

Падтрымлівае цесныя сувязі з музеямі , гісторыкамі і краязнаўцамі Навагрудскага раёна.

Занесены ў Кнігу Славы Навагрудскага раёна.

**Новік Яўген Канстанцінавіч.**

Нарадзіўся ў 1939 годзе ў вёсцы Рахавец Навагрудскага раёна.

Беларускі гісторык, педагог.

Доктар гістарычных навук. Прафесар.

Скончыў Навагрудскае педвучылішча, Мінскі педінстытут.

З 1989 года працуе ў Мінскім радыётэхнічным інстытуце.

З'яўляецца аўтарам і сааўтарам многіх даследаванняў.

**Няпраўскі Міхаіл Маркавіч**.

Нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Кусціна Навагрудскага раёна.

Заслужаны трэнер рэспублікі.

Вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі, Беларускім інстытуце фізкультуры.

З 1978 года працуе ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце.

**Орса Аляксандр.**

Нарадзіўся ў 1896 годзе ў вёсцы Нягневічы Навагрудскага раёна.

Скончыў Навагрудскае гарадское вучылішча.

Удзельнічаў у першай сусветнай вайне.

Пасля працаваў настаўнікам ў вёсцы Малыя Вераб'евічы Навагрудскага раёна.

Удзельнічаў у беларускім грамадскім і культурным руху.

Вучыўся на прыродазнаўчым факультэце Карлава ўніверсітэта ў Празе.

Працаваў у настаўніцкай беларускай гімназіі ў Навагрудку, з 1934 года – у польскай пачатковай школе ў Навагрудку, а пазней - у Навагрудскай беларускай гімназі і Навагрудскім педагагічным вучылішчы.

У час вайны быў школьным інспектарам Навагрудскай акругі. У 1944 годзе з сям'ёй выехаў у Германію.

З 1945 па 1949 год - дырэктар беларускай школы ў Рэгензбургу.З атым жыў у ЗША, дзе таксама стварыў беларускую школу. Працаваў у камісіі па рэдагаванню падручнікаў для беларускіх школ у эміграцыі.

Памер у 1959 годзе і пахаваны ў Нью Брансьвіку

**Петрыкевіч Міхаіл Васільевіч.**

Нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Пабрэззе Навагрудскага раёна.

Беларускі мовазнавец, педагог.

Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт.

Скончыў Гродзенскі педінстытут.

Працаваў у гэтай жа навучальнай установе, а таксама ў Гродзенскім педагагічным вучылішчы.

Яго даследаванні прысвечаны сінтаксісу беларускай мовы.

**Пашынскі Леанід Фёдаравіч**.

Нарадзіўся ў 1923 годзе ў вёсцы Дабрынь Дубровенскага раёна.

Педагог.Заслужаны настаўнік БССР.

Удзельнік Вялікай Айчыннай Вайны.

Скончыў Аршанскі настаўніцкі педагагічны інстытут.

З 1962 года працаваў інспектарам Навагрудскага РайАНА, дырэктарам школы-інтэрната.

Памёр у 1987 годзе.

**Петрыкевіч Міхаіл Фёдаравіч.**

Нарадзіўся ў 1913 годзе ў вёсцы Падкасоўе Навагрудскага раёна.

Беларускі педагог, краязнавец, музеезнавец.

Заслужаны настаўнік БССР.

У 1931 годзе ў час вучобы ў Навагрудскай беларускай гімназіі быў арыштаваны за пры-

належнасць да камсамола Заходняй Беларусі і асуджаны. У 1940-1941 гадах вучыўся на літаратурным факультэце Беластоцкага педінстытута, а пасля вайны - на літаратурным факультэце Мінскага педінстытута.

Працаваў у школах, музеях у Навагрудскім, Карэліцкім, Дзятлаўскім раёнах.

Памёр у 1999 годзе.

**Пярловіч Самсон Георгіевіч.**

Нарадзіўся ў вёсцы Католышы Навагрудскага раёна.

Пасля заканчэння семігодкі працягваў вучобу ў педагагічным вучылішчы.

У 1941-1943 гадах настаўнічаў у вёсцы Байкі.

Быў вывезены немцамі на прымусовыя работы.

Пасля вайны працаваў у раённай газеце.

У 1947 годзе бы рэпрэсіраваны і адбываў пакаранне ў канцлагерах. Пасля вяртання дамоў у 1956 годзе больш за 30 гадоў працаваў рабочым на Навагрудскім заводзе газавай апаратуры.

З'яўляецца аўтарам 3 паэтычных зборнікаў.

Памёр у 2001 годзе.

**Пяткевіч Андрэй Браніслававіч.**

Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Уселюб Навагрудскага раёна.

Беларускі паэт.

Вучыўся ў Гродзенскім універсітэце.

Друкаваўся ў раённай газеце, рэспубліканскіх выданнях. Актыўна ўдзельнічаў у літаратурным руху моладзі.

Памёр ў 1995 годзе.

**Рагуля Аляксей Уладзіміравіч.**

Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Сенна Навагрудскага раёна.

Скончыў Белдзяржуніверсітэт.

Беларускі літаратурны крытык

Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт.

Член Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Працуе ў Мінскім педінстытуце.

З'яўляецца аўтарам некалькіх зборнікаў літаратуразнаўчых прац, метадычных дапаможнікаў, хрэстаматый.

**Рамановіч Георгій Георгіевіч.**

Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Ваўкавічы Навагрудскага раёна.

Беларускі псіхолаг, педагог.

Кандыдат псіхалагічных навук. Дацэнт.

Скончыў Белдзяржуніверсітэт.

Працуе ў Акадэміі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі.

Аўтар некалькіх кніг па псіхалогіі, метадычных распрацовак па вывучэнню педагогікі і псіхалогіі.

**Савасцюк Лілія Ігнатаўна.**

Нарадзілася ў 1933 годзе ў Мінску.

Педагог. Заслужаны настаўнік БССР.

Скончыла Мінскі педагагічны інстытут.

З 1960 па 1990 год працавала ў Навагрудскім гандлёва-эканамічным тэхнікуме.

**Селеванчук Ганна Максімаўна.**

Нарадзілася ў 1928 годзе ў вёсцы Красніца Касцюковіцкага раёна.

Педагог. Заслужаны настаўнік БССР.

Скончыла Белдзяржуніверсітэт.
Працавала ў Навагрудскім фінансавым і сельскагаспадарчым тэхнікумах.
З 1962 па 1988 год - дырэктар сярэдняй школы №3 г. Навагрудка.

**Светачава Елізавета Андрэеўна.**
Нарадзілася ў 1912 годзе ў Семіпалацінскай вобласці.
Заслужаны урач БССР.
Скончыла Ленінградскі медыцынскі інстытут.
У час Вялікай Айчыннай вайны была хірургам на Заходнім і 3–ім Беларускім франтах.
З 1946 па 1989 год – хірург, загадчык хірургічнага аддзялення Навагрудскай раённай бальніцы, галоўны ўрач туберкулёзнага дыспансера.
Узнагароджана ордэнам Леніна, двума ордэнамі Чырвонай зоркі, ордэнам Айчыннай вайны 1 ступені.

**Саўко Уладзімір Паўлавіч.**
Нарадзіўся ў вёсцы Брольнікі Навагрудскага раёна.
Беларускі педагог-метадыст, мовазнавец.
Кандыдат педагагічных навук.
Скончыў БДУ.
Працаваў у Мазырскім педінстытуце, з 1989 года - у Мінскім педінстытуце.
Вывучае пытанні методыкі выкладання беларускай мовы.

**Сенюх Чэслаў.**
Нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Воўкаразь Навагрудскага раёна.
Польскі пісьменнік, журналіст.
У 1946 годзе сям'я пераехала ў Беласток.
Перакладаў на польскую мову творы беларускіх пісьменнікаў

**Сіплевіч Раіса Паўлаўна.**
Нарадзілася ў 1949 годзе ў вёсцы Пабрэззе Навагрудскага раёна.
Беларуская мастачка, мастацкі педагог. Член Беларускага Саюза мастакоў.
Скончыла Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут.
Працуе ў жанры тэматычнай карціны, пейзажа, кампазіцыйнага партрэта, нацюрморта.

**Сіўко Уладзімір Рыгоравіч.**
Нарадзіўся ў 1916 годзе ў Мінску. Жыў у Любчы. Паэт.
Закончыў Навагрудскую беларускую гімназію.
Выдаў кнігу вершаў "Позния кветкі" (1996 г.). Памёр у 2003 годзе. Пахаваны ў Магілёве.

**Скрабец Петр Іванавіч.**
Нарадзіўся ў 1882 годзе ў Любчы Навагрудскага раёна.
Скончыў семінарыю ў Маладзечне, педінстытут у Вільні, гандлёвы інстытут у Кіеве.
З выкладаў фізіку, матэматыку, прыроду, беларускую мову ў Навагрудскай беларускай гімназі.
У гады вайны быў дырэктарам Навагрудскай настаўніцкай семінарыі.
Пасля вайны быў арыштаваны. Пасля адбыцця 8-гадовага тэрміну пакарання ў лагерах вярнуўся ў Навагрудак.
Памёр у 1962 годзе.

**Скрыпко Міхаіл Фаміч.**
Нарадзіўся ў 1894 годзе ў вёсцы Лаўрышава Навагрудскага раёна.
Праваслаўны свяшчэннаслужыцель.
Скончыў Мінскую духоўную семінарыю, вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце педагагічнага інстытута ў Нежыне.

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.
З 1946 па 1984 год быў настаяцелем Свята-Казанскага храма ў вёсцы Нягневічы.
Удастоены царкоўных узнагарод.
Памёр у 1987 годзе.

**Стагановіч Тамара Аляксандраўна.**
Нарадзілася ў 1930 годзе ў вёсцы Несутычы Навагрудскага раёна.
У час вайны яе сям'я выехала ўГерманію, а ў 1950 годзе - у ЗША
Скончыла інстытут мастацтвазнаўства Калумбійскага ўніверсітэта.
Удзельнічала больш чым у 100 мастацкіх выставах, у тым ліку і ў Беларусі. На радзіме у музейных экспазіцыях знаходзяцца каля 20 яе твораў.
Творчую манеру мастачкі вызначаюць як абноўлены імпрэсіянізм. Піша пейзажы, нацюрморты, стварае графічныя палотны.
Спалучае беларускі элемент у мастацтве з амерыканскім.

**Стома Вячаслаў Іосіфавіч.**
Нарадзіўся ў 1949 ў вё Несутычы Навагрудскага раёна.
Беларускі пісьменнік, прыродазнавец.
Скончыў Белдзяржуніверсітэт.
Член Саюза беларускіх пісьменнікаў .
Аўтар навукова-папулярных прыродазнаўчых кніг. У іх расказваецца пра разнастайных насельнікаў беларускага лесу, за якімі назірае не толькі дасведчаны натураліст, але найперш паэт, мастак слова.

**Тарас Ніна Міхайлаўна.**
Нарадзілася ў 1916 годзе ў вёсцы Заполле Навагрудскага раёна.
Беларуская савецкая паэтэса. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў.
Вучылася ў Навагрудскай беларускай гімназіі, закончыла беларускую гімназію ў Вільні, вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.
Удзельнік партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай Вайны.
Яе творчасці ўласцівы шчырасць, аўтабіяграфічнасць.
Асобныя вершы сталі папулярнымі песнямі.
Аўтар паэтычных зборнікаў, вершаў для дзяцей, перакладаў з рускай, украінскай, польскай моў.

**Трусаў Ігар Георгіевіч.**
Нарадзіўся ў 1956 годзе ў Навагрудку.
Беларускі гісторык, краязнавец, культуролаг.
Скончыў Гродзенскі пелінстытут.
Працуе ў Міністэрстве культуры Беларусі.
Друкуецца ў выданнях Беларусі, Польшы, Літвы, Расіі па пытаннях гісторыі Гродзеншчыны, рэлігійных канфесій на Беларусі, палеаграфіі.

**Тураеў Барыс Аляксандравіч.**
Нарадзіўся ў 1868 годзе ў Навагрудку ў сям'і чыноўніка, дваранiна.
Рускі гісторык, усходазнавец, педагог.
Доктар гістарычных навук, Акадэмік Расійскай Акадэміі навук.
Скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт, працаваў у ім выкладчыкам. Быў накіраваны за мяжу для вывучэння гісторыі і культуры народаў Блізкага Усходу.
Аўтар навуковых работ па егіпталогіі, асіралогіі, семіталогіі, урарталогіі. Быў членам многіх расійскіх і замежных навуковых таварыстваў і ўстаноў. Стварыў рускую школу гісторыкаў старажытнага Усходу.
У Навагрудку яго імем названа вуліца.

**Турук Фёдар Фёдаравіч.**

Нарадзіўся ў 1889 годзе ў вёсцы Балотца Навагрудскага раёна.

Беларускі грамадска-культурны дзеяч, гісторык, педагог.

Скончыў археалагічны інстытут ў Петраградзе.

Выкладаў у гімназіях Мінска і Масквы. Удзельнічаў ў арганізацыі БДУ, быў у ім выкладчыкам.

Працаваў у наркамаце асветы РСФСР, у Камуністычным універсітэце нацыянальных меншасцей Захаду. З’яўляўся прафесарам розных ВНУ Масквы.

**Табанюхава Ганна Рыгораўна.**

Нарадзілася ў вёсцы Новыя Лычыцы Навагрудскага раёна.

Скончыла Баранавіцкі настаўніцкі інстытут.

З 1946 па 1983 год працавала настаўніцай пачатковых класаў у школах раёна, загадчыцай музея “Партызанскай славы” у вёсцы Чарэшля Навагрудскага раёна.

**Урбановіч Уладзімір Аляксандравіч.**

Нарадзіўся ў 1921 годзе ў вёсцы Пудзіна Навагрудскага раёна.

Беларускі педагог, краязнавец, культуролаг.

Скончыў у Навагрудку настаўніцкія курсы, Лідскае педагагічнае вучылішча, Гродзенскі педінстытут.

З 1959 года працаваў у Валеўскай школе.

Адзін з заснавальнікаў Валеўскага музея.

Аўтар артыкулаў, нарысаў, даследаванняў пра мясціны і лёсы пісьменнікаў, выкладанне ў школе беларускай літаратуры, беларускі фальклор, людзей культуры. Выдаў 2 навукова-краязнаўчыя кнігі.

Памёр у 1999 годзе.

**Філіповіч Януар.**

Нарадзіўся ў 1869 годзе ў Навагрудку.

Польскі пісьменнік, педагог.

Скончыў Віленскі ўніверсітэт.

З’яўляўся аўтарам і сааўтарам даследаванняў, зборнікаў, слоўнікаў, вучэбных дапаможнікаў.

Памёр у 1869 годзе.

**Ханевіч Міхаіл Дзмітравіч.**

Нарадзіўсящ 1954 годзе ў вёсцы Купіск Навагрудскага раёна.

Закончыў ваенна–медыцынскую акадэмію ў Ленінградзе.

Доктар медыцынскіх навук, прафесар. Акадэмік Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук, Заслужаны урач Расіі.

Працаваў галоўным урачом клінічнай бальніцы ў Санкт-Пецярбурзе, загадваў кафедрай Ваенна-медыцынскай акадэміі ў Маскве.

У цяперашні час - галоўны хірург гарадскога анкалагічнага цэнтра ў Санкт-Пецярбурзе.

Лаўрэат сярэбранага медаля І.Мечнікава “ За уклад у здароўе нацыі”.

**Цобкала Андрэй Анатольевіч.**

Нарадзіўся ў 1955 годдзе ў Навагрудку.

Беларускі гісторык, педагог.

Кандыдат гістарычных навук. Дацэнт.

Скончыў Мінскі педінстытут.

Працуе ў Мінскім педагагічным універсітэце.

Вывучае сацыяльна–эканамічныя і этнічныя працэсы жыцця Беларусі 18-19 ст.

**Цясевіч Платон Іванавіч.**

арадзіўся ў 1879 годзе ў вёсцы Нягневічы Навагрудскага раёна.

Рускі спявак(бас). Народны артыст РСФСР.

Спяваў у Харкаўскім, Кіеўскім оперных тэатрах, Вялікім тэатры ў Маскве, працаваў на оперных сцэнах у Італіі, Іспаніі, Англіі, Францыі, Румыніі.

Памёр у 1958 годзе.

**Чамярыцкі Вячаслаў Антонавіч.**

Нарадзіўся ў 1936 годзе на Дзятлаўшчыне. У 1937 годзе яго сям'я пераехала ў Навагрудак.

Беларускі літаратуразнавец, крытык, тэкстолаг, перакладчык, культуролаг. Кандыдат філалагічных навук. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Скончыў Белдзяржуніверсітэт.

З 1965 года працуе ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук Беларусі.

Аўтар многіх навуковых даследаванняў па гісторыі старажытнай беларускай літаратуры і культуры, шматлікіх публікацый у энцыклапедыях, навуковых зборніках. Рэдактар літаратуразнаўчых прац, зборнікаў, матэрыялаў па дадзенай праблематыцы.

Аказвае значную падтрымку Навагрудскім музеям, мясцовым гісторыкам і краязнаўцам, дапамагае ў правядзенні ў Навагрудку прадстаўнічых навуковых канферэнцый, якія спрыяюць фарміраванню іміджа нашага горада, як аднаго з цэнтраў даследавання гісторыі нашага краю.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, іншых урадавых узнагарод.

Занесены ў Кнігу Славы Навагрудскага раёна.

**Чартко Іван Восіпавіч.**

Нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Ярошычы Навагрудскага раёна.

Беларускі мовазнавец, педагог.

Кандыдат філалагічных навук. Дацэнт.

Скончыў Валеўскую школу, Гродзенскі педінстытут.

З 1956 года працаваў у гэтай жа навучальнай кстанове.

Даследаваў лексіку нямецкага паходжання ў беларускай мове, беларуска-нямецкія лексічныя сувязі.

**Чатырка Міхаіл.**

Нарадзіўся ў 1883 годзе ў Любчы Навагрудскага раёна.

Вучыўся ў настаўніцкай семінарыі ў Маладзечне, у Віленскім педінстытуце.

Працаваў у Навагрудскай гімназіі. Пасля закрыцця гімназіі быў пераведзены ў Заходнюю Польшу.

У 1939 годзе вярнуўся ў Любчу.

Быў арыштаваны і вывезены ў лагер у Краснаярскі край.

Быў рэабілітаваны.

Памёр у 1953 годзе.

**Шайбак Міхаіл Пятровіч.**

Нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Капашчава Навагрудскага раёна.

Доктар медыцынскіх навук. Прафесар.

Скончыў Мінскі медінстытут.

З 1962 года працаваў у Гродзенскім медінстытуце.

З'яўляецца аўтарам навуковых работ па педыятрыі.

Узнагароджаны ўрадавымі ўзнагародамі.

**Шагідзевіч Алі Амуратавіч.**

Нарадзіўся ў 1923 годзе ў Навагрудку.

Скончыў польскую школу ў Навагрудку. Атрымаў мусульманскую адукацыю ў прыватнага настаўніка.

Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

Пасля вайны працаваў на розных прадпрыемствах Навагрудка.

З пачатку 90-ых гадоў 20 ст. і па 2009 год узначальваў мусульманскую абшчыну ў Навагрудку.

Унёс значны ўклад у аднаўленне мячэцяў у Навагрудку і Лоўчыцах, у добраўпарадкаванне мусульманскіх могілкаў.

**Шарэцкі Віктар Канстанцінавіч.**

Нарадзіўся ў вёсцы Дзяляцічы Навагрудскага раёна.

Беларускі хормайстар, педагог.

Скончыў Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча.

Працаваў загадчыкам клуба ў роднай вёсцы, кіраваў мясцовым хорам. Затым працаваў у Іўеўскім раёне.

**Шарэцкі Сямен Георгіевіч.**

Нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Лаўрышава Навагрудскага раёна.

Беларускі эканаміст.

Доктар эканамічных навук. Прафесар.Член-карэспандэнт Аграрнай акадэміі РБ. Акадэмік Украінскай аграрнай акадэміі.

Скончыў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію.

Працаваў старшынёй калгаса, у Мінскай вышэйшай партыйнай школе. Быў абраны Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Аўтар даследаванняў у галіне эканомікі сельскагаспадарчай вытвочасці.

**Шутэнка Гаўрыіл Карнеевіч.**

Нарадзіўся ў 1924 годзе ў Стаўрапольскім краі.

У 1943 годзе поўнасцю страціў зрок.

Пасля вайны пераехаў у Навагрудак.

Працаваў на прадпрыемстве таварыства сляпых. Вёў актыўную грамадскую дзейнасць. Не аднойчы, як паэт, быў у творчых камандзіроўках не толькі ў Беларусі, але і ў іншых рэгіёнах Савецкага Саюза, на БАМЕ.

З'яўляецца аўтарам некалькіх паэтычных зборнікаў. Яго творы, пранікнутыя мужнасцю і патрыятызмам паэта-франтавіка, друкаваліся ў розных перыядычных выданнях.

Узнагароджаны многімі дзяржаўнымі ўзнагародамі.

**Шынтар Аркадзь Мікалаевіч.**

Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Сяцевіна Навагрудскага раёна.

Скончыў Навагрудскі сельскагаспадарчы тэхнікум.

Працаваў у розных арганізацыях Навагрудка.

Аўтар 3-х паэтычных зборнікаў.

**Шурак Ніна Пятроўна.**

Нарадзілася ў 1932 годзе ў вёсцы Мілушава Навагрудскага раёна.

Працавалабібліятэкарам,сакратаромраённайарганізацыітаварыства"Веды",супрацоўнікам гаркома партыі, галоўным захавальнікам фондаў гісторыка-краязнаўчага музея.

Унесла значны ўклад у стварэнне дадзенага музея. Вяла актыўную работу па збору музейных экспанатаў.

Узнагароджана ўрадавымі ўзнагародамі.

Занесена ў Кнігу Славы Навагрудскага раёна.

Памерла ў 2009 годзе.

М. Касцюк (Минск)

# Заключэнне: Грунвальд у памяці нашай

600-гадовы юбілей Грунвальдскай бітвы не можа не скіроўваць на роздум аб гістарычным і нават эпахальным значэнні гэтай неардынарнай па сваіх выніках падзеі з сярэднявечнай гісторыі Беларусі і суседніх з ёю зямель. Унікальная роля гэтай бітвы і далёкасяжныя наступствы не толькі ў спыненні перыядычных, на працягу амаль паўтары сотні гадоў набегаў нямецкіх і іншых рыцараў на літоўскія, беларускія і суседнія з імі тэрыторыі, але і ва ўздыме маральнага духу пераможцаў, усведамленні імі сваёй годнасці і сілы.

Грунвальдская бітва з'явілася цяжкім выпрабаваннем для беларускага і іншых этнасаў у іх самаадданай і шматахвярнай барацьбе з гэтай агрэсіяй. На Грунвальдскім полі тысячы адважных ваяроў з зямель Беларусі склалі свае галовы ў зацятай баталіі, але гэтыя цяжкія страты былі прынесены ў імя свабоды і незалежнасці роднага краю, дзеля яго жыхароў, каб іх больш не забіралі ў няволю і каб яны маглі болей спакойна працаваць на роднай зямлі, гадаваць дзяцей, унукаў, праўнукаў, ствараць матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці.

Наступныя этапы ў гісторыі Вялікага княства Літоўскага ў многім былі прадвызначаны гэтай знамянальнай падзеяй. Нягледзячы на складанасці далейшага развіцця, звязаныя з унутранымі і знешнімі фактарамі, ВКЛ паступова і настойліва ўздымалася на новыя прыступкі ў сацыяльна-эканамічным, грамадска-палітычным, культурна-духоўным жыцці. У гэтым руху княства падцвярджала свае вялікія патэнцыйныя магчымасці, дасягаючы ўсё новых вышынь. Важнай перадумовай гэтага была, несумненна, Грунвальдская перамога.

Узнікшы як поліэтнічная дзяржава еўрапейскага ўзроўню, Вялікае княства Літоўскае ў выніку пераможнай Грунвальдскай бітвы яшчэ больш умацавала свае пазіцыі на еўрапейскім кантыненце, а ва ўсходняй Еўропе ў гэты час яно яўна дамінавала. Дабратворнае ўздзеянне гэтай перамогі на працягу доўгага часу яшчэ адчувалася ва ўнутранай і знешняй палітыцы беларуска-літоўскай краіны.

Хаця кіраўнікі Тэўтонскага ордэна яшчэ спадзяваліся на рэванш, але дасягнуць гэтага ужо было немагчыма. І не толькі таму, што ён быў аслаблены ў выніку паразы пад Грунвальдам у ваенных адносінах, а таксама ў эканамічна-гаспадарчым развіцці, але і ў выніку шырокага ўсведамлення пераможцамі сваёй сілы і магчымасцей дабіцца ў рэшце рэшт пералому ў шматгадовай барацьбе з гэтай крыжацкай агрэсіяй.

У далейшым супольная перамога ўсходніх славян пад Грунвальдам паступова адыходзіла ў гісторыю, а на першы план выходзілі ўзаемаадносіны, у тым ліку і ваенныя, паміж Вялікім княствам Літоўскім, затым супольнай дзяржавай абодвух народаў Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай з удзелам насельнікаў беларускіх і украінскіх зямель. Гэтае супрацьстаянне набывала нярэдка драматычны і нават трагічны характар. Не міналі тэрыторыю Беларусі іншыя нашэсці – шведскае, французскае, а затым у пачатку XX ст. нямецка-кайзераўскае. Так што новая шырокамаштабная нямецкая агрэсія

на беларускія і іншыя ўсходнееўрапейскія землі адбылася праз больш чым паўтысячу гадоў пасля Грунвальда.

У перыяд Другой сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў, у часы самаадданай барацьбы з нямецка-фашысцкай Германіяй у абаронцаў роднай зямлі нярэдка паўставаў збіральны, абагульняючы воблік Грунвальда і подзвіг нашых далёкіх прашчураў. Гэта дапамагала ў цяжкой барацьбе, падмацоўвала ўпэўненасць у яе пераможным завяршэнні. Значыць, і ў сярэднявеччы і ў больш познія і нават недалёкія ад нас этапы нашай гісторыі перамога пад Грунвальдам адыграла і адыгрывае сваю пазітыўную ролю ў гістарычным працэсе захавання і ўмацавання беларускім і іншымі суседнімі народамі сваіх пазіцый. Пра гэта сведчаць і матэрыялы дадзенага выдання, звязаныя з Навагрудчынай – адной з найбольш адметных мясцін беларускай зямлі.

Важнейшы і найбольш аб’ектыўны суддзя таму, што адбылося, гэта, як вядома, час. Ён засведчыў і працягвае сцвярджаць, што ў нашай гераічнай гісторыі ёсць нямала выдатных старонак. Адна з іх – яскравая Грунвальдская перамога. Яна і цяпер у нашай памяці як сведчанне глыбокіх каранёў беларускай дзяржаўнасці, непакорлівасці і высокай годнасці нашых продкаў.